УДК 811.161.3
ББК 80
Д 18

*Рэкамендавана саветам філалагічнага факультэта
ГрДУ імя Я. Купалы*

*Рэцэнзенты:*

*Рагаўцоў В.І.,*
доктар філалагічных навук, прафесар
(МДУ імя А.А. Куляшова);
*Нікіцевіч А.В.,*
доктар філалагічных навук, прафесар
(ГрДУ імя Я. Купалы)

**М.А. Даніловіч**

Д 18 **Слова** і фразеалагізм у беларускай мове : зборнік навуковых артыкулаў / М.А. Даніловіч. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2015. – 300 с.

ISBN 978-985-7128-04-8

У кнізе даследуюцца праблемы лексікі і фразеалогіі беларускай дыялектнай і літаратурнай мовы. Падаюцца артыкулы, напісаныя аўтарам за апошняе дзесяцігоддзе, у якіх разглядаюцца такія пытанні, як структура, семантыка, этымалогія, паходжанне, лексічны склад, міжмоўныя стасункі фразеалагізмаў, беларуская лексікаграфія і фразеаграфія, супастаўляльная фразеалогія, рэгіянальная тапанімія, лінгвістычнае краязнаўства.

Адрасуецца філолагам: навукоўцам, аспірантам, магістрантам, студэнтам, настаўнікам і ўсім тым, хто цікавіцца беларускай мовай.

**УДК 811.161.3**
**ББК 80**

**ISBN 978-985-7128-04-8**

# Змест

### 1.5 Беларуска-іншамоўныя фразеалагічныя сувязі



### 1.6 Супастаўляльная фразеалогія



### 1.7 Фразеаграфія



### Раздзел 2 ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ



### Раздзел 3 ТАПАНІМІЯ



### Раздзел 4 ЛІНГВІСТЫЧНАЕ КРАЯЗНАЎСТВА

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ І ЎМОЎНЫХ АБАЗНАЧЭННЯЎ

## *Крыніцы фактычнага матэрыялу*

АСГ– Анамастычны слоўнік Гродзеншчыны: у 2 ч. Ч. 1. Мікратапонімы. – Гродна, 2005.
БДС– Шаталава Л.Ф. Беларускае дыялектнае слова. – Мінск, 1975.
БРС – Беларуска-рускі слоўнік: у 2 т. – Мінск, 1988–1989.
БУС – Півторак Г.П, Скопенко О.І. Білорусько-український словник. – Київ, 2006.
БФ – Янкоўскі Ф. Беларуская фразеалогія. – Мінск, 1968.
В – Выслоўі / склад., сістэм. тэкстаў, уступ. арт. і камент. М.Я. Грынблата; рэд. тома А.С. Фядосік. – Мінск, 1979.
Вас. – Васюковіч Л. З сённяшняй гаворкі (старонкі фразеалагічнага слоўніка) // Беларуская фразеалогія, лексікалогія : зб. арт.; пад рэд. праф. Ф. Янкоўскага; Мінскі пед. ін-т. – Мінск, 1980. – С. 13 – 19.
Горл. – Горленка В. З гаворак Гомельшчыны // Полымя. – 1975. – № 9. – С. 248 – 251.
ГСБМ – Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Вып. 1–22. – Мінск, 1982–2002.
ДС – Янкоўскі Ф. Дыялектны слоўнік. – Мінск. – Вып. 1, 1959; Вып. 2, 1960; Вып. 3, 1979.
ДСБ – Дыялектны слоўнік Брэстчыны. – Мінск, 1989.
ДСЛ – Янкова Т.С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны. – Мінск, 1982.
Ем. – Емельяновіч В.М. Да слоўніка фразеалагізмаў гаворак Берасцейшчыны // Жывое наша слова: дыялектал. зб. (да 90-годдзя чл.-кар. НАН Беларусі Ю.Ф. Мацкевіч); рэд. Л.П. Кунцэвіч, І.Я. Яшкін; Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. – Мінск, 2001. – С. 301 – 307.
ЕСУМ-2 – Етимологичний словник українськоі мови. Т. 2. – Київ, 1985.
ЖНС – Жывое народнае слова: дыялекталагічны зборнік. – Мінск, 1992.
ЖС – Жывое слова. – Мінск, 1978.
ЗНС – З народнага слоўніка. – Мінск, 1975.
ЗНФ– Лепешаў І.Я. З народнай фразеалогіі : дыферэнц. слоўнік. – Мінск, 1991.
ІБС – Ідыш-беларускі слоўнік / сабр. і перакл. на бел. мову А. Астравух. – Мінск, 2008.
Кр. – Крыўко М. З беларускай народнай фразеалогіі // Полымя. – 1994. – № 12. – С. 245 – 251.
КСУМ – Бялькевіч І.К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. – Мінск, 1970.
МБ – Мікратапанімія Беларусі. – Мінск, 1974.
МСГВ – Сцяшковіч Т.Ф. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці. – Мінск, 1972.
МСМ – Матэрыялы для абласнога слоўніка Магілёўшчыны. Мінск, 1981.
МСМГ – Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Вып. 1–3. – Мінск, 1970 – 1977.
НКАМ – Народныя казкі-байкі, апавяданні і мудраслоўі / уклад. і рэд. Н.С. Гілевіч. – Мінск, 1983.
НЛ – Народная лексіка: зб. арт. – Мінск, 1977.
Нос. – Сборник белорусских пословиц, составленный И.И.Носовичем // Сборник Отделения руск. языка и словесности Императ. АН. Т. XII, № 2. – СПб, 1874.
НС – Народнае слова. – Мінск, 1976.
НФРС– Новый французско-русский словарь / В.Г. Гак, К.А. Ганшина. – 7-е изд., стереотип. – М., 2002.
ПП-1 – Прыказкі і прымаўкі: у 2 кн. кн. 1. / рэд. А.С. Фядосік. – Мінск, 1976.
ППФВ – Сцяшковіч Т.Ф. Прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы, выслоўі народных гаворак Гродзенскай вобласці / Гродзенскі дзярж. пед. ін-т імя Янкі Купалы. – Гродна, 1968.
Рап. – Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі / склад. Я. Рапановіч. – Мінск, 1958.
Ройз. – Ройзензон Л.И, Балясникова А.В., Шугурова З.А. Словарь белорусской диалектной фразеологии деревни Гребени (Лельчицкого района Гомельской области) / // Труды Самаркандского ун-та. – Вып. 272: Вопросы фразеологии.– 1975. – № 8. – С. 67–81.
СБНФ – Мяцельская Е.С., Камароўскі Я.М. Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі. – Мінск, 1972.
СБП – Лепешаў І.Я., Якалцэвіч М.А. Слоўнік беларускіх прыказак. – Мінск, 2002.
СБСЯ – Лаучюте Ю.А. Словарь балтизмов в славянских языках. Л., 1982.

СГВ – Сцяшковіч Т.Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці. – Мінск : Навука і тэхніка, 1983.
СГЗБ – Расторгуев П.А. Словарь народных говоров западной Брянщины. – Минск, 1973.
СГЦБ – Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: у 2 т. Т. 1. – Мінск, 1990.
СДФГ – Даніловіч М.А. Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны. – Гродна, 2000.
СМН – Ліцвінка В.Д., Царанкоў Л.А. Слова міма не ляціць. – Мінск, 1985.
СНМ – Цыхун А.П. Скарбы народнай мовы : з лексічнай спадчыны насельнікаў Гродзенскага раёну. – Гродна, 1993.
СПЗБ – Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. – Мінск: Навука і тэхніка. – 1979–1986.
СРГМ – Словарь русских говоров на территории Мордовской АССР. К–Л. – Саранск, 1982.
СРДГ-1 – Словарь русских донских говоров. Т. 1. – Ростов-на-Дону, 1991.
СРНГ-16 – Словарь русских народных говоров. Вып. 16. – М., 1980.
СРНГ-2 – Словарь русских народных говоров. Вып. 2. – Л., 1966.
ССГ-1 – Словарь смоленских говоров. Вып.1. – Смоленск, 1974.
СФ – Лепешаў І.Я. Слоўнік фразеалагізмаў: у 2 т. – Мінск, 2008.
Сцяц. – Сцяцко П.У. Дыялектны слоўнік. Мінск., 1970.
Там. – Тамашэвіч Т., Тамашэвіч З. Ад фраземы (фразеалагізма) да слова // Моўныя адзінкі ў кантэксце: зб. навук. арт. – Мінск, 1987. – С. 85–92.
ТС – Тураўскі слоўнік: у 5 т. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982–1987.
ТСБМ – Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. – Мінск, 1977–1984.
ФСБМ – Лепешаў І.Я. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы: у 2 т. – Мінск, 1993.
ФСГД – Ужченко В., Ужченко Д. Фразеологічний словник східнослобожанських і степових говірок Донбасу. – Луганськ, 2002.
ФСРЯ – Фразеологический словарь русского языка / под ред А. И. Молоткова. – М., 1978.
ФСУМ – Фразеологічний словник української мови: у 2 кн. – Київ, 1999.
Цых. – Цыхун А. Пройдзеныя шляхі-пуцявіны. – Гродна, 2003.
Шпил. – Белорусские пословицы / сборник П. Шпилевского // Известия Академии наук по отделению русского языка и словесности. – 1853. – Т. II (Приложение). – С. 172–192.
ЭСБМ – Этымалагічны слоўнік беларускай мовы: т. 1–12. – Мінск, 1978–2008.
Юрч. – Юрчанка Г.Ф. І коціцца і валіцца. – Мінск, 1972.
Юрч.-3 – Юрчанка Г.Ф. Слова за слова. – Мінск, 1977.
Янк. ДС 1 – Янкоўскі Ф. Дыялектны слоўнік. Мінск, 1959.
Янк. – Янкоўскі Ф, Тамашэвіч Т., Аляхновіч М. Яшчэ з народнай фразеалогіі // Слова, фразеалагізм і кантэкст: зб. арт.; Мінскі пед. ін-т імя А.М. Горкага. – Мінск, 1979. – С. 42–57.
Яўс. – Яўсееў Р.М. Маці казала так…: з гаворкі Бялыніцкага раёна. – Мінск, 1978.
Fed. – Federowski M. Lud białoruski na Rus iLitewskiej. T. 4. – Warszawa, 1935.
KSL – Varłyha Adam. Krajovy słoŭnik Łahojščyny. – NewYork, 1970.
Skor.-1 – Skorupka S. Słownik fraseologiczny języka polskiego.A/P. – Warszawa, 1989.
SNPP-1 – Barszewska N.,Głuszkowska J., Jasińska T., Smułkowa E. Słownik nazw terenowych północnowschodniej Polski: A-N. – Warszawa, 1992.

## *Назвы адміністрацыйна-тэрытарыяльных раёнаў*

Асіп. – Асіповіцкі
Астр. – Астравецкі
Ашм. – Ашмянскі
Бераст. – Бераставіцкі
Брасл. – Браслаўскі
Бярэз. – Бярэзінскі
В.-Дзв. – Верхнядзвінскі
Ваўк. – Ваўкавыскі
Віл. – Вілейскі
Воран. – Воранаўскі
Гарад. – Гарадоцкі
Глыб. – Глыбоцкі
Гродз. – Гродзенскі
Даўг. – Даўгаўпілскі
Дзятл. – Дзятлаўскі
Докш. – Докшыцкі
Жытк. – Жыткавіцкі
Зэльв. – Зэльвенскі
Іўеў. – Іўеўскі
Калінк. – Калінкавіцкі
Карм. – Кармянскі
Карэл. – Карэліцкі
Лаг. – Лагойскі
Лід. – Лідскі
Лоеў. – Лоеўскі
Маст. – Мастоўскі
Мядз. – Мядзельскі
Навагр. – Навагрудскі
Паст. – Пастаўскі
Пух. – Пухавіцкі
Раг. – Рагачоўскі
Расн. – Раснянскі
Рэч. – Рэчыцкі
Свісл. – Свіслацкі
Свісл. – Свіслацкі
Сл. – Слонімскі
Слуц. – Слуцкі
Смарг. – Смаргонскі
Стол. – Столінскі
Чэрв. – Чэрвеньскі
Швянч. – Швянчонскі
Шчуч. – Шчучынскі раён

## *Іншыя скарачэнні*

англ. – англійскі
б. – балота
балг. – балгарскі
бел. – беларускі
бер. воз. – бераг возера
в. – вёска
воз. – возера
ісп. – іспаснкі
іт. – італьянскі
кан. – канава
л. – лес
лат. – латышскі
літ. – літоўскі
літар. – літаральна
мян. – мянушка
ням. – нямецкі
п. – поле
польск. – польскаі
р. – рака
рум. – румынскі
рус. – рускі
рч. – рэчка
серб. – сербскі
сн. – сенажаць
‘тс’ – тое самае
узг. – узгорак
укр. – украінскі
ур. – урочышча
устар. – устарэлы
франц. – французскі
х. – хутар
ч.в. – частка вёскі
чэш. – чэшскі
швед. – шведскі

# УВОДЗІНЫ

Кніга знаёміць з навуковымі даследаваннямі прафесара М.А. Даніловіча апошняга дзесяцігоддзя, аыццёўленымі пасля абароны доктарскай дысертацыі. У ёй змешчаны выбраныя працы «малых жанраў»: артыкулы ў часопісах і зборніках, рэцэнзіі на кніжныя выданні. Падбор публікацый мае тэматычную накіраванасць, адпавядае асноўным кірункам навуковай дзейнасці вучонага. Кніга складаецца з пяці раздзелаў.

Першы вялікі раздзел пысвечаны фразеалогіі, якая даследуецца ў розных аспектах: структура і семантыка фразеалагізмаў беларускай мовы; лексічны склад фразеалагізмаў; утварэнне, этымалогія, паходжанне фразеалагізмаў; фразеалогія ў творах Янкі Купалы; беларуска-іншамоўныя фразеалагічныя сувязі; праблемы супастаўляльнай фразеалогіі; аналіз і прынцыпы складання фразеалагічных слоўнікаў.

У другім раздзеле «Дыялекталогія» разглядаюцца спрэчныя пытанні адносна паняцця «дыялектызм», удакладняюцца вызначальныя характарыстыкі розных тыпаў дыялектызмаў. Акрэсліваецца статус моўных рэгіёнаў і рэгіянальных моўных з’яў у тыпалагічна-класіфікацыйнай сістэме беларускіх гаворак. Характарызуюцца выяўленыя аўтарама рэгіянальныя фанетычныя і марфалагічныя адметнасці гаворак Гродзеншчыны.

Трэці раздзел «Тапанімія» складаюць артыкулы, у якіх разглядаюцца новыя падыходы да вывучэння рэгіянальнай тапаніміі: гэта этналінгвістычнае даследаванне тапаніміі, прынцыпы складання этналінгвістычнага слоўніка тапонімаў, акрэсленне паняцця «тапанімічнае поле», вывучэнне тапаніміі метадам тапаніічнага поля, гісторыя тапанімікі Гродзеншчыны, сучасная айканімія Гродзенскага раёна.

Чацвёрты раздзел прысвечаны лінгвістычнаму краязнаўству. Вызначаюцца формы і напрамкі лінгвістычнага каязнаўства, характар і перспектывы школьнага лінгвістычнага краязнаўства, даюцца канкрэтныя метадычныя парады па вывучэнні школьнікамі лексікі, фразеалогіі, тапаніміі ў пазакласнай працы па мове.

У пятым раздзеле сабраны рэцэнзіі М.А. Даніловіча на манаграфіі, слоўнікі, дапаможнікі апошняга дзесяцціголдзя, якія сталі значнай падзеяй у беларускай лінгвістыцы.

Заканчваецца кніга бібліяграфічным спісам навуковых прац М.А. Даніловіча, а таксама інтэрв’ю з ім.

Пры ўкладанні зборніка ставілася задача захаваць афармленне і змест артыкулаў у тым выглядзе, які яны мелі пры першым апублікаванні. Нязначныя змяненні звязаны з выпраўленнем недакладнасцяў і папраўкамі ў спісах літаратуры. У асобных артыкулах апушчаны фрагменты, што пазначана дужкамі <…>.

# Раздзел 1
# ФРАЗЕАЛОГІЯ

## *1.1 Структурна-семантычныя ўласцівасці фразеалагізмаў*

### АДЛЮСТРАВАННЕ ФАКТАЎ ГІСТОРЫІ Ў БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ ФРАЗЕАЛОГІІ

Шматлікія фразеалагізмы матываваны канкрэтнымі фактамі, якія мелі месца ў мінулыя часы. «Фразеалогія, – пісаў Ф. Янкоўскі, – непасрэдна звязна з гісторыяй яе стваральнікаў, носьбітаў, з разнастайнымі культурна-гістарычнымі змяненнямі ў грамадстве» [1, с. 240].

«Этымалагічным падмуркам» (В.Вінаградаў) фразеалагізмаў могуць быць з'явы ўніверсальныя ў часе і храналагічна абмежаваныя, якія сталі фактамі гісторыі і сёння не існуюць (ці існуюць спарадычна). Менавіта апошнія паслужылі аб'ектам апісання ў гэтым артыкуле. Для аналізу абраны фразеалагізмы, выпісаныя з беларускіх дыялектных слоўнікаў, фальклорных зборнікаў, хрэстаматый па дыялектнай мове, а таксама ўласныя дыялекталагічныя запісы апошняга дваццацігоддзя, зробленыя пераважна на Гродзеншчыне.

Экстралінгвістычнай асновай фразеалагізмаў выступаюць з'явы самых розных эпох. Напрыклад, з падсечна-агнявой сістэмай земляробства, якое ўжо даўно адышло ў нябыт, звязана ўзнікненне фразеалагізмаў *у чорта на кулічках* 'вельмі далёка, у аддаленых мясцінах', *да чорта на кулічкі* 'невядома куды і для чаго (ісці, ехаць)', *яшчэ чэрці на кулачках не біліся (не браліся, не выходзілі)* 'вельмі рана, перад світаннем'. Першы кампанент гэтых фразеалагізмаў *чорт (чэрці)* сёння ўспрымаецца са значэннем 'нячыстая сіла'. Аднак напачатку ён меў іншае значэнне. Нашы этымалагічныя пошукі прывялі да высновы, што кампанент *чорт* тут атрымаў народнаэтымалагічнае пераасэнсаванне слова з іншым значэннем. Такім словам з'яўляецца старажытны назоўнік *черть (черти)*. Спачатку ім называлі засечкі на дрэвах, якія трэба было засушыць, каб пасля спаліць, пазней у выніку метанімічных пераносаў яно набыло значэнні 'праведзеная лінія, мяжа ў выглядзе вырубкі ў лесе', 'высечаны ўчастак лесу', 'участак зямлі, выраблены ў лесе пад ворыва'. Кампанент *кулічкі (кулачкі)* таксама старажытнае слова, якое мела значэнне 'выпаленае і расчышчанае пад ворыва месца ў лесе'.

Шэраг фразеалагізмаў утвораны адносна нядаўна, на падставе з'яў, сведкамі якіх яшчэ з'яўляюцца сучаснікі. Так, у Ваўкавыскім раёне запісаны выраз *на польскія Акцябарскія. Акцябарскія* – неафіцыйная назва гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі (7–8 лістапада). Святкаванне гэтай гадавіны было ўстаноўлена ў Савецкім Саюзе, а ў Польшчы не было замацавана. На неадпаведнасці з'яў грунтуецца значэнне гэтага фразеалагізма, стылістычным кампанентам якога выступае канатацыя іранічнасці. *На польскія Акцябарскія* – 'невядома калі, хутчэй, ніколі'. Пасля распаду Савецкага Саюза гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі фактычна не адзначаецца, а фразеалагізм працягвае ўжывацца, напамінаючы пра з'яву, якаую ўжо можна лічыць гістарычным фактам.

У фразеалогіі беларускай мовы знайшлі свой адбітак самыя розныя праявы чалавечага быцця, якія сталі фактамі гісторыі. Паспрабуем вызначыць некаторыя найбольш прыкметныя з іх, што закранаюць істотныя моманты існавання і дзейнасці беларусаў.

**1. Быт, матэрыяльная культура.** За апошняе стагоддзе небывалае па тэмпах і ўзроўні развіццё тэхнікі выцесніла вялікую колькасць прадметаў, рэчаў, прыладаў, якімі на працягу доўгага перыяду карысталіся нашы продкі. Шэраг актыўна ўжывальных фразеалагізмаў захавалі ў сваёй структуры назвы рэалій, якія ўжо цалкам забыты. Напрыклад, фразеалагізм *даць цыры пад хвост* 'правучыць, пабіць каго-н., расправіцца з кім-н.' мае ў сваім лексічным складзе назву часткі прылады для здабывання агню. *Цыра (цэра)* – высушаны кавалак грыба-губы, які запальваецца ад іскры пры высяканні агню крэсівам.

У фразеалагізме (рукі) *як кукі* 'нязграбныя, неахвочыя да працы' назоўнік *кука* абазначае вялікі драўляны молат, які выкарыстоўвалі для драблення засохлых камоў раллі. Назву ўстарэлага прадмета знаходзім у фразеалагізме *шмат у гарнец такіх малайцоў улезе*, дзе *гарнец* – 'пасудзіна для сыпкіх і вадкіх цел ёмістасцю 3,28 літра'.

Пра асобныя прадметы сучаснікі агульнае ўяўленне маюць, бо атрымалі інфармацыю пра іх ад старэйшых жыхароў ці з пісьмовых крыніц, хоць у рэальнасці іх не бачылі (напрыклад, *лапці*, *пасталы*, *цэп*, *цэбар*, *цэўка*, *берда*, *калаўродак*, *кадаўб*, *пярэплат*): *у лапцях ды па паркету* 'з неаднолькавым, няроўным сацыяльным ці матэрыяльным статусам (лезці куды-н., дабівацца чаго-н.)', *плесці лапці <з кашалямі>* 'гаварыць абы-што', *языком лапці падплятаць* 'гаварыць абы-што, выдумваць', *лапцем накрыцца* 'прайсці ўпустую, без толку (пра час)', *ляпнуць як пасталом па вадзе* 'абы-што сказаць', (выдумаць) *чорта з пасталамі* '(выдумаць) несусвеціцу', *цэп у цэп* 'роўны ў працы', *як цэп* 'вельмі моцна (напіцца гарэлкі, быць п'яным)', *як з цэбра*, *як з цэўкі* 'праліўны (дождж)', *не ўсё ў бердзе* 'хто-н. прыдуркаваты, ненармальны', *язык як калаўродак* у каго 'хто-н. вельмі балбатлівы', *як кадаўб* 'вельмі тоўсты хто-н.'

**2. Адзінкі вымярэння.** Фразеалагізмы захавалі некаторыя метрычныя назвы, пашыраныя ў мінулым. Гэта, нарыклад, меры даўжыні (у фразеалагізмах *аршын з шапкай, мераць на свой аршын, як аршын праглынуў, бачыць на тры сажні пад зямлёй, сажнем носа не дастанеш*), меры вагі (*пачым фунт ліха, тры лоты да здыхоты* 'вельмі слабы хто-н.'). Фразеаўтваральнай актыўнасцю характарызуюцца назвы грашовых адзінак. Высокачастотнымі з'яўляюцца назвы адзінак малой вартасці, якія былі хадавымі ў Вялікім Княстве Літоўскім, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі: *шэлег* – старажытная дробная манета ў XV–XIX стст., *грош* – даўнейшая медная манета (спачатку двухкапеечная, а пасля паўкапеечная; існавала да 1917 г.), *грыўна* – старажытная манета, якая ў розныя часы мела розную вартасць; у XIX ст. – медная трохкапеечная манета. Такога тыпу нумізматызмы выкарыстоўваюцца ў выразах адмоўнай канатацыі: *шэлега <зломанага> неварты,* (знаюць яго) *як ліхога шэлега,* (баіцца) *як ліхога шэлега,* (не збудзеш) *як ліхога шэлега,на грош* (праўды няма), *грош гроша не дагоніць* у каго, *грош цана* каму, *ні за грош, ні ў грош не ставіць* каго, *уваткнуць свае тры грошы,* (праціўна) *як старцу грыўна.*

**3. Праца.** Праца займае выключна важнае значэнне ў жыцці чалавека. Адлюстравана яна ў вялікай колькасці фразеалагізмаў. Пры натуральнай гаспадарцы зямля ў беларускага селяніна лічылася галоўным багаццем, бо яна давала сродкі для

існавання. З ростам насельніцтва сяляне вымушаны былі асвойваць новыя тэрыторыі. Высякаліся ўчасткі лесу і выкарчоўвалася *ляда.* Саматужная распрацоўка ляда ўручную была цяжкай справай, забірала шмат сіл. Пра гэта ў сціслым выглядзе апавядаюць прыказкі: *Каб корч стаў сторч, то лягчэй бы выцягваць яго было; У лясу жывём, пню кланяемся;Пабыла Хімка ў лядах, пабачыла працы;Пазналі б мяне ў лядзе, а не ў нарадзе;Лядцы як родныя атцы*.

Вылучаецца прафесійная фразеалогія, якая непасрэдна ўказвае на былыя заняткі людзей: плытагонаў – (ісці) *на ваду* '(ісці) ганяць плыты'; майстроў па вырабе лапцяў – (ісці) *у луцце* '(ісці) драць лыка'; лесарубаў – (ехаць) *у цягло* '(ехаць) на вывазку лесу'; наймітаў – *у палетнікі* '(наймацца) тэрмінам на лета, да пакроваў'; пастухоў – *пайсці на вярэнікі* 'збіраць восенню пабор з гаспадароў, жывёлу якіх пасвіў пастух'; жнеяў – *у прысцёл* 'укладка снапоў ячменю, проса для высушвання на полі'.

Фразеалагізмы захавалі звесткі аб працоўных абрадах і традыцыях, дзе калектыўны занятак спалучаўся з адпачынкам. Тыповым у Беларусі быў абрад, абазначаны фразеалагізмамі *на папрадухі*, *на папрадушкі*, *на попрадкі.* Вечарамі дзяўчаты-аднавяскоўцы з калаўроткамі і прасніцамі збіраліся ў адной хаце. Пралі кудзелю і адначасова вялі гутарку, жартавалі, спявалі песні. Нярэдка да дзяўчат наведваліся хлопцы, і тады пачыналіся гульні, забавы, танцы, якія працягваліся да поўначы. Жанчыны, якім цяпер за восемдзесят гадоў з цеплынёй апавядаюць пра тыя мілыя памяці і сэрцу часіны:

«Раней на папрадухі хадзілі. Маладыя дзяўчаты зьбіраліся, хто рукавіцы рабіў, хто шкарпэткі. Пасядзям накруга хаты дзяўчат зь дзесяць. Пасярэдзіні лямпу на дроці вешалі, і ўсім было відно. Пошля хлопцы зьбіраліся на вечарынкі. Сьпявалі. Пошля на прагулку бегалі, та настрашым дзе каго, пасьмяемся, пагуляям. Тады ізноў ідзеш у хату, далей прадзем. І так кажны дзень пераходзілі ад аднаго да другога з работамі» (І.І.Кавалевіч, 1928 г. н., в. Мацвееўцы Ваўкавыскага раёна).

«У адну хату зьбіраемся чалавек дваццаць пяць, а то і боляй, сядзям у крух, а пасярэдзіне лучына сьвеціць, і прадзем, хто на вярацяне, хто на калаўротку. Кап цяпер тую лучыну, дык цямнота была п, а нам тадэ сьветла было. Месяцаў так тры зьбіраліся. Нам было так вясяло, добра, хлопцы з гармонікам прыйдуць с цалай вёскі. Прадзем кужаль, зрэбна палатно потым тчэм, а за зіму тыля напрадзем, што кожна дзеўка вытчэ посьцілкаў шмат на ложка» (Г.К.Палуян, 1930 г. н., в. Альхоўка Лідскага раёна).

«Зьбіраліся мы заўсягды канпаніяй дзе ў каго ў хаці. Хадзілі з кудзелямі, пралі, песьні сьпявалі. Хлопцы зьбіраліся, прыходзілі да нас. Прыходзілі з музыкаю, усе танцавалі, сьпявалі. Поўна хата назьбіраяцца. Гулялі ў фанты, у кальцо. Пасядзям усе дзеўкі і хлопцы на слоне і гуляям. Гасьцілі мы хлопцаў такімі калачамі. Таўклі каноплі і сьпяклі калачы на бляхах. Таксамо прыносілі хто хлеп, хто кілбасу, хто кусок мяса. Патом расходзіліся па хатах. Хлопцы нас праводзілі. Та ўжэ ш даўно гэта было, зарас ўсё ні ўспомніш» (Л.В.Хомка, 1915 г. н., в. Галавічполе Шчучынскага раёна).

Шкада, што ў беларусаў знікае такі даўні звычай калектыўнай дапамогі ў гаспадарцы, які мае назву *талака.* На талаку запрашалі сваякоў, суседзяў, аднавяскоўцаў звычайна на адзін дзень, каб выканаць нейкую цяжкую доўгатэрміновую ці непасільную для аднаго чалавека працу (зжаць жыта, вывезці гной на поле, пасадзіць ці выбраць бульбу і інш.). Памагалі ў першую чаргу ўдовам, пагарэльцам, салдаткам, маламаёмасным, а таксама вясковым святарам і чыноўнікам. Арганізатар талакі па заканчэнні пра-

цы паводле сваіх магчымасцяў ладзіў застолле, якое суправаджалася песнямі, забавамі. Некаторыя істотныя характарыстыкі талакі знаходзім у прыказках і фразеалагізмах: *Просім на талаку, а не то за чупрыну павалаку; Як не пойдзеш на талаку, то я цябе за лоб павалаку; На талаку ног не павалаку; Гудзе поле, гудзе – талака з поля ідзе; Завіхаецца, як на папоўскай талацэ.*

Знікае і такая працоўная традыцыя, што прадугледжвае застолле, якое атрымала фразеалагічныя найменні (ісці) *на пячонку, на ныркі.* Яна мае дачыненне да забою і свежавання жывёлы, пераважна свіней. Гаспадар просіць суседзяў ці сваякоў дапамагчы закалоць свінню, парсюка: пакаціць, утрымаць жывёлу, каб не вырвалася, прыняць удзел у яе смаленні. Памагатыя (ды і не толькі) запрашаліся адведаць свежыны і прыходзілі *на пячонку* ці *на ныркі* пераважна вечарам, калі сцямнее. У зонах беларуска-літоўскага этнічнага і моўнага кантактавання згаданы абрад абазначаецца фразеалагічнымі літуанізмамі (ісці) *на сквірстуны, на сквярсную, на сквярсту* (параўн. літ. *skerstùves* ‘свежына’).

**4. Звычаі, абрады, павер’і.** У беларускай дыялектнай мове вылучаецца вялікі пласт фразеалагізмаў, якія склаліся на аснове абрадаў ці непасрэдна называюць абрадавыя дзеянні. Фразеалагізм *залом заламаць (заплятаць)* ‘зрабіць каму-н. непрыемнасць’ першапачаткова абазначаў злыя чары. Яны выконваліся на полі ў выглядзе залому. *Залом* – гэта заламаныя і звязаныя ў пук сцяблы жыта, лёну, якія маглі наклікаць бяду на гаспадара нівы. Паводле забабонных уяўленняў, той, хто дакранецца да залому, будзе няшчасны. Таму залом не чапалі і заўсёды абжыналі вакол, пакідаючы на полі.

Са сферы чараўніцтва паходзяць і такія фразеалагізмы: *варапаўку наслаць* ‘напусціць чары на каго-н., заваражыць каго-н.’, *замаўляць зубы* ‘хітруючы, пабочнымі размовамі адцягваць чыю-н. увагу ад чаго-н. важнага’, ‘падманваць каго-н.’, *закінуць у сырыя камяні* ‘праклясці каго-н.’, *павука з’есці (глынуць)* ‘зацяжарыць’.

Шэраг фразеалагізмаў мае дачыненне да іншых абрадаваых дзеянняў. Для прыкладу, назавём некалькі выразаў, якія выкарыстоўваліся ў традыцыйным вясельным абрадзе ці выйшлі з яго, набыўшы «невясельнае» значэнне: *саладзіць водку* ‘цалавацца па загадзе свата, музыкаў ці іншых вясельнікаў у часе вясельнага абраду’, *у цыганы* ‘(ісці) на вяселле, прыбраўшыся ў цыганоў’, *памяло таптаць* ‘стаяць у парозе ці праходзе іназіраць за ходам вясельнага абраду (пра незапрошаных на вяселле)’, *піць салодкія рожкі* ‘заканчваць вясельныя ўрачыстасці’, *на пірагі* ‘(ісці, ехаць) на сустрэчу з частаваннем праз тыдзень пасля вяселля (пра бацькоў маладых)’, *у перагляды хадзіць* ‘абменьвацца позіркам, пераглядвацца’.

**5. Хваробы, эпідэміі.** У фразеалогіі адлюстраваны нетрадыцыйныя для беларусаў хваробы (халера, трасца, гаручка (гарончка), пранцы і інш.), якія ў пэўныя гістарычныя часы распаўсюджваліся актыўна і прыводзілі да пакутаў і масавай гібелі насельніцтва. Адна з хвароб, якая не раз прыходзіла з поўдня на тэрыторыю Беларусі і Польшчы – гэта халера. Эпідэмія халеры «выкошвала» цэлыя вёскі, і не было ад яе ніякога ратунку. Як злая моц, яна ўвасобілася ў вобразнай структуры цэлай групы фразеалагізмаў. У выразе *халера трыццатага года* ‘кепскі чалавек’ засведчана сапраўдная падзея – эпідэмія халеры ў 1830 годзе.

З кампанентам *халера* сустракаецца шмат іншых фразеалагізмаў, пераважна ў заходняй частцы Беларусі. Усе яны маюць адмоўную канатацыю, эмацыянальна-ацэначнае значэне грубасці, зніжанасці. Паводле сваёй функцыі некаторыя з іх у

ранейшыя часы нагадвалі рускі мат і таму выкарыстоўваліся абмежавана, а ў дзіцячым маўленні забараняліся наогул. Прывядзём прыклады сучасных найбольш ужывальных фразеалагізмаў: *аж халера бярэ (носіць)* каго ‘хто-н. вельмі неспакойны, усхваляваны, злосны, раздражнёны’, *аж халера душыць* каго ‘вельмі моцна (крычыць хто-н.)’, *да халеры* ‘вельмі многа’, *на халеру* ‘навошта’, *нех це халера* ‘выказванне дакору, асуджэння, незадавальнення’, *ні халеры* ‘зусім нічога, не так’, *ні халеры сабе* ‘выказванне здзіўлення’, *халера з-пад цёмнай гвязды*, *халерны конь*, *халера серпавітая* – ‘кепскі чалавек’, *якой халеры* ‘чаму, для чаго, з якой мэтай’, *як халеры* ‘вельмі моцна (баяцца каго-, чаго-н.’).

Пасля напалеонаўскай вайны 1812 года ў Беларусі з’явілася заразная венерычная хвароба *пранцы* ‘сіфіліс’. Лютавала яна больш як паўстагоддзя, загубіўшы дачасна шмат жыццяў. Гісторык Сяргей Токць у кнізе «Беларуская вёска ў эпоху зьменаў» прыводзіць архіўны дакумент, у якім адзначаецца, што лекар палаты Гарадзенскага лясніцтва ў 1843 г. пры выбарачным аглядзе жыхароў вёскі Бершты (цяпер яна знаходзіцца у межах Шчучынскага раёна) выявіў 63 чалавекі, якія маюць запушчаную венерычную хваробу. Лекар даводзіў, што пасля поўнага агляду такіх хворых будзе больш за сто. Таму неабходна заснаваць у вёсцы часовую лякарню [2, с. 213].

З гнездавым словам *пранцы* таксама склалася цэлая група фразеалагізмаў, напрыклад: *на пранцы* ‘навошта’, *няхай яго пранцы* ‘выказване адмоўных пачуццяў’, *пранцы яго ведаюць* ‘невядома’, *каб це пранцы з’елі* ‘выказванне адмоўных пачуццяў’, *пранцы не возьмуць* каго ‘нічога кепскага не зробіцца з кім-н.’

**6. Сацыяльныя і сацыяльна-прававыя адносіны.** У Беларусі, пачынаючы з XV ст., існавала адпрацовачная рэнта – форма эксплуатацыі селяніна, якая называлася *паншчынай.* Паводле яе залежны селянін павінен быў бясплатна адпрацаваць на пана некалькі дзён у тыдзень. Паншчына афіцыйна была адменена ў 1864 годзе, але напамінак пра яе знаходзім і сёння ў фразеалагізмах (ідзе) *як на паншчыну* ‘павольна, неахвотна’, *паншчыну адрабляць* ‘выконваць што-н. неахвотна, для адчэпнага’.

Пры паншчыне выкарыстоўвалі розныя віды прымусу. Адзін з іх – падсуседства. Селяніну на пэўны час падсялялі ў хату чалавека (звычайна работніка ці вайскоўца), якога трэба было карміць і даглядаць. Такі чалавек называўся *кутнікам* або *закутнікам.* Пражыванне падсуседа ў чужой хаце адлюстравалася ў фразеалагізмах *кутам сядзець, сядзець на куце.* У наш час згаданыя фразеалагізмы маюць крыху іншую дэнататыўную накіраванасць, абазначаюць чалавека, які вымушаны сядзець у чужой хаце з прычыны адсутнасці ці страты свайго жытла і маёмасці. Зразумелым у гэтай сувязі зяўляецца зларадны сэнс кленіча *Каб ты кутам сеў (сядзеў).*

Пэўныя працоўныя павіннасці бытавалі і пазней. Напрыклад, у Заходняй Беларусі, калі яна да 1939 г. знаходзілася ў складзе Польшчы, існавала дарожная павіннасць *шарварка* (ням. *Scharwerk* ‘прыгонніцкая праца, паншчына’). Яна абавязвала селяніна некалькі дзён у залежнасці ад памеру зямельнай уласнасці адпрацаваць на будаўніцтве ці рамонце дарог, дарожных збудаванняў, г. зн. *шарварку адрабляць* [1, с. 253]. На базе словазлучэння *шарварку адрабляць* узнік аднайменны фразеалагізм са значэннем ‘абы-якава, для ачэпнага працаваць’. У гаворках заходняй часткі Беларусі гэты фразеалагізм і цяпер ужываецца актыўна, нягледзячы на тое што для многіх носьбітаў гаворак слова *шарварка* ўжо незразумелае.

Прымусы, забароны, спагнанні, якія бытавалі ў сацыяльным ладзе жыцця, зафіксаваны і такімі фразеалагізмамі:

*У казе сядзець* – ‘заставацца ў школе пасля ўрокаў на дадатковыя заняткі з прычыны кепскага выканання хатняга задання’. У XIX ст. *казой* называлі дом, у які садзілі пад варту часова затрыманых людзей, што парушылі ў горадзе парадак.

*Выпісаць пару гарачых* – ‘пабіць, пакараць каго-н.’ *Гарачыя* – лупцоўка як спецыяльны спосаб пакарання ў мінулым.

*Выправіць собалі пасвіць, адправіць да белых мядзведзяў* – ‘адправіць у высылку’ (водгук на расправы ўлад царскай Расіі і на сталінсія рэпрэсіі, калі людзей масава высылалі ў Сібір ці на поўнач Расіі).

*Сухая арэнда* – ‘дармаўшчына, тое, што за нішто дасталося каму-н.’ Першапачаткова сухой арэндай называлі безпадстаўную плату за што-н., напрыклад, за пашу у лесе, хоць жывёла ў лесе не пасвілася.

*На скарб панства (панскі)* ‘у глум, безвынікова, упустую, дарэмна (пайсці, рабіць і пад.)’. Выраз склаўся на аснове польскага тэрміна *skarb panstwa* ‘дзяржаўнае казначэйства’ як іранічная рэакцыя заходнебеларускага сялянства на штрафныя квіткі, што выдаваліся секвестратарамі пры грашовым ці іншым спагнанні за нядоімкі, недазволенае рыбалоўства, збіранне ў лесе грыбоў, ягад і пад.’ [3, с. 49].

**7. Дзяржаўны лад.** Гістарычны лёс Беларусі склаўся так, што яна часта з’яўлялася аб’ектам інтарэсаў іншых краін. Напрыклад, толькі ў XX ст. некалькі разоў перакройвалася беларуская карта. Беларусь ці асобныя яе часткі належалі розным дзяржавам і дзяржаўным утварэнням: то царскай Расіі, то Польшчы, то Германіі, то Савецкаму Саюзу. І гэта красамоўна зафіксавана ў фразеалогіі. Вылучаецца серыя ўстойлівых выразаў з тэмпаральным значэннем, якія ўказваюць на час панавання чужой дзяржавы. Яны ўтвораны па вядомай структурнай мадэлі з пачатковымі прыназоўнікамі *за, пры, пад: за царом, за царызмай, за рускім, за польскім, за польскімі, за Польшчай, пад палякамі, за немцам, за немцамі, пад немцам, за саветамі, пры саветах.*

Нямецкае і савецкае дзяржаўнае кіраванне ў XX ст. у Беларусі ўсталёўвалася двойчы. Адпаведныя яму фразеалагізмы характарызуюцца дэталізаванасцю семантыкі, што дасягаецца ўвядзеннем у структуру фразеалагізмаў кампанентаў *першы, той, другі: за першымі немцамі* ‘пры нямецкай акупацыі ў часе Першай сусветнай вайны’, *за другімі немцамі* ‘пры нямецкай акупацыі ў часе Другой сусветнай вайны’, *за першымі (за тымі) саветамі* ‘ў перыяд з 1939 па 1941 гады, калі ў Заходняй Беларусі ўсталявалася савецкая ўлада’, *за другімі саветамі* ‘ў перыяд пасля 1945 года, калі заходняя частка Беларусі зноў стала часткай Савецкага Саюза’.

Асобныя фразеалагізмы страцілі прывязку да канкрэтнага гістарычнага часу, ужываюцца з абстрактным значэннем ‘вельмі даўно’: *за царом, пры цару, за царом гарохам, пры цару гароху, за каралём гарохавым, пры цару гароху, як людзей было троху <і былі дзеравянныя рублі і жалезныя капейкі>.*

**8. Гістарычныя падзеі.** Фразеалогія чуйна адгукаецца на важныя гістарычныя падзеі, якія закраналі жыццё і лёс цэлага народа ці некалькіх народаў. Гэта пераважна войны, ваенныя дзеянні. Ваяўнічасць яцвягаў увасобілася ў прыказцы *Яцвеж як еж.* Мангола-татарскае пранікненне на тэрыторыю Беларусі паслужыла падставай для ўтварэння наступных прыказак і фразеалагізмаў: *Страшан, як мангол;Няма на свеце горшай вяры, як басурманы-татары;Арду тварыць; Мардва апанавала*; *Погань апа-*

*навала*. Падзеі шведскай, турэцкай, напалеонаўскай войнаў адбіліся ва ўстойлівых выразах *Як надышлі шведы, то не стала ў Дварчанскім возеры вады;Прапаў, як швед пад Палтаваю;А стуль туркі, а стуль шведы, недзе дзецца з велькай беды;Грэўся француз у Маскве, а замярзаў на Бярозе;Наша Бяроза чужых і генералаў тапіць можа;Пякуцца французы, бы бульба ў прыску;Баіцца холаду, як француз;Галодны француз і вароне рад;Мусю француз, ці не з'ясі гарбуз?*

У дыялектнай мове найбольш ужывальнымі з'уляюцца фразеалагізмы і прыказкі, утвораныя па слядах ваенных падзей, што адбываліся бліжэй да нашага часу, у XX ст. Напрыклад, у гаворках Гродзеншчыны занатаваны выклічнікавы фразеалагізм *цуд над Віслай*. Паходжанне фразеалагізма звязана з эпізодам Першай сусветнай вайны. У 1918 – 1920 гадах Беларусь, якая дабівалася незалежнасці, забіралі то немцы, то бальшавікі, то палякі. Летам 1920 года Чырвоная Армія з баямі выцесніла польскія войскі з Беларусі і ў жніўні рушыла на Варшаву, каб «прамацаць Еўропу рускім штыком» (У.І.Ленін). Заваёўнікі падышлі да Варшавы і рыхтаваліся да штурму. Але магутны нацыянальна-патрыятычны ўздым з'яднаў палякаў і даў моцы для супраціву. На абарону Варшавы сталі не толькі вайскоўцы, але жанчыны і дзеці. Добраахвотнікаў улілося ў войска больш за 160 тысяч. І для бальшавікоў, якія стаялі ля сцен Варшавы, здарылася нечаканае, «цуд над Віслай». Палякі пайшлі ў контрнаступленне і за кароткі час вызвалілі Польшчу. Тады і ўзнік выраз *цуд над Віслай*. Пасля ён фразеалагізаваўся, пашырыў сваю семантыку. Носьбіты гаворак часцей не ўсведамляюць прывязку яго да апісанай ваеннай падзеі, ужываюць з выклічнікавым значэннем 'выказванне здзіўлення, радасці, захаплення нечым незвычайным, неверагодным': *Палянь, вярхаваты кошык баравікоў прывалок! А дзе ж ты іх назьбіроў?! Цуд над Віслай!* (в. Бабіна Гродзенскага раёна).

Многа фразеалагізмаў і прыказак створана як рэакцыя на падзеі Другой сусветнай вайны: *З'еў бы фашыст беларуса, ды кішка тонка; Ішлі фашысты ў госці – у зямлі пакінулі косці; Кожнай фашысцкай гадзіне вісець на перакладзіне; У беларускім краі не быць фашысцкай зграі; Прапаў, як фашыст пад Сталінградам; як з Асвенцыма* 'вельмі худы, слабы, страшны хто-н.', *як з блакаднага Ленінграду* 'вельмі галодны'.

**9. Імёны гістарычных асоб** (часцей за ўсё кіраўнікоў дзяржаў, палкаводцаў, палітычных дзеячаў). Фразеалагізм *пры пану Зыгмунду* 'вельмі даўно' ўвабраў у сябе імя *Зыгмунт (Сігізмунт, Жыгімонт),* якое ў перыяд з 1432 па 1622 год насілі аж тры вялікія князі Вялікага Княства Літоўскага і адзін кароль Рэчы Паспалітай.

З імем вядомага дзяржаўнага дзеяча, военачальніка, вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага і караля польскага Сцяпана Баторыя звязаны фразеалагізм *помніць караля Батораго (Батуру)* 'стары, даўні, адвечны'. Па адной з ім мадэлі пазней утварыўся фразеалагізм *цара <Мікалая> помніць*, у якім антрапанімічны кампанент называе аднаго з цароў Расійскай імперыі. Параўн. таксама: *за Мікалая (за Мікалаем), пры Ніколаеві*.

Фразеалагізмы *за крулям Сасам*, *з крулём Сасам як елі пірог з мясам* – 'вельмі даўно' адлюстроўваюць сляды гісторыі, калі ў Рэчы Паспалітай гаспадарыў кароль Аўгуст II Сас (з 1697 па 1733 г.). У той час дзяржава перажывала небывалы крызіс, а беларускі народ пад уздзеяннем ціску з боку Расіі і Польшчы па сутнасці быў пазбаўлены палітычных правоў. Ад беспарадку і безвыходнасці шляхта кінулася ў гулянкі. У яе асяроддзі часта раздаваўся шляхецкі кліч «Пі, еш і папушчай паса», які набыў палітычную актуальнасць у такім выглядзе: «За круля Саса еш, пі і папушчай

паса» [4, с. 116]. Гэтыя старонкі гісторыі спарадзілі і прыказкі з кампанентам *Сас*: *Адзін да Саса, другі да ляса; За цара Саса было досыць хлеба й мяса; За караля Саса было досыць (даволі) хлеба і мяса, а як настаў Панятоўскі, то і хлеб не такоўскі; За круля Саса наеліся людзі хлеба і мяса, а за Панятоўскага ні стало і падла конскаго.*

Імя рускага палкаводца Кутузава, які праславіўся ў вайне 1812 года з напалеонаўскімі захопнікамі, засведчана фразеалагізмам *як Кутуз француза* ‘рашуча, смела (прагнаць, выгнаць каго-н.)’.

Дыялектныя фразеалагізмы напамінаюць і пра асобаў, менш аддаленых у гістарычным часе: (глядзець) *як Ленін на буржуазію* ‘непрыязна, нядобразычліва’, *як Троцкі* ‘вельмі лёгка, па-штукарску (ілгаць, гаварыць няпраўду)’ (у аснове фразеалагізма – прозвішча ідэолага антыленінскага, антысавецкага руху Л.Д. Троцкага), (планы) *як у Гітлера* ‘вельмі вялікія’

У гэтым артыкуле адзначаны асобныя тыповыя пазамоўныя крыніцы беларускай дыялектнай фразеалогіі. На падставе ўжо толькі іх можна бачыць непарыўную сувязь грамадства і мовы. Гістарычныя факты спрыяюць развіццю фразеалагічнага складу гаворак. Многія фразеалагізмы захоўваюць звесткі пра мінулыя забытыя рэаліі і назвы і таму маюць выключную інфармацыйную каштоўнасць для такіх навук, як гісторыя і гістарычнае мовазнаўства.

*Літаратура*


1. Янкоўскі, Ф. Беларуская мова/ Ф. Янкоўскі. – 3-е выд., дапрац.– Мінск: Выш. школа, 1978.– 336 с.
2. Лепешаў, І.Я. З народнай фразеалогіі: дыферэнц. слоўнік / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Выш. шк., 1991. – 110 с.
3. Токць, С. Беларуская вёска ў эпоху зьменаў: другая палова XIX – першая палова XX ст. / С. Токць. – Менск: Тэхналогія, 2007. – 308 с.
4. Найдзюк, Я. Беларусь учора і сяньня: папулярны нарыс з гісторыі Беларусі / Я. Найдзюк, І. Касяк. – Менск: Навука і тэхніка, 1993. – 414 с.


---


Першая публікацыя ў зборніку: *Польска-беларускія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі: матэрыялы XVI Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Шлях да ўзаемнасці» (Беласток, 25-26 IX 2009); пад рэд. М. Кандрацюка, Б. Сегеня. – Беласток, 2009. – С. 129–138.*


## БІНАРНЫЯ ФРАЗЕАЛАГІЧНЫЯ СПАЛУЧЭННІ Ў БЕЛАРУСКІХ ГАВОРКАХ

Фразеалагізмы ў маўленні не ізаляваныя, яны спалучаюцца са словамі. Частотнасць ужывання фразеалагізмаў звычайна невысокая і ў многім залежыць ад псіхалінгвістычных асаблівасцяў чалавека. Часцей фразеалагізмамі карыстаецца асоба, маўленне якой вобразнае, жывое, аздобленае рознымі характарыстыкамі і азначэннямі. Прывядзём прыклад, дзе шчыльнасць фразеалагізмаў на адрэзак тэксту адносна вялікая: «Была ў магазыні, хацела ўнуку равэрчык купіць, алі *дзе там* – ні даступіцца. *Халера на* гэтых аркаголікаў. Купіла аж дзесяць сaганоў. А што рабіць. Бізуяса *дзень і ноч*, кідаяса *як муха ў вару*, а прыдзя такі *бык чухонскі*, *халера на іх*, і яму ўсё што хочаш, а ты *хоць пэнкні* ат крыку [суразмоўніца праціраe анучкай зэдлік, ставіць на стол слоік

з малаком, запрашае]. Ешча колькі хочаця. Стары мой наеўса, напіўса, сеў на трактар і прэньдзенька паляцеў. Казала яму: «Пражэнь хоць карову». Але дзе там! *Ні да танцаў ні да ружанцаў.* На рабоці то ён круціцца – *тут есьць тут німа*, а ў хаці такі заваліска. Ну але казалі, што гэтыя трактарыстыя ціпер будуць грошы мець, то пэўне куплю яму што, а то *ў чым у касьцелі ў тым у пасьцелі*. Кажу яму: «Ты дурны чы не?!» Зыркня вачыма, здаецца, уцяў бы *як сабака*. Але я ні баюса» (Запіс ад Я.І. Бондзюш, 1935 г. н.; в. Войтаўцы Гродзенскага р-на; 1992 г.).

У сказе выкарыстоўваецца не больш аднаго фразеалагізма. Сказы з двума ці некалькімі фразеалагізмамі – рэдкая з'ява: «У касьцёл ні ходзяць, адвярнуліся ад усяго сьвятога, жывуць *абы дзень да вечара*, *парадніліся ш чортам*» (Дуляўшчына Мастоўскага р-на); «Татачка, *дай Бох* яму *неба*, добры быў, але рана *пайшоў на той сьвет*» (Янапаль Воранаўскага р-на); «Нічога добрага не бачыла за ім: піў, *халерны конь*, піў *як цэмент воду*» (Кавалічы Гродзенскага р-на); «*Усё адноадальюцца* ім *сьлёзы* нашы, многа яны нам *папсавалі крыві*» (Казакоўцы Мастоўскага р-на); «Ну і *ўсё раўно*, пакуль чалавек жыве, пакуль *вочы сьвецяць*, *духам ні падаяш*, тоя думаяш яшчэ зрабіць і тоя думаяш зрабіць» (Астрына Шчучынскага р-на).

Прыклады пераконваюць, што фразеалагізмы ўступаюць у сінтаксічную сувязь са словамі. Выпадкаў, дзе граматычныя адносіны рэалізуюцца непасрэдна паміж фразеалагізмамі, сустракаецца няшмат, напрыклад: «Дзеці ў нас усе працавітыя былі, з маці *ад зары да зары сьпіны гнулі*» (Петрымаўшчына Іўеўскага р-на). Выбар такіх фразеалагізмаў дыктуецца маўленчай сітуацыяй. У працэсе прадукавання сінтагмы падбіраюцца сэнсава сумяшчальныя фразеалагізмы для ўтварэння непаўтаральнага, індывідуальнага міжфразеалагічнага спалучэння.

У гаворках спалучальнасць двух канкрэтных фразеалагізмаў можа атрымаць рэгулярны характар. Спачатку маўленчае спалучэнне фразеалагізмаў паступова замацоўваецца ў мове і можа набыць узуальны, слоўнікавы статус. Так, спосабам складання двух фразеалагізмаў *на моц* і *на сілу* ўтварыўся фразеалагізм *на моц на сілу (на сілу на моц)* 'з вялікімі цяжкасцямі', які фіксуецца даведнікамі М. Федароўскага і Ф. Янкоўскага (Fed., БФ). Такім самым чынам узнік фразеалагізм *рэзаць душу паліць сэрца* каму 'моцна трывожыць, хваляваць, мучыць каго-н.' (СДФГ).

Звязваюцца паміж сабой фразеалагізмы падпарадкавальнай ці злучальнай сувяззю. Пры падпарадкаванні адзін фразеалагізм (дзеяслоўны) выступае галоўным кампанентам спалучэння і да яго прымыкае другі фразеалагізм (прыслоўны): *змераць вачыма ад пят да галавы* (Fed.). У якасці прымыкальнай часткі звычайна фігуруе кампаратыўны фразеалагізм, што пачынаецца злучнікам *як*: *вылупіць вочы як баран на новыя вароты* (СМН), *малоць языком як сабака хвастом* (СНМ), *малоць языком як цяля хвастом* (Fed.), *надуць лупы як кот на крупы* (СДФГ), *даць духу як заяц кабылі* (Fed.), *даць пылі як заяц кабылі* (Нос.), *выскаліць зубы як сабака на высеўкі (на пятніцу, на мясо), лезці ў вочы як муха ў спасаўку, вытрашчыць очы як яшчарка на дзеці, вытрашчыць очы як патароча, вытрашчыць (вырачыць) очы як вол на разніка* (Fed.).

Пры злучальнай сувязі фразеалагізмы аб'ядноўваюцца злучнікамі ці без іх. Пераважаюць спалучальныя (*і, ды, да*) і супраціўныя (*а, але, ды*) злучнікі: *свет не бачыў і людзі не чулі* (ЗНФ), *чортава семя і воўкава племя* (Ройз.), *валасы дубам сталі да ушы звялі,папоўско (папово) око а воўчо горло* (Fed.), *ні цёпла ні холадна, а так сабе* (В), *горло шырока, ды кішка тонка* (ППФВ, СНМ), *рукі залатыя, але горла смаляное* (ППФВ).

Бяззлучнікавая сувязь аб’ядноўвае аднафункцыянальныя сінтаксічныя часткі, не звязаныя адносінамі дэтэрмінацыі, і выяўляе пералічальнае значэнне. Другая частка выступае структурным дублікатам папярэдняй: *голы як біч востры як меч* (СГВ, ПП-1, Fed.), *без агню пячы без нажа рэзаць* (Fed.), *ні ў пень ні ў калоду ні ў плот ні ў агарод* (В, ППФВ), *кату па пяту раку па вусы* (Ройз.), *соль у вочы перац у нос* (СДФГ).

Незакрытая сінтаксічная структура спалучэнняў дазваляе разгортваць іх у больш складаныя, трохчленныя адзінкі: *кату па пяту пчале па крыле сабаку па хвост* (ДС-3), *соль у вочы галавешка ў зубы рог паміж ног* (СПЗБ), *соль у вочы дзяркач у зубы таўкач у плечы* (СДФГ).

Прыведзеныя вышэй прыклады дэманструюць спалучэнне фразеалагізмаў без змянення іх структуры. У дыялектнай мове нярэдка аб’яднанне двух фразеалагізмаў прыводзіць да іх узаемапранікнення. Маюцца на ўвазе фразеалагізмы з аднолькавым лексічным кампанентам. Гэты кампанент не паўтараецца пры кожным фразеалагізме, а выкарыстоўваецца толькі адзін раз, выступае аб’яднальным цэнтрам, які злітоўвае два фразеалагізмы ў цэласнае кантамінацыйнае ўтварэнне: *малоць языком + малоць не падсяваючы = малоць языком не падсяваючы* (СМН), *вялікая шышка + шышка на голым месцы = вялікая шышка на голым месцы* (СМН), *змяшаць з гразёю + змяшаць з балотам = змяшаць з гразёю з балотам* (Fed.), *выйсці замуж за варону + выйсці замуж за Пясэцкага = выйсці замуж за варону да Пясэцкага* (НКАМ), *пайсці да Бога + пайсці з дымам = пайсці да Бога з дымам* (Fed.).

Выкарыстанне бінарных фразеалагічных спалучэнняў тлумачыцца імкненнем узмацніць вобразнасць і экспрэсію выказвання. Пры гэтым паміж фразеалагізмамі ўсталёўваюцца пэўныя семантычныя адносіны. Сярод іх можна адзначыць асноўныя: 1. Адбываецца арыфметычная сума значэнняў двух фразеалагізмаў: *змераць вачыма* ‘ўважліва агледзець, нібы ацэньваючы’ + *ад пят да галавы* ‘з усіх бакоў, поўнасцю, цалкам’ = *змераць вачыма ад пят да галавы* ‘ўважліва агледзець, нібы ацэньваючы, з усіх бакоў, поўнасцю, цалкам’. 2. Значэнне другога фразеалагізма выконвае ўзмацняльную функцыю ў дачыненні да першага фразеалагізма і дадае бінарнай фразеалагічнай канструкцыі сему ‘вельмі, надта, надзвычай, празмерна’: *малоць языком* ‘гаварыць пустое’ + *як сабака хвастом* ‘празмерна’ = *малоць языком як сабака хвастом* ‘празмерна гаварыць пустое’. 3. У фразеалагізмах з аднолькавымі значэннямі адбываецца ўзаеманакладанне гэтых значэнняў, і ў выніку бінарнае фразеалагічнае спалучэнне застаецца семантычна тоесным кожнай са сваіх частак: *ні ў пень ні ў калоду* ‘зусім недарэчна, неўпапад, не так, як трэба (сказаць)’ + *ні ў плот ні ў агарод* ‘тс’ = *ні ў пень ні ў калоду ні ў плот ні ў агарод* ‘тс’. 4. Паміж фразеалагізмамі выяўляюцца семантычныя адносіны супрацьпастаўлення: *рукі залатыя* ‘хто-н. вельмі ўмелы і здольны ў сваёй справе’ + *горла смаляное* ‘хто-н. любіць вельмі часта і многа выпіць’ = *рукі залатыя, але горла смаляное* ‘хто-н. вельмі ўмелы і здольны ў сваёй справе, але, на жаль, любіць вельмі часта і многа выпіць’.

Ужыванне двух фразеалагізмаў часам звязана з тым, што яны развіліся з адной прыказкі. Напрыклад, прыказка *На ім далёка не заедзеш, дзе сядзеш, там і злезеш* мае дачыненне да наравістага ці нядошлага каня. Яскравае ўжыванне гэтай прыказкі знаходзім у наступным кантэксце: «Іршка важна сядзеў на санях з пугай у руцэ. Уехаў у вёску, спыніўся каля Баўтруковай хаты. Людзі абступілі яго. Гладзілі каня рукамі. Прынеслі яму духмянага сена з руткай, але Іршкаў конь яго толькі панюхаў, ня еў.

Галаву адвярнуў. Стоячы побач, стары Салеяў Сьцяпан заўважыў: «Ні есьць – мусі зубоў ні мае. Стары!» Падышоў бліжэй. Узяў каня за храпы й зазірнуў яму ў зубы. Затым сказаў: «Гэ! Хлопцы, на ім далёка не заедзяш, дзе сеў – там і зьлезяш!..» І сапраўды, Іршка на санях даехаў толькі да рэчкі. Быў марозік. На рэчцы прыбяражні. Іршкаў конь саняў на пераезьдзе ня змог нават з рэчкі выцягнуць. Упаў у ваду й ня мог устаць» (Цых., с. 33). На базе гэтай прыказкі ўзніклі два фразеалагізмы, скіраваныя на чалавека: *далёка не заедзеш* на кім і *дзе сядзеш (сеў) там і злезеш* на каго, на кім, у каго са значэннем 'кім-н. не пакамандуеш, хто-н. не кінецца памагаць каму-н., выконваць чыю-н. волю' (СДФГ). Па традыцыі гэтыя фразеалагізаваныя структурныя часткі прыказкі ўжываюцца побач, характарызуючы асобу.

Падобным прыкладам выступаюць фразеалагізмы *хоць на адзін сук вешай* каго і *адзін аднаго (адна адну) не пераважыць (не пераважаць)* са значэннем 'аднолькавыя, адзін не лепшы за другога' (СДФГ), якія таксама часта фігуруюць у пары дзякуючы прыказцы *Хоць на адзін сук вешай – адзін аднагао не пераважыць*, з якой яны выйшлі. Параўн. маўленчую інтэрпрэтацыю гэтай прыказкі: *Іх хоць на адзін сук вешай. Калі павесіць аднаго на адзін сук, а другога на другі, то не пераважылі б адзін аднаго* (Закальное Любанскага р-на); *Каб павесіў на бярэзіну, то адзін аднаго не пераважыць* (Ваўкавічы Навагрудскага р-на).

Паказаны матэрыял сведчыць, што экспліцытнасць у фразеалогіі – жывая з'ява, якая на базе гатовых фразеалагічных сродкаў разнастаіць і ўзбагачае фразеалагічныя рэсурсы гаворак.

---

Першая публікацыя ў зборніку: *Нацыянальная мова і нацыянальная культура: аспекты ўзаемадзеяння: навуковы зборнік да 60-годдзя П.А. Міхайлава / рэд. кал.: А.В. Барысевіч, Д.В. Дзятко, Н.П. Лобань [і інш.]; адк. рэд. Д.В. Дзятко. – Мінск: Права і эканоміка, 2010. – С. 145–149.*

## ЭТНАКУЛЬТУРНАЯ СЕМАНТЫКА ТАПОНІМАЎ У СКЛАДЗЕ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ

Акрамя свайго асноўнага прызначэння – называння, ідэнтыфікацыі канкрэтнага геаграфічнага аб'екта ў маўленні, тапонімы могуць выкарыстоўвацца для ўтварэння фразеалагічных адзінак і фальклорных твораў. У беларускіх гаворках налічваецца шмат фразеалагізмаў, прыказак, выслоўяў, малых формаў фальклору, у якіх фігуруюць айконімы, гідронімы, мікратапонімы, Параўн. у забаўлянцы: «Гай-да-да! Гай-да-да! Паедзям да Скідля па быдля! Да Росі – па гусі! Да Ражанкі – па абаранкі! Да Індуры – па куры! Гай-да-да! Гай-да-да!» Такое выкарыстанне тапонімаў не з'яўляецца выпадковым, стыхійным. За кожным з іх замацавана пэўная сэнсавая нагрузка, тапонім з'яўляецца носьбітам этнакультурнай інфармацыі, якая працуе на змест усяго твора.

Разгледзім найбольш тыповыя значэнні, «закадзіраваныя» ў тапонімах, што ўдзельнічаюць ва ўтварэнні вобразнай і сэнсавай структуры фразеалагізмаў ці іншых падобных адзінак. У якасці прыкладаў узяты матэрыялы, выпісаныя з беларускіх дыялектных слоўнікаў і зборнікаў, а таксама занатаваныя аўтарам непасрэдна з жывых гаворак пераважна на Гродзеншчыне.

У шэрагу фразеалагізмаў айконімы высвечваюць такое сваё значэнне, як 'важнасць населенага пункта'. У этнатапанімічнай прасторы населены пункт усведамляец-

ца як цэнтр геаграфічнага, адміністрацыйна-дзяржаўнага, гаспадарчага, палітычнага аб’яднання. Такое значэнне часцей выяўляюць назвы сталічных гарадоў, якія выконваюць ці выконвалі выключную ролю ў жыцці соцыума. Гісторыя беларускага народа засведчыла пяць сталічных гарадоў (Вільня, Кракаў, Варшава, Масква, Мінск), назвы якіх знайшлі адлюстраванне ў фразеалагізмах і прыказках, створаных у розныя эпохі: *Рабі пільня, то і тут табе будзе Вільня; Круці жорны пільна, будзе табе і Вільна; Як у Вільні, так і тут: сорак фунтаў – гэта пуд; У Вільні, як і здзесь, як пасееш, так і з’еш; Хоць да Кракава, усюды аднакава; Пайшла слава аж да Аршавы; Хоць у Маскву на выстаўку; Пра яго і ў Маскве ў лапаць звоняць; Масква слязам не верыць.*

Пра ўсведамленне важнасці сталічных гарадоў сведчыць тое, што толькі іх найменні выкарыстоўваюцца ў выразах наступнай структурна-семантычнай мадэлі: *не адразу Вільня будавалася, не за дзень Вільня станавілася, не адразу Кракаў пабудавалі, не разом Краков будован, Масква не зразу будавалася, не за год Масква пастаўлена.* Назвы гарадоў ніжэйшага рангу не пранікліі, вобразна кажучы, не былі «дапушчаны» ў межы гэтай мадэлі.

Другую групу складаюць фразеалагізмы, тапанімічны кампанент якіх рэалізуе прасторавую семантыку. Так, значэнне ‘населены пункт, які знаходзіцца вельмі далёка’, выражаюць тыя самыя макратапонімы – назвы сталічных гарадоў: *аж Вільно ўбачыць, аж Вільня відаць, Маскву відно, Маскву ўбачыць, Маскву можна ўбачыць, аж Варшаву відно* (пра непрыемна кіслую, горкую ці вострую страву); *за капейку вош (блыху) у Маскву пагоніць, за грош у Маскву збегае, за капейку вош да Мінска пагоніць* (пра скупога, сквапнага да грошай чалавека); *да Масквы ракам не пераставіш (не перастравіць, не пераступіць)* ‘вельмі многа каго-, чаго-н.’, *як да Масквы ракам* ‘далёка і доўга (ісці, ехаць і пад.)’; *паказаць Маскву* ‘падняць каго-н. (звычайна дзіця) уверх, узяўшы за галаву далонямі да вушэй’; (на нажы) *у Вільню можна заехаць* ‘тупы, ненавостраны (нож)’.

Прасторавае значэнне можа дэталізавацца і ў такой лагічнай фармулёўцы – «размяшчэнне населеных пунктаў у адносінах адзін да аднаго». У вобразнай структуры фразеалагізма фігуруюць тры геаграфічныя пункты: першы – зыходны, з якога трэба выйсці, выехаць (ён не называецца), другі – да якога трэба дайсці, даехаць, трэці – праз які ажыццяўляецца рух (ён знаходзіцца далёка ўбаку ад траекторыі паміж першым і трэцім пунктамі). Фразеалагізмы з такой вобразнай асновай выяўляюць іранічнае значэнне ‘(ісці, ехаць) кружным, неапраўдана далёкім шляхам’ і адрасуюцца таму, хто дабіраецца куды-н. не нацянькі, а іншай, намнога далейшай дарогай: *у Вігушкі праз Дзярвенішкі, праз Навагрудак у Беняв ічы, на Крычаў праз Бярдзічаў.*

Тыповай у вобразнай структуры фразеалагізмаў з’яўляецца семантыка тэрытарыяльнай блізкасці. Прасторавым арыенцірам выступае населены пункт, каля якога што-н. знаходзіцца. Такі вобразны элемент часцей сустракаецца ў фразеалагізмах, якія абазначаюць смерць, пахаванне чалавека: *вынесці пад Шаляпкі, вынесці за Трышын* – ‘пахаваць каго-н.’ Геаграфічным пунктам адліку можа быць сядзіба ці іншы аб’ект на ўскраіне вёскі, названыя па імені гаспадара: *вынесці за Бэкіша, вынесці за Бэлька, вынесці за Пуціса, панесці пад Харытона, пайсці да Чудзілоўскага, пайсці да Ярмачка, пайсці пад Мазалеўскага адрыну.* Ва ўсіх гэтых фразеалагізмах аб’ект, які знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці ад названай сядзібы, замоўчваецца, але адназначна падразумяваецца – гэта могілкі. Эўфемістычныя выразы выступаюць замяняльнікамі непрыемных лексічных адзінак, якія непасрэдна называюць смерць і пахаванне чалавека.

У трэцюю групу ўваходзяць фразеалагізмы з тапанімічным кампанентам, які сімвалізуе нейкую спецыфічную прымету, асаблівасць населенага пункта. Кожнае паселішча вылучаецца сваёй адметнасцю: прыродна-геаграфічным размяшчэннем, гістарычнымі падзеямі, вытворчымі заняткамі, промысламі, культурна-рэлігійнымі традыцыямі насельніцтва і інш. Уяўленне пра адметнасць можа замацавацца за тапонімам, і насельнікі пэўнага рэгіёну ўспрымаюць апошні як уласнае імя з канкрэтнай семантычнай даважкай. Падобныя тапанімічныя назвы актыўна выкарыстоўваюцца для ўтварэня фразеалагізмаў, захоўваючы дадаткова набытую семантыку. Так, высокай фразеаўтваральнай актыўнасцю характарызуюцца тапонімы са значэннем ‘населены пункт, у якім знаходзіцца псіхіятрычная бальніца’. На базе іх узніклі наступныя фразеалагізмы, зафіксаваныя на Гродзеншчыне: *з Баяраў, з Ёдзіч, з Жодзішак, з Монькаўцаў, ці з Монькаўцаў ці з Баяраў, з Навінак, ці дурны ці з Ёдзіч, з Бялавічаў уцёк, з Мэштавіч уцёк* – ‘дурны, неразумны’.

Тапанімічныя кампаненты ілюструюць і розныя іншыя адметнасці населеных пунктаў. У фразеалагізме *(стары) як Гродна* ‘вельмі (стары хто-н.), вельмі (старое што-н.)’ кампанент *Гродна* асацыіруецца з паняццем ‘старажытнасць’, бо ён з’яўляецца назвай сапраўды старажытнага горада, першае пісьмовае ўзгадванне пра Гродна датуецца 1128 годам.

Фразеалагізм *шляхціч ашмянскі* ‘ганарлівец, франт, выхваляка’ данёс да нашага часу звесткі з мінулага: г. Ашмяны ведалі па тым, што там жылі ганарлівыя шляхцюкі, якія, каб пахваліцца сваімі ўборамі, хадзілі з апушчанай калашынай на адной назе і з запраўленай у бот калашынай на другой назе.

За тапонімам можа быць замацавана інфармацыя пра гістарычныя падзеі, што адбываліся ў межах адпаведнага геаграфічнага аб’екта. Пра гэта, напрыклад, красамоўна сведчаць агульнапашыраныя асацыятыўныя сувязі *Палтава* – «паражэнне шведаў у вайне», *Ленінград* – «блакада», *Асвенцым* – «канцлагер», рака *Бяроза* – «паражэнне напалеонаўскай арміі», якія захоўваюцца ў складзе ўстойлівых выразаў і нават падтрымліваюцца апошнімі: *як швед пад Палтавай; як з блакаднага Ленінграду* ‘вельмі галодны’; *як з Асвенцыма* ‘вельмі худы, слабы, страшны з выгляду’; *Біўся француз у Маскве, а замярзаў на Бярозе; Наша Бяроза чужых і генералаў тапіць можа.*

У народных гаворках шмат фразеалагізмаў, у якіх тапанімічны кампанент маркіраваны інфармацыяй пра падзею мясцовага характару, напрыклад: *заехаць як Анэта ў Дарахі, загнаць сучку да Мінькоў, (нарабіў) як воўк у Маркунях, як тому ў Доцішках, як у Скоржык на вяселлі, як Адэля ў Кузьмах.* «Счытваць» такую інфармацыю могуць насельнікі рэгіёну, дзе бытуе фразеалагізм, бо толькі ім вядомы акалічнасці падзеі, на падставе якой узнік фразеалагізм.

У гістарычным часе сэнсавае напаўненне тапанімічнага кампанента можа зацямняцца. Напрыклад, носьбіты сучасных гаворак Гродзеншчыны значэнні фразеалагізма *як у Адэльску* ‘вельмі добры, адмысловы (парадак, лад)’ і ‘вельмі добра, адмыслова (зроблена, рабіць, працаваць, рабіцца)’ усведамляюць выразна, а вось чаму ў фразеалагізме фігуруе *Адэльск*, а не іншая назва, растлумачыць не могуць. Каб разабрацца ў гэтым, неабходна правесці спецыяльнае этымалагічнае даследаванне. Дазволім сабе кароткі гістрычны каментар да вытокаў фразеалагізма. Адэльск сёння – вёска ў Гродзенскім раёне (253 дамы і каля 700 жыхароў). Назва паходзіць ад назвы рэчкі Одла. Упершыню згадваецца ў 1490 годзе. Паселішча заснавана як вялікакняжацкі двор, а пазней – гэта

мястэчка на гандлёвым тракце Гродна – Крынкі – Нараў – Брэст. З цягам часу мястэчка развілося і стала ўзорным з сацыяльна-эканамічнага пункту гледжання горадам. У XIX ст. у Адэльску быў касцёл, 2 іудзейскія малітоўныя школы, 6 яўрэйскіх корчмаў. Даходы горада перавышалі расходы [1, с. 30]. Усе гэтыя акалічнасці прынеслі Адэльску добрую славу, што адлюстравалася і ў фразеалагізме *(парадак, лад)як у Адэльску.* У друку выказвалася і такая версія, што матэрыял для фразеалагізма дала «безлясістая і пагоркавая вакольная мясцовасць» [2], але яна малапераканальная. Магчыма, узнікненне фразеалагізма матывуецца зладжанай сістэмай правядзення кірмашоў. У 1546 г. каралева Бона дала Адэльску прывілей на кірмашы і прыватнае вызваленне ад падаткаў. З таго часу кірмашы ў Адэльску праводзіліся рэгулярна, напрыклад, у першай палове XIX ст. – аж 6 разоў на год. Кірмашовая рэчаіснасць пасля спарадзіла і супрацьлеглую семантыку ў фразеалагізме. М. Федароўскі у канцы XIX ст. запісаў варыянты *лад як у Адэльску на кірмашы, чыста як на ярмарку Адэльскім* са значэннем ‘беспарадак’ [3].

Чацвёртая група – фразеалагізмы і ўстойлівыя звароты, у якіх значэнне тапоніма заключаецца ў яго магчымасці выяўляць лінгвістычна-мастацкія функцыі. У такіх выпадках адпаведная тапоніму пазамоўная рэчаіснасць адыходзіць на задні план і як бы адбываецца выпрабаванне вартасці, здольнасці тапоніма да мастацкай гульні з іншымі словамі. У падобнай гульні тапонім заўсёды выглядае па-мастацку арыгінальным і заснаваны на ім твор вылучае значную эмацыянальна-экспрэсіўную энергію, напрыклад:

1. Фразеалагічна-тапанімічныя каламбуры: *у Крычаў паехаць* ‘раскрычацца’; *(крычыць) аж у Крычаве чуваць* ‘вельмі моцна’; *паехаць да Снова* ‘спаць’, *паехаць у Храпянёва* ‘спаць пахропваючы’; *у Сапуны пайсці* ‘спаць пасопваючы’; *на Карэлічы пайшлі* ‘брудныя, заношаныя, карэлыя (шкарпэткі, анучы)’.

2. Адказныя тапанімічныя формулы: *–Дзе? – У Новай Рудзе; – Куды? –Да Новай Руды.*

3. Тапанімічныя іранізмы: *Як паехаў да Міра, там кабыла папярла, як паехаў да Слоніма, улезла ў нос Саломіна; Астравец – свету канец; Бабы! Хто на Трабы?; У Брэсці будзем торбамі трэсці; У Нясвіжы людзі хіжы, а ў Лашы людзі нашы; Кепска каля Вітэбска, а ў Оршы яшчэ горшы; У Пінску і Слуцку ўсё не па-людску; Будзеш ведаць, пачом сыры ў Мазыры; У Мінску ўсё па-свінску;*

4. Тапанімічныя рыфмаванкі як рэакцыя на падзеі, што адбываліся ў вёсцы ці рэгіёне: *Авечка – з мястэчка, баран – з Маркішоў, авечка чакала – баран не прыйшоў; Табала ўкрала вала, Рыдзелі відзелі, сказалі Завадцы, што вол даўно ў с-цы; У Бабіно бэньдзя кіно.*

Прапанаваны тут матэрыял красамоўна сведчыць, што тапонімы здольныя назапашваць, убіраць у сябе разнастайную этнакультурную інфармацыю. Дзякуючы гэтаму, яны становяцца прывабнымі, прыцягальнымі фразеаўтваральнымі сродкамі. Трапіўшы ў фразеалагізмы, яны не страчваюць набытай семантыкі, а наадварот, актыўна выкарыстоўваюць яе для фарміравання фразеалагічнага значэння.

*Літаратура*

1. Памяць: гіст.-дакум. хроніка Гродзен. р-на / Беларус. энцыкл.; рэдкал.: У.П.Верхась [і інш.]. – Мінск: БелЭн, 1993. – 431 с.
2. Перспектива. – 2010. – № 61.

3. Federowski, M. Ludbiałoruski na Rusi Litewskiej / M. Federowski. – Warszawa, 1935. – T. 4. – 490 s.

Першая публікацыя ў зборніку: *Славянская фразеология в синхронии и диахронии: сб. науч. статей. Вып. 1/М-во образования РБ, Гомельский гос. ун-т им. Ф.Скорины/редкол.: В.И.Коваль (отв. ред.) [и др.]. – Гомель: ГГУ им. Ф.Скорины, 2011. – С. 97–100.*

## СІНАНІМІЧНАСЦЬ КАМПАРАТЫЎНЫХ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ У ГАВОРКАХ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Кампаратыўныя фразеалагізмы складаюць значную частку фразеалагічнага фонду гаворак Гродзеншчыны. Так, у нашым «Слоўніку дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны» [1], які змяшчае 2167 слоўнікавых артыкулаў, на долю кампаратыўных прыпадае 464 фразеалагізмы (21 %). Сярод іх у сінанімічныя адносіны ўступае трэцяя частка фразеалагізмаў (185), якія ўтвараюць 56 сінанімічных радоў.

Паводле колькаснага складу сінанімічныя рады складаюцца з двух, трох, чатырох, пяці і больш фразеалагізмаў.

Двума фразеалагізмамі запоўнены 23 сінанімічныя рады. Так, сінанімічны рад са значэннем ‘вельмі мала, шкадуючы (даць што-н.)’ утвараюць фразеалагізмы *як жыд перцу, як украўшы.* Яшчэ прыклады двухчленных радоў: *як снег сярод лета, як лёд на Пятра* – ‘зусім нечакана (з’яўляцца, прыходзіць)’; *як расолам умыты, як цёмная ноч* – ‘пануры, засмучаны, прыгнечаны’; *як пастырска пуга, як жыдоўская пуга* – ‘вельмі, празмерна (распусціцца)’; *як палец, як стой* – ‘вельмі (бедны)’; *як голы ў крапіве, як бык у студні* – ‘вельмі няёмка, скавана (адчуваць сябе)’; *як ружа-квята, як купінка* – ‘прыгожая, поўная, у росквіце (дзяўчына, жанчына)’; *як сабачка дворны, як свіння дворна* – ‘вельмі (гаваркі, балбатлівы хто-н.)’; *як вош на засланцы, як вуж у вілах* – ‘пастаянна, несупынна (круціцца)’; *як пошта, як сарока на хвасце* – ‘вельмі хутка (разносіць плёткі, чуткі, навіны)’; *як слон на бутэльках, як салявы мяшок* – ‘марудна, няспрытна, непаваротліва (ісці, рухацца, рабіць і пад.)’.

Па тры фразеалагізмы налічваюць 6 сінанімічных радоў: *як кол у плоце, як былінка ў полі, як у беднага сарочка* – ‘зусім (адзін)’; *як мыш, як пацук, як дзерць* – ‘вельмі мокры’; *як націнка, як з Асвенцыма, як казіная смерць* – ‘вельмі худы’; *як смала да кала, як смала да падэшвы, як смала да пастала* – ‘учэпіста, назойліва, неадступна (прыставаць да каго-н.)’; *як свінні парасон, як кату аброць (лапці), як свінні (да свінні) сядло (кульбачка, падсядзёлак, набэдрыкі)* – ‘ зусім не (падыходзіць што-н. каму-н.)’; *як пень маляваны, як пень у белы дзень, як слуп (слупак) пры дарозе* – ‘разгублена, збянтэжана (стаяць, сядзець)’.

10 сінанімічных радоў уключаюць ад чатырох да сямі фразеалагізмаў: *як Сора за мора, як сойка за мора, як сойка у вырай, як маладая да вянца* – ‘вельмі марудна (збірацца куды-н.)’; *як свіння ў плоце, як парася ў плоце, як чорт у пекле, як дурны ў малінах, як недарэзаны, як сучка ў плот ушчаміўшыся* – ‘вельмі моцна (крычаць, пішчаць)’; *як слуп зацвіце, як рак на Лысай гары засвішча, як рак на Дамінішкаўскай гары свісне, як рак за гарой свісне, як на слупку кветкі зацвітуць* – ‘невядома калі (ажаніцца)’; *як у жабрака ў торбе, як у сляпога ў торбе, як у Яся ў торбе, як на парва-*

*ным рынку, як у жыда ў торбе, як на жыдоўскім возе, як у ройсця, як на вырванскай вуліцы* – ‘вялікі непарадак’.

Самы шматлікі сінанімічны рад (11 адзінак) утвараюць фразеалагізмы са значэннем ‘зусім не (патрэбны)’: *як лысаму банцік, як лысаму расчоска (грэбень), як мёртваму клізма, як пяты вугал у хаце, як пазатакрошні снег, як парваная кніга, як сабаку другі хвост, як сабацці палка, як папу гармонік, як старому каню маці, як хваробе кашаль.*

Паводле структуры фразеалагічныя сінонімы падзяляюцца на тры групы: аднаструктурныя, падобнаструктурныя і рознаструктурныя [2, с. 84–85].

Аднаструктурныя сінанімічныя фразеалагізмы пабудаваны па адной і той жа мадэлі: *як з вяроўкі, як з цэбра, як з цэўкі, як з дубца* – ‘вельмі моцна, суцэльным патокам (ліць) ( пра дождж)’; *як сабачка дворны, як свіння дворна* – ‘вельмі (гаваркі, балбатлівы хто-н.)’; *як смала да кала, як смала да пастала, як смала да падэшвы* – ‘учэпіста, назойліва, неадступна (прыставаць, чапляцца да каго-н.)’ (12 сінанімічных радоў).

У падобнаструктурных фразеалагічных сінонімах «граматычна галоўны кампанент выражаны аднолькавай часцінай мовы (напрыклад, дзеясловам), а іншыя кампаненты звязаны з галоўным па-рознаму, не па аднолькавай схеме» [2, с. 84–85]: *як слон па бутэльках, як салявы мяшок, як пень <маляваны>, як пень у белы дзень, як стоўб (слупак) пры дарозе; як снег сярод лета, як лёд на (каля) Пятра* (15 сінанімічных радоў).

Рознаструктурныя фразеалагізмы ўтвараюць такія сінанімічныя рады, у якіх фразеалагічныя адзінкі пабудаваны па розных, непадобных мадэлях: *як украўшы, як жыд перцу; як сучка дзёгаць піла, як у рэшаце вады; як торбу з плеч скінуць, як сто пудоў звалілася; як дроў накалоць, як з пастала; як выкапаны, як з вока выпаў; як звязаў, як сярпом адрэзаў; як рублём падарыў, як варона на косць* (20 сінанімічных радоў).

Сустракаюцца сінанімічныя рады змешанага тыпу. Напрыклад, значэнне ‘вельмі моцна (крычаць, пішчаць)’ маюць такія фразеалагізмы: *як свіння ў плоце, як парася ў плоце, як чорт у пекле, як дурны ў малінах* – аднаструктурныя; *як сучка ў плот ушчаміўшыся* – падобнаструктурны; *як недарэзаны* – рознаструктурны.

Фразеалагічныя сінонімы могуць быць абсалютнымі, стылістычнымі, семантычнымі і семантычна-стылістычнымі. Абсалютныя (адэкватныя, поўныя, раўназначныя) сінонімы «поўнасцю супадаюць у сваім значэнні і сферы ўжывання» [3, с. 82]. Як сведчаць матэрыялы «Слоўніка дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны», абсалютныя сінонімы пераважаюць над іншымі тыпамі ў сферы кампаратыўных фразеалагізмаў. 22 сінанімічныя рады складаюцца з фразеалагізмаў, якія маюць агульнае значэнне, аднолькавае лексічнае акружэнне, не адрозніваюцца стылістычнай афарбоўкай, з’яўляюцца ўзаемазамяняльнымі ў любых кантэкстах. Параўн. ужыванне фразеалагічных сінонімаў *як на Вялікдзень, як на Куццю* – ‘вельмі многа, сытна, уволю (наесціся, пад’есці)’, *як з жабы сала, як з быка малака* – ‘зусім няма (карысці)’, *як чорт з бабінцу, як чорт з каноплях* – ‘вельмі хутка (уцякаць)’: *У гасьцях на стале ўсяво было, пад’еў як на Вялікдзень.* Старая Руда Гродз. *Напякла бліноў, то ўжо наеліся як на Куцю.* Буцілы Лід. *А дзе яго ні пашлі, усюды зь яго толку як з жабы сала.* Ранявічы Свісл. *Нашто ён табе? Пользы ад яго як з быка малака.* Старына Маст. *І што за напасьць такая? Хто ні зойдзя да іх у хату, ту заўша ўцякая ад іх як чорт з бабінцу.* Асіпаўцы Воран. *Во даў драпака як чорт з каноплях.* Асіпаўцы Воран.

Неадэкватныя фразеалагічныя сінонімы падзяляюцца на тры групы: семантычныя, стылістычныя і семантычна-стылістычныя. Сярод неадэкватных фразеалагічных сінонімаў у дыялектнай мове можна вылучыць толькі семантычныя сінонімы, бо функцыянальна-стылявая дыферэнцыяцыя ўласціва адзінкам літаратурнай мовы.

Семантычныя сінонімы адрозніваюцца паміж сабой семантычнымі адценнямі і ступенню праяўлення пэўнай прыметы. Напрыклад, сінанімічны рад з агульным значэннем ‘прыгожы’ складаецца з трох выразаў *як ружа-квята, як купінка, як перамыты.* Кожны з іх мае семантычныя адценні, адрозненні па ступені праяўлення пэўнай прыметы. Першы фразеалагізм вызначаецца найменшай інтэнсіўнасцю характарыстыкі знешняга вобліка дзяўчыны, жанчыны, другі абазначае поўную ў росквіце дзяўчыну, жанчыну, а трэці – здаровага, у росквіце чалавека: *Тая дзеўка як ружа-квята, на ўсю вёску.* Лінгі Воран. *Ціпер Ядзю, як замуш вышла, ні пазнаць, як купінка, а была ш такая худая.* Ашмянцы Шчуч. *Прыехаў яе зяць. Хлопяц во!..Як перамыты: поўны, круглы, сьвежы!* Гнесічы Навагр.

Фразеалагізмы адрозніваюцца адзін ад аднаго сваёй індывідуальнай, непаўторнай унутранай формай. «Чым больш своеасабліва арганізавана ўнутраная форма фразеалагізма, тым больш верагодна з’яўленне семантычных адценняў у сінанімічным радзе» [4, с. 11]. Уплыў унутранай формы на ўтварэнне семантычных адценняў можна паказаць на такіх прыкладах: *як бык у студні* ‘няёмка, скавана (ачуваць сябе)’ і *як голы ў крапіве* ‘няёмка, у няёмкай сітуацыі’; *як са свянцоным яйкам* ‘шмат удзяляць увагі і беражліва (насіцца з кім-, чым-н.)’ і *як чорт з лялькаю* ‘незаслужана шмат удзяляючы ўвагі (насіцца з кім-, чым-н.)’.

У навуковай літаратуры пашырана думка, што спалучальнасць фразеалагізмаў аднаго сінанімічнага рада аднолькавая [5, с. 53]. Дыялектныя матэрыялы не пацвярджаюць гэтага катэгарычнага сцвярджэння. Так, фразеалагізмы сінанімічнага рада ‘вельмі многа’ адрозніваюцца спалучальнасцю. У дачыненні да людзей, канкрэтных і абстрактных прадметаў выкарыстоўваюцца фразеалагізмы *як макам пасыпана (насыпана)* чаго, *як у сабакі блох.* Фразеалагізм *як у чорта скалак* выкарыстоўваецца толькі ў дачыненні да грошай, *як у Гітлера* – у дачыненні да планаў, *як сам велькі* – у дачыненні да работы, справы. Прыклады: *У хвайне – лісічыкаў! Як макам насыпано, праз дзён тры падрастуць, можно ўжэ будзя зьбіраць.* Бабіна Гродз. *Нідаўна апалола грады, а прас пару дзён на іх зноў зеля як макам насыпана.* Дубна Маст. *Што зь яе – галота, а гонару як у сабакі блох.* Лаздуны Іўеў. *Машын у міне як у сабакі блох, любых марак.* Лунна Маст. *Яны такія багатыя, грошай як у чорта скалак.* Подзі Воран. *У Зоські планаў як у Гітляра, ёй кап пры начальстві рабіць, мо й добра было п.* Асіпаўцы Воран. *Работы ў міне сёдня як сам велькі, ні знаю, за што хватацца*. Бабіна Гродз.

Фразеалагізмам наступнага сінанімічнага рада ‘пазбавіцца якіх-н. клопатаў, цяжкасцяў, непрыемнасцяў’ уласціва неаднолькавая кіравальная сувязь: *як торбу з плеч скінуць, як сто пудоў звалілася* з каго (другі патрабуе толькі формы роднага склону). Прыклады: *Скончыла гэту работу, то як торбу с плеч скінула, весялей на сьвет стала глядзець.* Новы Двор Свісл. *Ну, дзякуй Богу, й я пасадзіла ўжо дзісь бульбу на полі, ды як сто пудоў звалілася зь мяне.* Навасады Ашм.

А фразеалагізмы *як у сляпога ў торбе* дзе, *як у ройсця* дзе, *як на жыдавым возе* на чым, *як на вырванскай (варванскай, варварскай, урванскаяй, абарванскай, разарванай, рванай) вуліцы*<у каго> дзе патрабуюць то сувязі кіравання, то прымыкання, то

адсутнічае абавязковая сувязь: *У цібе на стале як у сьляпого ў торбі, што дзе хоча, там і валяецца.* Мацвееўцы Ваўк. *У шафі як у сьляпого ў торбі, нігды нічого ні найдзяш.* Зэльва Зэльв. *У Гэлі ў хаця як у ройсьця: і саганы на падлозя валяюца, лошкі параскіданыя стаяць, і нават курэй яшчэ дзяржыць пат печкай.* Мардасы Ашм. *Спрач за стала, а то на ём як на жыдавым возі, аж брытка.* Аляксандравічы Дзятл. *Як зьедуцца ўсе ўнукі, так у хаця як на вырванскай уліцы, нідзе ні прыляжыш, ні атпачыніш.* Заборцы Астр. *Нічога ў хаці ні паложыш – усё паччысьцяць, як на ўрванскай вуліцы*. Гуды Лід. *Што там у іх робіцца! Як на разарванай вуліцы, ног ні пацяняш.* Падлабенне Гродз.

Вынікі даследавання сведчаць, што доля кампаратыўных фразеалагізмаў у фразеалагічнай сістэме гаворак Гродзеншчыны даволі значная, яны складаюць 21 %. Трэцяя частка кампаратыўных фразеалагізмаў ахоплена сінанімічнымі адносінамі. Прыкладна палова сінанімічных радоў простыя – складаюцца толькі з двух фразеалагізмаў. Паводле структуры фразеалагічныя сінонімы падзяляюцца на аднаструктурныя, падобнаструктурныя і рознаструктурныя. Сярод розных тыпаў сінонімаў у гаворках пераважаюць абсалютныя фразеалагічныя сінонімы.

*Літаратура*

1. Даніловіч, М.А. Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч. – Гродна : ГрДУ, 2000. – 267 с.
2. Лепешаў, І.Я. Фразеалогія сучаснай беларускай мовы : вучэб. дапам. для філал. фак. ВНУ / І.Я. Лепешаў. – Мінск : Выш шк., 1998. – 271 с.
3. Сидоренко, М.И. Парадигматические отношения фразеологических единиц в современном русском языке : учеб. пособие к спецкурсу / М.И. Сидоренко. – Л., 1982. – 108 с.
4. Жуков, В.П. Словарь фразеологических синонимов русского языка : около 730 синоним. рядов / В.П. Жуков, М.И. Сидоренко, В.Т. Шкляров; под ред. В.П. Жукова. – М. : Рус. яз., 1987. – 448 с.
5. Чепасова, А.М. Семантические и грамматические свойства фразеологизмов / А.М. Чепасова. – Челябинск : ЧГПИ, 1983. – 93 с.

Першая публікацыя ў зборніку: *Беларуская мова ў супольнасці моў : зб. навук. арт. (да 85-годдзя прафесара П.У. Сцяцко); ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал. А.І. Кавальчук (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2015. – С. 104–109.*

## РАЗВІЦЦЁ ЛЕКСІЧНАЙ ВАРЫЯНТНАСЦІ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ У БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЕ

Разнавіднасці фразеалагізма, якія адрозніваюцца асобнымі лексічнымі кампанентамі, але захоўваюць адзінства ўнутранай формы і семантычную тоеснасць, называюцца яго лексічнымі варыянтамі: *выскачыць (вылецець) з галавы, даць па шыі (па карку).* Лексічная варыянтнасць фразеалагізмаў – актыўная з'ява як у літаратурнай, так і ў дыялектнай мове. Аднак варыянтнасць фразеалогіі гаворак багацейшая за варыянтнасць літаратурнай фразеалогіі. Напрыклад, зафіксаваны ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» І.Я. Лепешава фразеалагізм *<і, усе> крошкі (крошачкі,кропелькі) пабраў (падабраў)* у дыялектнай мове ўжываецца яшчэ і з такімі назоўнікавымі кампанентамі: *бры́зачкі, ка́пачкі, ка́ліўкі, ко́стачкі, крышкі́-парашкі, ме́рачкі, парашы́нкі, ры́хтачкі, тру́сачкі.* Гэта тлумачыцца наяўнасцю «спецыфічнай моўнай нормы ў дыялекце: больш адкрытай, больш свабоднай, больш «жывой» у параўнанні з кадыфікаванай літаратурнай нормай» [1, с. 20].

Разгледзім асноўныя шляхі развіцця лексічнай варыянтнасці у межах фразеалогіі беларускай дыялектнай мовы як адзінай сістэмы. Матэрыялам паслужылі фразеалагізмы, выпісаныя са слоўнікаў дыялектнай мовы, а таксама сабраныя аўтарам з жывых гаворак пераважна на Гродзеншчыне.

1. Утварэнне тыпалагічна падобных варыянтаў, заснаваных на фразеалагічным паралелізме. Сутнасць гэтай з'явы ў тым, што фразеалагічныя паралелі не маюць агульнай генетычнай крыніцы, а ўзніклі самастойна, незалежна адна ад адной. «Тыя самыя рэаліі, аднолькавыя гістарычныя, прыродныя, культурныя ўмовы жыцця, агульныя законы мыслення… натуральна прыводзяць да ўтварэння аднатыповых або вельмі падобных зваротаў. Менавіта таму ў гаворках (як суседніх, так і аддаленых) узнікаюць фразеалагічныя варыянты, што не супадаюць толькі словамі-кампанентамі…» [2, с. 4–5]. Думаецца, на моўным паралелізме заснаваны наступныя разнавіднасці фразеалагізмаў: *рукі апусціліся – рукі апалі; на адзін зуб – на адзін гам – на адзін глык; абламаць рогі – збіць рогі – адкруціць рогі – паспілоўваць рогі – уцерці рогі.* Як адзначае Э.М. Саладуха, «агульная экстралінгвістычная аснова незалежнага развіцця фразеалагічнага паралелізму складаецца з фактараў, якія ахопліваюць практычна ўсе вобласці матэрыяльнага і духоўнага жыцця людзей» [3, с. 116].

2. Развіццё двух ці некалькіх разнавіднасцяў фразеалагізма на аснове агульнага інварыянта. У гэтым выпадку адбываецца замена аднаго лексічнага кампанента іншым. Замена можа быць ненаўмысная і наўмысная.

Ненаўмысная замена выклікана сістэмнымі, у прыватнасці сінанімічнымі, магчымасцямі лексікі. У пэўнай ступені можна пагадзіцца з наступным сцверджаннем, што «пры фразеалагізацыі словы-кампаненты, якія ствараюць вобразную аснову, могуць выкарыстоўваць увесь свой сінанімічны рад, замацаваны за гэтымі словамі-кампанентамі на лексічным узроўні» [4, с. 172]. Параўн.: *на скорую (хуткую) руку, закранаць (зачапляць) за жывое, надзяваць (нацягваць) хамут, як мокрае гарыць (паліцца),*

*вылузвацца (лезці, вылуплівацца, прэгчыся) са скуры, хоць на воўка ўзлезь (уссядзь, узбіся, насунься).*

Наўмысная замена скіравана на ажыўленне вобразнай асновы, узмацненне эмацыянальна-экспрэсіўнай (звычайна адмоўнай) афарбоўкі фразеалагізма. Пры падобнай замене ў склад фразеалагізма ўводзіцца кампанент, які «больш дакладна, з пункту гледжання дыялектаносьбіта, перадае сэнс словазлучэння» [5, с. 167], які на ўзроўні слова з'яўляецца экспрэсіўна насычаным: *даваць (жарыць) у скуру*, *даць (уваліць*, *увярнуць)у косці*, *што убіў(удоўб)то ўехаў,як жаба гразі (твані).*

Нярэдка лексічна-стылістычная трансфармацыя фразеалагізма скіравана на змяншэнне адмоўнай экспрэсіі. Такім чынам утвараюцца эўфемістычныя варыянты, у якіх вульгарныя словы непрыстойных фразеалагізмаў замяняюцца эстэтычна прымальнымі з пункту гледжання моўнай нормы. Вось некаторыя прыклады (вульгарны кампанент па вядомых прычынах тут апушчаны, месца яго пазначана шматкроп'ем): *да ... (вала)* 'вельмі многа', *да ... (пятніцы)* 'абсалютна нічога не значыць для каго-н., не заслугоўвае ніякай увагі', *да ... (халеры)* 'вельмі многа', *заракалася свіння ... (жалудоў, гарбузоў, апельсінаў) не есці* 'хто-н. не выконвае сваіх абяцанняў', *ідзі ў ... (пень)* 'выказванне злосці на каго-н., незадаволенасці кім-н.', *свяціць голым ... (жыватом)* 'вельмі бедна апранацца, насіць парваную вопратку', *уваліцца ў ... (у бруд)* 'трапіць у непрыемнае становішча', *несці сябе як ... (гной) на вілах* 'трымацца высакамерна, ганарліва'.

3. Развіццё лекічных варыянтаў пад уздзеяннем дыялектнай лексічнай нормы, пры якой пэўныя з'явы абазначаюцца рэгіянальнымі словамі. Такія словы на тэрыторыі іх бытавання трапляюць і ў склад фразеалагізмаў. Узнікаюць рэгіянальныя варыянты ў адносінах да варыянтаў з агульнанароднымі словамі. Ізаглоса фразеалагізма з лексічным дыялектызмам звычайна супадае з ізаглосай самога дыялектызма. Напрыклад, *бусел* у розных беларускіх гаворках называецца па-рознаму: у паўночна-заходніх – *бацян*, у віцебска-магілёўскіх – *буцян*, у брэсцка-пінскіх – *бусько*, у іншых – *бусел*. Гэтыя адрозненні знайшлі адбітак і ў фразеалагізме *бусел рэпу пасее (пасеяў, насеяў)* 'у каго-н. пасівераныя, з цыпкамі ногі', 'у каго-н. вельмі брудныя (звычайна ногі)', які ў кожнай з названых груп гаворак выкарыстоўваецца пераважна ў выглядзе свайго рэгіянальнага варыянта: *бусел рэпу пасеяў (пасее),бацян рэпу пасеяў,буцян рэпу пасеяў, бусько рэпу пасеяў, бусько рэпы насеяў, бусько рэпу посее*. Яшэ прыклады варыянтаў такога тыпу: *вачэй не паказваць (не стыкаць), жвачку (жуйку) жаваць, поддаць жару (зыры),як жаба гразі (калу, мулу).*

Пры суіснаванні ў канкрэтнай гаворцы дыялектнага і агульнанароднага (літаратурнага) фразеалагічных варыянтаў актыўней, часцей можа выкарыстоўвацца першы. Аднак пад уплывам літаратурнай мовыназіраецца тэндэцыя да пашырэння літаратурных варыянтаў, паступовага адсоўвання імі дыялектных утварэнняў на другі план.

4. Павелічэнне колькасці лексічных варыянтаў за кошт выкарыстання іншамоўных слоў. Такія словы з'яўляюцца эквівалентамі беларускіх ці маюць семантычныя разыходжанні з імі. Сярод іншамоўных слоў-кампанентаў у структуры фразеалагізмаў шмат паланізмаў, асабліва ў гаворках Гродзеншчыны і Брэстчыны: *як леташні (лонскі) снег, сляпіцай (бонкай) у вочы лезці, купляць ката ў мяшку (у ворку), сэрца разрываецца (пэнкае), вачэй не самкнуць (не змружыць), даць прыкурыць (пшыпаліць).* Меншую ролю ў развіцці фразеалагічнай варыянтнасці адыгрываюць балтызмы, германізмы, украінізмы: *скура гарыць (гіжыць), даць жару (фэёру), ні богу свечка ні чорту качарга (кацуба).* Значную групу складаюць варыянты з рускамоўным словам. Інтэнсіўнае

развіццё іх адбывалася ў XX ст., адбываецца і ў наш час. Звязана гэта з міжмоўнымі адносінамі, пры якіх руская мова запанавала ў якасці адной з дзяржаўных і пранікла ва ўсе сферы грамадскага жыцця. Пранікненне рускамоўных элементаў у беларускую дыялектную фразеалогію адбываецца двума шляхамі: а) непасэдным фразеалагічным запазычваннем з рускай мовы; б) уплывам лексічнай сістэмы рускай мовы на кампанентную структуру фразеалагізмаў: *абы (ліж бы) з рук, рукі свярбяць (чэшуцца), шукай (ішчы) ветру ў полі, баяць байкі (басні), набіваць кішэнь (карман), псаваць (порціць) нервы, хапаць (хватаць) за горла, лічыць (шчытаць) варон, трымаць (дзяржаць) сябе ў руках.*

5. Дыяхранічныя працэсы, звязаныя з архаізацыяй лексічных сродкаў і заменай іх іншымі адзінкамі. У XIX ст., паводле І.І. Насовіча, у беларускай мове быў вядомы фразеалагізм *глаголы чытаць* 'іржаць', 'быць без корму (пра коней)', у якім фразеаўтваральнае слова *глаголы* першапачаткова мела значэнне 'першая гадзіна на ютрані'. У XX ст. царкоўнае слова *глаголы* стала неактуальным і перайшло ў разрад устарэлых. Відаць, па гэтай прычыне яно замянілася ў фразеалагізме назоўнікам *газета: газету чытаць,чытаць газеты* – 'галадаць (пра каня, карову)'.

Дыялекты развіваюцца нераўнамерна. Тое, што у адных гаворках устарэла, у другіх знаходзіцца ў актыўным ужытку. Нават у адной і той жа гаворцы доўгі час могуць суіснаваць дзве розныя па актыўнасці ўжывання лексемы і адпаведна два варыянты фразеалагізмаў з гэтымі лексемамі: *брацца за капікі (загрудкі), глузды (мазгі) адсохлі*, *на почапках (на кукішках)*, *ломанага шэлега (граша)* не варты, *кадук (чорт) яго ведае, паветра (хвароба) яго ведае* .

6. Кантамінацыя – зліццё асобных элементаў двух фармальна падобных фразеалагізмаў аднолькавай ці блізкай семантыкі і ў выніку гэтага ўтварэнне новага лексічнага варыянта. Напрыклад, узаемадзеянне двух семантычна тоесных фразеалагізмаў *ад гаршка паўвяршка* і *ад зямлі не адрос* 'вельмі нізкага росту, малы' прывяло да гібрыднага ўтварэння *ад гаршка не адрос*, варыянтнага ў адносінах да фразеалагізма *ад зямлі не адрос*. Параўн. таксама: *дацца ў знакі + уесціся ў косці = дацца ў косці – уесціся (дацца) у косці; звесці з тропу + збіць з панталыку = звесці з панталыку – збіць (звесці) з панталыку; намыліць шыю + накруціць хвост = намыліць хвост – намыліць шыю (хвост).*

7. Семантычнае збліжэнне фразеалагізмаў, якія адрозніваліся значэннем і паходжаннем. Напрыклад, фразеалагізм *адкінуць капыты* першавапачткова ўжываўся ў дачыненні да жывёл са значэннем 'здохнуць'. У дачыненні да людзей са значэннем 'памерці' ўжываўся іншы фразеалагізм – *адкінуць ногі.* Сёння гэтыя фразеалагізмы падаюцца ў слоўніках як варыянты антрапацэнтрычнай накіраванасці – *адкінуць ногі (капыты)* 'памерці'.

Адзначаныя шляхі і спосабы развіцця варыянтнасці сведчаць пра тое, што колькасць лексічных варыянтаў фразеалагізмаў у беларускай дыялектнай мове няспынна павялічваецца.

*Літаратура*

1. Баланчик, Н.А. О вариантности диалектных устойчивых наименований (на материале старожильческих говоров Кузбасса) / Н.А. Баланчик // Ядерно-периферийные отношения в области лексики и фразеологии. – Новгород, 1991. – Ч. 1. – С. 19–21.

2. Васюковіч, Л. Міждыялектная варыянтнасць ФА / Л. Васюковіч // Пытанні лексікалогіі, фразеалогіі, стылістыкі. – Мінск, 1985. – С. 3–9.

3. Солодухо, Э.М. Вопросы сопоставительного изучения заимствованной фразеологии / Э.М. Солодухо. – Казань, 1977. – 160 с.
4. Шевченко, Н.М. Некоторые аспекты фразеологического варьирования / Н.М. Шевченко. Ядерно-периферийные отношения в области лексики и фразеологии. – Новгород, 1991. – Ч. 2. – С. 170–173.
5. Ботина, Л.Г. Варианты в диалектной фразеологии / Л.Г. Ботина // Вопросы фразеологии. – Самарканд, 1979. – Вып. 14. – С. 165–172.

Першая публікацыя ў зборніку: *Каб жыло наша слова : зб. навук. арт. да 90-годдзя з дня нараджэння Фёдара Янкоўскага; рэдкал.: М.І. Новік [і інш.]; пад агул. рэд М.І. Новік. – Брэст : Альтернатива, 2009. – С. 38–41.*

# РЭАЛІЗАЦЫЯ ПОЛЬСКАМОЎНАГА ЭЛЕМЕНТА Ў ФРАЗЕАЛОГІІ ГАВОРАК ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Гаворкі Гродзеншчыны з даўніх часоў мелі сувязь з іншымі мовамі. Гэта не магло не адбіцца на іх фразеалагічнай сістэме. Асобныя фразеалагізмы ўвабралі ў сябе іншамоўныя элементы, якія маглі з'явіцца непасрэдна праз фразеалагічнае запазычванне ці апасродкавана, пад уздзеяннем лексікі іншай мовы.

Найбольш прыкметны ўплыў на дыялектную фразеалогію аказалі тыя мовы, з якімі беларускія гаворкі кантактавалі непасрэдна на працягу значнага перыяду: балтыйскія, польская, руская, цюркскія, ідыш. Характар гэтага ўздзеяння быў неаднолькавы, залежаў ад ступені роднасці, сферы выкарыстання, сацыяльнай функцыі, працягласці функцыянавання іншых моў у беларускім асяроддзі.

У выніку міжмоўных кантактаў пэўная колькасць фразеалагізмаў Гродзеншчыны (па нашых падліках, прыкладна 3 %) атрымала польскамоўныя рысы.

Фактычны матэрыял, сабраны намі з дыялектных слоўнікаў і непасрэдна з гаворак, сведчыць, што фразеалагізмаў, у якіх усе структурныя часткі выступаюць паланізмамі, адносна няшмат. Гэта, як правіла, фразеалагічныя запазычанні з польскай мовы, кампаненты якіх у той ці іншай ступені захоўваюць рысы, уласцівыя этымону, значэнне якога таксама запазычана: *голы як свенты турэцкі* 'вельмі бедны, не мае грошай' – *goly jak święty tyrecki;закрапіць рабака* 'выпіць спіртнога' – *zakropić robaka; з відзэня* 'знешне, звонку' – *z widzenia; згінь ты пшападні* 'выказванне незадавальнення' – *zgiń ty phzepadnij, ісці удры на удры*'знаходзіцца ў рэзка варожых адносінах' – *iść udry na udry; на падарэндзі* 'на відным месцы, пад рукой, напагатове' – *na podorędziu.*

У структуру фразеалагізма ўваходзіць, як правіла, толькі адзін лексічны паланізм. Астатнія кампаненты з'яўляюцца або ўласнабеларускімі, або агульнымі для беларускай і польскай моў. Тлумачыцца гэта тым, што фразеалагічная сістэма беларускай мовы, як і ўсякай іншай мовы, надзелена пэўным «імунітэтам» супраць празмернага пранікнення ў свае межы іншамоўных лексічных адзінак. Яна дапускае ў сваё «асяроддзе» чужародны матэрыял абмежавана, у такой ступені, калі не адбываецца зацямненне ці выключэнне традыцыйных, устойлівых лексіка-граматычных норм, напрыклад: *важнае расы свіння – rasa* 'парода', *вачэй не змружыць – zamrużyć* 'заплюшчыць', *да крэсу, да самага крэсу (да самых крэсаў) – kres* 'канец, мяжа', *з дваццаць пятага року – rok*'год', *з пэнду – pęd* 'імклівы, хуткі рух, бег, палёт', *ні богу свечка ні чорту ожах – ożóg* 'галавешка', 'качарга', *пеража гнацца леваю рукою – przeżegnać się* 'перахрысціцца', *сытага польца*

*мазаць – poleć* ‘вялікі кавалак, скіба’, *тыле таго – tyle* ‘столькі’, *яглы з макам – jagły* ‘прасяная каша’, *як аб тахрошні снег – takroczny* ‘мінулагодні’, (трыбух) *як валіза – waliza* ‘чамадан’.

Разгледзім тыпы фразеалагізмаў, якія спалучаюць у сваёй структуры лексічныя элементы дзвюх моў: беларускай і польскай.

1. Няпоўныя фразеалагічныя калькі з польскай мовы. Калькаванне – самы распаўсюджаны спосаб асваення чужых фразеалагізмаў. Кампаненты іншамоўнага фразеалагізма перакладаюцца беларускімі сэнсавымі адпаведнікамі. «Іншамоўнасць такіх скалькаваных выразаў зусім не адчуваецца. Многія з іх усведамляюцца як жывыя метафарычныя ўтварэнні з яркім вобразным стрыжнем, сфарміраваным на аснове слоў канкрэтнага значэння… Перафарбоўваючыся пад нацыянальную ідыяматыку, яны арганічна ўваходзяць у маўленне, уліваюцца ў агульную плынь нацыянальнай мовы» [1, с. 37–38]. Напрыклад: *на святыя ніколі <na święty nikdy, што то я <co to ja, даць прыпаліць < dać przypalić.* Аднак фразеалагічнае калькаванне бывае няпоўным. Няпоўныя фразеалагічныя калькі (паўкалькі) – гэта фразеалагічныя запазычанні, якія перакладзены на беларускую мову часткова. Яны складаюцца і з беларускіх, і з польскіх лексічных кампанентаў. Гэта не поўнасцю прыстасаваныя да мясцовай гаворкі фразеалагізмы, якія не страчваюць цалкам каларыту іншамоўнасці: *адным пэндам*‘ вельмі хутка, умомант’, *тым пэндам* ‘адразу ж, хутка, у той самы час’ – *pęd* ‘хуткасць’; *адным цёнгам* ‘бесперапынна-надакучліва і доўга (гаварыць, крычаць, енчыць і пад.)’, ‘вельмі хутка, у адзін момант’ – *ciąg* ‘ход, цячэнне (падзей, спраў)’; *без дай рацы* ‘без прычыны’ – *racja* ‘падстава, сэнс, аснова’; *гарончкі бяруць* ‘хто-н. праяўляе нездаровы інтарэс да дзяўчыны, жанчыны’*, гарончка яго бяры* ‘няхай будзе так, няма чаго непакоіцца, турбавацца’ – *gorączka* ‘гарачка, ліхаманка’; *гвяздаў з неба не збірае* ‘мае сярэднія здольнасці, нічым асаблівым не вылучаецца’, *пад шчасліваю гвяздай урадзіўся* ‘шчаслівы, удачлівы, мае поспех’– *gwiazda* ‘зорка’; *па дзісь дзень* ‘да гэтага часу’ – *dziś* ‘сёння’; *пляга яго бяры* ‘няхай будзе так: выказванне згоды, уступкі’ – *plaga* ‘бяда, няшчасце’; *птасе малако* ‘што-н. незвычайнае, неверагоднае’ – *ptasie* ‘птушынае’; *чысты следзь вымачаны* ‘змучаны’ – *śliedź* ‘селядзец’; *сцента шыя* ‘бяда, гора, шмат клопату’ – *ścięty* ‘зрэзаны’; *як аман у пацерах* ‘пэўна, абавязкова’ – *amen* ‘амін’.

2. Фразеалагізмы, якія ўзнікалі на беларуска-польскім памежжы, на глебе беларуска-польскага двухмоўя. Гэта так званыя крэсовыя фразеалагізмы, для ўтварэння якіх выкарыстаны і беларускі, і польскі лексічны матэрыял: *ад чшыкрульскай буры* ‘з мінулых часоў’, *ні да зімнай вады* ‘ні да чога не прыдатны’, *ні пес ні выжал хоць с хаты выжань* ‘кепскі чалавек’, *кралеўна плача* ‘падае дождж пры святле сонца’, *як бонк конскай крыві* ‘залішне, празмерна (напіцца)’, *як з ксёнжкі бярэ* ‘вельмі добра, гладка (гаворыць)’, *на зялёныя нігды* ‘невядома калі, ніколі’, *як пан пшэнны* ‘вельмі добра, у поўным дастатку, раскошна (жыць)’, *як чорт на пудэлку* ‘вельмі актыўна (рухацца, круціцца)’, *як шавец на божа цяла* ‘залішне, празмерна (напіцца)’.

3. Фразеалагізмы, ахопленыя міжмоўнай лексічнай варыянтнасцю. Яны ўяўляюць сабой, як правіла, дзве разнавіднасці, у адной з якіх усе словы беларускія, а другая складаецца і з беларускіх, і з польскіх слоў-кампанентаў: *адным цягам (адным цёнгам), Божа сцеражы (стрэж Божа), валасы дыбам стаюць (влосы дыбам стаюць), з-пад ногця гразі не дастаць (з-пад пазура гразі не дастаць), крылы апусціўшы (скрыдла*

*апусціўшы), ляпаць доўгім языком (ляпаць длугім языком), нешта вялікае ў лесе здохла (нешто велька ў лесі здохло), на парозе (на прогу), псаваць паветра (псаваць паветша), пыльным мяшком стукнуты (пыльным воркам стукнуты) як курыца лапай (як курыца пазурамі), як мыла з'еўшы (як мыдла з'еўшы).* Варыянты з польскамоўным элементам маглі ўзнікнуць ў гаворках або калькаваннем фразеалагізмаў з польскай мовы, або пад уплывам лексічна-фанетычнай сістэмы польскай мовы, або пад уплывам лексічнай сістэмы ўласных гаворак, у якіх польскія словы набылі адзнакі запазычанняў.

4. Міжмоўныя таўталагічныя ўтварэнні. Яны ўяўляюць сабой фразеалагічныя канструкцыі, у якіх суіснуюць беларускі і іншамоўны кампаненты, што на лексічным узроўні выступаюць семантычнымі эквівалентамі. Так, у выразах-кленічах пачатковы злучнік *каб* дублюецца польскім адпаведнікам *жэбы (żeby)*: *Кап ты ні прыждаў жэбы ты!; Каб вас халера пабрала жэбы вас!; Кап це парвало жэбы цібе!* Падобнае «суседства» моўных сродкаў, якія генетычна звязаны з беларускай і польскай мовамі, бачым і ў фразеалагізмах *і кучачку і горбачку* 'вельмі многа (нагаварыць)' (*горбачка ← горба (гурба)* – польск. *hurba* 'гурт, куча'), *на моц на сілу* 'з вялікімі цяжкасцямі' (*моц* – польск. *moc* 'сіла'), *ці шалёны ці навядзоны* (*навядзоны* – польск. *nawiedzony*' шалёны, апантаны'). Польскамоўны лексічны кампанент, семантычна ідэнтычны беларускаму, у такіх выразах не ўспрымаецца як семантычны лішак. Наадварот, ён выконвае важную фразеаўтваральную функцыю, актуалізуе экспрэсіўнае, узмацняльнае значэнне фразеалагізма.

5. Фразеалагізмы, утвораныя з выкарыстаннем рознамоўных запазычаных элементаў. Сустракаюцца ўнікальныя прыклады, калі рэгіянальны фразеалагізм спалучае ў сваёй структуры лексічныя адзінкі дзвюх іншых моў (польскай і рускай ці польскай і балтыйскай): *на нядзелі сем змян* (руск. *неделя* 'тыдзень', *польск. zmiana* 'змена, перамена'), *перашчытаць жэбры* (руск. *перещитать* 'пералічыць', польск. *żebry* 'рэбры'), *перашчытаць скабы* (руск. *перещитать* 'пералічыць', літ. *skobà* 'рабро', (жыць) *як почка ў садле* (руск. *почка* 'нырка', польск. *sadło* 'сала').

Вядомы выпадкі кантамінацыйнага зближэння рознамоўных элементаў, вынікам якога з'яўляецца ўтварэнне свайго фразеалагізма. Так, выраз *на нет* 'зусім, поўнасцю, дашчэнту', 'у найвышэйшай ступені' ўзнік шляхам гібрыдызацыі польск. *wnet* 'зараз, хутка', 'адразу' і руск. *нет*. Аб дачыненні да фразеалагізма слова польскага паходжання сведчыць існаванне ў гаворках прамежкавых форм *внэт* 'ушчэнт, зусім', *на ўнэт* 'ушчэнт'.

У гаворках назіраецца і такі працэс, яу утварэнне слоў на базе фразеалагізмаў з польскамоўнымі элементамі. Акрэслім асноўныя спросабы падобнай адфразеалагічнай лексічнай дэрывацыі.

Найбольш просты спосаб – складанне, механічнае зліццё кампанентаў у адно самастойнае слова, напрыклад, *гэдак веля > гэдакведя, мала-веля>малавеля, на тых мяст > натыхмяст, сіла-моц > сіламоц, так рок > такрок, тым пэндам > тымпэндам: Кап хоць мала-веля ў хаці рабіла, а то ляжыць, як лярва, цэлы дзень.* Старына Маст. *Яму мало-веля скажы ні так, як п'яны прыдзя, – с кулакамі скача. Марцянаўцы Ваўк.* [2, с. 11]. *Калі ўжо малавеля падрасла, дык думая, што й бацькі ні патрэбныя.* Вігушкі Іўеў. [3, с. 250]; *Малавеле паспаў, і ўжэ мне палепшало.* Даргужы Івац. [4, с. 130]. *Пойдзяш, папытаяш, і каб на тых мяст дахаты!* Старчаняты Іўеў. [2, с. 129]. *Ідзі і натыхмяст мне прынясі тоя, што ўзяў. Бо кепско будзя.* Каўпакі Гродз. [5, с. 94]. *Мушчыны пашлі*

*пакурыць, а я тым пэндам салка ўрэзала, гуркоў прынясла.* Паўлаўшчына Ваўк. [2, с. 182]. *Як маладыя будуць ехаць, тымпэнтам мяне пакліч.* Масеевічы Ваўк., [3, с. 494].

З адноснай лёгкасцю аб'ядноўваюцца кампаненты «мінімальных адзінак фразеалогіі» (П.А. Лекант), якія маюць структуру «назоўнік з прыназоўнікам», напрыклад, *ад клясы > адклясы, да плягі > даплягі, з малянкосці > змалянкосці, з пэнду > спэнду, на нет (на ўнэт) > нанет (наўнэт): Лілька з малянкосьці спрытна да работы.* Марцянаўцы Ваўк. [2, с. 83]. *Ён і змалянкосці ні меў добрага здаровя, і ціпер ні мая.* Дарашэвічы Гродз. [5, с. 61]. *Як угледзела хлопцаў на раварах, так с пэнду сарвалася з лаўкі – і за імі.* Першамайск Шчуч. [2, с. 87]. *Як уляцеў некі сабака, так спэнду на нашаго і напаў, каб ні адагнаў – загрыз бы.* Дарашэвічы Гродз. [5, с. 135]. *А ў міне ў гэтум року яргіні зусім ні было, зьмерзла ўся ў сьцёпцы, прапала на нет.* Старына Маст. [2, с. 124]. *Твая нявестка як шчэпка стала, нанет высахла.* Лазаўцы Івац. [4, с. 144]. *Усе памідоры згнілі на ўнэт.* Пацаўшчына Дзятл. [6, с. 212]. *Дачка тады наўнэт спужалася, што вазьмуць яе ў Гярманію.* Верашоўшчына Свісл. [3, с. 288].

Можна прыводзіць прыклады ўтварэння слоў на базе аднаго фразеалагічнага кампанента. Распаўсюджаным спосабам такога ўтварэння з'яўляецца скарачэнне, рэдукцыя фразеалагізма. Пашыраецца яно на тыя адзінкі, якія ў мове пэўнага соцыуму з'яўляюцца актуальнымі, агульнавядомымі. Яны настолькі замацаваліся ў свядомасці моўніка, што і ва ўсечаным выглядзе ўспрымаюцца з уласцівым ім значэннем. Рэшткі ўсечанага фразеалагізма пераймаюць яго значэнне, замацоўваюцца ў гаворцы і набываюць статус узуальнай лексічнай адзінкі: *з коптурам > коптурам* 'вышэй краёў посуду, з верхам', *крэнтам-мэнтам > крэнтам* 'рознымі хітрыкамі, падманам, выкручваючыся (дабівацца чаго-небудзь)'.

Акрамя рэдукцыі, можна вылучыць і такі спосаб адфразеалагічнай дэрывацыі, як кампрэсія. Пры такім спосабе ўтваральнай асновай слова выступае, як правіла, граматычна залежны кампанент фразеалагізма, і да яго далучаюцца марфемы, што пэўным чынам указваюць і на граматычна галоўны кампанент, з'яўляюцца «адгалоскамі» гэтага кампанента. Напрыклад, слова *шароўка* 'час, калі пачынае цямнець, на стыку дня і ночы, прыцемак' утварылася на базе прыметнікавага кампанента *шарая* фразеалагізма *шарая гадзіна,* а катэгарыяльнае значэнне яго сфарміравалася пад уплывам назоўнікавага кампанента шляхам выкарыстання адпаведнай назоўнікавай марфемы: *Летам на шароўцы ў вёсцы яшчэ многа работы.* Караняты Астр. [3, с. 556].

Такім чынам, гаворкі Гродзеншчыны дэманструюць нямала прыкладаў фразеалагізмаў з польскамоўнымі элементамі, што выклікана непасрэдным кантактаваннем іх з польскай мовай на працягу розных гістарычных перыядаў.

### *Спіс крыніц і літаратуры*

1. Лепешаў, І.Я. Фразеалогія сучаснай беларускай мовы / І.Я.Лепешаў. – Мінск.: Выш. школа, 1998. – 271 с.

2. Даніловіч, М.А. Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч. – Гродна: ГрДУ, 2000. – 267 с.

3. Сцяшковіч, Т.Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці / Т.Ф. Сцяшковіч. – Мінск: Навука тэхніка, 1983. – 671 с.

4. Зайка, А. Дыялектны слоўнік Косаўшчыны / А.Зайка. – Слонім: Слонімская друкарня, 2011. – 72 с.

5. Цыхун, А.П. Скарбы народнай мовы / А.П. Цыхун; Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. – Гродна, 1993. – 243 с.

6. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-захоняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979–1986. – Т. 5. – 563 с.

---

Першая публікацыя ў зборніку: *Шлях да ўзаемнасці = Droga ku wzajenosci : матэрыялы XVIII міжнар. навук. канф. (Гродна, 15–16 лістап. 2012 г.) / рэдкал. : Я. Панькоў, І. Папоў, Э. Ярмусік. – Ліда : Лідская друкарня, 2014. – С. 24–27.*

## УСТОЙЛІВАСЦЬ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ З ЦЬМЯНЫМІ КАМПАНЕНТАМІ Ў БЕЛАРУСКІХ ГАВОРКАХ

Пад устойлівасцю фразеалагізма тут будзем разумець яго стабільнасць, захаванне фармальнай і семантычнай тоеснасці, нягледзячы на  на дыяхранічныя працэсы, што адбываюцца ў мове на працягу часу.

У гаворках заўсёды існуе слой фразеалагічных адзінак, якія з пункту гледжання сінхраніі ўтрымліваюць кампаненты, што ў лексічнай сістэме як словы свабоднага ўжывання не выкарыстоўваюцца. Такімі кампанентамі з’яўляюцца:

1. Устарэлыя словы. Так, праслявянскае слова *идъ** выкарыстоўвалася яшчэ ў старабеларускай мове – *вуда, удъ* ‘частка цела’ (ЭСБМ-2). У сучасных гаворках яно засталося толькі ў складзе фразеалагізмаў, страціўшы сваё значэнне: *вуды падцягнула* ‘моцна захацелася есці’ (СДФГ), *зайцавы вуды*‘вельмі худы хто-н.’ (СПЗБ), *падцягнуць (уцягнуць) вуды* ‘пахудзець, паблажэць’ (ЗНФ, СГВ, СДФГ), *паттаргнуць (паттарнуць) вуды* ‘схуднець’ (СПЗБ), *адкінуць вуды* ‘ляжаць, спаць лежачы’ (СДФГ).

2. Неасвоеныя лексічнай сістэмай запазычаныя словы. У складзе дыялектных фразеалагізмаў найбольш такіх слоў з польскай і балтыйскіх моў, напрыклад, польск. *migdał* ‘міндаль’ – *нябесныя мігдалы* ‘што-небудзьневерагодна смачнае’; літ. *bindé* ‘гультай’ – *бінды біць* ‘гультаяваць, бяздзейнічаць’.

3. Аказіянальныя ўтварэнні. Гэта кампаненты, якія ніколі не выкарыстоўваліся і не выкарыстоўваюцца ў якасці слоў свабоднага ўжывання. Паходжанне іх звязана з задачамі фразеатворчасці: ствараюцца яны спецыяльна для фразеалагізмаў у працэсе фарміравання апошніх: *адным мірам **міраваны*** ‘падобны адзін да другога’ (ДСЛ), ***гыглы** скаліць* ‘смяяцца, рагатаць’ (СДФГ), *трэсць **трахоллем*** ‘ісці’ (Юрч.-3).

Аб’ядноўвае гэтыя тры групы кампанентаў тое, што яны з’яўляюцца цьмянымі, незразумелымі носьбітам гаворак.

Семантычная зацемненасць слова часцей за ўсё спрыяе таму, што яно выводзіцца з актыўнага лексічнага складу. Гэта непасрэдным чынам адбіваецца на лёсе фразеалагізма з такім словам і можа прыводзіць да наступных вынікаў.

1. Старэнне слова цягне за сабой старэнне і самога фразеалагізма. Апошні пераходзіць у пасіўны запас і з часам можа цалкам выйсці з моўнага ўжытку. У фальклорнай калекцыі М. Федароўскага, якая збіралася ў канцы XIX – пач. XX ст., ёсць фразеалагізм *як віціна* ‘вельмі здаровы, моцны хто-н’ (Fed.). У сучасных гаворках Гродзеншчыны ён адсутнічае, носьбітам гаворак ён невядомы. Невядома і сова *віціна* ‘драўляняе пласкадоннае рачное судна з палубай і парусамі для перавозкі збожжа’.

2. Устарэлае слова-кампанент замяняецца сучасным словам. Фразеалагізм не знікае. Абнавіўшы сваю форму, ён атрымлівае як бы другое жыццё: *глаголы чытаць*

– *газету чытаць* (СДФГ), *да рубінкі – да ніткі* (СПЗБ), *як перст – як палец* (СМН, СПЗБ).

3. Няяснасць семантыкі слова часам прыводзіць яго да народнаэтымалагічнага пераасэнсавання, да «падгонкі» пад агульнавядомую, зразумелую лексічную адзінку: устар. *лёстачкі* ‘ліслівыя словы, ухваленні, кампліменты’, ‘падлізванне’ – *ластачкі падпускаць* ‘падлізвацца’ (Нос.), *ластаўкаю слацца* ‘лісліва дагаджаць, падлізвацца’ (СДФГ); польск. *obcesem* ‘дзёрзка, нахабна, бесцырымонна’ – *абцасам у вочылезці* ‘назойліва прыставаць, невыносна дакучаць’, рус. *наобум* ‘не раздумваючы, не разважаючы’ – *на бум Лазара* ‘не разлічыўшы як след, наўгад’ (Цідовічы Гродз.).

Аднак у многіх выпадках фразеалагізм не падпарадкоўваецца ціску лексічнай сістэмы, працягвае ўжывацца актыўна ў нязменным выглядзе, нягледзячы на тое, што слова, якое з’яўляецца фразеалагічным кампанентам, у лексічным складзе гаворкі не ўжываецца. Гэта магчыма дзякуючы такой вызначальнай асаблівасці фразеалагізма, як яго семантычная цэласнасць – невыводнасць значэння са значэнняў асобных сруктурных элементаў. Фразеалагічная адзінка «ўзнаўляецца ў свядомасці таго, хто гаворыць, падобна слову, у гатовым выглядзе і ўспрымаецца ў свядомасці таго, хто слухае, як нешта цэласнае і непадзельнае. У сувязі з гэтым становіцца прынцыпова неістотным, з якіх іменна слоўных знакаў яна складаецца і як яны звязаны паміж сабой» [2, с. 170].

Фразеалагізм як ідыяматычная адзінка ў цэлым «абыякавы» да таго, ужываюцца яго кампаненты як свабодныя лексемы ці не. Незалежнасць цэласнага значэння ад значэння кампанентнага складу найбольш праяўляецца ў фразеалагічным зрашчэнні, якое «не ёсць ні здабытак, ні сума семантычных элементаў. Яно – хімічнае злучэнне нейкіх раствораных і з пункту гледжання сучаснай мовы аморфных лексічных частак» [1, с. 124].

Выпадзенне кампанента з сістэмных сувязей і адносін прыводзіць да таго, што ён не падпадае пад ціск сучаснага лексічнага ладу мовы. Закансерваваўшыся ў межах фразеалагізма, цьмянае слова становіцца інертным да працэсаў, што адбываюцца ў пластах лексікі. Яно як бы атрымлівае ўнутрыфразеалагічнае жыццё. Фразеалагізм не пераходзіць у разрад устарэлых, а часта, наадварот, становіцца больш устойлівым, паколькі нестандартны кампанент надае яму своеасаблівую «экзатычнасць», узмацняе экспрэсіўнасць яго значэння.

Устойлівасць фразеалагізмаў з цьмяным кампанентам падтрымліваецца і тым, што многія з іх пабудаваны па тыповых, шырока вядомых структурна-семантычных мадэлях. Незразумеласць кампанента ў гэтым выпадку не зацяняе структурна-семантычнай празрыстасці фразеалагічнай мадэлі. Некаторыя архаічныя словы, адарваўшыся ад лексічнай сістэмы, стаўшы незалежнымі ад яе, «абслугоўваюць» шэраг мадэлей:

- *адкінуць лэбады (лэбарды), задраць лэбады (лэбарды, лабады)* (СДФГ), *закінуць лэбарды* (Вялікая Бераставіца Бераст.), *ледва лэбарды цягаць, лэбарды выцягнуць,* (пакуль) *лэбарды насяць* (СДФГ);

- *вуйці з глузду* (ТС), *глузду не прылажыць* (БФ), *глузды адбіць* (ДСЛ, НС), *зваліцца з глузду* (НС, ТС), *зойці зглузду* (ТС), *ні пры сваём глуздзі* (НС), *прыходзіць ік глузду* (ТС);

*- ідзі к кадукам* (СПЗБ), *каб кадук узяў* (ЖНС), *каб цябе кадук* (СПЗБ), *кадуке прынеслі* (НС, СПЗБ), *кадук ёго відае* (ЗНС), *кадук не браў* (СПЗБ), *нехай кадук схопіць* (ТС), *які кадук* (ЖС), *які табе кадук стаўся* (Fed.).

Можна прывесці таксама прыклады іншамоўных слоў, якія не прыжыліся ў лексічным складзе, але выкарыстаны ў мадэляванні фразеалагізмаў.

Паланізмы: *kapować* 'кеміць, цяміць, кумекаць', *banialuki* 'лухта, глупства, недарэчнасць, бязглуздзіца', *fiołek* 'дзівацтва', *fąfru* 'капрызы, прыхамаці' –– *галава не капуе* 'хто-н. неразумны, някемлівы' (СДФГ), *плесці баналюкі* 'гаварыць абы-што' (СДФГ, Fed.), *фіёлкі ў галаве* 'хто-н. несур'ёзны, легкадумны, ветраны' (СДФГ), *меzь фонфры ў носе* 'быць упартым, капрызным, наравістым'.

Балтызмы: літ. *kẽpalas* 'спіна, горб' (гэты балтызм зафіксаваны ў цэлай групе фразеалагізмаў на шырокай беларускай лінгвагеаграфічнай прасторы): Разгаварыўся мне тут… Зара як *дам у кепель*, дык замаўчыш. Каменка Шчуч. (СДФГ); *Даць у кепель*. Цітва Пух. (ЖС); Яна нават біла яго. Як зазлуецца, *натаўчэ, натаўчэ ў кепель*, а ён нічого, усміхаяцца толькі. Чамяры Сл. (НЛ); Як *дам у кепял*, та быстро аціхняш, шчаня ты чортаво! Бабіна Гродз. (СДФГ); *Даць* табе *ў кэпаля* за тваю работу, можа, тады паразумнееў бы! Глядавічы Маст.; Ты зь ім ні заядайся, ён мацнейшы за цібе, *дасьць па кепелю* рас — больш ні палезяш. Стокі Свісл. (СДФГ); Трэба, шоб *кепелі добрэ варылі*. М. Малешава Жытк. (ТС); Як *кепал ні варыць*, та, брат, нічого ні бу-дзя, навука сама ні пойдзя. Пракопавічы Гродз. (СНМ); У цібе *кепель ні варыць*, рас ты мох такоя сказаць. Алекшыцы Бераст. (СДФГ); У ёго *нема кепель*, вон не понімае. Дварэц Жытк. (ТС).; літ. *dinda* 'гультай', *dìnduoti* 'гультаяваць' – *абіваць дынды* 'гультаяваць, бяздзейнічаць' (СПЗБ); літ. *brinda* 'нядбалы, неахайны' – *брынды (бryndзікі) біць* 'гультаяваць, бяздзейнічаць' (СПЗБ, ЗНФ); літ. *raizgýti* 'плесці', *règzti* 'плесці, гаварыць глупства', лат. *reidzêt, reĩzinât* 'мудраваць, мудрагеліць' – *рэйды тачыць* 'пляткарыць, займацца пустымі размовамі' (СПЗБ), *заткнуць <сваё> рэйдала* 'перастаць гаварыць абы-што, замоўкнуць' (ЗНФ).

Такім чынам, устойлівасць, актыўнасць ужывання фразеалагізма ў многім падтрымліваецца самой незразумеласцю кампанента: незразумелы – значыць, незвычайны, прыцягальны, варты ўвагі. Такі кампанент выконвае не сэнсаўтваральную, а ўзмацняльную, экспрэсіўную функцыю і сваёй прысутнасцю нярэдка вызначае арыгінальнасць, неардынарнасць матэрыяльнай абалонкі ўсяго фразеалагізма, падтрымліваючы гэтым самым яго «жывучасць».

## *Літаратура*


1. Виноградов, В.В. Избр. труды: лексикология и лексикография / В.В. Виноградов; отв. ред. и авт. предис. В.Г. Костомаров. – М.: Наука, 1977. – 312 с.

2. Попов, Р.Н. Фразеологизмы современного русского языка с архаичными значениями и формами слов: учеб. пособие для филол. спец. пед. ин-тов / Р.Н. Попов. – М.: Высш. шк., 1976. – 200 с.


---


Першая публікацыя ў зборніку: *Актуальныя праблемы мовазнаўства (да 80-годдзя прафесара І.Я. Лепешава) : матэрыялы Міжнар. навук. канф., 28 кастр. 2004 г., Гродна; адк. рэд. Т.І. Тамашэвіч. – Гродна : ГрДУ, 2004. – С. 102–105.*

# УНІКЛЬНАСЦЬ АКАЗІЯНАЛЬНЫХ КАМПАНЕНТАЎ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ

Спецыфічная асаблівасць фразеалагізмаў у тым, што яны як ніякія іншыя моўныя адзінкі схільныя да арыгінальнасці, унікальнасці сваёй формы. Імкненне бліснуць незвычайнасцю і гэтым самым здзівіць, зрабіць ураджанне дасягаецца праз ўвядзенне ў іх структуру лексічных кампанентаў самай рознай якасці. Сярод такіх кампанентаў вельмі яркімі выступаюць адзінкі, якія ніколі не выкарыстоўваліся і не выкарыстоўваюцца ў ролі слоў свабоднага ўжывання. Гэта так званыя ўнутрыфразеалагічныя аказіяналізмы, якія спецыяльна ствараюцца для абслугоўвання фразеалагізмаў.

Словаўтваральнай базай аказіяналізмаў выступаюць, як правіла, узуальныя лексічныя адзінкі. Унутраная матывіроўка аказіянальнага кампанента адыгрывае важную ролю ў фарміраванні вобразнай асновы ўсяго фразеалагізма, у станаўленні фразеалагічнага значэння і захаванні яго празрыстасці: *на трындзі паехаць* ‘пайсці да суседзяў, знаёмых, сяброў з мэтай пагаварыць, папляткарыць’ (*трындзі* < *трындзець*), *роўлы ісці* ‘моцна плакаць’ (*роўлы* < *раўці*), *да пакацюшкі* ‘вельмі моцна (напіцца)’ (*пакацюшка* <  *пакаціцца*) (фактычны матэрыял у гэтым артыкуле выкарыстаны пераважна з нашай уласнай фразеалагічнай картатэкі гаворак Гродзеншчыны, сабранай і сістэматызаванай на працягу апошніх трыццаці гадоў).

Утвараюцца аказіянальныя кампаненты па вядомых тыпах і мадэлях. Часцей фігуруе марфалагічнае ўтварэнне, напрыклад суфіксальнае (*скалікі строіць* ‘смяяцца, рагатаць’ – *скалікі* < *скаліць*; *пераядыч сэрца* ‘настойлівы, дакучлівы чалавек’ – *пераядыч* < *пераядаць*), нульсуфіксальнае (*адура галавы* ‘той, хто дакучае, прыносіць многа турбот, клопатаў – а*дура* < *адурыць*; *аж зёхат ходзіць* ‘вельмі чыста, акуратна дзе-н.’ – *зёхат* < *зіхацець*). Сустракаюцца выпадкі ўтварэння аказіяналізмаў спосабам складання: *заехаць па мухаедах* ‘пабіць, пакараць каго-н.’ – *мухаеды* < *мухі, есці*; *вадахлёб іванаўскі* ‘п’яніца, алкаголік’ – *вадахлёб* < *вада, хлёбаць.*

Некаторыя аказіяналізмы маюць гукаперааймальную аснову. Адны з іх выступаюць непасрэднымі гукаперайманнямі, г.зн.  перадаюць тыпізаванае гучанне жывых істот, з’яў прыроды, прадметаў: *балу-балу <а> свіння ў калу, галу-галу <свіння ў калу>* – ‘залішне доўга, надакучліва гаварыць, размаўляць, гутарыць’; *ні хуху ні духу* ‘холадна і голадна, пуста ў хаце’, ‘ніякіх звестак пра каго-, ад каго-н.’. Другія з’яўляюцца суфіксальнымі адгукапераймальнымі назоўнікамі: *гігавіцу напхаць* ‘паесці, наесціся’ (*гігавіца* < *гі-гі*), *гігікі строіць* ‘смяяцца, дурэць, пакепліваць з каго-н.’, (*гігікі* < *гі-гі*), *хаўкі лавіць* ‘пазяхаць’ (*хаўкі* < *ха, хаў*), *надаваць бухачоў* ‘пабіць, пакараць (*бухачы* < *бух*), *задраць хлюбаўку* (*хлюбаўка* < *хлюп*), *задраць дрыбдз*і (*дрыбдзі* < *дрыб-дрыб*), *гыглы скаліць* (*гыглы* < *гы-гы*), *лялястры разводзіць* (*лялястры* < *ля-ля*).

Прыкметную групу кампанентаў складаюць семантычныя ўнутрыфразеалагічныя аказіяналізмы. Гэта знешне знаёмыя словы, але ўжытыя ў незвычайным фразеалагічным кантэксце, якія выклікаюць нетрадыцыйныя для гэтых слоў сэнсавыя асацыяцыі. Напрыклад, у фразеалагізме *кроквы свецяцца* ‘вельмі худы’ слова *кроквы* ўспрымаецца не са значэннем ‘будаўнічая канструкцыя страхі’, а са значэннем ‘рэбры’. У фразеалагізме *слімакі папускаць* ‘плакаць, жаліцца’ першы кампанент суадносіцца не з беспазваночнай жывёлінай атрада малюскаў, а з непрыемным выдзяленнем з поласці носа. Фразеалагізм

*вавілён зарос* у каго ‘хто-н. страціў палавыя магчымасці (пра мужчыну)’ адрасуецца не старажытнаму гораду ў Месапатаміі, а небараку-мужчыну.

Узнікаюць семантычныя аказіяналізмы часцей метафарычным пераносам слова з аднаго прадмета на другі на падставе іх рэальнага ці ўяўнага падабенства: *цэбар* ‘галава’ – *пусты цэбар* у каго ‘хто-н. нездагадлівы, някемлівы’; *батоны* ‘ягадзіцы’ – *варушыць батонамі* ‘ісці хутчэй’; *бубан* ‘жывот’ – *бубан разбіць* ‘растаўсцець, папрвіцца’.

Семантычнае пераасэнсаванне слова ажыццяўляецца і на аснове метанімічных пераносаў: *фіксы* ‘зубы’ – *фіксы скаліць* ‘смяяцца, рагатаць’; *бельмы* ‘вочы’ – *вытрашчыць бельмы* ‘ўгледзецца, утаропіцца’; *сандалі* ‘ногі’ – *адкінуць сандалі* ‘ памерці’.

Утвараюцца семантычныя аказіяналізмы таксама шляхам каламбурнага сутыкнення сугучных слоў, напрыклад: *дрожджы* і *дрыжыкі, дрыжаць – дрожджы прадаваць* ‘трэсціся ад холаду’; *храпавік* і *храп, храпці – храпавік рамантаваць* ‘спаць з храпам’; *гарады* і *горды – гарады ставіць* ‘праяўляць гонар, фанабэрыю’; *галава* і *галавешка – дурыць галавешку* ‘знарок падманваць каго-н.’, *вісець над галавешкай* ‘пастаянна пагражаць’; *Ленц* (уласнае імя) і *лень, ленавацца – ленца важыць* ‘ленавацца, гультайнічаць’; *Хацей* (уласнае імя) і *хацець – хацей не даў* ‘не збыліся жаданні, тое, што хацелася’.

Далей звернем увагу пераважна на семантычныя аказіяналізмы. Яны выяўлены сярод фразеалагізмаў самых розных структурных мадэлей, але найактыўней функцыянуюць у асяроддзі фразеалагізмаў традыцыйных мадэлей, актуальных у сучасных гаворках. Вядомасць, распазнавальнасць такіх мадэлей дазваляе носьбітам мовы без складанасцей адчуць сэнсавую арыентацыю аказіяналізма, суаднасіць яго з інварыянтным лексічным кампанентам.

З тэматычнага пункту гледжання аказіяналізмы прадуктыўныя пераважна ў сферы саматычнай лексікі. Прывядзём найбольш тыповыя прыклады:

*Вочы* – апалонікі, безікі, бізюкі, бельмы, бельмакі, буркалы, гізі, зегры, зеграчы, зекрачы, земкачы, зенкі, зенькі, зянькі, зрынгі, зрынкі, зрэнкі, зрыны, зрэны, кірзачы, лыпакі, лупачы, лупякі, слепакі, шклянкі, шпонкі: *вываліць апалонікі, уставіць свае безікі, вылупіць бізюкі, вывярнуць бельмы, бельмакі на лоб палезлі, выкаціць бельмачы, бельмачы калом паставіць, вырачыць буркалы, вытрашчыць гізі, працерці зегры, прыскеліць зеграчы, земкачы выпра, закрыць зенкі, пралупіць зенькі, заліць зрыны, хоць зрэнкі выкалі, заліць кірзачы, заліць лыпакі, вываліць свае лупачы, лупякоў не зводзіць, заліць слепакі, заліць шклянкі, вылупіць шпонкі.*

*Рот* – бляхан, вафельнік, гігагавіца, гагаўка, гардзелка, гардзель, гаўкала, грызла, зявалка, зяпала, лявіца, лятарня, пакалатка, паяла, рэйдала, сёрбалка, хавальнік, халява, хлебарэзка: *закрый бляхан не ляпай крышкай, заткнуць гігавіцу, дзерці гагаўку, заткнуць гардзелку, разявіць гардзель, заткнуць гаўкала, даць у грызла, закрыць зявалку, замкнуць зяпала, закрыць сваю лявіцу, закрыць лятарню, заткнуць пакалатку, закрыць паяла каб не ваняла, адкрыць рэйдала, закрыць сёрбалку, закрыць хавальнік, закрыць хлебарэзку.*

*Ногі* – гегні, дрыбдзі, заднікі, кандубы, канькі, капылы, капыты, карачы, кацюты, кокашы, коні, ласты, лэбарды, поршні, сандалі, цындале, ходы: *задраць гегні, задраць дрыбдзі, адкінуць заднікі, завярнуць кандубы, аддаць канькі, завярнуць капылы, адкінуць капыты, выцягнуць карачы, адкінуць кацюты, задраць кокашы, коні кінуць,*

*стуліць ласты, ледва лэбарды цягаць, варушыць паршнямі, адкінуць сандалі, адкінуць цындале, прывалачы свае ходы.*

*Нос* – дзюндзель, клюка, лейка, лыч, нюхаўка, пісталет, хлюбаўка, хобат, храпы, чабан: *дзюндзель павесіць, звесіць клюку, павесіць лейку, адвярнуць лыча, задраць лыч, заліць лыч, палучыць у лыч, адвярнуць нюхаўку, зарабіць па нюхаўцы, растаўчы нюхаўку, пісталет пвесіўшы (сядзець), задраць хлюбаўку, узняць хобат, даць у храпы, надуць храпы, чабан задраўшы.*

Няцяжка заўважыць, што ў прыведзеных прыкладах ўзнікненне фразеалагізмаў з акзіянальнымі кампанентамі выклікана не патрэбамі намінцыі, а імкненнем перадаць сэнс і экспрэсію іншымі, нетрадыцыйнымі сродкамі. Традыцыйныя сродкі з цягам часу могуць станавіцца звыклымі, звычайнымі, нецікавымі. «Рэгулярныя словаўтваральныя мадэлі паслабляюць выяўленчыя магчымасці мовы, і рост аказіянальных словаўтваральных сродкаў … адлюстроўвае патрэбу ў экспрэсіўнаэмацыянальнай лексіцы, сінанімічнай той, што ўжо існуе» [1, с. 9]. Шэраг аказіяналізмаў надзелены моцнай канатацыйнай энергіяй дысфемічнага характару, яны скіраваны на ўтврэнне фразеалагізмаў  эмацыянальна і экспрэсіўна насмешлівых, неадабральных, зніжаных, нават грубых.

*Літаратура*

1. Параскевіч, Г.Н. Назоўнік у беларускіх прыказках / Г.Н. Параскевіч. – Мінск: Універсітэцкае, 1984. – 110 с.

---

Першая публікацыя ў зборніку: *Славянская фразеология в синхронии и диахронии : сб. науч. статей. Вып. 2; редкол. : В.И. Коваль (отв. ред.) [и др.]. – Гомель: ГГУ им. Ф. Скорины, 2014. – С. 21–23.*

## ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ З ПСЕЎДАЎЛАСНЫМІ ІМЁНАМІ Ў БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЕ

У фразеалогіі беларускай дыялектнай мовы значную частку складаюць адзінкі з кампанентам – уласным імем. Сваімі вытокамі яны цесна звязаны з нацыянальнай рэчаіснасцю, утварыліся на падставе фактаў, вобразных ўяўленняў, якія закранаюць пераважна беларускую антрапанімію, мясцовую тапанімію, персанажаў фальклорных і літаратурна-мастацкіх твораў, імёны гістарычных асобаў, клічкі жывёл, напрыклад: *Яська ў лес а Манька па дровы* ‘нязладжана, нядружна, уразброд (рабіць што-н.)’ (СДФГ), *адно вока ў Альшаны, а другое ў Ашмяну* ‘хто-н. касавокі’ (СПЗБ), ганяць *як Марку па пекле* ‘раз-пораз, увесь час, не шкадуючы (пасылаць каго-н. куды-н., прымушаць каго-н. рабіць што-н.’, *як збянтэжаны Саўка* ‘разгублены, прыгнечаны, устрывожаны’ (СДФГ); помніць *караля Баторага (Батуру)* ‘стары, даўні, адвечны’ (Fed.), набрацца *як Мурза маслянкі* (*жому, заціркі, кішак, костак*) ‘вельмі моцна (напіцца)’ (СДФГ).

У межах анамастычнай фразеалогіі вылучаецца прыкметная група фразеалагізмаў з псеўдаўласнымі імёнамі – штучнымі ўтварэннямі спецыяльна для фразеалагізма з мэтай фарміравання яго сэнсавай структуры і яркай стылістычнай напоўненасці. Дарэчы, такія фразеалагізмы актыўна ствараюцца і ў іншых мовах, напрыклад: польск. *poznaszsię panią Brzezowską* ‘атрымаць пакаранні бярозавай розгай’, руск. *задать*

*Храповицкого* ‘моцна спаць’, укр. *іхаті в Ригу через Горлівку й Носівку* ‘рыгаць’, *заїхати в Зубцівській (Рожественський) повіт Харківської губернії* ‘пабіць каго-н.’

У гэтым артыкуле аналізуюцца фразеалагізмы, выпісаныя з беларускіх дыялектных слоўнікаў, а таксама занатаваныя аўтарам пераважна з гаворак Гродзеншчыны.

Штучна ўтвораныя ўласныя імёны ў фразеалагізмах нагадваюць рэальныя антрапонімы ці тапонімы, пабудаваныя па вядомых словаўтваральных мадэлях. Так, мужчынскія прозвішчы на *-скі* і назвы населеных пунктаў на *-аўцы* шырока бытуюць у Беларусі і лёгка распазнаюцца ў фразеалагізмах як онімы: *Сасноўскі пад'язджае* ‘хто-н. дрэмле седзячы, стоячы ці знаходзіцца ў паўсонным стане’, *паехаць у Ложкаўцы* ‘заснуць, спаць’ (СДФГ).

Многія анамастычныя кампаненты фразеалагізмаў выступаюць аманічнымі да наяўных у беларускай мове назваў: *пайсці ў Магілёў* ‘памерці’ (Рыдзелі Гродз.), *аж у Крычаве чуваць* ‘вельмі моцна (крычаць)’ (Рап.), *дзядзька Апанас пастукаўся* да каго-н. ‘хто-н. захварэў на панос’ (Масты Маст.).

Псеўдаанамастычныя ўтварэнні маюць выразную ўнутраную форму, суадносяцца, «пераклікаюцца» каранёвай марфемай ці спалучэннямі гукаў з якім-н. утваральным словам. Такім словам часцей выступае назоўнік: *хлеб з Тарбатова* ‘рэшткі яды, прывезенай дадому, якую прапануюць дзецям; зайцаў хлеб’ (Fed.) (*Тарбатова <торба*). Зрэдку ўтваральнай асновай з'яўляецца дзеяслоў, прыметнік: *Хацей (Хацень) не даў* ‘не ўдалося здзейсніць тое, што хацелася’ (Літвінкі Гродз., Косцевічы Астр.) (*Хацей (Хацень) < хацець*); *у Крычаў паехаць* ‘раскрычацца’ (Нос.) (*Крычаў < крычаць, крык*); *нябожчык Ціхон бяды нарабіў* ‘дзяўчына зацяжарыла не будучы замужам’ (Fed.) (*Ціхон < ціхі).*

Штучнае ўласнае імя, утворанае моўным каламбурам і суаднесенае з антрапанімічнай ці тапанімічнай назвай, выконвае важную фразеаўтваральную функцыю. Гэта гаваркое слова, матываванае апелятывам, значэнне якога пэўным чынам перасякаецца са значэннем фразеалагізма. Дзякуючы яму, ствараецца двухпланавасць унутранай формы фразеалагізма, і апошні ўспрымаецца як фразеалагічны каламбур гумарыстычнага, жартаўліва-іранічнага характару. Так, у выразе *выйсці замуж за Лапатэцкага* ‘памерці’ (Вялікая Бераставіца Бераст.) за вобразам замуства, створаным літаральнымі значэннямі слоў, што сталі кампанентамі фразеалагізма, хаваецца іншы вобраз – вобраз смерці, які зыходзіць ад штучнага прозвішча *Лапатэцкі*, апелятывам якога выступае слова *лапата* – прадмет, абавязковы ў цырымоніі пахавання чалавека. Кампанент *Лапатэцкі*, такім чынам, удзельнічае ў стварэнні адначасова двух быццёва і лагічна несумяшчальных вобразаў, гэтым дасягаецца адпаведны выяўленча-стылістычны эфект фразеалагізма.

Уласныя імёны такога тыпу выступаюць у складзе фразеалагізмаў сэнсаўтваральным цэнтрам, на базе якога фарміруецца фразеалагічнае значэнне.

Многія фразеалагізмы з псеўдаанамастычным кампанентам з'яўляюцца эўфемізмамі – замяняльнікамі слоў і словазлучэнняў, якія адлюстроўваюць з'явы па пэўных прычынах непрыемныя, непрыстойныя ці інтымныя. Уласнае імя ў такім выпадку ў прыхаваным, завуаляваным выглядзе дае намёк на гэтыя з'явы, якім адрасуюцца фразеалагізмы.

Асобную групу сярод іх складаюць фразеалагізмы, адпаведныя такой трагічнай з'яве, як смерць чалавека. Страх перад смерцю нярэдка спараджае эўфемізмы гумарыстычнага характару, у якіх увасобілася «імкненне схаваць боязь смерці ў

жартаўлівых адносінах да яе» [1, с. 66]. У беларускіх гаворках зафіксавана каля дзясятка фразеалагізмаў з кампанентам *Пясэцкі (Пясоцкі)*, утваральнай асновай якога выступае апелятыў *пясок*, што выклікае асацыяцыі з пахаваннем чалавека: *ажаніцца з Пясэцкім* ‘памерці’ (ЗНФ, СДФГ), *выйсці за Пясэцкага* ‘памерці’, *забраў Пясэцкі* каго ‘хто-н. памёр’ (СДФГ), *пайсці да <пана> Пясэцкага (Пясоцкага)* ‘памерці’ (ЗФН, СДФГ), *Пясоцкі (Пясэцкі) чакае* каго ‘хто-н. блізкі да смерці’ (ЗФН). У гэтую групу ўваходзяць і такія фразеалагізмы, як раней згаданы *выйсці замуж за Лапатэцкага*, а таксама *пайсці за Клепацкага* ‘памерці’ (Fed.) (*Клепацкі < кляпаць* ‘забіваць накрыўку ў труне’), *адпраўляць у Магілёўскую губерню* каго ‘забіваць, знішчаць’ (СФ) (*Магілёўскі < магіла*), *пайсці да Святога спаса* ‘памерці’ (Fed.) (*Спас < спасенне* (на тым свеце)).

Некаторыя фразеалагічныя эўфемізмы абазначаюць натуралістычныя працэсы жыццядзейнасці чалавека. Матывацыйная аснова іх падказваецца анамастычным кампанентам. Так, у выразе *Аляксей спарваў (схапіў)* каго ‘хто-н. хварэе на панос’ (ЗФН) кампанент *Аляксей* з’яўляецца штучным ўтварэннем ад дыялектнага апелятыва польскага паходжання *лякса* ‘панос’ (польск. *laksa* ‘тс’). Шляхам анімізацыі гэтага апелятыва ўзнік і такі фразеалагізм: (праўдзівы) *як Ляксей* ‘вельмі, надзвычай (справядлівы, праўдзівы)’ (Семянякі Шчуч.).

З працэсамі сну, засынання звязаны фразеалагізмы *паехаць (пайсці) да Снова* ‘спаць’ (Fed.) (*Сноў < сон, спаць*), *паехаць у Храпянёва* ‘спаць’ (Гнесічы Навагр.) (*Храпянёва < храпці*), *чытаць Храпавіцкага* ‘моцна спаць, звычайна храпучы, пахрапваючы’, *у Сапуны (Сапунцы) пайсці* ‘спаць, звычайна пасопваючы’, *Сасноўскі абнімае* каго ‘хіліць на сон каго-н.’ (СДФГ).

З агульным значэннем ‘вывяргаць ротам прынятую ежу’ ў беларускіх гаворках ужываецца фразеалагізм *паехаць ў Рыгу* ‘рыгаць’ (Валеўка Навагр.). У 4 томе «Люду беларускага» М. Федароўскі падае пашыраны варыянт гэтага фразеалагізма *з Прусоў да Рыгі ездзіў* з наступным тлумачэннем: Jeżeli pjany dostanie wymiotow. Do Prus stąd świnie pędzają (Fed., c. 247).

У шэрагу фразеалагізмаў з псеўдаўласным імем эўфемічны пачатак не з’яўляецца рэлевантным. Ствараюцца такія фразеалагізмы не столькі для замены іншых моўных сродкаў, колькі для абазначэння паняццяў і суджэнняў неардынарным, незвычайным спосабам. Фразеалагізмы такога тыпу, пабудаваныя на гульні слоў, выступаюць яркім каламбурам з выразным эмацыянальна-экспрэсіўным зместам: *Галадніцкі ўбіўся ў хату* ‘няма чаго есці, наступіў голад’, *Лявон (Лявонь) напаў* на каго ‘хто-н. лянівы, каму-н. не хочацца працаваць’ (СДФГ), *Ленца важыць* ‘нічога не рабіць’ (СГВ), *запісацца да Лявошкі ў кампанію* ‘ленавацца, нічога не рабіць’ (Наваельня Дзятл.), *Іван Няпомнік* ‘чалавек, які забывае на людзей, людское, прайдзісвет, цураецца сяброўскіх абавязкаў’ (Янк.).

Псеўдаонім выступае сувязным звяном паміж дэнататам і ілюзорнай унутранай формай фразеалагізма, намякае на яе несапраўднасць і ўказвае на рэальнае фразеалагічнае значэнне.

У некаторых фразеалагізмах такая сувязь не ляжыць на паверхні, па розных прычынах не з’яўляецца празрыстай. Падобныя фразеалагізмы «вымагаюць падчас дэкадзіравання, акрамя моўнага чуцця, яшчэ і ведання пазамоўнай інфармацыі пра дэнатат, назва якога магла стаць матыватарам штучнага ўтварэння» [2, с. 86]. Так, у фразеалагізме *Басіны спраўляць* ‘хадзіць босым’ (СДФГ) першы кампанент асацыіруец-

ца з назвай свята, хоць беларусам такое свята невядома. На першы погляд складваецца ўражанне, што хранонім *Басіны* – гэта штучнае ўтварэнне выключна ад апелятыва *босы.* Аднак этымалагічны аналіз паказвае, што фарміраванне фразеалагізма стала магчымым і дзякуючы этнагарафічным рэаліям. Свята *Басіны*, сапраўды, існуе. Гэта яўрэйскае свята ачышчэння, падчас якога яўрэі (раней масава пражывалі ў Беларусі) ходзяць босыя.

У 2005 годзе ў в. Баліненты Гродзенскага раёна запісаны фразеалагізм *Вавілён зарос* у каго. Ён адрасуецца мужчынам і з адценнем насмешкі ці гумару рэалізуе значэнне 'ў каго-н. страцілася палавая актыўнасць': *Э, ён ужэ хіба на што здатны, у маго старого ўжэ даўно Вавілён зарос.* Зразумець матывіроўку гэтага фразеалагізма без ведання пазамоўнай рэчаіснасці, з якою ён звязаны шматлікімі асацыяцыямі, немагчыма. Тут неабходна ўспомніць біблейскі сюжэт пра вавілонскае стоўпатварэнне. Жыхары старажытнага горада Вавілона сталі будаваць вежу (стоўп) да неба, каб дабрацца да Бога. Разгневаны за гэта Бог «зблытаў мову іх», і яны перасталі разумець адзін аднаго. Горад Вавілон стаў месцам хаосу і разбэшчанасці, «спакусаў і мярзотаў людскіх». Гэты біблейскі сюжэт і яго бытавое асэнсаванне паслужылі крыніцай некалькіх фразеалагізмаў: *вавілонскае стоўпатварэнне* 'поўная неразбярыха, беспарадак, гармідар', *разводзіць вавілоны* 'гаварыць ці пісаць намёкамі, зацяняючы сутнасць справы', *трапло вавілонскае* 'балбатун', *выводзіць (пісаць) вавілоны* 'ісці хістаючыся (пра п'янага)', *вавілонская блудніца* 'вельмі разбэшчаная, распусная жанчына'. У іх ліку – і выраз *Вавілён зарос.* На яго развіццё аказаў уплыў не толькі біблейскі сюжэт, але, думаецца, і некаторыя з названых фразеалагізмаў, найперш *вавілонская блудніца.*

Фіктыўнасць псеўданазваў вельмі выразна праяўляецца, калі яны супадаюць аманімічна з рэальнымі ўласнымі імёнамі, часцей тапонімамі. Такія тапонімы нярэдка маюць рэгіянальны характар, і пашырэнне адпаведных фразеалагізмаў таксама з'яўляецца рэгіянальна абмежаваным. Напрыклад, фразеалагізм *паехаць у Храпянёва* 'спаць пахрапваючы' бытуе ў гаворках Навагрудскага раёна і менавіта ў гэтых гаворках успрымаецца з найбольшым камічным эфектам, паколькі ў межах Навагрудскага раёна існуе вёска з назвай *Храпянёва*.

Фразеалагізм *на Карэлічы пайшлі* 'брудныя, заношаныя, карэлыя (шкарпэткі, анучы)' лакалізуецца гаворкамі Карэліцкага і Навагрудскага раёнаў – у ваколіцах горада Карэлічы.

Такім чынам, псеўдаўласныя назоўнікі выконваюць важную фразеаўтваральную функцыю. Яны ўдзельнічаюць у фарміраванні семантыкі, вобразнасці, эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі фразеалагізма, утрымліваюць у сабе нацыянальна-культурную інфармацыю. Фразеалагізмы з такімі назоўнікамі ўспрымаюцца ярка, запамінальна, узбагачаюць і разнастаяць выяўленчыя рэсурсы мовы.

### *Літаратура*

1.Бояркин, В.Д. Фразеологические единицы со значением «умереть» в русском и чешском языках (на материале ономастической фразеологии) / В.Д. Бояркин, Л.И. Степанова // Исследования по общей и дагестанской фразеологии: межвуз. тематич. сб. науч. статей. – Махачкала: Дагестанский гос. ун-т, 1989. – С. 60–67.

2. Пасік, Н.М. Псевдоономастичний компонент у структурі українських фразеологізмів / Н.М. Пасік // Славянская фразеология в ареальном, историческом и этнокультурном аспек-

тах: материалы III научной конференции (Гомель, 7-8 октября 2003 г.). – Гомель: ГГУ им. Ф.Скорины, 2003. – С. 85–89.

Першая публікацыя ў зборніку: *Шлях да ўзаемнасці = Drogakuwsajetności : матэрыялы XVII міжнар. навук. канф. (Гродна, 18-19 лістап. 2010 г.); рэдкал. : Г. Хацкевіч, Я. Панькоў, Э. Ярмусік, І. Папоў (гал. рэдактары) [і інш.]. – Гродна : ГрДУ, 2011. – С. 13–17.*

## ЭТНОНІМЫ Ў СТРУКТУРЫ БЕЛАРУСКІХ ДЫЯЛЕКТНЫХ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ

У беларускай мове этнонімы (словы для абазначэння пэўнага этнасу: роду, племені, народнасці, народа, нацыі і інш.) фігуруюць у розных пластах лексікі. Яны, напрыклад, шырока замацаваліся ў тапаніміі, якая фарміравалася ў розныя гістарычныя перыяды пад уплывам разнастайных этнагенетычных працэсаў, моўных кантактаў, перасяленнем плямён і народаў. Так, у сучаснай беларускай тапаніміі адлюстравана больш за 78 этнічных найменняў, ад якіх утворана 400 тапонімаў для абазначэння 760 населеных пунктаў рэспублікі [1, с. 632–633]. Гэта і сучасныя, і тыя этнонімы, што засталіся ў гісторыі, напрыклад: *Ляхаўцы, Русакі, Прусы, Татары, Дулебы, Чухны, Дайнова, Літвіца, Маскалёўцы, Чэхі, Булгары, Чудзяны, Крывічы, Валынцы, Яцвягі* і інш.

У фразеалогіі этнонімы пакінулі значна меншы след, чым у тапаніміі. Гэта тлумачыцца самой спецыфікай фразеалагізмаў, якія ствараюцца на падставе вобразных уяўленняў, вербальнае адлюстраване якіх рэалізуецца з дапамогай пераважна найбольш частотных агульнаўжывальных слоў. Тым не менш намі выяўлена (непасрэдна ў беларускіх гаворках і ў апублікаваных дыялектных слоўніках) цэлая група фразеалагізмаў, структурным кампанентам якіх выступае этнонім ці адэтнонімны прыметнік. Амаль кожны з такіх фразеалагізмаў мае пазалінгвістычную аснову ўтварэння, матывуецца пэўнымі гістарычнымі фактамі і падзеямі. Так, фразеалагізм *рускі месяц,* які мае значэнне 'вельмі доўга, працяглы час' (СДФГ) узнік на тэрыторыі Беларусі ў мінулыя стагоддзі ў сувязі з розніцай адлюстравання датаў у календарах старога і новага стыляў. Да XVI ст. у Еўропе дзейнічаў юліянскі каляндар, уведзены з 45 г. да н.э. Юліем Цэзарам. Праз паўтара тычагоддзя 4 кастрычніка 1582 г. папам рымскім Грыгорыем XIII быў уведзены грыгарыянскі каляндар спачатку ў такіх краінах, як Іспанія, Італія, Партугалія, Вялікае Княства Літоўскае, Каралаеўства Польшча. Іншыя еўрапейскія краіны пераходзілі на новы стыль пазней. У Расіі грыгарыянскі каляндар быў уведзены дэкрэтам Саўнаркама і падпісаны У.І. Леніным толькі 26 студзеня 1918 г. У каталіцкай і праваслаўнай рэлігіях розніца ў календары захавалася. Адно і тое свята ў праваслаўных (рускіх) святкуецца на 14 дзён пазней. Складваецца ўражанне, што яго трэба чакаць намнога даўжэй, чым каталіцкае свята. Такія ўяўленні і спарадзілі фразеалагізм *рускі месяц.* Ён занатаваны М. Федароўскім у XIX ст. (Fed.) і ўнаш час у гаворках Гродзенскага, Астравецкага, Воранаўскага, Міёрскага раёнаў: *Гэта ш трэбо! Цэлы рускі месяц тырчаў там без работы.* Старая Дубавая Гродз. *Дай ёй падшыць штаны, а яна рускі месяц будзе іх рабіць.* Паляцкішкі Воран. *Памажы ты яму, то будзя рабіць рускі месяц.* Варняны Астр. (СДФГ). *Ай, ужо рускі месяц, як Генька паехаўшы і ўсё нет.* Дзісна Міёр. (Кр.).

Падобная неадпаведнасць ляжыць і ў аснове фразеалагізма *як польская вярста*, які мае значэнне ‘вельмі марудна, доўга (адбываецa, робіцца, цягнецца што-н.)’. У Расіі з канца XVIII ст. і да ўвядзення метрычнай сістэмы вярста (руская) раўнялася 1066, 781 м. У Вялікім Княстве Літоўскім, якое знаходзілася ў складзе Рэчы Паспалітай, была іншая, значна даўжэйшая, вярста (польская), а дакладней, два віды вярсты – малая, роўная 1559,7 м і вялікая, роўная 1948,2 м. Фразеалагізм *як польская вярста* ўзнік у той адносна далёкі час і захаваўся да нашых дзён, занатаваны намі ад жыхара Слонімшчыны ў 2013 годзе: *У бальніцы так марудна праходзіць дзень, цягнецца як польская вярста.* Слонім Сл.

Этнанімічны кампанент *польскі* сустракаецца і ў такіх фразеалагізмах: *польскім пярунам* ‘вельмі хутка’ (СДФГ), *на польскія Акцябарскія* ‘невядома калі, ніколі’. Другі фразеалагізм звязаны са святам у Савецкім Саюзе ў гонар Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года, якое мае ў гаворках назву *Акцябарскія.* У сацыялістычнай Польшчы гэтае свята афіцыйна не было ўзаконена і не адзначалася, адсюль – нерэальны вобраз і іранічна-жартаўлівая канатацыя фразеалагізма: *Калі ты ўжэ да міне ў госьці прыедзяш? Мусі, на польскія Акцябарскія?* Талькаўцы Ваўк.

У шэрагу фразеалагізмаў замацаваліся іншыя назвы народаў, з якімі беларусы кантактавалі ці мелі з імі гандлёвыя, культурныя стасункі або ваенныя канфлікты.

З этнонімам *маскаль* фразеалагізмы склаліся ў мінулыя стагоддзі. Гэтае слова суадносілася з прадстаўніком Маскоўскай дзяржавы, а ў XVIII–XIX стст. атрымала сэнсавае прырашчэнне ‘салдат расійскага войска’. Фразеалагізмы з гэтым кампанентам маюць пераважна адмоўную эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку: *муціць ваду як маскаль у сяле* ‘ўносіць разлад, беспарадак у адносіны паміж кім-н.’ (Шпил., В.), *пусціць маскаля* ‘спадцішка сапсаваць паветра’ (Спонды Астр.), *як маскаль* ‘здаровая, энергічная, прадпрымальная (жанчына)’ (СНМ). Параўн. у прыказках: *Хто хоча гора зажыць, няхай ідзе ў маскалі служыць* (ПП-1). *Маскаль не вялікі пан, ды ў яго барабан* (ПП-1).

Усе ваенныя дзеянні, што праходзілі праз Беларусь, пакінулі след у фразеалогіі. Войны са шведамі, французамі, немцамі знайшлі адбітак у такіх фразеалагізмах:

*як швед пад Палтавай* ‘зусім, канчаткова (прапасці)’ (Нос.) – утвораны на падставе гістарычнай падзеі – бітвы са шведскімі войскамі, якая адбылася 27 чэрвеня 1709 г. пад Палтавай і закончылася перамогай над шведамі [2, с. 443].

(разнесла) *як шведску гару* каго ‘вельмі моцна (растаўсцеў ці апух хто-н.)’ (Улезлы Ваўк.) – у Беларусі многія курганы і пагоркі маюць тапанімічную назву Шведская гара, у якіх, паводле падання, знаходзяцца пахаванні загінулых шведскіх салдатаў.

*як сем немцаў* ‘вельмі (дурны, неразумны)’ (СДФГ) – фразеалагізм узнік як негатыўная рэакцыя на немца – фашысцкага акупанта ў Другой сусветнай вайне.

*гітля нямецкая* ‘вельмі злосная, лютая жанчына’ (Ходараўцы Лід.) – у вобразнай аснове фразеалагізма ўяўленне пра кіраўніка нямецкай дзяржавы Гітлера ў часы Другой сусветнай вайны.

*як Кутуз пранцуза* ‘рашуча, смела (прагнаць, выгнаць каго-н.)’ (СДФГ, Рап.) – засведчана роля знакамітага рускага палкаводца Кутузава, які праславіўся ў французска-рускай вайне 1812 г.

Асаблівасці менталітэту, быту, культурных і рэлігійных традыцый іншых этнасаў адлюстраваны ў такіх фразеалагізмах: *язык што цэп літоўскі* ў каго ‘хто-н. празмерна

балбатлівы’ (Рудзішкі Ашм.), *як карова ляндэрская* ‘вельмі тоўсты хто-н.’, ‘нязграбна, няўклюдна (паводзіць сябе)’, ‘без справы, без дбання (ляжаць)’, ‘вельмі моцна, уголас (плакаць, раўці)’ (*ляндэрская* < польск. holenderska ‘галандская’) (СДФГ), *як у латыша хрэн ды душа* ў каго ‘нічога няма ў каго-н., хто-н. вельмі бедны’ (СДФГ), *голы як святы турэцкі* ‘вельмі бедны, нічога не мае’ (Бабіна Гродз.), *як сто кітайцаў* ‘вельмі, празмерна (галодны, прагаладацца, хацець есці і пад.)’, ‘занадта, празмерна (хітры хто-н.’) (ЗНФ), (навязлівы) *як татары* ‘вельмі (назойлівы, настырны)’ (Нос.).

Высокай фразеаўтваральнай актыўнасцю характарызуюцца этнонімы, якія называюць тыя нацыянальныя супольнасці, што пражывалі разам з беларусамі на працягу доўгага гістарычнага часу. Гэта найперш цыганы і яўрэі.

Этнічныя групы цыганоў на землі беларусі перавандравалі ў XV ст. праз Германію і Польшчу, а ў XVI – пач. XVII стст. – з Венгрыі. Займаліся пераважна рамёствамі, гандлем. Фразеалагізмы занатавалі найбольш характэрныя фрагменты жыцця і дзейнасці цыганоў, напрыклад:

Вандроўны спосаб жыцця: *як цыганская каза на вазах* ‘безупынна і без толку (хадзіць, цягацца і пад.)’ (СДФГ), *як цыганская пуга* ‘пастаянна і без справы, без толку (хадзіць, цягацца і пад.)’ (СДФГ).

Смуглы колер твару: (твар) *шчо з цыганского воза зняты* ‘смуглы, загарэлы (твар)’ (Ем.), *чорны цыган на душэ* ў каго ‘хто-н. цяжка перажывае’ (СПЗБ-5).

Адносіны да коней: *як цыган да коней* ‘вельмі (прыстаць, прычапіцца да каго-н.)’ (Вораўшчына Іўеў.), (любіць) *як цыган сляпую кабылу* ‘зусім не (любіць)’(СДФГ, ППФВ).

Гандаль: (гандляваць) *як цыган коньмі* ‘вельмі актыўна (гандляваць, абменьвацца рэчамі)’ (Вішнева Смарг.), *як цыган на кермашы* ‘вельмі (круціцца)’ (В), (залівацца) *як цыган сыраваткай* ‘моцна, без прычыны (смяяцца)’ (СГВ).

Заняткі, гаданне, варажба, мастацкая самадзейнасць: *як цыганскі трапач* ‘няшчыры, хлуслівы хто-н.’ (СДФГ), (ісці) *у цыганы* ’(ісці) на народны вясельны абрад, прыбраўшыся пад «цыганоў» ’ (ЗНФ), *цыганскае сонца* ‘месяц, начное свяціла’ (Бародзічы Зэльв.) – «выраз адлюстроўвае даўнейшы быт цыганоў, якія начавалі ў шатрах або пад адкрытым небам, пераязджалі на новае месца, асабліва ў гарачую летнюю пару, пры святле месяца і для якіх «ноч – матка: усё гладка» (намёк на крадзеж коней)» [2, 403], *цыганскі пот (цыганскія поты)* ‘дрыжыкі ад холаду’ (Fed.).

Яўрэйскі этнас стаў матывам утварэння значна большай колькасці фразеалагізмаў, чым цыганскі. І гэта зразумела. Цыганы вялі больш адасоблены, аддалена-вандроўны і замкнёны лад жыцця. Яўрэі амаль ва ўсіх сферах цесна супрацоўнічалі з беларусамі. Першыя яўрэйскія абшчыны з’явіліся ў Беларусі ў канцы XIV ст. У далейшым, перасяляючыся з Германіі і Польшчы, яўрэі папоўнілі колькасць жыхароў беларускіх мястэчкаў. Шэсць стагоддзяў сумеснага пражывання сталі глебай, на якой вырасла немалая колькасць фразеалагізмаў на яўрэйскую тэматыку. Нас тут цікавяць толькі тыя, што ўтрымліваюць у сваім складзе кампанент-этнонім. Перш чым пазнаёміць з імі, варта коратка закрануць пытанне гісторыі этнічнай назвы яўрэяў на ўсходнеславаянскай тэрыторыі. Для называння прадстаўніка яўрэйскай нацыі існуюць два словы – *яўрэй* і *жыд.* Абодва яны паходзяць са старажытнаяўрэйскай мовы і доўгі час суіснавалі, выражаючы толькі этнічны сэнс.

У Расійскай імперыі ў мінулыя стагоддзі слова *жыд* стала набываць новыя значэнні з адмоўнай канатацыяй і таму пачало выцясняцца з афіцыйнага ўжытку. У 1787 г. пры наведванні Екацярынай II горада Шклова мясцовыя яўрэі перадалі ёй зварот, у якім была просьба забараніць ужываць у афіцыйных дакументах слова *жыды*. Екацярына задаволіла просьбу, прадпісаўшы выкарыстоўваць у афіцыйных паперах толькі слова *яўрэй.* Аднак яшчэ доўгі час абедзве назвы суіснавалі. Толькі пасля рэвалюцыі 1917 г. слова *жыд* на тэрыторыі Савецкага Саюза было цалкам выдалена з афіцыйнага звароту. У многіх іншых мовах, напрыклад заходнеславянскіх, літоўскай, венгерскай, слова *жыд* не мае негатыўнага адцення, выкарыстоўваецца ў афіцыйных зносінах з этнонімным значэннем.

У беларускай дыялектнай мове і сёння выкарыстоўваюцца паралельна як ідэнтычныя абедзве назвы, хаця назіраецца тэндэнцыя да большай актывізацыі слова *яўрэй.* Аднак з гэтым словам у гаворках не выяўлена ніводнага фразеалагізма. Усе фразеалагічныя адзінкі гэтай групы, зафіксаваныя ў розных рэгіёнах Беларусі, маюць у сваёй стуктуры толькі слова *жыд.* Яны адлюстроўваюць розныя тыповыя праявы жыцця яўрэйскага насельніцтва:

Гандаль: (таргуецца) *як жыд* (Fed.), *як на жыдавым возе* ‘вельмі многа розных рэчаў, размешчаных абы-як, у беспарадку’ (СДФГ), *як у жыда ў торбе* ‘вялікі беспарадак дзе-н., у чым-н.’ (СДФГ), (грошай) *як у жыда* (Fed.), (распусціўся) *як жыдоўска панчоха* ‘вельмі, празмерна (распусціўся)’ (Fed.), *жыдоўская крэнтасць-мэнтасць* ‘хітрыкі, знаходлівасць’ (Fed.), *як жыд на мякіне* ‘зусім нічога ці амаль нічога не (зарабіць)’ (СДФГ), *як жыд перцу*‘вельмі мала, шкадуючы (даць чаго-н.) (СДФГ), *як жыдоўскі пачакай* ‘тое, што не хутка будзе выканана, чаго доўга чакаць’ (СДФГ).

Праца: (лётаць) *як жыд бровар запаліўшы* ‘вельмі жвава, хутка’ (СНМ), *як жыду з гары едучы* ‘вельмі (пашанцавала)’, ‘зусім не (пашанцавала)’ (СДФГ), *як жыд з подранікам*і ‘бяссэнсава, недарэчна (хадзіць, насіцца з чым-н.)’ (СДФГ), (рабіць) *на жыда* ‘бясплатна (рабіць, выконваць якую-н. працу)’ (Бабіна Гродз.).

Рэлігія, вераванні: *трэсціся як жыд над кучай* над чым ‘хваляваецца за што-н., берагчы што-н.’ (СДФГ), (трэсціся) *як жыд на басіне* ‘моцна (трэсціся, дрыжаць)’ (Пеляса Воран.), *сёмы рачок ад жыдоўскіх кучок* ‘вельмі доўга’ (Fed.), (верыць) *як жыд в дзесянцеро* ‘зусім не (верыць)’ (Fed.), *як жыды ў школе, як у жыдавай школе* – ‘вельмі моцна (крычаць, галасаваць)’ (Fed.), (набожны) *як жыд падарожны* ‘зусім не (набожны)’ (Fed.).

Дачыненне да Бібліі: (спадзявацца) *як жыды на Масьяша* ‘вельмі’ (Fed.), (мэнчыць) *як жыд пана Езуса* ‘вельмі’ (Fed.), (ашукаць) *як жыд пана Бога* ‘вельмі, зусім (ашукаць)’(Fed.), (б’юць) *як жыды Гамана* ‘вельмі моцна (б’юць)’ (Fed.), *як жыд пад асінаю* ‘ціха, непрыкметна (сядзець)’ (Мяшэтнікі Маст.)

Узаемаадносіны, сям’я: (заўзімацца) *як жыды за жыдамі* (Fed.), (рады) *як жыд з першага дзіцяці* ‘вельмі (рады)’ (Амбілеўцы Шчуч.).

Асобную падгрупу складаюць дзіцячыя фразеалагізмы: *вазіць жыдоў* ‘седзячы, матляць спушчанымі ўніз нагамі’ (Барoдзічы Зэльв.), *жыда пасадзіць* ‘зрабіць кляксу пры пісьме чарнілам’ (Fed.), *аддам жыду* ‘пагроза-запалохванне дзіцяці’ (Fed.).

Цікавую падгрупу складаюць фразеалагізмы, у якіх у значэнні этноніма выкарыстоўваецца тыпізаваныя ўласныя яўрэйскія імёны *Абрам, Бэрак (Бэрка), Іцка, Лейзар, Лейба, Сора* і інш.: *як у Бэрка ў возе* ‘брудна, непрыбрана’ (Шыганы Сл.), (пара-

дак) *як у бэркавым возе (бэркавых калёсах)* ‘зусім не (парадак)’ (Вас.), *як у Бэрка ў шапе* ‘вельмі многа ўсяго’ (Купіск Навагр.), *як у Іцка ў торбе* ‘шмат непатрэбнага’ (Уселюб Навагр.), *як лейзарава карова* ‘без справы, без сур’ёзнага занятку (хадзіць, цягацца і пад.)’ (СДФГ), *з Лейзарам прывітаўся (бачыўся)* ‘напіўся’ (Fed.), (падыходзіць) *як лейбіны штаны* ‘зусім не (падыходзіць) (пра адзенне)’ (Альбярцін Сл.), *як Сора за мора* ‘вельмі марудна, не спяшаючыся (збірацца куды-н.)’, ‘павольна, нага за нагу (ісці)’ (СДФГ).

На падставе прааналізаванага можна зрабіць высновы, што фразеалагізмы з этнанімічным кампанентам маюць звычайна выразную пазамоўную матывацыю, яны засведчылі фрагменты з жыцця і дзейнасці іншых этнасаў. У фразеалагізмах разам з адлюстраваннем іншых этнасаў адначасова выражаюцца і адносіны да іх з боку беларусаў. Гэтыя адносіны не маюць варожага, прыніжальнага характару ў дачыненні да людзей не сваёй этнічнай ці рэлігійнай прыналежнасці, акрамя тых выпадкаў, калі прадстаўнікі чужых народаў прыходзілі з захопніцкімі, разбуральнымі мэтамі.

*Літаратура*

1.Беларуская мова : энцыкл. / Беларус. Энцыкл.; пад рэд. А.Я. Міхневіча; рэдкал. : Б.І. Сачанка [гал. рэд.] і інш. – Мінск : БелЭн, 1994. – 655 с. : іл.

2. Лепешаў, І.Я. Этымаагічны слоўнік фразеалагізмаў / І.Я. Лепешаў. – Мінск : БелЭн, 2004. – 448 с.

---

*Артыкул падрыхтаваны для зборніка «Шлях да ўзаемнасці».*

## ВЯЛІКАЯ ЛІТАРА І БОГ У ФРАЗЕАЛОГІІ

Структурнымі кампанентамі фразеалагізмаў могуць выступаць не толькі агульныя, але і ўласныя назоўнікі: асабовыя імёны, прозвішчы, мянушкі (*ад Адама* ‘з даўніх часоў’, *як збянтэжаны Саўка* ‘разгублены, прыгнечаны, устрывожаны’, *як Ленін на буржуазію* ‘непрыязна ці з нянавісцю, з агідай (глядзець на каго-н.’); тапанімічныя назвы (*як дзязька ў Вільні* ‘збянтэжана, непрывычна, ніякавата (адчуваць сябе, паводзіць сябе)’, *аж у Крычаве чуваць* ‘вельмі моцна (крычаць)’, *цуд над Віслай* ‘выказванне дзіўлення, радасці, захаплення нечым незвычайным, неверагодным’); клічкі жывёл (набрацца *як Мурза маслянкі (жому, заціркі, кішак, костак)* ‘вельмі моцна, празмерна (напіцца)’); і інш.

Даследчыкі фразеалогіі вызначылі, што «ўласнае імя можа стаць кампанентам фразеалагічнай адзінкі толькі зведаўшы якасны зрух у сваёй структуры. Апошні абумоўлены ўласцівасцю анома да апелятывізацыі» [1, с. 74], да функцыянавання «ў якасці агульнага без змянення формы» [2, с. 9]. Становячыся часткай фразеалагічнай адзінкі, «імя ўласнае траціць сувязь з канкрэтнай асобай ці аб’ектам, г.зн. вычэрпвае сваю анамастычную функцыю. Яно перастае быць «перадачай гранічнай адзінкавасці» … і пачынае абагульняць, значыць, выконвае функцыю імя агульнага» [3, с. 60].

У шэрагу фразеалагізмаў уласныя імёны гранічна набліжаюцца да агульных, яны «не напоўнены канкрэтна-семантычна, а маюць структурнае значэнне элемента фразеалагізма, так сказаць, гэта элемент канструкцыі, які падтрымлівае фразеалагічнае значэнне» [4, с. 65 – 66]: *не па Сеньку шапка, валяць Ваньку, Міцькам звалі.* Функцыянальная блізкасць уласнага і агульнага імёнаў пацвярджаецца магчымасцю іх

сінанімічнай замены: *валяць Ваньку – валяць дурня.* Сведчаннем страты індывідуальных анамастычных асаблівасцей кампанента з'яўляецца таксама варыянтная замена аднаго ўласнага імя другім: *не па Сеньку (Хомку, Юрку) шапка.*

Гэтыя навуковыя высновы паказалі супярэчнасць паміж зместам анамастычнага кампанента і перадачай яго на пісьме з вялікай літары. Працэсы апелятывізацыі і дэактуалізацыі анамастычнага кампанента прывялі некаторых вучоных (В.П. Жукаў, А.В. Жукаў, І.Я. Лепешаў і інш.) да думкі, што яго, незалежна ад ступені пераасэнсавання, трэба ў фразеалагізмах пісаць з малой літары: «Кампанент (з былога ўласнага назоўніка) не мае ў складзе фразеалагізма свайго самастойнага значэння і павінен пісацца з малой літары, калі трымацца логікі, а не традыцыі і «фанетычнага кансерватызму» (Л.А. Булахоўскі) у арфаграфіі» [5, с. 253]. «Напісанне такіх кампанентаў з вялікай літары перашкаджае ўспрыманню фразеалагізма, бо штучна нібы аднаўляе этымалагічнае значэнне яго частак – асобных слоў, без патрэбы актуалізуе гэтыя часткі» [6, с. 156].

Рабіліся спробы ідэю перадачы анамастычнага кампанента фразеалагізма на пісьме з малой літары ажыццявіць на практыцы. Так, у «Школьным фразеалагічным слоўніку рускай мовы» У.П. Жукава [7] усе кампаненты фразеалагізмаў тыпу *куда макар телят не гонял, мукі тантала, как швед под полтавой* напісаны з малой літары. Аднак жывая школьная практыка, відаць, не ўспрыняла гэтага эксперыменту: у наступных выданнях слоўніка [8] уласныя імёны ў фразеалагізмах даюцца ўжо з вялікай літары: *куда Макар телят не гонял, как швед под Полтавой, мукі Тантала.*

З навуковага пункту гледжання прыведзеныя вышэй сцверджанні навукоўцаў абгрунтаваныя і слушныя. Аднак увасабляць іх у арфаграфічную практыку, нам думаецца, непажадана. Як бы ні пераасэнсоўваўся анамастычны кампанент у фразеалагізме, усё роўна ў абсалютнай большасці выпадкаў ён асацыятыўна суадносіцца з уласнай назвай, у той ці іншай меры захоўвае сваё этымалагічнае, энцыклапедычнае значэнне, асабліва калі адпавядае канкрэтнай гістарычнай асобе, персанажу, аб'екту: *адпраўляць у штаб Духоніна* 'расстрэльваць', *прайсці Крым і Рым* 'зведаць шмат чаго ў жыцці, набыць вялікі жыццёвы вопыт у розных складаных сітуацыях, выпрабаваннях', *на Гімалаі адправіць* 'забіць, умярцвіць каго-н.', *як у Нёман кануў* 'прапаў, знік, не прыходзіць куды-н.'

Арыентацыя на напісанне тых самых уласных імёнаў па-за фразеалагізмам з вялікай, а ў фразеалагізме з малой літары непазбежна прывяла б да блытаніны і шматлікіх памылак, асабліва пры выкарыстанні фразеалагізмаў не філолагамі, а людзьмі іншага занятку, вучнямі. Дый самі навукоўцы-фразеолагі ці паразумеліся б. Яны да гэтага часу не прыйшлі да згоды адносна аб'ёму і межаў фразеалогіі. Адны разумеюць яе шырока, другія вузка. Калі б было прынята правіла пра напісанне анамастычнага кампанента з малой літары, тады б «шырокія» фразеолагі ў выразах *клятва Гіпакрата, хвароба святога Валянціна,* прызнаючы іх фразеалагізмамі, назоўнікавы кампанент пісалі б з малой літары, а «вузкія» фразеолагі, не лічачы выразы фразеалагічнымі, – з вялікай літары.

На нашу думку, незалежна ад ступені пераўтварэння ўласнага імя ў складзе фразеалагізмаў мэтазгодна перадаваць яго на пісьме з вялікай літары, інакш арфаграфія ўскладніцца дадатковымі правіламі, а пісьмовая практыка выкарыстання фразеалагізмаў рызыкуе стаць нестабільнай. Выказаныя аргументы не пярэчаць такому прынцыпу

арфаграфіі, як традыцыйны, здольны у гэтым выпадку уніфікаваць, забяспечыць аднастайнасць і зручнасць напісання анамастычных кампанентаў рознай якасці.

У новых «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» [9] пра напісанне анамастычнага назоўнікавага кампанента фразеалагізмаў спецыяльнае правіла адсутнічае. Трэба думаць, гэта азначае, што тут дзейнічае агульнае правіла для онімаў, г.зн. і асабовыя, і геаграфічныя, і рэлігійныя, і інш. уласныя найменні павінны перадавацца і ў фразеалагізмах з вялікай літары. З такім вырашэннем праблемы ў цэлым можна пагадзіцца.

Прывядзём прыклады фразеалагізмаў з уласным  назоўнікам, цікавых сваёй вобразнасцю, этымалагічнай асновай, якія пакуль што не сталі фактамі слоўнікаў літаратурнай мовы, але актыўна ўжываюцца ў беларускіх гаворках: *аж Вільня відаць* ‘1) вельмі кіслая (страва), 2) вельмі рэдкая (страва)’, (на нажы) *у Вільню можна заехаць* ‘тупы, ненавостраны (нож)’, *аж Варшаву відно* ‘непрыемна кіслая, горкая ці вострая страва’, *Маскву паказаць* каму ‘падняць каго-н. (звычайна дзіця) угору, узяўшы за галаву далонямі да вушэй’, *за капейку вош (блыху) у Маскву пагоніць* ‘вельмі дробязны ў сваёй скупасці, прагнасці, сквапнасці’, *як свіння ў Бранску* ‘зусім не (разумны)’, *адна нага ў Мінск, а другая ў Дзвінск* ‘хто-н. крываногі’, *адно вока ў Альшаны, а другое ў Ашмяны* ‘хто-н. касавокі’, *пайсці ў Магілёў* ‘памерці’, *як Гродна* ‘вельмі (стары, старадаўні)’, *на Карэлічы пайшлі* ‘брудныя, заношаныя, карэлыя (шкарпэткі)’, (гэта будзе) *як у Слоніме танк выстраліць* ‘невядома калі, а можа і ніколі’, *яшчэ ў Пінску не была* ‘нясоленая, недасоленая (страва)’, *паехаць у Храпянёва* ‘спаць пераважна з храпам’, *трапіць у Палястыну* ‘памерці’, *поўны Кітай* ‘вельмі многа (людзей)’, *праляцець як фанера над Парыжам* ‘пацярпець няўдачу’, *Вавілён зарос* у каго ‘ў каго-н. страцілася цікавасць да супрацьлеглага полу (пра мужчыну)’, *як Дунай* ‘вельмі прыгожая, прыемная з выгляду, у росквіце (звычайна дзяўчына)’, (цікавы) *як Марцін да кавы* ‘вельмі, празмерна (цікаўны)’, (харошы) *як люлька ў Адошы* ‘зусім не (харошы)’, *Кузьма Грышку родны Фёдар* ‘вельмі далёкі сваяк’, *Ванька, Пецька ды Калупай з братам* ‘група людзей, неаднародных па якіх-н. прыкметах’, *пайсці да Абрама авечкі пасвіць* ‘памерці’, *як Лазар* ‘вельмі хворы’, (планы) *як у Гітлера* ‘вельмі вялікія (планы)’, *даставай Язэп гармонік* ‘як прапанова, просьба, загад пачаць якую-н. справу’, (ганяць) *як Марку па пекле* ‘раз-пораз, не шкадуючы (пасылаць каго-н. куды-н., прымушаць каго-н. рабіць што-н.)’, (спяваць) *як воўк на Грамніцы* ‘непрыгожа, непрыемна (спяваць)’, *як на Вялікдзень, як на Куццю* – ‘вельмі многа, сытна, уволю (наесціся, пад’есці)’, *як лёд на Пятра* ‘зусім нетрывалае, ненадзейнае што-н.’, *Барыс Ганне на хлеб (на пірагі) меле* ‘ноч навальнічная ў канцы лета’, (уляпацца) *як Мурза ў зацірку* ‘вельмі моцна (закахацца ў каго-н.)’.

Варта асобна спыніцца на фразеалагізмах, у структуру якіх уваходзіць кампанент *Бог.* Традыцыйна на  мовах розных народаў слова *Бог* ў фразеалагізмах і прыказках на пісьме перадавалася і перадаецца з вялікай літары. Параўн. польскае *jak u pana Boga za piecem* – як у пана Бога за печчу, літоўскае *aciu Dievui* – дзякуй Богу, нямецкае *Dieu mengarde* – Божа збаў. Так было і ў беларускай мове дарэвалюцыйнага перыяду. Аднак у XX ст. у часы бальшавіцкага атэізму ў рэспубліках Савецкага Саюза праводзілася рашучая барацьба з рэлігіяй – «опіумам для народа». Закранула яна і слова *Бог.* Лексікографы старэйшага пакалення добра памятаюць, як цэнзура пільна адсочвала, каб у слоўнікі не пранікалі «божыя» словы і выразы. А у тых устойлівых зваротах, якія

з-за сваёй шырокай ужывальнасці ўсё ж такі траплялі на старонкі слоўнікаў, капанет *Бог* пачынаўся з малой літары: *не дай бог, бог з ім, хай бог бароніць.*

У апошнія дзесяцігоддзі, калі атэістычная палітыка зрабілася фактам гісторыі, слова *Бог* у пісьмовых крыніцах стала ўжывацца значна часцей, але выявіўся разнабой у яго напісанні, асабліва ў фразеалагізмах. Адны сталі прыхільнікамі вялікай літары ў гэтым слове, другія засталіся паслядоўнікамі савецкай традыцыі, трэція пачалі шукаць залатую сярэдзіну, абгрунтоўваючы розныя напісанні, матываваныя пэўнымі крытэрыямі. Напрыклад, І.Я. Лепешаў праводзіць ідэю, што не ва ўсіх фразеалагізмах кампанент *Бог* варта пачынаць з вялікай літары. Адносна прыкладаў *ў бога цяля ўкраў, браць бога за бараду* і інш. ён зазначае: «Неяк рука не падымаецца пісаць вялікую літару ў гэтых цікавых, арыгінальных народных знаходках. І не толькі ў гэтых» [6, с. 155–156].

Падобную няпэўнасць знаходзім і ў новых «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», дзе адзначаецца, што найменні найвышэйшых боствaў у рэлігійных культах, а таксама ўсе словы ў спалучэннях, якія змяшчаюць гэтыя назвы, пішуцца з вялікай літары: *Бог, Гасподзь, Усявышні, Уладыка Нябесны, Усемагутны Бог* і інш. Але з малой літары слова *бог (гасподзь)* трэба пісаць «ва ўстойлівых выразах, звязаных з выказваннем розных пачуццяў у прастамоўі, а не са зваротам да Бога паводле рэлігійнай абраднасці і ўяўленняў: *бог яго ведае, божа (божачка) ты мой, божа збаў, дай божа, крый бог (божа), не давядзі бог (божа, госпадзі), ратуй божа, дзякаваць (дзякуй) богу (табе, госпадзі), бог з табой (з ім, з вамі)»* [9, с. 45].

Другая частка гэтага правіла нам падаецца нейкай неакрэсленай, невыразнай з пункту гледжання логікі, культуры маўлення. Які сэнс укладваецца ў тэрмін «прастамоўе»? Калі маецца на ўвазе стылявая разнавіднась, то выходзіць, што ў аснову размежавання пакладзены крытэрый – стылістычнае значэнне фразеалагізма. Атрымліваецца, што калі выраз стылістычна нейтральны або калі ён належыць да кніжнага, высокага стылю, то слова *Бог* у ім трэба пісаць з вялікай літары (*Бог суддзя* каму). Калі ж выраз прастамоўны (дарэчы, ніводзін з пералічаных у правіле фразеалагімаў нельга назваць прастамоўным, усе яны належаць хутчэй да размоўнага стылю), то ў ім кампанент *Бог* прэтэндуе на малую літару (*бог бацька*).

А ці заўсёды проста  ўлавіць розніцу паміж зваротам і «не зваротам» да Бога? Параўн.: *Дай, Божа, мне здароўя; Дай Божа табе здароўя*. Этымалагічна ўсе прыведзеныя вышэй фразеалагізмы звязаны са зваротам да Бога.

А што значыць «…з выказваннем розных пачуццяў…»? Розныя пачуцці і волевыяўленні выражаюць выклічнікавыя фразеалагізмы, а сярод «божых» фразеалагізмаў пераважаюць якраз не выклічнікавыя, а тыя фразеалагізмы, што абазначаюць канкрэтныя паняцці, напрыклад: *Бог яго ведае* ‘невядома’, *Бог паслаў* ‘пашчасціла займець’, *давай Бог ногі* ‘паспешліва пабег’, *не Бог ведае хто* ‘не вельмі значны, не асабліва важны’.

На наш погляд, вызначальным пры напісанні павінен быць зусім іншы, вельмі зразумелы кожнаму крытэрый. Неабходна мець на ўвазе сімвальнае значэнне кампанента. Калі кампанент *Бог* сімвалізуе адну вярхоўную істоту, што стварыла свет, і не суадносіцца ні з якім іншым богам ці багамі, то яго трэба пісаць у фразеалагізмах і стылітычна нейтральных, і кніжных, і размоўных, і прастамоўных з вялікай літары. Адпаведна гэтаму ў абсалютнай большасці фразеалагізмаў слова *Бог* трэба перада-

ваць на пісьме з вялікай літары. Выключэннем будуць нешматлікія фразеалагізмы, дзе фігуруе нейкі іншы бог ці багі, тыпу *бачыць шклянога бога, бог вайны, двум багам маліцца.* Гэта міжнародная лінгвістычная практыка. І нам добра было б яе пільнавацца, нягледзячы на тое што пазбавіцца ад стэрэатыпаў і традыцый савецкай эпохі не так проста і лёгка.

Беларуская літаратурная мова налічвае шмат фразеалагізмаў з кампанентам *Бог,* пра што сведчаць фразеалагічныя слоўнікі І.Я. Лепешава. Значным дапаўненнем могуць выступаць фразеалагізмы беларускай дыялектнай мовы, не адлюстраваныя ў літаратурных слоўніках. Вось некаторыя найлепшыя прыклады: *адзін Бог дагледае* каго‘ хто-н. не мае ніякай падтрымкі з боку іншых’, *адзін Бог і святая карчма ведае* ‘нікому невядома’, *Бог ваду вязе* ‘дажджлівае, з грымотамі і маланкай надвор’е’, *Бог ёсць* на што ‘што-н. вырашаецца незалежна ад волі каго-н., так, як наканавана лёсам’, *Бог палаткі мяце (змятае)* ‘снежнае надвор’е з мяцеліцай, завірухай’, *Бог стаяў* каля каго ‘на шчасце, нічога дрэннага не здарылася з кім-н., закончылася добра, пашанцавала’, *Бог хавае* каго ‘жыве хто-н., жывецца каму-н.’, *за мілы Бог* ‘з вялікай ахвотай, з прыемнасцю (зрабіць што-н.)’, *зрабіў Бог* каго *і горка заплакаў* ‘хто-н. кепскі, нядобры’, *каб цябе Бог любіў* ‘незласлівае ўшчуванне каго-н.’, *няхай сам Бог бачыць* ‘выказванне катэгарычнага нежадання бачыць што-н., быць сведкам чаго-н.’, *хай Бог адхіляе* ‘выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага’, *Бога гнявіць ды людзей смяшыць* ‘рабіць што-н. кепскае’, *дабеглы да Бога як дзяліў* ‘вельмі разумны, удалы’, (пайсці) *і Бога забыць* ‘доўга не вяртацца адкуль-н.’, *не апошні ў Бога* ‘не самы горшы, мае нейкую вартасць’, *пайсці да Бога ў госці ‘п*амерці, пакінуць гэты свет, *у Бога варты (годны)* ‘добры ва ўсіх адносінах, паважаны’, *з Богам дагавор падпісаць* (гумар.) ‘памерці’, *з Богам на ты* ‘прабіўны, даходны, разваротлівы, настырны хто-н.’, *як з Богам пагаварыў* ‘адчуў неверагодную палёгку пасля фізічнага недамагання ці маральна-псіхалагічнага напружання’, *голы-босы і Богу праціўны* ‘бедны, нічога не мае, нічога не нажыў’, *ані твой Божа.* ‘1) ніяк, зусім, 2) няздатны, някемлівы, нікуды не варты’,*і святы Божа не паможа* каму ‘1) няма ніякай надзеі на папраўку, выздараўленне каго-н., 2) няма ніякага выйсця з безвыходнага, безнадзейнага становішча’, *скінь ты Божа бомбу* (гумар.) ‘выказванне засцярогі ад чаго-н. нежаданага’.

Асобнай гаворкі заслугоўвае фразеалагізм *Бог жыве,* які, выкарыстоўваючыся ў пісьмовых крыніцах, часцей за ўсё сэнсава і сінтаксічна спалучаецца са словаформай *на Беларусі.* Аўтарства гэтага фразеалагізма звычайна прыпісваюць Уладзіміру Караткевічу і звязваюць з вершам паэта «На Беларусі Бог жыве», у якім выраз, акрамя загалоўка, ужыты яшчэ тройчы ў якасці рэфрэна: *«На Беларусі Бог жыве», – Так кажа мой просты народ. Тую праўду сцвярджае раса ў траве І адвечны зор карагод»; «І тая памяць жыве не ў царкве, А ў кожнай жыве галаве: «На Беларусі Бог жыве...» – І хай сабе жыве»; «І пра тое кожны пяе салавей Росным кветкам у роднай траве: «На Беларусі Бог жыве», – І няхай давек жыве».* Тое, што Уладзімір Караткевіч аўтар фразеалагізма, – гэта, канешне, перабольшванне. Правільным будзе сказаць, дзякуючы паэту, фразеалагізм увайшоў у шырокі літаратурны ўжытак, а сама фраза *На (У) Беларусі Бог жыве* набыла крылатасць, атрымала сацыяльную значнасць, нацыянальна-сакральную афарбоўку. Паўстае пытанне, калі Уладзімір Караткевіч сам не ствараў гэты фразеалагізм, то адкуль яго ўзяў. На наш погляд, ён мог пачэрпнуць фразеалагізм з дзвюх крыніц. Першая – помнік старабеларускага пісьменства. Рыхтуючыся да

напісання твораў на гістарычную тэматыку, Уладзмір Караткевіч чытаў, вывучаў шэраг твораў на старабеларускай мове. Напэўна, не абышоў ён і «Гістарычныя запіскі» Фёдара Еўлашэўскага (1564–1604), пісара навагрудскага суда. У адным з фрагментаў Запісак Ф. Еўлашэўскі апавядае пра рэлігійную талерантнасць на беларускай зямлі, апісвае канкрэтны выпадак пра тое, як італьянцы, наведаўшы Вільню і ўбачыўшы, што тут суседнічаюць розныя веры і прадстаўнікі розных рэлігій захоўваюць паміж сабой прыязныя адносіны, былі прыемна здзіўленыя гэтым і казалі, што тут Бог жыве. Падамо ўрывак на мове арыгінала: «Помню бовемъ и недавно прешлыхъ часовъ, когды дисейший папежъ Клеменсъ еще кардиналомъ былъ у короля его милости Стефана въ Вилне, седилемъ у столу кнезя Балтромея Недызвицкого, каноника виленского, зъ преднейшыми слугами (влохами) его, тые же се кгды доведали, жемъ евангеликъ, дивовались барзо, яко ме смелъ кнезь каноникъ на обедъ свой взывати, а кгды имъ онъ преложилъ, же въ насъ зъ того жадна ненависть не быва и милуемосе яко зъ добрыми приятылы, хвалили то влохи, мовечи, же ту Богъ живе; а ганили свои домовы права а роднии неснаски» [10, с. 282].

Другая крыніца, з якой Уладзімір Караткевіч мог узяць фразеалагізм, – гэта беларускія гаворкі. У дыялектнай мове (пераважна ў паўночна-заходняй частцы Беларусі – Віцебшчына, поўнач Міншчыны, Гродзеншчына) фразеалагізм ужываецца, калі гаворка заходзіць пра лад, парадак, утульнасць у хаце ці іншым памяшканні. У нашым «Дыялектным слоўніку Гродзеншчыны» ён фіксуецца з двума значэннямі – 1) ‘усё добра, лад і парадак (у хаце)’, 2) ‘вельмі цёпла, утульна (у хаце)’: *Гэто як мірна ў хаце жызьня, ні сварацца, ні б’юцца, то кажуць: вайдзі ў хату, то ў гэтай хаце Бог жыве.* Ваўкавічы Навагр. *У іхняй хаце ўсё добра, і дзеці добрыя, парадак, Бог жыве.* Капцёўка Гродз. *У гэтай хаце Бог жывець, а ў тэй такая дубарына.* Косцевічы Астр. [11, с. 29]. Фразеалагізм адзначаны і ў фальклорных выданнях: *У гэтай хаце яшчэ жыве Бог* ‘кажуць, калі ў зімовую сцюжу ў хаце цёпла’ [12, с. 124]; *Дзе жывуць тыкаўцы, там і Бог адступіўся, а дзе якаўцы, там Бог жыве* [13, с. 380]. Акамя Уладзіміра Караткевіча, у літаратурную мову гэты фразеалагізм унеслі і іншыя пісьменннікі (хутчэй са сваіх родных гаворак): *– Тут у вас Бог жыве, – казаў Марка [наконт] таго, што поле на пасёлку вельмі ж блізка: на ганку стаўшы, можна з самае дальшае нівы палуднаваць у хату клікаць. – Я кажу адно, што вельмі хораша ў вас.* Л. Калюга. *У хаце ў нас Бог жыве, а на вуліцы такая юга – свету белага не відаць.* Р. Барадулін.

З пункту гледжання народнай філасофіі слова *Бог* з’яўляецца сімвалам добрага, станоўчага, справядлівага. Антаганічным яму сімвалам выступае слова *чорт*. Нездарма гэтыя два словы часта выкарыстоўваюцца побач ва ўстойлівыых выразах адной мадэлі з супрацьлеглай канатацыяй ці пабудаваных на антытэзе: *Бог ведае што – чорт ведае што, Бог з табой – чорт з табой, Бог нясе – чорт нясе, Бог яго ведае – чорт яго ведае; ні Богу свечка ні чорту качарга.*

Пра тое, што фразеалагізм *Бог жыве* у беларускай мове замацаваўся досыць трывала, пацвярджаецца развіццём антанімічнай пары, утварэннем фразеалагізма з супрацьлеглым значэннем – *чорт жыве* дзе, у чым ‘сваркі, разлад, непарадак (у чыёй-н. хаце)’. Помніцца, упершыню фразеалагізм *чорт жыве* мне пашанцавала пачуць гадоў дваццаць пяць таму на Астравеччыне ў вёсачцы Горшавічы. У размове з мясцовым калгасным пастухом У. Васілеўскім пра жыццё-быццё, рыбацкія прыгоды, мясцовых людзей і фразеалагізмы я пачуў ад яго такую фразу: *«У гэтай хаце заўсёды чорт*

*жывець: крык, шум, сварка, у міры жыць ні могуць».* Неверагодна ўзрадаваны такой цікавай знаходкай, я асцярожна запытаў: *«А чаму чорт?»* У. Васілеўскі з уласцівай яму народна-філасофскай разважлівасцю адказаў: *«Ну як чаму... Калі ні Бог, то чорт, дзе німа Бога, там – чорт».*

Варта закрануць пытанне і пра прыметнікавыя ўтварэнні ад уласных імёнаў. Паводле правіла, з малой літары пішуцца «прыметнікі, утвораныя ад асабовых назваў, якія ўжываюцца ў складзе ўстойлівых спалучэнняў з назоўнікамі (фразеалагізмаў) або у складзе састаўных агульных назваў са значэннем адпаведнай адноснай прыметы: *эзопаўская (эзопава) мова, пірава перамога, ахілесава пята, танталавы мукі, шамякаў суд, бальзакаўскі ўзрост...»* [9, с. 43]. Гэтае правіла, усталяванае, і замацаванае практыкай, не выклікае якіх-небудзь пытанняў. У савецкую эпоху яно распаўсюджвалася і на прыметнікавае ўтварэнне ад слова *Бог – божы: божы свет, як божы дзень.* У наш час, калі адносіны да Бога змяніліся, фразеалагічны кампанент *божы* сталі пісаць то з вялікай, то з малой літары. Параўн.: *божый дэнь* [14, с. 27], *Божы свет* [15, с. 30].

У слоўніках іншых моў таксама няма аднастайнасці. Напрыклад, у нямецкіх і англійскіх слоўніках адпаведнікі нашаму прыметніку *божы* напісаны з вялікай літары: ням. *in Gottes Namen!* (літаральна у божае імя) – 'выказванне згоды', *um Gottes Lohn* (літар. за божую ўзнагароду) – 'рабіць што-н. дарма'; англ. *God's own country* (літар. божая краіна) – 'вельмі прыгожае месца, дзе ўсяго многа і дзе можна шчасліва жыць', *God's truth* (літар. божая праўда) – 'сапраўды так, на самай справе'. У рускіх і ўкраінскіх слоўніках кампанент *божы* падаецца пераважна з малой літары: *искра божья, іскра божа.* У польскай пісьмовай практыцы пішуць па-рознаму. Не выпадкова аўтарка «Польска-рускага фразеалагічнага слоўніка» К. Гюлумянц [16] у загалоўку слоўнікавых артыкулаў адлюстроўвае варыянтнае напісанне кампанента, напрыклад: *iskra boża (Boża)* [16, с. 487].

А якую норму прапануюць новыя «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі»? Чытаем: «З вялікай літары пішуцца ... прыметнікі, утвораныя ад слова *Бог: Божы (Боскі) суд, Божы (Боскі) храм, Божая (Боская) міласць»* [9, с. 44]. Трэба думаць, што правіла распаўсюджваецца і на фразеалагізмы, бо нідзе ў іншым месцы даведніка спецыяльна не гаворыцца пра ўжыванне прыметніка *Божы* ў складзе фразеалагізмаў. Хоць, канешне, назіраецца пэўнаая нелагічнасць: саму ўласную назву *Бог* у фразеалагізмах правілы патрабуюць пісаць з малой літары *(напрамілы бог)*, а ўтвораны ад яе прыметнік *Божы* – з вялікай літары *(Божай міласцю).*

Падводзячы рысу, можна адзначыць, што перадача ўласнага імя (у тым ліку міфоніма *Бог*) з вялікай літары ў фразеалагізмах не пярэчыць прынцыпам беларускай арфаграфіі і дазваляе захаваць арфаграфічнае адзінства і практычную зручнасць у напісанні. Што да прыметнікавага кампанента *божы,* то пытанне перадачы яго з вялікай ці з малой літары пакуль што застаецца адкрытым. Дзеля адзінства напісання хацелася б бачыць яго з малой літары, як і ў шэрагу іншых аналагічных з пункту гледжання лінгвістыкі выпадкаў тыпу *танталавы пакуты, як сідараву казу.* Аднак з пукту гледжання шаноўных, пакланяльных адносін да вобраза Бога як бы напрошваецца напісанне з вялікай літары: *Божы свет, на Божай пасцелі.* Думаецца, вырашыць гэтае пытанне магчыма шляхам грамадскай дамоўленасці, з улікам меркаванняў не толькі лінгвістаў, але і прадстаўнікоў іншых сфер, у тым ліку рэлігійнай. Неабходна

прааналізаваць арфаграфічную традыцыю старабеларускага, дасавецкага перыяду, канфесійную літаратуру на беларускай мове і праваслаўнай, і каталіцкай веры.

### *Літаратура*

1.Охштат, Р.И. Об одном аспекте сопоставительного анализа фразеологизмов, содержащих ономастический компонент Р.И. Охштат // Труды Самаркандского гос. ун-та им. А. Навои. Новая серия; редкол.: И.В. Абрамец (отв. ред.) [и др.]. – Самарканд, 1976. – Вып. 344: Вопросы фразеологии. Х. – С. 72–78.

2. Болотов, В.И. Актуализация антропонимов в речи: автореф. дис. … канд. филол. наук / В.И. Болотов; Ленинградский гос. ун-т. – Л., 1971. – 20 с.

3. Мокиенко, В.М. О собственном имени в составе фразеологии / В.М. Мокиенко // Перспективы развития славянской ономастики; Ин-т языкознания АН СССР. – М. : Наука, 1980. – С. 57–67.

4. Леонидова, М.А. К вопросу о сочетаемости собственного имени во фразеологических единицах (в болгарском и русском языках) / А.М. Леонидова // Проблемы лексикологии : сб. статей; науч. ред. А.Е. Супрун. – Минск : Изд-во БГУ, 1973. – С. 64–72.

5. Лепешаў, І.Я. Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы : манаграфія / І.Я. Лепешаў; рэд. А.Я. Міхневіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1984. – 264с.

6. Лепешаў, І.Я. Сучасная беларуская літаратурная мова : спрэчныя пытанні : дапаможнік / І.Я.Лепешаў. – Гродна : ГрДУ, 2002. – 207 с.

7.Жуков, В.П. Школьный фразеологический словарь русского языка / В.П. Жуков. – М.: Просвещение, 1980. – 447 с.

8. Жуков, В.П. Школьный фразеологический словарь русского языка: пособие для учащихся. – 2-е изд., перераб. / В.П. Жуков, А.В. Жуков. – М. : Просвещение, 1989. – 383 с.

9.Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. – Мінск : Нац. цэнтр прававой інфарм. Рэсп. Беларусь, 2008. – 144 с.

10. Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Ч. 1: вуч. дап. для студэнтаў выш. навуч. устаноў; рэд. Р.І. Аванесаў. – Мінск : Выд-ва АН БССР, 1961. – 540 с.

11. Даніловіч, М.А. Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч. – Гродна : ГрДУ, 2000. – 267 с.

12. Ліцвінка, В.Д. Слова міма не ляціць : беларускія народныя прыказкі і прымаўкі / В.Д. Ліцвінка, Л.А. Царанкоў. – Мінск: Унівесітэцкае, 1985. – 150 с.

13. Прыказкі і прымаўкі : у 2 кн. Кн. 1; рэд. А.С. Фядосік. – Мінск : Навука і тэхніка, 1976. – 560 с.

14. Клундук, С.С. Слова да слова – будзе мова : дыялектны слоўнік в. Фядоры / С.С. Клундук; Брэсц. дзярж. ун-т імя А.С. Пушкіна. – Брэст : БрДУ, 2010. – 100 с.

15. Зайка, А.Ф. Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны / А. Зайка – Брэст : ААТ «Брэсцкая друкарня», 2014. – 308 с.

16. Гюлумянц, К.М. Польско-русский фразеологический словарь : в 2 т. Т. 1 А -М. / К.М. Гюлумянц. – Минск : Экономпресс, 2004. – 688 с.

---

*Артыкул падрыхтаваны для часопіса «Роднае слова».*

## ШЛЯХІ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ ФРАЗЕАЛОГІІ

Існуюць два падыходы да вызначэння дыялектнай фразеалогіі. Адзін з іх, дыферэнцыйны, абмяжоўвае дыялектную фразеалогію выразамі лакальнага бытавання, якія не ўваходзяць у склад літаратурнай мовы. Другі, недыферэнцыйны, прадугледжвае ўсю фразеалогію дыялекту, незалежна ад яе тэрытарыяльнай пашыранасці і наяўнасці ці адсутнасці ў літаратурнай мове. Разуменне дыялектнай фразеалогіі, якое акрэсліваецца паводле недыферэнцыйнага прынцыпу, не зусім правамернае. У гэтым выпадку належнымі будуць тэрміны «фразеалогія гаворкі», «фразеалогія дыялекту», «фразеалогія дыялектнай мовы».

Часам паняцце «дыялектная фразеалогія» разумеюць залішне вузка, дастасоўваюць яго толькі да тых фразеалагізмаў, у складзе якіх ёсць дыялектнае слова ці дыялектнае значэнне слова. Гэта памылковы пункт гледжання. Сярод рэгіянальных фразеалагізмаў толькі 20% адзінак маюць у сваім складзе пазалітаратурнае слова, астатнія 80% адзінак складаюцца з агульнанародных слоў. Калі кіравацца названым пунктам гледжання, то невядома, куды аднесці гэтыя 80% фразеалагізмаў, бо яны быццам бы і не дыялектныя, і не агульнанародныя, таму што абмежаваны тэрытарыяльна і невядомы літаратурнай мове.

Да катэгорыі дыялектнай фразеалогіі трэба адносіць выразы і з агульнанароднымі, і з дыялектнымі словамі. Асноўны паказчык «дыялектнасці» фразеалагізма – пашыранасць яго на пэўнай дыялектнай тэрыторыі і адсутнасць у літаратурнай мове. У сувязі з гэтым дыялектную фразеалогію можна падзяліць на тры групы: 1) фразеалагізмы, якія ўжываюцца ў асобных гаворках і не ўваходзяць у фразеалагічны склад літаратурнай мовы; 2) фразеалагізмы, вядомыя ўсім дыялектам, але адсутныя ў літаратурнай мове; 3) дыялектныя варыянты агульнанародных фразеалагізімаў.

Беларуская дыялектная фразеалогія аб'ядноўвае вялікую колькасць фразеалагічных адзінак, якія ў параўнанні з фразеалагізмамі літаратурнай мовы характарызуюцца спецыфічнасцю формы або значэння. Развіццё дыялектнай фразеалогіі няспынна працягваецца, што выклікана рознымі фактарамі.

1. Асноўным пластом дыялектнай фразеалогіі выступаюць уласнафразеалагічныя дыялектызмы – адзінкі з непаўторнай унутранай формай, своеасаблівым кампанентным складам: *вясной бульбы адкапаць* 'аддзячыць невядома калі, а можа, і ніколі', *грушка-мінушка* 'што-н. значнае, але часовае' (СДФГ). Адны з іх – безэквівалентныя, г. зн. не маюць фразеалагічных адпаведнікаў у літаратурнай мове. Узнікаюць такія дыялектызмы для абазначэння паняццяў, не ахопленых фразеалагічнай намінацыяй: *колы заскварыць* 'трапіць пад аўтамабільны ці іншы транспарт' (СДФГ), *сонца на плячах прынесці* 'прыйсці з гулянкі на світанні' (СПЗБ). Другія, эквівалентныя, сінанімічна суадносныя з літаратурнымі адпаведнікамі, ствараюцца для таго, каб абазначаныя фразеалагізмамі паняцці выразіць па-іншаму, што вымагаецца экспрэсіўна-выяўленчымі патрэбамі мовы. Напрыклад, паняцце 'зусім не (патрэбны)' рэалізуецца ў агульнанародным фразеалагізме *як дзірка ў мосце*. Нягледзяы на гэта, у гаворках створана шмат іншых фразеалагізмаў з такім самым значэннем: *як зайцу хлясцік, як лысаму банцік, як папу*

*гармонік, як старому каню маці* (СДФГ), *як чорту пацеры* (ЗНФ), *як рыбе парасон* (СГВ), *як дурню галава, як салаўю свісток, як сабаку печаная цыбуля, як перац у каве, як цецеруку рогі, як карове боты* (СМН).

Большасць эквівалентных і безэквівалентных уласнафразеалагічных дыялектызмаў мае антрапацэнтрычную накіраванасць. Значна менш фразеалагізмаў з аб'ектным значэннем, накіраваных на прадметы, што існуюць па-за чалавекам і незалежна ад чалавека.

2. Развіццё дыялектнай фразеалогіі адбываецца за кошт семантычнай дэрывацыі, калі агульнанародныя фразеалагізмы рэалізуюць у канкрэтных гаворках мясцовыя значэнні. Наяўнасць фразеалагічна-семантычных дыялектызмаў абумоўлена працэсамі полісемантызацыі і аманімізацыі, якія грунтуюцца пераважна на метафарычных пераносах, функцыянальных і сінтагматычных зрухах фразеалагізма. Параўн. дыялектнае і літаратурнае значэнні: *пальца не ўваб'еш* 'што-н. вельмі цвёрдае (пра зямлю наградах, агародзе і інш.)' (ЗНФ) – 'немагчыма прабіцца, пралезці куды-н. з-за цеснаты, непраходнасці і пад.'; *вяроўкі віць* каму 'хлусіць, выдумляць што-н.' (ЗНФ) – з каго 'паступаць з кім-н. так, як хочацца, поўнасцю падпарадкоўваць сабе каго-н.'; *як мыш на крупы* 'прагна (глядзець)' (СДФГ) – 'вельмі моцна (дзьмуцца, супіцца)'.

Полісемія дыялектнай фразеалогіі багацейшая за полісемію фразеалогіі літаратурнай мовы за кошт сумарнай колькасці фразеалагічна-семантычных дыялектызмаў, спецыфічных у шматлікіх рэгіёнах Беларусі.

3. Узнікненне фразеалагічных дыялектызмаў абумоўлена наяўнасцю ў гаворках сваёй дыялектнай нормы на розных моўных узроўнях. Фанетычныя, словаўтваральныя, граматычныя, лексічныя асаблівасці гаворак рэалізуюцца таксама і ў межах фразеалагізмаў, прыводзячы да ўтварэння рэгіянальных фразеалагічных варыянтаў: *лезці ў гочы* – лезці ўвочы, *зайсці дарогу* – перайсці дарогу, *уцерці носа* – уцерці нос, *браць к душы* – браць да душы, *палажыць зубы на градку* – палажыць зубы на паліцу.

4. Аб'ём дыялектнай фразеалогіі папаўняецца  і за кошт рэалізацыі агульнанароднай парадыгмы, асобныя элементы якой не праявіліся ў кампанентным складзе літаратурных фразеалагізмаў, затое атрымалі сваё ўвасабленне ў фразеалагізмах дыялектнай мовы, надаючы апошнім статус дыялектызмаў: *курыцы на смех* (Новы Двор Свіслацкага р-на) – курам на смех, *на воловай скуры не спісаў бы* (Fed.) – на валовай скуры не спішаш, *марнаваць кроў* (ЗНФ) – псаваць кроў.

5. Беларускія гаворкі (пераважна ў зонах кантактавання з суседнімі мовамі) набылі шэраг запазычанняў, якія не сталі агульнанароднымі. Многія паланізмы, балтызмы, русізмы, украінізмы замацоўваюцца ў фразеалагізмах, ствараючы дыялектную адметнасць іх лексемнай структуры: *як лонскі снег* (ЗНФ) – як леташні снег, *на вес золата* (Дарагляны Мастоўскага р-на) – на вагу золата, *скура гіжыць* (СДФГ) – скура гарыць, *ні Богу свечка ні чорту кацуба* (СДФГ) – ні Богу свечка ні чорту качарга.

6. Дыялектны характар набылі тыя формы і значэнні фразеалагізмаў, якія па прычыне нераўнамерных дыяхранічных працэсаў у літаратурнай мове аказаліся нерэалізаванымі або страчанымі, а ў гаворках функцыянуюць актыўна: *у лíетах* (СПЗБ) – у гадах, (адзін) *як перст* (СМН) – як палец, (змокнуць) *да рубінкі* (СПЗБ) – да ніткі.

7. Сярод фразеалагічных дыялектызмаў нямала такіх, якія адрозніваюцца ад літаратурных меншай колькасцю кампанентаў: (карміць) *на ўбой* (Харосіца Навагрудскага р-на) – як на ўбой, *выйсці сухім* (СБНФ) – выйсці сухім з вады, *хоць*

*страляй* (СДФГ) – хоць у лоб страляй. Гэта выклікана тэндэнцыяй да эканоміі моўных сродкаў, да ўдасканалення знешняй формы фразеалагізма праз яе скарачэнне. Адсутнасць падобнага скарачэння ў фразеалагізмаў літаратурнай мовы, якой уласціва тая ж тэндэнцыя, сведчыць пра некаторае адставанне літаратурнай фразеалогіі ад дыялектнай у канкрэтных праявах свайго развіцця.

8. Няспыннае папаўненне дыялектнай фразеалогіі стымулюецца імкненнем узмацніць экспрэсію ці ўдакладніць, абнавіць унутраную форму фразеалагізма. Гэта дасягаецца заменай лексічнага кампанента (*скура ды арматура* (ЗНФ) – скура ды косці, *жарыць ускуру* (БФ) – даваць у скуру, *заліць бельмы* (СДФГ) – заліць вочы) або ўвядзеннем дадатковага кампанента ў структуру фразеалагізма (*чорт не брат і свіння не сястра* (В) – чорт не брат, *няма дурных усе пажаніліся* (СНМ) – няма дурных, *уесціся ў горкія пячонкі* (ДСЛ) – уесціся ў пячонкі). Такім чынам ствараюцца фразеалагічна-лексічныя і канструкцыйна-колькасныя фразеалагічныя дыялектызмы, якія на фоне звыклых агульнанародных адпаведнікаў выглядаюць свежа і арыгінальна.

9. Яшчэ адзін шлях памнажэння дыялектнай фразеалогіі – кантамінацыя. Некадыфікаванасць дыялектнай нормы робіць яе  больш свабоднай і рухомай, што садзейнічае змешванню, узаемапранікненню, гібрыдызацыі асобных фразеалагічных адзінак і іх кампанентаў: *ад гаршка не адрос* (СДФГ) = ад гаршка паўвяршка + ад зямлі не адрос, *дацца ў косці* (СДФГ) = дацца ў знакі + уесціся ў косці, *намыліць хвост* (СБНФ, СДФГ) = намыліць шыю + накруціць хвост. Кантамінаваныя формы, атрымаўшы узуальнае замацаванне, папаўняюць групы фразеалагічных дыялектызмаў.

На заканчэнне варта закрануць пытанне пра аб'ём дыялектнай фразеалогіі. У навуковай літаратуры існуе сцверджанне, што агульнанародная фразеалогія ў гаворках колькасна пераважае над дыялектнай. Гэтае сцверджанне патрабуе ўдакладнення. У канкрэтнай гаворцы, сапраўды, больш агульнанародных фразеалагізмаў. Але калі браць дыялектную мову цалкам, то ў ёй дыялектная фразеалогія значна пераўзыходзіць агульнанародную за кошт агульнай колькасці фразеалагізмаў рознай лакалізацыі: вузкарэгіянальных, міждыялектных, агульнадыялектных.

---

Першая публікацыя ў зборніку: *Славянская фразеология в ареальном, историческом и этнокультурном аспектах: материалы III Междунар. науч. конф. (7–8 октября 2003 г.); отв. ред. В.И. Коваль; Гомельский гос. ун-т им. Ф. Скорины. – Гомель: УО «ГГУ им. Ф. Скорины», 2003. – С. 159–163.*

## ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ ТРАДЫЦЫЙНЫХ МАДЭЛЯЎ У БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЕ

Фразеалагічны склад дыялетнай мовы ў значнай ступені папаўняецца адзінкамі, утворанымі з дапамогай такога спосабу, як мадэляванне, г. зн. «стварэнне новых выразаў па гатовай мадэлі на ўзор тых, якія ўжо ёсць у мове» [1, с. 25]. Пад фразеалагічнай мадэллю разумеецца структурна-семантычны інварыянт, які мае пэўную сінтаксічную канструкцыю і адносна стабільную семантыку.

Па мадэлях утворана вялікая колькасць фразеалагізмаў. «Менавіта мадэляванасць фразеалогіі стымулюе пастаяннае абнаўленне яе складу, з'яўленне новых фразеалагічных серый на базе старых структурна-семантычных схем» [2., с. 91].

Гісторыя ўзнікнення і развіцця фразеалагічных мадэляў вымяраецца самымі рознымі адрэзкамі часу. Адны мадэлі сфармаваліся вельмі даўно, другія – адносна нядаўна. Мадэлі першага тыпу характарызуюцца багатай напоўненасцю фразеалагізмаў, якія нарадзіліся ў розныя перыяды. Напрыклад, мадэль «назоўнік у назоўным склоне + асабовы займеннік у вінавальным склоне + дзеяслоў *бяры*» са значэннем 'няхай будзе так, можна пакінуць без увагі' мае працяглую гісторыю існавання. Адпаведна ёй утварыўся фразеалагічны рад, які вымяраецца дзясяткамі адзінак, напрыклад: *агіба яго бяры, вяроўка яго бяры, гарончка яго бяры, зямля яго бяры, кадук яго бяры, ліха яго бяры, пляга яго бяры, прах яго бяры, пярун яго бяры, трасца яго бяры, халера яго бяры, чорт яго бяры, шабай яго бяры* і інш.

Мадэлі, што сфармаваліся пазней, далі жыццё адносна меншай колькасці фразеалагізмаў. Напрыклад, у літаратурнай мове значэнні 'вельмі моцным струменем, суцэльным патокам (ліць, лінуць)', 'вельмі моцны (дождж)' перадаюцца трыма фразеалагізмамі: *як з вядра, як з луба, як з рэшата*. Дыялектная мова ведае яшчэ некалькі фразеалагізмаў такой самай структуры: *як з вяроўкі, як з веравок, як з дубца* (ЗНФ, СДФГ), *як (што) з кары* (СПЗБ), *як з цэбра, як з цэўкі* (СДФГ).

Новыя мадэлі менш прыкметныя, бо яны яшчэ не паспелі напоўніцца серыйным фразеалагічным матэрыялам. Развіццё іх адбываецца не аднойчы, а на працягу пэўнага часу. Фактычны матэрыял паказвае, што такія мадэлі няспынна нараджаюцца і колькасць адпаведных ім фразеалагізмаў пастунова павялічваецца. Да прыкладу, на Гродзеншчыне адносна нядаўна атрымалі распаўсюджанне структурна-семантычныя схемы фразеалагізмаў «хто + з чаго / з каго *ўпаў* « – 'дурны, неразумны', «як + што + *з плоту*» – 'невядома куды, невядома дзе, бясследна (знікнуць, згінуць, прапасці': *з быка спад, з вышак упаў, з галанкі ляснуўся, з дуба ўпаў (зваліўся, ляснуў),з пня зваліўся* (СДФГ)*, з дуба на кактус зваліўся* (Скідзель Гродз.)*; як ануча з плоту, як новая сарочка зплоту, як <новыя> трусы з плоту, як слоік з плоту* (СДФГ), *як стрынгі з плоту* (Гродна), *як цадзілак зплоту* (Бершты Шчуч.).

Традыцыйныя мадэлі настолькі глыбока ўвайшлі ў моўную практыку і свядомасць людзей, што іх значэнне безпамылкова распазнаецца незалежна ад лексічнага напаўнення, напрыклад:

'навошта, для чаго': *на агня* (ДСЛ, ТС), *на воўка* (СДФГ), *на згіноту* (ЗНФ, СДФГ), *на здыхлеца, на смутка* (ТС), *на стралу* (СДФГ);

'чаму, для чаго, з якой мэтай': *екое резачкі* (ТС), *якой вяроўкі* (СДФГ), *якой дыбы* (Косцевічы Астр.), *якой здыхаты* (СДФГ);

'вельмі многа': *да вала, да дуры, да перуноты* (СДФГ), *до огня, до дохлеца* (ТС);

'хто-н. ідзе, ходзіць, прыйшоў, зайшоў і пад.': *бяда нясе* (СПЗБ), *гарачка носіць* (ДСЛ), *дыба прыгнала, паморак занёс* (СПЗБ), *патніца прынесла* (КСУМ), *халера пагнала* (СДФГ).

Больш падрабязна спынімся на самай прадстаўнічай фразеалагічнай мадэлі «назоўнік + асабовы займеннік у вінавальным склоне + дзеяслоў *ведае (знае)*» са значэннем 'невядома', напрыклад, *няшчасце яго ведае.* У нашай картатэцы маецца 65 фразеалагізмаў такой мадэлі. Карані яе сягаюць у глыбокую старажытнасць і звязаны з табуізацыяй зносін чалавека з навакольным асяроддзем. Як піша Б.А. Ларын, «яшчэ на стадыі першабытных вераванняў у сілу табу пачынаюць развівацца самыя старажытныя эўфемізмы, дазволеныя і прыстойныя найменні, па прыродзе сваёй перафра-

стычныя ці вобразныя, якія прыхоўваюць свой прадмет, адцягваюць ад яго пазнавання, быццам ператвараюць сілай словатворчасці злыя якасці, дзеянні ў спрыяльныя, пажаданыя ці хаця б бясшкодныя» [3, с. 102].

На стадыі міфалагічнага мыслення чалавек не выдзяляў сябе з навакольнага свету, ён адчуваў «сваю кроўную, непарыўную еднасць з усёй прыродай, наіўна, але прыгожа, паэтычна «ачалавечваючы»не толькі жывёл, расліны, але і «нежывыя» прадметы» [4, с. 3]. У часы язычніцтва створаны цэлы пантэон міфічных багоў і істот, якім прыпісвалася звышнатуральная моц. Неразуменне шматлікіх таямніц прыроды, праяў нараджэння і смерці, залежнасці ад хвароб і прыродных стыхій вымушала чалавека верыць у тое, што ёсць сілы, мацнейшыя, разумнейшыя, мудрэйшыя за яго. Гэтыя сілы ведаюць усё, чаго нельга і што непадуладна ведаць чалавеку. Звяртаючыся да іх з дапамогай табуістычнай формулы, чалавек як бы засцерагаў сябе, падкрэсліваючы сваю нікчэмнасць перад іх усемагутнасцю і адначасова апраўдваў сваю недасведчанасць.

Сілы, да якіх апеляваў чалавек, падзяляліся на добрыя і злыя. У беларускай міфалогіі тыпізаваным прадстаўнікам дабра выступае Бог, а зла – чорт. Са словамі *Бог* і *чорт* у беларускай дыялектнай мове налічваюцца сотні фразеалагізмаў. На нашу думку, фразеалагізмы *Бог яго ведае* і *чорт яго ведае* належаць да ліку першых у згаданай вышэй фразеалагічнай мадэлі.

Пры аднолькавым дэнататыўна-сігніфікатыўным значэнні гэтыя фразеалагізмы маюць супрацьлеглую канатацыю: першы – станоўчую, другі – адмоўную. Адмоўную характарыстычную функцыю выконваюць і амаль усе іншыя фразеалагізмы гэтай мадэлі, за выключэннем канататыўна нейтральных, якія пачынаюцца займеннікавым кампанентам *(хто яго ведае)* і граматычна і семантычна неакрэсленым кампанентам *(хоць яго ведае)*: *Хто яго ведая, сынок, паець паглядзі. Калі добраё* [паліто], *то купі, зіма йдзе, халадэ.* Мачулкі Бар. *А хоць яе ведае, можа і пахадзіўшы*[карова]. *А не, так перадойкай астанецца. Такой бяды.* Заборцы Астр.

Колькасная перавага фразеалагізмаў з адмоўнай ацэначнасцю тлумачыцца тым, што дабро з’яўляецца, як нешта само сабой зразумелае, як норма, і акцэнтаваць на ім няма неабходнасці, а зло – негатыў, які непажаданы, які нясе небяспеку, знаходзіць сваю рэалізацыю ў самых розных праявах і таму заслугоўвае ўвагі для асуджэння праз розныя вербальныя сродкі.

Адмоўная канатацыя фразеалагізмаў ствараецца дзякуючы назоўнікаваму кампаненту, які на лексічным узроўні ў нацыянальна-культурнай традыцыі атрымаў таксама адмоўную семантыку.

Такія назоўнікі можна размеркаваць тэматычна (пакажам іх у складзе фразеалагізмаў):

1. Жыццёвыя нягоды, мукі, нястачы: *гора его знае* (ДСЛ), *немач яго ведае* (СПЗБ), *покута его ведае* (ТС), *упадак яго ведае* (В), *смуткі яго ведаюць* (В).

2. Нячысцікі, злыя сілы: *д’ябал яго ведае* (В, МСГВ), *злыдні яго ведаюць(знаюць)* (В), *нячысцік яго ведае* (ФСБМ).

3. Прыродныя з’явы, стыхіі, небяспечныя для чалавека: *агонь іх зная* (В, ДСЛ, ТС), *бура яго ведае* (СДФГ), *вада яго ведае (знае)* (СПЗБ), *віры яго знаюць* (В), *віхар яго ведае* (В), *гром яго ведае* (СДФГ), *грымоты яго ведаюць* (ЗНФ), *пярун яго ведае (знае)* (В, СДФГ).

4. Шкодныя насякомыя: *машкары яго ведаюць* (В), *слата яго ведае* (Стральцы Гродз.).

5. Хваробы: *крываўка яго ведае* (СДФГ, СПЗБ), *скула яго ведае* (В), *трасца яго ведае* (ФСБМ), *халера яго ведае* (Бабіна Гродз.), *хвароба яго ведае* (ФСБМ).

6. Сродкі забойства, смяротнага пакарання: *бомба яго ведае (знае)* (СДФГ), *вяроўка яго ведае* (СДФГ), *ражон яго знае* (В), *страла іх знае* (Гурнофель Шчуч.).

7. Смерць, гібель: *здыхата яго ведае* (СДФГ), *канцы яго ведаюць* (СПЗБ).

8. Месца пахавання чалавека: *зямля яго ведае* (СДФГ), *яма яго ведае* (Дубінка Гродз.).

Паколькі фразеалагічная мадэль са значэннем ‘невядома’ існуе ўжо цэлыя стагоддзі, яна напаўнялася лексічным матэрыялам розных гістарычных эпох. Шэраг раней актыўна ўжывальных слоў выйшлі са свабоднага ўжытку. Аднак у фразеалагізмах яны захаваліся да нашага часу. Гэта пацвярджае слушнае і цікава сфармуляванае выказванне А.Д. Райхштэйна, што «фразеалагічная сістэма выступае ў якасці своеасаблівага музея моўных некратызмаў, архаізмаў і да т.п.» [5, с. 88]. Нярэдка фразеалагізмы выступаюць адзінымі крыніцамі, якія данеслі да нас забытыя словы, і таму маюць выключную інфармацыйную каштоўнасць, важнае значэнне для гістарычнай лексікалогіі, з’яўляюцца асновай і стымулам этымалагічных пошукаў.

Сярод фразеалагізмаў вызначанай у гэтым артыкуле мадэлі трэцяя частка ўтрымлівае лексічныя кампаненты, якія вымагаюць этымалагічнага аналізу, высвятлення іх актуальнага значэння. Адны з іх цалкам выйшлі з ужытку, другія ўстарэлі, трэція выкарыстоўваюцца як рэгіянальныя дыялектызмы ў асобных гаворках.

*дох яго ведае* (НС). Слова *дох* у лексічнай сістэме беларускай мовы не ўжываецца. Яно функцыянуе толькі як кампанент устойлівых выразаў на поўдні Беларусі: *до доха, дох его ведае* (ТС). Хутчэй за ўсё гэта даўняе запазычанне з украінскай мовы, параўн. укр. *дох* ‘падзеж’ (ЕСУМ-2).

*ванцач цябе ведае (знае)* (СПЗБ). Слова *ванцач* мае яшчэ варыянты *вансач, ванцак, вансак, ванцах*. Кваліфікуецца як не даканца асвоенае лексічнай сістэмай беларускіх гаворак запазычанне з польскай мовы – wasad, wasacz ‘боль у крыжы’. Ужываецца ў гаворках паўночна-заходняй Беларусі са значэннямі ‘заварот кішак’ і ‘конская хвароба’. Лакалізуецца ва ўстойлівых выразах, напрыклад: *Каб цябе ванцак кінуў! Каб цябе ванцач! Каб цябе ванцах хапіў!* (СПЗБ); *Каб ванцак узяў* (СДФГ).

*гарончка (гароншка, гароньшка, гарончыха, гарончык, гаручка) яго ведае* (СДФГ). Слова *гарончка* запазычана з польскай мовы – goraczka‘высокая тэмпература’, ‘тыф’, ‘грып’. З лексічнай сістэмы выцясняецца, але захоўваецца ва ўстойлівых выразах: *Каб цябе гарончка ўзяла! Хай іх гарончка!* (СПЗБ); *каб гарончка (гарончыка) узяла (забрала)* (СДФГ).

*дыба яго ведае* (Косцевічы Астр.). *Дыба* – гістарызм са значэннем ‘прылада для катавання’. У сучаснай дыялектнай мове слова захавалася толькі ў складзе фразеалагізмаў: *якая дыба* каму, *якая дыба прыгнала* каго, *дыба ганяіць* каго (СПЗБ).

*кадук яго ведае* (СПЗБ). *Кадук* – запазычанне з лацінскай мовы: cadukus ‘хворы на падучку’. З гэтым значэннем яно ўжывалася і ў беларускай, украінскай і польскай мовах, але прыкладна з XVIII ст. набыло іншае значэнне – ‘чорт, д’ябал, нячысцік’. Сёння гэта сэнсава зацемнены кампанент з неакрэсленым значэннем, які абслугоўвае каля дзясятка фразеалагізмаў: *кадук яго вазьмі* (ЭСБМ), *кадук не бярэ* каго (БФ), *кадуке*

*прынеслі* каго, *хай кадук задуша* каго, *каб цябе кадук, хай кадук возьме* каго, *кадук не браў* каго, *ідзі к кадукам* (СПЗБ) і інш.

*карбунак яго ведае* (СДФГ). *Карбунак (карбунец, карбунка, карбунаўка, карбуліца)* ‘гнойнае запаленне верхніх слаёў скуры, фурункулёз’ – запазычанне з лацінскай мовы (Carbunkulus) (ЭСБМ). У гаворках выходзіць з ужытку, актыўным застаецца толькі ў фразеалагічных канструкцыях: *каб карбунец заеў (пабраў)* каго, *каб карбунка ўзяла* каго (СДФГ), *каб карбунка ўссела* на каго, *каб карбунка рушыла* каго, *каб карбуніц напаў* на каго (СПЗБ).

*нагла яго ведае* (СНМ). Назоўнік *нагла* ‘раптоўная, ненатуральная смерць’ утварыўся канверсійным спосабам ад словазлучэння *нагла(я) смерць* з такім самым значэннем.

*паморак яго ведае* (ТС). *Паморак* – устарэлае слова са значэннем ‘мор’, ужываецца ў выразах *поморок ёго ведае, коб поморок найшоў* на каго, *поморок не озьме* каго (ТС), *хай яго паморак, паморку няма* на каго, *паморак занёс* каго (СПЗБ).

*паветра яго ведае* (В, СПЗБ, ТС). Старажытнае слова *паветрые (паветра)* ‘эпідэмія, хвароба, мор’ паводле паходжання належыць да агульнаславянскай лексікі. Захавалася яно з такім значэннем у асобных гаворках на Міншчыне [6, с. 173], у іншых гаворках засведчана толькі як кампанент фразеалагізмаў. Параўн. таксама аднакаранёвыя дзеяслоўныя ўтварэнні ў выклічнікавых фразеалагізмах: *каб ты запаветрыўся (спаветраў)* (СДФГ), *няхай яго запаветрыя* (СПЗБ).

*пляга яго ведае* (Жылі Іўеў.). *Пляга* – запазычанне з лацінскай мовы (plaga ‘ўдарэнне’), параўн. польск. plaga ‘бяда, няшчасце’, літ. pliauga ‘слата’. У беларускай мове мае значэнні 1) ‘слата’, 2), ‘чорная пляма на целе’, 3) ‘бяда, няшчасце’ (СПЗБ, ТСБМ). Паступова выходзіць з ужытку. Замацавалася ў адмоўных пажаданнях тыпу: *Ніхай яе пляга возьме! Німа на цібе якой плягі! Падзе на цібе пляга! Бадай на цябе якая пляга надышла!* (СПЗБ).

*прнцы яго ведаюць* (СДФГ). Пасля напалеонаўскай вайны 1812 года ў Беларусі распаўсюдзілася заразная венерычная хвароба *пранцы* ‘сіфіліс’. Лютавала яна больш як паўстагоддзя, загубіўшы дачасна шмат жыццяў. З гнездавым словам *пранцы* ў беларускай дыялектнай мове склалася цэлая група фразеалагізмаў, напрыклад: *на пранцы* ‘навошта’, *няхай яго пранцы* ‘выказване адмоўных пачуццяў’, *пранцы яго ведаюць* ‘невядома’, *каб це пранцы з’елі* ‘выказванне адмоўных пачуццяў’, *пранцы не возьмуць* каго ‘нічога кепскага не зробіцца з кім-н.’

*рэзачкая яго ведае* (ТС). Слова *рэзачка,* якое бытуе ў гаворках гомельскага Палесся са значэннямі ‘дызентэрыя, крывавы панос’, ‘рэзкі боль у жываце’, запазычана з украінскай мовы, параўн. укр. *різачка* ‘рэзь’ (БУС). У гэтых жа гаворках яно выкарыстоўваецца і ў такіх выразах: *крывава резачка, екое резачкі* каму, чаму, *резачка напала* на каго, *Шчоб цебе рэзала рэзачка по кішках* (ТС).

Такім чынам, традыцыйныя структурна-семантычныя мадэлі з’яўляюцца крыніцай актыўнага папаўнення фразеалагічнага фонду беларускай дыялектнай мовы. Вакол іх групуюцца фразеалагізмы розных гістарычных эпох. Яны выступаюць захавальніцамі лексем старой якасці і ў гэтым плане ўяўляюць сабой выключную каштоўнасць для гістарычнай лексікалогіі.

*Літаратура*

1. Лепешаў, І.Я. Фразеалогія сучаснай беларускай мовы / І.Я.Лепешаў. – Мінск: Выш. шк., 1998. – 271 с.

2. Мокиенко, В.М. Славянская фразеология / В.М. Мокиенко. – М.: Высш. шк., 1989. – 287 с.
3. Ларин, Б.А. История русского языка и общее языкознание / Б.А. Ларин. – М.: Просвещение, 1977. – 224 с.
4. Коваль, У.І. Народныя ўяўленні, павер'і і прыкметы: даведнік па ўсходнеславянскай міфалогіі / У.І. Коваль. – Гомель: Беларускае агенцтва навукова-тэхнічнай і дзелавой інфармацыі, 1995. – 180 с.
5. Райхштейн, А.Д. Сопоставительный анализ немецкой и русской фразеологии / А.Д. Райхштейн. – М.: Высш. шк., 1980. – 143 с.
6. Блінава, Э. Беларуская дыялекталогія / Э.Блінава, Е.Мяцельская. – Мінск: Выш. шк., 1980. – 304 с.

---

Першая публікацыя ў зборніку: *Е.Ф. Карский и современное языкознание: материалы XII междунар. науч. чтений (Гродно, 20-21 мая 2010 г.); ГрГу им. Я.Купалы; редкол.: М.И. Конюшкевич (гл. ред.), А.В. Никитевич. – Гродно: ГрГУ, 2011. – С. 210–217.*

## ЛЕКСІЧНА-ФРАЗЕАЛАГІЧНЫЯ ДЭРЫВАЦЫЙНЫЯ СУВЯЗІ

Лексіка і фразеалогія ўступаюць паміж сабой у цесныя дэрывацыйныя адносіны. Немагчыма ўявіць фразеалагізм без слоў, яны выступаюць матэрыяльнай асновай, неад'емнай умовай яго існавання. Тэарэтычна любое слова, спалучальнае з іншымі словамі, можа рэалізавацца ў якасці фразеалагічнага кампанента, аднак далёка не кожнае мае роўныя фразеаўтваральныя магчымасці. Паводле нашых падлікаў, для ўтварэння 5755 беларускіх літаратурных фразеалагізмаў і 1800 іх варыянтаў выкарыстаны, не ўлічваючы службовых часцін мовы, 3644 паўназначныя словы, сярод якіх назоўнікаў – 49%, дзеясловаў – 34%, прыметнікаў – 9%, прыслоўяў – 6%, займеннікаў – 1%, лічэбнікаў – каля 1%.

Фразеаўтваральная роля слова залежыць ад многіх фактараў. Найбольшай актыўнасцю характарызуецца агульнанародная лексіка, якая абазначае актуальныя, штодзённыя праявы чалавечага быцця, займае цэнтральнае месца ў лексічна-семантычных групах, мае разгалінаваную полісемантычную структуру, надзелена сімвальным значэннем, уваходзіць у лік самых частотных слоў гутарковай мовы.

Фразеалагізм, як падзельнааформленая, не менш як двухкампанентная адзінка, утвараецца пераасэнсаваннем сінтаксічных канструкцый (словазлучэнняў, сказаў, словаспалучэнняў), напоўненых лексічным матэрыялам. У лінгвістыцы апісаны спосабы такога ўтварэння [1, с. 17–29].

Акрамя гэтага, фразеалагізмы могуць узнікаць і на базе асобнага слова. Вядомы такі спосаб фразеалагічнай дэрывацыі, як фразеалагічна-лексічны. Механізм яго рэалізацыі такі. Да зыходнага мнагазначнага слова далучаецца лексічны дадатак, што актуалізуе прамое значэнне гэтага слова. Аднак уся ўтвораная сінтаксічная канструкцыя атрымлівае фразеалагічнае значэнне, якое супадае з пераносным значэннем слова. Напрыклад, лексема *свіння* мае тры значэнні: 1) 'парнакапытная млекакормячая жывёліна', 2) 'брудны, неахайны чалавек', 3) 'чалавек, які незаслужана робіць каму-небудзь непрыемнасці; няўдзячны чалавек'. Пры далучэнні да яго дзеепрыметніка *няскрэбаная* «адгукаецца» першае з трох значэнняў. Але паколькі выраз *свіння няскрэбаная* адрасуецца чалавеку, то на яго пашыраецца другое значэнне. Утвораны фразеалагім *свіння няскрэбаная* 'брудны, запэцканы чалавек' каламбурна спалучае ў сабе два значэнні слова *свіння.* Першае працуе на вобразную структуру фразеалагізма

(асмаленая, але няскрэбаная свіння мае на скуры вельмі шмат бруду), другое становіцца рэальным значэннем фразеалагізма: *Вымазаўся, сьвіня ніскрэбана! Хіба памыцца ні дасі рады?!* Купры Шчуч. (СДФГ). Такім самым спосабам утвораны і фразеалагізм *свіння без дроту* 'кепскі чалавек, які незаслужана робіць каму-небудзь непрыемнасці; няўдзячны чалавек', але ўжо на базе слова *свіння* з першым і трэцім значэннямі (тут актуалізуецца вобраз свінні, якая, калі ёй не завесці дрот у лыч, можа сваім рыццём прычыніць нямала шкоды): *Ах ты, сьвіня без дроту! Цэлы вечар чакаў цібе, а ты ні прышоў.* Адамавічы Гродз. (СДФГ).

У беларускай дыялектнай мове такім спосабам утворана прыкметная група фразеалагізмаў з агульным адмоўным ацэначным значэннем 'кепскі чалавек': *гадасць паршывая, казёл някуты, таўкач кукурузны, ведзьма з-пад чорнай гвязды, гад смалены, сапляк перакіслы, сатана д'ябальскі, чорт рагаты, шатан смярдзючы, шчанё аблавухае* і інш.

Застаецца пакуль што незаўважанай лінгвістамі яшчэ адна разнавіднасць фразеалагічна-лексічнага ўтварэння. Грунтуецца яно пераважна на іншамоўным лексічным матэрыяле. Адметнасць яго заснавана на частковай ці поўнай дэсемантызацыі запазычанага слова і набыцці ім структурна-семантычных прыкмет фразеалагізма. У гэтым выпадку адбываецца фармальны перавод слова ў сінтаксічную адзінку шляхам яго кампаратывізацыі. Звязана гэта са словамі, якія выходзяць з актыўнага ўжытку па прычыне сваёй цьмянасці ці недастатковай адаптаванасці ў мове. Паслабленне актыўнасці ўжывання слова прыводзіць да яго ідыяматызацыі. Яно ўсё часцей пачынае выкарыстоўвацца не як самастойная адзінка, а як этымалагічна цьмяны кампанент кампаратыўнага ўстойлівага звароту. Напрыклад, сёння ў гаворках Гродзеншчыны ўжо свабодна не выкарыстоўваецца слова *філют(-а)*< польск. *filut* 'свавольнік, круцель, гарэза, прайдзісвет', але сустракаецца ў складзе выразу *як філюта,* які з-за незразумеласці назоўнікавага кампанента і адсутнасці жывых параўнальных адносін нельга разглядаць у якасці параўнання, а варта кваліфікаваць як прыметнікавы фразеалагізм з ад'ектыўнай семантыкай 'залішне свавольны, гарэзлівы, лоўкі, шустры': *Аньця як філюта, скура на ёй гаворыць* (Жукойні Жэлядскія Астр.).

Адзначаны спосаб дамінуе ў дыялектнай фразеалогіі, што бытуе ў зонах міжмоўнага кантактавання. Так, у паўночна-заходняй Беларусі шэраг падобных фразеалагізмаў утвораны на аснове слоў польскага і балтыйскага паходжання. Архаізацыя і кампаратывізацыя, напрыклад, балтызмаў – працэс паступовы. Адны з іх, як паказваюць матэрыялы СПЗБ, яшчэ выкарыстоўваюцца ў якасці лексічных адзінак, але маюць схільнасць да замацавання ва ўстойлівых параўнаннях: *Біза* ты! Ты *голая, як біза*. Рудня Астравітая Чэрв. (*біза*< літ. *bizas* 'галяк, бядняк, збяднелы'); Бываіць з добрага чалавека зробіцца *вяпла*: станіць, *як вяпла*, і нічога не панімаіць. Кіралі Шчуч. (*вяпла*<літ. *vépla* 'дурань, разява'); *Ляпеза* – незграбная, ні фігуры, сідзіт, *як ляпеза*, прышоўшы на вечарынку. Рагулішкі Даўг. (*ляпеза*< літ. *lepérza* 'нязграбны, непаваротлівы чалавек'); Як завядземса, то адна на другую: «*сутра*!» – кажам. Парэчча Гродз. Ты робіш, *як сутра*, ходзіш, *як сутра*. Старыя Смільгіні Воран. (*сутра*< літ. *sutrà* 'мурза'). Другія зафіксаваны толькі ў складзе параўнальных канструкцый, якія паводле фармальна-граматычных і семантычных асаблівасцей адпавядаюць кампаратыўным фразеалагізмам, часткова ці поўнасцю дэматываваным: *як дымба* 'высокі хто-н.' < літ. *dimba* 'тс'; *як кушла* 'неахайны; неахайна' < літ. *kùšlas* 'хто аброс-

лы валасамі’; *як лут* ‘тоўсты, сыты’ < літ. *lùtis* ‘укормлены’; *як трайда* ‘балбатлівы’ < літ. *traidà* ‘балбатуха, лапатуха’.

У мове назіраецца і адваротны працэс – утварэнне слоў на базе фразеалагізмаў. На розных гістарычных этапах гэта закранула немалую частку фразеалагізмаў. З часам сам фразеалагізм можа ўстарэць або наогул знікнуць, а ўтворанае ад яго слова працягвае актыўна ўжывацца: *спрадвеку < з продкаў вякоў, бязбожна < без Бога, невесць < няма весці.*

Схематычна, у агульным плане, акрэслім асноўныя спросабы адфразеалагічнай лексічнай дэрывацыі. Найбольш просты спосаб – складанне, механічнае зліццё кампанентаў у адно самастойнае слова: *злы дух > злыдух, пся косць > псякосць, няма ведама > немаведама.*

З адноснай лёгкасцю аб’ядноўваюцца кампаненты «мінімальных адзінак фразеалогіі» (П.А.Лекант), якія маюць структуру «назоўнік з прыназоўнікам»: *да душы > дадушы* ‘вельмі’ (В), *да халеры > дахалеры* ‘вельмі многа’, *за памяццю > запамяццю* (СПЗБ), *на ліха > наліхо* (ТС), *у цяжку > уцяжку* ‘ў стане цяжарнасці’, *у памкі > упамкі* ‘памятна’ (СГВ).

Нярэдка складанне суправаджаецца фанетычна-акцэнтнымі ці марфалагічны змяненнямі структурных частак: *добры дзень > дабры'дзень* (ВКС, ТС), *памагай Бог > памага'йбо* (ТС), *без пары > бе'спары* (ВКС), *добры вечар > дабры'вечар* (ВКС). Лексічныя ўтварэнні ад фразеалагізмаў *усё роўна, усё адно* ў розных беларускіх гаворках бытуюць у такіх варыянтах: *усёроўна, усяроўна, усяраўно, асяроўна, сяраўно, сіраўно, сіроўна, сероўна, усёадно, всядно, сеадно, сядно.*

У многіх выпадках складанне фразеалагічных кампанентаў суправаджаецца суфіксальнымі мадыфікацыямі: *душу губіць – душагубнік* (ВКС), *плесці кашы – кашаплёт, спакон вякоў – спаконвечны* (СГВ).

Можна прыводзіць прыклады ўтварэння слоў на базе аднаго фразеалагічнага кампанента. Распаўсюджаным спосабам такога ўтварэння з’яўляецца скарачэнне, рэдукцыя фразеалагізма. Пашыраецца яно на тыя адзінкі, якія ў мове пэўнага соцыуму з’яўляюцца актуальнымі, агульнавядомымі. Яны настолькі замацаваліся ў свядомасці моўніка, што і ва ўсечаным выглядзе ўспрымаюцца з уласцівым ім значэннем. Рэшткі ўсечанага фразеалагізма пераймаюць яго значэнне, замацоўваюцца ў мове і набываюць статус узуальнай лексічнай адзінкі: *на кашаля > кашаля* ‘на плячах, за плячыма (насіць)’, *на (бабы) горшкі > горшкі* ‘на шыю, на плечы (браць)’, *з коптурам > коптурам* ‘вышэй краёў посуду, з верхам’, *крэнтам-мэнтам > крэнтам* ‘рознымі хітрыкамі, падманам, выкручваючыся (дабівацца чаго-небудзь)’, *саладзіць водку > саладзіць* ‘цалавацца па загадзе свата, музыкаў ці іншых вясельнікаў у час вясельнага абраду’ (СГВ), *адным махам > махам* ‘вельмі хутка’, *стрэліць у галаву > срэліць* ‘раптоўна, выпадкова з’явіцца ў свядомасці’ (СПЗБ).

Акрамя рэдукцыі, можна вылучыць і такі спосаб адфразеалагічнай дэрывацыі, як кампрэсія. Пры такім спосабе ўтваральнай асновай слова выступае, як правіла, граматычна залежны кампанент фразеалагізма, і да яго далучаюцца марфемы, што пэўным чынам указваюць і на граматычна галоўны кампанент, з’яўляюцца «адгалоскамі» гэтага кампанента. Напрыклад, слова *закаўнерыць* ‘прыцягнуць да адказнасці, пакараць’ (ВКС) утварылася на базе назоўнікавага кампанента *каўнер* фразеалагізма *ўзяць за каўнер,* а катэгарыяльнае значэнне яго сфарміравалася пад уплывам дзеяслоўнага кам-

панента шляхам выкарыстання адпаведных дзеяслоўных марфем. Падобны механізм утварэння ад прыметніка *шарая* назіраем і ў слове *шароўка* 'час, калі пачынае цямнець, на стыку дня і ночы; прыцемак' (СГВ), форма і значэнне прадметнасці якога склаліся пад уплывам назоўнікавага кампанента фразеалагізма *шарая гадзіна.* Прывядзём яшчэ прыклады слоў, утвораных аналагічным спосабам: *біць бінды > біндаваць* 'гультаяваць', *(клясці) у карон> караніць, каранаваць* 'папракаць, клясці', *біць лынды > лындаваць, лындаць, лындачыць* 'ленавацца', *з'ехаць з глузду > прыглуздзіцца* 'згубіць раўнавагу, здурнець' (СГВ), *плесці кашалі > накашаліць* 'нагаварыць недарэчнага' (СПЗБ).

Адфразеалагічная слоўная дэрывацыя, так як і ўтварэнне фразеалагізмаў на базе лексікі, – цікавая, унікальная з'ява, якая заслугоўвае спецыяльнага манаграфічнага даследавання.

*Літаратура*

1. Лепешаў, І.Я Фразеалогія сучаснай беларускай мовы : вучэб. дапам. для філал. фак. ВНУ / І.Я. Лепешаў : Выш. шк. – Мінск, 1998. – 271 с.

---

Першая публікацыя ў зборніку: *Надзённыя праблемы лексікалогіі і анамастыкі славянскіх моў : зб. навук. арт.; адк. рэд. : А.В. Солахаў, В.В. Шур; М-ва адук. РБ, Мазырскі дзярж. пед. ун-т. – Мазыр : УА МДПУ, 2006. – С. 34–36.*

## НАРОДНАЭТЫМАЛАГІЧНАЕ ПЕРААСЭНСАВАННЕ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ У ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЕ

У сферы дыялектнай фразеалогіі народная этымалогія дастаткова пашыраная з'ява. Яна абумоўлена жывымі маўленчымі працэсамі, што адбываюцца як у лексічнай, так і непасрэдна ў фразеалагічнай сістэмах.

Народная этымалогія ўзнікае тады, калі кампанент фразеалагізма не мае семантычнай суаднесенасці з лексемай свабоднага ўжывання, з'яўляецца незразумелым. Цьмянасць структурнага элемента спараджае неадпаведнасць фразеалагізма пераменнай сінтаксічнай адзінцы, зацямняе яго ўнутраную форму. Носьбіты мовы імкнуцца адрадзіць двухпланавасць фразеалагізма. Такі фразеалагізм «можа атрымаць новае вобразнае напаўненне, што забяспечвае, а нярэдка нават узмацняе яго экспрэсію. «Рэканструкцыя» зыходнага вобраза ў такіх выпадках будзе несапраўднай: яна рэгулюецца заканамернасцямі памылковай аналогіі» [1, с. 171].

В.М. Макіенкам вылучаны тры спосабы народнаэтымалагічнага пераасэнсавання фразеалагізмаў: паранімічная, аманімічная і полісемантычная трансфармацыя фразеалагічных кампанентаў [1, с. 171].

Сутнасць паранімічнай трансфармацыі заключаецца ў тым, што незразумелы ці малавядомы кампанент «падцягваецца» да фармальна падобнага зразумелага слова. У выніку гэтага адбываюцца зрухі ў вобразнай структуры фразеалагізма. Напрыклад, у гаворках Астравецкага раёна занатаваны выраз *даць пстрыкача* 'кінуцца наўцёкі, імкліва ўцякаць'. Паводле паходжання гэта рускі фразеалагізм (*дать стрекача*), які ўзнік шляхам эксплікавання слова *стрекать* 'бегчы'. Другі кампанент яго ў мове-крыніцы цьмяны, з няяснай унутранай формай для носьбітаў сучаснай рускай мовы. Тым больш ён незразумелы ў беларускай мове, дзе нават адсутнічае яго дэрывацыйная база. Гэта стала прычынай пераасэнсавання, фармальнага пераўтварэння кампанента

*стрекач* у штучнае слова *пстрыкач*, дэрывацыйна звязанае з дзеясловам *пстрыкнуць* у яго пераносным ужыванні – 'хутка, умомант пайсці, знікнуць'.

Пры аманімічнай трансфармацыі кампанент фразеалагізма падмяняецца іншым фармальна тоесным словам. У беларускай дыялектнай мове ўжываецца фразеалагізм *адным сцягам* 'адзін за адным, чарадой', у якім зыходны кампанент *сцяг* 'рад, палоска' сучаснымі носьбітамі мовы не ідэнтыфікуецца, слова *сцяг* успрымаецца як 'палотнішча, што служыць эмблемай чаго-небудзь'.

Полісемантычная трансфармацыя кампанента па сваёй сутнасці блізкая да аманімічнай. Спецыфіка яе ў тым, што пры пераасэнсаванні фразеалагізма адно значэнне слова-кампанента выцясняецца іншым значэннем гэтага слова. Так, у фразеалагізме *паветра яго ведае* 'невядома' сувязь кампанента *паветра* з яго старажытным значэннем 'хвароба, мор, эпідэмія' страцілася, актуалізаваным выступае значэнне 'сумесь газаў над зямлёй, якія складаюць атмасферу'.

Аналіз дыялектнага фразеалагічнага матэрыялу паказаў, што вылучаныя В.М. Макіенкам тры спосабы пераўтварэння фразеалагізмаў могуць быць дапоўнены яшчэ адным спосабам. Назавём яго структурна-паранімічнай трансфармацыяй. У выніку такой трансфармацыі адзін кампанент можа раскладацца на дзве часткі, можа ўзнікаць дадатковы кампанент, ад гэтага мяняецца і структура фразеалагізма. Напрыклад, у асобных гаворках Гродзеншчыны запазычанне з рускай мовы *наабум Лазара* зафіксавана ў выглядзе *на бум Лазара, садом і гамора – садома яго мора.* На Віцебшчыне дыялектолагамі запісаны такія варыянты фразеалагізма *авохці мне: аўх ця мне, а вох цямней, а вой цямненька.*

Пад народнаэтымалагічнае пераасэнсаванне падпадаюць два тыпы фразеалагізмаў: 1) запазычанні з неасвоеным лексічным кампанентам; 2) спрадвечнабеларускія фразеалагізмы, адзін з кампанентаў якіх выйшаў з актыўнага лексічнага ўжытку.

У заходнебеларускіх гаворках шырока бытуе фразеалагізм *вобцасам у вочы лезці,* першы кампанент якога – слова з лацінскай мовы (*obcessus* 'шалёны, у якім сядзіць д'ябал') праз польскую мову – *obces, obceset* 'дзёрзка, нахабна, бесцырымонна'. Сэнс гэтага слова не ўсведамляецца ці няпэўна ўсведамляецца носьбітамі гаворак, таму яно рэалізуецца ў шэрагу варыянтаў: *вобцасам (вэбсусам, вобсаса, вобцас, обцасам, абцэсам, абсцэсам, абсасам, абцасам) у вочы лезці.* Наяўнасць варыянтаў сведчыць аб пошуках носьбітамі мовы распазнавальнай адзінкі. І такая адзінка знайшлася. Фразеалагічны варыянт *абцасам у вочы лезці* хоць і набыў не зусім рэальны вобраз, але затое ў ім кожны лексічны кампанент характарызуецца семантычнай празрыстасцю.

Народнаэтымалагічнаму перайначванню могуць падлягаць і міждыялектныя запазычанні. Фразеалагізм *даць у ляпу* 'пабіць, пакараць' з балтызмам *ляпа* 'губа', трапіўшы ў гаворкі, якім гэты балтызм невядомы, набыў выгляд *даць у лямпу.* У некаторых гаворках Гродзеншчыны дзеяслоў *гнаць* у загадным ладзе мае форму адзіночнага ліку *жані*, якая захоўваецца ў фразеалагізме (нож) *хоць <роднага> бацьку жані* 'тупы, ненавостраны'. Гаворкі, у якіх адпаведная дзеяслоўная форма мае выгляд *гані,* запазычыўшы фразеалагізм *хоць <роднага> бацьку жані* без калькавання, успрынялі яго з іншым вобразным асэнсаваннем: *жані* тут успрымаецца як вытворная форма ад інфінітыва *жаніць.*

Часцей народная этымалогія назіраецца ў спрадвечных фразеалагізмах з кампанентам – устарэлым словам, якое выходзіць ці выйшла з ужытку. Напрыклад, у розных

беларускіх гаворках вядомы фразеалагізмы *лёстачкамі (лестачкамі) душу (дух) выняць (дастаць, выматаць)* 'лісліўымі словамі, спакойна, настойліва дапячы каму-небудзь, давесці да адчаю, да знямогі', *лёстачкамі слаць (слацца)* 'ліслівa дагаджаць каму-н., падлізвацца да каго-н.', *лёстачкі падпускаць* 'ліслівa сябе паводзіць'. Лексічная адзінка *лестачкі (лёстачкі)* 'ліслівыя словы, усхваленні, кампліменты', 'падлізванне' паходзіць ад праславянскага **lьstь* 'лісліваcць'. Як сведчаць фальклорна-дыялекталагічныя крыніцы, яно ўжо ў XIX ст. атрымала адценне ўстарэласці, але традыцыйна працягвала сваё існаванне ў фразеалагізмах. У сувязі з тым, што слова перастала суадносіцца з адпаведным паняццем, яно набыло ў межах фразеалагізмаў абрысы іншага, зразумелага слова. Яскравай ілюстрацыяй такога праўтварэння з'яўляюцца фразеалагізмы, занатаваныя ў зборніку І.І. Насовіча *ласточки подпускать, ласточками душу выймаець*, дзе кампанент *ласточки* яўная «падробка» назоўніка *лёстачкі* пад назву птушкі. Заслугоўвае ўвагі ў гэтым плане псеўдаэтымалагічная інтэрпрэтацыя І.І. Насовічам фразеалагізма *ласточками душу выймаець:* «Говорять на счёт старающчагося снискать снисхождение или расположение, как бы: шчебечеть подобно ласточке»[2]. Яшчэ большае аддаленне ад зыходнага варыянта выяўляецца ў фразеалагізме *ластаўкаю слацца* 'ліслівa дагаджаць, падлізвацца' (Зэльвеншчына), дзе ранейшы кампанент *лёстачкі* знешне прыпадобніўся (відаць, праз пасрэдніцтва *ластачкі*) да сучаснага беларускага слова *ластаўка.* У зборніку М. Федароўскага зафіксаваны і такі варыянт – *ляшчаткамі душу выме* [3]. Тут кампанент *лестачкі (лёстачкі)* пераарыентаваўся на іншае паняцце: *ляшчаткі (лешчаткі, лешчыткі)* у гаворках мае значэнні 'дзве пласціны, якія выкарыстоўваюцца для сцягвання і сціскання парэзаў скуры пры кастрацыі жывелы', 'медыцынскія шыны'.

Можна прывесці нямала іншых прыкладаў, якія ілюструюць замену ці пераасэнсаванне старажытнага слова-кампанента: *тарапы ў вачах становяцца – чарапы ў вачах становяцца* 'ў чыім-н. уяўленні ўзнікаюць розныя страхі, здані, каму-н. што-н. здаецца' (*тарапы* – 'здані, нешта страшнае, жудаснае ў чыім-н. часта хваравітым уяўленні'); *крывым вокам глядзяць* 'злавацца на каго-, на што-н.' (*крывы* – устар. 'нядобразычлівы, няшчыры'); (дабіць) *да пухі* – (дабіць) *да пугі* 'да пэўнай непрыгоднасці' (*пуха* – 'тупы канец яйка, супрацьлеглы вастрэйшаму'), *зграком у вочы лезці – граком у вочы лезці* 'назойліва прыставаць, дакучаць' (*зграк* – 'міфічная істота'); (баяцца) *як сабака дзеда* 'зусім не (баяцца)' (*дзед* – устар. 'калюча-ўчэпістае суквецце-шышка лопуху').

Народнаэтымалагічная трансфармацыя фразеалагічных кампанентаў можа быць звязана як з апелятыўнай, так і з анамастычнай лексікай. Фразеалагізм *ні да Сасу ні да лясу* 'нікуды не вартае што-н., нікуды не варты хто-н.' узнік на беларуска-польскім моўным памежжы, калі ў Рэчы Паспалітай уладарыў кароль Аўгуст ІІ Сас (з 1696 па 1733 гг.). У наш час для носьбітаў гаворак імя Сас страціла сувязь з канкрэтнай гістарычнай асобай і па гэтай прычыне ў асобных гаворках «перааформілася» ў іншае слова з больш-менш зразумелай матывацыяй – *ні да спасу ні да лясу* (Воранаўскі раён). Вядомы і адваротны працэс, калі слова набывае абрысы ўласнага імя. У Гродзенскім раёне зафіксаваны выклічнікавы фразеалагізм *згінь ты Мар'я прападзі.* Гэта сучасны варыянт фразеалагізма *згінь ты марне прападзі.* Кампанент *Мар'я* стаў магчымы па прычыне фармальнага падабенства яго да польскамоўнага прыслоўя *марне.*

Змяненне і пераасэнсаванне фразеалагічных кампанентаў адбываецца пад уплывам лексічнай сістэмы, дзякуючы наяўнасці ў ёй паранімічных ці аманімічных лексіч-

ных адзінак. Вядомы таксама прыклады, калі фразеалагізм перайначваецца пад непасрэдным ці ўскосным ўздзеяннем іншага актыўна ўжывальнага фразеалагізма. У гаворкі заходняй Беларусі з еўрапейскіх моў праз польскую трапіў фразеалагізм біблейскага паходжання *od Heroda do Piłata,* у якім польскамоўныя словы *Herod* (Ірад) і *Piłat* (Пілат) трансфармаваліся на падставе знешняга падабенства ў беларускія словы *гарод і плот.* Фразеалагізм набыў выгляд *ад гарода да плота* 'без справы, без мэты (хадзіць)': *За цэлы дзень нічога не зрабіла, хадзіла ад гарода да плота* (Ляпёшкі Іўеўскага р-на). Гэтаму ў значнай меры спрыяў фармальна падобны беларускі фразеалагізм *ні ў плот ні ў гарод.* Параўн. таксама: *лестачкамі душу выняць → лешчаткамі душу выняць* (пад уплывам *узяць у лешчаткі* 'трымаць каго-н. пад строгім кантролем, прымушаючы дзейнічаць пэўным чынам').

Народнаэтымалагічнае змяненне фразеалагізмаў і замацаванне іх у новай якасці можа праяўляцца ў рознай ступені. З лёгкасцю пераасэнсоўваюцца фразеалагізмы, калі ў выніку гэтага ўзнікае новы рэальны вобраз: *і кот не валяў* у каго, дзе 'нічога не роблена, не пачата, не падрыхтавана' – *і кот кошку не валяў* дзе 'зусім не пачыналася што-н.'. Калі ж пераарыентцыя кампанента стварае няпраўдападобнасць ці нелагічнасць вобраза, то пераасэнсаванне натыкаецца на пэўныя няяснасці і часам заходзіць у тупік. Для прыкладу возьмем фразеалагізмы з кампанентам *вуда (вуды).* Гэтае слова сваімі каранямі сягае да праславянскага **udъ*, яно выкарыстоўвалася яшчэ ў старабеларускай мове (*удъ, вуда*) са значэннем 'частка цела'. У сучасных гаворках яно захавалася толькі ў фразеалагізмах: *вуды падцягнула* 'моцна захацелася есці', *падцягнуць (уцягнуць) вуды* 'пахудзець, паблажэць', *паттаргнуць (паттарнуць) вуды* 'схуднець', *зайцавы вуды* 'вельмі худы хто-н.', *адкінуць вуды* 'ляжаць, спаць лежачы', *ледзь вуды цягаць* 'вельмі павольна, з цяжкасцю хадзіць, рухацца'. Старажытнае значэнне гэтага слова сучаснымі носьбітамі мовы не ўсведамляецца. Толькі ў апошніх двух фразеалагізмах кампанент *вуды* асацыятыўна суадносіцца з паняццем 'ногі', дзякуючы таму што існуюць іншыя фразеалагізмы такой самай структурна-семантычнай мадэлі: *адкінуць ногі, ледзь ногі цягаць.* У сучаснай мове слова *вуда* ўжываецца з іншым значэннем – 'рыбалоўная прылада'. Менавіта з гэтым значэннем яно ўспрымаецца цяпер пры выкарыстанні пералічаных фразеалагізмаў. Аднак *вуда* 'рыбалоўная прылада' лагічна «не стыкуецца» з іншымі кампанентамі фразеалагізмаў, не ўтварае разам з імі вобразнай пэўнасці. Не атрымаўшы новай вобразнай падтрымкі, фразеалагізмы могуць з цягам часу выйсці з актыўнага моўнага ўжытку, стаць фактамі гісторыі.

У дыяхраніі першасны фразеалагічны кампанент, заменены паранімічным ці аманімічным кампанентам, усё больш аддаляецца ад зыходнай вобразнай структуры фразеалагізма і з цягам часу можа падвергнуцца поўнаму забыццю. Рэканструяваць яго з пэўнай доляй верагоднасці магчыма толькі ў працэсе спецыяльных этымалагічных даследаванняў. Напрыклад, пачынаючы з XIX ст., лінгвісты спрабавалі разгадаць значэнне слова *кулічкі,* якое стала кампанентам фразеалагізмаў *у чорта на кулічках, да чорта на кулічкі.* Выказаны шэраг этымалагічных версій. Найбольш пераканальнай з іх можна лічыць наступную: *кулічкі* – выпаленае і расчышчанае пад ворыва месца ў лесе ў часы падсечна-агнявой сістэмы земляробства. Вырубаны лес спальваўся, і дватры гады на гэтым месцы аралі і сеялі, пасля яго пакідалі, і яно зноў зарастала лесам. Што да першага назоўнікавага кампанента фразеалагізма, то этымолагі без усякага сумнення лічаць, што слова *чорт* тут з самага пачатку было выкарыстана са зна-

чэннем ‘нячыстая сіла’. Абгрунтоўваецца гэта такім чынам, што закінутыя людзьмі кулічкі любілі абжываць нячысцікі, чэрці. Нашы ўласныя этымалагічныя пошукі прывялі да высновы, што кампанент *чорт* у згаданых фразеалагізмах узнік ў выніку народнаэтымалагічнага пераасэнсавання іншага слова, з іншым значэнем. Такім словам з’яўляецца старажытны назоўнік *черть (черти)*. Спачатку ім называлі засечкі на дрэвах, якія трэба было засушыць, каб пасля спаліць. Пазней слова *черть* у выніку метанімічных пераносаў набыло значэнні ‘праведзеная лінія, мяжа ў выглядзе вырубкі ў лесе’, ‘вырубаны ўчастак лесу’, ‘паласа, участак зямлі, вырабленай у лесе пад ворыва’ (падрабязней пра гэта можна будзе прачытаць у нашым асобным артыкуле).

Народная этымалогія выступае аным са сродкаў «жывучасці» фразеалагізмаў. Пры страце актуальнасці формы яны імкнуцца захаваць сваё існаванне, пераўвасобіўшыся ў іншую форму адпаведна сучасным лексічным адзінкам мовы.

*Літаратура*


1. Мокиенко, В.М. Славянская фразеология / В.М.Мокиенко. – М. : Высш. шк., 1989. – 287 с.
2. Сборник белорусских пословиц, составленный И.И.Носовичем. – СПб, 1874.
3. Federowski, M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej / M. Federowski. – Warszawa, 1935. – T. 4. – 490 s.


---


Першая публікацыя ў зборніку: *Беларуская фразеалогія і еўрапейскі моўны кантэкст : зборнік навук. артык.: у 2 т. Т.1; М-ва адукацыі РБ, Брэсц. дзярж. ун-т імя А.С. Пушкіна, Каф. гісторыі беларус. мовы і дыялекталогіі; рэдкал. : М.М. Аляхновіч [і інш.]. – Брэст: Альтернатива, 2009. – С. 20–24.*


## ДЭВУЛЬГАРЫЗАЦЫЯ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ І ПРЫКАЗАК

У беларускай мове існуе вялікі пласт устойлівых зваротаў, што знаходзяцца за межамі літаратурнага маўлення па прычыне сваёй грубасці і зніжанасці. Выкарыстоўваюцца яны пераважна ў вусна-бытавых маўленчых зносінах і толькі нямногія спарадычна пранікаюць у пісьмовыя літаратурна-мастацкія ці публіцыстычныя тэксты. Вульгарныя фразеалагізмы і прыказкі, вызначаючыся ярка выражаным канататыўным зместам, па сіле свайго эмацыянальна-экспрэсіўнага ўздзеяння, відаць, не маюць сабе роўных у сістэме ацэначных моўных сродкаў. У гістарычным часе яны не праяўляюць схільнасці да архаізацыі. Наадварот, непрыстойныя выразы характарызуюцца незвычайнай жывучасцю, тэндэнцыяй да пашырэння, колькасны склад іх няспынна папаўняецца.

Знаходзячыся ў актыўным ужытку пэўных слаёў насельніцтва ці так званых дэкласаваных элементаў, вульгарныя адзінкі мовы настойліва імкнуцца пранікнуць у сацыяльна-культурнае асяроддзе. Аднак сваёй фармальнай структурай яны не адпавядаюць маўленчым нормам гэтага асяроддзя. Каб трапіць у яго межы, вульгарызму неабходна змяніць свой непрыстойны выгляд, «пераапрануцца» ў іншую лексічную «адзежу».

Дэвульгарызацыя ўстойлівых выразаў дастаткова пашыраная з’ява. Яна выступае і як стылістычны прыём, заснаваны на абыгрыванні, гульні моўных сродкаў, і як адзін са шляхоў утварэння фразеалагізмаў, павелічэння іх колькаснага складу.

Пры даследаванні гэтага пытання ўзнікаюць пэўныя складанасці. Яны выкліканы, па-першае, недастатковасцю фактычнага матэрыялу. Аўтары слоўнікаў, па зразумелых прычынах, звычайна абыходзяць увагай падобныя выразы, уключаюць іх у свае працы вельмі рэдка. Другая складанасць у тым, што пра непрыстойныя моўныя факты трэба гаварыць публічна, і гэта вымушае вынаходзіць такія спосабы падачы ілюстрацыйнага матэрыялу, якія далі б магчымасць не выходзіць за межы дазволенага.

Матэрыялам для гэтага артыкула паслужылі фразеалагізмы і прыказкі, выпісаныя са слоўнікаў беларускай дыялектнай і літаратурнай мовы, а таксама сабраныя аўтарам пераважна на Гродзеншчыне.

Дэвульгарызацыя фразеалагізмаў і прыказак адзначаецца найперш як факт маўлення. Нярэдка маўленчая перабудова ўстойлівых адзінак становіцца фактам мовы, прыводзіць да ўтварэння новых варыянтаў і выразаў. Яна закранае як асобныя адзінкі, так і цэлыя фразеалагічныя серыі. Так, па нашых меркаваннях, фразеалагічная мадэль з граматычнай структурай «*на* + назоўнік роднага склону» са значэннем ‘навошта, для чаго’ напачатку была прадстаўлена вульгарным фразеалагізмам. Па яго ўзоры ў далейшым узніклі іншыя фразеалагізмы, якія ўвайшлі ў агульнанародны ўжытак, некаторыя з іх даюцца ў літаратурных слоўніках як прастамоўныя: *на храна′, на фіга′, на халеру, на чорта (на чарта′).*

Хутчэй за ўсё вульгарны пачатак мелі таксама наступныя фразеалагічныя мадэлі:

«*ні* + назоўнік роднага склону» са значэннем ‘зусім нічога’: *ні храна, ні фіга, ні хваробы, ні халеры, ні чарта;*

«*да* + назоўнік роднага склону» са значэннем ‘вельмі многа’: *да храна, да фіга, да халеры, да дуры, да вала′;*

«*ідзі* + назоўнік вінавальнага склону з прыназоўнікам *у*» з выклічнікавым значэннем ‘выказванне злосці на каго-н., незадаволенасці кім-н.’: *ідзі ў пень, ідзі ў сечку <з камарамі>.*

Выказанае меркаванне, зразумела, патрабуе праверкі на верагоднасць, што магчыма пры вывучэнні фразеалагізмаў у дыяхранічным аспекце.

Намінатыўнай семантыкай вульгарныя фразеалагізмы нічым не вылучаюцца сярод сотняў і тысяч іншых фразеалагізмаў, абазначаюць тыя самыя прадметы, з’явы, паняцці, што і многія іншыя фразеалагізмы. Вульгарны пачатак закладзены ў іх вобразнай аснове, а фармальным выразнікам яго з’яўляецца адзін з структурных кампанентаў, які і за межамі фразеалагізма мае негатыўную афарбоўку. Такім кампанентам могуць выступаць словы некалькіх тэматычных груп, гэта назвы: а) асобных частак цела чалавека і жывёлы; б) прадуктаў абмену рэчываў, што выходзяць з арганізма; в) працэсаў выдалення гэтых рэчываў; г) інтымных адносін і дзеянняў.

Пры «акультурванні» падобных фразеалагізмаў найбольш практыкуецца спосаб з а м е н ы непажаданага кампанента. Можна вылучыць некалькі тыпаў замен паводле семантыкі, стылістычнай афарбоўкі, сферы пашырэння і паходжання новаўведзенага лексічнага матэрыялу.

1. Замена вульгарнага слова абсалютным сінонімам, які таксама напрамую называе тое самае паняцце, але мае афарбоўку не самай апошняй ступені зніжанасці, напрыклад, *абрабіцца, дух, наваняць, папалявацъ, попа, спражняцца: як абрабіўшыся* ‘нерухома, нерашуча (стаяць)’; *як дух па ганавіцах* ‘без справы, без занятку (хадзіць,

лазіць і пад.)'; *з чортам папалявала* 'вельмі бойкая, рашучая, шустрая (пра дзяўчыну, жанчыну)'; *начхаць і наваняць* каму <на каго, на што> 'усё роўна каму-н. што-н.'; *адзін пень гарэў другі попу грэў* 'абое аднолькавыя'.

2. Выкарыстанне ў якасці замяняльніка слова, што выконвае ролю эўфемізма. Адны з такіх эўфемізмаў набылі агульнамоўнае пашырэнне. Яны ўжываюцца і паза фразеалагізмамі, і ў кампанентным складзе фразеалагізмаў як дыялектнай, так і літаратурнай мовы, напрыклад, *бруд, гной, гразь, зад, тыл, хвост, хрэн: уваліцца ў бруд* 'трапіць у непрыемнае становішча'; *пляснуцца тварам у гразь* 'асароміцца, паказаць сябе з найгоршага боку ў чым-н.'; *несці сябе як гной на вілах* 'трымацца высакамерна, ганарліва'; *круціць задам* 'легкадумна паводзіць сябе, гуляць з многімі (пра жанчыну)', 'хітраваць, крывадушнічаць, ашукваць'; *лізаць зад* каму 'падлізвацца, падхалімнічаць'; *даваць каленкам пад зад* каму 'выганяць каго-н., звальняць, здымаць з пасады'; *даць у тыл (у тылак)* каму 'пабіць, пакараць каго-н.'; *як Дашкейча бычок – тылам, тылам і ў студню* 'не ў меру, залішне (спрытны, дзейны, дасужы)'; *даць пад хвост* каму 'насварыцца на каго-н., прабраць, пакараць каго-н.'; *завінула ў хвасце* ў каго 'каму-н. вельмі моцна захацелася, уздумалася рабіць што-н.'; *усыпаць перцу пад хвост* каму 'моцна дапячы, зрабіць непрыемнасць каму-н.'; *хрэн сабачы* 'кепскі чалавек'.

Другая частка лексічных эўфемізмаў рэгіянальна абмежаваная. Яны адзначаны на пэўнай дыялектнай тэрыторыі, прычым некаторыя створаны для ўстойлівых выразаў і ўжываюцца толькі ў іх складзе: *варушыць батонамі* 'ісці (пра чалавека)'; *браць за яблычко* 'прыцягваць да адказнасці, караць'; *драць за шкоды* 'браць вялікую плату, заломваць высокую цану'; *па самыя годзі* 'спаўна, як толькі можна'; *толькі дух ды пятух* 'вельмі худы хто-н.'; *да апупеня* 'да знямогі, да крайнасці'; *мачуліва задраўшы* 'бесклапотна, доўга (ляжаць, спаць)'; *Пашчупаў мачула, а яна не чула.*

3. Замена беларускага слова іншамоўным эквівалентам. Такая асаблівасць характэрна для выразаў у раёнах міжмоўнага кантактавання. Напрыклад, гаворкі Гродзеншчыны на працягу стагоддзяў знаходзіліся ў непасрэдным кантакце з гаворкамі суседніх польскай і літоўскай моў і гістарычна ўвабралі ў сябе значную колькасць паланізмаў і літуанізмаў. Іншамоўная лексіка выкарыстоўваецца ў розных сітуацыях, у тым ліку і для змяншэння афарбоўкі вульгарнасці. У псіхалінгвістычнай свядомасці носьбіта гаворкі іншамоўны дублет менш саромны, паколькі ён не свой, а чужародны, выкарыстоўваецца іншымі і падаецца як бы ад імя іншых. У якасці ілюстрацыі можна прывесці паланізм *дупа: ідзі ў дупу, да дупы* каму што, (нож тупы) *як дупа.* Дарэчы, на Гродзеншчыне хадавымі з'яўляюцца і непасрэдныя польскія фразеалагічныя запазычанні з гэтым кампанентам: *ідзь да дупы спеваць* 'выказванне негатыўных адносін да каго-н.'; *дупа пердалёна* 'вокліч прыкрасці, абурэння'; *хату меце, клёцкі гнеце, в дупе калупе* 'выконвае некалькі спраў адначасова'; *Дай гарбаты, а чаю я і з дупы накачаю.* Прыкладамі з іншых моў могуць быць словы *кяту*рка* (з літоўскай), *муды** (з лацінскай праз польскую ці ўкраінскую): *закрый сваю кятурку* 'замоўкні'; *як кятурка старога дзеда* 'неахайны, неакуратны'; *–Ты куды? – Цягаць котку за муды.*

Адзначаныя віды замен характарызуюцца тым, што і зыходнае слова-кампанент, і яго другасны варыянтны адпаведнік маюць аднолькавую ці блізкую семантыку. У шэрагу выпадкаў паміж лексічнымі варыянтамі семантычнае адзінства адсутнічае: словы аб'ядноўваюцца толькі тэматычнай еднасцю або наогул не маюць сэнсавай сувязі: *Вышэй пупа не падскочыш; да лямпачкі; Заракалася свіння жалудоў (апельсінаў,*

*гарбузоў) не есці; Не вучы вучонага – з'ешката пячонага; ні ў пяце ні ў галаве; ні ў школу ні ў красную армію; як з воўчага горла дастаны* 'пакамечаны'; *як галодны ў борну* 'вельмі марудна (збірацца куды-н.)'; *як з хлеба куля* 'зусім нявартасны, нікчэмны'*; як сярпом па шыі* каму што 'каму-н. што-н. вельмі непрыемнае, непажаданае'.

Другі прадуктыўны спосаб «акультурвання» ўстойлівых выразаў – гэта іх с к а р а ч э н н е , якое рэалізуецца ў наступных разнавіднасцях.

1. Скрачаецца толькі частка вульгарнага слова. Асноўны фрагмент яго замоўчваецца, а захоўваецца толькі пачатковы гук: *г... на палачцы* 'нікуды не варты, нявартасны'; *адвакату г... на лапату* 'асуджальны адказ таму, хто лезе не ў сваю справу, выступае абаронцам там, дзе яго не просяць'; *Нічога добрага да нашага берагу не прыплыве, толькі г... і трэскі; без мыла ў с... лезці; у с... носам па маліны* 'нікуды не (пойдзеш)'.

2. Скрачаецца слова цалкам: <...> *грушы акалачваць* 'нічога не рабіць'; <...> *з курамі дзюбаў,* <...> *з свіньмі еў* – 'з запэцканым тварам, носам'.

3. Скарачаецца спалучэнне слоў: *язык* <...> *паляцець* можа 'што-н. вельмі смачнае'; *смажаны певень клюнуў* <...> каму 'хто-н. сустрэўся з сапраўднымі жыццёвымі цяжкасцямі'.

Абодва адзначаныя спосабы – і замена, і скарачэнне – могуць мець вынікам неаднолькавую ступень дэвульгарызацыі фразеалагізма. Новы варыянт фразеалагізма з эстэтычна-культурнага боку часцей за ўсё таксама не зусім «чысты», бо выклікае асацыятыўную сувязь з зыходнай асновай. Пры выкарыстанні яго ўзнікае двухпланавасць успрымання. Найбольш празрыстай двухпланавасць бывае тады, калі ў пазнейшым варыянце ёсць фармальны намёк на папярэдні варыянт. Гэта можа быць гукавая пераклічка кампанентаў: *ідзі на хутар* <*бабачак лавіць*> 'выказванне незадавальнення, абурэння кім-н.'; *як два пальцы аб асфальт* што каму 'вельмі лёгка, запраста (зрабіць што-н.)'; *ручка ад халадзільніка* 'той, хто ў размове, выхваляючыся, злоўжывае словам «я»'; *з'еш два гваздзі і не шыздзі* 'замоўкні, маўчы'; *– Дзе? – У Карагандзе.* Вызначальніцай замененага слова з'яўляецца таксама і рыфма, калі на ёй заснаваны ўстойлівы выраз: *Выскачыла каза з маку – паказала ваўку зад.*

Найвышэйшая ступень дэвульгарызацыі ўласціва тым выразам, якія страцілі сувязь з утваральнай асновай. Пры выкарыстанні іх не ўзнікае нават намёку на першасны варыянт. Яскравы прыклад гэтага – агульнанародны фразеалагізм *ні самому паглядзець ні людзям паказаць* 'нікчэмны, непрыглядны, такі, што выклікае непрыемнае ўражанне', які ўзнік у выніку скарачэння прыказкі. Цікавае тлумачэнне яго знаходзім у «Зборніку беларускіх прыказак» І.І. Насовіча: «Буквально говорится о чире в заднем проходе, но говорится и о лице из семейства, которое отвращает от себя взор людской» [1, с. 114]. Сёння нават цяжка здагадацца, што ён з'яўляецца фрагментам, «абломкам» прыказкі.

Ужо не выклікаюць двухпланавага ўспрыняцця і такія фразеалагізмы: *адзін пень гарэў другі спіну грэў, без мыла ў душу лезці, без мыла лезці, лізаць пяткі, мяшаць з граззю, як банны ліст да цела, як банны ліст.* Вызваліўшыся ад налёту непрыстойнасці, яны змянілі і свой стылістычны статус, пазбавіліся адцення грубасці і зніжанасці.

Такім чынам, дэвульгарызацыя ўстойлівых выразаў – прыкметны і актыўны працэс, які адбываецца рознымі спосабамі. Змены ў фразеалогіі могуць працякаць і ў адваротным кірунку. Гэта з'ява вульгарызацыі (дысфемізацыі), скіраваная на ўтварэнне

фразеалагізмаў стылістычна зніжаных, фамільярных, грубых. Вызначаныя памеры артыкула не пакідаюць месца для яе разгляду, прывядзём толькі асобныя больш-менш «сціплыя» прыклады: *заліць вочы – заліць морду, даць у нос – даць па храпах, хто яго ведае – здыхата яго ведае, закрыць рот – закрыць вафельнік.*

*Літаратура*

1. Сборник белорусских пословиц, составленный И.И.Носовичем. – СПб, 1874. – 232 с.

Першая публікацыя ў зборніку: *Славянская фразеология в ареальном, историческом и этнокультурном аспектах : материалы V Международной конференции (Гомель, 22–23 октября 2007 г.). / редкол.: В.И.Коваль (отв. ред.) [и др.]. – Гомель: ГГУ им. Ф.Скорины, 2007. – С. 56–60.*

## ПРА ЧОРТА І *КУЛІЧКІ*: ЭТЫМАЛАГІЧНЫ АНАЛІЗ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ

Пачынаючы з XIX ст., лінгвісты спрабуюць растлумачыць паходжанне фразеалагізмаў *у чорта на кулічках, да чорта на кулічкі.* Калі сэнс першага назоўнікавага кампанента гэтых фразеалагізмаў быццам бы не выклікае сумнення, то другі назоўнікавы кампанент *кулічкі* для сучасных носьбітаў мовы пэўная загадка.

Існуе некалькі этымалагічных гіпотэзаў утварэння згаданых фразеалагізмаў. Яны сабраны разам у кнізе «Слоўнік рускай фразеалогіі: гісторыка-этымалагічны даведнік» [1, с. 624].

1. У Маскве пры царкве Кіра і Іаана ў Куліжках патрыярхам Іовам была пабудавана багадзельня. У ёй пасяліўся д’ябал, які пасля быў выгнаны малітвамі прападобнага Іларыёна. Пра свавольствы гэтага д’ябла існавала многа легендаў, якія, магчыма, і паслужылі нагодай адносіць усё, што прапала, да чорта на кулічкі (Н.Я. Ермакоў).

2. *У чорта на кулічках* – грубы выраз, запазычаны з польскай мовы, дзе *kuliczki* – нецэнзурнае слова (А.В. Ісачэнка).

3. Слова *кулічкі* у выразе *да чорта на кулічкі* мае сувязь з абласным словам *кулічкі* ‘ватрушкі, вясельны пірог, куліч’ (А.А. Нікольскі).

4. Слова *кулічкі (куліжкі, кулігі)* абазначае ‘прагаліны, паляны, балоцістыя мясціны ў лесе’. Паводле народных павер’яў, гэтыя глухія мясціны – аблюбаваны прыстанак нячыстай сілы (Н.С. Дзяржавін).

5. Шэраг даследчыкаў (М.І. Міхельсон, С.В. Максімаў, Э.А. Вартаньян, В.М. Макіенка, І.Я. Лепешаў) слова *кулічкі (<куліжкі, <кулігі, <куліга)* тлумачаць наступным чынам. Гэта выпаленыя і расчышчаныя пад ворыва лясныя мясціны пры падсечна-агнявой сістэме землекарыстання. Вырубаны лес спальваўся, і некалькі гадоў на гэтым месцы аралі і сеялі. Затым поле пераставалі апрацоўваць. Яно хутка зарастала лесам. Менавіта на такіх далёкіх і дробналесных кулічках, паводле забабонаў, вадзіліся чэрці.

З усіх прапанаваных версій бліжэй да ісціны ў плане растлумачэння значэння слова *кулічкі* апошняя. Як сведчаць дыялектныя слоўнікі рускай мовы, *куліжка (куліжкі, кулічкі)* – памяншальная форма слова *куліга* (гл. напрыклад: СРГМ, СРДГ-1, СРНГ-16).

Слова *куліга* (і вытворныя ад яго) першапачаткова мела значэнне ‘участак з-пад лесу, расчышчаны пад ворыва, часам луг’ (СРНГ-16). Пасля яно развіло ў розных гаворках іншыя значэнні і адценні значэнняў, большасць з якіх мае дачыненне да сельскагаспадарчых угоддзяў у лясной мясцовасці, напрыклад: ‘поле і луг у лесе’, ‘уклінены ў лес участак поля ці лугу’, ‘расчышчанае месца ў лесе, дзе расстаўляюць лён для прасушкі’, ‘месца ў лесе, дзе паміж кустамі ці на дзялянках можна касіць траву’, ‘невялікая лясная паляна’, ‘невялікі лес сярод палёў’, ‘участак зямлі’ (СРНГ-16).

З коранем *куліч (кулiж, куліш, кулік, куліц)* захавалася да нашага часу нямала мікратапонімаў, якія абазначаюць пераважна лясныя ці сельскагаспадарчыя аб’екты: *Кулік* – поле і сенажаць, *Кулікава* – поле, *Кулікава поле* – урочышча, *Кулікі* – сенажаць, *Кулікоўская* – поле, *Куліцкія* – поле, *Кулячкы* – урочышча (МБ), *Кулікі* – сенажаць, *Кулікова поле* – поле, *Кулікоўка* – лес, *Кулікоўскі лес* – лес, *Кулікоўшчына* – поле, *Кулікішкі, Кулікушкі* – сенажаць (АСГ), *Kuliszki* – лес, выселкі, *Kaliczki odpadek*– лес (SNPP-1).

Кулічкі ў часы падсечна-агнявога земляробства распрацоўваліся, па ўсёй верагоднасці, удалечыні ад населеных пунктаў, бо вакол паселішчаў ужо былі асвоеныя пад сельскую гаспадарку плошчы. Пра гэта сведчаць і некаторыя значэнні, якія развіліся ў слове *куліга (куліжка)* – ‘разараная палянка ў лесе далёка ад вёскі ці поля’, ‘лес, які знаходзіцца далёка ад населенага пункта’, ‘аддаленае поле’, ‘вёска ў лесе, удалечыні ад іншых населеных пунктаў’, *жить на кулиге* – ‘жыць на выселках, не ў вёсцы’ (СРНГ-16).

Такім чынам, элементам фонавага значэння слова *кулічкі* з’яўляецца ўяўленне пра адлегласць, далечыню, што знайшло рэалізацыю ў фарміраванні фразеалагічнага значэння: *у чорта на кулічках* – ‘вельмі далёка, у аддаленых мясцінах (быць, жыць, знаходзіцца і пад.)’, *да чорта на кулічкі* – ‘невядома куды і для чаго (ісці, ехаць і пад.)’.

Цяпер паўстае пытанне, чаму ў вобразнай аснове фразеалагізмаў фігуруе *чорт*. Этымолагі тлумачаць гэта тым, што на кулічках праз некалькі гадоў землекарыстання ўрадлівасць глебы вычэрпвалася. Людзі кідалі гэтыя мясціны, і на такіх пустках любілі знаходзіцца чэрці. Аднак у згаданым тлумачэнні можна заўважыць пэўную лагічную «нестыкоўку». Паводле народных уяўленняў, улюбёным месцам чорта з’яўляецца не суша, а балота, і гэта адлюстравана ў шэрагу фразеалагізмаў і прыказак, напрыклад: *у чорта на болоті* ‘вельмі далёка’ (ФСГД), *чорт з балота* ‘невядома хто’ (ФСБМ), *як чорт з балота* ‘зусім нечакана, знянацку (выскачыць)’ (ЗНФ), ‘вельмі хутка, імкліва (выбегчы)’, ‘вельмі брудны, запэцканы хто-н.’ (СДФГ), *У ціхом болоці чэрці водзяцца* (ТС-5), *Балота біс чорта ні бываіць* (СПЗБ-5), *Было б балота, а чэрці знойдуцца* (СБП). Адпаведна народным уяўленням, на закінутых кулічках, якія знаходзіліся часцей у лесе, на незабалочаных мясцінах, лагічней было б «пасяліць» не чорта, а, напрыклад, *лесуна (лесавіка, лешага)* (*лясун* – лясны дух) або *ляда* (*ляд* – нячысцік, які жыве ў закінутым лядзе; *ляда* – расчышчанае месца ў лесе пад ворыва; тое самае, што і *кулічкі*). Але са словамі *лясун (лесавік, лешы)* і *ляд*, як сведчаць літаратурныя і дыялектныя слоўнікі ўсходнеславянскіх моў, няма варыянтаў фразеалагізмаў *у чорта на кулічках, да чорта на кулічкі*, у той час як фразеалагізмы іншых мадэлей, іншай пазамоўнай матывацыі такія варыянты маюць, напрыклад: *на кой чёрт (леший, ляд)* (ФСРЯ).

Магчыма, пры ўтварэнні фразеалагізма *у чорта на кулічках* першы назоўнікавы кампанент абазначаў не чорта? Гэтае пытанне ўзнікла пры знаёмстве з іншымі фразеалагізмамі падобнага лексічнага складу.

У беларускіх, украінскіх і некаторых рускіх гаворках слова *кулічкі* выкарыстоўвалася яшчэ і ў фанетычным варыянце *кулачкі.* У часы актыўнага функцыянавання варыянт *кула́чкі* замацаваўся ў шэрагу фразеалагізмаў, якія ўжываюцца і сёння. У гэтых фразеалагізмах, большасць якіх мае тэмпаральнае значэнне ‘вельмі рана, перад світаннем’, першым назоўнікавым кампанентам выступае слова *чэрці*: *яшчэ чэрці на кула́чках не біліся* (Fed.), *шчэ чэрци на ўкула́чках не бились* (СГЗБ), *ещё черци на кула́чках не билися* (Нос.), *ще [й] чорти навкула́чки <не> б'ються* (ФСУМ), *ще чорти навкула́чки б'ються* (ФСГД), *яшчэ чэрці на кула́чкі не ідуць* (СДФГ), *<яшчэ> чэрці на кула́чкі не выходзілі (не браліся, не біліся)* (ФСБМ).

На першы погляд, тут кампанент *чэрці* не што іншае як назва міфічнай істоты *чорт* у множным ліку. Аднак спалучэнне яго з дзеяслоўнымі кампанентамі *біцца, ісці, выходзіць, брацца* наводзіць на шэраг роздумаў. Чаму чэрці павінны біцца? У фальклоры шмат сюжэтаў, якія паказваюць, што чэрці чыняць усялякія непрыемнасці людзям, але ў сваім асяроддзі, паміж сабой яны жывуць больш-менш згодна. І адкуль яны павінны *ісці, выходзіць* і чаму менавіта на кулачкі, а не ў іншае месца? І ўжо зусім незразумела, як гэта чэрці могуць *брацца* і што гэта азначае.

Усе гэтыя пытанні вымушаюць больш уважліва прыгледзецца да кампанента *чэрці.* Магчыма, першапачаткова сваім значэннем ён не быў звязаны з уяўленнем пра нячысцікаў? Каб адказаць на гэта, неабходна звярнуцца да некаторых рэаліяў падсечнаагнявога земляробства.

Каб падрыхтаваць тэрыторыю пад *кулігі (куліжкі, кулічкі, кулачкі)*, перш трэба было выпаліць участак лесу і выкарчаваць пні. Сыры лес гарыць кепска, і таму перад спальваннем яго імкнуліся засушыць. Для гэтага на ствалах рабілі *чэрць (чэрці, чарцёж, чарцяжы)*: *«Черти, чертежи* – так у даўніну называліся засечкі на дрэвах, якія трэба было засушыць, а пасля спаліць, і такім чынам падрыхтаваць лясную дзялянку пад ворыва» [2, с. 29]. Пазней слова *черть (черти, чертежи)* у выніку метанімічных пераносаў набыло значэнні: ‘праведзеная лінія, мяжа ў выглядзе вырубкі ў лесе’, ‘вырубаны ўчастак лесу’, ‘паласа, участак зямлі, выраблены ў лесе пад ворыва ці сенажаць’. Параўн.: «Рабілі чарцёж: кожнае дрэва абчэсвалі кругом, каб яно пасохла. Праз некалькі гадоў – якую плошчу зачарцілі – лес падсыхае... дзе-небудзь на новым месцы чарцілі лес, а пасля будаваліся на чарцяжы» [3, с. 403]; «*Чэрцы* – участак лесу, які засушвалі на корані (абчэсвалі кару, і дрэва засыхала), а потым ссякалі і будаваліся» [4, с. 548]. Пра гэта ўказваюць і помнікі старабеларускай пісьмовасці. Некалькі прыкладаў з картатэкі «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы», якая захоўваецца ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі: Одъ семи лѣтъ почалъ черти, а одъ чотырехъ якъ почалъ косити распраставши лѣсъ... (АВАК, XI, 1556, 31, Вільна); ...Они мѣли… роспашы и чертежы новыи собѣ почынити (РКП, с. 248, 1545, Пінск); …Ты самъ, пане, и подданыи твои николи чертежу не розробливали (АВАК, XI, 1556, 30, Вільна); ...Чертежи по той горѣ есть наши (Арх. Зб. I, 61, 1546).

Варта таксама звярнуць увагу на тое, што для абазначэння працэсаў і дзеянняў, звязаных з чэрцямі, выкарыстоўваўся дзеяслоў *біць.* Дыялектныя слоўнікі падаюць многа значэнняў гэтага дзеяслова. Найбольш цікавымі для нас з'яўляюцца такія

значэнні, як ‘адрываць, аддзяляць, здымаць, драць (кару з дрэва)’, ‘распрацоўваць участак лесу пад ворыва’, ‘разбіваць, дзяліць зямлю на ўчасткі’. Параўн.: *бить бересто (у)* ‘здзіраць бяросту з бярозы’ (СРНГ-2), *бить лядо* ‘распрацоўваць месца ў лесе пад пасевы’ (ССГ-1), *бить землю (полосы, участки)* ‘делить, разбивать, раздроблять’ (ССГ-1), *бить землю* ‘дзяліць зямлю (на індывідуальныя участкі пры аднаасобнай гаспадарцы)’ (СРНГ-2), *біць зямлю* ‘дзяліць зямельныя ўчасткі’ (СПЗБ-1), *біць на ўчасткі* ‘раздзяляць на ўчасткі поле’ (ТС-1).

Прыведзеныя вышэй звесткі даюць выразнае ўяўленне пра ўнутраную форму фразеалагізма *яшчэ чэрці на кулачках не біліся (не браліся, не выходзілі).* Можна меркаваць, што часавае значэнне гэтага фразеалагізма сфарміравалася на падставе таго, што праца з чэрцямі была цяжкая, і людзі пачыналі біць чэрці з самай раніцы, на світанні. Паколькі чэрці знаходзіліся далёка ад жылля, то каб дайсці да іх і пачаць працу на світанні, патрэбна было прачынацца яшчэ ноччу, перад світаннем. Магчыма і такая версія: дзе-небудзь яшэ чэрці на кулачках не біліся, не браліся, не дзяліліся, а чалавек на тым месцы ўжо пачынаў будавацца. Верагодна, фразеалагізм з’яўляецца «абломкам» якой-небудзь прыказкі.

Такім чынам, кампанент *чэрці* ў фразеалагізмах з тэмпаральным значэннем першапачаткова не меў ніякай сувязі з назоўнікам *чорт*. Гэта дае падставу меркаваць, што і ў фразеалагізме з прасторавым значэннем *у чорта на кулічках* першы назоўнікавы кампанент меў выгляд *черть (черти)* (рэканструкцыя: *у чѣрти на куличкахъ*). Абодва тыпы фразеалагізмаў маюць агульную экстралінгвістычную аснову, яны зарадзіліся ў асяроддзі людзей, якія займаліся падсечна-агнявым земляробствам.

Пазней, калі падсечна-агнявое земляробства адышло ў нябыт, звязаная з ім непасрэдна прафесійная лексіка пачала страчвацца. Слова *черть (черти)* устарэла і стала незразумелым, хоць фразеалагізмы з гэтым ужо цьмяным словам працягвалі выкарыстоўвацца. Цьмянасць кампанента спарадзіла неадпаведнасць пераменным сінтаксічным адзінкам, прывяла да зацямнення ўнутранай формы фразеалагізмаў. Носьбіты мовы імкнуцца адрадзіць двухпланавасць фразеалагізмаў. І тут у сілу ўступае народная этымалогія. У выніку паранімічнай ці аманімічнай трансфармацыі незразумелы кампанент «падцягваецца» да фармальна падобнага слова *чорт* (у множным ліку *чэрці*), і фразеалагізмы атрымліваюць новае вобразнае напаўненне. Гэтаму ў пэўнай ступені спрыяла і тое, што ў некаторых гаворках слова *чорт* выкарыстоўваецца з мяккай асновай – *чорць*, напрыклад: *Кажу: а чорць вас беры, такая журба па вас, аж дзецца негдзе; У нас гаворадь: чорць з рагамі* (ДСЛ); *Каб ета ў мяне старыкоўска здароўя, дак я, чорць ё бяры, уставіў бы зубы. У мяне от адзін зуб сядзіць, дак к яму, чорць ё ведая, што можна прыкрапіць!* (СПЗБ-5).

Набыўшы новую ўнутраную форму, фразеалагізмы сталі развіваць адпаведныя ёй варыянтныя разнавіднасці: *у чорта на куличках, де трава не росте, чорти навкулачки підіймають* каго ‘хто-н. рана ўстае’, *ще чорти в булки не грають* (ФСГД), *яшчэ чэрці на кулачках спяць* (СДФГ), *черт кулачку не бьет, черти в кулачки не бьют* (СРНГ-16), *ещё черти на кулачки не дрались* (СРГМ), (устаць) *бы чэрці на кулачку* (ТС-2).

Праведзены аналіз красамоўна паказвае, што высветліць вытокі фразеалагізмаў, якія зарадзіліся ў мінулыя эпохі і страцілі жывую сувязь з асновай свайго ўтварэння, магчыма на фоне шырокага абследавання і гістарычных з’яў, і лінгвістычных фактаў з розных (хаця б суседніх) моў.

*Літаратура*

1. Бирих, А.К. Словарь русской фразеологии: историко-этимологический справочник / А.К. Бирих, В.М. Мокиенко, Л.И. Степанова. – СПб.: Фолио-Пресс, 1998. – 704 с.

2. Лемцюгова, В. Назвы паселішчаў – помнікі народнай культуры / В. Лемцюгова // Роднае слова. – 2009. – № 2. – С. 28–29.

3. Жучкевич, В.А. Краткий топонимический словарь Белоруссии / В.А. Жучкевич. – Минск: Изд-во БГУ, 1974. – 448 с.

4. Яшкін, І.Я. Слоўнік беларускіх мясцовых геграфічных тэрмінаў: Тапаграфія. Гідралогія / І.Я. Яшкін. – Мінск: Бел. навука, 2005. – 808 с.

Першая публікацыя ў часопісе: *Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2009. – № 3. – С. 81–85.*

## ДА ПАХОДЖАННЯ ЛЕКСЕМЫ *ПРАКАВЕТНЫ*

У лексічным складзе беларускай літаратурнай мовы існуе лексема *пракаветны*. Слоўнікі, напрыклад ТСБМ, падаюць яе са значэннем ‘вельмі стары, даўні, векавечны’. Бытуе таксама фанетычны варыянт *пракавечны*. Паводле ТСБМ, абодва варыянты з’яўляюцца семантычна тоеснымі. Аднак у БРС яны без адсылак даюцца як два самастойныя словы з нязначнымі сэнсавымі адрозненнямі, на што паказваюць рускамоўныя адпаведнікі перакладной часткі слоўнікавага артыкула: *пракаветны* – вековечный; *пракавечны* – вековечный, извечный.

Слова *пракаветны* трапіла ў літаратурную мову з беларускіх народных гаворак, дзе яно выкарыстоўваецца ў фанетычных і словаўтваральных варыянтах: *пракаветны, пракуветны, пракавечны* (СПЗБ-4, с. 82), *прыкаветашні* (ДСЛ, с. 277), *прыкавешны* (Яўс., с. 83), *спракавечны* (СГВ, с. 452), *спраковечны* (ТС-5, с. 89), *справетны* (ДСЛ, с. 336).

Варыянт *пракаветны* страціў сваю ўнутраную форму, характарызуецца адсутнасцю словаўтваральнай празрыстасці і таму вымагае этымалагічнага аналізу. Правесці такі аналіз дазваляюць факты старабеларускай мовы і сучасных беларускіх гаворак.

У старабеларускай мове актыўна ўжываўся фразеалагізм *зъ (изъ) века (вековъ)* ‘здаўна, спрадвеку’ (ГСБМ-3, с. 74). Выкарыстанне яго часта суправаджалася словамі *предки*, у якасці падобнага суправаджальніка мог быць і фразеалагізм *зъ предковъ (зъ предку)* ‘раней, перш, спярша’ (ГСБМ-13, с. 173), напрыклад: *з* давных *веков* за щастливого панован» славное памяти *предков* нашых (Ст. 1566, 5 б); мы *зъ вековъ*, *за предковъ* нашихъ, подводъ не даивали (КСД, 158, 1514) (ГСБМ-3, с. 74). Ужыванне двух фразеалагізмаў побач прывяло да кантамінаванага іх аб’яднання. Утварыўся трэці, гібрыдны фразеалагізм *зъ предковъ (зъ предку) вековъ (веку)*, які і сёння сустракаецца ў гаворках: *У гэтой месносці з пэдкоў векоў войны йдуць.* Лутκі Стол. (ТС-4, с. 264); *З продкоў векоў так называюць.* Любавічы Жытк. (ТС-1, с. 110); *Торп тут у нас з продку веку.* Белая Лужа Слуц. (Там., с. 88); *Спрэтку-веку было так.* Ісерна Слуц. (СПЗБ-4, с. 547).

У далейшым на базе фразеалагізма шляхам зліцця першага, другога ўсечанага і трэцяга кампанентаў склалася прыслоўе з ідэнтычным значэннем: «къ… *з предвѣкωвъ* во всемъ доскональый бѹдѹчи, доскональшим быти можетъ (Калист, II, 296) (ГСБМ-13, с. 172); Гэта было *спрадвякоў.* Рыбчына Віл.; У нашага дзеда *спрадвеку* былі пшчо-

лы. Вузла Мядз. (СПЗБ-4, с. 546). Фразеалагізм таксама стаў базай для ўтварэння прыметніка *спрадвечны*, які набыў агульнабеларускае пашырэнне.

Вышэйзгаданы скантамінаваны фразеалагізм зведаў у гаворках пэўныя пераўтварэнні. Адно з іх – выпадзенне гука [д]: *С прэку веку тут рэчка цячэ.* Лойкі Гродз. (Там., с. 89). Відавочна, гэта звязана з імкненнем да спрашчэння фанетычнага афармлення матэрыяльнай абалонкі фразеалагічнага кампанента і да ўдасканалення сугучнасці рыфмаваных кампанентаў. Патрабаваннямі рыфмы тлумачыцца і тое, што кампаненты фразеалагізма замацаваліся пераважна ў форме адзіночнага ліку.

Другое пераўтварэнне – зліццё прыназоўніка ў якасці прыстаўкі з наступным кампанентам: *Спрэку-веку называюць крохвы.* Рудня Астравітая Чэрв.; *Спрэку-веку так рабілі нашы бацькі і дзеды.* Мсцібава Ваўк. (СПЗБ-4, с. 547); *Вёска да паноў ні належала спрэку-веку.* Ясенавіца Ваўк. (СДФГ, с. 175); *Спрэку-веку, калі ідзе дошч на Барыса, дык на гару бярыся.* Рудня Чэрв. (НЛ, с. 67); *Спрэку-веку.* Цітва Пух. (ЖС, с. 85).

Трэцяе пераўтварэнне – замена гука [э] у першай частцы фразеалагізма гукам [а]. У такім выглядзе фразеалагізм шырока выкарыстоўваецца ў гаворках: *Спраку-веку такая завядзёнка ў нас.* Лапічы Асіп.; *Спраку-веку ў яе кашаль.* Вецярэвічы Пух. (СПЗБ-4, с. 547); *У нашаго дзеда лошка [лыжка] свая была. Мо спраку-веку яна ў нашуй сям'е была.* Старына Маст. (СДФГ, с. 175); *А там спраку-веку ні гнояна.* Ліцвінавічы Карм. (СБНФ); *Як цяпер, мо' спраку веку тут жылі якіясь людзі.* Вялікі Рожан Слуц. (БФ); *Спраку-веку называецца пранік.* Пярэдзелка Лоеў. (ДСЛ, с. 65); *Ад праку веку на бычку нельзя удержацца.* Дзяражычы Лоеў. (ДСЛ, с. 276); *Ены спраку веку жывуць тут, і дзеды іх тут жылі.* Казярогі Лоеў. (ДСЛ, с. 336).

Адзначаныя змяненні прывялі да страты ўнутранай формы фразеалагізма, першы кампанент стаў этымалагічна цьмяным і атрымаў большую прывязку да другога кампанента. Гэта ўзмацніла структурную спаянасць і словаўтваральны патэнцыял фразеалагізма. Невыпадкова складальнікі слоўнікаў часта падаюць яго з паметай *прысл.* (прыслоўе), перадаючы напісанне кампанентаў то асобна, то праз злучок. У некаторых гаворках структурныя часткі фразеалагізма зліліся настолькі, што ўспрымаюцца як адно слова: *Справвякоў так звалі.* Азяраны Раг. (СПЗБ-4, с. 547); *Тавар пояць спракувеку.* Малыя Аўцюкі Калінк. (СПЗБ-5, с. 77); *Спракувеку мы тут ні пасом.* Дуброва Рэч. (НС, с. 164).

Прыведзеныя прыклады ілюструюць утварэнне прыслоўя. Ад фразеалагізма *спраку-веку* складана-суфіксальным спосабам утварыліся і прыметнікі *спракавечны, пракавечны*: *Спраковечны.* Запясочча Жытк. (ТС-5, с. 89); *Былі канцы там пракавечныя, касілі іх.* Мурава Бярэз. (СПЗБ-4, с. 82).

Этымалагічны аналіз паказвае, што *спракавечны* і *пракавечны* – гэта апошняе звяно ў ланцужку складаных пераўтварэнняў, якое падводзіць нас непасрэдна да прыметнікаў *спракаветны* і *пракаветны.* Узнікае толькі яшчэ адно пытанне: чаму ў другой частцы *-вечны* гук [ч] замяніўся гукам [т]? Адносна гэтага можна выказаць два меркаванні. Такая замена, магчыма, з'яўляецца вынікам узаемадзеяння зычных у слове. Перад гукам [ч], які належыць да змычна-шчылінных, знаходзяцца два змычныя гукі – [п] і [к], пасля яго – змычна-праходны [н]. Як бачым, у слове пануе «засілле» змычнасці, якая магла асіміляцыйна ўздзейнічаць на [ч], выштурхнуўшы з яго элементы шчыліннасці і перавёўшы яго ў гук [т], цалкам змычны.

Другое меркаванне зводзіцца да таго, што на агаласоўку слова магла паўплываць старажытная лексема *ветхі* з падобным значэннем ‘стары, старажытны, старадаўні, трухлявы’, якая і сёння яшчэ не страцілася ў мове (ЭСБМ-2, с. 107). Фармальнае і сэнсавае падабенства *-вечны* і *ветхі* магло прывесці да іх кантамінацыі. У выніку іх накладання атрымалася гібрыдная форма *-ветны*, якая і замацавалася ў прыметніках *спракаветны, пракаветны*.

У літаратурнай мове з гэтых двух прыметнікаў ужываецца толькі другі, без прыстаўкі *с-*.

Этымалагічны аналіз засведчыў, што слова *пракаветны* сфарміравалася ў беларускіх гаворках і атрымала такое сваё аблічча ў выніку шматступеневых дыяхранічных працэсаў на падставе складанага лексічна-фразеалагічнага ўзаемадзеяння. Да таго ж высветлілася, што фразеалагізм *спраку-веку (спрэку-веку)* вызначаецца шырокім лінгвагеаграфічным арэалам, і гэта таксама дае яму права і магчымасці пры адпаведных умовах стаць фактам беларускай літаратурнай мовы.

---

Першая публікацыя ў зборніку: *Актуальныя праблемы функцыянавання і развіцця лексікі славянскіх моў: матэрыялы Міжнар. навук. канф., прысвеч. 60-годдзю ун-та, 7–8 кастрычніка 2004 г., г. Мазыр; адк. рэд. А.В. Солахаў. – Мазыр: УА МДПУ, 2004. – С. 24–26.*

### *1.4 Фразеалогія ў мове твораў Янкі Купалы*

## ДЫЯЛЕКТНАЯ ФРАЗЕАЛОГІЯ Ў ТВОРАХ ЯНКІ КУПАЛЫ

Янка Купала належыць да пачынальнікаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Побач з такімі пісьменнікамі, як В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Я. Колас, ён сваімі творамі развіваў і ўмацоўваў нарматыўныя формы, лексіку і фразеалогію. Як слушна пісаў Ніл Гілевіч, «у беларускай паэзіі ніхто не валодаў такой магутнай здольнасцю да словатворчасці, як Янка Купала. І ні ў кога іншага не выявіўся так ярка моватворчы геній народа, як у Янкі Купалы» [1, с. 198]. «Яго смеласць і свабода ў абыходжанні са словам не можа быць растлумачана не чым іншым, як геніяльным чуццём духу мовы, разуменнем (а можа быць перш за ўсё – інтуітыўным адчуваннем) законаў і заканамернасцей яе развіцця» [1, с. 200].

Вялікую ролю адыграў Янка Купала ў фарміраванні фразеалагічнага складу беларускай літаратурнай мовы. Амаль кожны яго твор насычаны фразеалагізмамі. Асабліва гэта датычыць празаічных драматургічных і публіцыстычных тэкстаў. Напрыклад, у камедыі «Паўлінка», паводле падлікаў І.Я. Лепешава, сустракаюцца 143 фразеалагізмы. У гэты лік уключаны толькі фразеалагічныя адзінствы і зрашчэнні, не ўлічанымі засталіся іншыя ўстойлівыя выразы, неалегарычныя прыказкі, індывідуальна-аўтарскія ўтварэнні. Прычым ніводзін фразеалагізм у камедыі не паўтараецца, калі гэта чымсьці не абумоўлена [2, с. 16–17].

Янка Купала добра ведаў нацыянальную фразеалогію і ўмела выкарыстоўваў яе для літаратурных патрэбаў. Пад яго пяром у літаратурны ўжытак увайшлі многія фразеалагізмы, розныя паводле паходжання і сферы выкарыстання. Гэта пераважна агульнанародныя выразы. Значная частка фразеалагізмаў мае дыялектнае паходжанне: яны пашыраны не ва ўсёй дыялектнай мове, а на абмежаванай моўнай тэрыторыі.

Многія з гэтых фразеалагізмаў з лёгкай рукі Янкі Купалы замацаваліся ў літаратурным ужытку, напрыклад: *вочы выбіраць* ‘вельмі здзекліва дакараць каго-н.’, *галава ходам ходзіць* ‘хто-н. адчувае галавакружэнне (ад стомленасці, паўнаты перажыванняў), *у жываце салаўі пяюць* ‘хто-н. вельмі хоча есці, адчувае моцны голад’, *як вол да карэты* ‘зусім не (прыйсціся да чаго-н.)’, *як скурат на агні* ‘празмерна, залішне (выкручвацца)’, *як стой* ‘вельмі хутка’. Падхопленыя іншымі аўтарамі, яны страцілі рысы дыялектнай абмежаванасці і знайшлі сваё месца ў мове пісьменнікаў, затым – у слоўніках літаратурнай мовы. Так, у ФСБМ пералічаныя фразеалагізмы падмацоўваюцца цытатамі, узятымі не толькі з твораў Янкі Купалы, але і з твораў К. Крапівы, М. Тычыны, А. Шлега, П. Місько, Л. Левановічва, М. Зарэцкага, М. Гіля.

Шэраг дыялектных фразеалагізмаў, выкарыстаных Янкам Купалам, пакуль што не сталі прадметам увагі літаратурнай фразеаграфіі. Пры чытанні апошняга Поўнага збору твораў пісьменніка [3] выяўлена каля 300 такіх фразеалагізмаў, якія не адлюстраваны ў ФСБМ. Пра тое, што гэта не індывідуальна-аўтарскія ўтварэнні, а гатовыя выразы, узятыя Янкам Купалам з народных гаворак, сведчыць фіксацыя іх у дыялектных слоўніках. Напрыклад, у нашым «Слоўніку дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны» (СДФГ) занатаваны фразеалагізмы *адным цягам, выдзіраць вочы, выкінуць на вока, вытрашчыць вочы, дзерці вочы, збяёдаць са свету, клёпкі згубіць, на гвалт, няма што, уставіць вочы,* (насіцца) *як кот з салам,* якія з такім самым ці падобным значэннем сустракаюцца ў творах Янкі Купалы. Ужытыя Янкам Купалам фразеалагізмы знаходзім таксама ў іншых слоўніках: *лісам слацца, ні хорт ні выжал, у чапцы радзіцца, як у хваробе святога Лявэнтага* (Fed.), *рогі збіць, як мыш у нары* (СБНФ), *як у процьму, знаць смак* (БФ), *на ўмор* (ТС), *даць духу* (Юрч.), (папасці) *як Мурза ў студню* (СМН).

Разглядаючы падобныя фразеалагізмы як дыялектныя з’явы і параўноўваючы іх з сучасным нарматыўным фразеалагічным матэрыялам у літаратурнай мове, можна бачыць разнастайнасць іх тыпаў. Вылучаюцца наступныя фразеалагічныя дыялектызмы:

1) фразеалагічна-фанетычныя, якія вызначаюцца спецыфікай фанетычнага афармлення кампанентаў: (гнаць) *у каршэль* – у каршэнь;

2) фразеалагічна-словаўтваральныя, якія адрозніваюцца ад літаратурных адпаведнікаў словаўтваральнымі марфемамі: *глядзець скоса* – глядзець коса, *не злом* – не зломак, *ні ссюль ні стуль* – ні адсюль ні адтуль;

3) фразеалагічна-марфалагічныя (не супадаюць з літаратурнымі адпаведнікамі марфалагічнымі формамі кампанентаў): *залівацца слязою* – залівацца слязамі;

4) фразеалагічна-сінтаксічныя – з іншай, чым у літаратурнай мове сінтаксічнай будовай: (бульба) *з мундзірамі* – у мундзірах, *у дадатку* – у дадатак;

5) фразеалагічна-лексічныя, якія адрозніваюцца ад літаратурных эквівалентаў лексічным кампанентам: *таптаць у балота* – тапраць у гразь, *хоць жывы ў дамоўку лезь* – хоць жывы ў зямлю лезь, *зеллем зарасці* – быллём зарасці, *скінуць з плеч* – звальваць з плячэй, *збіць рогі* – абламаць рогі;

6) канструкцыйна-колькасныя – адрозніваюцца ад літаратурных фразеалагізмаў меншай або большай колькасцю кампанентаў: *як ні ў чым (у чом)* – як ні ў чым не бывала, *валасы рваць* – валасы на сабе рваць, *шукаць гуза* – шукаць гуза на сваю галаву, *кіпіць кроў* – кіпіць кроў у жылах, *выйсці сухім* – выйсці сухім з вады, *як вол рабочы* – як вол, *і да танцу і да ружанцу і да выпіткі і да выбіткі* – і да танца і да ружанца;

7) фразеалагічна-семантычныя – супадаюць з літаратурнымі фразеалагізмамі формай, але маюць адметнае значэнне: *на ўсе бакі* ‘выдатны, цудоўны’ – на ўсе бакі ‘усяляк, усебакова’, *з душой* ‘поўнасцю, цалкам (знікнуць)’ – з душой ‘старанна, з вялікім уздымам, захапленнем (рабіць што-н.)’.

Пералічаныя сем відаў дыялектызмаў нечым падобныя да літаратурных адпаведнікаў, яны ўступаюць з апошнімі ў фармальныя ці семантычныя варыянтныя адносіны.

Найбольшую цікаваасць уяўляе сабой наступны, восьмы, тып дыялектызмаў – уласнафразеалагічныя. Гэта адметныя выразы, якія ў параўнанні з літаратурнымі вызначаюцца непаўторнасцю ўнутранай формы, своеасаблівасцю структурна-кампанентнага складу. Адны з іх лакалізаваны роднымі Янку Купалу гаворкамі, другія маюць шырэйшае бытаванне: *на адно* ‘аднолькава, без змен’, *як баран над студняй* ‘разгублена’, *за вантробы забрала* ‘каго-н. абурыла, узрушыла, задзела што-н.’, *з веку сходзіць* ‘аджываць’, *кінуцца ў вір* ‘зрабіць што-н. паспешліва і безразважна-рызыкоўна’, *як вол у плузе* ‘цярпліва’, *вытрашчыць вочы* ‘глядзець уражана, здзіўлена’, *выйшлі гады* ‘хто-н. перарос пэўную ўзроставую мяжу’, *часта-густа* ‘празмерна часта’, *на забой* ‘вельмі моцна’, *згінь-прападзі* ‘выказванне перасцярогі ад чаго-н.’, *баранаваць нагамі* ‘ісці няроўна, хістаючыся з боку ў бок’, *хоць палі забівай* ‘моцны, дужы, здаровы’, *рада* <*і*> *парада* ‘толк, вынік чаго-н.’, *як скрозь сіта* (імжэць) ‘слаба, памалу (пра дождж)’, *уцям узяць* ‘дадумацца, зразумець, усвядоміць’, *у сваім часе* ‘своечасова’.

Паводле паходжання прааналізаваныя фразеалагізмы з’яўляюцца, як правіла, уласнабеларускімі. Толькі невялікая іх частка – запазычанні, пераважна з польскай ці праз польскую мову: *не ажэбы* ‘не надта, не вельмі’, *як бэля* ‘вельмі моцна (напіцца)’, *на віват* ‘у падтрымку каго-н.’, *біць віваты* ‘падтрымліваць каго-, што-н.’, *з-пад цёмнай гвязды* ‘самы што ні на ёсць’, *матачка найсвентшая* ‘выказванне розных эмоцый’, *пся крэў* ‘выражэнне злосці, раздражнення’. Выкарыстоўваюцца яны не толькі як стылістычны сродак моўнай характарыстыкі персанажа, але і таму, што атрымалі шырокае распаўсюджанне ў беларускамоўным асяроддзі. Напрыклад, фразеалагізм *як бэля*, паводле сучасных крыніц, актыўна ўжываецца ва ўсіх раёнах Гродзенскай і некаторых раёнах Віцебскай, Мінскай і Брэсцкай абласцей.

Дыялектныя фразеалагізмы, выкарыстаныя Янкам Купалам, з’яўляюцца каштоўным матэрыялам для фразеалаогіі літаратурнай. Яны могуць не толькі павялічыць яе колькасна, але і ўдасканаліць яе сістэмныя блокі. Такое ўдасканаленне бачыцца ў наступным.

1. Фразеалагізмы вызначаюцца своеасаблівай, непаўторнай вобразнасцю: (спаць) *як суконкі драць* ‘з храпам (спаць)’, *даць лазы* ‘моцна пабіць, пакараць каго-н.’, *падноскі падбіваць* ‘падманваць, ашукваць’, *з поля сходзіць* ‘станавіцца псіхічна ненармальным’. Унікальнасць асобных выразаў заснавана на этнаграфічных рэаліях, звязаных з мясцовым бытам, абрадамі, павер’ямі. Напрыклад, асновай фразеалагізма *залом (заломы) заламаць (заплятаць)* ‘напусціць чары, зрабіць каму-н. непрыемнасць’ паслужылі ўяўленні пра злыя чары, якія выконваліся на полі ў выглядзе залому. Залом – гэта зламаныя і звязаныя ў пук сцяблы жыта, лёну, якія маглі наклікаць бяду на гаспадара нівы. Паводле забабонаў, той, хто дакранецца да залома, будзе няшчасны. Таму залом не чапалі рукамі, яго заўсёды абжыналі вакол, пакідаючы некранутым на полі. Можна прывесці і такія прыклады этнафразеалагізмаў з твораў Янкі Купалы: *на*

*адходнае* ‘на заканчэнне (гульняў, танцаў, гасцей і пад.)’, *заяц сцежку перабег* ‘вельмі не шанцуе каму-н.’, *сядзець на куце* ‘быць у пашане’, *як пагарэлец* ‘доўга, не мінаючы нікога (хадзіць)’, *даць паранкі* ‘правучыць, пакараць’, *наварыць саладухі* ‘зрабіць складаную, клопатную, непрыемную справу’.

2. Фразеалагізмы называюць рэаліі і паняцці, для абазначэння якіх літаратурная мова не мае спецыяльных фразеалагічных сродкаў. Такія безэквівалентныя, несуадносныя фразеалагічныя дыялектызмы характарызуюцца непаўторнай інфармацыйнай каштоўнасцю: *мераць дні* ‘жыць’, *божае слова* ‘малітва, казань’, *умыты слязою* ‘чысты, прыгожы (пра дзіця)’, *вечны сон* ‘смерць’, ‘апатыя, бяздзейнасць’, *цвёрды хлеб* ‘сталы заробак’.

3. Фразеалагізмы дапаўняюць сінанімічныя рады, вядомыя сістэме літаратурнай мовы. Нярэдка дыялектызм паводле сваёй вобразнасці і лексічнага складу выглядае больш прыгожым, больш яркім і прывабным, чым літаратурны сінонім. Так, у «Руска-беларускім слоўніку» (1982) да рускага фразеалагізма *дурной глаз* прыводзіцца беларускі эквівалент *паганае вока*. Пэўная штучнасць гэтага эквівалента бачыцца пры параўнанні яго з Купалавымі *благое вока*, *нялюдскае вока*. Параўн. таксама: *як учадзеўшы* – як угарэлы, *як у сваёй хаце* – як дома, *да дня* – чуць свет, *не смешкі* – не хаханькі. Дыялектныя і літаратурныя сінонімы могуць быць аднатыпнай структуры. Пранікненне дыялектызмаў такой структуры ў літаратурную фразеалогію служыць развіццю фразеалагічных мадэлей. Напрыклад, па адной мадэлі пабудаваны выразы *як у Бога за пазухай, як у Бога за плячыма, як у Бога за дзвярыма*. Не лішні ў гэтай серыі Купалава *як у Бога пад прыпечкам.*

4. Фразеалагізмы развіваюць такі элемент семантычнай парадыгмы, як антанімія. Напрыклад, выраз *гара навалілася на плечы* ўступае ў антанімічныя адносіны з семантычна супрацьлеглым літаратурным адпаведнікам *гара з плеч звалілася*, утвараючы паўнакроўную антанімічную пару. Дзякуючы Янку Купалу, маюць усе шанцы пазбавіцца ад семантычнай непалярнасці і некаторыя іншыя літаратурныя фразеалагізмы: *воўк дарогу перабег* ‘вельмі шанцуе каму-н.’, *не мець клёпак у галаве, даць перцу, лёгкай рукі, у цемя не біты.* У творах пісьменніка знаходзім антанімічныя ім дыялектныя адпаведнікі: *заяц дарогу перабег ‘вельмі не шанцуе каму-н.’*, *мець усе клёпкі ўгалаве*, *дастаць перцу*, *нялёгкай рукі*, *біты ў цемя*.

5. Фразеалагізмы з твораў Янкі Купалы пашыраюць межы лексічна-фразеалагічных гнёздаў. Пад лексічна-фразеалагічным гняздом разумеюць групу фразеалагізмаў, аб’яднаных адным агульным лексічным кампанентам. Для прыкладу, у ФСБМ лексічна-фразеалагічнае гняздо са словам *вока* налічвае 225 фразеалагізмаў. У Янкі Купалы выяўлена 153 такія фразеалагізмы. Дыялектызмаў сярод іх – 16: *зліпаюцца вочы*, *утаропіць вочы*, *слупам вочы сталі* і інш. Асаблівая заслуга Янкі Купалы ў тым, што ён падвёў да літаратурнага ўжытку лексічна-фразеалагічныя гнёзды, адсутныя ў літаратурнай мове. Як сведчыць ФСБМ, у літаратурнай мове ёсць толькі адзін фразеалагізм са словам *процьма* – *чортава процьма* ‘вельмі многа, у вялікай колькасці’. Да яго ліку можна дадаць яшчэ фразеалагізмы з твораў Янкі Купалы: *у процьму* ‘невядома куды (ісці, гнаць)’, *хоць у процьму скоч* ‘выказванне адчаю, роспачы’, *як у процьму* ‘без вынікаў, упустую’. Толькі ў Янкі Купалы знаходзім лексічна-фразеалагічныя гнёзды са словамі *безгалоўе, дамоўка: на якое безгалоўе* ‘навошта, для чаго’, *як на*

*безгалоўе* ‘не ў добры час’; *у дамоўку сысці* ‘памерці’, *хоць жывы лезь у дамоўку* ‘выказванне роспачы, адчаю’.

Можна прыводзіць яшчэ нямала іншых аргументаў, якія даказваюць, што ўважаныя Янкам Купалам дыялектныя фразеалагізмы не шкодзяць фразеалогіі літаратурнай мовы, а наадварот, умацоўваюць яе як сістэму колькасна і якасна. Гэта пажадана ўлічваць будучым складальнікам фразеалагічных слоўнікаў. На нашу думку, у зводзе літаратурнай фразеалогіі павінен знайсці сваё месца кожны выкарыстаны Янкам Купалам фразеалагічны дыялектызм, незалежна ад таго, пацвярджаецца ён ці не ўжываннямі ў творах іншых аўтараў. Усё, створанае, ужытае Янкам Купалам, мае права на літаратурную прапіску.

*Літаратура*

1. Гілевіч, Н.С. Валадар роднага слова / Н.С. Гілевіч // Народныя песняры. – Мінск : Маст. літ., 1972. – С. 197– 209.
2. Лепешаў, І.Я. Фразеалагізмы ў камедыі Янкі Купалы «Паўлінка» / І.Я. Лепешаў // Купалава і Коласава слова: зб. артыкулаў; Мінскі дзярж. пед. ін-т. – Мінск, 1981. – С. 15–30.
3. Поўны збор твораў Янкі Купалы: у 9 т. – Мінск: Навука і тэхніка, 1995–2003. – 9 т.

Першая публікацыя ў зборніку: *Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні : зб. навук. прац / рэдкал. : У.І. Каяла (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ГрДУ, 2007. – С. 117–123.*

## ЭТЫМАЛАГІЧНЫ АНАЛІЗ КУПАЛАВЫХ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ

Вядомы рускі фразеолаг А.І. Малаткоў пісаў: «Кожны фразеалагізм мае патрэбу ў гістарычна-этымалагічнай даведцы, у гістарычна-лінгвістычным вытлумачэнні свайго ўзнікнення і свайго мінулага» [1, с. 253]. Фразеалогія беларускай літаратурнай мовы ў гэтым плане мае значныя дасягненні: этымалагічны каментар атрымалі больш за 2 тысячы фразеалагізмаў, дзякуючы ў першую чаргу прафесару І.Я. Лепешаву. У яго «Этымалагічным слоўніку фразеалагізмаў» растлумачана ўтварэнне і паходжанне каля 1750 фразеалагізмаў [2]. Ілюструюцца яны прыкладамі з твораў многіх пісьменнікаў і вельмі часта – з твораў Янкі Купалы.

Янка Купала адыграў выключную ролю ў фарміраванні фразеалагічнага складу беларускай літаратурнай мовы. Ён вельмі тонка адчуваў дух нацыянальнай фразеалогіі, пад яго пяром у літаратурны ўжытак увайшлі шматлікія фразеалагізмы, разнастайныя паводле сваіх вытокаў. Большасць такіх фразеалагізмаў належыць да агульнанародных, вядомых усім носьбітам беларускай мовы. У гэтым няцяжка пераканацца, пагартаўшы «Слоўнік фразеалагізмаў мовы твораў Янкі Купалы» В.А. Ляшчынскай, З.У. Шведавай [3]. Разам з тым, слоўнік ілюструе нямала выкарыстаных Янкам Купалам фразеалагізмаў, якія не сталі прадметам беларускай літаратурнай фразеаграфіі. Паводле нашых падлікаў, сярод іх толькі дыялектных устойлівых выразаў каля 300. А яшчэ ёсць індывідуальна-аўтарскія ўтварэнні, запазычанні з іншых моў.

Не асвоеныя літаратурнай мовай Купалавы фразеалагізмы не разглядаліся і ў плане іх этымалагічнай характарыстыкі. Шэраг з іх вымагаюць этымалагічнага аналізу, бо з пункту гледжання сучаснага носьбіта беларускай літаратурнай мовы з’яўляюцца незразумелымі, загадкавымі, этымалагічна цьмянымі, напрыклад: *пекаць гора, біць віваты, да ёты, у рыхт, галаву збяёдаць, залом заплятаць, казінец убіўся ў ногі, мець*

*матылі, як павала, прытычкамі саліць, даць хлуду, чын даваць, даць паранкі, да перасыту, як прачыстая на сенажаці, як Лазар пад плотам*.

Даследаванне вытокаў, спосабаў утварэння фразеалагізмаў з твораў Янкі Купалы – важная задача як купалазнаўства, так і беларускай фразеалагічнай этымалогіі ў цэлым. У артыкуле даецца спроба этымалагічнага аналізу асобных выкарыстаных Янкам Купалам фразеалагізмаў з польскамоўнай лексічнай маркіраванасцю.

У камедыі «Паўлінка» персанажу Пранцісю належыць такое выказванне: «Можна, можна далей круціцца, *як у хваробе святога Лявэнтага*». Узнікае пытанне, што абазначае параўнальны зварот і хто такі святы Лявэнты. Нарматыўныя слоўнікі беларускай літаратурнай мовы фразеалагізм не фіксуюць. Можа, ён вынік творчай фантазіі паэта? У «Слоўніку фразеалагізмаў мовы твораў Янкі Купалы» В.А. Ляшчынскай, З.У. Шведавай так і адзначана, што гэта індывідуальна-аўтарскае ўтварэнне. Аднак дыялектныя крыніцы сведчаць пра іншае. У в. Косцевічы Астравецкага і в. Гродзі Ашмянскага раёнаў (сярэднебеларускія гаворкі) намі запісаны фразеалагізм *як у хваробе свянтэго Левантэго* са значэннем ‘вельмі моцна (дрыжаць, трэсціся ад страху, хвалявання ці холаду)’: *Чаго трасесься як у хваробе свянтэго Левантэго? Ідзі адзень куртку, а то зарас соплі папусьціш* (СДФГ, с. 261). Пры спробе гістарычна-этымалагічнага аналізу фразеалагізма ўзнікла неабходнасць даведацца, хто такі святы Лявэнты. Знаёмства з імёнамі святых паказала, што сярод іх імя Лявэнты адсутнічае. Польскамоўная агаласоўка фразеалагізма падказала звярнуцца да лексікаграфічных крыніц польскай мовы. Яны засведчылі, што ў польскай мове ёсць састаўная назва *choroba świętego Walentego* ‘падучая хвароба, эпілепсія’ (Skor.-1, с. 136), у якой уласнае імя ў родным склоне не *Левантэго, а Валянтэго*. Прагляд беларускіх дыялектных слоўнікаў пацвердзіў наяўнасць адпаведнай назвы і ў нашай мове: *валентава хвароба* ‘эпілепсія’ (СПЗБ-1, с. 273). Пра замацаванасць яе ў беларускай мове гавораць і аднаслоўныя ўтварэнні: *валентая* ‘эпілепсія’ (СПЗБ-1, с. 273), *валента* ‘хвароба’ (ЭСБМ-2, с. 38), *валентка* ‘эпілепсія’ (СПЗБ-1, с. 273), *валянтова* ‘прыпадкі’ (ЭСБМ-2, с. 38), *валента* ‘неўраўнаважаны, нервовы чалавек’ (НС, с. 26), *валянтовы* ‘хворы на белую гарачку’ (ЗНС, с. 87; СГВ, с. 80). У XIX ст. на Ваўкавышчыне М. Федароўскім запісаны кленіч *Каб цібе кінула свентэго Валента (Валентэго) хвароба!* (Fed., с. 416).

Такім чынам, запазычанне з польскай мовы *хвароба свянтэго Валянтэго* вядомае беларускім гаворкам. На базе яго ўзнік кампаратыўны фразеалагізм *як у хваробе свянтэго Валянтэго*. Паколькі неадаптаванае ўласнае імя ў структуры фразеалагізма носьбітамі гаворак асэнсоўвалася неадназначна, яму часам надавалася іншае, варыянтнае фанетычнае афармленне: у працэсе метатэзы (перастаноўкі складоў месцамі) *Валянтэго* набыло выгляд *Левантэго* (у Янкі Купалы – *Лявэнтага*), зблізіўшыся з вядомым у беларускай мове імем *Лявон*. Няма сумнення, што Янка Купала ўзяў гэты фразеалагізм як ужо гатовы з беларускіх гаворак і ўвёў яго ў вусны свайго героя.

Выклікае цікавасць і першасная пазамоўная матывацыя назвы хваробы і фразеалагізма. Яна грунтуецца на легендах пра хрысціянскага святара Валянціна, які жыў у Рымскай Імперыі ў часы панавання імператара Клаўдзія II. Валянцін дапамагаў людзям, асабліва закаханым і дзецям. Ён займаўся лекарствам, ставіў на ногі нават безнадзейна хворых. Калі рымскі імператар даведаўся, што Валянцін пакланяецца не таму богу, загадаў пасадзіць яго ў турму. Дзеці і маладыя людзі вельмі сумавалі па сваім старэйшым сябру, часта падыходзілі да сцен турмы, прыносілі яму запіскі, у якіх выказвалі сваю павагу, любоў і тугу. Але гэта Валянціна не выратавала, яго пакаралі смерцю. Пасля Валянцін быў кананізаваны каталіцкай царквой як святы

пакутнік за хрысціянскую веру. Дзень пакарання Валянціна – 14 лютага – аб'яўлены папам рымскім Геласіусам Днём Святога Валянціна. Тых, хто хварэе на падучую, сталі лічыць людзьмі («пацыентамі») Валянціна. Існуе і такое павер'е: дзіця, народжанае на Святога Валянціна, валянцінскае, г. зн. будзе хварэць на падучую. Адсюль пайшла і назва *хвароба святога Валянціна* (*сьвянтэго Валянтэго*, *сьвянтэго Левантэго*, *святога Лявэнтага*), якая дала жыццё фразеалагізму.

У перакладзенай Янкам Купалам з польскай мовы паэме Л. Кандратовіча (У. Сыракомлі) «Нядзеля» ёсць такі сказ: *Янка спіўся як Бэля, Спіць, як мёртвы, дый годзе!* У параўнальным звароце напісанне назоўнікавага кампанента *Бэля* пачынаецца з вялікай літары, г. зн. як асабовага ўласнага назоўніка. Сучаснік Янкі Купалы, вядомы збіральнік скарбаў беларускай народнай мовы Міхал Федароўскі ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзяў у Слонімскім, Ваўкавыскім, Гродзенскім і Сакольскім паветах занатаваў гэты параўнальны зварот, перадаючы напісанне назоўніка *Бэля (Бэйля)* таксама з вялікай літары: (спіўся, упіўся, п'яны) *як Бэйля (Бэля)* (Fed., с. 24).

Матэрыялы сучаснай беларускай дыялектнай мовы засведчылі, што выраз *як бэля (бэйля)* – шырокаўжывальны фразеалагізм. Ён запісаны ў гаворках Гродзенскай, Брэсцкай, Мінскай, Віцебскай абласцей. На тэрыторыі Гродзеншчыны, напрыклад, яго ведаюць ва ўсіх сямнаццаці адміністрацыйна-тэрытарыяльных раёнах: *Выпіў бы чарку, так не – набярэцца як бэля*. Старчаняты Іўеў. *Схадзі хоць вады прынясі ў хату, а то напіўся як бэля і ляжыш*. Партызанаўская Слонім. *П'яны як бэля і яшчэ выступая*. Старыя Паддубы Шчуч. *Напіліся як бэлі... Хай сабе й свята, алі нашто такнапівацца*. Косцевічы Астр. (СДФГ, с. 214).

Назоўнік *бэля(бэйля)* носьбітамі гаворак не ўсведамляецца як уласнае імя. Гэта нешта семантычна неакрэсленае, не зусім зразумелае. Нярэдка гэтаму назоўніку (без злучніка *як*) прыпісваюць значэнне самога фразеалагізма: *бэйля* 'пра п'янага чалавека'. Дзеравянчыцы Сл. (СРЛГ), *бэйла* 'п'яніца'. Гута Лях. (ДСБ).

Семантычная неакрэсленасць назоўніка *бэля (бэйля)* тлумачыцца тым, што ён чужы беларускай лексічнай сістэме, гэта, кажучы мовай тэрміналогіі, *унікальны* фразеалагічны кампанент, неўжывальны за межамі фразеалагізма.

Такім чынам, у мінулым у фразеалагізме *як Бэля* назоўнік усведамляўся як уласнае імя, а нашы сучаснікі ўспрымаюць яго ў якасці агульнага назоўніка. Пры этымалагізацыі фразеалагізма важна высветліць яго першапачатковую, зыходную аснову.

Беларускаму нацыянальнаму іменаслову антрапонім *Бэля (Бэйля)* неўласцівы, няма яго і ў гістарычных слоўніках беларускіх антрапонімаў М.В. Бірылы [4] і А.К. Усціновіч [5]. Як сведчыць «Ідыш-беларускі слоўнік», гэта яўрэйскае імя, якое ў слоўніку падаецца варыянтамі *Бэля* і *Бэйля* (ід. Bejle) (ІБС, с. 911). У сувязі з гэтым можна меркаваць, што фразеалагізм узнік у яўрэйскім асяроддзі і звязаны з нейкай асобай ці фальклорным персанажам па імені *Бэля (Бэйля)*. Але тут адразу выяўляецца парадокс. Сярод яўрэяў п'янства не было распаўсюджана. Яўрэй-п'яніца – ненармальная і выключна рэдкая выпадковасць. Яўрэі гарэлку прадавалі, але самі не пілі. Гэта знайшло адлюстраванне ў беларускім фальклоры, напрыклад, у іранічным жарце: «Жыдоўскае вяселле: трэці дзень гуляе мястэчка, і Хаімку пасылаюць па другую пляшку» (ІБС, с. 912).

Існуе і другое меркаванне, што ў аналізаваным фразеалагізме назоўнік не імя асобы, а нейкая агульная назва. Сам фразеалагізм быццам прыйшоў у беларускія гаворкі з польскай мовы. У слоўніках польскай мовы слова *bela* передаецца з малой

літары, напрыклад: *spič się, byč pijanym jak bela* ‘напіцца да непрытомнасці’ (Skor.-1, с. 97). Паходжанне фразеалагізма ў польскай мове тлумачаць ад агульнага назоўніка. Напрыклад, у ЭСБМ выказваецца думка, што гэта запазычанне з нямецкай мовы (ням. *Ballen* ‘пакунак’). Тут жа прапануецца і другая этымалагічная версія: польскае *bela* можа быць скарачэннем ад *belka* ‘бэлька’ (ЭСБМ-1, с. 434).

Аднак прапанаваная складальнікамі ЭСБМ этымалагічная трактоўка фразеалагізма супярэчыць структурна-семантычнай мадэлі параўнальга звароту. Лагічная схема параўнання складаецца з трох кампанентаў: суб’ект, абект і аснова параўнання. Аснова параўнання абазначае прымету, на падставе якой дзве з’явы супастаўляюцца, прыпадабняюцца. У параўнальнай канструкцыі «чалавек + *напіўся* + як бэля» аснова параўнання «*напіцца*» суадносіцца з паняццем ‘напоўніцца вадкасцю’. А напаўняцца вадкасцю могуць пэўныя ёмістасці. *Пакунак* ці *бэльку* да ёмістасцяў ніяк не аднясеш. Складальнікі ЭСБМ маглі б адшукаць больш адпаведныя словы ў якасці аб’екта параўнання, сугучныя назоўніку *бэля*, напрыклад: у беларускай мове гэта *балея* ‘вялікая нізкая пасудзіна з драўляных клёпак або металічная, у якой звычайна мыюць бялізну’ (ТСБМ-1, с. 333), *бэлец* ‘вялікае карыта, бочка, у якой заліваюць лугам бялізну’ (БДС, с. 25), *бэліць, бэлыць* ‘драўляны посуд, у якім таўкуць свінням бульбу’ (ДСБ, с. 27); у польскай – *balia, baleja, balja* ‘балея’ (ЭСБМ-1, с. 293); у нямецкай – *Balje* (ЭСБМ-1, с. 293); у французскай – *baille* ‘драўляны бак, чан; вядро, бочка’ (НФРС, с. 95).

На наш погляд, першапачаткова ў структуры фразеалагізма фігуравала ўсё ж такі ўласнае імя. Фразеалагізм узнік хутчэй за ўсё ў мове ідыш, з якой пранік у іншыя мовы. З цягам часу адбыліся забыццё першапачатковай вобразнасці фразеалагізма і апелятывізацыя ўласнага назоўніка, які ў польска-беларуска-ўкраінскім моўным арэале ўспрымаецца як агульная семантычна цьмяная назва. Аднак для праверкі і пацверджання гэтай версіі неабходны дадатковыя этымалагічныя пошукі.

У камедыі «Паўлінка» ёсць такі зварот Сцяпана да Адольфа: *А ты, каханенькі, родненькі, негадзяй, вірутнік з-пад цёмнай гвязды, вон з маёй хаты*. Фразеалагізм *з-пад цёмнай гвязды* – запазычанне з польскай мовы (*spod ciemnej gwiazdy*). У беларускіх гаворках ужываецца як адмоўная характарыстыка асобы (СДФГ, с. 86). Спалучаецца са словамі *нягоднік*, *гультай*, *ашуканец*, *злодзей*, *разбойнік* і інш. Узнікненне фразеалагізма звязана са старажытным павер’ем, што чалавек нараджаецца пад пэўнай зоркай і характар, лёс яго залежыць ад таго, якая гэта зорка, як яна свеціць (параўн. *нарадзіцца пад шчаслівай зоркай*, *нарадзіцца пад нешчаслівай зоркай*). Адмоўныя рысы характару і паводзіны чалавека як бы прадвызначаліся нараджэннем яго пад цёмнай зоркай.

У Янкі Купалы ёсць не толькі фразеалагічныя запазычанні з польскай мовы, але і аказіянальныя ўтварэнні з польскамоўнымі элементамі. Да такіх адносіцца выраз *не ажэбы* ‘не надта добры, няважны’. Выкарыстаны ён у лісце да Б.І. Эпімах-Шыпілы: *Здароўе маё не ажэбы, пакашліваю трохі. Сягоння еду ў Мінск і думаю пабываць у доктара, а то ўжо пачынаю баяцца, каб не пайсці да Абрагама на піва*. У слоўніках польскай мовы такі фразеалагізм не фіксуецца. Думаецца, гэта спаланізаваная форма беларускага фразеалагізма. У мінулыя стагоддзі пераважна ў паўночна-заходняй частцы Беларусі на глебе беларуска-польскага двухмоўя ўзнікла нямала фразеалагізмаў з польскамоўнымі кампанентамі. Часта ў якасці кампанентаў мог быць «набор слоў ці змітаваных на польскі лад утварэнняў, з якіх не выцякае лагічная ўнутраная форма фразеалагізма. Яны ствараюць эўфанічную вобразнасць, якая надае фразеалагізму іншамоўны каларыт і адпаведную экспрэсію» [6, с. 168]. Фразеалагізм *не ажэбы* ўзнік калькаваннем беларускамоўнага фразеалагізма *не вельмі (не надта) каб* і адначасовай

кампрэсіі яго лексічнага кладу, у выніку атрымалася скарочаная структурная адзінка, у якой беларускаму слову *каб* адпавядае паланізм *ажэбы (ażeby).*

*Контрафалды малоць* ‘пярэчыць, гаварыць не тое, што трэба’ – выраз з паэмы «Над ракой Арэсай». Адзін з камунараў Чарнагорскай дывізіі не хацеў працаваць на асушэнні палескіх балот і на заўвагу іншага камунара прамовіў: *Ты контрафалдаў Нам не мялі, – Свабодных земляў Шмат на зямлі. Не трэба нам Тваіх балот, Дзе ногі сам Паломіць чорт*. Выраз не фіксуецца слоўнікамі беларускай і польскай моў. З кампанентам *контрафалда* (*kontrafalda*) ‘сустрэчная фалда, складка (на адзежы)’ у польскай мове ёсць фразеалагізм *nie zawracaj kontrafaldy* (Skor., с. 343) ‘не тлумі галаву’. На падставе яго Янка Купала ўтварыў недакладную кальку *контрафалды малоць*.

Прапанаваныя тут лінгвістычныя нататкі сведчаць, што фразеалогія Янкі Купалы з’яўляецца каштоўным матэрыялам і стымулам этымалагічных даследаванняў, якія дапамогуць яшчэ глыбей пранікнуць у моўную лабараторыю пісьменніка.

*Літаратура*

1. Молотков, А.И. Основы фразеологии русского языка / А.И. Молотков. – Л.: Наука, 1977. – 283 с.

2. Лепешаў, І.Я. Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў / І.Я. Лепешаў. – Мінск: БелЭн, 2004. – 448 с.

3. Ляшчынская, В.А. Слоўнік фразеалагізмаў мовы твораў Янкі Купалы / В.А. Ляшчынская, З.У. Шведава. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2007. – 312 с.

4. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія / М.В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1966. – 328 с.

5. Усціновіч, А.К. Антрапанімія Гродзеншчыны і Брэстчыны / А.К. Усціновіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – 158 с.

6. Даніловіч, М.А. Беларуская дыялектная фразеалогія і яе лексічная аснова: манаграфія / М.А. Даніловіч. – Гродна: ГрДУ, 2003. – 272 с.

---

Першая публікацыя ў зборніку: *Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні : зб. навук. арт; ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал.: У.І. Каяла (адк. рэд.) [ і інш.]. – Гродна : ГрДУ, 2010. – С. 70–76.*

## ФРАЗЕАЎТВАРАЛЬНАЕ СЛОВА КУТ У ТВОРАХ ЯНКІ КУПАЛЫ

Слова *кут* у этналінгвістычнай прасторы беларусаў займае важнае месца. Яно асацыіруецца з такімі вызначальнымі ў жыцці чалавека паняццямі, як жыллё, месца жыхарства, родная старонка і інш.

Янка Купала часта выкарыстоўвае гэтае слова. Паводле звестак «Слоўніка мовы Янкі Купалы», *кут* і дэрываты *куток, куточак* ужыты паэтам больш за 100 разоў [1, 415-416]. Як правіла, яно рэалізуецца ў агульнапрынятых значэннях:

‘месца, дзе сыходзяцца ўнутраныя бакі прадмета; частка памяшкання, прастора паміж дзвюма сценамі’: *Муха лётае па хаце І шукае стравы, А павук снуе ўжо сетку, У куце над лавай*’. Павук і муха;

‘самае пачэснае месца за сталом на покуці’: *Малады на куце Ўсеўся з маладой, Побач асістэнты Падрад чарадой.* Нікому;

‘жыллё, прыстанак, месца жыхарства’: *Пайшло няшчасце за няшчасцем; Я кут пакінуць мусіў свой...* На папасе;

‘мясцовасць, месца’: *Ў дарозе шчасце паручыла, Загнаў да Кіева плыты, Дамоў вяртаўся з новай сілай Пабачыць родныя куты.* Магіла льва.

Нярэдка Янка Купала творча выкарыстоўвае словы *кут, куток* з аказіянальнымі, індывідуальна-аўтарскімі значэннямі, параўн. назву верша «З кутка жаданняў» ці, напрыклад: *Даведаўся ў двор і да сына – Не служцы куток свой карміці! І больш не даюць з магазына, Няма дзе рубля зарабіці.* На прадвесні.

У творах Янкі Купалы слова *кут* функцыянуе і ў складзе фразеалагізмаў. З іх ліку асаблівую ўвагу звяртае на сябе фразеалагізм *на куце сядзець* ‘быць у пашане, быць прызнаным’. У адносна поўным літаратурным «Слоўніку фразеалагізмаў» І.Я. Лепешава [2] ён не адзначаны. Гэта дае падставы меркаваць, што складальнік слоўніка не знайшоў пацвярджэння фразеалагізма ў іншых аўтараў і, магчыма, палічыў, што фразеалагізм у літаратурным ужытку з’яўляецца выключна Купалавым.

У сувязі ў з гэтым узнікае пытанне паходжання фразеалагізма. Адкуль Янка Купала ўзяў яго: ці з народных гаворак, ці стварыў сам, самастойна? Адказаць на гэтае пытанне можна паспрабаваць, «перабраўшы» фразеалогію беларускай дыялектнай мовы.

У нашай картатэцы, якая мае звесткі з усіх дыялектных слоўнікаў беларускай мовы (а іх больш за 50), сапраўды, ёсць падобны фразеалагізм, але з іншым значэннем: *сядзець на куце* ‘жыць у чужой хаце, не мець сваёй хаты’ [3, с. 590]. Узнікае неабходнасць падрабязней спыніцца на гэтым фразеалагізме, каб лепш зразумець вытокі Купалавага фразеалагізма.

Дыялектны фразеалагізм *сядзець на куце* развіў сваё значэнне на фоне багатай пазамоўнай рэчаіснасці. Сэнсаўтваральным кампанентам яго выступае слова *кут* не з першасным, а з вытворным значэннем – ‘жыллё, частка жылля’. Паводле нашых меркаванняў, фразеалагізм з гэтым словам быў вядомы ўжо ў XVI ст. і захаваўся да нашых дзён. *Сядзець (жыць) на куце, сядзець кутам* у мінулым людзі вымушаны былі не ад добрага жыцця: бяздомнікі, пагарэльцы, найміты і інш. Пра гэта яскрава сведчаць запісы дыялектнай мовы: *Даўней казалі: «сядзець на куце», – як хто сваёй хаты ні маў.* Гемзы Шальч. *Бацька зямлі не меў, сядзеў кутам у чужой хаце.* Вузла Мядз. *Сядзелі кутам, плацілі за хату.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Яна ў нас на куту жыла.* Ёдлавічы Брасл. *Ён на куце жыў, ні ў сваёй хаця.* Ракаўскія Швянч. *Кутам сядзіць, сваей хаты не мае.* Рыбчына Віл. *Ён кутам сядзеў.* Груздава Паст. [3, с. 590].

Негатыўная семантыка фразеалагізма знайшла сваё ўвасабленне ў праклёне: *Чаго ты тут расьселася, кап ты кутам села!* Гудагай Астр.

Пра актыўнасць ужывання фразеалагізма ў мінулыя часы сведчыць тое, што на аснове яго ўтварыліся асобныя словы: *кутнік, закутнік, покуцень.* Паводле энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі», кутнікі – гэта «катэгорыя збяднелых, беззямельных сялян у 16-19 ст., якія не мелі ўласнай хаты і таму наймалі для жылля кут (адсюль і назва). Займаліся пераважна рамяством, промысламі, выконвалі работу па найму. Асноўнай іх павіннасцю быў грашовы чынш. У асобных уладаннях неслі дваровую службу... У 19 ст. зліліся з асноўнай масай прыгонных сялян» [4, с. 282]. Мужчыну з ліку такіх сялян называлі *кутнік*, а жанчыну *кутніца*: *Кутнік сядзіць у таго і ў таго на куце.* Гемзы Шальч. *Кутнік кутам сядзеў.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Жодзішкі Смарг., Вялікія Нястанавічы Лаг. *У нас была Міхаліна-кутніца, сядзела на куту.* Ёдлавічы Брасл. [3, с. 590-591].

У дыяхраніі слова *кутнік* і яго вытворнае *закутнік* развілі іншыя значэнні – ‘бабыль’, ‘бедны чалавек’, ‘нелюдзімы чалавек’, ‘дамасед’: *На канцы сіла стаіць старынь-*

*кыя хата-курніца, а ў ёй жывець кутнік Васіль.* Шчыпаў Раснян. [5, с. 240]. *Бацька іх бедны быў, доўга кутнікам сядзеў у сваякоў.* Навасёлкі Мядз. [6, с. 11]. *Салдаты, што калісь дваццаць пяць гадроў былі ў царскай арміі, іх звалі кутнікамі, бо ім зямлі не было.* Кураполле Паст. [3, с. 591]. *Ня будзь закутнікам, выходзь да людзей за помачу.* Купіск Навагр. [7, с. 171].

У вёсцы Харосіца Навагрудскага раёна каля трыццаці гадоў таму намі запісана цікавая інфармацыя пра архаічнае значэнне слова *закутнік* ад мясцовага старога чалавека, якую ён пачуў некалі ад свайго дзеда. У часы прыгону за правіннасці сяляне маглі быць пакараны. Сярод розных формаў пакарання практыкавалася і такая: пан садзіў на кут да селяніна едака – звычайна панскага работніка, – і селянін за свой кошт павінет быў пэўны час карміць і даглядаць яго. Такога падсуседа называлі *закутнікам.*

Такім чынам, фразеалагізм *сядзець на куце* мае дыялектны характар. Ён лакалізуецца пераважна паўночна-заходняй часткай беларускіх гаворак, бытуе прыкладна на тэрыторыі былога Віленскага краю. А гэта родныя Янку Купалу мясціны і гаворкі. Ці вядомы быў паэту фразеалагізм? Хутчэй за ўсё што так. Але ў творах ён не выкарыстаны ніводнага разу. Янка Купала ўжывае фармальна ідэнтычны, але сэнсава зусім іншы, аманімічны фразеалагізм, не з адмоўнай, а са станоўчай канатацыяй: *на куце сядзець* ‘быць ў пашане, быць прызнаным’.

Пошукі гэтага фразеалагізма ў лексікаграфічных крыніцах не прывялі да паспяховага выніку. Ні ў адным дыялектным ці літаратурным слоўніку беларускай мовы, акрамя спецыяльнага фразеалагічнага слоўніка твораў Янкі Купалы [8], ён не фіксуецца. Праўда, у ТСБМ прыводзіцца спалучэнне *на куце сядзець*, але пададзенае да яго тлумачэнне ‘знаходзіцца, быць на покуці як ганаровы, пачэсны госць (на вяселлі)’ [9, с. 445], паказвае, што гэта яшчэ не фразеалагізм, а словазлучэнне з літаральнымі значэннямі сваіх кампанентаў.

Купалаў фразеалагізм пабудаваны на вобразе, які акумулюе ў сабе звесткі пра адметную беларускую нацыянальна-культурную традыцыю. У інтэр’еры сялянскай хаты беларуса самым пачэсным месцам быў *кут* або *покуць*. Кутом называлі адзін з унутраных вуглоў хаты, дзё ўверсе вісеў абраз, а пад ім стаяў стол, засцелены абрусам. Кут выконваў важную рытуальную функцыю. У куце ставілі хлебную дзяжу як сімвал дастатку і дабрабыту. Там да новай сяўбы захоўваўся *дзед* ‘першая жменя або першы сноп жыта, зжатага ў час зажынак’: *Дзеда нада выразаць і паставіць на куця за іконы, і як будзіш сеіць – дзеда нада вымалаціць.* Мярэцкія Глыб. [3, с. 40]. У час застолля на кут садзілі госця, выказваючы яму гэтым павагу. Параўн. у Якуба Коласа: *А на пачэсным гэтым месцы садзіўся госць – і то не кожан; А як цяпер быў кут парожан, То там Алесь прымайстраваўся.* Новая зямля. За сямейным абедам гэтае месца займаў гаспадар, а пасля яго – паслядоўна па старшынстве іншыя члены сям’і. Галоўныя ўдзельнікі вясельнага абраду – маладыя – таксама садзіліся на куце.

Сакральна-рытуальны сэнс кута Янку Купалу быў добра знаёмы і дарагі. Паэт звяртаецца да яго ў сваёй творчасці каля двух дзясяткаў разоў праз дзеяслоўны выраз *на куце сядзець* у некалькіх варыянтах. Ён «саджае» на кут:

госця: *Каб я меў сваю хаціну, Каб я меў сялібу, – Запрасіў бы вас ў госці, На кут пасадзіў бы.* «Каб я меў загончык нівы»; *А мо’ дзе на куце разам там саджаюць І віном дарагім Частуюць, прымаюць?* Аб мужыцкай долі;

гаспадара: *Любілі яго ўсе, на куце сядзеў, Ніхто лепшай ласкі, як Янка, не меў.* Нібы казка;

гаспадыню: *У хаце ўжо маёй будзь гаспадыняй, – няма ў мяне нікога, проч цябе; Сядзь на пачэсны кут, мая багіня, і будзеш думы думаць аб сабе.* Яна і Я.

прыніжанага, занядоленага чалавека, які марыць аб сваім годным сацыяльным статусе: *А ўжо час працерць, здаецца, Вочы хоць бы кулаком І заняць у куце месца, А не недзе за вуглом.* Праз гультайства...

Як бачым, значэнне выразу амаль у кожным выпадку пераўзыходзіць літаральную семантыку яго структурных кампанентаў, дагружаецца абагульненай семай 'павага, пашана, прызнанне, годнасць'.

Фразеалагічнасць выразу *на куце сядзець* узмацняецца і замацоўваецца яшчэ і тым, што пры яго ўжыванні Янка Купала выкарыстоўвае прыём персаніфікацыі – перанос уласцівасцей чалавека на неадушаўлёныя прадметы. На куце ўжо засядае і песня, і багацце: *Песні гэтай знаём і палац мураваны, Што ў хмяліных бялее павоях, На пачэсным кутку засядае жаданай – Мілай госцяй у багатых пакоях.* «Лірнік вясковы». *Будзеш важна паглядаці, Як у цябе дома На куце сядзіць багацце, Нібы госць вядомы.* З новай думкай. *Багацце ў нашым маладым прыселлі З павагаю засела на куце.* А мы сабе сеем і сеем.

Найбольшую ступень сэнсавай адцягненасці, пераноснасці фразеалагізм набывае ў кантэксце, дзе на кут пасаджана самае дарагое для Янкі Купалы, тое, з чым звязаны яго сны, надзеі, лёс, сэнс жыцця – Беларусь: *Беларусь на куце Ў хаце сваёй села, – Чарка мёду ў руцэ, Пазірае смела.* Безназоўнае.

Такім чынам, у беларускай мове *сядзець на куце* – гэта два фразеалагізмы-амонімы. першы ўзнік у мінулыя стагоддзі на падставе такой бытавой з'явы, як падсуседства. Ён не замацаваўся ў літаратурнай мове, з'яўляецца тэрытарыяльна абмежаваным. Другі фразеалагізм са значэннем 'быць у пашане, быць прызнаным' створаны непасрэдна Янкам Купалам на аснове агульнабеларускай культурнай традыцыі, звязанай, як цяпер кажуць, з чырвоным кутом. Нарматыўныя слоўнікі літаратурнай мовы не падаюць Купалавага *на куце сядзець*, на наш погляд, таму, што складальнікі слоўнікаў не звярнулі ўвагу, не заўважылі яго і таму не ўключылі ў слоўнікавы рэестр. А крылатасць, фразеалагічнасць выразу настолькі адчувальная і даходлівая, што іншыя пасля Купалы літаратары не маглі не падхапіць яго, каб выкарыстаць у сваіх творах. Параўн. у Якуба Коласа: *Народы вялікай краіны, што селі ў пачэсным куце! Няхай наша дружба цвіце. Каб сонцам ірдзелі пуціны.* Народам СССР. У новых выданнях фразеалагічных слоўнікаў *на куце сядзець* абавязкова павінен знайсці сваё месца, як знайшлі сваё месца іншыя фразеалагізмы, створаныя пісьменнікамі, напрыклад, купалаўскі *людзьмі звацца,* коласаўскі *асадзі назад*, крапівоўскі *свінтус грандыёзус,* бядулеўскі *рыцар ночы* і інш.

### *Літаратура*

1. Слоўнік мовы Янкі Купалы: у 8 т. / склад. У.В. Анічэнка і інш. – Т. 2: Д–К. – Мінск: Беларуская навука, 1999. – 416 с.

2. Лепешаў, І.Я. Слоўнік фразеалагізмаў: у 2 т. / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Беларуская энцыклапедыя імя П.Броўкі, 2008.

3. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. – Т. 2. – Мінск: Навукаі тэхніка, 1980. – 728 с.
4. Этнаграфія Беларусі : энцыклапедыя; рэдкал.: І.П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.] – Мінск: БелСЭ, 1989. – 575 с.
5. Бялькевіч, І.К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны / І.К. Бялькевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. – 510 с.
6. Народная словатворчасць / рэд. А.А. Крывіцкі, І.Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979. – 336 с.
7. Скарбы народнай мовы: дыялекталагічны зб. / рэд. Л.П. Кунцэвіч. – Мінск: Права і эканоміка, 2005. – 385 с.
8. Ляшчынская, В.А. Слоўнік фразеалагізмаў мовы твораў Янкі Купалы / В.А. Ляшчынская, З.У. Шведава. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2007. – 312 с.
9. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. – Т. 5. Кн. 1. – Мінск: БелСЭ, 1982. – 663 с.

---

Першая публікацыя ў зборніку: *Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні (да 130-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы), 20–21 красавіка 2012 г. : зб. навук. прац / рэдкал. : І.В. Жук (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ТАА «ЮрСаПрынт», 2013. – С. 135–139.*

## УПЛЫЎ КАНТАКТНЫХ МОЎ НА ФРАЗЕАЛОГІЮ ГАВОРАК ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Гаворкі Гродзеншчыны з даўніх часоў мелі сувязь з іншымі мовамі. Гэта не магло не адбіцца на іх фразеалагічнай сістэме. Асобныя фразеалагізмы ўвабралі ў сябе іншамоўныя элементы, якія маглі з’явіцца непасрэдна праз фразеалагічнае запазычванне ці апасродкавана, пад уздзеяннем лексікі іншай мовы.

Найбольш прыкметны ўплыў на дыялектную фразеалогію аказалі тыя мовы, з якімі беларускія гаворкі кантактавалі непасрэдна на працягу значнага перыяду: балтыйскія, польская, руская, цюрскія, ідыш. Характар гэтага ўздзеяння быў неаднолькавы, залежаў ад ступені роднасці, сферы выкарыстання, сацыяльнай функцыі, працягласці функцыянавання іншых моў у беларускім асяроддзі.

Нязначны след у беларускай фразеалогіі пакінулі цюркскія гаворкі, якімі карысталіся татары, што пасяляліся на Гродзеншчыне з часоў князя Вітаўта. Татары хутка асіміляваліся, страцілі сваю мову і перайшлі на гаворку тутэйшага насельніцтва. Аднак асобныя фразеалагізмы цюрскага паходжання былі асвоены, выкарыстоўваюцца і сёння, напрыклад: *на барана* ‘на плечы, на шыю (браць, узяць, садзіць і інш.)’, *на баранах* ‘на плячах, на шыі (сядзець, насіць)’, клясці *ў карон* ‘вельмі моцна (клясці, праклінаць)’ (тут і далей прыводзяцца фразеалагізмы, выпісаныя з дыялектных слоўнікаў беларускай мовы, а таксама сабраныя аўтарам непасрэдна ў гаворках Гродзеншчыны на працягу апошніх трыццаці гадоў).

Пэўная частка фразеалагізмаў на Гродзеншчыне замацавалася пад уплывам мовы ідыш. Першыя яўрэйскія абшчыны з’явіліся ў Гродне ў канцы 14 ст. У далейшым, перасяляючыся з Германіі і Польшчы, яўрэі папоўнілі колькасць жыхароў беларускіх мястэчкаў. Жывучы замкнёнымі тэрытарыяльнымі абшчынамі (кагаламі), трымаючыся сваёй веры і нацыянальнай культуры, яны не страцілі ўласнай мовы. Пасля ўтварэння БССР яўрэйская мова была ўведзена ў афіцыйны ўжытак. На ёй пэўны час выдаваліся газеты і часопісы, вялося навучанне ў школе. За некалькі стагоддзяў бытавання ідыш на тэрыторыі Беларусі беларускай мова было засвоена нямала слоў германскага паходжання, а таксама фразеалагізмаў, што склаліся пад уплывам яўрэйскамоўнага асяроддзя. Некаторыя прыклады: *ад рыштока да рыштока* ‘хістаючыся з боку ў бок (ісці)’, *браць у клямры* ‘трымаць каго-н. пад строгім кантролем’, *голы васар* ‘нямоцная водка’, ‘слабы толк’, *дастаць па фандах* ‘атрымаць наганяй’, ‘не дабіцца жаданага, атрымаць непрыемнасць’, *даць у гівяр* ‘пабіць, пакараць’, *даць файт* ‘у рэзкай форме выгаварыць’, *даць фаяру (хваяру, фэёру, фафару, фэфару, палеру)* ‘рэзка насварыцца на каго-н., сурова распраўляцца з кім-н.’, *з Лейзарам прывітацца* ‘напіцца спіртнога’, *набіць лантух* ‘уволю, празмерна наесціся’, *на тандэт* ‘абы-як, нядбала (зрабіць)’, *цягнуць гізунты* ‘мучыць, знясільваць каго-н.’, *як зэгер* ‘дакладна і бесперабойна’, *як Мэер перцу* ‘вельмі мала (даць каму-н. што-н.)’, *як на Гамана* ‘вельмі моцна (крычаць)’, *як рыхтык* ‘вельмі дакладна, належным чынам’, *як у Іцка ў торбе* ‘вялікі беспарадак дзе-н.’

Працяглую гісторыю на Гродзеншчыне маюць балта-славянскія этнічныя і моўныя кантакты. Вучонымі (гісторыкамі, археолагамі, этнографамі, лінгвістамі) да-

казана, што на гэтай тэрыторыі ў мінулым пражывала заходнебалцкае племя яцвягаў. Яшчэ ў дапісьмовы перыяд сюды сталі пранікаць славяне. Масавая іміграцыя славян, якія прынеслі з сабой славянскую гаворку, адбывалася ў XII–XIII стст. з Палабскай Русі. Славянскамоўны ўплыў дапаўняўся распаўсюджваннем хрысціянства з боку Кіева. У выніку балта-славянскага ўзаемадзеяння «складваецца славянская культура, якая ўвабрала ў сябе балцкія элементы» [Седов 1973, 8]. Цеснае кантактаванне двух этнасаў спрыяла таму, што ў розныя гістарычныя перыяды беларускія гаворкі набылі нямала балтызмаў субстратнага і запазычанага характару. У часы фарміравання беларускай мовы яе фразеалогія складвалася як з балцкага, так і славянскага кампанентаў. Можна меркаваць, што гэтыя два кампаненты цесна перапляліся і гарманічна дапоўнілі адзін аднаго. Прамога сведчання гэтаму няма, паколькі заходнебалцкія дыялекты на тэрыторыі Беларусі не захаваліся (лічаць, што яцвяжская мова знікла прыкладна ў XVI ст.). Але сёння жывымі з’яўляюцца іншыя балтыйскія мовы (літоўская, латышская), якія можна выкарыстаць у якасці ўскоснай крыніцы параўнання.

У шэрагу фразеалагізмаў выяўлены адзнакі кантамінацыі, гібрыдызацыі, «сплаву» славянскага і балцкага элементаў. Так, у фразеалагізме *голы як бізун* ‘вельмі бедны’ матывацыйная аснова здаецца досыць празрыстай. Вобраз зразумелы, усе тры словы нарматыўныя ў сучнай беларускай мове. На першы погляд здаецца, што гэта ўласнабеларускае моўнае ўтварэнне. Аднак этымалагічны аналіз паказвае, што гісторыя гэтага фразеалагізма не такая і простая. Да яго фарміравання мае дачыненне і балцкая лексічная адзінка (параўн. літ. *bìzas* ‘галяк, бядняк, збяднелы’). У гаворках беларуска-літоўскага памежжа сустракаецца варыянт фразеалагізма, які ўказвае на балцкае паходжанне назоўнікавага кампанента: *Біза ты! Ты голая як біза* [Слоўнік 1979-1986: 1, 185].

Аднамадэльныя сінанімічныя ці варыянтныя рады фразеалагізмаў маглі напаўняцца лексічным матэрыялам і славянскага, і балцкага паходжання. Напрыклад, у фразеалагічнай серыі *біць байды, біць бібікі, біць бінды, біць брынды, біць лынды, біць тылылы* – ‘гультаяваць, займацца пустымі справамі’ на аснове балтызмаў замацаваліся кампаненты *бінды* (літ. *biñdė* ‘гультай’), брынды (літ. *brinda* ‘нядбалы, неахайны’).

Гісторыя балта-славянскіх фразеалагічных сувязей у беларускай мове яшчэ не распрацаваная, але гэта вельмі цікавы і перспектыўны ўчастак фразеалагічных даследаванняў.

Фразеалогія Гродзеншчыны зведала прыкметны ўплыў з боку польскай мовы, што выклікана пераважна дзвюма прычынамі. Адна з іх – тэрытарыяльная блізкасць паўночна-заходніх беларускіх гаворак да спрадвечна польскіх. Другая – сацыяльна-гістарычныя і палітычныя працэсы, якія адбываліся ў гэтым рэгіёне. Узаемадзеянне беларускай і польскай моў на дзяржаўным узроўні працягвалася прыкладна 4 стагоддзі. Пачаткам яго можна лічыць канец XIV ст., калі пасля Крэўскай уніі 1385 г. узмацніліся палітычныя, гаспадарчыя і культурныя сувязі паміж дзвюма дзяржавамі. Актыўнае пранікненне паланізмаў у беларускую мову адбывалася пасля Люблінскай уніі 1569 г., паводле якой ВКЛ аб’ядналася з Польшчай у Рэч Паспалітую.

Найбольшае ўздзеянне польскай мовы гаворкі заходняй часткі Беларусі зведалі ў пачатку XX стагоддзя (20 – 30-я гады), калі праводзілася актыўная паланізацыя Заходняй Беларусі. У гэты адносна кароткі перыяд фразеалогія насыцілася шматлікімі польскамоўнымі ўкрапінамі, якія ў значнай ступені захаваліся па сённяшні дзень: *без*

*надзеі жыцця, брэгу няма, горончка яго ведае, дай ты спокуй, да калёру да выбору, даць мадленя, няма ніц, як пан пшэнны* і інш.

Пэўны ўплыў на дыялектную фразеалогію аказала руская мова, што выклікана сацыяльна-эканамічнымі і палітычнымі працэсамі, якія адбываліся на працягу двух апошніх стагоддзяў. Уплыў гэты ў розныя часы быў неаднолькавы, залежаў ад характару міжмоўных адносін у цэлым.

Да XVIII ст. «для Беларусі ўзаемадзеянне жывых (вусных) форм беларускай і рускай моў не было характэрна» [Міхневіч 1990, 19]. Непасрэднае кантактаванне беларускай і рускай моў пачалося ў канцы XVIII ст. пасля падзелу Рэчы Паспалітай і далучэння беларускіх тэрыторый да Расіі, але прыкметнага ўздзеяння на беларускія гаворкі гэта не зрабіла.

Прымусовае насаджэнне рускай мовы пачалося ў XIX ст. як рэакцыя на антыімперскія паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі і Кастуся Каліноўскага. Адміністрацыя рабіла захады, каб «надаць рускай мове перавагу ва ўсіх сферах жыцця беларускага народа. Практычна з гэтага часу руская мова пачынае актыўна ўплываць на беларускую» [Міхневіч 1990, 61]. У XIX ст. руская мова пашыралася пераважна ў сферах адміністрацыйнага кіравання, адукацыі і культуры, кнігадрукавання і прэсы. На беларускія гаворкі яна істотна не паўплывала. Іх фразеалагічная сістэма атрымала нязначнае рускамоўнае ўздзеянне, пра што сведчаць запісы тагачасных збіральнікаў вуснай народнай творчасці.

У XX ст. на першае месца выходзяць міжмоўныя адносіны, пры якіх руская літаратурная мова запанавала ў якасці адной з дзяржаўных спачатку на ўсходняй і цэнтральнай, затым на ўсёй тэрыторыі Беларусі. У гэты перыяд вызначыліся магутныя ўнутраныя крыніцы ўплыву рускай мовы на беларускую: функцыянаванне дзяржаўных устаноў і сродкаў масавай інфармацыі на рускай мове, а таксама ў аснове сваёй рускамоўны горад.

Небывалае пранікненне рускай мовы ва ўсе сферы назіраецца ў наш час. У выніку беларуская мова прыкметна страчвае функцыі, неабходныя для яе натуральнага існавання і развіцця. Як справядліва адзначае В.М. Курцова, «характарызуючы агульны стан сучаснай моўнай сітуацыі на Беларусі, найперш у адносінах да функцыянавання беларускай літаратурнай мовы, у тым ліку і як сродку вуснай камунікацыі, яе можна вызначыць, карыстаючыся экалагічнай тэрміналогіяй, як сітуацыю моўнай стагнацыі» [Курцова 2001, 213].

Узрастанне ўплыву рускай мовы на беларускую адпаведным чынам сказваецца і на ступені пранікнення рускамоўных элементаў у беларускую фразеалогію. У гаворках Гродзеншчыны побач са сваімі сталі актыўна ўжывацца фразеалагізмы рускамоўнага паходжання, напрыклад: *ісці насмарку, на кавёр, на ўсякі случай, у канцэ та канцоў.*

У фразеалогіі гаворак Гродзеншчыны сярод названых вышэй уплываў найбольш прыкметнымі выступаюць польскамоўныя і рускамоўныя. І гэта зразумела, паколькі актыўнае ўзаемадзеянне беларускай мовы з польскай і рускай адбывалася, можна сказаць, на нашых вачах, у апошняе стагоддзе, і жывымі сведкамі гэтага з’яўляюцца людзі сучасных трох–чатырох пакаленняў.

Аднак няправільна было б меркаваць, быццам фразеалагізмы надзелены незвычайнай здольнасцю насычацца чужамоўным матэрыялам. Фразеалагічная сістэма, наадварот, выяўляе большае супраціўленне, чым лексічная, пранікненню ў свае

межы чужамоўных элементаў. Тлумачыцца гэта тым, што ўзнікненне фразеалагізмаў выклікана, як правіла, не патрэбамі намінацыі, а імкненнем даць характарыстыку з'явам, якія ўжо названы словамі ці спалучэннямі слоў. Сфера пазамоўнай рэчаіснасці, абазначаная фразеалагізмамі, тэматычна абмежаваная і ў розных народаў у аснове сваёй прыкладна тая самая. Фразеалагізмы ў паняццева-прадметным плане звычайна маюць дачыненне да чалавека, яго знешнасці, характару, разумовых і фізічных якасцей, паводзінаў і дзеянняў, а таксама да некаторых абстракцый. Для ўтварэння фразеалагізмаў такога зместу дастаткова ўласных моўных сродкаў і вобразных уяўленняў. Калі ж фразеалагізм трапляе ў іншае моўнае асяроддзе, то часцей за ўсё адбываецца яго калькаванне, пераапрананне ў нацыянальную моўную адзежу. Ад этымона застаецца толькі структурная схема, а сам фразеалагізм не ўсведамляецца запазычаным.

Паводле нашых падлікаў, у IV томе «Люду беларускага на Русі Літоўскай» М. Федароўскага [Federowski 1935] змешчана звыш 3300 фразеалагізмаў, сабраных ў канцы XIX – пачатку XX стст. пераважна ў Ваўкавыскім павеце Гродзенскай губерні. З іх толькі 3,2% маюць у сваёй структуры польскамоўныя элементы: *алегант з крулеўскай псярні, марцовы кавалер, як пшчолка, верутны Лазар, (маўчаць) як за штэрэх, без Бога Ойца, як аман у пацерах, ні прошаны ні дзенькованы, гвяздаў з неба ні збірае, чысты следзь вымачаны, добры трунак на фарсунак, забабоны старой жоны* і інш. Падобныя працэнтныя паказчыкі знаходзім і ў іншых слоўніках Гродзеншыны: 2,5 % [Сцяшковіч 1983], 2,2 % [Лепешаў 1991], каля 6 % [Даніловіч 2000].

Адносна нямнога фразеалагізмаў і з рускамоўнымі элементамі: 2,% [Сцяшковіч 1983], 1,3 % [Лепешаў 1991], звыш 1 % [Даніловіч 200].

Што датычыць фразеалагізмаў з балцкімі элементамі, то прыкладную працэнтную лічбу іх вывесці пакуль немагчыма, таму што лінгвістыкай яшчэ да канца не высветлены паказчыкі балтызмаў, суадносіны балцкага і славянскага ў лексічна-фразеалагічнай сістэме беларускай мовы. У сувязі з гэтым можна прывесці статыстычныя звесткі А.А. Станкевіч, якая ў беларускай дыялектнай мове выявіла 512 лексічных балтызмаў [Станкевіч 1996, 78, 90]. З улікам іх намі зафіксавана каля 100 фразеалагізмаў з гаворак Гродзеншчыны, якія ўтрымліваюць у сваёй структуры словы балцкага паходжання, напрыклад: *аткавезіць лупы* 'адвесіць губы', *лейды лейдзіць* 'многа і абы-што гаварыць', *каля пальца абвінуць* 'зусім нічога (не даць, не ўзяць)', *лэмзаць языком* 'балбатаць', *адны рэбры і пялы* 'хто-н. вельмі худы', *ляпу расчыніць* 'зазяваўшыся, перастаць рабіць што-н.', *гнэбы раскінуць* 'рассесціся', *абабраць скабы* 'сурова расправіцца з кім-н., збіць, адлупцаваць каго-н.', *закрыць зяўну* 'замоўкнуць', *распусціць зяўры* 'разгаварыцца', *даць у купру* 'пабіць, пакараць', *шлунне выцягнуць* 'замучыць, знясіліць каго-н.', *гілас напаў* 'хто-н. паводзіць сябе неспакойна, узбуджана', *ворля вочкі* 'рамонак', *як ваган* 'вельмі цяжкі (пра птушку)'.

Найважнейшым вынікам міжмоўнага ўзаемадзеяння для беларускай фразеалогіі з'явілася папаўненне яе саставу. Разгледзім асноўныя шляхі пранікнення і замацавання іншамоўнага матэрыялу ў фразеалагічнай сістэме гаворак Гродзеншчыны.

I. Фразеалагічнае калькаванне. Гэта самы распаўсюджаны спосаб асваення чужых фразеалагізмаў. Кампаненты іншамоўнага фразеалагізма перакладаюцца беларускімі сэнсавымі адпаведнікамі. «Іншамоўнасць такіх скалькаваных выразаў зусім не адчуваецца. Многія з іх усведамляюцца як жывыя метафарычныя ўтварэнні з яркім вобразным стрыжнем, сфарміраваным на аснове слоў канкрэтнага значэння…

Перафарбоўваючыся пад нацыянальную ідыяматыку, яны арганічна ўваходзяць у маўленне, уліваюцца ў агульную плынь нацыянальнай мовы» [Лепешаў 1998, 37-38]. Напрыклад, з рускай мовы: *наступаць на корак < наступать на пробку, страха (стрэха) паехала < крыша поехала, гуляць у хаванкі < играть в прятки;* з польскай мовы: *на святыя ніколі <na święty nikdy, што то я <co to ja, даць прыпаліць < dać przypalić.*

II. Фразеалагічнае запазычванне. Усе кампаненты запазычаных фразеалагізмаў у той ці іншай ступені захоўваюць рысы, уласцівыя этымону, значэнне якога таксама запазычана. Параўн. з польск.: *голы як свенты турэцкі* ‘вельмі бедны, не мае грошай’ *<goly jak święty tyrecki; закрапіць рабака* ‘выпіць спіртнога’ *<zakropić robaka; з відзэня* ‘знешне, звонку’ *<zwidzenia; згінь ты пшападні* ‘выказванне незадавальнення’ *<zgiń typhzepadnij, ісці удры на удры* ‘знаходзіцца ў рэзка варожых адносінах’ *<iść udry na udry; на падарэндзі* ‘на відным месцы, пад рукой, напагатове’ *<na podorędziu.*

Асобныя фразеалагізмы гэтага тыпу на беларускамоўнай глебе атрымалі семантычныя пераўтварэнні, напрыклад: *нябескія мігдалы* ‘што-н. неверагодна смачнае’ *<niebieskie migdały* ‘штосьці нерэальнае, несапраўднае’, *не для пса кілбаса* ‘не падыходзіць, не пара хто-н. каму-н.’ *<nie dla psa kiełbasa* ‘не для цябе (яго) прызначана’, *мала-веля* ‘трохі’, ‘чуць што’ *<malowiele* ‘нямнога, у малой колькасці, рэдка’.

Пры разглядзе фразеалагічных запазычанняў трэба адзначыць, што сярод іх могуць быць выразы, якія ў дзвюх мовах супадаюць сваім кампанентным складам, напрыклад, з рускай мовы: *віляць хвастом – вилять хвостом, на дарозе не валяецца – на дороге не валяется, наламаць дроў – наломать дров, ні ў зуб нагой – ни в зуб ногой, хадзіць на задніх лапках – ходить на задних лапках.* Ідэнтычнасць фармальнай структуры запазычанняў і іх этымонаў тлумачыцца наяўнасцю ў абедзвюх мовах аднолькавых слоў, якія сталі кампанентамі фразеалагізмаў. Такія запазычанні з лёгкасцю ўліваюцца ў гаворкі, праходзячы непрацяглы перыяд адаптавання, і ўспрымаюцца як уласныя натуральныя сродкі.

Іншая справа, калі ў гаворкі трапляюць фразеалагізмы са спецыфічным кампанентным складам. У такім выпадку мова-пазычальніца або калькуе іх, замяняючы неўласцівыя ёй кампаненты сваім матэрыялам, або пакідае без змен, нягледзячы на тое, што адзін ці некалькі кампанентаў фразеалагізма ўспрымаюцца як не свае, як неадпаведныя лексічнай норме.

Адсутнасць калькавання можа быць выклікана тым, што фразеалагізмы маюць у свім складзе этымалагічна цьмяныя кампаненты, якія ў лексічнай сістэме не функцыянуюць як словы свабоднага ўжывання. Незразумеласць унутранай формы, этымалагічнага значэння кампанентаў не дазваляе падабраць да іх у якасці замяняльнікаў адпаведныя беларускія лексічныя эквіваленты. Запазычанні з рускай мовы: *без зазрэня совясьці, без сучка без задорынкі, біць баклушы, даваць стракача, ісці насмарку, на снасях, ні чаяць душы, у дзіковінку;* з польскай мовы: *гнэмбіць муху* ‘прыгнятаць, здзекавацца са слабейшага, малодшага’, *як дронк уеўшы* ‘роўна, нерухома (стаяць)’, *галава не капуе* ‘хто-н. неразумны, някемлівы’, *плесці баналюкі* ‘гаварыць абы-што’, *фіёлкі ў галаве скачуць* ‘хто-н. несур’ёзны, легкадумны, ветраны’, *мець фонфры ў носе* ‘быць упартым, капрызным, наравістым’, *пайсці на вагары* ‘пагуляць, пашпацыраваць’.

Наяўнасць этымалагічна цьмянага слова-кампанента ў фразеалагізмах досыць тыповая з’ява. У гэтую катэгорыю фразеалагізмаў упісваюцца і вышэйпералічаныя.

Актыўнасць іх ужывання ў многім падтрымліваецца незразумеласцю кампанента: незразумелы – значыць, незвычайны, прыцягальны, варты ўвагі. Іншамоўнае слова выконвае не столькі сэнсаўтваральную, колькі ўзмацняльную, экспрэсіўную функцыю.

Асваенне няясных слоў-кампанентаў часам можа адбывацца пераасэнсаваннем іх з пункту гледжання народнай этымалогіі. На падставе сэнсавых асацыяцый і гукавога падабенства іншамоўнае слова змяняе сваю форму і супадае са звыклым, агульнаўжывальным словам беларускай мовы, напрыклад: *абцасам у вочы лезці* ‘назойліва прыставаць, невыносна дакучаць’ (*абцасам* < польск. *obcesem*‘дзёрзка, нахабна, бесцырымонна’). Прыклады на пераасэнсаванне рускамоўных кампанентаў: (даводзіць) *да белага калена* < (доводить) *до белого каления, карміць узаўтракамі* < *кормить завтраками, на бум Лазара* < *наобум Лазаря, садома яго мора* < *содом и гоморра.*

Захаванне іншамоўных фразеалагізмаў у неперакладным выглядзе можа быць выклікана версіфікацыйнымі прычынамі. Некаторыя фразеалагізмы характарызуюцца рыфмаванасцю сваіх кампанентаў. Рыфма з’яўляецца абавязковым элементам вонкавай формы, жыватворнай асновай такіх фразеалагізмаў. Калькаванне прывяло б да парушэння сугучнасці кампанентаў, а значыць, і да разбурэння фразеалагізмаў як непаўторных адзінак, таму яны запазычваюцца ў нязменным, арыгінальным выглядзе. З руск.: *апяць дваццаць пяць,* (слухай) *вухам а не брухам, дзяржаць вушкі на макушкі, еле-еле душа ў целе, ішчы-свішчы, ні адвету ні прывету, падабру-паздарову, шыварат-навыварат;* з польск.: *да калёру да выбору, і на свёнткі і на пёнткі, ні бяла ні мяла, ні мовы ні гловы, ні да Сасу ні да лясу, свенты-недаткненты,* (трасе) *як у хваробе свянтэго Левантэго.*

III. Утварэнне ўласнамоўных фразеалагізмаў з выкарыстаннем іншамоўнага матэрыялу. Паказальнымі ў гэтым плане з’яўляюцца фразеалагізмы, што ўзніклі на беларуска-польскім памежжы, на глебе беларуска-польскага двухмоўя, у якіх адзін, радзей два ці ўсе кампаненты маюць польскамоўныя рысы: *кралеўна плача* ‘падае дождж пры святле сонца’, *як бонк конскай крыві* ‘залішне, празмерна (напіцца)’, *як з ксёнжкі бярэ* ‘вельмі добра, гладка (гаворыць)’, *ад чшыкрульскай буры* ‘з мінулых часоў’, *да гузі´ка* ‘да мяжы, да безвыходнага, роспачнага становішча (дайсці)’, *на зялёныя нігды* ‘невядома калі, ніколі’, *як пан пшэнны* ‘вельмі добра, у поўным дастатку, раскошна (жыць)’, *як чорт на пудэлку* ‘вельмі актыўна (рухацца, круціцца)’, *як шавец на божа цяла* ‘залішне, празмерна (напіцца)’, *на згіноту* ‘навошта’, *ні да зімнай вады* ‘ні да чога не прыдатны’, *ні пес ні выжал хоць с хаты выжань* ‘кепскі чалавек’.

У асобных выпадках выкарыстоўваецца толькі мадэль беларускага фразеалагізма, якая запаўняецца польскамоўным матэрыялам. Прычым адпаведнасць гэтага матэрыялу лексемам польскай мовы не заўсёды прамая і выразная. Кампанентамі можа быць набор слоў ці зымітаваных на польскі лад утварэнняў, з якіх не выцякае лагічная ўнутраная форма фразеалагізма. Яны ствараюць эўфанічную вобразнасць, якая надае фразеалагізму іншамоўны каларыт і адпаведную экспрэсію. Так, у фразеалагізме *ні да тэнгі ні да лэнгі* ‘ні на што не здатны, няўмелы’ няма непасрэднай матываванай сувязі паміж кампанентамі і канкрэтнымі словамі польскай мовы. Кампанент *тэнгі,* які ўяўляецца назоўнікам роднага склону, фармальна найбольш блізкі да мнагазначнага прыметніка *tęgi* ‘поўны, тоўсты’, ‘буйны, высокі, здаровы’, ‘дужы, моцны’, ‘добры,

выдатны’. Другая частка фразеалагізма *ні да лэнгі* – хутчэй за ўсё вынік раскладання дыялектнага слова *нідалэнга* (< польск. *niedołęga*) ‘недалуга’ на ўзор першай часткі. Існаванне гэтага фразеалагізма з невыразнай унутранай формай падтрымліваецца прадуктыўнасцю і семантычнай акрэсленасцю мадэлі, па якой ён пабудаваны: бінарныя фразеалагізмы з паўторным злучнікам *ні – ні* і адмоўнай ацэначнасцю (тыпу *ні да танцаў ні да ружанцаў, ні да рады ні да звады*) характарызуюцца прадуктыўнасцю і актыўнасцю ўжывання. Падобнае кампанентнае запаўненне аналагічнай мадэлі ўласціва і фразеалагізму *ні з тэнду ні з пэнду* ‘нечакана, знянацку’, які структурна і сэнсава пераклікаецца з агульнаўжывальным фразеалагізмам *ні з таго ні з сяго.*

VI. Пашыраным спосабам утварэння фразеалагізмаў на аснове іншамоўнай лексікі з’яўляецца кампаратывізацыя слова. Сутнасць яго у наступным. Іншамоўнае слова па прычыне слабой адаптаванасці ў мове-рэцэптары з цягам часу выходзіць з актыўнага ўжытку. Але яно цалкам не страчваецца, а падпадае пад працэс ідыяматызацыі, перараджэння ў фразеалагізм. Яно пачынае ўжывацца з параўнальным злучнікам, але не як самастойнае слова, а як устойлівы выраз. Гэты выраз, пераймаючы аснову семантыкі ўтваральнага слова ці змяняючы яе, набывае катэгарыяльнае значэнне ад’ектыўнасці або адвербіяльнасці. Напрыклад, сёння ў гаворках не выкарыстоўваецца слова *філют(-а)* < польск. *filut* ‘свавольнік, круцель, гарэза, прайдзісвет’, але сустракаецца ў складзе выразу *як філюта,* які з-за незразумеласці назоўнікавага кампанента і адсутнасці жывых параўнальных адносін нельга разглядаць у якасці параўнання, а варта кваліфікаваць як фразеалагізм з прыметнікавым значэннем ‘залішне свавольны, гарэзлівы, лоўкі, шустры хто-н.’: *Аньця як філюта, скура на ёй гаворыць* (Жукойні Жэлядскія Астравецкага раёна).

Прыцягненне слоў, што страчваюць сваю актуальнасць, да параўнальнай канструкцыі тлумачыцца яе «непатрабавальнасцю» да семантычнай пэўнасці аб’екта параўнання. У кампаратыўным спалучэнні «паўназначнае слова, страчваючы ранейшую намінатыўную функцыю, не атрымлівае новай, яно выступае толькі ў паняццевай функцыі і разам са злучнікам служыць сродкам выражэння ўяўлення пра індывідуальную прымету прадмета» [Огольцев 1978, 59]. Архаічныя элементы «ў сілу сваёй незразумеласці з пункту гледжання сучаснага моўніка ці недастатковай зразумеласці, …зацямняюць кампаратыўныя адносіны элементаў параўнання» [Огольцев 1971, 77], і яно з-за гэтага набывае фразеалагічныя якасці.

У гаворках Гродзеншчыны кампаратывізацыі падлягаюць пераважна балтызмы. Гэта тлумачыцца, відаць, тым, што яны генетычна належаць да няблізкароднаснай мовы і пры ўзмацненні славянскага кампанента ў дыялекце архаізуюцца і сэнсава зацямняюцца ў большай ступені, чым словы блізкароднасных моў (польскай, рускай).

Кампаратывізацыя балтызмаў працэс паступовы. Адны з іх, як паказваюць матэрыялы «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» [Слоўнік 1979-1986], яшчэ выкарыстоўваюцца ў якасці лексічных адзінак, але маюць схільнасць да замацавання ва ўстойлівых параўнаннях: *Бываіць з добрага чалавека зробіцца вяпла: станіць, як вяпла, і нічога не паніміаіць* (*вяпла* – літ. *vépla* ‘дурань, разява’); *Ляпеза – незграбная, ні фігуры, сідзіт, як ляпеза, прышоўшы на вечарынку* (*ляпеза* – літ. *lepérza* ‘нязграбны, непаваротлівы чалавек’); *Як завядземса, то адна на другую: «сутра!» – кажам. Ты робіш, як сутра, ходзіш, як сутра* (*сутра* – літ. *sutrà* ‘мурза’).

Другія зафіксаваны толькі ў складзе параўнальных канструкцый, якія паводле фармальна-граматычных і семантычных асаблівасцей адпавядаюць кампаратыўным фразеалагізмам, часткова ці поўнасцю дэматываваным: *як дымба* ‘высокі хто-н.’ – літ. *dimba* ‘высокі хто-н.’; *як кірэбла* ‘няўклюдна, раскірачыўшыся (ісці)’ – літ. *kerépla* ‘раскірака’; *як кушла* ‘неахайны; неахайна’ – літ. *kùšlas* ‘хто-н. аброслы валасамі’; *як кялойша* ‘вельмі неахайны’ – літ. *keleĩšė* ‘калашына’; *як лут* ‘тоўсты, сыты’ – літ. *lùtis* ‘укормлены’; *як пужліс* ‘важна, ганарліва (хадзіць)’ – літ. *pūžlŷs* ‘рыхлы качан капусты’, ‘ганарлівец’; *як трайда* ‘балбатлівы, лапатлівы’ – літ. *traidà* ‘балбатуха, лапатуха’; *як шакаль* ‘вельмі тонкі’ – літ. *šakalŷs* ‘аскепак’; *як шурпа* ‘неахайны’ – літ. *šiùrpa* ‘птушка з ускудлачанымі пёрамі’.

Такім чынам, прыкладна да 5 % фразеалагізмаў у гаворках Гродзеншчыны ўтрымліваюць ў сваёй структуры іншамоўны элемент. Большасць такіх фразеалагізмаў увабрала ў сябе лексічныя запазычанні з польскай, рускай і балтыйскіх моў. Пранікненне запазычанняў у фразеалогію гаворак адбываецца, як правіла, двума шляхамі: пад уздзеяннем лексічнай іншамоўнай сістэмы; у выніку непасрэднага фразеалагічнага запазычвання. Іншамоўны ўплыў на фразеалогію гаворак праходзіў нераўнамерна ў розныя гістарычныя перыяды. Балтызмы, паланізмы і германізмы прыжываліся на працягу мінулых стагоддзяў. Сёння актыўна уліваюцца ў дыялектную фразеалогію русізмы, нават ствараючы некаторую канкурэнцыю беларускім моўным сродкам, што выклікана дамінаваннем рускай мовы ў розных сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця.

### *Літаратура*


ДАНІЛОВІЧ 2000: Даніловіч М.А. Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны. – Гродна.

КУРЦОВА 2001: Курцова В.М. Беларуская мова: сацыяльна-лінгвальныя перадумовы развіцця і функцыянавання ў новым часе // Славянский мир на пороге третьего тысячелетия: материалы международной конференции. – Гомель.

ЛЕПЕШАЎ 1991: З народнай фразеалогіі: дыферэнцыяльны слоўнік. – Мінск.

ЛЕПЕШАЎ 1998: Лепешаў І.Я. Фразеалогія сучаснай беларускай мовы. – Мінск.

МІХНЕВІЧ 1990: Міхневіч А.Я., Гіруцкі А.А. Вазьмі маё слова: нататкі аб узаемаўплыве беларускай і рускай моў ў кантэксе ўзаемадзеяння культур. – Мінск.

ОГОЛЬЦЕВ 1977: Огольцев В.М. О фразеологизации устойчивых сравнений // Вопросы семантики фразеологических единиц (на материале русского языка): тезисы докладов и сообщений. Ч 1. – Новгород.

ОГОЛЦЕВ 1978: Огольцев В.М. Устойчивые сравнения в системе русской фразеологии. – Ленинград.

СЕДОВ 1973: Седов В.В. Археология и проблемы формирования белорусов // Этногенез белорусов: тезисы докладов на научной конференции. – Минск.

СЛОЎНІК 1979-1986: Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. – Мінск.

СТАНКЕВІЧ 1996: Станкевіч А.А. Лексіка іншамоўнага паходжання ў беларускіх народных гаворках. – Гомель.

СЦЯШКОВІЧ 1983: Сцяшковіч Т.Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці. – Мінск.

FEDEROWSKI 1935: Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. T. 4. – Warszawa.


---


Першая публікацыя ў зборніку: *Мовазнаўства. Літаратуразнаўства. Фалькларыстыка : XY Міжнар. з'езд славістаў (Мінск, Беларусь, 20–27 жніўня 2013 г.) : дакл. беларус. дэлегацыі / Нац. акад. навук Беларусі; рэдкал. : А.А. Лукашанец (адк. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Беларус. навука, 2013. – С. 27–37.*

# БАЛТЫЗМЫ Ў СІСТЭМЕ ЛЕКСІЧНА-ФРАЗЕАЛАГІЧНЫХ АДНОСІН(НА МАТЭРЫЯЛЕ БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК)

Прыкладна 80 % фразеалагізмаў беларускай дыялектнай мовы складаецца з агульнанародных слоў, вядомых і літаратурнай мове. Астатнія 20 % – гэта дыялектызмы, аказіянальныя, этымалагічна цьмяныя, іншамоўныя адзінкі. Сярод іншамоўных пераважаюць паланізмы, русізмы, балтызмы.

Фразеалагізмаў з кампанентамі балтыйскага паходжання адносна няшмат (у нашай картатэцы іх каля 100). Бытуюць яны ў розных беларускіх гаворках, але ў асноўным на паўночным захадзе, асабліва на беларуска-літоўскім і беларуска-латышскім памежжы.

Пранікненне балтызмаў у структуру фразеалагізмаў ажыццяўляецца, як правіла, з лексічных крыніц. Спачатку балтызм прыжываецца ў лексічнай сістэме гаворак і пасля гэтага можа ўдзельнічаць ва ўтварэнні фразеалагізма.

У пераважнай большасці фразеалагізмаў балтыйскім па паходжанні з’яўляецца толькі адно слова, астатнія – уласнамоўныя. Некаторыя прыклады фразеалагізмаў, у структуру якіх уваходзіць балтызм-назоўнік: *адны рэбры і пялы* ‘хто-н. вельмі худы’ (СПЗБ), *зайсці ў кепала* ‘раптоўна, выпадкова з’явіцца ў свядомасці’ (Загацце Докш.), *ляпу расчыніць* ‘зазяваўшыся, перастаць рабіць што-н.’ (Малая Люцінка Валож.), *гнэбы раскінуць* ‘рассесціся’ (Каралін Зэльв.), *абабраць скабы* ‘сурова расправіцца з кім-н., збіць, адлупцаваць каго-н.’ (ЗНФ), *закрыць зяўну* ‘замоўкнуць’, *распусціць зяўры* ‘разгаварыцца’, *даць у купру* ‘пабіць, пакараць’ (СПЗБ), *шлунне выцягнуць* ‘замучыць, знясіліць каго-н.’ (Янк. ДС 1), *як трала* ‘празмерна, залішне (балбатаць)’ (СПЗБ), *гілас напаў* ‘хто-н. паводзіць сябе неспакойна, узбуджана’ (Гарны Гродз.), *як ваган* ‘вельмі цяжкі (пра птушку)’ (СПЗБ), *як шурпа* ‘неахайны’ (СГВ, СПЗБ), *як буч* ‘непаваротлівы, няўклюдны’, *як кукамі збіты* ‘крэпкага целаскладу, надта здаровы’, *як мыш у гарудзе* ‘вельмі ціха, бясшумна ці спалохана’, *зладзіць бонду* ‘несумленна назапасіць’, *як кятурка старога дзеда* ‘неакуратны’ (СПЗБ), *нарабіць у калэйшы* ‘спалохацца, здрэйфіць’ (Бабіна Гродз.), *як гергаўка* ‘вельмі (скупы)’ (СПЗБ), *хоць у жлукта пасадзі* ‘вельмі брудны’ (Горл.), *вот табе і камы!* ‘выказванне засмучэння, роспачы з выпадку чыёй-н. смерці’ (СПЗБ), *як у ройсця* ‘брудна, непрыбрана, беспарадак дзе-н.’ (СДФГ), *з руб у руб* ‘вельмі поўна, да самага верху (наліваць што-н.)’ (ЗНФ).

Фразеаўтваральная актыўнасць балтызмаў залежыць ад ступені іх адаптаванасці і пашыранасці у мове. Даўнія балтызмы, з вялікім лінгвагеаграфічным арэалам сустракаюцца у большай колькасці фразеалагізмаў. Прыкладам могуць быць словы *лупа* ‘губа’, *ляпа* ‘рот’, распаўсюджаныя ў многіх беларускіх гаворках: Чаго *лупу ацставіў*? Старое Сяло Зэльв. (Сцяц.); Ну, наш Саша ўжо *наставіў лупы*, нешта не ўнаравілі яму. Жомайдзі Лід.; *Надуў лупы* і, аказваяцца, чагосьці абразіўся. Яцаўляны Сідр. (СПЗБ); Што ты *надуў лупы як кот на крупы* і нічога ні гаворыш? Сцігане Іўеў. (СДФГ); Яг *дам* табе *па лупах*. Баброўнікі Гарад. (СПЗБ); *Разявіла свае лупы*. Кіралі Шчуч. (СПЗБ); *Лупы развешаўшы* ходзіць. Лісна В.-Дзв. (СПЗБ); У цябе яшчэ *малако на лупах не абсохла.* Падольцы Астр.; Зарас *як дам у ляпу*, то быстро супакоіся. Кулёўшчына Маст.; *Закрый сваю ляпу*! Дварчаны Паст. (СПЗБ); От *заткні ляпу* і не брашы абы-чаго. Морач Клецк. (НЛ); Ні *разяўляй ляпу*! Азяраны Брасл. (СПЗБ); Здэцца, й наеласо, й напілосо, і цацок усялякіх яму наклалі – не, сяраўно *ляпу дзярэ*. Старына Маст. (СПЗБ).

Вузкарэгіянальныя балтызмы сустракаюцца ў адзінкавых фразеалагізмах: *як шакаль* ‘вельмі (тонкі)’ (СПЗБ) – *шакаль* ‘аскепак, верацяно’ < літ. *šakal̃ys* ‘тс’; *даць у шніпас (у шніпары)* ‘пабіць каго-н.’ (СПЗБ) – *шніпас (шніпары)*< літ. *šnìpas* ‘рыла’.

У лексічнай сістэме беларускіх гаворак назіраецца паступовая архаізацыя пераважна вузкарэгіянальных балтызмаў, тэндэнцыя да іх выцяснення і страты. У гэтай сувязі варта звярнуць увагу на цікавае даследаванне Е.Й. Грынавецкене, праведзенае ёю тры дзесяцціголдзі назад на матэрыяле гаворак паўднёва-ўсходняй Літвы (Вільнюскі, Тракайскі, Эйшышскі раёны). У многіх населеных пунктах гэтых раёнаў існавала беларуска-літоўска-польска-рускае чатырохмоўе. Жыхары даследаванай тэрыторыі маглі размаўляць у той ці іншай ступені на кожнай з чатырох моў, але ў паўсядзённым ужытку, у бытавых зносінах пераважала беларуская мова. Назіранне за славянска-літоўскімі моўнымі кантактамі паказала, што «літоўская гаворка, асабліва ў вуснах большасці даследаванага насельніцтва паступова знікае. Для ўзаемадзеяння сутыкнутых тут моўных сістэм вялікае значэнне мае роднасць балтыйскіх і славянскіх моў, блізкасць ці тоеснасць асобных словаўтваральных элементаў, падабенства некаторых форм, агульнасць ці супадзенне асобных фанетычных, лексічных ці сінтаксічных з’яў» [2, с. 400]. Аўтарка прыходзіць да вываду, што «літоўская гаворка з’яўляецца больш пасіўнай, сама больш «бярэ», чым «дае», што «літуанізмаў у беларускай гаворцы параўнальна менш, чым беларусізмаў у літоўскай», што літуанізмы у беларускай гаворцы «з’яўляюцца параўнальна старажытнымі запазычаннямі (новых не адзначана)» [2, с. 403]. Заўважаныя працэсы з’яўляюцца адным з наглядных гістарычных фрагментаў прасоўвання славянскага моўнага арэалу ў зоне непасрэднага ўзаемадзеяння з балтыйскім. На тэрыторыі сучаснай паўночна-заходняй Беларусі гэта ўжо даўно пройдзены этап. Тут пануе беларуская гаворка (за выключэннем нешматлікіх астраўных літоўскіх гаворак). Асобныя літоўскія элементы ў ёй – рэштковая з’ява моўнага кантактнага ўзаемадзеяння. Прычым «націск» на іх беларускай (сёння і рускай) моўнай сістэмы працягваецца, што ў значнай ступені тлумачыцца дыялектным характарам абсалютнай большасці лексічных балтызмаў. Частка слоў пераходзіць у пасіўны запас.

Як адбіваецца гэта на лексічна-фразеалагічных сувязях? Архаізацыя лексічнага балтызма можа «цягнуць» за сабой і архаізацыю фразеалагізма, у складзе якога ёсць балтызм. Але ў шэрагу выпадкаў старэнне і выхад з ужытку слова не прыводзіць да страты фразеалагізма. Гэтая з’ява ўласціва пераважна выразам, пабудаваным па прадуктыўных мадэлях, здольных утвараць незамкнёныя варыянтна-сінанімічныя рады. Напрыклад, фразеалагічная мадэль *задраць ногі* са значэннямі ‘ўпасці не ўтрымаўшыся на нагах’, ‘адпачываць лежачы, спаць’, ‘памерці’, ‘здохнуць’ на Гродзеншчыне рэалізуецца ўтварэннямі з рознымі назоўнікавымі кампанентамі (*капыты, габары, дрыбзі, карачы, кокашы, лэбады* і інш.), сярод якіх ёсць літуанізм *гегні* <*gĕgnes* ‘рыбалоўная снасць з драўлянай асновай у выглядзе палазоў’ (СДФГ). Праведзеныя намі ў Гродзенскім раёне назіранні і апытанне паказалі, што слова *гегні* вядома нямногім жыхарам, але фразеалагізм *задраць (адкінуць) гегні* ўжываюць і тыя людзі, для якіх слова *гегні* з’яўляецца незразумелым. Яно, такім чынам, у фразеалагічным радзе не з’яўляецца аджылым, лішнім. Мэтазгоднасць яго вымагаецца экспрэсіўнымі патрэбамі мовы. Як слушна заўважае А.С. Аксамітаў, «літоўскі кампанент, які замяніў ужо «сцёртую» часам беларускую лексему, асвяжае фразеалагічную форму і аздабляе канатацыяй яе змест. Карацей кажучы, чым большай нестандартнасцю характарызуецца фразеалагічная адзінка, чым далей знаходзіцца яна ад тыпізаваных, сацыяльна замацаваных традыцыяй уяўленняў, тым большая імпульсіўнасць яе ўспрыняцця, тым большае ўздзеянне робіць яна на слуха-

ча» [1, с.5]. Гэтым тлумачыцца жывучасць незразумелага слова ў якасці фразеалагічнага кампанента. Сэнсавая зацемненасць слова не перашкаджае ўспрыняццю фразеалагізма, бо значэнне апошняга матывуецца, падказваецца семантычнай празрыстасцю самой фразеалагічнай мадэлі.

Асобныя балтызмы, трывала замацаваўшыся ў фразеалагічным асяроддзі, абслугоўваюць некалькі фразеалагічных мадэлей. Напрыклад, кампанент *кепель* (і яго варыянты) < літ. *kẽpalas* ‘спіна, горб’ зафіксаваны ў цэлай групе фразеалагізмаў на шырокай беларускай лінгвагеаграфічнай прасторы: Разгаварыўся мне тут… Зара як *дам у кепель*, дык замаўчыш. Каменка Шчуч. (СДФГ); *Даць у кепель*. Цітва Пух. (ЖС); Яна нават біла яго. Як зазлуецца, *натаўчэ, натаўчэ ў кепель*, а ён нічого, усміхаяцца толькі. Чамяры Сл. (НЛ); Як *дам у кепял*, та быстро аціхняш, шчаня ты чортаво! Бабіна Гродз. (СДФГ); *Даць* табе *ў кэпаля* за тваю работу, можа, тады паразумнеў бы! Глядавічы Маст.; Ты зь ім ні заядайся, ён мацнейшы за цібе, *дасьць па кепелю* рас – больш ні палезяш. Стокі Свісл. (СДФГ); Трэба, шоб *кепелі добрэ варылі*. М. Малешава Жытк. (ТС); Як *кепал ні варыць*, та, брат, нічого ні будзя, навука сама ні пойдзя. Пракопавічы Гродз. (СНМ); У цібе *кепель ні варыць*, рас ты мох такоя сказаць. Алекшыцы Бераст. (СДФГ); У ёго *нема кепель*, вон не понімае. Дварэц Жытк. (ТС). Выйшаўшы з свабоднага ўжытку, слова *кепель* у складзе фразеалагізма часткова захавала сэнсаўтваральную функцыю. У свядомасці носьбітаў мовы яно асацыятыўна звязваецца з асобнымі часткамі цела чалавека. Не выпадкова ў слоўніках яму на аснове ўнутрыфразеалагічнага кантэксту часам прыпісваюць такія значэнні, як ‘плечы’, ‘загрывак, патыліца, карак’, ‘галава’, ‘мазгі’ (ЭСБМ 5, СДФГ).

Кампаненты некаторых фразеалагізмаў ужо не суадносяцца з пэўнымі з’явамі, сталі этымалагічна цьмянымі, Так, у выразе *абіваць дынды* ‘гультаяваць, бяздзейнічаць’ (СПЗБ) назоўнікавы кампанент, набыўшы знешнія прыкметы неадушаўлёнасці і застыўшы ў форме множнага ліку, страціў жывую сувязь з балтызмамі *дында, дындаць* (параўн. у СПЗБ: *дындаць як дында* ‘хадзіць без справы’), якія паходзяць ад літ. *dinda* ‘гультай’, *dìnduoti* ‘гультаяваць’. Узнікненне і актыўнасць фразеалагізма матывуецца прадуктыўнасцю мадэлі, па якой утвораны цэлы рад сінанімічных фразеалагізмаў таксама з цьмяным кампанентам-назоўнікам: *бібікі біць, біць байды, біць лынды, біць тылылы.* Гэты рад працягваецца яшчэ такімі фразеалагізмамі, кампаненты якіх узніклі на аснове балтызмаў: *бінды біць* (Пераходы Шчуч.) – *бінда* ‘гультаяватая жанчына’ (НЛ, СПЗБ) < літ. *bindė́* ‘гультай’; *брындзікі біць* (ЗНФ) – *брындзікі – брынды – брында* < літ. *brinda* ‘нядбалы, неахайны’. Прывядзём яшчэ прыклады, дзе фразеалагічныя кампаненты адбалтыйскага паходжання падвергліся поўнай дэсемантызацыі: *леды вадзіць* ‘пляткарыць’ (СГВ) – *леды – ляйда* ‘выдумшчык, падманшчык’ (СГВ) – *ляйдзіць, лейдзіць* ‘гаварыць недарэчнае, пляткарыць’ (СПЗБ) < літ. *lèidinti* ‘абгаворваць, пляткарыць’; *рэйды тачыць* ‘пляткарыць, займацца пустымі размовамі’ (СПЗБ), *заткнуць <сваё> рэйдала* ‘перастаць гаварыць абы-што, замоўкнуць’ (ЗНФ) – *рэйды, рэйдала – рэйдаць, рэйдзіць* ‘гаварыць недарэчнае’ (СПЗБ) < літ. *raizgýti* ‘плесці’, *règzti* ‘плесці, гаварыць глупства’, лат. *reidzêt, reĩzinât* ‘мудраваць, мудрагеліць’ (СБСЯ).

Паслабленне актыўнасці вузкарэгіянальных лексічных балтызмаў можа прыводзіць да іх ідыяматызацыі, перараджэння ў фразеалагізмы. Прамежкавым, пераходным звяном у працэсе такога перараджэння выступае параўнальны зварот, у якім балтызм з’яўляецца аб’ектам параўнання: *дарога разбіта, як бурлёнга – бурлёнга* ‘калатуша’ < літ. *burlegà, burliungė* ‘тс’: *ён малы, як каркаль – каркаль* ‘каржакаватае, сукаватае, разгалістае дрэва’ < літ. *karklas* ‘лаза’; *ён разявіць сваё горла, як зяпла – зяпла* ‘разявака’ < літ. *žiopla* ‘тс’ (СПЗБ). Прыцягненне слоў, што страчваюць сваю актуальнасць, да

параўнальнай канструкцыі, тлумачыцца яе «непатрабавальнасцю» да семантычнай пэўнасці аб'екта параўнання. У кампаратыўным спалучэнні «знамянальнае слова, страчваючы ранейшую намінатыўную функцыю, не атрымлівае новай, яно выступае толькі ў паняційнай функцыі і разам са злучнікам служыць сродкам выражэння ўяўлення пра індывідуальную прымету прадмета» [4, с. 59]. Архаічныя элементы «ў сілу сваёй незразумеласці з пункту гледжання сучаснага моўніка ці недастатковай зразумеласці, … зацямняюць кампаратыўныя адносіны элементаў параўнання» [3, с. 77], і яно з-за гэтага набывае фразеалагічныя якасці.

Архаізацыя і кампаратывізацыя балтызмаў працэс паступовы. Адны з іх, як паказваюць матэрыялы СПЗБ, яшчэ выкарыстоўваюцца ў якасці лексічных адзінак, але маюць схільнасць да замацавання ва ўстойлівых параўнаннях: *Біза* та! Ты *голая, як біза* (*біза*< літ. *bizas* 'галяк, бядняк, збяднелы'); Бываіць з добрага чалавека зробіцца *вяпла*: станіць, *як вяпла*, і нічога не панімаіць (*вяпла* < літ. *vépla* 'дурань, разява'); *Ляпеза* – незграбная, ні фігуры, сідзіт, *як ляпеза*, прышоўшы на вечарынку (*ляпеза* < літ. *lepérza* 'нязграбны, непаваротлівы чалавек'); Як завядземса, то адна на другую: «*сутра*!» – кажам. Ты робіш, *як сутра*, ходзіш, *як сутра* (*сутра* < літ. *sutrà* 'мурза'). Другія зафіксаваны толькі ў складзе параўнальных канструкцый, якія паводле фармальна-граматычных і семантычных асаблівасцей адпавядаюць кампаратыўным фразеалагізмам, часткова ці поўнасцю дэматываваным: *як дымба* 'высокі хто-н.' < літ. *dimba* 'тс'; *як кірэбла* 'няўклюдна, раскірачыўшыся (ісці)' < літ. *kerépla* 'раскірака'; *як кушла* 'неахайны; неахайна' < літ. *kùšlas* 'хто абраслы валасамі'; *як лут* 'тоўсты, сыты' < літ. *lùtis* 'укормлены'; *як трайда* 'балбатлівы, лапатлівы' < літ. *traidà* 'балбатуха, лапатуха.

Прааналізаваныя прыклады балтызмаў сведчаць пра цесныя лексічна-фразеалагічныя сувязі. Лексічная сістэма выступае жыватворнай крыніцай фразеалогіі. Здараюцца і выпадкі адваротнага характару, калі на аснове фразеалагізма ўзнікае слова. Так, дзеяслоў *гегнуць* 'памерці', на наш погляд, утварыўся на аснове фразеалагізма з аналагічным значэннем *адкінуць (задраць) гегені.* Звязванне этымалогіі гэтага дзеяслова з гукаперайманнем (ЭСБМ 3) ці з запазычваннем з балтыйскіх моў (СБСЯ) выглядае непераканальным.

### *Літаратура*

1. Аксамітаў, А.С. Роля літоўскага лексічнага кампанента ў беларускай фразеалогіі / А.С. Аксамітаў // Славянская фразеология в ареальном, историческом и этнокультурном аспектах: материалы международной научной конференции 23–24 ноября 2001 / отв. ред. В.І. Коваль; Гомельский гос. ун-т им. Ф. Скорины.– Гомель, 2001. С. 3–6.

2. Гринавецкене, Е.Й. Некоторые явления контактирования литовских и славянских говоров (на материале языковых контактов в юго-восточной Литве) / Е.Й. Гринавецкене // Балто-славянский сборник. – М. : Наука, 1972. – С. 394–408.

3. Огольцев, В.М. О фразеологизации устойчивых сравнений / В.М. Огольцев // Вопросы семантики фразеологических единиц (на материале русского языка). Ч. 1.: тезисы докладов и сообщений. – Новгород, 1971. – С. 66–79.

4. Огольцев, В.М. Устойчивые сравнения в системе русской фразеологии/ В.М. Огольцев. – Л.: Изд-во ЛГУ, 1978. – 159 с.

---

Першая публікацыя ў зборку: *Шлях да ўзаемнасці = Droga ku wzajemnosci : мат. X Міжнар. навук. канф. : Гродна – Мір, 24 кастрычніка 2002 г.; пад рэд. С. Мусіенкі. – Гродна : ГАУПП «Гродз. друк.». – 2004. – С. 75–80.*

## АСНОЎНЫЯ КІРУНКІ СУПАСТАЎЛЯЛЬНА-ТЫПАЛАГІЧНАГА ВЫВУЧЭННЯ ФРАЗЕАЛОГІІ

Супастаўляльная фразеалогія як раздзел лінгвістычнай параўнальнай тыпалогіі знаходзіцца яшчэ на пачатковай стадыі развіцця. Пэўныя напрацоўкі ў гэтым плане належаць расійскім фразеолагам і звязаны ў першую чаргу з імёнамі такіх вучоных, як А.Ф. Арсенцьева, Д.А. Дабравольскі, В.Г. Гак, Н.М. Кірылава, А.Д. Райхштэйн, Ю.П. Саладуб, Э.М. Саладуха, якія даследавалі рускую фразеалогію ў супастаўленні з фразеалогіяй іншых моў.

Што да вывучэння беларускай фразеалогіі ў параўнанні з фразеалогіяй іншых моў, то даследаванняў такога тыпу налічваюцца пакуль што адзінкі, напрыклад: [1], [2], [3], [4]. Тым не менш, актуальнасць такога роду даследаванняў сёння відавочная. Іх неабходнасць дыктуецца і патрэбамі распрацоўкі тэорыі супастаўляльнай фразеалогіі, і практычнымі задачамі, звязанымі з выкладаннем замежных моў, і стварэннем перакладных слоўнікаў, і перакладчыцкай дзейнасцю. Сёння існуе грунтоўная база для такіх даследаванняў: тэорыя агульнай і беларускай фразеалогіі дасягнула значных поспехаў у сваім развіцці.

Пачатковы этап параўнальнай і супастаўляльна-тыпалагічнай фразеалогіі вымагае акрэслення асноўных кірункаў даследавання, бо ад іх характару залежаць выбар аб’екту, спецыфіка методыкі, мэты і задачы даследавання. Можна вылучыць наступныя кірункі супастаўляльна-тыпалагічнага вывучэння фразеалогіі, якія грунтуюцца на агульнай параўнальнай тыпалогіі моў.

***Параўнальна-гістарычная фразеалогія*** (***фразеалагічная кампаратывістыка***). Даследуе фразеалагічныя адзінкі толькі роднасных моў. Асноўная задача яе – устанаўленне генетычных вытокаў, дыяхранічнага развіцця фразеалагізмаў блізкароднасных і няблізкароднасных моў, выяўленне гістарычнай агульнасці ў сферы фразеалогіі, напрыклад, вылучэнне агульнаславянскіх, агульнагерманскіх, агульнабалтыйскіх фразеалагізмаў.

***Арэальная фразеалогія.*** Гэты кірунак лічыцца вельмі перспектыўным. Па прычыне таго, што фразеалагізмам уласціва больш канатацыйная функцыя, чым намінацыйная, яны ў сілу сваёй «незвычайнай жывучасці» (Н.К. Швяцова), «прыліпчывасці» (І.Я. Лепешаў) лягчэй, чым іншыя адзінкі, распаўсюджваюцца, запазычваюцца ці калькуюцца іншымі мовамі. Асабліва прыкметнай міжмоўная міграцыя фразеалагізмаў назіраецца ў зонах непасрэднага кантактавання моў. Напрыклад, беларуская фразеалогія з даўніх часоў развівалася ў цесных адносінах з фразеалогіямі балтыйскіх, польскай, украінскай, рускай моў. «Фразеалогія, як найбольш рухомая, дынамічная падсістэма мовы, мае магчымасць выяўляць найбольш яркія сведчанні ўзаемаўплыву моў, фальклораў, літаратур розных народаў» [5, с. 4]. Арэальная фразеалогія даследуе суаднесенасць фразеалагічных фактаў, накірунак і арэалы іх распаўсюджання. Важным паняццем арэальнай лінгвістыкі выступае *ізаглоса* – лінія на карце, якая акрэслівае крайнія межы пашырэння моўнай з’явы. У фразеалогіі тэрмін *ізаглоса* знаходзіць сваю канкрэтызацыю ў паняцці *ізафразема.* Ізафраземай таксама называюць фразеалагізм,

тэрыторыя бытавання якога акрэсліваецца рознамоўным рэгіёнам. Напрыклад, вылучаюцца ўсходнеславянскія, беларуска-ўкраінскія, беларуска-польскія, беларуска-польска-ўкраінскія, беларуска-літоўскія ізафраземы.

***Фразеалагічная тыпалогія***. Аб’ектам увагі яе выступаюць фразеалагізмы як роднасных, так і няроднасных моў. Задача яе – выяўленне агульнамоўных заканамернасцей развіцця і функцыянавання фразеалогіі і спецыфіка праяўлення іх у фразеалогіях канкрэтных моў. «Уключэнне фразеалогіі ў аб’ект лінгвістычнай тыпалогіі ўзбагаціць як тэорыю фразеалогіі, так і агульнае мовазнаўства, бо без уліку фразеалагічных характарыстык мовы нельга пабудаваць цалкам адэкватную моўную тэорыю» [5, с. 5].

Вельмі важнай у фразеалагічнай тыпалогіі з’яўляецца ***тэорыя фразеалагічных універсалій***. Пры параўнанні фразеалагічных сістэм любых моў перш за ўсё неабходна мець на ўвазе, якія характарыстыкі з’яўляюцца агульнымі для фразеалогіі наогул, і затым на фоне іх вызначыць спецыфічныя рысы фразеалагічных сістэм асобных моў.

Тэорыя фразеалагічных універсалій пакуль што да канца не распрацаваная. У новуковай літаратуры можна знайсці фрагментарныя звесткі пра сутнасць і колькасць характарыстык, уласцівых фразеалогіі любой мовы. Спробу больш-менш сістэмнага разгляду фразеалагічных універсалій сустракаем у працах Э.М. Саладухі [6, с. 105–112], Д.А. Дабравольскага [5, с. 7–21]. Аўтары прапануюць класіфікацыю ўніверсалій, вылучаючы сярод іх тры тыпы: паняццева-фразеалагічныя, лексічна-фразеалагічныя і ўласна фразеалагічныя, але робяць агаворку, што іх класіфікацыі ў шэрагу выпадкаў грунтуюцца на падставе назіранняў і патрабуюць удакладнення. Улічваючы гэтыя класіфікацыі, а таксама тэарэтычныя напрацоўкі айчыннай фразеалогіі, падамо прыкладную інвентарызацыю фразеалагічных універсалій.

1. Фразеалагізм – моўная адзінка, якая складаецца не менш як з двух лексічных кампанентаў. Невыпадкова яго часта ў навуковай літаратуры называюць устойлівым слоўным комплексам (УСК). На гэтую асаблівасць варта звярнуць увагу і таму, што яшчэ і сёння, асабліва ў перакладных слоўніках, да фразеалагізма часам памылкова адносяць асобнае слова, пераважна складанае, якое мае выразную ўнутраную форму, напрыклад, *вершаплёт*, *галавамыйка*, *зубаскаліць*.

2. Фразеалагізмы адлюстроўваюць сігніфікатыўна-дэнататыўныя катэгорыі, абумоўленыя заканамернасцямі выражэння экстралінгвістычных канцэптаў у моўных формах. Дзякуючы гэтаму, ёсць магчымасць ствараць слоўнікі ідэаграфічнага тыпу, у якіх фразеалагізмы размяркоўваюцца па паняццевых сферах, тэматычных і семантычных групах. Пераважная частка фразеалагізмаў пакрывае паняццевыя сферы, звязаныя з чалавекам і яго дзейнасцю. У гэтым плане фразеалагізмы ў большасці сваёй характарызуюцца *антрапацэнтрычнай* накіраванасцю.

3. Фразеалагізмы ствараюцца не столькі для намінацыі прадметаў і з’яў, колькі для іх характарыстыкі і ацэнкі. З дзвюх агульных ацэнак, станоўчай і адмоўнай, у фразеалогіі істотна дамінуе другая. Яна мае разгалінаваную структуру і прысутнічае ў пераважнай большасці фразеалагізмаў.

4. Універсальны характар маюць і многія вобразныя крыніцы фразеалагізмаў. Нават у няроднасных мовах, якія гістарычна не кантактавалі адна з другой, вялікая колькасць фразеалагізмаў заснавана на тых самых вобразах, звязаных, напрыклад, з часткамі цела чалавека, яго дзейнасцю, з жывёльным светам і інш. Гэта выклікана прычынамі агульначалавечага характару: агульнасцю працэсаў мыслення, жыццёва-

га вопыту, аднатыпнасцю форм бачання свету ў самых розных народаў. Напрыклад, фразеалагізм *правая рука* ‘першы памочнік’ вядомы славянскім, германскім, раманскім, цюркскім, аўстраазіяцкім і многім іншым мовам свету, параўн.: бел. *правая рука*, рус. *правая рука*, укр. *права рука*, балг. *дясна ръка*, польск. *prawa ręnka*, чэш. prawá ruka, венг. *ajob kéze*, манг. *баруун гар*, казах. *он кол*, узб. *ўнг кўл*, ням. *(j-s) rechte Hand*, франц. *être le bras droit*, англ. *(tobe) one's right hand*, нарв. *vaere ens høyre hand*, дат. *vaere ens højre hand*, швед. *varangns högra hand*, італ. *braccio des trodiqd*, ісп. *brazo derecho deqd*, малд. *а фи мына дряпта*, рум. *a fi mîna dreápta*, інданез. *tangan kanan*, в'ет. *tayp hai.*

5. Адна з універсалій – семантычная матываванасць фразеалагізмаў. Значэнне фразеалагізма можа матывавацца асобным яго кампанентам ці ўсёй лексічна-сінтаксічнай канструкцыяй, на базе якой сфарміраваўся фразеалагізм. Кампаненты многіх фразеалагізмаў маюць сімвальнае значэнне. Напрыклад, ва ўсіх мовах *галава* сімвалічна звязана з інтэлектам, *язык* – з маўленнем, *нага* – з рухам. Знаходзячыся ў межах фразеалагізмаў, гэтыя лексемы прымаюць непасрэдны ўдзел у фарміраванні сукупнага фразеалагічнага значэння: *галава варыць* у каго – ‘хто-н. разумны, кемлівы’, *востры на язык* – ‘балбатлівы’, *ледзь ногі цягаць* – ‘вельмі павольна ісці’. Часцей за ўсё фразеалагізм матывуецца ўсім слоўным комплексам, на базе якога ўтвораны, шляхам пераасэнсавання зыходных свабодных словазлучэнняў. Універсальныя прыёмы сэнсавай мадыфікацыі заснаваны на розных відах пераносаў. Большасць фразеалагізмаў грунтуецца на метафарычных пераносах, параўн.: бел. *крок за крокам*, рус. *шаг за шагом*, балг. *крачка по крачка*, серб. *корак по корак*, чэш. *krok sa krokem*, англ. *step by step*, ням. *Schritt für Schritt*, швед. *steg för steg*, фр. *pas à pas*, іт. *di passo in passo*, ісп. *paso a paso*, рум. *pas cu pas*.

Значную частку складаюць фразеалагічныя ўтварэнні, заснаваныя на метанімічных, сінекдахічных пераносах, на вобразным параўнанні, універсальнымі аказваюцца і эўфемічныя замены. Як зазначае Э.М.Саладуха, «у цэлым тропы, з'яўляючыся ўніверсальнымі лінгвістычнымі сродкамі фразеалагізацыі, маюць важнае значэнне для фарміравання ФА і выконваюць вялікую ролю ў развіцці фразеалагічнага паралелізму» [6, с. 106].

6. Фразеаўтварэнне грунтуецца на мадэляванні. Тыпалагічна падобныя фразеалагізмы ўзнікаюць не толькі на падставе аднолькавых вобразаў, але і па гатовых, апрабаваных моўнай практыкай фразеаўтваральных мадэлях. Агульнасць фразеаўтваральнай мадэлі ў розных мовах заснавана на супадзенні логіка-семіятычных катэгорый. Пры гэтым «тыпалагічна ідэнтычнымі з'яўляюцца не толькі ФА, якія супадаюць канкрэтна вобразнай і логіка-семіятычнымі формамі рэалізацыі мадэлі.., але і ФА, якія характарызуюцца толькі супадзеннем лоіка-семіятычнай формы рэалізацыі мадэлі і валодаюць нацыянальнай ці арэальнай своеасаблівасцю фразеалагічнага вобраза» [7, с. 112]. Так, мадэль «як два абсалютна аднолькавыя ці вельмі падобныя прадметы» – ‘вельмі, моцна, асалютна (падобныя)’ у розных мовах можа мець вобразныя супадзенні і разыходжанні, але ў любым выпадку яна захоўвае сваю логіка-семіятычную тоеснасць: бел. *як дзве кроплі (каплі) вады*, рус. *как две капли воды*, укр. *як дві краплі (каплі) води*, польск. *jak dwie krople wody*, балг. *като две капли воды*, франц. *comme deux gouttes d'eau*, італ. *come due góccied'acqua*, ісп. *como dos gotas de agua*, рум. *ca dóuă picături de apa*, малд. *ка доуэ пикэтурь де апэ*, нарв. *som to dråper wann*, дац. *som to dråber vand* – «як дзве кроплі вады»; ням. *wie ein Eidemanderen*, чэш. *jako vejce*

*wejci*, венг. *mint egyik tojás a másikra* – «як адно яйка на другое (падобны)»; англ. *as two peas* – «як дзве гарошыны»; швед. *som två bär* – «як дзве ягады».

7. Агульнымі для лексікі і фразеалогіі ўніверсаліямі з'яўляюцца такія ўласна моўныя катэгорыі, як полісемія, сінанімія, аманімія і антанімія. Праўда, у фразеалогіі яны праяўляюцца не ў аднолькавай меры. Найбольш пашыранай выступае сінанімія, у меншай ступені – полісемія і антанімія і нязначна – аманімія.

***Супастаўляльная фразеалогія***. Супастаўляльная фразеалогія аб'ектам даследавання мае фразеалогію дзвюх ці больш роднасных, аддалена роднасных ці нероднасных моў, устанаўлівае міжмоўныя фразеалагічныя эквіваленты і адпаведнасці. У адрозненне ад параўнальна-гістарычнай фразеалогіі, мэта якой – гістарычныя пошукі, узнаўленне ранейшых форм, выяўленне агульнага, напрыклад, агульнаславянскай, агульнагерманскай, балтаславянскай фразеалогіі, супастаўляльная фразеалогія мае сінхранічную накіраванасць на пошукі як агульнага, падобнага, так і індывідуальнага, рознага.

Супастаўляльнае вывучэнне фразеалогіі нярэдка вымагае гістарычна-этымалагічных дадзеных. Таму ў межах супастаўлення вылучаюць акрамя сінхранічна-супастаўляльнага яшчэ і супастаўляльна-гістарычны аспект, што дае магчымасць глыбей пранікнуць у сутнасць вывучаемых з'яў: «зразумець іх форму, змест, заканамернасці існавання, характэрныя для разглядаемых моў» [8, с. 27].

У межах супастаўляльнай фразеалогіі вылучаецца ***канфрантацыйная фразеалогі***я, задача якой – супастаўленне канкрэтных фразеалагізмаў з мэтай іх перакладу, фразеаграфічнай распрацоўкі, выкладання ў навучальных курсах.

У рамках канфрантацыйнай фразеалогіі вылучаюцца наступныя кірункі:

1. ***Кантрастыўная фразеалогія***. Займаецца супастаўленнем фразеалагічных адзінак, якія не з'яўляюцца поўнымі эквівалентамі, адрозніваюцца найперш фармальнымі рысамі або выступаюць безэквівалентнымі. Важная задача кантрастыўнай фразеалогіі – стварэнне перакладных фразеалагічных слоўнікаў, выяўленне фразеалагічных разыходжанняў паміж роднай і замежнай мовамі пры вывучэнні апошняй.

2. ***Тэорыя фразеалагічнага перакладу***. Устанаўлівае функцыянальна-семантычныя тоеснасці паміж фразеалагічнымі адзінкамі дзвюх моваў. Практыка перакладу фразеалагізмаў сутыкаецца з многімі праблемамі. Напрыклад, не заўсёды можна перакласці фразеалагізм структурна-семантычным эквівалентам, нягледзячы на тое, што ён ёсць у другой мове: гэтаму пярэчыць спецыфічны нацыянальна-культурны кампанент значэння. З другога боку, шэраг фразеалагізмаў адносіцца да разраду безэквівалентных і ўзнікаюць цяжкасці замены іх іншымі вобразна-семантычнымі сродкамі.

Параўнальна-супастаўляльна-тыпалагічнае вывучэнне фразеалогіі закранае самыя розныя аспекты, сярод якіх можна вылучыць найбольш тыповыя і важныя: 1) граматычныя ўласцівасці фразеалагізмаў (структурна-сінтаксічныя мадэлі, марфалагічны склад, марфалагічная парадыгматыка, граматычная варыянтнасць, парадак кампанентаў і інш.); 2) лексічны склад фразеалагізмаў (фразеаўтваральная актыўнасць слоў розных часцінаў мовы, тэматычная разгалінаванасць фразеалагічных кампанентаў, лексічная варыянтнасць); 3) фразеалагічная семантыка (структура фразеалагічнага значэння, характар вобразнасці, семантычныя мадэлі, фразеалагічная полісемія, сінанімія, аманімія, антанімія, арганізацыя фразеалагічна-семантычных палёў, груп і інш.); 4)

стылістычная характарыстыка (структура стылістычнага значэння, стылістычныя асаблівасці асобных разрадаў і груп фразеалагізмаў, стылістычнае пераўтварэнне фразеалагізмаў); 5) колькасныя характарыстыкі фразеалагізмаў (частотнасць ужывання фразеалагізмаў у маўленні, колькасная лексічная структура фразеалагізмаў, колькаснае развіццё фразеалагічных варыянтаў і інш.).

Гэтыя і іншыя аспекты разглядаюцца на фразеалагічным матэрыяле, які аб'ядноўваецца ў групы паводле агульных прымет, напрыклад:

1) групы фразеалагізмаў з аднатыпнай структурай: са структурай словазлучэння, сказа, дзеяслоўна-іменныя, кампаратыўныя, таўталагічныя, бінарныя фразеалагізмы і інш.;

2) групы фразеалагізмаў, якія ўключаюць у сябе граматычна ці семантычна аднатыпны кампанент: дзеяслоў маўлення, каляронім, саматызм, заонім, уласнае імя і г.д.;

3) групы фразеалагізмаў з аднатыпным сігніфікатыўна-дэнататыўным значэннем (тэматычныя групы, фразеасемантычныя групы, фразеасемантычныя палі і інш.), напрыклад: фразеалагізмы са значэннем «фізічны стан чалавека», «псіхічны стан чалавека», «якасная характарыстыка асобы», «маўленчая дзейнасць», «перамяшчэнне ў прасторы»;

4) групы фразеалагізмаў, аднолькавыя ці блізкія сваёй лексічна-граматычнай і семантычнай структурай у розных мовах: агульнаславянскія, агульнагерманскія, інтэрнацыянальныя, запазычаныя фразеалагізмы, фразеалагічныя калькі і інш.

У абагульненым выглядзе акрэсліваюцца тры асноўныя мэты супастаўляльнага вывучэння фразеалогіі [9, с. 21] (тут падаюцца ў парадку іерархічнага ўзрастання іх маштабаў і важнасці).

1. Супастаўленне канкрэтных фразеалагізмаў. На сённяшні дзень гэта найбольш распрацаваны від супастаўляльнага аналізу фразеалагізмаў. Ён зводзіцца ў цэлым да выяўлення міжмоўных фразеалагічных адпаведнасцей і знаходзіць сваё ўвасабленне ў практыцы выкладання замежных моў, у складанні перакладных слоўнікаў, у перакладчыцкай дзейнасці.

2. Супастаўленне фразеалагічных груп і разрадаў. Яно скіравана на высвятленне агульнасці і рознасці ў сістэмах цэлых аб'яднанняў фразеалагізмаў. Аб'ектам аналізу з'яўляюцца, напрыклад, фразеасемантычныя палі, групы, рады, вылучаныя на падставе нейкай агульнай семантычнай прыметы; семантычна-граматычныя, структурныя разрады фразеалагізмаў; фразеалагічна-лексічныя палі, вылучаныя на падставе агульнасці лексічных кампанентаў фразеалагізмаў.

3. Супастаўленне фразеалагічных сістэм. Супастаўленне цэлых фразеалагічных сістэм «павінна, відаць, даць адказ, па крайняй меры, на наступныя пытанні: у чым заключаюцца найбольш істотныя і глыбінныя падабенствы і адрозненні паміж фразеалагічнымі сістэмамі дзвюх (ці больш) моў; як яны праяўляюцца ў асноўных аспектах мовы – функцыянальным, семантычным, фармальна-сэнсавым, структурным; якімі ўнутрымоўнымі і экстралінгвістычнымі фактарамі яны абумоўліваюцца» [9, с.12].

Супастаўляльнае даследаванне фразеалогіі можа ажыццяўляцца на аснове рознай колькасці і рознага характару моў: 1) роднасных, напрыклад, славянскіх, усходнеславянскіх, беларускай і рускай, беларускай і польскай, германскіх, англійскай і шведскай; 2) аддалена роднасных (часцей дзвюх), напрыклад, беларускай і нямецкай, беларускай і англійскай, польскай і французскай; 3) няроднасных, напрыклад,

германскіх і цюркскіх, беларускай і эстонскай, нямецкай і грузінскай; 4) змешаных (роднасных і няроднасных), напрыклад, беларускай, нямецкай, татарскай, малдаўскай, французскай.

З метадычнага пункту гледжання існуюць два спосабы апісання міжмоўных фразеалагічных адносін. Першы прадугледжвае паралельнае супастаўленне фразеалогій дзвюх ці больш моў з пазіцыі трэцяй мовы, якой можа выступаць натуральная або метамова. Другі спосаб прымяняецца для апісання фразеалогіі адной мовы з пазіцыі другой (бінарнае супастаўленне). Паралельная інтэрпрэтацыя фактаў тут выключаецца. Гэты спосаб мае часцей прыкладны характар, выкарыстоўваецца пры вывучэнні замежнай мовы. Рабочай мовай, мовай-эталонам, мовай-«вымяральніцай» часцей абіраецца родная мова.

Адзначаныя ў артыкуле кірункі вывучэння фразеалогіі на практыцы часта не маюць выразнага супрацьпастаўлення. У канкрэтных даследаваннях яны могуць перасякацца, ўзаемадапаўняцца. Невыпадкова ў навуковых працах сустракаюцца яшчэ і такія тэрміны і азначэнні, як «параўнальная тыпалогія», «супастаўляльна-тыпалагічны», «параўнальна-супастаўляльны», «канфрантацыйнае супастаўленне» і інш. Нярэдка тэрміны «параўнанне» і «супастаўленне», «параўнальны» і «супастаўляльны» атаясамліваюцца ці зблытваюцца. Прапанаваная класіфікацыя навуковых напрамкаў можа быць дапамогай тым, хто пачынае вывучаць фразеалогіі дзвюх ці больш моў у супастаўленні, акрэсліць арыенціры, як планаваць і будаваць навуковае даследаванне.

*Літаратура*

1. Аляхновіч, Ю.М. Тэмпаральная лексіка ў беларускіх і англійскіх фразеалагізмах (лінгвакультуралагічны аспект): аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01; 10.02.04 / Ю.М. Аляхновіч; Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. – Мінск, 2006. – 20 с.

2.Юрченко, И.А. Общее и национально-специфическое в адъективных устойчивых сравнениях славянских, балтийских, германских языков: автореф. дис. … канд. филол. Наук: 10.02.20 / И.А. Юрченко; Витебский гос. ун-т им. П.М.Машерова. – Гродно, 2009. – 26 с.

3. Лапцёнак, А.М. Лексіка-фразеалагічныя асаблівасці перакладаў твораў Івана Навуменкі на рускую мову ў аспекце праблемы эквівалентнасці: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01; 10.02.02 / А.М. Лапцёнак; Інстытут мовы і літаратуры імя Я.Коласа і Я.Купалы НАН РБ. – Мінск, 2010. – 24 с.

4. Лапушинская, Н.О. Фразеологизмы с компонентами, называющими голову и ее части в русском, белорусском и западногерманских языках: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.20 / Н.О.Лапушинская; Витебский гос. ун-т им. П.М. Машерова. – Гродно, 2011. – 26 с.

5. Добровольский, Д.О. Сопоставительная фразеология (на материале германских языков). Курс лекций / Д.О. Добровольский, В.Т. Малыгин, Л.Б. Коканина; Моск. пед. ун-т им. В.И. Ленина. Владимир. пед. ин-т им. П.И. Лебедева-Полянского. – Владимир, 1990. – 80 с.

6. Солодухо, Э.М. Проблемы интернационализации фразеологии / Э.М.Солодухо. – Казань: Изд-во Казанского ун-та, 1982. – 168 с.

7. Солодуп, Ю.П. К вопросу о совпадении фразеологических оборотов в различных языках / Ю.П. Солодуп // Вопросы языкознания. – 1982. – № 2. – С. 106–114.

8. Солодухо, Э.М. Вопросы сопоставительного изучения заимствованной фразеологии /Э.М. Солодухо. – Казань: Изд-во Казанского ун-та, 1977. – 160 с.

9. Райхштейн, А.Д. Сопоставительный анализ немецкой и русской фразеологии / А.Д. Райхштейн. – М.: Высш. школа, 1980. – 143 с.

---

Першая публікацыя ў часопісе: *Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2011. – № 1 (108). – С. 114–119.*

# ТЫПЫ МІЖМОЎНЫХ ФРАЗЕАЛАГІЧНЫХ АДПАВЕДНАСЦЕЙ

Праблема фразеалагічнай суадноснасці – адна з цэнтральных у супастаўляльнай фразеалогіі. Вырашэнне яе мае важнае значэнне для параўнальна-тыпалагічных даследаванняў пры характарыстыцы аднатыповых фразеалагічных разрадаў і мікрасістэм дзвюх ці больш моў. Супастаўленне канкрэтных фразеалагізмаў, іх груп дае каштоўны матэрыял для тэорыі перакладу і тэорыі фразеаграфіі, прапануе спосабы адэкватнай перадачы фразеалагізмаў з адной мовы на другую, садзейнічае распрацоўцы спосабаў апісання іх у перакладных слоўніках.

Сярод вучоных да гэтага часу няма адзіных падыходаў да вызначэння крытэрыяў і прымет фразеалагічнай эквівалентнасці. Адны эквівалентнасць разумеюць вельмі шырока, улічваючы толькі план зместу фразеалагізмаў. Другія, наадварот, паняцце фразеалагічнай эквівалентнасці гранічна звужаюць, беручы пад увагу поўнае супадзенне значэння і формы фразеалагізмаў.

У навуковай літаратуры назіраюцца значныя разыходжанні ў тэрміналагічным абазначэнні міжмоўных фразеалагічных адпаведнікаў. Выкарыстоўваюцца самыя розныя назвы, напрыклад: «міжмоўныя фразеалагічныя адзінкі», «ідыяматычныя адпаведнасці», «семантычна тоесныя фразеалагізмы», «абсалютна тоесныя фразеалагізмы», «прамыя эквіваленты», «раўназначныя эквіваленты», «тоесныя эквіваленты», «сінанімічныя эквіваленты», «семантычна эквівалентныя адзінкі», «семантыка-кампанентныя адпаведнасці», «паралелі ідэнтычныя», «ідыяграфічныя сінонімы», «гіпера-гіпанімічныя адпаведнікі», «стылістычныя сінонімы», «абсалютныя ізафраземы», «эквівалентныя ізафраземы» і інш. Як слушна заўважае А.Ф.Арсенцьева, «вылучэнне рознымі даследчыкамі розных аспектаў супадзення фразеалагізмаў у супастаўленых мовах прыводзіць да пэўнай расплывістасці азначэнняў фразеалагічных эквівалентаў і аналагаў» [1, с. 93]. Нярэдка адбываецца дубляванне тэрмінаў «эквівалент» і «аналаг», «сінонім», «тоеснасць», нягледзячы на тое, што яны выражаюць неідэнтычныя паняцці. «Такая шырокая трактоўка эквівалента робіць гэтае паняцце расплывістым, апраксіматыўным, пазбаўляе яго навуковай строгасці» [2, с. 21].

Упершыню найбольш выразна і аргументавана віды міжмоўных фразеалагічных адпаведнасцей вылучыла і ахарактарызавала А.Ф. Арсенцьева [1, с. 93–123]. Улічваючы напрацоўкі гэтага і іншых аўтараў, а таксама ўласныя назіранні, паспрабуем дыферэнцаваць тыпы міжмоўнай фразеалагічнай суадноснасці.

Пры вызначэнні фразеалагічных адпаведнасцей неабходна мець на ўвазе тры паказчыкі: семантычны, структурна-граматычны і кампанентны.

***Семантычны паказчык*** звязаны з выяўленнем падабенства і разыходжання значэнняў фразеалагізмаў у асобных мовах, што прадугледжвае параўнанне сігніфікатыўна-дэнататыўнага значэння, семнага складу, катэгарыяльнага, вобразнага значэнняў, ацэначнай, эмацыянальна-экспрэсіўнай і функцыянальна-стылявой афарбоўкі фразеалагізма. Каб ажыццявіць такое параўнанне, неабходна ведаць структуру фразеалагічнага значэння.

Значэнне фразеалагізмаў перадаецца дэфініцыямі, якія маюць розную структуру. Адны фразеалагізмы семантычна і стылістычна адпавядаюць асобнаму слову і тлумачацца гэтым словам: *учарашні дзень* – мінулае. У другую, найбольш шматлікую, гру-

пу уваходзяць фразеалагізмы, семантычны аб'ём якіх шырэйшы за семантычны аб'ём слова. Значэнне іх можна растлумачыць некалькімі сінанімічнымі словамі, простым ці разгорнутым словазлучэннем або сказам: *збіцца з тропу* – 'збянтэжыцца, зблытацца', *цёмны лес* – 'поўная няяснасць, невядомасць', *рукі кароткія* ў каго – 'няма дастатковай магчымасці, сілы, права зрабіць, ажыццявіць што-н.'

Кожны фразеалагізм характарызуецца пэўным наборам мінімальных сэнсавых адзінак, якія называюцца семамі. Семы выконваюць сэнсавызначальную і сэнсаўтваральную функцыі. Семы бываюць інтэгральныя і дыферэнцыйныя. Інтэгральныя семы з'яўляюцца агульнымі, на падставе іх шэраг фразеалагізмаў аб'ядноўваецца ў фразеа-семантычныя групы і падгрупы. Дыферэнцыйныя семы маюць прыватны характар і могуць быць выяўлены супастаўленнем фразеалагізмаў, якія ўваходзяць толькі ў адну фразеа-семантычную падгрупу.

Інтэгральныя і дыферэнцыйныя семы ўтвараюць дэнататыўны (ці сігніфікатыўна-дэнататыўны) кампанент фразеалагічнага значэння. «Пад дэнататыўным кампанентам значэння разумеецца частка значэння знака, якая адлюстроўвае ў абагульненай форме прадметы і з'явы пазамоўнай рэчаіснасці. Дэнататыўны кампанент мае ў сваёй аснове паняцце, якое характарызуе пазамоўны аб'ект» [1, с. 38].

Неаддзельным ад індывідуальнага, рэчыўнага, значэння фразеалагізма выступае яго агульнае, катэгарыяльнае, значэнне (прадметнасці, прыметы прадмета, дзеяння, прыметы дзеяння і г.д.), на падставе якога фразеалагізм адносіцца да пэўнага семантыка-граматычнага разраду (назоўнікавы, прыметнікавы, дзеяслоўны, прыслоўны і г.д.).

Кампанентам значэння з'яўляецца матываванасць многіх фразеалагізмаў. Пад матываванасцю разумеецца «наяўнасць у фразеалагізма жывой унутранай формы, г.зн. вобраза, які абавязкова ўзнікае ў свядомасці носьбіта мовы, пры вымаўленні ці ўспрыманні пэўнай фразеалагічнай адзінкі» [3].

Акрамя сігніфікатыўна-дэнататыўнага кампанента, значэнне фразеалагізма ўключае ў сябе і канататыўны кампанент. Канатацыя фразеалагізма праяўляецца ў тым, што ён, акрамя намінатыўнай і камунікатыўнай, выконвае яшчэ экспрэсіўна-ацэначную функцыю. Канататыўны кампанент прысутнічае ў значэнні абсалютнай большасці фразеалагізмаў. Як слушна заўважае І.Я. Лепешаў, «сярод фразеалагізмаў «стылістычныя нулі» – параўнальна рэдкая з'ява» [4, с. 14]. Гэта звязана з самой сутнасцю фразеалагізмаў, якія ствараюцца не столькі для абазначэння з'яў рэчаіснасці, колькі для іх характарыстыкі.

Канатататыўнае значэнне фразеалагізма ўключае ў сябе наступныя элементы: ацэначны, экспрэсіўны, эмацыянальны, функцыянальна-стылявы.

Пад ацэначнасцю трэба разумець адабральную ці неадабральную ацэнку, якая заключана ў значэнні фразеалагізма. Ацэначнасць бывае адмоўная, станоўчая і нейтральная. Часцей фразеалагізмы сваёй семантыкай скіраваны на адмоўныя з'явы рэчаіснасці, што тлумачыцца нязгодай соцыума з негатыўнымі праявамі, паводзінамі чалавека і імкненнем выразіць гэта вербальна лексічнымі і фразеалагічнымі сродкамі. Ацэначнасць знаходзіць сваё адлюстраванне ў тлумачальнай формуле фразеалагізма і «незалежна ад спецыфікі яго структурна-граматычнай арганізацыі звычайна перадаецца прыметнікам» [4, с. 15]: *малако на губах не абсохла* ў каго – 'хто-н. малады і нявопытны'.

З ацэначнасцю цесна звязана эмацыянальнасць, пад якой разумеецца выражэнне фразеалагізмам розных пачуццяў і эмоцый. Эмацыянальны кампанент значэння ў слоўніках звычайна абазначаецца з дапамогай разнастайных стылістычных памет, якія ўказваюць, да прыкладу, на такія эмоцыі, як жартаўлівасць, іранічнасць, пагардлівасць, адабрэнне, неадабрэнне і інш.

Важным элементам канатацыі з'яўляецца экспрэсіўнасць. Пад экспрэсіўнасцю большасцю даследчыкаў лічыцца інтэнсіўнасць праяўлення пэўнай прыметы, дзеяння, якасці [5, с. 41]. Экспрэсіўны кампанент у слоўнікавых дэфініцыях фіксуецца з дапамогай інтэнсіваў: прыслоўяў (асабліва меры і ступені), прыметнікаў, назоўнікаў, дзеясловаў, якія маюць у сваім значэнні сему ўзмацняльнасці: *аднаго поля ягады* – 'вельмі падобныя адзін на аднаго ў якіх-н. адносінах', *першай гільдыі* – 'найвышэйшай якасці, адметны', *хадзіць на галаве* – 'вельмі сваволіць, дурэць; рабіць, што захочацца'.

Чацвёртым кампанентам канатацыі выступае функцыянальна-стылявая афарбоўка фразеалагізма, якая абмяжоўвае ўжыванне яго ў пэўным маўленчым стылі (стылях). Паводле функцыянальна-стылявой афарбоўкі фразеалагізмы падзяляюцца на: а) замацаваныя за пэўным стылем (кніжныя, размоўныя – уласна размоўныя і прастамоўныя); б) функцыянальна не замацаваныя за асобным стылем.

Кніжныя фразеалагізмы ўжываюцца пераважна ў пісьмовым маўленні (у публіцыстычным, навуковым стылях, у мастацкіх творах) і маюць ярка выражаную афарбоўку кніжнасці: *краевугольны камень, кануць у лету, пункт погляду, падвесці рысу, пуцяводная зорка.*

Размоўныя фразеалагізмы выкарыстоўваюцца ў вусным бытавым, у літаратурна-гутарковым маўленні і творах мастацкай літаратуры. «З пункту гледжання стылістычнай вышыні іх адносяць да стылістычна зніжаных моўных сродкаў. Іх ужыванне паказвае на неафіцыйнасць адносін паміж гаворачымі асобамі, надае маўленню натуральнасць, прастату і непасрэднасць» [4, с. 42]: *гнуць спіну, пальца ў рот не кладзі, ухапіцца за саломінку, гладзіць па галоўцы, павесіць нос, трымаць хвост трубой, аддаць канцы.*

Функцыянальна не замацаваныя фразеалагізмы не абмежаваны сваім ужываннем толькі пэўнай сферай зносін. Яны могуць выкарыстоўвацца ў некалькіх стылях, напрыклад, у гутарковым і публіцыстычным ці гутарковым і некалькіх кніжных стылях: *адным словам, іграць першую скрыпку, у глыбіні душы, вісець на валаску, правая рука, на кожным кроку, на самой справе.* Яны набліжаюцца да міжстылёвых адзінак, але такімі ў поўным сэнсе не з'яўляюцца, бо «наўрад ці можна гаварыць, што яны здольны рэалізавацца ў любых умовах маўленчых зносін, ва ўсіх стылях, у тым ліку ў дзелавым або навукова-тэхнічным» [4, с.52 ].

***Структурна-граматычны*** паказчык заснаваны на супастаўленні структурных мадэлей фразеалагізмаў. Сваёй знешняй формай фразеалагізмы адпавядаюць пераменным сінтаксічным канструкцыям. Як адзначае Ф. Янкоўскі, «фразеалагізмы ўзніклі (узнікаюць) са словазлучэнняў, сказаў, спалучэнняў слоў.. і не ўтвараюць якіх-небудзь асобных, невядомых у беларускай мове, мадэлей: яны захоўваюць мадэлі словазлучэнняў, сказаў, спалучэнняў слоў як сінтаксічных адзінак беларускай мовы» [6, с. 167].

Пры выяўленні міжмоўных фразеалагічных адпаведнасцей на структурна-граматычным узроўні якраз звяртаецца ўвага на граматычныя прыметы сінтаксічных адзінак, якія пеаасэнсаваліся ў фразеалагізмы. Такімі прыметамі выступаюць:

1. Сінтагматычная будова фразеалагізма, якая рэалізуецца ў форме словазлучэння, сказа або спалучэння слоў.

2. Марфалагічная прырода граматычна галоўнага кампанента. У гэтай сувязі фразеалагічныя канструкцыі падзяляюцца на субстантыўныя, дзеяслоўныя, ад’ектыўныя і інш.

3. Сінтаксічныя сувязі паміж кампанентамі фразеалагізмаў (падпарадкавальная, злучальная), спосабы выражэння сінтаксічных адносін.

4. Характар падпарадкавальных сувязей (атрыбутыўныя, аб’ектныя і інш.).

5. Становішча залежнага кампанента ў адносінах да галоўнага (прэпазіцыйнае, постпазіцыйнае).

Структурна-граматычны бок фразеалагізмаў характарызуецца таксама марфалагічнымі ўласцівасцямі іх кампанентаў (родавыя, лікавыя, склонавыя, прыназоўнікава-склонавыя і іншыя формы).

***Кампанентны*** паказчык грунтуецца на выяўленні лексічнага складу фразеалагізмаў. Ступень фразеалагічнай эквівалентнасці залежыць ад ступені падабенства лексічных адзінак, якія сталі кампанентамі фразеалагізмаў. Такія лексічныя адзінкі могуць быць ідэнтычнымі (у фразеалагізмах блізкароднасных моў), семантычна тоеснымі пры разыходжанні знешняй формы, могуць мець семантычныя адрозненні, уступаць у варыянтныя адносіны.

З улікам трох паказчыкаў вылучаюцца пяць тыпаў міжмоўных фразеалагічных адносін:

1) фразеалагічныя эквіваленты;

2) фразеалагічныя аналагі;

3) безэквівалентныя фразеалагізмы;

4) фразеалагічныя амонімы;

5) фразеалагічныя паронімы.

Фразеалагічныя эквіваленты. Міжмоўнымі фразеалагічнымі эквівалентамі з’яўляюцца фразеалагізмы з тоеснай семантыкай, структурна-граматычнай арганізацыяй і тоесным кампанентным складам. Яны падзяляюцца на поўныя, абмежаваныя і частковыя.

1. Поўная эквівалентнасць прадугледжвае поўную суаднесенасць фразеалагізмаў у плане зместу і ў плане выражэння, г.зн. фразеалагізмы павінны супадаць катэгарыяльным, сігніфінатыўна-дэнататыўным значэннямі, ацэначнай, эмацыянальна-экспрэсіўнай і функцыянальна-стылявой канатацыяй, структурна-граматычнай арганізацыяй, кампанентным складам, вобразнасцю. Напрыклад, бел. *іграць першую скрыпку* і рус. *играть первую скрипку* маюць аднолькавае значэнне ‘быць галоўным у якой-н. справе’, супадаюць ацэначнай і эмацыянальна-экспрэсіўнай канатацыяй (часцей выражаюць станоўчую ацэнку адабрэння чаго-н.), адносяцца да функцыянальна не замацаваных, належаць да разраду дзеяслоўных са структурай «дзеяслоў + прыметнік + назоўнік», напоўнены аднолькавым лексічным матэрыялам.

У залежнасці ад наяўнасці міжмоўных фразеалагічных эквівалентаў у розных мовах іх можна падзяліць на монаэквівалентныя і поліэквівалентныя. Монаэквівалентная фразеалогія знаходзіць адпаведнасць толькі ў дзвюх мовах, напрыклад, бел. *ад варот паварот* і рус. *от ворот поворот.* Поліэквівалентныя фразеалагізмы супадаюць сваімі паказчыкамі не менш як у трох мовах, параўн. фразеалагізмы са значэннем ‘вельмі

вопытны, спрактыкаваны чалавек’: бел. *стары воўк*, рус. *старый волк*, укр. *старий вовк*, балг. *стар вълк*, рум. *lup batrin*, франц. *vieux loup*, ісп. *lobo viejo*, італ. *lupo vèccio*, турэц. *eski kurt*. Поўныя эквіваленты часцей сустракаюцца ў блізкароднасных мовах, у меншай ступені яны ўласцівы неблізкароднасным і няроднасным мовам.

2. Абмежаваныя фразеалагічныя эквіваленты – фразеалагізмы, якія адпавядаюць усім паказчыкам поўнай эквівалентнасці, але маюць нязначныя разыходжанні ў семантычнай структуры або супадаюць толькі адным значэннем у выпадку полісеміі. Напрыклад рус. *избиение младенцев* і англ. *the massacre of the innocents* маюць агульнае значэнне ‘жорсткая расправа над безабароннымі’. Аднак у англійскага фразеалагізма развілося яшчэ адно значэнне ‘неразгляданне законапраектаў па прычыне недахопу часу (у канцы парламенцкай сесіі)’.

Фразеалагізм *пальчыкі абліжаш* у беларускай, украінскай, рускай мовах выступае з двума значэннямі ‘вельмі смачны’ і ‘вельмі прыгожы (пра чалавека)’. Яго эквіваленты ў чэшскай, польскай, румынскай, іспанскай, англійскай, венгерскай, турэцкай мовах монасемантычныя, ужываюцца толькі з адзначаным першым значэннем.

3. Частковыя фразеалагічныя эквіваленты супадаюць дэнататыўным і канататыўным значэннем, але маюць нязначныя разыходжанні ў плане выражэння:

1) Фразеалагізмы, якія адрозніваюцца адным лексічным кампанентам. Напрыклад, бел. *прыгожы пол* і рус. *прекрасный пол* у абедзвюх мовах маюць аднолькавае значэнне ‘жанчыны’, цалкам супадаюць канатацыяй і разыходзяцца толькі кампанентамі, якія маюць блізкую семантыку: *прыгожы – прекрасный* (літар. бел. *цудоўны*). Прыклады на адпаведнікі з беларускай і англійскай моў: *воўк у авечай шкуры – wolf in sheep’s clothing, стаяць на сваіх нагах – stand on one’s bottom, падліваць масла ў агонь – add oil to the fire.*

2) Фразеалагізмы, адрозненні паміж якімі характарызуюцца наяўнасцю лексічнай варыянтнасці: бел. *працягнуць (выцягнуць, выпруціць, выпрастаць) ногі* – рус. *протянуть ноги,* бел. *востры на язык* – укр. *гострий (бадьорий) на язык (на слово, на мову, на речі),* бел. *званіць зубамі* – польск. *dzwonić (szczękać) zębami.*

3) Фразеалагізмы, якія маюць некаторыя адрозненні ў марфалагічным афармленні кампанентаў, напрыклад, іншыя родавыя, лікавыя, склонавыя, прыназоўнікава-склонавыя формы: бел. *на адзін капыл* – рус. *на одну колодку,* бел. *палка з двума канцамі* – рус. *палка о двух концах*, бел. *як на вуголлі* – укр. *як на жаринах.*

Поўныя, абмежаваныя і частковыя фразеалагічныя эквіваленты захоўваюць адзінства ўнутранай формы, г.зн. яны грунтуюцца на аднолькавых ці вельмі падобных вобразных асновах.

Фразеалагічныя аналагі. У фразеалагічных аналагаў унутраная форма можа быць рознай і часткова падобнай. Маючы аднолькавае ці блізкае сігніфікатыўна-дэнататыўнае значэнне, аднолькавую (станоўчую ці адмоўную) ацэначнасць, яны могуць адрознівацца ці не адрознівацца іншымі кампапнентамі значэння (эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай, фукнкцыянальна-стылявой прыналежнасцю). Асноўная спецыфіка фразеалагічных аналагаў у тым, што з боку выражэння яны разыходзяцца цалкам або маюць толькі нязначнае падабенства. Сярод іх вылучаюцца тры групы.

1. Аналагі з прыблізным падабенствам структурна-граматычнай арганізацыі (належаць да аднаго граматычнага класа незалежна ад структуры) і адной аднолькавай лексемай у кампанентным складзе. Напрыклад, бел. *для (дзеля) вока* ‘з мэтай стварыць

пэўнае ўражанне' і рус. *для отвода глаз* 'з мэтай адцягнуць увагу, стварыць знешняе ўражанне, падмануць' часткова збліжаюцца вобразнай асновай, дэнататыўным значэннем, адмоўнай ацэначнасцю. Рускі фразеалагізм мае выразную эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку неадабрэння і належыць да размоўнага стылю. Беларускі фразеалагізм набліжаецца больш да эмацыянальна нейтральных і функцыянальна не замацаваных. Абодва фразеалагізмы адносяцца да прыслоўных (хоць першы мае структуру спалучэння слоў, а другі – структуру назоўнікавага словазлучэння), у кампанентным складзе выяўляецца адна агульная лексема (*вока – глаз*). Яшчэ некаторыя прыклады беларуска-рускіх адпаведнікаў: *нож востры* каму, для каго 'што-н. непрыемнае, нясцерпнае, пакутлівае' – *нож в сердце* каму 'тое, што выклікае душэўны боль, пакуты', *трапіць у нерат* 'аказацца ў непрыемным, няёмкім ці безвыходным становішчы' – *попасться впросак* 'аказацца ў непрыемным, няёмкім або нявыгадным становішчы з-за сваёй памылкі ці недасведчанасці', *пускаць з торбай* 'даводзіць да беднасці, да жабрацтва, разараць' – *пускать по миру* 'разараць, даводзіць да жабрацтва'.

2. Аналагі з падобнай структурна-граматычнай арганізацыяй, але розным кампанентным складам. Прывядзём прыклады беларуска-рускіх і беларуска-англійскіх адпаведнікаў: *ад зямлі не адрос – от горшка два вершка, дзіва што – ещё бы, і голаму за пазуху – с гулькин нос, ні да вока ні да бока – ни к селу ни к городу, ні хаты ні лапаты – ни кола ни двора, у дрызіну – как сапожник, як мага – во весь дух, як п'яны да плоту – как банный лист; гнуць сваю лінію – stick (stand) to one's guns, падкладваць свінню – do the dinty on smb, абвесці вакол пальца – catch with chaff.*

3. Аналагі з рознай структурна-граматычнай арганізацыяй і розным кампанентным складам. Так, *сем пятніц на тыдні* ў каго 'хто-н. часта і лёгка мяняе свае намеры, рашэнні, настрой і пад.' і англ. *act as a chameleon* 'часта змяняць свае погляды, быць непаслядоўным' разыходзяцца кампанентным складам і прыналежнасцю да фразеалагічных часцін мовы. Першы мае структуру сказа і адносіцца да разраду фразеалагізмаў, несуадносных з часцінамі мовы, другі – дзеяслоўны фразеалагізм.

Безэквівалентныя фразеалагізмы. Безэквівалентнасць фразеалагізмаў праяўляецца ў першую чаргу на семантычным узроўні і заключаецца ў тым, што фразеалагізмы адной мовы не знаходзяць фразеалагічнага эквівалента ці аналага ў другой мове. Такога роду фразеалагізмы характарызуюцца нацыянальнай спецыфікай, у іх «адлюстроўваюцца асаблівасці псіхалогіі, спосабу мыслення, спецыфічныя ўмовы развіцця матэрыяльнага і духоўнага жыцця носьбітаў мовы» [1, с. 116].

Напрыклад, толькі ў беларускай і ўкраінскай мовах зафіксаваны фразеалагізм *вадзіць казу* 'хадзіць гуртам у стане ап'янення'. Паходжанне фразеалагізма мае сувязь з народным звычаем калядавання, калі гурт хлопцаў, адзін з якіх быў апрануты пад казу, хадзіў па хатах. Хлопцы віншавалі гаспадароў, спявалі калядныя песні, за што іх частавалі гарэлкай, давалі падарункі [7, с. 66].

З сацыяльна-палітычнымі працэсамі, якія адбываліся ў гісторыі Беларусі, звязаны наступныя фразеалагізмы: *за польскім* 'у перыяд з 1921 па 1939 гады, калі Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад Польшчы', *архіпелаг ГУЛАГ* 'канцэнтрацыйныя лагеры ў перыяд сталінскага таталітарызму', *ружовы туман* 'стан ілюзорнага, таталітарна-савецкага ўспрымання рэчаіснасці'.

У англійскай мове выяўлены, напрыклад, фразеалагізмы, звязаныя з публічнымі выступленнямі (у палаце лордаў і абшчын і інш.): *be in a public eye* ‘прыцягваць да сябе ўвагу, быць у цэнтры падзей’, *catch the speaker's eye* ‘атрымаць слова (у палаце абшчын)’ [8, с. 55–56].

У большасці выпадкаў сама семантыка безэквівалентных фразеалагізмаў не з'яўляецца нацыянальна ізаляванай. Яны называюць агульнавядомыя прадметы і з'явы (часта праз уяўленні аб мясцовых фактах і падзеях). Параўн. уласнабеларускія: *злавіць лісу* ‘неасцярожна прапаліць вопратку’, *на ваду брахаць* ‘бясконца многа піць, не могучы прагнаць смагу’, *сена на асфальце* ‘гараджанін у першым пакаленні, ахоплены настальгіяй па роднай вёсцы’ *газеты чытаць* ‘галадаць (звычайна пра каня)’, *чортава вока* ‘багністая бяздонная прорва’.

У лексікаграфіі і фразеаграфіі выпрацаваны пэўныя спосабы перакладу безэквівалентных фразеалагізмаў. Пералічым асноўныя спосабы на прыкладзе беларуска-польскіх моўных суадносін (прыклады ўзяты пераважна са слоўніка А. Аксамітава і М. Чурак [9]):

1. Дэскрыптыўны пераклад, калі замест фразеалагізма выкарыстоўваецца яго тлумачэнне, дэфініцыя: *наесціся жалезнага бобу* – przejść ciężkie koleje losu; *быллём зарасло* – coś poszło w zapomnienie; pamięć o czymś zaginęła.

2. Пераклад асобнай лексемай, наборам лексем ці словазлучэннем: *шырокае горла* – chziwy; *плячысты на жывот* – brzuchaty; *адарві ды падай* – sprytny, obrotny; *як мыла з'еўшы* – z kwaśną minę; *чарнільная душа* – bez duszny biorokrata.

3. Калькаванне фразеалагізма: *як карова языком злізала* – tak jak by krowa zlizała językiem; *сядзець на мелі* – siedzieć na mieliźnie.

4. Змешаны пераклад, калі сэнс фразеалагізма перадаецца адначасова з дапамогай слова і словазлучэння ці разгорнутага апісання: *ад'яда душы* – męczyducza; dokuczliwy człowiek; *хоць запалі не трэсне* – pusto; nie ma nic.

Кожны з адзначаных спосабаў выбіраецца ў канкрэтных выпадках перакладу і мае свае станоўчыя бакі і выдаткі. У цэлым можна сказаць, што пераклад фразеалагізма іншымі (нефразеалагічнымі) сродкамі парушае прынцып атаясамлівання моўных адзінак аднаўзроўневымі адпаведнікамі, але гэта вымушаная мера, без якой нельга абысціся ў выпадку адсутнасці іншамоўнага фразеалагічнага эквівалента ці аналага.

Міжмоўныя фразеалагічныя амонімы. Поўнае супадзенне плана выражэння, г.зн. лексічнага напаўнення фразеалагізмаў, не заўсёды сведчыць пра іх эквівалентныя адносіны. Нярэдка такія фразеалагізмы цалкам разыходзяцца сваімі значэннямі. Лагічныя, вобразна-асацыятыўныя працэсы мыслення пры пераасэнсаванні свабодных словазлучэнняў у сваіх канкрэтных праявах могуць мець неаднолькавую вектарнасць, што прыводзіць да фарміравання несуадносных значэнняў: бел. *лезці са скуры* ‘празмерна шчыраваць, вельмі старацца, рабіць амаль немагчымае’ – ням. *aus der Haut fahren* (літар. *лезці са скуры*) ‘даходзіць да стану нервовай узбуджанасці, раздражнення, траціць самавалоданне’.

Разнамоўныя фразеалагізмы з поўным паралелізмам знешняй структуры і адсутнасцю падабенства ў плане зместу атрымалі назву «міжмоўныя фразеалагічныя амонімы». Як зазначае Ю.П. Саладуб, тэрмін гэты «носіць умоўны характар, паколькі катэгарыяльная прымета амонімаў – поўнае супадзенне гукавой формы слоў пры наяўнасці зусім розных, несупастаўляльных значэнняў праяўляецца на матэрыяле

разнамоўных ФА толькі апасродкавана, у выніку літаральнага (пакампанентнага) перакладу гэтых ФА на адну з супастаўленых моў» [10, с. 103].

Прывядзём некаторыя прыклады міжмоўных фразеалагічных амонімаў:

бел. дыял. *адным духам* ‘вельмі дружна, у поўнай згодзе (жыць)’ – рус. *одним духом* ‘адразу, у адзін прыём’, ‘вельмі хутка, імгненна’;

бел. дыял. *як рублём падарыў* ‘нядобразычліва, злосна (паглядзеў на каго-н.)’ – рус. *как рублём подарил* ‘вельмі ласкава, прыхільна, добразычліва (паглядзеў на каго-н.)’;

бел. *хоць кол на галаве чашы* ‘настолькі ўпарты, няўступчывы хто-н., што немагчыма пераканаць яго, растлумачыць яму што-н.’ – польск. *choć kоł na głowie czecz* ‘выключна цярплівы, бязмежна пакорлівы’;

бел. *перабягаць дарогу* каму ‘перашкаджаць каму-н., апярэджваючы ў чым-н. і перахопліваючы тое, на што разлічваў іншы’ – ням. *j-m über den Weg laufen* ‘выпадкова сустрэцца з кім-н.’;

бел. *вецер у галаве* ‘хто-н. вельмі легкадумны, несур’ёзны’ – англ. *wind in the head* ‘пустая фантазія, зазнайства, самазадаволенне’;

бел. *трымаць нос па ветры* ‘бесперапынна мяняючы свае паводзіны, прыстасоўвацца да абставін, падладжвацца да каго-н, чаго-н.’ – франц. *aller nez auvent* ‘важнічаць, зазнавацца’.

Міжмоўныя аманімічныя паралелі не маюць сістэмнага характару, яны ўяўляюць сабой выпадковыя знешнія супадзенні, заснаваныя на рознай унутранай форме. Тым не менш, у перакладчыцкай справе яны вымагаюць асаблівай увагі. Невыпадкова іх называюць «ілжывымі сябрамі перакладчыка»; «у практыцы выкладання.. фразеалогіі замежнікам падобнага роду факты павінны вывучацца асабліва ўважліва: пад уплывам роднай мовы.. тут можа ўзнікаць непажаданая інтэрферэнцыя». [10, с. 106].

Міжмоўныя фразеалагічныя паронімы. Блізкімі да фразеалагічных амонімаў выступаюць фразеалагічныя паронімы. З’ява фразеалагічнай паранімii выяўляецца на ўнутрымоўным і міжмоўным узроўнях. Сутнасць яе зручней паказаць на прыкладзе адной мовы (тут – беларускай).

Фразеалагічныя паронімы – гэта семантычна нятоесныя фразеалагізмы, якія, маючы падобную структурна-кампанентную арганізацыю, характарызуюцца фармальнымі, лексічнымі ці колькаснымі адрозненнямі [11, с. 4].

Фармальныя адрозненні праяўляюцца ў несупадзенні марфалагічных форм кампанентаў: *тыцкаць нос* куды, у што ‘ўмешвацца ў што-н.’ – *тыцкаць носам* каго ў што ‘ўказваць з мэтай павучання, звычайна ў рэзкай форме’; *збіцца з нагі* ‘дайсці да замяшання, разгубленасці, зблытвацца’ – *збіцца з ног* ‘моцна стамляцца, змучвацца, вымотвацца’; *ламаць галаву* ‘напружана думаць, задумвацца, стараючыся зразумець, разгадаць што-н.’ – *зламаць галаву* ‘скалечыцца, загінуць’.

Лексічныя адрозненні дэманструюць несупадзенне звычайна аднаго (як правіла, службовага) структурнага кампанента фразеалагізмаў: *сядзець на галаве* ў каго, чыёй ‘трымаць каго-н. у сваім падпарадкаванні’ – *сядзець у галаве* ў каго, чыёй ‘неадчэпна прысутнічаць у свядомасці’; *ні за грош* ‘зусім дарэмна, без падстаў (прапасці, загінуць)’ – *ні на грош* ‘ніколькі, зусім (не мець, не верыць)’.

Колькасныя адрозненні – фразеалагізмы разыходзяцца колькасцю кампанентаў, а значыць, і сваёй структурнай арганізацыяй: *кідаць словы на вецер* ‘безадказна, неабдумана, упустую гаварыць’ – *кідаць на вецер* ‘дарэмна траціць, неашчадна

расходаваць’; *трымаць руку на пульсе* чаго ‘быць у курсе падзей, сочачы за іх развіццём’ – *трымаць руку* каго, чыю ‘цалкам падтрымліваць каго-н., быць на чыім-н. баку’.

Падобныя адрозненні і іх камбінацыі сустракаюцца таксама пры параўнанні фразеалагізмаў розных моў, напрыклад:

бел. *казлы драць* ‘ванітаваць (часцей пры моцным ап’яненні)’ – рус. *драть козла* ‘спяваць вельмі кепска, непрыемным голасам’;

бел. *пратрубіць усе вушы* каму ‘надакучыць пастаяннымі размовамі пра што-н.’ – рус. *жужжать в уши* ‘надакучліва, настойліва паўтараць што-н.’;

бел. *кідаць камень* у каго ‘асуджаць, абвінавачваць, ганьбіць каго-н.’ – рус. *забрасывать камешек* каму ‘крыўдліва намякаць на што-н. каму-н. – рус. *закидывать камушек* ‘карыстаючыся выпадкам, у патрэбны момант намякаць, прасіць аб чым-н.’;

бел. *два боты пара* ‘абсалютна аднолькавыя, адзін не лепшы за другога’ – англ. *a pretty pair of shoes!* (літар. *харошанькая пара ботаў!*) ‘добрая справа, вясёленькая гісторыя’ – англ. *that’s another pair of shoes!* (літар. *гэта іншая пара ботаў*) ‘гэта зусім іншая справа’ – ням. *das sind wirklich zwei paur Stiefel* (літар. *гэта сапраўды дзве пары ботаў*) ‘гэта дзве розныя рэчы’.

У заключэнне неабходна сказаць, што тыпы міжмоўных фразеалагічных адпаведнасцей грунтуюцца на падабенстве формы і зместу фразеалагізмаў. У кожнага тыпа ступень падабенства неаднолькавая. У фразеалагічных эквівалентаў важнымі ў роўнай меры з’яўляюцца і фармальныя, і семантычныя тоеснасці. Фразеалагічныя аналагі сутыкаюцца на падставе агульнасці значэння і неабавязковасці фармальнага падабенства. Безэквівалентныя фразеалагізмы адпавядаюць у іншай мове фармальна-семантычнаму фразеалагічнаму нулю. Што да міжмоўных фразеалагічных амонімаў і паронімаў, то адпаведнікамі іх можна назваць толькі ўмоўна, таму што падабенства іх формы з’яўляецца несістэмным, часта выпадковым, а значэнні іх з’яўляюцца несуадноснымі, паралельнымі.

### *Літаратура*


1. Арсентьева, Е.Ф. Сопоставительный анализ фразеологических единиц (на материале фразеологических единиц, семантически ориентированных на человека в английском и русском языках) / Е.Ф.Арсентьева. – Казань: Изд-во Казанского ун-та, 1989. – 127 с.
2. Солодухо, Э.М. Проблемы интернационализации фразеологии / Э.М. Солодухо. – Казань: Изд-во Казанского ун-та, 1982. – 168 с.
3. Якшук, Л.М. Назоўнікавыя фразеалагізмы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове / Л.М. Якшук. – Гродна: ГрДУ, 2008. – 221 с.
4. Лепешаў, І.Я. Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1984. – 264 с.
5. Лукьянова, Н.А. Экспрессивная лексика разговорного употребления (проблемы семантики)/ Н.А. Лукьянова. – Новосибирск: Наука, 1986. – 230 с.
6. Янкоўскі, Ф. Беларуская мова / Ф. Янкоўскі. – Мінск: Выш. школа, 1978. – 336 с.
7. Лепешаў, І.Я. Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў / І.Я. Лепешаў. – Мінск: БелЭн, 2004. – 448 с.
8. Зайцава, Л.У. Саматычныя фразеалагізмы беларускай і англійскай моў у сістэме лінгвакультуралогіі / Л.У. Зайцава // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2009. – № 2 (83). – С. 50–57.

9. Аксамітаў, А. Беларуска-польскі фразеалагічны слоўнік / А.Аксамітаў, М. Чурак. – Варшава : Інстытут славістыкі ПАН, 2000 – 260 с.
10. Солодуб, Ю.П. Русская фразеология как объект сопоставительного структурно-типологического исследования (на материале фразеологизмов со значением качественной оценки лица) / Ю.П. Солодуб. – М.: МГПИ им. В.И. Ленина, 1985. – 110 с.
11. Герасімчык, І.А. Фразеалагічныя паронімы сучаснай беларускай літаратурнай мовы: аўтарэф. дыс. … канд філал. навук: 10.02.01 / І.А. Герасімчык; Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. – Мінск, 2003. – 20 с.

---

Першая публікацыя ў часопісе: *Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2011. – № 2 (113). – С. 56–64.*

## ФАКТАРЫ МІЖМОЎНАЙ ФРАЗЕАЛАГІЧНАЙ ЭКВІВАЛЕНТНАСЦІ

Супастаўляльнае даследаванне беларускай фразеалогіі ў адносінах да фразеалогій іншых моваў яшчэ толькі пачынаецца. Цэнтральнай праблемай яго з'яўляецца праблема эквівалентнасці. Часткова яна закраналася намі пры разглядзе тыпаў міжмоўных фразеалагічных адпаведнасцей [1]. У артыкуле гаворка пойдзе пераважна пра фактары гэтых міжмоўных адпаведнасцей.

Пры супастаўленні фразеалагізмаў розных моваў і вызначэнні фразеалагічнай эквівалентнасці звяртаецца ўвага ў першую чаргу на наступныя міжмоўныя фразеалагічныя суаднесенасці: фармальную, семантычную, колькасную. Яны праяўляюцца ў дыялектычным адзінстве, але для нагляднасці мэтазгодна разгледзець іх паасобку.

*Фармальная суаднесенасць* закранае лексічны склад фразеалагізмаў і іх граматычную структуру: тоеснасць ці адрозненні лексічных кампанентаў і сінтаксічных мадэлей. Напрыклад, у тыпалагічным радзе бел. *будаваць на пяску*, рус. *строить на песке*, ням. *auf Sand bauen* лексічныя кампаненты, калі іх разглядаць як словы свабоднага ўжывання, супадаюць семантычна, супадае і сінтаксічная структура фразеалагізмаў (дзеяслоў + прыназоўнік + назоўнік), што сведчыць аб поўнай фармальнай эквівалентнасці фразеалагізмаў.

*Семантычная суаднесенасць* разглядаецца на ўзроўні фразеалагічнага значэння – як сігніфікатыўна-дэнататыўнага, так і канататыўнага. Фразеалагізмы могуць поўнасцю ці часткова супадаць сваімі значэннямі. Так, беларускі і польскі фразеалагізмы *бура ў шклянцы вады / burza w szkiance wody* маюць аднолькавае значэнне 'моцнае хваляванне, шум, спрэчка з-за дробязных прычын', эмацыянальна-экспрэсіўнае адценне іранічнасці, часцей ужываюцца ў кніжным стылі.

Фармальная і семантычная суаднесенасць не знаходзяцца ў прамой залежнасці. Супадзенне значэнняў фразеалагізмаў звычайна назіраецца пры іх кампанентнай і структурнай тоеснасці, але далёка не заўсёды. У шэрагу выпадкаў пры адсутнасці фармальнай тоеснасці значэнне фразеалагізмаў супадае, фразеалагічныя аналагі могуць разыходзіцца кампанентным складам, але мець ідэнтычнае значэнне: бел. *крок за крокам* / польск. *cal po calu* – 'паступова, няўхільна', 'паслядоўна, адно за другім'. І наадварот, фармальна тоесныя фразеалагізмы могуць мець розныя значэнні. Можна вылучыць наступныя тыпы міжмоўных фармальна-семантычных фразеалагічных адносін.

1) Поўнае супадзенне лексічных кампанентаў ісемантычнай структуры фразеалагізмаў: бел. *іграць ролю* / ням. *eine Rolle spilen*– ‘мець значэнне, аказваць уздзеянне на каго-, што-н.’, ‘быць кім-н., выступаць у якасці каго-н.’, ‘прытварацца, прыкідвацца, не быць самім сабой’; бел. *ставіць кропкі над **i** /* франц. *mettre le spoints sur les i*– ‘канчаткова высвятляць усё, не пакідаючы нічога недагаворанага, даводзячы ўсё да лагічнага канца’; бел. *праводзіць паралель /* англ. *draw a parallel* – ‘супастаўляць, параўноўваць’.

2) Поўнае супадзенне значэнняў і сінтаксічнай структуры фразеалагізмаў пры няпоўнай тоеснасці іх лексічных кампанентаў: бел. *намыліць галаву* – ням. *den Kopf waschen* (літар. *мыць галаву*), бел. *воўк у авечай скуры* – англ. *a wolf in sheep's clothing* (літар. *воўк у авечым адзенні*), бел. *адыходзіць на задні план* – польск. *schodzić na ostatni plan* (літар. *адыходзіць на апошні план*).

3) Несупадзенне лексічна-сінтаксічнай структуры і тоеснасць значэння: бел. *ні з таго ні з сяго* / польск. *z cicha pek* – ‘раптам, нечакана’; бел. *як мыла з'еўшы /* рус. *не солоно хлебавши* – ‘ні з чым, безвынікова (пайсці)’; бел. *кукіш з маслам* / польск. *guzik z pętelką* – ‘зусім нічога (не атрымаць, даваць і пад.)’; бел. *абвесці вакол пальца* / англ. *catch with chaff* – ‘спрытна, хітра ашукаць, падмануць каго-н.’

4) Тоеснасць лексічнага напаўнення, сінтаксічнай структуры і розныя значэнні. Ступень семантычнай дыферэнцыяцыі ў такіх выпадках бывае рознай: а) фразеалагізмы разыходзяцца асобнымі семантычнымі адценнямі: бел. *душа не прымае* ‘што-н. не падабаецца каму-н., непрыемнае, непрымальнае для каго-н.’ – рус. *душа не принимает* ‘зусім не хочацца, няма жадання (есці, піць)’; б) знаходзяцца ў гіпера-гіпанімічных адносінах: рус. *мелкая рыбёшка* (у дачыненні да людзей) – ням. *kleine Fische* (пра людзей, рэчы, справы); б) разыходзяцца колькасцю значэнняў: бел. *дух вон* ‘хто-н. памёр (часцей раптоўна, імгненна)’ – рус. *дух вон* ‘хто-н. памёр (часцей раптоўна, імгненна)’, ‘вельмі стаміўся хто-н., няма сілы ў каго-н.’; в) выступаюць як амонімы: бел. *вецер у галаве* ‘легкадумны, ветраны чалавек’ – англ. *wind in the head* ‘пустая фантазія, зазнайства, самаздаволенне’; г) уступаюць у антанімічныя адносіны (энантыясемія): бел. *каша ў галаве* ‘хто-н. блытана мысліць’ – ням. *hat Grütze im Kopf* ‘хто-н. разумны, кемлівы (добра кеміць)’.

5) Частковае лексічнае супадзенне і несупадзенне значэння (фразеалагічная паранімія): *хоць кол на галаве чашы* ‘выключна ўпарты, незгаворлівы’ – польск. *choć koł na głowie strugaj* ‘выключна цярплівы, пакорлівы’, *два боты пара* ‘вельмі падобныя адзін да аднаго сваімі звычайна адмоўнымі якасцямі, уласцівасцямі’ – англ. *a pretty pair of shoes* (літар. ***хо**рошанькая пара ботаў*) ‘неадабрэнне таго, што адбылося’.

*Колькасная суаднесенасць* выяўляе наступныя найбольш істотныя статыстычныя паказчыкі.

А. Маўленчая частотнасць фразеалагізма ў адпаведных мовах. Яна можа быць высокай, сярэдняй і нізкай. У суадноснай эквівалентнай пары абодва фразеалагізмы могуць мець прыкладна аднолькавую ступень ужывальнасці ў кожнай мове, напрыклад бел. *першы крок* і рус. *первый шаг.* У шэрагу выпадкаў мера маўленчай ужывальнасці далёка не раўнамерная. Параўн. шырокаўжывальны ў рускай мове фразеалагізм *иметь зуб* на кого-л. і малаўжывальны ў нямецкай мове адпаведнік *eine Zahn auf jmdn. haben* ці адпаведна ням. jmdm. *den Kopf waschen* і рус. *мыть голову.*

Б. Колькасць фразеалагізмаў у абедзвюх мовах для выражэння таго самага паняцця. Акрамя монаэквівалентнасці, калі адной фразеалагічнай адзінцы адпавядае ў іншай мове таксама адна фразеалагічная адзінка, бываюць нярэдкія выпадкі, калі фразеалагізму ці іх групе адпавядае цэлы сінанімічны рад фразеалагізмаў (поўных ці частковых эквівалентаў і аналагаў). Напрыклад, як сведчаць сінанімічныя слоўнікі, значэнне ‘вельмі моцна (напіцца, п'яны)' у беларускай літаратурнай мове маюць 7 фразеалагізмаў (*да парасячага піску, да чорцікаў, у дрызіну, у дым (у дыміну), як гразь, як зямля, як свіння*), у рускай літаратурнай мове – 17 фразеалагізмаў (*в доску, в дрезину, в дым (в дымину), в лоск, в стельку, в дугу, до чертиков, до зеленого змия, до положения риз, до синего дыму, до белой горячки, как сапожник, как свинья, как зюзя, до упора, как змий, как зонтик*).

В. Колькасць эквівалентаў у асобных групах, разрадах фразеалагізмаў і, нарэшце, у фразеалагічных сістэмах супастаўленых моваў у цэлым. Паводле падлікаў А.Д. Райхштэйна, у фразеалагічных сістэмах рускай і нямецкай моваў прыкладна 60 % фразеалагізмаў уступаюць у міжмоўныя эквівалентныя адносіны і толькі 40 % фразеалагізмаў не маюць фразеалагічных адпаведнікаў, іх перакласці можна толькі пераменнымі словазлучэннямі ці асобнымі словамі [2, с. 34]. Гэтыя статыстычныя вывады абвяргаюць распаўсюджаны ў мовазнаўстве пункт гледжання пра выключна нацыянальна-спецыфічны характар фразеалогіі.

Комплексны ўлік розных тыпаў суаднесенасці дазваляе дыферэнцаваць міжмоўную фразеалагічную эквівалентнасць у шырокім яе разуменні, вылучыць пэўныя яе разнавіднасці: фразеалагічныя эквіваленты, аналагі, амонімы, паронімы, безэквівалентныя фразеалагізмы (гл. пра гэта падрабязней [1]).

Міжмоўная эквівалентнасць фразеалагізмаў не з'яўляецца выпадковай з'явай, яна абумоўліваецца пэўнымі прычынамі. Можна вылучыць некалькі фактараў, якія ўплываюць на ступень фразеалагічнай эквівалентнасці.

1) Фразеаўтваральная актыўнасць лексічных кампанентаў. Яна вымяраецца ступенню ўжывальнасці слова ў фразеалагізмах. Высокай фразеаўтваральнай актыўнасцю вызначаюцца словы, якія прысутнічаюць у адносна вялікай колькасці фразеалагізмаў. Гэта словы найбольш частотныя ў лексічнай сістэме абедзвюх моваў. Сярод назоўнікаў да іх належаць саматызмы, заонімы і інш. Самымі фразеактыўнымі выступаюць саматызмы. Саматычная фразеалогія «ўтварае значны пласт (каля 30 %) фразеалагічнага складу любой мовы» [3, с. 159]. Супастаўляльныя даследаванні паказалі, што доля міжмоўнай эквівалентнасці фразеалагізмаў з саматызмамі таксама вялікая. Так, у групе рускіх і нямецкіх фразеалагізмаў з кампанентам *голова / Kopf* фармальна эквівалентныя адзінкі складаюць 46 %. Падобныя паказчыкі ўласцівы і фразеалагізмам з кампанентамі *глаз / Auge* – 43 %, *рука / Hand* – 40 %, напрыклад: *ломать себе голову – sich den Kopf zerbrechen, закрыть глаза* кому-н. – jmdm. *die Augen zu drűcken, из первых рук – aus erster Hand* [2, с. 38].

Фразеалагізмы з невысокай фразеаўтваральнай актыўнасцю кампанентаў (напрыклад, прастамоўных слоў, назваў нацыянальных рэаліяў) значна радзей выяўляюць эквівалентныя адносіны.

Амаль нулявая эквівалентнасць у фразеалагізмаў, у склад якіх уваходзяць некратызмы (кампаненты, якія не ўжываюцца за межамі фразеалагізмаў, не маюць

самастойнага лексічнага значэння), напрыклад: бел. *збіць з тропу, біць бібікі,* рус. *у черта на куличках,* ням. *Schmu machen, aus der Lamäng, Zeter und Mondio schneien*.

2) Сінтаксічная структура фразеалагізмаў. Высокая структурна-семантычная эквівалентнасць характэрна для фразеалагізмаў, пабудаваных па сінтаксічных схемах, агульных для супастаўленых моваў. І наадварот, фразеалагізмы, арганізаваныя па схемах, якія не маюць адназначнай адпаведнасці, вызначаюцца меншай ці нулявой эквівалентнасцю. Некаторыя прыклады сінтаксічна несуадносных фразеалагізмаў у беларускай і нямецкай мовах:

«*хоць»* + <назоўнік> + дзеяслоў загаднага ладу: *хоць вока выкалі, хоць шаром пакаці, хоць гвалт крычы, хоць забі, хоць зарэж*;

фразеалагізмы з бяззлучнікавай сувяззю аднародных кампанентаў: *брат-сястрыца, першы-лепшы, молада-зелена, шалтай-балтай, хлеб-соль;*

фразеалагізмы са структурай інфінітыўнага сказа: *што і сказаць, рукой падаць, раз плюнуць*;

фразеалагізмы са структурай *sein* + *zu* + Infinitiw I: jmd. *ist nicht totzukriegen;* etw. *ist nich tauszudenken;* etw. *ist nicht auszumalen;*

фразеалагізмы са структурай *haben* + *zu* + Infinitiw I: etw. *hat nichts zu sagen;* jmd. *hat nichts zu versäumen;*

фразеалагізмы са структурай *das/esist, um…zu* + Infinitiw I: *es ist, um auf die Bäume zu klettern.*

Сінтаксічныя схемы могуць функцыянаваць у абедзвюх мовах, але ў адной з іх мець слабую фразеаўтваральную актыўнасць, напрыклад:

беларускія бяздзейнікавыя сказы: *не прыкладу розуму, не на таго напаў;*

беларускія імператыўныя сказы з эмацыянальна-мадальнымі значэннямі: *пішы прапала, шукай ветру ў полі, прышый кабыле хвост, пальца ў рот не кладзі;*

нямецкія дзеяслоўныя фразеалагізмы з прыслоўем: jmdn. *kirre kriegen, klein beigeben,* jmdn. *kurz halten,* jmdn. *zu nahe treten.*

3) Функцыянальна-стылявая прыналежнасць фразеалагізмаў. Фразеалагізмы, як і словы, могуць належаць да пэўнага стылю мовы: газетна-публіцыстычнага, навукова-тэхнічнага, афіцыйна-справавога, размоўнага і інш. Замацаванасць за пэўным стылем уплывае на ступень эквівалентнасці фразеалагізмаў. Найбольшай эквівалентнасцю вызначаюцца фразеалагізмы са сферы публіцыстычных і навуковых зносін. Інтэрнацыянальны характар палітычнага, эканамічнага, навукова-тэхнічнага развіцця адлюстроўваецца ў мове публіцыстыкі, навукі. Таму ў навукова-тэхнічным і публіцыстычным стылях на ўзроўні міжмоўных кантактаў адбываецца інтэграцыя інфармацыі міжнароднага значэння, якая прыводзіць да збліжэння фразеалагічных рэсурсаў розных моваў: бел. *пятая калона*, рус. *пятая колонна*, балг. *пета колона*, польск. *piąta kolumna*, ням. *die fünfte Kolonne*; бел. *халодная вайна*, рус. *холодная война*, балг. *студена война,* серб. *хладан рат*, чэш. *studená valká*, англ. *the cold war*, ням. *der kalte Krieg*, швед. *det kalla kriget*, франц. *guerre froide*, іт. *Guerra fredda*, ісп. *Guerra fria*, рум. *război rece.*

Размоўны стыль абслугоўвае штодзённа-бытавыя, неафіцыйныя зносіны людзей і ў большай ступені выяўляе нацыянальна-адметныя лексічна-фразеалагічныя сродкі. У размоўных фразеалагізмаў структурна-семантычныя эквіваленты нячастая з’ява. Прастамоўныя фразеалагізмы асобнай мовы, як правіла, маюць сваю непаўторную

арганізацыю і амаль не суадносяцца ў якасці поўных эквівалентаў у іншай мове, параўн.: ням. *wie ein Affe auf dem Schleifstein (sitzen)* (літар. *як малпа на тачыльным камяні*) – ‘няўпэўнена сядзець (на веласіпедзе)’; рус. *ни уха ни рыла* – ‘зусім нічога (не ведаць, не разумець)’, бел. *што ўбіў то ўехаў* каму – ’бесклапотны, гультаяваты, такі, што толькі пад прымусам робіць што-н.’

Такім чынам, мера фразеалагічнай эквівалентнасці залежыць ад сацыяльных умоў функцыянавання стылявых разгалінаванняў мовы і мае тэндэнцыю да змяншэння ад газетна-публіцыстычнай да гутаркова-прастамоўнай фразеалогіі.

4) Вобразная аснова. Як вядома, фразеалагізмы ўтвараюцца шляхам пераасэнсавання свабодных слоўных комплексаў: словазлучэнняў, сказаў, спалучэнняў слоў. Пераасэнсаванне адбываецца праз метафарычныя ці метанімічныя пераносы. Свабоднае словазлучэнне ў выніку семантычнага зруху пачынае суадносіцца з іншым аб’ектам рэчаіснасці і набывае фразеалагічнае значэнне. Сутыкненне этымалагічнага і рэальнага фразеалагічнага значэнняў «высвечвае» закладзеную ў фразеалагізме вобразную аснову. Ступень міжмоўнай фразеалагічнай эквівалентнасці залежыць ад тыповасці лексічна-семантычнага напаўнення пераменных словазлучэнняў, якія падпалі пад вобразнае пераасэнсаванне. У розных мовах ёсць набор аднолькавых слоўных комплексаў, якія з’яўляюцца асновай утварэння вобразна ідэнтычных ці падобных фразеалагізмаў. Так, інтэрнацыянальны характар маюць словазлучэнні, якія абазначаюць агульначалавечыя рэаліі (псіхічны і фізічны стан, жэсты, міміку і інш.) і якія спарадзілі шматлікія фразеалагізмы: *скрозь зубы, кроў прыліла да твару, валіцца з ног, сэрца сціскаецца, махнуць рукой, пацiснуць плячыма, часаць патыліцу, паціраць рукі* і г.д. Параўн.: бел. *не бачыць далей свайго носа*, рус. *не видеть дальше своего носа*, балг. *не віждам подалече от носа сі*, серб. *не відеті далье от носа*, чэш. *nevidět dálne ź na špički nosu*, англ. *not to able to see beyond one’s nose*, ням. *nicht über seine Nasenspitze sehen*, швед. *inte se länge ä näsan räcker*, франц. *ne pas voir plus loin que son nez*, іт. *non veder piú là del naso*, ісп. *no ver más allá de sus narices*, рум. *a nu vedea decit pină in virful nasului*.

Наадварот, фразеалагічная эквівалентнасць змяншаецца па меры зніжэння фразеапрадуктыўнасці вобразаў. Амаль што нулявую эквівалентнасць маюць бязвобразныя фразеалагізмы. Напрыклад, для наступных фразеалагічных зрашчэнняў няма структурна-семантычных эквівалентаў у іншых мовах: бел. *авохці мне, браць на цугундар*, рус. *и никаких гвоздей, почем зря*, ням. *auf den Hund kommen, durh die Lappen gehen.*

5) Структура фразеалагічнага значэння. Значэнне фразеалагізма можа мецьрозную ступень семантычнай складанасці. Вылучаюцца фразеалагізмы з элементарным значэннем. Набор сем у такіх значэннях мінімальны ці блізкі да мінімальнага, напрыклад ‘вельмі’, ‘вельмі многа’, ‘кепскі чалавек’. Фразеалагізмаў з такімі значэннямі ў кожнай мове значная колькасць, многія з іх утвараюць аб’ёмныя сінанімічныя рады. Так, у беларускай мове (літаратурнай і дыялектнай) агульны сінанімічны рад фразеалагізмаў са значэннем ‘вельмі многа’ налічвае больш за 100 адзінак: *адбою няма, без ліку, без меры, вышэй галавы, да гібелі, дай Бог, да чорта, канца-краю не відаць, колькі хочаш, мора разліўное, па самую завязку, па вушы, хоць адбаўляй, як завязаць, як сабак* і інш.

Фразеалагізмы з больш складаным значэннем, якія абслугоўваюць тыя самыя паняцці, што і словы, але адрозніваюцца ад апошніх канатацыйным зместам, маюць «карацейшыя» сінанімічныя рады і меншую міжмоўную эквівалентнасць..

І нарэшце, фразеалагізмы з ускладненым значэннем, асабліва тыя, якія выражаюць новы, нетыповы сігніфікатыўна-дэнататыўны змест, што не перадаецца асобнымі лексічнымі сродкамі, прэтэндуюць у большасці выпадкаў на безэквівалентнасць: бел. *людзьмі звацца* ‘быць свабоднымі, шчаслівымі, займаць у жыцці належнае чалавеку месца’, рус. *тришкин кафтан* ‘такое становішча, сітуацыя і г.д., калі ліквідацыя адных недахопаў цягне за сабой узнікненне новых недахопаў’, укр. *закритися плечима й очима* ‘адгарадзіўшыся ад усяго навакольнага, не ўнікаць ні ў што, не заўважаць нікога і нічога’.

Такім чынам, па меры ўскладнення фразеалагічнага значэння змяншаюцца эквівалентныя адносіны фразеалагізмаў. «Міжмоўная функцыянальна-сэнсавая фразеалагічная эквівалентнасць (паміж няблізкароднаснымі мовамі) знаходзіцца ў адваротнай залежнасці ад намінацыйнай значнасці і семантычнай складанасці (спецыялізаванасці) фразеалагічных адзінак. Інакш, кажучы, чым больш элементарнае значэнне фразеалагічнай адзінкі, тым больш у яе міжмоўных фразеалагічных эквівалентаў (і ўнутрымоўных сінонімаў) і, наадварот, чым больш складанае сігніфікатыўна-дэнататыўнае значэнне ФА, тым у агульным выпадку колькасць такіх фразеалагічных эквівалентаў ніжэйшая» [2, с. 52].

Адзначаныя фактары міжмоўнай фразеалагічнай эквівалентнасці маюць універсальны характар, распаўсюджваюцца на фразеалогію любой мовы. Веданне іх будзе садзейнічаць мэтанакіраваным пошукам агульнага і адметнага пры супастаўляльным даследаванні беларускай і іншамоўнай фразеалогій.

*Літаратура*

1. Даніловіч, М.А. Тыпы міжмоўных фразеалагічных адпаведнасцей / М.А. Даніловіч // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2011. – № 2 (113). – С. 56–64.

2. Райхштейн, А.Д. Сопоставительный анализ немецкой и русской фразеологии / А.Д. Райхштейн. – М.: Высш. школа, 1980. – 143 с.

3. Вайнтраўб, Р.М. Опыт сопоставления фразеологии в славянских языках (К вопросу о сравнительном изучении славянской фразеологии) / Р.М. Вайнтрауб // Труды Самаркандского гос. ун-та им. А. Навои. Новая серия / Редкол.: Л.И.Ройзензон (отв. ред.) и др. – Самарканд, 1975. – Вып. 288: Вопросы фразеологии. IX. – С. 157 – 162.

---

Першая публікацыя ў часопісе: *Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2013. – № 1 (149). – С. 53–57.*

## АСПЕКТЫ СУПАСТАЎЛЯЛЬНАГА ВЫВУЧЭННЯ ФРАЗЕАЛАГІЧНЫХ СІСТЭМ

Можна вылучыць тры асноўныя задачы супастаўляльнага вывучэння фразеалогіі дзвюх ці больш моў:

1. Супастаўленне канкрэтных фразеалагізмаў. На сённяшні дзень гэта найбольш распрацаваны від супастаўляльнага аналізу ў сферы фразеалогіі. Ён зводзіцца ў цэлым да выяўлення міжмоўных фразеалагічных адпаведнасцей і знаходзіць сваё ўвасабленне ў практыцы выкладання замежных моў, у складанні перакладных слоўнікаў, у перакладчыцкай дзейнасці.

2. Супастаўленне фразеалагічных груп і разрадаў. Яно скіравана на высвятленне агульнасці і рознасці ў сістэмах цэлых аб'яднанняў фразеалагізмаў. Аб'ектам аналізу з'яўляюцца, напрыклад, фразеасемантычныя палі, групы, рады, вылучаныя на падставе нейкай агульнай семантычнай прыметы; семантычна-граматычныя, структурныя разрады фразеалагізмаў; фразеалагічна-лексічныя палі, вылучаныя на падставе агульнасці лексічных кампанентаў фразеалагізмаў.

3. Супастаўленне фразеалагічных сістэм. Яно «павінна, відаць, даць адказ, па крайняй меры, на наступныя пытанні: у чым заключаюцца найбольш істотныя і глыбінныя падабенствы і адрозненні паміж фразеалагічнымі сістэмамі дзвюх (ці больш) моў; як яны праяўляюцца ў асноўных аспектах мовы – функцыянальным, семантычным, фармальна-сэнсавым, структурным; якімі ўнутрымоўнымі і экстралінгвістычнымі фактарамі яны абумоўліваюцца» [1, с. 12].

Трэцяя задача дастаткова складаная, паколькі яна ў якасці аб'екта даследавання прадугледжвае не асобныя фразеалагізмы ці іх групы, а цэлыя нацыянальныя фразеалагічныя корпусы і вымагае абагульненага іх аналізу. Па нашых звестках, такога тыпу комплексныя даследаванні ў лінгвістыцы пакуль што адсутнічаюць. Вядомы толькі спробы асобных вучоных вызначыць агульныя кірункі, падаць асобныя фрагменты падобных даследаванняў. Больш-менш выразна яны сфармуляваны А.Д. Райхштэйнам на матэрыяле нямецкай і рускай фразеалогій [1, с. 87–129]. Улічваючы думкі гэтага, іншых даследчыкаў, а таксама асабістыя назіранні і пошукі, акрэслім чатыры асноўныя аспекты супастаўляльнага вывучэння фразеалагічных сістэм: статыстычны, семантычны, лексічны, структурна-сінтаксічны.

Статыстычны аспект прадугледжвае параўнальна-супастаўляльны аналіз колькасных характарыстык фразеалагічных сістэм і іх структурных частак на матэрыяле дзвюх ці больш моў. Такі аналіз магчымы пры дзвюх акалічнасцях: а) аднолькавым падыходзе пры вызначэнні фразеалагізма як моўнай адзінкі (больш падыходзіць так званае «вузкае» разуменне фразеалогіі); б) наяўнасці адносна поўных фразеаграфічных даведнікаў.

У лінгвістыцы вядомы фрагментарныя статыстычныя дадзеныя пра асобныя бакі фразеалагічных сістэм у супастаўляльным плане. Для прыкладу можна згадаць даследаванне агульнага фразеалагічнага складу заходнеславянскіх моў, праведзенае А.Д. Зіньковым. Арэальная характарыстыка міжмоўных фразеалагічных структурна-семантычных адпаведнікаў (МФССА) заходнеславянскага рэгіёну дазволіла аўтару прыйсці да наступнай высновы: «Фактычныя дадзеныя сведчаць пра неаднолькавы «ўклад» асобных заходнеславянскіх моў у іх агульны фразеалагічны склад. Найбольш значны ўклад чэшскай мовы, з удзелам ідыём якой утворана 4592 МФССА, што складае 78,25 % усёй колькасці МФССА. Затым па меры змяншэння колькасці МФССА, утвораных з удзелам ідыём асобных моў, астатнія заходнеславянскія мовы размеркаваліся ў наступным парадку: славацкая – 3870 ФА (65,95 %), польская – 3385 ФА (57,68 %), верхнялужыцкая – 2249 ФА (38,32 %) і ніжнялужыцкая – 1034 ФА (17,62 %). Паводле ролі ва ўтварэнні агульнага фразеалагічнага складу заходнеславянскіх моў і паводле інтэнсіўнасці і накіраванасці міжмоўных фразеалагічных сувязей чэшскую мову можна было б назваць своеасаблівым «фразеалагічным цэнтрам» заходнеславянскай моўнай зоны» [2, с. 30].

Колькаснае супастаўленне можа закранаць такія пытанні, як агульны склад фразеалагізмаў, колькасць семантычных і семантыка-граматычных разрадаў фразеалагізмаў, суадносіны структурна-граматычных тыпаў і мадэляў фразеалагізмаў, функцыянальна-стылявое расслаенне фразеалагізмаў, гістарычна-этымалагічныя тыпы фразеалагізмаў і інш.

Семантычны аспект мае на мэце даследаванне семантычнай сістэмы супастаўленых фразеалогій. Фразеалогія кожнай мовы ў семантычным плане мае больш падабенстваў, чым адрозненняў. Пералічым некаторыя семантычныя якасці, агульныя для фразеалагізмаў любой мовы: фразеалагічная полісемія і аманімія у параўнанні з лексічнай слаба развітая; у сінанімічныя адносіны ўступае вялікая колькасць фразеалагізмаў; фразеалагізмы як намінатыўныя адзінкі нераўнамерна пакрываюць дэнататыўную прастору, канцэнтруюцца ў адных семантычных сферах і адсутнічаюць у другіх; у сукупным значэнні фразеалагізма важнае месца займае канататыўна-прагмачычны элемент.

Адметнасці могуць выяўляцца ў разгалінаванні і напаўненні прадметна-тэматычных груп фразеалагізмаў, што звязана з нацыянальнай спецыфікай развіцця фразеалогіі. Напрыклад, у англійскай мове, у параўнанні з беларускай, больш пашырана марыністычная фразеалогія. Гэта абумоўлена прыродна-геаграфічнымі ўмовамі Англіі, якая з'яўляецца астраўной краінай, і спрадвечным марскім заняткам англічан (рыбалоўства, ваенна-марская справа і інш.).

Лексічны аспект вылучаецца пры аналізе лексічна-кампанентнага складу фразеалагізмаў. Лексічная напоўненасць фразеалагізмаў можа характарызавацца ў супастаўляльным плане паводле шэрагу паказчыкаў.

1) Суаднесенасць фразеалагічных кампанентаў са словам. Абсалютная большасць кампанентаў фразеалагізмаў любой мовы фармальна супадае са словамі свабоднага ўжывання. І адносна нязначная частка іх невядомая лексічнай сістэме, ужываецца толькі ў складзе фразеалагізмаў. У лінгвістыцы іх называюць унікальнымі, архаічнымі кампанентамі, некратызмамі, напрыклад: бел. *браць на цугундар, выцягнуць гізунты, збіваць з панталыку, хоць рэпку спявай;* рус. *голь перекатная, задать стрекача, краеугольный камень, морковкино заговенье;* ням. *jmdt. ein Schnippchen schlagen, imdn. am Bändel haben, beijmdm. ins Fettnäpfchen treten.*

Колькасць унікальных кампанентаў у фразеалагізмах асобных моў можа быць рознай. Напрыклад, у  рускай мове іх больш за 1000, у нямецкай і французскай мовах – больш за 300 [1, с. 89]. Зразумела, што ў кожнай мове яны характарызуюцца своеасаблівасцю, непаўторнасцю і надаюць фразеалагічнай сістэме нацыянальную спецыфіку.

2) Фразеаўтваральная актыўнасць лексічных адзінак. Пры вырашэнні гэтага пытання звяртаецца ўвага як на сярэднестатыстычныя паказчыкі ўдзелу лексем у фарміраванні фразеалагізмаў, так і на функцыянаванне канкрэтных слоў у якасці фразеалагічных кампанентаў. Напрыклад, пра сярэднюю фразеаўтваральную актыўнасць кампанентаў (сярэдняя колькасць розных паўназначных слоў-кампанентаў, якія прыходзяцца на 100 фразеалагізмаў) вядомы такія лічбы: у нямецкай мове – 52, у рускай мове – 68 [1, с. 92]. У беларускай мове, паводле нашых падлікаў, на кожныя 100 фразеалагізмаў прыпадае 48 кампанентаў, прыкладна 1 кампанент абслугоўвае 2 фразеалагізмы.

У кожнай мове канкрэтныя лексемы прымаюць розны ўдзел ва ўтварэнні фразеалагізмаў. Можна весці гаворку пра нізка-, сярэдне- і высокачастотныя кампаненты фразеалагізмаў.

Высокачастотныя кампаненты фразеалагізмаў адной мовы, як правіла, адпавядаюць высокачастотным кампанентам фразеалагізмаў другой мовы. Так, самымі частотнымі выступаюць саматызмы, а сярод іх – такія словы, як *галава, вока, рука.* Напрыклад, слова *галава* ўдзельнічае ва ўтварэнні наступнай колькасці фразеалагізмаў: у рускай мове (*голова*) – 212, у беларускай (*галава*) – 174, у нямецкай (*Kopf*) – 166, у англійскай (*heand*) – 139, у нідэрландскай (*hoofd*) – 105 [3, с. 7].

Тэарэтычна любое паўназначнае слова, семантычна спалучальнае з іншымі словамі, можа рэалізавацца ў якасці фразеалагічнага кампанента. Аднак на практыцы далёка не ўсе агульнанародныя словы аднолькава выкарыстоўваюцца ў фразеалагізмах. Адны сустракаюцца ў шматлікіх фразеалагізмах, другія – у адзінкавых, трэція вядомы толькі за межамі фразеалагізмаў.

З экстралінгвістычнага боку фразеаўтваральная прадуктыўнасць слова залежыць ад актуальнасці абазначанай ім з'явы. Шэраг рэалій, напрыклад чалавек як біялагічны аб'ект і інтэлектуальная асоба, быт, вытворча-гаспадарчая сфера, навакольнае асяроддзе, спрадвеку займаюць цэнтральнае месца ў супольнасці людзей. Менавіта гэтыя рэаліі – асноўная пазамоўная крыніца фразеалогіі. Абслугоўваюцца яны пераважна традыцыйнымі словамі, якія ўжо даўно сталі агульнанародным набыткам. Зразумела, фразеаўтваральныя паказчыкі такіх слоў найвышэйшыя. Нават звычайныя назіранні прыводзяць да высновы: ядро фразеалагічных кампанентаў утвараюць лексічныя адзінкі, якія з'яўляюцца асновай слоўніка  нацыянальнай мовы.

Фразеаўтваральныя магчымасці слова залежаць ад месца яго ў адносінах да цэнтра лексіка-семантычнай групы: «Найвышэйшай ступенню ФП (фразеаўтваральнай прадуктыўнасці) валодаюць словы, што складаюць ядро той ці іншай ЛСГ (лексіка-семантычнай групы), бо яны маюць найбольш шырокі спектр асацыятыўных сувязей, якія найлепшым чынам адпавядаюць задачы ідэнтыфікацыі і захавання сувязей паміж адзінкамі лексікона» [4, с. 7]. Прывядзём асобныя базавыя словы некаторых лексіка-семантычных груп: «вадкія рэчывы» – *вада*, «будынкі» – *хата*, «агароджа» – *плот*, «драўляны посуд» – *бочка*, «гужавыя транспартныя сродкі» – *воз*, «палатняныя прадметы для захоўвання сыпучых цел» – *мяшок, мех, торба*. Гэтыя словы сустракаюцца ў значнай колькасці фразеалагізмаў. Прыклады з кампанентам *вада* (узяты з беларускай дыялектнай мовы): *Бог воду вязе, гаўкаць на ваду, будзе тапіцца і вады не пазычыць, вывесці на халодную ваду, кіем па вадзе пісана, на гару ваду насіць, на халодную ваду, па вадзе хадзіць і вады прасіць, пусціць жабу ў ваду, сёмая вада на кісялі, як агонь з вадою, як агонь у ваду, як бічам па вадзе, як вада змыла, як вады напіцца, як рыба з вадой, як у ваду плюнуць, як у рэшаце вада, як у рэшаце вады, як чорт у ваду плюнуў* і інш.

З аддаленнем слоў лексіка-семантычнай групы ад яе цэнтра памяншаецца і іх фразеаўтваральны патэнцыял, «паколькі ў напрамку да перыферыі адбываецца ўскладненне і «згасанне» інварыянтнага значэння дадзенай ЛСГ, што тлумачыцца ўздзеяннем на перыферыйныя адзінкі семантыкі сумежных ЛСГ» [4, с. 7]. Так, у лексіка-семантычнай групе «вадкія рэчывы» з дамінантай *вада* перыферыйнымі выступаюць, напрыклад, такія словы, як *воцат, квас, памыі, пераліўкі, піва, расол*. Яны

зафіксаваны ў адзінкавых фразеалагізмах: *захацелася кабыле воцату, квас не пераліўкі, як памыямі абліты, піва ў бочцы таўчы, як расолам умыты*.

Менавіта такога роду кампаненты часцей не маюць семантычных адпаведнікаў у супастаўленых фразеалагічных сістэмах.

Лексічныя неадпаведнасці тлумачацца і экстралінгвістычнымі разыходжаннямі, звязанымі з гісторыяй, матэрыяльнымі ўмовамі народаў. Так, у нямецкай мове ёсць групы фразеалагізмаў з кампанентамі, якія адлюстроўваюць рыцарскую, суднаходную тэматыку, чаго няма ў беларускай мове.

Структурна-сінтаксічны аспект датычыць граматычнай будовы фразеалагізмаў. Фразеалагічныя кампаненты разглядаюцца ўжо не як лексемы, а як адзінкі марфалогіі, а сам фразеалагізм як структурна-сінтаксічнае ўтварэнне.

Важным паўстае пытанне пра ўдзел паўназначных часцінаў мовы ва ўтварэнні фразеалагізмаў. Вызначыць ролю кожнай часціны мовы можна, зрабіўшы пэўныя падлікі. Паказчыкам гэтага могуць служыць працэнтныя адносіны колькасці кампанентаў кожнай часціны мовы да агульнай колькасці кампанентаў, якія ўдзельнічаюць у фарміраванні граматычнай структуры фразеалагічнага фонду мовы. Статыстычны аналіз фразеалагізмаў беларускай, рускай і нямецкай моў паказаў наступныя лічбавыя суадносіны.

*Табліца 1 – Фразеаўтваральная актыўнасць лексічных часцін мовы*

| Часціны мовы | Усяго | Назоўнік | Дзеяслоў | Прыметнік | Прыслоўе | Іншыя |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Беларуская мова | 100 % | 49 % | 34 % | 9 % | 6 % | 2 % |
| Руская мова | 100 % | 48 % | 33,2 % | 11,9 % | 5,9 % | 1 % |
| Нямецкая мова | 100 % | 52,5 % | 30,5 % | 7,5 % | 8,5 % | 1 % |

Пры супастаўленні фразеалагічных сістэм важна знайсці абгрунтаванне колькасных несупадзенняў. Так, меншая ўдзельная вага прыметніка ў нямецкіх фразеалагізмах тлумачыцца тым, што ў нямецкай мове адсутнічаюць прыналежныя прыметнікі, а ад’ектыўна-субстантыўныя канструкцыі перадаюцца адным складаным словам: *кракадзілавы слёзы – Krokodilstränen, ахілесава пята – Achillesferse, танталавы мукі – Tantalusqualen, сіняя панчоха – Blaustrumpf.*

Сінтаксічны бок фразеалагізмаў – гэта іх структурна-сінтаксічныя схемы. У блізкароднасных фразеалогіях (напрыклад, беларускай і ўкраінскай) структурныя тыпы фразеалагізмаў амаль цалкам супадаюць. З аддаленнем роднасных сувязей ступень міжмоўных фразеалагічных адрозненняў узрастае. Напрыклад, у беларускай і нямецкай мовах фразеалагізмы са структурай двухсастаўнага сказа – аднолькава пашыраная з’ява: *у каго-н. вочы на лоб лезуць – jmdm quellen die Augen aus dem Kopf.* А вось фразеалагізмы са структурай аднасастаўнага сказа (безасабовага, абагульнена-асабовага, інфінітыўнага) характэрны толькі для беларускай мовы: *займае дух, за вушы не адцягнеш, рукой падаць.* У нямецкай мове яны адсутнічаюць.

Намечаныя тут асноўныя аспекты (статыстычны, семантычны, лексічны і структурна-сінтаксічны) пры рэальным даследаванні фразеалагічных сістэм у супастаўляльным плане патрабуюць удакладнення і канкрэтызацыі ў адпаведнасці з

характарам фразеалагічнага матэрыялу кожнай мовы, якi ў многiх выпадках дыктуецца спецыфiкай адзiнак розных моўных узроўняў.

### *Літаратура*

1. Райхштейн, А.Д. Сопоставительный анализ немецкой и русской фразеологии / А.Д. Райхштейн. – М.: Высш. школа, 1980. – 143 с.

2. Зиньков, А.Д. Ареальная характеристика общего фразеологического состава западнославянских языков / А.Д. Зиньков // Славянская фразеология в ареальном, историческом и этнокукльтурном аспектах: материалы III Междунар. науч. конф. (Гомель, 7-8 октября 2003 г.). – Гомель: УО «ГГУ им. Ф. Скорины», 2003. – С. 24–30.

3. Лапушинская, Н.О. Фразеологизмы с компонентами, называющими голову и ее части в русском, белорусском и западногерманских языках: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.20 / Н.О. Лапушинская; Гродненский государственный университет им. Янки Купалы. – Гродно, 2011. – 26 с.

4. Алефиренко Н.Ф. Фраземообразовательные аспекты ядерно-периферийных отношений в лексике / Н.Ф. Алефиренко // Ядерно-периферийные отношения в области лексики и фразеологии (на материале русского языка): тез. докл. респ. межвуз. науч. конф. (20 – 23 мая 1991 г.) / редкол.: В.Г. Дидковская, А.В. Жуков (отв. ред.), В.Н. Телия; Новгородский гос. пед. ин-т. – Новгород, 1991. – Ч. 1. – С. 6 – 8.

---

Першая публікацыя ў часопісе: *Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – № 2 (156). – 2013. – С. 67–70.*

## ФРАЗЕАЛАГІЧНАЯ СПАДЧЫНА МІХАЛА ФЕДАРОЎСКАГА

*Гэта скарбы нашых бацькоў, спадчына найбагацейшая, і казкі, і песні, і байкі дзядоў мілых. У пыл яны былі ўтаптаныя, як зярняты залатыя, я іх здабыў, а вы пасейце, каб вашыя будучыя пакаленні спорны плён сабралі.*
*М. Федароўскі*

Беларуская фразеалогія як навука зарадзілася ў 50–60-я гады XX ст., аднак падмурак яе рыхтаваўся задоўга да гэтага. Пачынаючы з XIX ст., праводзілася актыўнае збіранне фразеалагічнага матэрыялу жывой народнай мовы і апублікаванне яго ў часопісах, навуковых зборніках, слоўніках. Значную ролю ў гэтай справе адыгралі вядомыя фалькларысты, этнографы, мовазнаўцы У. Дыбоўскі, Я. Ляцкі, І. Насовіч, М. Нікіфароўскі, Е. Раманаў, А. Сержпутоўскі, Я. Тышкевіч, М. Федароўскі, Я. Чачот, П. Шпілеўскі, П. Шэйн і інш. Сярод апублікаванага калекцыі некаторых даследчыкаў з'яўляюцца асабліва каштоўнымі. Прыярытэтнае месца ў гэтых адносінах належыць Міхалу Федароўскаму. Яго шматтомнае фундаментальнае даследаванне «Люд беларускі», стварэнню якога аддадзена больш за 30 гадоў тытанічнай працы, належыць да найлепшых нацыянальна-культурных святыняў, што з годнасцю паказваюць самабытнасць, унікальнасць беларусаў у свеце.

Дзейнасць М. Федароўскага шматгранная і разнастайная. Яна звязана з такімі навукамі, як этнаграфія, фалькларыстыка, лінгвістыка, антрапалогія, міфалогія, гісторыя, археалогія, тапаграфія і інш. Не ўсё сабранае даследчыкам у роўнай ступені вывучана нашчадкамі. Часцей М. Федароўскага згадваюць як фалькларыста. Што да фразеалагічнай спадчыны збіральніка, то яна па сённяшні дзень застаецца слаба прааналізаванай.

Фразеалагізмамі густа аздоблены фальклорныя тэксты розных жанраў у кожным томе «Люду беларускага». Спецыяльна гэтыя звароты падаюцца ў 4-м томе, які выйшаў у 1935 годзе. У XIX ст. і пазней аж да 60-х гадоў XX ст. яшчэ не было выразнага разумення фразеалагізмаў як асобных адзінак, у зборніках яны падаваліся разам з прыказкамі і кваліфікаваліся як прымаўкі. Такой традыцыі трымаўся і М. Федароўскі. У яго калекцыі налічваецца 28000 картак з прыказкавымі, фразеалагічнымі і іншымі нататкамі. Не ўсё з гэтага багацця апублікавана. Чацвёрты том выйшаў у свет пасля смерці аўтара. Пры падрыхтоўцы яго да друку многае з рукапісных матэрыялаў па розных прычынах было апушчана. Уключана ў том толькі 13231 выслоўе.

У гэтай шматлікай масе моўных адзінак, пераважна прыказак, значнае месца адведзена фразеалагізмам. Паводле нашых падлікаў, іх (маюцца на ўвазе толькі адзінствы і зрашчэнні) тут больш за 3300. Лічба для фразеалагічнага збору досыць вялікая. Такой колькасці фразеалагізмаў беларускай дыялектнай мовы не ўдалося сабраць на працягу цэлага стагоддзя больш нікому. Для параўнання можна згадаць

набыткі іншых збіральнікаў. Так, калі заходзіць размова пра пачынальнікаў беларускай фразеаграфіі, то ў першую чаргу ўспамінаюць І. Насовіча. Аднак у працы І. Насовіча «Зборнік беларускіх прыказак» (1874) усяго 3715 рэестравых выслоўяў. З іх на долю фразеалагізмаў прыпадае звыш 900 адзінак. Іншыя фалькларысты XIX ст. не дасягнулі і гэтай лічбы. У XX ст. апублікавана некалькі фразеалагічных слоўнікаў дыялектнай мовы, але ніводзін з іх сваім аб'ёмам не можа зраўняцца з працай Міхала Федароўскага. Так, у слоўніку Ф.М. Янкоўскага «Беларуская фразеалогія» (1968) больш за 1000 фразеалагізмаў. Прыкладна такога ж аб'ёму і «Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі» (1972) Е.С. Мяцельскай і Я.М. Камароўскага. У кнізе І.Я. Лепешава «З народнай фразеалогіі» (1991) каля 7000, у «Слоўніку дыялектнай фразеалогіі» (2000) М.А. Даніловіча 2167 фразеалагізмаў. Толькі Г.Ф. Юрчанка дасягнуў узроўню М. Федароўскага па колькасці сабраных выразаў. У яго адносна поўным слоўніку адной гаворкі (Чырвонагорскага сельсавета Мсціслаўскага раёна), які выйшаў з друку трыма кнігамі «І коціцца і валіцца» (1972), «І сячэ і паліць» (1974), «Слова за слова» (1977) змешчана 4425 фразеалагізмаў з тэрыторыі лексічна-фразеалагічнага кантактавання беларускай і рускай моў. Аднак слоўнік Г.Ф. Юрчанкі значна ўступае па якасці і аб'ектыўнасці адлюстравання матэрыялу. У ім прыкметна праглядваецца «аўтарскі элемент»: канструяванне ілюстрацыйных сказаў, распрацоўка фразеалагізмаў, ужыванне якіх у гаворцы магчымае, а не рэальнае. Гэтую працу правільней было б назваць не фразеалагічным слоўнікам адной гаворкі, а слоўнікам фразеалагічнай кампетэнцыі аўтара, спраектаваным на гаворку Чырвонагорскага сельсавета.

Паводле І. Я.Лепешава, «4-ы том «Люду беларускага…» з поўнай падставай трэба лічыць першым беларускім рэгіянальным слоўнікам прыказак і фразеалагізмаў, у якім найбольш поўна адлюстравана фразеалагічнае (агульнанароднае і дыялектнае) багацце групы гаворак заходняй Беларусі» [1] канца XIX – пачатку XX стагоддзяў. Занатаваныя фразеалагізмы розныя паводле сферы ўжывання. Большасць належыць мове сялян, некаторыя запісаны у шляхецкім асяроддзі. Адны фразеалагізмы выступаюць агульнанароднымі, другія – міждыялектнымі, трэція – вузкарэгіянальнымі. Праведзены намі статыстычны аналіз паказаў, што звыш паловы фразеалагізмаў (каля дзвюх тысяч) не фіксуюцца слоўнікамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Многія з іх, арыгінальныя, непаўторныя сваёй вобразнай асновай, і сёння актыўна ўжываюцца ў беларускіх гаворках, пра што сведчаць дыялектныя слоўнікі: *адзін другога не пераважыць* (6001) 'вельмі падобныя, аднолькавыя, адзін не лепшы за другога', *аж кішка прутам стала* (5205) 'залішне многа (наесціся)', *ані баліць ані свярбіць* каму (405) 'абсалютна аднолькава для каго-н., не хвалюе, не кранае каго-н.', *(мяшаць) гарох з капустай* (2705) '(мяшаць) розныя несумяшчальныя рэчы', *дзе горкі перац расце* (6386) 'прэч (ісці, прагнаць)', *зайца (зайчыка) злавіць* (9551) 'ідучы, упасці на зямлю, падлогу', *за халодную водуні возьмецца* (8589) 'нічога не хоча рабіць', *купіць свінню і то яшчэ з парасятамі* (8156) 'напіцца', *пайшла кішка па раду* (3815) 'стала разносіцца ад аднаго да другога якая-н. чутка, плётка', *ражном пароць* (6836) 'моцна дапякаць, раздражняць', *скура гаворыць* на кім (8735) 'хто-н. залішне рухавы, неспакойны', *сухая арэнда* (6852) 'дармаўшчына, тое, што за нішто дасталося каму-н.', *таўкач кашы пакажа* (8223) 'хто-н. будзе пакараны', *у кішэні сядзець* у каго(3808) 'знаходзіцца ў поўнай залежнасці ад каго-н.', *што ў касцелі то ў пасцелі* (3680) 'на кім-н. адно і тое, на ўсе выпадкі жыц-

ця адзенне’, *шылам кашу (хлеб) есці* (6711) ‘не мець сродкаў для існавання’, *(пекна) як кветка сярод летка* (6103) ‘вельмі (прыгожая)’.

Уражвае, якую вялікую лінгвагеаграфічную прастору здолеў ахапіць М. Федароўскі: Гродзенскі, Сакольскі, Беластоцкі, Бельскі, Ваўкавыскі, Слонімскі, Навагрудскі, Слуцкі, Лідскі, Вілейскі, Свянцянскі, Ашмянскі паветы. Сустракаюцца запісы і з іншых паветаў: Брэсцкага, Пружанскага, Ігуменскага, Мінскага, Барысаўскага, Віленскага. Улічваючы, што М. Федароўскі не злоўжываў паслугамі карэспандэнтаў, а стараўся рабіць запісы сам, можна ўявіць, колькі сіл і часу давялося яму затраціць, каб абхадзіць, аб’ездзіць многія куточкі такога абшару. Як слушна заўважае Ф. Янкоўскі, «у гэтых адносінах з матэрыяламі М. Федароўскага не могуць спаборнічаць матэрыялы ні яго папярэднікаў, ні яго сучаснікаў» [2]. Найбольшая колькасць запісаў зроблена ў Ваўкавыскім і Слонімскім паветах – у месцах сталага пражывання на працягу многіх гадоў.

У працы М. Федароўскага, як ужо гаварылася, фразеалагізмы не даюцца асобным раздзелам. Знаходзім іх у розных пазіцыях: і цэлымі гнёздамі, і паміж прыказак з адпаведнай паслядоўнай нумарацыяй. Нярэдка яны выступаюць структурным элементам, будаўнічым матэрыялам самой прыказкі: Хто грошай не шануе, сам *гроша ніварт* (3052); Чужая крыўда *бокам вылазіць* (4071); Пазволь бабе пагуляць, *паверх галавы пойдзе* (263).

Перад складальнікам непазбежна паўставала пытанне, якім спосабам размяшчаць фразеалагізмы і прыказкі. У тыя часы дый пазней найбольш практыкаваліся алфавітны ці тэматычны спосабы адлюстравання такіх адзінак. М. Федароўскі ўбачыў, што выкарыстанне гэтых спосабаў у выніку прыводзіць да пэўных нязручнасцяў. Пры мэтавым адшукванні таго ці іншага выразу чытач нярэдка вымушаны праглядаць цэлую частку слоўніка, а то і ўвесь слоўнік ад пачатку і да канца. М. Федароўскі заўважыў рацыянальнасць іншага спосабу, які практыкаваўся тады слаба. Гэта размяшчэнне матэрыялу па апорных словах. Такі парадак сістэматызацыі і быў узяты на узбраенне. Яго мэтазгоднасць пацвердзіла далейшая фразеаграфічная практыка. Сёння грунтоўныя фразеалагічныя слоўнікі і беларускай, і ўкраінскай, і рускай, і іншых моваў створаны менавіта такім спосабам. Яго пачынаюць выкарыстоўваць і парэміёграфы. Нашы разважанні зводзяцца да таго, што М. Федароўскі быў не толькі руплівым збіральнікам, але і кваліфікаваным стратэгам у выбары метадычных падыходаў. Не маючы спецыяльнай філалагічнай адукацыі, ён ужо стагоддзе назад усвядоміў перспектыўнасць спосабаў укладання слоўніка, да якіх сучасныя навукоўцы прыйшлі адносна нядаўна.

Важная асаблівасць запісаў М. Федароўскага – гэта іх аўтэнтычнасць, адпаведнасць арыгіналу. Даследчыкі XIX ст. (за выключэннем Я. Ляцкага) не вельмі клапаціліся пра дакладнае фанетычнае адлюстраванне сабранага матэрыялу пры яго апублікаванні. Напрыклад, І. Насовіч не адлюстроўваў такія рысы беларускай моўнай сістэмы, як аканне і яканне, зацвярдзенне некаторых зычных, *ў* (нескладовае), спецыфічныя канчаткі і інш., падмяняючы іх рускамоўнымі: *ани горѣлаго шелега нема, бывъ и въ коле и въ мяле, вовка стрѣв, вочи по яблоку, голова съ орѣхъ, в ложцѣ утопивъ бы.* М. Федароўскі не дапускаў падобных вольнасцяў у абыходжанні з фактычным матэрыялам, «ён лічыў, што нядобрасумленнасць запісаў, абыякавасць ці нядбайнасць у працы, а тым больш выдумка, адвольная фантазія – недаравальная справа ў навуцы» [3]. Карыстаючыся графікай польскай мовы, М. Федароўскі пэўным чынам дастасаваў яе да беларускага

вымаўлення і стараўся па магчымасці перадаваць на пісьме пачутае без скажэнняў, з захаваннем як агульнабеларускіх, так і рэгіянальных асаблівасцяў: *jak z nièba spàŭ* (5341), *z pustòho й paròżnieje piäraliwàć* (5984), *apuścić krỳła* (4065).

Адлюстраванне фразеалагізмаў суправаджаецца абавязковай іх пашпартызацыяй – называннем павета, у якім быў зроблены запіс. Акрамя таго, фразеалагізмы паказваюцца на агульнаславянскім фоне. М. Федароўскі ажыццявіў, здавалася б, неверагоднае, чаго не ўдалося зрабіць яшчэ ніводнаму даследчыку. Беларускія фразеалагізмы і прыказкі ён супаставіў з адпаведнікамі ў суседніх славянскіх мовах – польскай, украінскай, рускай, чэшскай. Давялося прааналізаваць больш за сто тысяч выразаў і іх варыянтаў з дваццаці шасці выданняў. Дзеля гэтага было затрачана некалькі гадоў напружанай працы.

Хоць прыказкі і фразеалагізмы М. Федароўскі падаваў разам, але тым не менш адчуваў розніцу паміж імі. Пра гэта сведчыць слоўнікавая распрацоўка апошніх. Большасць фразеалагізмаў забяспечана дэфініцыяй. Выкарыстоўваюцца сціслыя тлумачэнні: *бачыўся з шкляным Богам* – напіўся (661), *ката ў нос пацалуе* – дарэмная фатыга (3957), *як з голкі зняты* – новы, свежы (2904). Нярэдка прыводзяцца разгорнутыя тлумачальныя формулы: *голас у голас, волас у волас* – вялікае падабенства як паміж людзьмі, так і жывёламі (2902), *кулачок пад бачок* – калі бракуе пасцелі; няма на чым спаць: ні сянніка, ні падушкі (4103).

Для лепшага асэнсавання фразеалагізмаў, утвораных на аснове фальклорных твораў (анекдотаў, жартаў, народных апавяданняў), рэальных гістарычных ці сацыяльна-бытавых фактаў, дадаюцца самі гэтыя творы ці кароткія этымалагічныя нататкі. Напрыклад, да фразеалагізма *(спяшацца) як той мужык з оцтам* (8089) прыводзіцца жарт: «Як той мужык пайшоў па воцат для жонкі, то вярнуўся праз сем гадоў і то ў сенях упаў з бутэлькаю, разбіў і кажа: «От табе паспех!» Не жарт, як спяшаўся – сем гадоў воцат нёс».

Пры фразеалагізмах знаходзім розную іншую інфармацыю пра іх (сфера ўжывання, сітуацыйная характарыстыка, паходжанне): *ідзе на дым* – Выраз паляўнічы. Пасля нятрапнага стрэлу звер кідаецца на паляўнічага (3222); *ад пекла адарваўся, да неба не дастаўся* – Рэнегат, адшчапенец. У выпадку, калі хтосьці ўчыніць няўдалыя замены – пераходзіць на іншую веру, змяняе службу, месца, пасаду і г.д. (6090); *ні адвету ні прывету* – з расейскага (98).

М. Федароўскі – адзін з першых, хто заклаў асновы практычнай беларускай фразеаграфіі. Пры распрацоўцы слоўнікавага артыкула ён кіраваўся (хоць не заўсёды паслядоўна і рэгулярна) правіламі, якія сёння лічацца абавязковымі пры складанні слоўнікаў. Гэта, напрыклад, адлюстраванне варыянтнасці. Даследчык уважліва ставіўся да варыянтаў, занатаваў вялікую іх колькасць, нават планаваў паказаць іх у геаграфічным парадку, ідучы ад усходніх паветаў да ўласна польскай тэрыторыі. Праўда, многія варыянты пры падрыхтоўцы 4-га тома дзеля эканоміі друкаванай плошчы былі апушчаны выдаўцамі. Тым не менш значная частка іх захавалася, выяўляючы ўсе тыпы варыянтнасці, найперш лексічнай: *гані (шукай) ветру ў полі (полю)* (2658), *дзе нашо ні прападае (ні пераходзіць)* (5249), *з'ехаў на пусты (ліхі) канец* (3569), *качаецца яксвіння ў балоці (берлагу)* (3503), *на языку і рак (халодная жаба) ні спячэцца* (3336), *язык як мента (менця)* (3311). У граматычна зменных фразеалагізмаў часткова паказваюцца іх

марфалагічныя формы: *аж мурашкі па целе пабеглі (бегаюць)* (5037), *за што купіў (-ла) за тое прадаю (прадае)* (4132), *у кульгаваго кій адняў(аднімаюць, адняли)* (4102).

Важнае значэнне М. Федароўскі надаваў спалучалнасці фразеалагізмаў, бо гэта адзін з асноўных спосабаў раскрыцця, удакладнення, пацвярджэння фразеалагічнай семантыкі. Фразеалагізмы з валентна абмежаваным значэннем даюцца ў адным кантэксце з абавязковымі словамі-суправаджальнікамі: *гаворыць ні ў пяць ні ў дзевяць* (2799), *гладка як аладка (галка)* (2857), *грошай як у чорта* (3066), *кусочак з камаровы насочак* (4169), *ляпнуў як з пастала* (4225), *наеўся круп шылам* (4044). Да фразеалагізмаў з канструкцыйна абмежаваным значэннем, якія рэалізуюцца ў строга акрэсленай сінтаксічнай канструкцыі, прыводзяцца займеннікавыя ці іншыя паказчыкі, што абазначаюць абавязковую залежную форму: *грахі* з каго *знімаць* (3026), *цягнуць* каго *за язык* (3302), *сесць* каму *на карку* (3603), у яго *язык доўгі* (3347), яго (яе) *кошка за адну вячэру з'ела* (3931).

Як бачым, фразеалагізмы прыводзяцца ў міні-кантэкстах, у фрагментах маўленчага выкарыстання. Нярэдка для большага разумення значэння фразеалагізма дадаюцца ілюстрацыйныя прыклады, запісаныя ад носьбітаў гаворак. Параўн. ілюстрацыі да фразеалагізмаў *ані языка ні ўваткнуць* (3298), *у рамачкі асадзіць* (6768): *Хоць пан заняў маю карову ў хлеў, але, дальбо, паночку, яна ані языка ў панскі лес ні ўваткнула; Ні жарт які пекны, хоць яго ў рамачкі асадзі.*

Сабраныя М. Федароўскім больш чым стагоддзе назад фразеалагізмы нельга разглядаць толькі як гістарычныя факты мовы. Яны маюць вялікае значэнне для сучаснай практычнай і тэарэтычнай лінгвістыкі. Да іх звяртаюцца фразеографы пры вызначэнні норм літаратурнай мовы, этымолагі пры высвятленні вытокаў асобных выразаў, славісты пры тыпалагічным даследаванні фразеалогіі роднасных моваў. Гэта найкаштоўнейшы матэрыял для складання зводнага слоўніка фразеалагізмаў беларускай нацыянальнай мовы, для вывучэння фразеалогіі ў яе гістарычным развіцці.

*Літаратура*


1. Лепешаў, І.Я. Фразеалогія сучаснай беларускай мовы/ І.Я. Лепешаў. – Мінск : Выш. шк., 1998. – 271 с.
2. Янкоўскі, Ф.М. Беларуская мова / Ф.М. Янкоўскі. – Мінск : Выш. шк., 1978. – 336 с.
3. Саламевіч, Я. Міхал Федароўскі / Я. Саламевіч. – Мінск : Выш. шк., 1972. – 384 с.


---

Першая публікацыя ў часопісе: *Роднае слова. – 2003. – № 9. – С. 39–41.*

## НАДЗЁННЫЯ ЗАДАЧЫ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ ФРАЗЕАГРАФІІ

Можна вылучыць тры этапы развіцця беларускай дыялектнай фразеаграфіі. Першы этап прыпадае на той час, калі фразеалогія як асобны раздзел мовазнаўства яшчэ не была сфарміравана. Прыблізныя межы гэтага перыяду – першая палова XIX ст. – пачатак другой паловы XX ст. Вызначальнай асаблівасцю яго з'яўляецца тое, што народна-дыялектныя фразеалагізмы збіраліся і публікаваліся дастаткова актыўна, але яшчэ невыразна ўсведамляліся як асобныя моўныя адзінкі. Іх разам з іншымі выразамі змяшчалі ў зборніках прыказак і прымавак.

У XIX ст. значную ролю ў гэтай справе адыгралі вядомыя фальклярысты, этнографы, мовазнаўцы Я. Чачот, У. Дыбоўскі, І. Насовіч, М. Нікіфароўскі, Е. Раманаў, А. Сержпутоўскі, М. Федароўскі, П. Шпілеўскі, П. Шэйн і інш. Фразеалагічныя зборы асобных даследчыкаў з'яўляюцца досыць салíднымі. Так, у «Зборніку беларускіх прыказак» (1874) І. Насовіча з 3715 рэестравых выслоўяў на долю фразеалагізмаў прыпадае больш за 900 адзінак. Прыярытэтнае месца ў гэтых адносінах належыць М. Федароўскаму. У яго 4-ым томе «Люду беларускага» (1935) уключана 13231 выслоўе. У гэтай шматлікай масе моўных і фальклорных адзінак значнае месца займаюць фразелагізмы. Паводле нашых падлікаў, толькі фразеалагічных адзінстваў і зрашчэнняў тут больш за 3300. Такой колькасці фразеалагізмаў беларускай дыялектнай мовы не ўдалося сабраць на працягу цэлага стагоддзя больш нікому.

У XX ст. фальклярыстычная традыцыя падаваць прыказкі і фразеалагізмы разам у выглядзе алфавітных спісаў працягвалася. Пераважна ў пасляваенны перыяд апублікавана шмат зборнікаў і падборак прыказак і прымавак. Прыкметнае месца сярод іх займаюць «Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі» (1957) Ф. Янкоўскага, «Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі» (1958) Я. Рапановіча, «Прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы, выслоўі народных гаворак Гродзенскай вобласці» (1968) Т.Ф. Сцяшковіч, «Слова міма не ляціць» (1985) В.Д. Ліцвінкі і Л.А. Царанкова, зводныя акадэмічныя выданні «Прыказкі і прымаўкі: У 2 т.« (1976) і «Выслоўі» (1979).

Другі этап развіцця беларускай дыялектнай фразеаграфіі ахоплівае шасцідзясятыя – васьмідзясятыя гады XX ст. Гэта час зараджэння, станаўлення і развіцця фразеалогіі як самастойнай навукі. Навуковае асэнсаванне фразеалагізмаў выклікала патрэбу іх сістэматызацыі і слоўнікавага апісання. Ствараюцца фразеалагічныя слоўнікі, заснаваныя на вопыце лексікаграфіі: «Беларуская фразеалогія» (1968) Ф. Янкоўскага, «Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі» (1972) Е.С. Мяцельскай і Я.М. Камароўскага, фразеалагічны слоўнік Г.Ф. Юрчанкі ў трох кнігах «І коціцца і валіцца» (1972), «І сячэ і паліць» (1974), «Слова за слова» (1977). Характар гэтых слоўнікаў недыферэнцыйны. Яны адлюстроўваюць так званую народную фразеалогію (і дыялектную, і агульнаўжывальную, вядомую літаратурнай мове).

Пачатак трэцяга этапу акрэсліваецца 90-мі гадамі XX ст. Яго вызначальная асаблівасць – стварэнне дыялектных фразеалагічных слоўнікаў новага тыпу – дыферэнцыйных. Апублікаваны такія працы, як «З народнай фразеалогіі» (1991) І.Я. Лепешава , «Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны» (2000) М.А. Даніловіча. Складанне дыферэнцыйных слоўнікаў стала магчымым таму, што на гэты час ужо дастаткова грунтоўна распрацавана тэорыя агульнай і беларускай літаратурнай фразеалогіі, выдадзены нарматыўны адносна поўны двухтомны літаратурны «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» (1993) І.Я. Лепешава , што давала магчымасць, арыентуючыся на кадыфікаваную норму, адрозніваць і размяжоўваць дыялектныя і літаратурныя факты.

На кожным этапе даследчыкамі ўнесены значны ўклад у справу збірання і сістэматызацыі фразеалогіі дыялектнай мовы. Вельмі важнае фактаграфічнае значэнне маюць калекцыі фразеалагізмаў у межах прыказак, асабліва тыя, што сабраны ў XIX ст. Яны складаліся без арыентацыі на беларускую літаратурную мову, якая на той час яшчэ не была сфарміравана, і пададзеныя ў іх фразеалагізмы характарызуюцца першароднай натуральнасцю. Аднак сёння такі спосаб рэгістрацыі фразеалагізмаў

з’яўляецца неэфектыўным. У наш час аб’яднанне фразеалагізмаў і прыказак – прыкмета кансерватызму ці недастатковай лінгвістычнай кампетэнтнасці. Гэта не адпавядае дасягненням сучаснай фразеалогіі і парэміялогіі як самастойных раздзелаў навукі, што разглядаюць фразеалагізм і прыказку ў якасці асобных моўных катэгорый. Да таго ж рэгістрацыя «голых» фразеалагізмаў без тлумачэння і кантэксту, без граматычнай і стылістычнай характарыстыкі – пройдзены этап, занятак, варты хіба што толькі аматараў народнага слова, краязнаўцаў.

На другім і трэцім этапах развіцця фразеаграфіі аўтары спецыяльных фразеалагічных слоўнікаў вырашалі больш складаныя задачы, скіраваныя на кваліфікацыйную характарыстыку зафіксаваных у гаворках фразеалагізмаў з боку іх семантычнай ідэнтыфікацыі, марфалагічных і спалучальных уласцівасцей, функцыянавання ў маўленні, арэальнага бытавання.

Наколькі поўна ахоплена фразеалогія беларускай дыялектнай мовы згаданымі вышэй слоўнікамі? Адразу трэба сказаць, што адлюстраванне яе выбарачнае і частковае. Так, у слоўніку Ф. Янкоўскага сабрана толькі звыш 1000 фразеалагізмаў, запісаных у асобных рэгіёнах Беларусі. Прыкладна такога ж аб’ёму і слоўнік Е.С. Мяцельскай і Я.М. Камароўскага, у які ўключаны фразеалагізмы пераважна са Слуцкага і Стаўбцоўскага раёнаў. Слоўнік Г.Ф. Юрчанкі, створаны на матэрыяле гаворкі Чырвонагорскага сельсавета Мсціслаўскага раёна, большага аб’ёму – 4425 слоўнікавых артыкулаў. Аднак ён значна ўступае якасцю і аб’ектыўнасцю адлюстравання матэрыялу. У ім прыкметна праглядваецца «аўтарскі элемент»: штучнае канструяванне ілюстрацыйных сказаў, распрацоўка асобных фразеалагізмаў, ужыванне якіх у гаворцы хутчэй магчымае, чым рэальнае. Гэтую працу можна назваць не слоўнікам фразеалогіі адной гаворкі, а слоўнікам фразеалагічнай кампетэнцыі аўтара ў сферы беларуска-рускай фразеалогіі, спраектаванай на гаворку Чырвонагорскага сельсавета.

Дыферэнцыйныя слоўнікі адлюсроўваюць пазалітаратурную фразеалогію таксама далёка не поўна. Так, у слоўніку І.Я. Лепешава каля 700, у слоўніку М.А. Даніловіча 2167 фразеалагізмаў.

Паводле нашых прыкідак, усе апублікаваныя фразеалагічныя слоўнікі спалучаюць у сабе каля 5000 фразеалагічных адзінак, у той час як у беларускай дыялектнай мове іх у некалькі разоў больш.

Назіраецца нераўнамернае абследаванне фразеалогіі рэгіёнаў Беларусі. Найлепш у дыялектаграфічных даведніках парадзена фразеалогія Гродзеншчыны, слабей – Міншчыны і Магілёўшчыны, яшчэ слабей – Віцебшчыны, Гомельшчыны і Брэстчыны.

Відавочна, што задача стварэння абласных фразеалагічных слоўнікаў і сёння застаецца актуальнай. Ідэальная перспектыва рэалізацыі гэтай задачы – складанне фразеалагічных слоўнікаў па кожнай тэрытарыяльна-адміністрацыйнай вобласці Беларусі: Віцебскай, Магілёўскай, Гомельскай і г.д. Вялікую навуковую каштоўнасць мелі б фразеалагічныя слоўнікі моўнага памежжа – беларуска-польскага, беларуска-балтыйскага, беларуска-рускага, беларуска-ўкраінскага. Назіранні паказваюць, што ў зоне моўнага кантактавання дыялектных фразеалагізмаў утворана значна больш, чым у цэнтры асноўнага нацыянальна-моўнага масіву. Часта для гэтага выкарыстоўваюцца рэсурсы і адной, і другой мовы. З прыемнасцю можна адзначыць, што задума слоўніка падобнага тыпу ўжо ёсць. У Магілёўскім дзяржаўным універсітэце, як было заяўлена ў друку, калектыў дыялектолагаў на падставе сабранага матэрыялу гатовы «прыступіць

да падрыхтоўкі асобнага фразеалагічнага слоўніка магілёўска-смаленскага пагранічча» [1, 81].

Узнікае пытанне, што больш патрэбна – укладанне адносна поўнага слоўніка, які ахапіў бы ўсю занатаваную фразеалогію, ці дыферэнцыйнага, абмежаванага выразамі рэгіянальнага характару. Для развіцця фразеаграфіі, несумненна, важным з'яўляецца выхад слоўніка любога тыпу. Напрыклад, заўсёды цікавым і арыгінальным будзе слоўнік мясцовых, самабытных фразеалагізмаў, невядомых літаратурнай мове. Аднак да гэтага часу не створаны ніводзін абласны адносна поўны недыферэнцыйны слоўнік, які, па магчымасці, максімальна ўвабраў бы ў сябе і агульнаўжывальную, і дыялектную фразеалогію пэўнага моўнага рэгіёна. Адсутнасць такіх слоўнікаў – значная перашкода ў правядзенні шматлікіх навуковых даследаванняў, напрыклад такіх, як арэальна-тыпалагічная характарыстыка фразеалагізмаў, узаемадзеянне фразеалогіі дыялектнай і літаратурнай моў, фарміраванне літаратурнай фразеалагічнай нормы, складанне зводнага слоўніка фразеалогіі беларускай нацыянальнай мовы.

Стварэнне падобных слоўнікаў патрабуе мабілізацыі навуковых сіл спачатку для выяўлення і назапашвання фактычнага матэрыялу. З гэтай мэтай варта выкарыстаць розныя даступныя крыніцы, сярод якіх найважнейшай па-ранейшаму застаюцца жывыя гаворкі. Яны захоўваюць мноства фразеалагізмаў, як вузкарэгіянальных, так і адносна шырокага арэалу, яшчэ не заўважаных даследчыкамі. Вынікам палявога вывучэння фразеалогіі могуць стаць падборкі фразеалагізмаў адной вёскі, сельсавета, раёна, некалькіх раёнаў, і іх апублікаванне ў зборніках фразеалагічных артыкулаў ці ў выглядзе матэрыялаў да слоўніка.

Для абласных слоўнікаў значныя рэзервы фактычнага матэрыялу захоўваюцца ў картатэчных фондах на кафедрах беларускай мовы абласных універсітэтаў (раней педінстытутаў). Дыялекталагічныя картатэкі на гэтых кафедрах збіраліся гадамі, а то і дзесяцігоддзямі пераважна па выніках студэнцкіх дыялекталагічных практык і, акрамя лексічных збораў, утрымліваюць шмат фразеалагізмаў.

Пры складанні зводнага абласнога слоўніка трэба мець на ўвазе і розныя апублікаваныя крыніцы. Гэта ў першую чаргу ранейшыя фразеалагічныя слоўнікі дыялектнай мовы. Іх можна разглядаць як фрагменты, частковае, прамежкавае звяно ў справе стварэння поўных абласных слоўнікаў.

Значную паслугу фразеолагам маглі б аказаць лексікографы. Складаючы лексічныя слоўнікі, яны, як правіла, не абыходзяць увагай і фразеалагізмы. У сувязі з гэтым хацелася б выказаць некаторыя меркаванні адносна спосабу падачы фразеалагізмаў у лексічных слоўніках. У лексікаграфічнай практыцы дамінуе такі спосаб адлюстравання фразеалагізмаў, як прывязванне іх да слоўнікавага артыкула, прысвечанага лексічнай адзінцы, што выкарыстоўваецца і ў якасці фразеалагічнага кампанента. Месца такіх фразеалагізмаў звычайна ў канцы артыкула за ўмоўным графічным знакам, пераважна ◊. З дапамогай гэтага спосабу ўдаецца адлюстраваць непасрэдна лексічна-фразеалагічныя сувязі, у адным слоўнікавым артыкуле паказаць само слова і яго адносіны да выяўленых у гаворках фразеалагізмаў. Бездакорна гэты спосаб працуе пры складанні адносна поўных слоўнікаў, якія ахопліваюць лексіку і дыялектную, і агульнанародную. Аднак у дыферэнцыйных слоўніках магчымасці яго абмежаваныя. Як вядома, слоўнікі гэтага тыпу фіксуюць лексіку выбіральна, тую, якая адносіцца да лексічных дыялектызмаў. Рэестр выключна дыялектнай лексікі дазваляе прывязаць да слоўнікавых артыкулаў толькі тыя фразеалагізмы, у структуру якіх уваходзіць адпаведнае дыялектнае слова. Даследаванні паказалі, што такіх фразеалагізмаў у гаворках менш за 20%. Прыкладна

80% дыялектных фразеалагізмаў узніклі на аснове словазлучэнняў і сказаў, у складзе якіх усе словы з'яўляюцца агульнанароднымі, вядомымі і літаратурнай мове, і гаворкам. Такія фразеалагізмы не «вяжуцца» да слоўнікавых артыкулаў, і складальнікі, строга прытрымліваючыся правіл дыферэнцыяцыі, павінны выбракоўваць гэты каштоўны матэрыял.

Эфектыўным выступае іншы спосаб, пры якім фразеалагізмы ў лексічным слоўніку падаюцца асобна, самастойнай часткай у адпаведнасці з усімі правіламі фразеаграфіі (слоўнік у слоўніку). Ён дазваляе аб'яднаць усе сабраныя фразеалагізмы ў пэўнай сістэме. Універсальнасць яго ў тым, што ён падыходзіць да лексічных слоўнікаў розных тыпаў і садзейнічае больш якаснай распрацоўцы як рэгіянальнай, так і агульнанароднай фразеалогіі дыялектаў.

У выдадзеных дыялектных лексічных слоўніках змешчана вялікая колькасць фразеалагізмаў. Як дапаможны, спадарожны ў адносінах да лексікі матэрыял, яны рознымі спосабамі прымацоўваюцца да слоўнікавых артыкулаў і вымагаюць адшукванне іх на ўсёй плошчы слоўнікаў. Вельмі каштоўнай крыніцай фразеалогіі ў гэтых слоўніках выступаюць таксама сказы-ілюстрацыі, дзе фразеалагізмы спецыяльна не абазначаюцца. Напрыклад, у «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: У 5 т.» (1979–1986) такія спецыяльна не вылучаныя, «выпадковыя» фразеалагізмы, сустрэтыя ў ілюстрацыйных прыкладах, складаюць 63% ад усіх 2000 заўважаных у слоўніку фразеалагічных адзінак.

Яшчэ адной пісьмовай крыніцай фразеалогіі выступаюць зборы фальклорных твораў. Асобнае месца сярод іх, як ужо адзначалася, займаюць падборкі і зборнікі прыказак і прымавак, у якіх сканцэнтравана шмат фразеалагізмаў. Акрамя гэтага, за апошнія два стагоддзі апублікавана вялікая колькасць іншых аўтэнтычных тэкстаў вуснай народнай творчасці, запісаных у розных кутках Беларусі. Гэтыя тэксты шчодра «аздоблены» фразеалагізмамі, многія з якіх і сёння бытуюць у жывой дыялектнай мове. Фразеалогія беларускага фальклору яшчэ чакае свайго сур'ёзнага даследчыка.

Дапаможнай крыніцай фразеалагічнага матэрыялу могуць стаць творы мастацкай літаратуры. Асобныя пісьменнікі, абапіраючыся на сродкі сваёй роднай гаворкі, уводзяць у аўтарскі тэкст ці ў маўленне персанажаў лексічныя і фразеалагічныя дыялектызмы. Напрыклад, дыялектная фразеалогія Гродзеншчыны часткова знайшла сваё адлюстраванне ў творчасці такіх пісьменнікаў, як Янка Брыль, Аляксей Карпюк, Вячаслаў Адамчык, Артур Цяжкі і інш.

Такім чынам, склаліся спрыяльныя перадумовы новага этапу ў гістарычным развіцці беларускай дыялектнай фразеаграфіі, характэрная асаблівасць якога – стварэнне абласных адносна поўных фразеалагічных слоўнікаў. Маюцца значныя папярэднія напрацоўкі, багатыя крыніцы фактычныга матэрыялу. І ў Інстытуце мовазнаўства НАН Беларусі, і ў БДУ, і ва універсітэтах абласных цэнтраў ёсць дастаткова кваліфікаваных дыялектолагаў і фразеолагаў, якія маглі б распачаць гэтую справу не адкладваючы.

*Літаратура*

1.Сузанович, В.Б. Фразеологические единицы и их место в региональных словарях / В.Б. Сузанович, Л.И. Шаповалова // Актуальные проблемы славянской фразеологии. – Гомель, 1999. – С. 79–82.

Першая публікацыя ў зборіку: *Сучасныя праблемы беларускай лексікалогіі і лексікаграфіі: матэрыялы Міжнар. навук. канф. (Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, 19-20 лістапада 2005 г.). – Мінск: Права і эканоміка, 2006. – С. 109–116.*

Такім чынам, улік марфалагічнага паказчыка пры вылучэнні апорнага кампанента рэалізуецца наступным чынам. Апорным трэба прызнаць назоўнікавы кампанент *(вольны **казак**)*. Калі ў складзе фразеалагізма два ці больш назоўнікаў, то ў якасці апорнага выбіраецца першы з іх *(сыпаць **соль** на рану, сем **вёрст** да нябёс і ўсё лесам)*. Пры адсутнасці назоўніка функцыю апорнага выконвае дзеяслоў *(тады тое **будзе**, як **піць** даць)*. Калі ў фразеалагізме няма ні назоўніка, ні дзеяслова, то ў ролі апорнага выступае любая паўназначная часціна мовы, якая стаіць у фразеалагізме першай *(як **міленкі**, **першы**-лепшы, не **хто** іншы як, як **двойчы** два)*. У тых рэдкіх выпадках, калі няма ніводнага кампанента, адпаведнага самастойнай часціне мовы, пад увагу бярэцца першы кампанент – службовая часціна мовы *(**ні**-ні, **вось**-вось)*. Такая працэдура вылучэння апорнага кампанента не патрабуе спецыяльнай філалагічнай адукацыі, яна нескладаная, даступная кожнаму, хто вывучаў граматыку ў сярэдняй школе і ведае паняцці «назоўнік», «дзеяслоў», «самастойная часціна мовы», «службовая часціна мовы».

Улік апорнага кампанента на марфалагічнай аснове найбольш мэтазгодны ў фразеаграфіі. Лёгкасць вызначэння яго дазваляе падаваць фразеалагізм у слоўніку толькі адзін раз. Няма патрэбы паўтараць фразеалагізм пад неапорнымі кампанентамі і выкарыстоўваць груваcткую сістэму адсылак да апорна-гнездавога слова (хоць зусім адмовіцца ад іх усё ж немагчыма). Думаецца, будучыня менавіта за такім спосабам падачы фразеалагізмаў у слоўніках новага пакалення, даступных і зручных у выкарыстанні, якія, сапраўды, можна будзе лічыць нашымі надзейнымі сябрамі і памочнікамі.

### *Літаратура*


1.Лепешаў, І. Я. З народнай фразеалогіі : дыферэнц. слоўнік / І. Я. Лепешаў. – Мінск : Выш. шк., 1991. – 110 с.

2.Даніловіч, М. А. Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч. – Гродна : ГрДУ, 2000. – 267 с.

3.Янкоўскі, Ф. Беларуская фразеалогія : фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне / Ф. Янкоўскі. Мінск : Выш. шк., 1968. – 448 с.

4.Гаўрош, Н. В. Фразеалагічны слоўнік : для сярэдняй школы / Н. В. Гаўрош, І. Я. Лепешаў, Ф. М. Янкоўскі. – Мінск : Нар. асвета, 1973. – 352 с.

5.Мяцельская, Е. С. Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі / Е. С. Мяцельская, Я. М. Камароўскі. – Мінск : Выд-ва БДУ, 1972. – 320 с.

6.Лепешаў, І. Я. Слоўнік фразеалагізмаў: у 2 т. / І. Я. Лепешаў. – Мінск : Беларус. энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2008. – Т. 1 – 672 с.; Т. 2. – 704 с.

7. Ляшчынская, В. А. Слоўнік фразеалагізмаў мовы твораў Янкі Купалы / В. А. Ляшчынская, З. У. Шведава; М-ва адукацыі РБ, Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны. – Гомель : ГДУ імя Ф. Скарыны, 2007. – 312 с.

8. Фразеологический словарь русского языка : свыше 4 000 словарных статей / сост. Л.А. Войнова, В.П. Жуков, А.И. Молотков, А.И. Федоров; под ред. А.И. Молоткова. – 3-е стереотип. изд. – М. : Русский язык, 1978. – 543 с.

9. Жуков, В.П. Русская фразеология : учеб. пособие для филол. спец. Вузов / В.П. Жуков. – М. : Высш. шк., 1986. – 310 с.

10. Жуков, В.П. Семантика фразеологических оборотов : учеб. пособие для пед. ин-тов / В.П. Жуков. – М. : Просвещение, 1978. – 160 с.

11. Лепешаў, І.Я. Сучасная беларуская літаратурная мова : спрэчныя пытанні : дапаможнік / І.Я. Лепешаў. – Гродна : ГрДУ, 2002. – 207 с.

12. Фразеологічний словник української мови / уклад. : В.М. Білоноженко та ін. – К. : Наук. думка, 1999. – 984 с.
13. Сцяшковіч, Т. Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці / Т. Ф. Сцяшковіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1983. – 671 с.
14. Юрчанка Г. Ф. І коціцца і валіцца: устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны / Г.Ф. Юрчанка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1972. – 288 с.
15. Aksamitow, A. Słownik frazeologiczny białorusko-polski = Беларуска-польскі фразеалагічны слоўнік / A. Aksamitow, M. Czurak. – Warszawa : InstytutSławistykiPAN, 2000. – 260 s.
16. Бирих, А.К. Словарь русской фразеологии : историко-этимологический справочник / А.К. Бирих, В.М. Мокиенко, Л.М. Степанова. – СПб. : Фолио-Пресс, 1988. – 704 с.
17. Ужченко, В.Д. Фразеологічний словник східнослобожанських і степових говірок Донбасу / В.Д. Ужченко, Д.В. Ужченко. – Луганськ : Альма матер, 2002. – 263 с.
18. Русско-болгарский фразеологический словарь / К. Андрейчина и др.; под ред. С. Влахова. – М. : Рус. яз.; София: Наука и искусство, 1980. – 584 с.
19. Гюлумянц, К. М. Польско-русский фразеологический словарь : в 2 т. Т 1. А–М / К. М. Гюлумянц. – Минск.: Экономпресс, 2004. – 688 с.
20.Фразеалагічны слоўнік мовы твораў Я. Коласа: звыш 6000 слоўн. арт. / уклад. А.С. Аксамітаў і інш.; пад рэд А.С. Аксамітава. – Мінск : Навука і тэхніка, 1993. – 655 с.

---

Друкуецца ўпершыню.

## ЭТЫМАЛАГІЧНАЯ ДАВЕДКА Ў ТЛУМАЧАЛЬНЫХ СЛОЎНІКАХ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ

Асноўная задача тлумачальных слоўнікаў фразеалагізмаў – раскрыць значэнне фразеалагічных адзінак. Аднак нярэдка фразеалагізмы вымагаюць спадарожнай этымалагічнай даведкі ў слоўнікавым артыкуле. Такая даведка дапамагае зразумець, як узнік фразеалагізм, і гэтым самым садзейнічае лепшаму асэнсаванню яго семантыкі. Яна раскрывае механізм пераасэнсавання, праўтварэння свабоднага словазлучэння ў фразеалагізм, тлумачыць сэнс і характар слоў, якія ўваходзяць у склад фразеалагізма. Даведкі такога тыпу звычайна кароткія, лаканічныя.

У першых беларускіх фразеалагічных слоўніках этымалагічны каментар сустракаецца нячаста. Так, у прадмове да слоўніка Ф. Янкоўскага «Беларуская фразеалогія» чытаем: «У частцы артыкулаў маюцца кароткія этымалагічныя меркаванні, звернута ўвага на «ўнутраную форму» фразеалагізмаў. Іншы раз даведка пра ўзнікненне фразеалагізма адначасова з'яўляюцца і тлумачэннем яго сэнсу» [4, с. 19]. У слоўніках наступных дзесяцігоддзяў этымалагічная трактоўка фразеалагізмаў набывае больш рэгулярны характар.

Пад этымалагічнае тлумачэнне падпадаюць не ўсе фразеалагізмы, а толькі тыя, што маюць незразумелую ўнутраную форму. Вытокі такіх фразеалагізмаў – гісторычныя з'явы пазамоўнай рэчаіснасці. Можна акрэсліць сферы, якія часцей за ўсё трапляюць у поле зроку пры этымалагічным аналізе.

1. Сацыяльна-грамадскія адносіны. Напрыклад, фразеалагізм *на скарб панства (панскі)* 'у глум, безвынікова; упустую, дарэмна (пайсці, рабіць і пад.)' этымалагізуецца так: «Выраз склаўся на аснове польскага састаўнога тэрміна skarb panstwa 'дзяржаўнае казначэйства' як іранічная рэакцыя заходнебеларускага сялянства на штрафныя квіткі,

што выдаваліся секвестратарамі пры грашовым ці іншым спагнанні за нядоімкі, недазволенае рыбалоўства, збіранне ў лесе грыбоў, ягад і пад» [3, с. 49].

2. Быт. У фразеалагізме *з аўсом не падыдзеш* 'немагчыма знайсці падыход да каго-н.; не падступішся да каго-н.' – намёк на наравістага каня, злавіць якога на лузе можна толькі папярэдне паказаўшы авёс у прыполе ці пасудзіне (ЗНФ). Узнікненне выразу *ні кісне ні пячэцца* 'не ладзіцца, не выходзіць так, як трэба' звязана з працэсам выпякання хлеба: калі не ўкіс у дзяжы, то і не спячэцца (ЗНФ).

3. Рэлігія, вераванні. Фразеалагізм *ад гарода(-у) да пілата(-у) (да плота)* 'без справы, без мэты (хадзіць)' «утварыўся на аснове біблейскага сюжэту, у якім паказаны безвыніковыя хаджэнні Ісуса Хрыста ад цара Іудэі Ірада да вярхоўнага суддзі Пілата, пераасэнсаваннем слоў польскай мовы Herod (Ірад) і Piłat (Пілат), якія на падставе знешняга падабенства трансфармаваліся ў беларускія словы *гарод* і *плот*» [2, с. 14–15].

Фразеалагізм *барухі адпраўляць* 'спаць, драмаць' – вынік семантычнага развіцця ўстарэлага выразу *борухі адпраўляць* 'маліцца Богу (пра яўрэяў)'. Молячыся, яўрэі хістаюцца, нахіляюцца ў розныя бакі, прамаўляючы словы малітвы «борух-ата-аданаі» – слава табе Божа (СДФГ).

4. Мастацтва. Можна меркаваць, што выраз *асёл маляваны* 'няздара, дурань' пайшоў ад вандроўных цыркаў (БФ). Духоўная культура шырока выяўляецца ў фальклоры, мастацкай літаратуры. У слоўніках этымалагізуюцца фразеалагізмы, якія ўзніклі, напрыклад, на аснове анекдотаў. Фразеалагізм *сіта-сіта-рэшата* 'выказванне насмешлівых адносінаў да таго, хто мае кепскую памяць, хто забываецца' ўтвораны на аснове такога народнага анекдота. Пайшла жанчына да суседкі пазычыць сіта. Каб не забыцца, па што ідзе, прыгаворвала ўсю дарогу: сіта-сіта-рэшата. А ўвайшла ў хату і пакуль павіталася, то і забылася, па што прыйшла, і кажа: «Пазычце мне таўкача» (СДФГ). Фразеалагізм *як у каровіным вушку* 'вельмі хутка і спорна (робіцца што-н.)' утварыўся пад уплывам чарадзейнай «Казкі пра залатую яблыньку», дзе гаворыцца, як бычок выручыў дзедаву дачку, якой мачаха загадала за дзень «мех кудзелі спрасці, кросны выткаць, палатно выбеліць» (ЗНФ). Ёсць у дыялектнай мове фразеалагізмы, якія ўзніклі на аснове літаратурных твораў: *даць з-пад мікітавага лапця агню* (фразеалагізм склаўся пад уплывам сюжэта п'есы Міхася Чарота «Мікітаў лапаць») (СДФГ). Некаторыя фразеалагізмы выйшлі з песень: *у кошкі ляпёшкі* 'хто-н. жыве ў раскошы, у каго-н. усяго хапае' – паходзіць з песні-калыханкі: «А ў кошачкі ляпёшачкі, а ў коціка піражкі…» (ЗНФ).

У этымалагічнай даведцы раскрываецца не толькі экстралінгвістычная аснова фразеалагізма, але і моўныя механізмы яго ўтварэння. Паказваецца, напрыклад, што фразеалагічная адзінка ўзнікла шляхам метафарызацыі: *у стрымбуль пайшоў* 'тонкі і не па гадах высокі' – утвораны ў выніку метафарызацыі свабоднага словазлучэння, звязанага з цыбуляй, з развіццём яе ў стрэлкі (ЗНФ); *бярозаю ліцца* – метафарычнасць выразу ўзнікла па асацыяцыі з тым, як вясною з галінак бярозы капае сок (БФ).

Разглядаецца спосаб ўтварэння фразеалагізмаў скарачэннем прыказак. Фразеалагізм *і жук мяса* 'ўсё добрае, прыгоднае, спатрэбіцца' паходзіць з прыказкі *На чужой старане і жук мяса* (ЗНФ); *служка ў лапцях* – утвораны скарачэннем прыказкі *Служка ў лапцях, а пан босы* (СДФГ).

У этымалагічнай даведцы раскрываюцца і значэнні асобных слоў-кампанентаў. Зразумела, не ўсе кампаненты, якія ўваходзяць у склад фразеалагізма, патрабуюць тлумачэння. Агульнавядомыя, агульнаўжывальныя словы не маюць такой неабходнасці. Тлумачацца толькі словы, якія з'яўляюцца няяснымі, абмежаванага ўжывання. Гэта часцей іншамоўныя, устарэлыя, дыялектныя, аказіянальныя словы.

Запазычаная лексіка пакінула прыкметны след у афармленні фразеалагізмаў. Часцей у складзе фразеалагізма сустракаюцца словы з тых моў, з якімі беларуская мова кантактавала непасрэдна. Пры тлумачэнні іншамоўнага слова-кампанента паралельна падаецца яго напісанне і значэнне ў мове-крыніцы: *адным пэндам* – 'вельмі хутка, умомант': *пэндам* – параўн. польск. *pęnd* – 'хуткасць'; *даць у кепель* – 'ударыць, пабіць, пакараць каго-н.': *кепель* – 'плечы, патыліца, карак, галава', параўн. літ. *kĕpalas* – 'спіна, горб'; *задраць гегні* 'адпачываць лежачы, спаць' (СДФГ).

Прыкметнае месца ў складзе фразеалагізмаў займаюць устарэлыя словы. «Нярэдка фразеалагізмы выступаюць адзінымі крыніцамі, якія данеслі да нас з мінулых часоў забытыя цяпер словы, і таму маюць выключную інфармацыйную каштоўнасць» [1, с. 203]: *задраць кокашы* 'ўпасці, не ўтрымаўшыся на нагах' (прасл. **kokŏsь*, ст.-бел. *кокошъ, кокоша, кокошка* 'курыца, кураводка'). Многія з такіх слоў сучаснаму носьбіту мовы незразумелыя, а значыць, незразумелая і вобразная аснова фразеалагізма, таму яны вымагаюць тлумачэння.

Дыялектнае слова таксама вартае раслумачэння: *і крук не вырве з рук* 'хто-н. страшэнна скупы'– *крук* 'крумкач'; *з руб у руб* 'вельмі поўна, да самага верху (налiваць, налiць што-н.)' – *руб* 'бераг (вадаёма)' (ЗНФ).

Не заўсёды зразумелым кампанентам фразеалагізма можа быць аказіянальнае слова. Аказіянальная лексіка ў структуры фразеалагізмаў – гэта «кампаненты, якія ніколі не выкарыстоўваліся і не выкарыстоўваюцца ў якасці слоў свабоднага ўжывання… Ствараюцца яны спецыяльна для фразеалагізмаў у працэсе фарміравання апошніх» [1, с. 203].

Утварэнне і выкарыстанне аказіянальных кампанентаў выклікана імкненнем абнавіць лексічную структуру фразеалагізма, узмацніць эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку (*заліць **слепакі*** – 'ап'янець, быць п'яным' (СДФГ)), а таксама патрэбамі рыфмы і рытму (*на святыя **мігды,** што не бываюць нігды* 'невядома калі; ніколі'(СДФГ)). Раскрыць значэнне падобных кампанентаў за межамі фразеалагізма немагчыма, семантычнае асэнсаванне яны атрымліваюць толькі ў межах фрзеалагічнай адзінкі. Напрыклад, аказіяналізм *гыглы* па-за фразеалагізмам незразумелы. Семантычную блізкасць са словам *зубы* ён атрымлівае толькі ў фразеалагічным кантэксце *гыглы скаліць* 'смяяцца, рагатаць' (СДФГ), які мае тую самую мадэль, што і фразеалагізм *зубы скаліць.*

Тлумачэнне атрымліваюць і так званыя «псеўдаўласныя» імёны – кампаненты фразеалагізмаў са штучным уласным імем, утвораным моўным каламбурам на аснове агульнага назоўніка. Напрыклад, у выразе *выйсці замуж за Лапатэцкага* 'памерці'за вобразам замуства хаваецца іншы вобраз, вобраз смерці, які зыходзіць ад штучнага прозвішча *Лапатэцкі,* апелятывам якога выступае слова *лапата* – прадмет, абавязковы ў цырымоніі пахавання чалавека (СДФГ). Да падобных фразеалагізмаў адносяцца: *чытаць Храпавіцкага* 'моцна спаць, звычайна храпучы, пахрапваючы', *Галадніцкі*

*ўбіўся ў хату* ‘няма чаго есці, наступіў голад’, *Сасноўскі пад’язджае* ‘хіліць на сон каго-н.’ (СДФГ).

Этымалагічную даведку ў тлумачальных (неэтымалагічных) слоўніках фразеалагізмаў трэба разглядаць не як вольны выбар, «прыхамаць» аўтараў-складальнікаў, а як неабходны, абавязковы элемент слоўнікавага артыкула ў дачыненні да тых фразеалагізмаў, што вызначаюцца няяснасцю, загадкавасцю ўнутранай формы, маюць незразумелыя структурныя лексічныя кампаненты.

*Літаратура*


1.Даніловіч, М. А. Беларуская дыялектная фразеалогія і яе лексічная аснова: манаграфія / М. А. Даніловіч. – Гродна: ГрДУ, 2003. – 272 с.

2. Даніловіч, М. А. Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны / М. А. Даніловіч. – Гродна : ГрДУ, 2000. – 267 с.

3. Лепешаў, І. Я. З народнай фразеалогіі: дыферэнц. слоўнік / І. Я. Лепешаў. – Мінск : Выш. шк., 1991. – 110 с.

4. Янкоўскі, Ф. Беларуская фразеалогія: фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне / Ф. Янкоўскі. – Мінск: Выш. шк., 1968. – 451 с. (БФ).


---


Першая публікацыя ў зборніку: *Нацыянальная мова і нацыянальная культура : аспекты ўзаемадзеяння (да 95-годдзя з дня нараджэння прафесара Ф.М. Янкоўскага) : зб. навук. арт. / Бел. дзярж. ун-т імя Максіма Танка; рэдкал.: Г.Ф. Андарала, Д.В. Дзятко (адк. рэд.), Н.П. Лобань і інш. – Мінск : БДПУ, 2013. – С. 222–225.*


## ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ Ў СУЧАСНЫХ ДЫЯЛЕКТНЫХ ЛЕКСІЧНЫХ СЛОЎНІКАХ

Беларуская дыялектная лексікаграфія пасля трыццацігадовага заняпаду, выкліканага палітычнымі абставінамі ў краіне, пачынаючы з 60-х гадоў XX ст., адрадзілася і ў далейшым набыла інтэнсіўнае развіццё. За чатыры дзесяцігоддзі створана і апублікавана каля 30 абласных слоўнікаў і лексікаграфічных зборнікаў, якія ахопліваюць гаворкі розных тэрыторый Беларусі і яе пагранічча.

Аддаючы асноўную ўвагу слову, складальнікі лексічных даведнікаў не маглі абысці і фразеалогію, якая грунтуецца на словах, выкарыстоўвае іх у якасці структурных кампанентаў фразеалагізмаў. Толькі нямногія слоўнікі вызначаюцца чыста лексічным зместам, напрыклад: «Беларускае дыялектнае слова» Л.Ф. Шаталавай, «Дыялектны слоўнік» П.У. Сцяцко, «Дыялектны слоўнік» Г.Ф. Юрчанкі, «Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны», «Сучасная народная лексіка» Г.Ф. Юрчанкі, хаця ў іх таксама па розных прычынах пэўным чынам адлюстраваны асобныя выразы (поўныя пашпартныя звесткі пра гэтыя і іншыя слоўнікі гл. у канцы артыкула).

Калі лексічны матэрыял слоўнікаў ужо стаў аб’ектам апісання ў шматлікіх навуковых артыкулах, дысертацыях , манаграфіях, лінгвістычных атласах, то фразеалагічная частка слоўнікаў яшчэ знаходзіцца ў цяні, яна не атрымала нават агляднага каментарыю. Гэта вымагае аналізу яе з пункту гледжання колькаснай і якаснай характарыстыкі, з боку методыкі слоўнікавай распрацоўкі фразеалагізмаў.

Дыялектныя лексічныя слоўнікі ў сукупнасці адлюстроўваюць вялікую частку нацыянальнай фразеалогіі і ў гэтых адносінах мала чым уступаюць спецыяльным фразеалагічным слоўнікам, створаным у той самы гістарычны перыяд. Колькасць

фразеалагізмаў у кожным слоўніку самая розная, залежыць ад яго аб'ёму, тыпу, ад спецыфікі сабранага матэрыялу. Паводле нашых падлікаў, фразеалагізмы (пад увагу бяруцца толькі адзінствы і зрашчэнні) у найбольш аўтарытэтных слоўніках акрэсліваюцца наступнымі статыстычнымі велічынямі: «Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобдасці» Т.Ф. Сцяшковіч – звыш 200, «Слоўнік Гродзенскай вобласці» Т.Ф. Сцяшковіч – каля 650 , «Скарбы народнай мовы» А.П. Цыхуна – звыш 200, «Дыялектны слоўнік» Ф. Янкоўскага – звыш 450, «Дыялектны слоўнік Брэстчыны» – каля 140, «Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны» Т.С. Янковай – звыш 300, «Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі», т. 1 – звыш 270 адзінак. Самыя прадстаўнічыя – адносна поўныя слоўнікі. Так, у пяцітомным «Тураўскім слоўніку» каля 1000, у пяцітомным «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» звыш 2000 фразеалагізмаў.

Размяшчэнне фразеалагізмаў у слоўніках не вызначаецца адзінствам, яны падаюцца рознымі спосабамі.

1. Фразеалагізмы аддзяляюцца ад лексічнай часткі і ўперамешку з прыказкамі афармляюцца асобным раздзелам, які мае выгляд алфавітнага спісу. Упершыню такім чынам сістэматызаваў фразеалагізмы Ф. Янкоўскі ў сваім «Дыялектным слоўніку». У канцы 50-х – пачатку 60-х гадоў фразеалогія як навука толькі зараджалася, тады яшчэ не было выразнага размежавання прыказак і фразеалагізмаў. Ф. Янкоўскі кіраваўся фалькларыстычнай традыцыяй падаваць прыказкі і фразеалагізмы разам, але ён добра адчуваў і разумеў, што гэта адзінкі неаднолькавай якасці, аб чым сведчыць адпаведная іх лінгвістычная інтэрпрэтацыя: значэнне многіх (асабліва бязвобразных) фразеалагізмаў тлумачыцца, у той час як большасць прыказак даецца без семантычнай кваліфікацыі. Параўн.:

У ІХ КІРМАШ, А Ў НАС РАБОТЫ НЯМАШ. У йіх кірмаш, а ў нас – работы німаш. Кл.

У КІЯХ. У кутку каля печы, дзе стаяць вілкі, камяня (гл.), ёмка (гл.). Прыдзе, стане ў парозе або ў кіёх. Чаго ето ты так? Кл.

У далейшым такі спосаб адлюстравання фразеалагізмаў быў пераняты складальнікамі некаторых іншых слоўнікаў, гл.: «Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак», «Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці» Т.Ф. Сцяшковіч, «Матэрыялы да абласнога слоўніка Магілёўшчыны», «Скарбы народнай мовы» А.П. Цыхуна.

2. Значным крокам наперад трэба прызнаць тое, што ў абласных слоўніках намецілася тэндэнцыя поўнага адмежавання фразеалагізмаў ад прыказак. Так, у «Слоўніку Гродзенскай вобласці» Т.Ф. Сцяшковіч, акрамя асноўнай (лексічнай) часткі, фразеалагізмы і прыказкі даюцца асобнымі раздзеламі. Прычым апісанне фразеалагізмаў праводзіцца ў адпаведнасці з правіламі фразеаграфіі: рэестравы фразеалагізм, яго дэфініцыя, ілюстрацыйны сказ, пашпартызацыя. Такім шляхам пайшлі і складальнікі «Дыялектнага слоўніка Брэстчыны».

3. Фразеалагізм прывязваецца да слоўнікавага артыкула, прысвечанага лексічнай адзінцы, выкарыстанай і ў якасці фразеалагічнага кампанента. Месца такога фразеалагізма звычайна ў канцы слоўнікавага артыкула за ўмоўным графічным знакам, пераважна ◊:

ЗАВЯЗАЦЬ *зак.* Завязаць. *Завязаць нада другую хустку.* Ёдлавічы Брасл., Грыкені Вільн. ◊ *Як завязаць* – вельмі многа. *Повен клуб людзей – як завязаць.* Ёдлавічы Брасл. («Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча»).

4. Адзін з кампанентаў фразеалагізма выносіцца як алфавітнае загаловачнае слова, пасля яго прыводзіцца сам фразеалагізм з адпаведным яго апісаннем:

ЗАПІРАЦЬ: з а п і р а ц ь  д у х – не даваць гаварыць (Сцяцко П.У. Дыялектны слоўнік).

5. Фразеалагізмы ў алфавітным парадку па першым кампаненце размяшчаюцца побач са словамі:

ПАЗАТАКРОК прысл. Пазалетась.

ПАЗЫЧЫЦЬ У РАКА ВОЧЫ. Страціць сумленне («Жывое народнае слова», с. 60).

Кожны з адзначаных спосабаў мае свае вартасці і недахопы. Можна адразу заўважыць, што першы спосаб з’яўляецца неэфектыўным. У наш час аб’яднанне фразеалагізмаў і прыказак – прымета кансерватызму і недастатковай лінгвістычнай кампетэнтнасці. Гэта не адпавядае дасягненням беларускай фразеалогіі і парэміялогіі як самастойных раздзелаў навукі, якія разглядаюць фразеалагізм і прыказку ў якасці асобных моўных катэгорый. Да таго ж рэгістрацыя «голых» фразеалагізмаў, без тлумачэння і кантэксту, без граматычнай і стылістычнай характарыстыкі – пройдзены этап, занятак, годны хіба што аматараў народнага слова, краязнаўцаў.

Шырокае прымяненне атрымлівае трэці спосаб размяшчэння фразеалагізмаў, які дыялектная лексікаграфія пераняла ад лексікаграфіі літаратурнай. З дапамогай яго ўдаецца адлюстраваць непасрэдна лексічна-фразеалагічныя сувязі, у адным слоўнікавым артыкуле паказаць само слова і яго дачыненне да выяўленых у гаворках фразеалагізмаў. Бездакорна гэты спосаб працуе пры складанні адносна поўных слоўнікаў, якія ахопліваюць лексіку і дыялектную, і агульнанародную. У дыферэнцыяльных слоўніках магчымасці яго абмежаваныя. Як вядома, слоўнікі гэтага тыпу фіксуюць лексіку выбіральна, тую, што адносіцца да разраду лексічных дыялектызмаў. Рэестр выключна дыялектнай лексікі дазваляе прывязаць да слоўнікавых артыкулаў толькі фразеалагізмы, у структуру якіх уваходзіць адпаведнае дыялектнае слова. Назіранні паказваюць, што такіх фразеалагізмаў у гаворках менш чым 20%. Прыкладна 80% дыялектных фразеалагізмаў узніклі на аснове словазлучэнняў, у складзе якіх усе словы агульнанародныя, вядомыя і літаратурнай мове, і гаворкам. Перад складальнікамі слоўнікаў узнікае пытанне, як абысціся з гэтымі фразеалагізмамі, ці выбракоўваць іх наогул, ці падаваць нейкім іншым чынам. Несумненна, адсейваць такі каштоўны матэрыял – недаравальная страта для навукі, і лексікографы шукаюць дадатковыя спосабы ўключэння яго ў слоўнік. Часцей звяртаюцца да чацвёртага спосабу. Ён прымяняецца, напрыклад, у «Дыялектным слоўніку Лоеўшчыны», «Слоўніку гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі»:

НЯМА: *няма знаць колькі.* Вельмі многа (Янкова Т.С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны).

ДУДА ж. ◊ Скласці дуды ў мех – адкласці надалей, прыпыніць работу, справу («Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі»).

Многія слоўнікі выкарыстоўваюць аналагічны спосаб для рэгістрацыі фразеалагізмаў з кампанентам, неўжывальным у якасці свабоднага слова. Такі кам-

панент выносіцца ў алфавітны рэестр, затым паказваецца, у якім выразе ён засведчаны:

АНТАБЫ. У выразе: *На антабы браць* – мучыць («Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча»).

Выдаткі гэтага спосабу заўважаны фразеолагамі: «Выдзяленне таго ці іншага кампанента ў якасці загалоўка слоўнікавага артыкула ўсё-такі штучна разрывае ФА [фразеалагічную адзінку], цэласную ў структурна-семантычных і функцыянальных адносінах… Калі ФА прыводзіцца ў слоўнікавым артыкуле на адзін з кампанентаў, то, натуральна, тым самым прызнаецца, што менавіта гэты кампанент мае пераважнае значэнне ў фармаванні ФА, яе семантыкі. Але вызначыць ролю асобных элементаў у працэсе фразеалагізацыі без папярэдняга спецыяльнага глыбокага аналізу цяжка, а ў шэрагу выпадкаў немагчыма» [1, с. 134]. З другога боку, дыферэнцыяльны слоўнік павінен фіксаваць лексіку дыялектнага характару, а вылучэнне побач з ёй агульнанародных слоў, звязаных з фразеалагізмамі, парушае тып слоўніка і ўводзіць у зман чытача. Калі ж у загаловак артыкула выносіцца кампанент, які выкарыстоўваецца толькі ў складзе фразеалагізма, то гэта з навуковага пункту гледжання не зусім апраўдана. Такі кампанент не з'яўляецца элементам лексічнай сістэмы гаворкі, яго нельга прызнаць словам. Гэтая своеасаблівая ўласнафразеалагічная структурная частка, пазбаўленая семантыкі і функцыянальнай самастойнасці, – спецыфічная моўная з'ява, адрозная ад слова.

Пяты спосаб выкарыстоўваецца нерэгулярна. Беларуская дыялектная лексікаграфія не мае слоўнікаў, дзе б ён фігураваў як асноўны. Размяшчэнне фразеалагізмаў побач са словамі ў алфавітным парадку прадугледжвае раўнапраўнае апісанне і тых і другіх адзінак, дае выразнае ўяўленне пра лексічна-фразеалагічны склад гаворак.

Агульны недахоп прааналізаваных чатырох спосабаў заключаецца ў тым, што паводле іх фразеалагізмы аказваюцца раскіданымі па ўсёй «плошчы» слоўніка, Часта хаатычнае іх размеркаванне, прыхаванасць у лексічнай масе стварае нязручнасці для карыстальніка слоўніка. Каб адшукаць той ці іншы фразеалагізм, нярэдка даводзіцца перагарнуць многія старонкі, патраціць шмат часу.

У гэтай сувязі найбольш прыдатным і перспектыўным бачыцца другі з пералічаных спосабаў. Ён дазваляе ўсе сабраныя фразеалагізмы падаць разам, у пэўнай сістэме. Несумненна і тое, што распрацоўка фразеалагізмаў у межах лексічнага слоўніка асобнай часткай, па ўсіх правілах фразеаграфіі патрабуе большай увагі і адказнасці пры збіранні фразеалагічнага матэрыялу і яго слоўнікавай характарыстыкі.

Варта звярнуць увагу і на практычную рэалізацыю асобных спосабаў. Для гэтага дастаткова спыніцца на адной працы – «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча». Ён з'яўляецца тыповым выразнікам беларускай дыялектнай лексікаграфіі, з арыентацыяй на яго ствараліся некаторыя іншыя слоўнікі.

Як адзначалася, слоўнік шырока адлюстроўвае фразеалогію паўночна-заходняй часткі Беларусі – звыш 2000 фразеалагізмаў. Да іх належаць фразеалагізмы, не толькі сістэмна распрацаваныя ў слоўнікавых артыкулах. На долю такіх, пададзеных за знакам ◊ , прыпадае толькі 37% ад усіх выяўленых у слоўніку фразеалагізмаў. Сустракаецца шмат спецыяльна не вылучаных, «выпадкова» сустрэтых фразеалагізмаў у сказах-ілюстрацыях да слоў. Сярод іх большасць агульнаўжывальных, але нямала і дыялектных: *на сваё безгалоўя* (т. I, с. 180), *са света сысці* (II, 15), *як лань* (II, 275), *напхаць свой калдун* (II, 371), (*каша*) *чэрэз ложку* (II, 446), *з скуры выверчвацца* (II, 536), *аж*

*брынды курэлі б* (III, 8), *воркам біты* (III, 87), *ісці ў поля* (III, 212), *што капелька вады* (III, 315), *на аглядкі* (III, 318), *ад роту (даць)* (III, 380), *бацян рэпу пасеяў* (III, 425), *языка разняць* (III, 430), *(распусціцца) у боскі кій* (III, 435), *і чорта пройдзіць* (IV, 94), *чуць дзень* (IV, 107), *як дроцік* (IV, 119), *(жыць) з пуда* (IV, 180), *шапка паднімаецца* (IV, 336), *аднымі рукамі* (IV, 358), *(упасці) як сосна* (IV, 371), *кулак свярбіць* (IV, 403), *чорт носа нэ высадіт* (IV, 514), *не спіць а сніць* (IV, 535).

У пазалексічнай частцы слоўнікавых артыкулаў паказваюцца ўсе сабраныя ўстойлівыя і ўзнаўляльныя звышслоўныя ўтварэнні, сукупнасць якіх раней прынята было называць фразеалогіяй у шырокім яе разуменні. Прычым праводзіцца размежаванне ўласна фразеалагізмаў і іншых устойлівых адзінак. Асноўны спосаб адлюстравання ўласна фразеалагізмаў – заромбавая падача іх у канцы слоўнікавага артыкула. Асобна за знакам ▽ (трохвугольнік) даюцца іншыя моўныя і фальклорныя адзінкі: прыказкі, народныя прыкметы, прымхі, кленічы, параўнанні, загадкі, дыялогі, а таксама ўрыўкі з песень, калыханак, замоваў і інш., якія маюць падабенства да прыказак, афарызмаў.

Размеркаванне ўстойлівых выразаў праводзіцца не заўсёды кваліфікавана і паслядоўна. Так, пасля знака ▽ знаходзім нямала фразеалагізмаў: (*баяцца*) *як агня* (I, 49), *дзе пень дзе калода дзе кусок валавода* (I, 271), *на валову скуру не спішаш* (I, 276), *выскачыла з галавы* (I, 369), *быг вышкы змітае* (I, 379), (*дзяцей*) *як бобу* (II, 57), *сава дні паела* (II, 43), (*адзін*) *як кол у плоці* (II, 57), *пыльным мяшком дыраны* (II, 113), *жаба на языку не спячэцца* (II, 128), *ні плоту ні залёту* (II, 230), *замкі на пупу вісяць* (II, 231), (*прыстаць*) *як калтун да галавы* (II, 380), *жаба карэлая* (II, 429), *як кот наплакаў* (II, 506), *на курачай назе* (II, 579), *як у масце дзюра* (III, 78), *сем бочак арыштантаў* (III, 120), *язык павярнуць* (III, 286), *(папасціся) як мыш у пастку* (III, 435), *(памагчы) як пугай па вадзе* (IV, 179), *(здаровы) як рыдзіль* (IV, 323). І наадварот, пасля знака ◊, дзе паводле прынцыпу адбору месца фразеалагізмам, г. зн. выразам з цэласным значэннем, сустракаем адзінкі нефразеалагічнага характару: 1) словазлучэнні, у якіх адно са слоў мае так званае фразеалагічна звязнае значэнне: *сон бярэ* (I, 216), *ірунду гарадзіць* (I, 422), *дождж залажыў* (II, 223), *запрагаць касу* (II, 242), *запутная дарога* (II, 244), *дзівам дзівіцца* (II, 51), *крычма крычаць* (II, 546), *лупатая яешня* (II, 685), *пісаць каляду* (III, 523), *прагоркі п'яніца* (IV, 72); 2) апісальныя дзеяслоўна-іменныя звароты: *весці гутарку* (I, 301), *даць запрэт* (II, 243), *злажыць смех* (II, 310), *нурца даць* (III, 237), *пусціцца ў гаворку* (IV, 193), *рабіць сварку* (IV, 233); 3) звычайныя словазлучэнні: *зло пусціць* (II, 311), *змовіць пацеры* (II, 316), *пайсці ў венікі* (I, 296), *набрацца хваробы* (III, 119), *паняй ззяць* (III, 393), *пробаваць шчасця* (IV, 108); 4) асобныя словы, часта ўскладненыя паўторам ці службовымі часцінамі мовы: *махам* (III, 47), *пух-пухам* (IV, 194), *адзі-адзін* (I, 59), *не (ні) дбая* (I, 33), *на дворы* (II, 36); 5) прыказкі: *Ад дурной галавы волас уцякая, За дурнэю головою ныма ногам зупокою* (I, 406), *Рука руку мые* (IV, 312), *Чым багаты, тым і рады* (IV, 243).

Не выпрацавана адзіная сістэма прывязкі фразеалагізма да адпаведнага слоўнікавага артыкула. Фразеалагізм падаецца адвольна, ці на граматычна галоўны, ці на граматычна залежны кампанент. Так, *на сваю галаву* знаходзім пад словам *галава,* а *галава слабая* – пад *слабы, галава не прыстае да падушкі* – пад *прыставаць, хоць кол на галаве чашы* – пад *часаць.* Незалежна ад колькасці кампанентаў фразеалагізм прыводзіцца звычайна адзін раз, адсылкі практыкуюцца рэдка, гл. *галава не баліць* (I, 158). З 42 фразеалагізмаў, у склад якіх уваходзіць кампанент *галава,* толькі 6 запісаны

ў артыкуле на слова *галава,* астатнія «рассыпаны» па іншых слоўнікавых артыкулах. Мэтавае адшукванне іх – досыць працаёмкая справа, вымагае прачытання ўсяго слоўніка.

Часта практыкуецца вынясенне кампанента, што не функцыянуе за межамі фразеалагізма, у загаловак слоўнікавага артыкула. Заўважаецца спроба надаць гэтаму кампаненту статус лексічнай адзінкі з абазначэннем граматычных уласцівасцей і нават экспрэсіўнай характарыстыкі:

БОНЬКІ *мн.* У выразе: *Бонькі біць* – гультаяваць, марна траціць час.

КАНДУБЫ толькі *мн. зневаж.* ◊ *Кандубы завярнуць* – памерці.

САЛАНДЗІЦЬ *незак.* ◊ *Саландзіць языком* – гаварыць недарэчнае.

У лексікаграфіі яшчэ і цяпер можна сустрэць выпадкі, калі слову, ужывальнаму ў якасці кампанента фразеалагізма, прыпісваецца ірэальнае лексічнае значэнне. У аналізаваным слоўніку дзеяслоў *варыць* падаецца з двума значэннямі: 1) ‘гатаваць страву і інш.’, 2) перан. ‘разумець, цяміць’. Другое, быццам бы пераноснае, значэнне ілюструецца прыкладамі з фразеалагізмам *галава варыць* ‘хто-н. разумны, кемлівы, знаходлівы’. Як слушна заўважае Т.Ф.Тамашэвіч, «гэта «пераноснасць» памылковая. Калі гэтага не ўлічваць, то нельга пазбегнуць памылак у разуменні, акрэсленні паняцця кампанента ў супастаўленні яго са словам свабоднага ўжывання» [3, с. 17]. Сёння ўжо з’яўляецца хрэстаматыйнай ісцінай тое, што кампаненты фразеалагізма дэактуалізуюцца ў семантычных адносінах, страчваюць сваю прадметную накіраванасць. Надуманыя значэнні кампанентаў зыходзяць ад недастатковага разумення цэласнасці фразеалагічнай семантыкі, ад пераносу яе цалкам ці часткова на асобныя структурныя элементы фразеалагізма. Параўн. штучна вылучаныя ў слоўніку значэнні кампанентаў і рэальныя значэнні адпаведных фразеалагізмаў: *відзець* ‘імгненна, у момант зрабіць што-н.’ – *як відзіш* ‘вельмі хутка (зрабіць што-н.)’; *леткі* ‘гаваркі’ – *леткі язык мець* ‘быць гаваркім, балбатлівым’, *раз’ехацца* ‘расхварэцца’ – *раз’ехацца як благія порткі* ‘расхварэцца’.

У сувязі з гэтым варта назваць і такую тыповую памылку лексікаграфіі, што цягнецца яшчэ з часоў І.І. Насовіча: ілюстраванне, «пацвярджэнне» рэальнага лексічнага значэння слова фразеалагізмам, які мае гэтае слова ў якасці структурнага кампанента: *апараны* ‘пашкоджаны варам, парай’ – *Уляцеў як апараны*; *вісець* ‘вісець, звісаць’ – *Будзя дошч – як у мяшку вісіць.* Фразеалагізм не можа быць непасрэдным ілюстратарам значэння слова, бо яго кампанент, адпаведны слову, не выяўляе лексічнага значэння, з’яўляецца семантычна спустошаным.

Чытачу трэба мець на ўвазе, што ў слоўніку можна выпадкова знайсці фразеалагізмы і ў загалоўках слоўнікавых артыкулаў. У рэестравай частцы побач са словамі рэгулярна падаюцца састаўныя тэрміны. Сярод іх нямала вобразных утварэнняў фразеалагічнага характару, якія «ўзніклі ў выніку метафарычнага пераасэнсавання свабоднага словазлучэння і павінны адносіцца да разраду фразеалагізмаў» [2, с. 18]: *бабя ушы* ‘смаржкі’, *божа дрэўка* ‘спаржа’, *вадзяная кароста* ‘раска’, *вароні зуп* ‘спарыння’, *волчый табак* ‘порхаўка’, *ворля вочкі* ‘рамонак’, *жабіны хованкі* ‘папараць’, *казліная барада* ‘сівец’, *матка-і-мачаха* ‘падбел’, *Пятра-Паўла* ‘божая кароўка’, *сляпая курачка* ‘казялец’. У загалоўках артыкулаў трапляюцца таксама фразеалагізмы, якія аўтарамі слоўніка палічаны складанымі паўзлітнымі словамі ці прыназоўнікава-склонавымі прыслоўямі:

*лядам-градам* ‘у беспарадку’, *макрачок-рабачок* ‘кветка ляшчыны’, *мала-веле* ‘крыху’, ‘няцяжка’, *спраку-веку* ‘спрадвеку’, *па сабе* ‘паасобку’.

Коратка спынімся яшчэ на некаторых хібах, тыповых у практыцы складання гэтага і іншых лексічных слоўнікаў.

1. Недакладнае вызначэнне структурных межаў фразеалагізма, уключэнне ў яго склад прыфразеалагічнага акружэння – слоў-суправаджальнікаў ці абавязковых залежных форм: *работы* па бараду, на волас *заснуць, ліць* што з кары, *купіць* за мазоль, на згон *зімы*, валлё на *нашым* баку, *у яго ў вуху* коні стаялі (тут намі пазначаны курсівам словы, якія не з’яўляюцца фразеалагічнымі кампанентамі).

2. Неадлюстраванне варыянтнасці фразеалагізмаў. Напрыклад, такія варыянтныя адменнікі, як *пташынае (птушынае) малако, птасе малако, курынае малако, лебядзінае малако*, паказаны не разам, а ў розных тамах размеркаваны па розных слоўнікавых артыкулах.

3.Неадпаведнасць формы фразеалагізма ў пачатковай слоўнікавай яе фіксацыі і ў ілюстрацыйным сказе. Так, у I т. на с. 323 падаецца фразеалагізм у дзеяслоўнай форме *возам везці*, але прыклады не пацвярджаюць яго дзеяслоўнасці, дэманструюць іншыя граматычныя канструкцыі са значэннем ‘вельмі многа’: *возам не павязеш, хоць возам вязі, возом ны вывызыш.* Прывядзём яшчэ некалькі прыкладаў, дзе пачатковая форма фразеалагізма вызначана неадпаведна рэальнаму фактычнаму матэрыялу: *волас вяне – аж волас вяне* (I, 325), *на воўка злесці – хоць на воўка злесь* (I, 330), *кій адбіраць – у жабрака кій адбіраць* (II, 461), *ні лой ні масло – ні лой ні масло ні гарыць ні пагасло* (II, 669), (*купіць*) *за мазоль* – (*купіць*) *за свой мазоль* (III, 11), *матылі ў вачу – матылі у вачу лятаюць* (III, 45), *паказваць віламі – паказваць віламі ў чужы агарод* (III, 337), *ключы на пупу – ключы на пупу вісяць* (IV, 188), *рукой атняць – як рукой зняло* (IV, 312), *рэпу сеяць – баба рэпу пасеяла* (IV, 332), *слова не жуе – слоў не жуе* (IV, 486).

4. Недакладнасць тлумачэння фразеалагізма. Вельмі часта дэфініцыя не перадае катэгарыяльнай сутнасці фразеалагізма. Так, выклічнікавы выраз *вот табе і камы!* (II, 392) тлумачыцца сінтаксічнай назоўнікавай канструкцыяй ‘канец жыцця, смерць’, прыслоўны выраз *хоць адрывай пальцы* (I, 65) – дзеяслоўнай канструкцыяй ‘моцна балець, цярпець невыносны боль’, прыметнікавы выраз *лёхкі на язык* (II, 649) – назоўнікавай канструкцыяй ‘той, хто многа гаворыць’.

Нярэдка значэнне фразеалагізма перадаецца тлумачэннем, якое пачынаецца словам *пра*. Такое тлумачэнне раскрывае змест фразеалагізма прыблізна і цьмяна, недакладна ўказвае на яго катэгарыяльную прыналежнасць: *душы німа* – ‘пра пачуццё хвалявання’ (II, 110), *очы не зажмурэныя* – ‘пра ўражлівага чалавека’ (II, 209), *мазгоў ні хватае* – ‘пра някемлівага чалавека’ (III, 11), *расці ў горле* – ‘пра адсутнасць апетыту’ (IV, 288).

Часам значэнне фразеалагізма тлумачыцца іншым, сінанімічным, фразеалагізмам, што ў фразеаграфіі лічыцца непажаданым: *очыма бліскаті* – ‘саромецца, апускаць вочы; свяціць вачыма’ (I, 195), *сэрца вяне* – ‘бярэ за сэрца’ (I, 389), *залатнікі пасыпаліся* – ‘іскры з вачэй пасыпаліся’ (II, 224), *канцы яго ведаюць* – ‘хто яго ведае’ (II, 399).

5. Беднасць ілюстрацыйнага матэрыялу. Ужыванне фразеалагізма пацвярджаецца звычайна адным сказам, часта кантэкстуальна недастатковым для раскрыцця фразеалагічнага значэння. Асобныя фразеалагізмы падаюцца наогул без прыкладаў.

Адзначаныя недахопы зыходзяць у першую чаргу ад прыярытэтнасці лексічнага зместу слоўнікаў. Іх аўтары асноўную задачу бачылі ў сістэматызацыі і апісанні лексічнага складу гаворак, што вызначаецца самім характарам слоўнікаў, дзе фразеалагізмам адводзіцца другараднае месца як матэрыялу спадарожнаму. Трэба таксама ўлічваць, што слоўнікі рыхтаваліся тады, калі фразеалогія як навука яшчэ не мела завершанасці ў сваім станаўленні, а навуковая дыялектная фразеалогія наогул не выпрацавала сваіх асноў. З улікам гэтага нашы заўвагі не мелі на мэце даць негатыўную ацэнку слоўнікам па абазначаных праблемах, Наадварот, трэба яшчэ раз падкрэсліць, што абласныя слоўнікі адыгралі вялікую ролю ў фіксацыі дыялектнай фразеалогіі і сёння з'яўляюцца адной з галоўных яе навуковых крыніц. Нашы заўвагі – гэта хутчэй пажаданні-рэкамендацыі на перспектыву. Іх варта мець на ўвазе складальнікам новых слоўнікаў, каб не паўтараць тое, што з'яўляецца пройдзеным этапам, а працаваць далей, улічваючы дасягненні і распрацоўкі навуковай фразеаграфіі.

*Літаратура*

1. Белянина, О.Б. Компонентный состав диалектных фразеологизмов и место фразеологических единиц в областном толковом словаре / О.Б. Белянина, М.В. Орел // Лексика и фразеология говоров территорий позднего заселения; Кемеровский гос. ун-т. – Кемерово, 1985. – с. 127–136.

2. Жуков, В.П. Русская фразеология / В.П. Жуков. – М.: Высш. шк., 1986. – 310 с.

3. Тамашэвіч, Т.І. Беларуская фразеалогія : гістарычны нарыс/ Т.І. Тамашэвіч. – Гродна : ГрДУ, 1993. – 93 с.

---

Першая публікацыя ў зборніку: *Слово и словарь = Vocabulum et vocabularium: Сб. науч. тр. по лексикографии / отв. ред. В.В. Дубичинский и др.; Гродненский гос. ун-т им. Янки Купалы; Харьковское лексикографическое общество. – Гродно, 2002. – С. 30–34.*

## НАВУКОВЫЯ ДАСЯГНЕННІ ПРАФ. І.Я. ЛЕПЕШАВА Ў ПАРЭМІЯЛОГІІ

У век навуковай спецыялізацыі прафесар Іван Якаўлевіч Лепешаў належыць да нешматлікага кола даследчыкаў, абсяг навуковых інтарэсаў якіх differents рознабаковы і шматгранны. Падобна волатам навукі мінулых стагоддзяў Іван Якаўлевіч увасабляе сабой вучонага-гуманітарыя шырокага профілю ў лепшым сэнсе гэтага слова. Ён і лінгвіст, і літаратуразнаўца, і гісторык, да таго ж яшчэ і таленавіты публіцыст.

Найбольшыя навуковыя дасягненні І.Я. Лепешава, натуральна, у сферы лінгвістыкі. Вынік творчай дзейнасці вучонага – працы па розных галінах мовазнаўства: сучаснай беларускай мове, культуры маўлення і стылістыцы, фразеалогіі, парэміялогіі, лексікалогіі, фразеаграфіі, лексікаграфіі, парэміяграфіі, этымалогіі і інш.

Праз усю навуковую біяграфію вучонага праходзіць тэма прыказак. Як і фразеалагізмы, прыказкі сталі пуцяводнай зоркай на яго навуковым шляху. Унёсак І.Я. Лепешава ў развіццё беларускай парэміялогіі настолькі важкі, што заслугоўвае асобнага слова.

Выразна акрэсліваюцца два кірункі вывучэння прыказак І.Я. Лепешавым: збіранне і слоўнікавае апісанне прыказак; тэарэтычнае даследаванне прыказак. Спынімся асобна на кожным з іх.

Выяўленне і калекцыянаванне прыказкавага матэрыялу стала штодзённым клопатам вучонага, абавязкам жыцця. Запісы рабіліся з розных крыніц: і з вуснай гаворкі людзей, і з пісьмовых тэкстаў, пераважна мастацкай літаратуры і публіцыстыкі. Мэта – стварыць слоўнік прыказак новага тыпу – тлумачальны. Папярэднія зборнікі мінулых дзесяцігоддзяў і стагоддзяў выконвалі ў асноўным функцыю рэгістрацыйных даведнікаў, у якіх прыказкі даваліся пэўным спісам без сістэмнай лінгвістычнай інтэрпрэтацыі. З імем І.Я. Лепешава звязаны новы этап беларускай парэміяграфіі. І.Я. Лепешаў з'яўляецца заснавальнікам слоўніка, у якім прыказкі не проста пералічваюцца, а характарызуюцца па ўсіх правілах лексікаграфічнай традыцыі. Першай спробай такой працы вучонага з'яўляецца дадатак да слоўніка «З народнай фразеалогіі» [1, с. 99–109]. У дадатку змешчана каля ста прыказак, запісаных пераважна ў гаворках Гродзенскай і Віцебскай абласцей. Кожнай прыказцы прысвячаецца асобны слоўнікавы артыкул, у якім даецца яе тлумачэнне, сітуацыйная характарыстыка, стылістычныя паметы, ілюстрацыйнае ўжыванне, пашпартызацыя, напрыклад:

«ЧОРНАЙ КОСЦІ НАБЕЛА НЕ ВЫСКРАБЕШ. *Часцей неадабр.* Недахопы, прывычкі чалавека немагчыма выправіць. Кажуць, калі ўпэўнены, што хто-н. не зменіць сваіх паводзін. *Нічога ні будзя, ён такім ужо і памрэ. Чорнай косці набела ні выскрабяш.* Іў., Ліп.»

Гэты мікраслоўнік цікавы і тым, што ў яго ўключаны толькі такія прыказкі, якія яшчэ не фіксаваліся ў беларускіх парэміяграфічных працах. Многія з іх выглядаюць арыгінальнымі, цікавымі сваёй трапнасцю, непаўторнай алегарычнасцю: *Багатаму няма сну ні ўдзень ні ўначу, а бядняк як хлябне баршчу, то спіць і ўдзень і ўначу; Карта не кабыла: хоць перад світаннем, ды павязе; На худыя косці і сабакі не кідаюцца; Сам каравы, а людзей мые; Слухай мяне – бяда не міне; Упаў чорт з гары – чорт яго бяры; Хлопец ганаровы: мае ровар матаровы; Што не ў модзе, кладзі на сподзе; Як у Вільні, так і тут: сорак фунтаў, так і пуд.*

Наступным этапам парэміяграфічнай распрацоўкі стаў «Слоўнік беларускіх прыказак». Адна з задач Слоўніка – адлюстраваць па магчымасці адносна поўны корпус прыказак, зафіксаваных у беларускім літаратурным маўленні.

Выхаду Слоўніка папярэднічала карпатлівая праца на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, скіраваная на адшукванне і збіранне прыказак. Аўтару давялося прачытаць і перачытаць мноства твораў беларускіх пісьменнікаў, шматлікія публіцыстычныя, навуковыя і інш. тэксты літаратурнай мовы і выпісаць цытаты з прыказкамі. Толькі на падставе саліднай картатэкі стала магчымым стварэнне слоўніка падобнага тыпу.

«Слоўнік беларускіх прыказак» І.Я. Лепешава ў суаўтарстве з М.А. Якалцэвіч адразу прыцягнуў да сябе ўвагу і стаў запатрабаваны шырокай грамадскасцю. Сведчанне таму – чатырохразовае выданне яго на працягу 15 гадоў. Прычым кожнае наступнае выданне – дапрацаванае, дапоўненае новымі выяўленымі прыказкамі. Так, першае выданне [2] ахоплівае 954, другое [3] – 1485, трэцяе [4] – 1623, чацвёртае [5] – 1800 прыказак. Да таго ж у кожным наступным выданні многія слоўнікавыя артыкулы дапоўнены ілюстрацыйнымі прыкладамі, папраўлена ці ўдакладнена семантычная, сітуацыйная і стылістычная характарыстыка прыказак.

Не будзем спыняцца на кожным выданні паасобку, звернем увагу на агульныя асноўныя вартасці Слоўніка, арыентуючыся пераважна на апошняе выданне.

У вялікай прадмове ставіцца і вырашаецца шэраг спрэчных пытанняў у парэміялогіі і парэміяграфіі. Адно з іх, ад якога залежыць характар і змест Слоўніка, – гэта размежаванне паняццяў «прыказка», «прымаўка», «фразеалагізм». Тут І.Я. Лепешаў, як і ў сваіх ранейшых публікацый, абгрунтавана даказвае немэтазгоднасць вылучэння прымавак як асобных адзінак, бо гэта на самай справе не што іншае як фразеалагізмы. Другая важная думка, што прыказкі і фразеалагізмы – розныя адзінкі, і ўключаць іх у склад фразеалогіі (як гэта нярэдка робіцца яшчэ і сёння) няма ніякіх падстаў.

Большасць прыказак, што знайшлі месца ў Слоўніку, – адзінкі народнага паходжання, якія склаліся непасрэдна ў мове беларусаў *(Калі добра пастарацца, то павінна атрымацца; За сытага і вош не зачэпіцца).* Некаторыя прыказкі маюць іншамоўнае паходжанне (*Што задужа, то не здрова* – з польск.; *Няпрошаны госць горш за татарына* – з руск.; *Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку* – з англ.). Асобныя прыказкі выйшлі з літаратурна-кніжных крыніц *(Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала).*

Кожная прыказка апісваецца ў слоўнікавым артыкуле. Вельмі важна, што падаюцца ўсе зафіксаваныя ў літаратурным маўленні варыянты прыказкі, сярод якіх вылучаецца найбольш тыповы і прапнуецца ў якасці загалоўкавага.

Асноўнае прызначэнне слоўніка не проста паказаць чытачу прыказкі, а растлумачыць іх сэнс і ўжыванне. Поўнасцю ці часткова пераасэнсаваныя прыказкі знайшлі адэкватнае лагічна-моўнае растлумачэнне з дапамогай простых ці складаных сказаў: *Не дажыўшы да паўдня, не плануй вечар* ‘няма чаго загадзя беспадстаўна гадаць пра далейшы ход падзей’; *Паміраць збірайся, а жыта сей* ‘у якім бы стане ні знаходзіўся чалавек, яго думы і дзеянні звязаны з жыццёвымі, надзённымі інтарэсамі’.

У многіх выпадках семантычная характарыстыка прыказак дапаўняецца сітуацыйнай характарыстыкай, што дае магчымасць убачыць, у якой канкрэтна сітуацыі можна выкарыстаць прыказку: *Зняўшы галаву, па валасах не плачуць* ‘страціўшы важнае, вялікае, няма чаго шкадаваць малое, дробязі. Гаворыцца, калі позна і бескарысна шкадаваць што-н.’

У слоўніку паслядоўна праводзіцца стылістычная дыферэнцыяцыя прыказак, на сэнс якіх накладваецца экспрэсіўна-ацэначная характарыстыка. Яны забяспечваюцца адпаведнымі стылістычнымі паказчыкамі тыпу *іранічна, жартаўліва, з адабрэннем, з незадавальненнем.*

Важным кампанентам Слоўніка выступае ілюстрацыйны матэрыял. Як адзначана ў прадмове, «паказаць жыццё прыказкі ў маўленні, у кантэксце – адна з істотных задач тлумачальнага слоўніка прыказак. Таму прыклады-цытаты тут выступаюць як неад’емная частка слоўнікавага артыкула, як дадатковы сродак сэнсавай і іншай інфармацыі» [5, с. 31]. У рэцэнзіі на 4-е выданне Слоўніка А. Петрушкевіч зазначае, што аўтары гэтага выдання ўсю айчынную літаратуру ўспрымаюць праз прызму фразеалагізмаў і прыказак. У слоўніку выкарыстаны прыклады з твораў 380 пісьменнікаў, журналістаў, навукоўцаў» [6, с. 47]. Кожная прыказка і варыянты яе ілюструюцца звычайна чатырма цытатамі.

Інфармацыйнасць Слоўніка павялічваецца тым, што слоўнікавыя артыкулы забяспечваюцца даведкавай часткай, у якой даюцца звесткі пра фіксацыю прыказкі ў іншых крыніцах – зборніках і слоўніках.

Акрамя тлумачальнага, Слоўнік бярэ на сябе функцыю і сінанімічнага даведніка. Многія прыказкі ўступаюць у сінанімічныя адносіны: адрозніваючыся вобразнай ас-

новай, маюць гранічна блізкае значэнне. У слоўнікавым артыкуле гэта адлюстравана, напрыклад, да прыказкі *Кожны кулік сваё балота хваліць* прыводзяцца сінанімічныя паралелі *Кожны старац сваю торбу хваліць, Кожны цыган сваю кабылу хваліць.*

Другі кірунак даследаванняў вучонага – навукова-тэарэтычнае асэнсаванне прыказак як моўных адзінак. Гэты аспект знайшоў адлюстраванне ў шэрагу публікацый. Шматгадовыя напрацоўкі атрымалі абагульненне ў кнізе «Парэміялогія як асобны раздзел мовазнаўства» [7]. На тытульным лісце значыцца, што гэта навучальны дапаможнік для студэнтаў-філолагаў, але, па сутнасці, перад намі грунтоўная манаграфія, якая паводле ахопу і глыбіні вырашаных праблем не мае сабе роўных ні ў айчыннай, ні ў замежнай парэміялогіі.

Стварэнню працы высокага тэарэтычнага ўзроўню спрыяла тое, што яе аўтар многа гадоў сур'ёзна займаўся збіраннем і вывучэннем прыказак. Уражвае багацце фактычнага матэрыялу, на якім грунтуецца манаграфія. І.Я. Лепешаву давялося прачытаць амаль усю беларускую мастацкую літаратуру, каб адшукаць і выпісаць дзясяткі тысяч прыказкавых цытат. Кідаецца ў вочы свабодная арыентацыя даследчыка ў тэарэтычнай літаратуры. Яму вядома ўсё, што пісалі пра прыказкі папярэднікі, пачынаючы з вялікіх (У. Даль, А. Патабня, Б. Дж.Уайтынг, Я. Карскі, К. Крапіва) і заканчваючы школьным настаўнікам. Працу І.Я. Лепешава з поўнай падставай можна назваць энцыклапедычнай, да таго ж скрозь прасякнутай уласнымі ідэямі, адкрыццямі, а таксама крытычнымі заўвагамі і ўдакладненнямі да многіх ранейшых меркаванняў і вывадаў іншых аўтараў.

Праз усю кнігу праходзіць думка, што прыказкі – асобныя моўныя адзінкі і павінны вывучацца не толькі і не столькі ў фальклоры, колькі ў мовазнаўстве. Прычым іх трэба разглядаць асобна ад фразеалагізмаў, бо паміж прыказкамі і фразеалагізмамі існуюць прынцыповыя адрозненні лагічнага, структурнага, сінтаксічна-функцыйнага і спалучальнага плана. Вельмі слушным падаецца нам наступнае выказванне: «Гэтак жа, як у мовазнаўстве існуюць раздзелы «Лексікалогія» і «Лексікаграфія», «Фразеалогія» і «Фразеаграфія», павінны быць у курсе сучаснай беларускай літаратурнай мовы і раздзелы «Парэміялогія» і «Парэміяграфія». У такім разе прыказкі перастануць быць беспрытульнымі і зоймуць сваё законнае, належнае ім месца ў курсе мовы як у вышэйшай, так і ў сярэдняй школе» [7, с. 12]. Гэтае сцвярджэнне канкрэтызуецца ўсім зместам кнігі: прыказкі аналізуюцца рознабакова і сістэмна з лінгвістычнага пункту гледжання.

У чатырох раздзелах даецца семантычная, этымалагічная, граматычная і стылістычная характарыстыка прыказак. Вось, напрыклад, якія праблемы вырашаюцца ў раздзеле «Семантычная характарыстыка прыказак»: азначэнне прыказкі, сэнсавая класіфікацыя прыказак, сістэмныя сувязі ў парэміялогіі, сінанімічнасць, варыянтнасць, мнагазначнасць прыказак, прыказкі сітуацыйныя і кантэкстуальныя.

Тэорыя і практыка складання тлумачальных, перакладных і іншых парэміялагічных слоўнікаў разглядаецца ў асобным раздзеле «Парэміяграфія». Тут аналізуюцца слоўнікі беларускіх прыказак І. Насовіча, М. Федароўскага, І. Шкрабы і Р. Шкрабы, С. Івановай, і Я. Іванова, А. Аксамітава і інш.

Значнае месца ў працы займае лінгвадыдактычны аспект. Аўтар уважліва аналізуе інтэрпрэтацыі прыказак у падручніках і дапаможніках для студэнтаў і вучняў школ. Ён, напрыклад, лічыць не зусім слушным, перабольшаным распаўсюджанае меркаван-

не, што, якая б тэма ні закраналася па роднай мове, прыказкі – зручны ілюстрацыйны матэрыял. Даказвае, што няма патрэбы штучна прывязваць прыказкі да шмат якіх праграмных тэмаў, бо гэта можа толькі шкодзіць адэкватнаму асэнсаванню моўных фактаў. Так, у сінтаксічна непадзельных алегарычных прыказках вызначэнне галоўных і даданых членаў (у практыцы выкладання мовы частая з'ява) з'яўляецца немэтазгодным, «пярэчыць здароваму сэнсу» [7, с. 128]. І.Я Лепешавым упешыню прапануецца парадак сінтаксічнага аналізу прыказак, падаюцца ўзоры такога аналізу.

У канцы кнігі пад загалоўкам «Практыкум» змешчаны непасрэдна дыдактычны матэрыял, які дапаможа студэнтам лепш засвоіць тэарэтычныя пытанні. Даюцца 64 практыкаванні па тэмах, выкладзеных на папярэдніх старонках. Усе заданні змястоўныя, арыгінальныя. Падабраны такія сказы, пераважна з твораў пісьменнікаў, якія з'яўляюцца не толькі ілюстрацыямі ўжывання прыказак, але маюць і пазнавальна-выхаваўчую каштоўнасць.

Навуковыя абагульнені і вывады аўтара, выкладзеныя ў кнізе, атрымалі сваю канкрэтную рэалізацыю ў яго наступных працах. У прыватнасці, І.Я. Лепешаў глыбока развіў этымалагічны напрамак у парэміялогіі. «Этымалагічны слоўнік прыказак» [8] – вынік шматгадовых этымалагічных пошукаў вучонага. Гэта першы такога тыпу даведнік не толькі ў беларускай, але і ва ўсёй славянскай лексікаграфіі.

У прадмове аўтар сцвярджае, што не ўсе прыказкі маюць патрэбу ў этымалагізацыі. Гістарычна-этымалагічнага вытлумачэння заслугоўваюць толькі асобныя прыказкі: 1) аўтарства якіх вядомае; 2) запазычанні, калькі і паўкалькі з іншых моў; 3) з нерэальным вобразам ці патэнцыяльнай сюжэтнасцю або пабудаваныя на абыгрыванні якога-небудзь кампанента; 4) якія змяшчаюць у сабе незразумелае сучаснаму носьбіту мовы слова-кампанент; 5) ужыванне якіх абмежавана строга акрэсленай сітуацыяй або пэўным тыпам кантэксту. Такіх прыказак, выяўленых у пісьмовых крыніцах сучаснай беларускай літаратурнай мовы, падаецца ў Слоўніку звыш 400. Амаль палова з іх – уласна беларускія. Другая палова – запазычанні, калькі і паўкалькі з іншых моў, а таксама прыказкі, у аснову якіх пакладзены аўтарскія крылатыя выразы.

Узнікненне прыказак звязана як з уласнамоўнымі працэсамі словатворчасці, так і з фактамі пазамоўнай рэчаіснасці. У Слоўніку ўсё гэта растлумачана і праілюстравана. Напрыклад, паказана, што прыказка *Сядзі ў будзе, ды чакай, што будзе* пабудавана на абыгрыванні амаформаў у межах граматычнай парадыгмы назоўніка «буда» (месны склон – «у будзе») і дзеяслова «быць» (3-я асоба адзіночнага ліку – «будзе»). А прыказка *Каментарыі лішнія (не патрэбны)* – паўкалька з нямецкай мовы. Напачатку гэта крылатая фраза нямецкага юрыста Германа Штаўба (1856–1904), якой ён звычайна любіў канчаць сваё выступленне.

Зразумела, стварэнне Слоўніка такой якасці пад сілу навукоўцу з глыбокай лінгвістычнай эрудыцыяй, шырокім агульным кругаглядам. Складваецца ўражанне, што І.Я. Лепешаў да драбніц ведае біяграфію кожнай прааналізаванай прыказкі, усё, што пра яе пісалі папярэднікі. У слоўнікавых артыкулах ёсць частыя спасылкі на такіх даследчыкаў і збіральнікаў, як Я. Карскі, Е. Ляцкі, С. Максімаў, М. Міхельсон, І. Насовіч, Я. Парэцкі, М. Федароўскі, на творы шматлікіх беларускіх і замежных пісьменнікаў, сюжэты Бібліі і інш. Нярэдка І.Я. Лепешаў ўдакладняе ці аспрэчвае ранейшую этымалагічную версію прыказкі і прапануе сваю, больш пераканальную.

У абагульненым выглядзе можна акрэсліць асноўныя навуковыя заслугі вучонага ў галіне прыказак. І.Я. Лепешаў абгрунтаваў палажэнне аб тым, што прыказкі з'яўляюцца рэальнымі моўнымі адзінкамі, якія не выконваюцца як фальклорныя творы, а выкарыстоўваюцца як будаўнічы матэрыял выказвання і таму павінны быць аб'ектам вывучэння ў мовазнаўстве. Ён з'яўляецца стваральнікам тэарэтычных асноў такога раздзела сучаснай літаратурнай мовы, як парэміялогія, у якім прыказкі разглядаюцца сістэмна з семантычнага, этымалагічнага, граматычнага і стылістычнага пунктаў гледжання. І.Я. Лепешаў вырашыў шмат спрэчных канцэптуальных пытанняў, якія неадназначна трактаваліся на працягу доўгага часу. Так, аўтар прапанаваў адмовіцца ад трафарэтных, шаблонных, анахранічных загалоўкаў «Прыказкі і прымаўкі» і аргументавана даказаў, што «прымаўка» – гэта не што іншае як фразеалагізм і, каб пазбегнуць тэрміналагічнай блытаніны, неабходна скасаваць тэрмін «прымаўка» як аналаг фразеалагізма і выкарыстоўваць адзіны тэрмін «прыказка». Да таго ж праводзіцца выразнае размежаванне прыказак і фразеалагізмаў, якія па традыцыі вельмі часта разглядаліся разам, атаясамліваліся. Вельмі важнай для разумення сутнасці і аб'ёму пприказак з'яўляецца распрацаваная І.Я. Лепешавым семантычная класіфікацыя іх на тры групы: алегарычныя, часткова алегарычныя, неалегарычныя. Ён упершыню ў сістэматызаваным выглядзе паказаў семантычныя сувязі ў парэміялогіі (сэнс, сінанімічнасць, варыянтнасць, мнагазначнасць і інш.), граматычныя і стылістычныя характарыстыкі, нарматыўнае і ненарматыўнае ўжыванне, гісторыю лексікаграфічнай распрацоўкі беларускіх прыказак. Непараўнальныя заслугі І.Я. Лепешава і ў галіне парэміяграфіі: яго тлумачальны і этымалагічны слоўнікі прыказак – найлепшае дасягненне ў гэтым кірунку ва ўсім славянскім мовазнаўстве. Вельмі карыснымі для лінгвадыдактыкі з'яўляюцца шмат якія прапановы І.Я. Лепешава пра змест і рацыянальныя прыёмы вывучэння прыказак у школе.

### *Літаратура*


1. Лепешаў, І.Я. З народнай фразеалогіі: дыферэнц. слоўнік. / І.Я. Лепешаў – Мінск: Выш. шк., 1991. – 110 с.
2. Лепешаў, І.Я. Слоўнік беларускіх прыказак / І.Я. Лепешаў, М.А. Якалцэвіч. Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 1996. – 352 с.
3. Лепешаў, І.Я. Слоўнік беларускіх прыказак / І.Я. Лепешаў, М.А. Якалцэвіч. Мінск: Бел. навука, 2002. – 511 с.
4. Лепешаў, І.Я. Слоўнік беларускіх прыказак / І.Я. Лепешаў, М.А. Якалцэвіч. Мінск: Бел. асац. «Конкурс», 2006. – 544 с.
5. Лепешаў, І.Я. Тлумачальны слоўнік прыказак / І.Я. Лепешаў, М.А. Якалцэвіч. Гродна: ГрДУ імя Я. Купалы, 2011. – 695 с.
6. Петрушкевіч, А. Значная з'ява парэміялогіі і парэміяграфіі / А. Петрушкевіч // Роднае слова. – 2012. – № 7. – С. 47.
7. Лепешаў, І.Я. Парэміялогія як асобны раздзел мовазнаўства: дапам. / І.Я. Лепешаў. – Гродна: ГрДУ. – 2006. – 279 с.
8. Лепешаў, І.Я. Этымалагічны слоўнік прыказак / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Вышэйшая школа, 2014. – 141 с.


---


Першая публікацыя ў зборніку: *Краявіды роднай мовы : зб. мовазнаўч. навук. арт. (памяці прафесара І.Я. Лепешава) / рэдкал. : М.А. Даніловіч (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2014. – С. 4–12.*

# Раздзел 2
# ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ

## ТЫПАЛОГІЯ ЛЕКСІЧНЫХ І ФРАЗЕАЛАГІЧНЫХ ДЫЯЛЕКТЫЗМАЎ

Тэрмін «дыялектызм» раней ужываўся толькі для абазначэння пэўнай стылістычнай катэгорыі: «Дыялектызм – гэта слова, ці моўны зварот, ці гукавая асаблівасць, ці граматычная рыса, якая характэрна для гаворкі і ўспрымаецца намі як нелітаратурная. Паняцце «дыялектызм» узнікае тады, калі мы, слухаючы чыёсьці ў цэлым літаратурнае маўленне ці чытаючы мастацкі твор, заўважаем іншародныя словы, звароты ці іншыя асаблівасці мовы, якія парушаюць літаратурную норму і якія мы тлумачым уплывам дыялекту» [2, с. 120]. У апошнія дзесяцігоддзі за тэрмінам «дыялектызм» замацавалася яшчэ адно значэнне, якое ўжо пацверджана слоўнікамі лінгвістычных тэрмінаў: дыялектызмы – гэта «фанетычныя, марфалагічныя, сінтаксічныя, фразеалагічныя, семантычныя асаблівасці, уласцівыя асобным дыялектам у супастаўленні з літаратурнай мовай» [5, с. 95]; гл. таксама [9, с. 52].

Дыялектызм з першым значэннем прыярытэтны пры даследаванні літаратурнага маўлення, у прыватнасці, мовы мастацкай літаратуры. Калі ж вывучаецца дыялектная мова, на першы план выходзіць разуменне дыялектызма ў другім значэнні. У аснову такога тэрміналагічнага размежавання пакладзены найперш функцыянальны бок дыялектызмаў, хоць сутнасць іх у абодвух выпадках застаецца той самай.

Характар дыялектызма вызначаецца праз параўнанне яго з адпаведным фактам літаратурнай мовы. У выніку параўнання адзінак розных моўных узроўняў вылучаюцца адрозненні, якія дазваляюць гаварыць пра фанетычныя, словаўтваральныя, лексічныя, марфалагічныя, сінтаксічныя, фразеалагічныя дыялектызмы.

Звернем увагу на класіфікацыю лексічных і фразеалагічных дыялектызмаў. Лексічныя дыялектызмы атрымалі шырокае асвятленне ў навуковай і навучальнай літаратуры. Па сваім характары яны неаднастайныя, падзяляюцца на пяць тыпаў: уласналексічныя, этнаграфічныя, лексічна-фанетычныя, лексічна-словаўтваральныя, лексічна-семантычныя.

Пры вызначэнні двух першых тыпаў назіраецца поўнае адзінства поглядаў даследчыкаў, якія сыходзяцца на тым, што «ўласналексічныя дыялектызмы ўяўляюць сабой невядомыя літаратурнай мове словы, што служаць назвамі з'яў, для абазначэння якіх у літаратурнай мове ўжываюцца словы з якой-небудзь іншай невытворнай асновай» [11, с. 118]. Інакш кажучы, гэта «мясцовыя назвы агульнавядомых рэчаў, з'яў» [8, с. 46]: *варапаўка* – рапуха, *картопля* – бульба, *файны* – прыгожы. Этнаграфічныя дыялектызмы можна разглядаць як разнавіднасці ўласналексічных дыялектызмаў. Спецыфіка іх у тым, што яны не маюць паралеляў у літаратурнай мове, бо называюць прадметы і з'явы малавядомыя, пашыраныя на абмежаванай тэрыторыі: *ботка* – палка з цвіком на канцы, якая служыць для адпіхвання на санках ці на каньках.

Што да трэцяга, чацвёртага і пятага тыпаў дыялектызмаў, то і па сённяшні дзень няма адназначнага разумення іх сутнасці, няма і аднастайнасці тэрміналагічнага абазначэння. Так, лесічна-фанетычныя дыялектызмы (фанетычныя асаблівасці не залежаць ад фанетычнай сістэмы гаворакі) часам зблытваюць з фанетычнымі дыялектызмамі ці,

наадварот, назву «фанетычныя дыялектызмы» ілюструюць словамі з індывідуальнымі фанетычнымі адметнасцямі. У шэрагу прычын такой неразборлівасці – дыяхранічныя зрухі, якія прыводзяць да змянення статусу моўных з'яў. Напрыклад, у паўночна-заходняй Беларусі пад уплывам сучаснай агульнабеларускай моўнай нормы назіраецца разбурэнне такой фанетычнай заканамернасці, як ужыванне прыстаўнога [г]. Як рэшткавая з'ява ў некаторых гаворках пачатковы [г] пакуль што захаваўся толькі ў асобных словах тыпу *гуліца, гуж, гузял*. У выніку лексікалізацыі фанетычных працэсаў словы, якія раней ілюстравалі тып дыялектызмаў фанетычных, сёння належаць да дыялектызмаў лексічна-фанетычных.

Няма тэрміналагічнай аднастайнасці і ў дачыненні да дыялектызмаў, якія супадаюць з літаратурнымі эквівалентамі коранем, але маюць дыялектнае афіксальнае афармленне: *каровячы* – каровін, *страпёны* – утрапёны, *напроціў* – супраць. У навуковай літаратуры іх называюць па-рознаму: лексічныя [7, с. 170], словаўтваральныя [3, с. 396; 4, с. 169], лексічна-словаўтваральныя [11, с.119] дыялектызмы. Думаецца, найбольш прыдатны апошні тэрмін. Наяўнасць у дыялектнага і літаратурнага адпаведнікаў неаднолькавых словаўтваральных сродкаў – сведчанне таго, што гэта не якія-небудзь варыянты, а асобныя лексемы, бо, як слушна заўважае М.М. Шанскі, «тоеснасць слова не можа захоўвацца, калі не захоўваецца тоеснасць марфем, што складаюць яго аснову» [11, с. 63]. Тут, хутчэй за ўсё, можна гаварыць пра з'яву дыялектна-літаратурнай лексічнай сінаніміі. Дыялектызмы гэтага тыпу варта разглядаць як разнавіднасць лексічных, вызначальнай прыметай якіх з'яўляецца словаўтваральная асаблівасць, і тэрмін «лексічна-словаўтваральныя дыялектызмы» найбольш дакладна адпавядае такой іх сутнасці.

Іншая справа, калі афіксальная адметнасць закранае рэгіянальны словаўтваральны тып, семантычна тоесны іншаму словаўтваральнаму тыпу ў літаратурнай мове. Параўн. суфіксы *-іск-/-ішч-*: *аўсяніска* – аўсянішча, *бульбяніска* – бульбянішча, *ячмeніска* – ячменішча. Тут дыялектны суфікс не індывідуальны афармляльнік аднаго нейкага слова, ён пашыраецца на серыю структурна аднатыповых слоў. Паміж дыялектнымі і літаратурнымі адпаведнікамі выяўляецца толькі словаўтваральнае адрозненне, якое ўтварае цэлую заканамернасць і не парушае іх лексічную тоеснасць. У гэтым выпадку дыялектызмы варта кваліфікаваць як словаўтваральныя. Такім чынам, узнікае неабходнасць размежавання лексічна-словаўтваральных і словаўтваральных дыялектызмаў як асобных катэгорый.

Патрабуе ўдакладнення і тэрмін «лексічна-семантычныя дыялектызмы». Пад ім разумеюць словы, якія супадаюць з літаратурнымі словамі гукавым афармленнем, але маюць іншую семантыку. Пры кваліфікацыі такіх дыялектызмаў большасцю аўтараў дапускаецца неабавязковасць роднаснасці слоў і значэнняў: «Тут можна вылучыць словы, якія супадаюць у гаворках і літаратурнай мове выпадкова, значэнне ў іх зусім рознае… Пераважная частка семантычных дыялектызмаў – гэта словы, якія маюць у гаворках іншае ці больш шырокае або вузейшае значэнне…» [10, с. 214–215]. Некаторыя аўтары абмяжоўваюць кола семантычных дыялектызмаў толькі аманімічнымі лексемамі: «Гэта словы, якія супадаюць гукавым воблікам, але маюць асобае значэнне ў гаворках. Яны аманімічныя словам літаратурнай мовы» [6, с. 38].

На наш погляд, семантычныя дыялектызмы не павінны выходзіць за межы тоеснасці слова. Яны выражаюць дыялектны характар не ўсіх атрыбутаў слова, а толькі такога яго кампанента, як значэнне. Па сутнасці, семантычны дыялектызм – гэта дыялектнае значэнне таго самага слова, якое ў літаратурнай мове мае іншае значэнне. Калі ж аднолькава афармленыя адзінкі ў дыялектнай і літаратурнай мовах выяўляюць зусім розныя (аманімічныя) значэнні, то гэта ўжо два асобныя словы і паміж імі не ўстанаўліваюцца адносіны семан-

тычнай варыянтнасці. Напрыклад, рэгіяналізм *вясло* ‘звязак прадметаў’ нельга лічыць семантычным дыялектызмам у адносінах да літаратурнага слова *вясло* ‘шост для веславання’, таму што яны не маюць нічога агульнага ні ў семантыцы, ні ў паходжанні. Тэрытарыяльна абмежаванае слова *ваясло* – гэта ўласналексічны дыялектызм, што выяўляецца праз параўнанне яго з літаратурным семантычна тоесным словам *звязак*.

Значнае месца ў сістэме гаворак займаюць фразеалагічныя дыялектызмы. Да нядаўняга часу яны былі даследаваны слаба, у навуковых і навучальных працах або зусім не згадваліся, або характарызаваліся ў самым агульным плане. Упершыню тыпалогія фразеалагічных дыялектызмаў разгледжана намі ў апублікаванай ў 2003 годзе манаграфіі «Беларуская дыялектная фразеалогія і яе лексічная аснова» [1]. Усе фразеалагічныя дыялектызмы падзяляюцца на восем тыпаў:

1. Фразеалагічна-фанетычныя дыялектызмы – бытуюць на пэўнай тэрыторыі і пры тоеснасці значэння адрозніваюцца ад літаратурных фразеалагізмаў асобнымі гукамі (*у каршэль* – у каршэнь) або месцам націску ў кампанентах (*падняць ру́ку* на каго – падняць руку́).

2. Фразеалагічна-словаўтваральныя дыялектызмы – адрозніваюцца ад літаратурных адпаведнікаў марфемна-словаўтваральнай структурай асобных кампанентаў: *касцей не пабярэш* – касцей не збярэш.

3. Фразеалагічна-марфалагічныя дыялектызмы – супадаюць з адпаведнымі літаратурнымі эквівалентамі семантычна, але маюць разыходжанні граматычнага парадку – адметную марфалагічную форму аднаго ці некалькіх кампанентаў: *баяцца сваёй цені* – баяцца свайго ценю.

4. Фразеалагічна-сінтаксічныя дыялектызмы – ілюструюць змяненне сінтаксічнай структуры фразеалагізма: *чуць на свет* – чуць свет.

5. Фразеалагічна-лексічныя дыялектызмы – захоўваючы адзінства значэння, адрозніваюцца ад літаратурных эквівалентаў асобнымі словамі-кампанентамі: *рукі апалі* – рукі апусціліся.

6. Канструкцыйна-колькасныя фразеалагічныя дыялектызмы – адрозніваюцца ад літаратурных фразеалагізмаў пры тоеснасці значэння колькасцю кампанентаў. Неаднолькавая колькасць кампанентаў вызначае і адрозненні сінтаксічнай канструкцыі, мадэлі фразеалагізма: *як языком злізала* – як карова языком злізала, *сушыць зубы на сонцы* – сушыць зубы.

7. Фразеалагічна-семантычныя дыялектызмы – пры фармальным супадзенні з літаратурнымі адзінкамі адрозніваюцца ад іх адценнямі значэння, значэннямі, аб’ёмам значэнняў: *цяжкая рука* ‘хто-н. мае вялікую сілу ўдару’ (дыял.) – ‘хто-н. прыносіць няўдачу, няшчасце ў якой-н. справе, пачынанні’ (літар.).

8. Уласнафразеалагічныя дыялектызмы – вызначаюцца непаўторнасцю ўнутранай формы, своеасаблівасцю структурна-кампанентнага складу. Яны абазначаюць паняцці, якія ў літаратурнай мове перадаюцца іншымі фразеалагізмамі (*праз чужыя вочы на свет глядзець* – жыць чужым розумам) або якія не маюць ў літаратурнай мове эквівалентаў (*арэшкі шчыпаць* ‘ікаць’).

Нярэдка фразеалагічныя дыялектызмы спалучаюць у сабе асаблівасці некалькіх тыпаў. Напрыклад, дыялектызм *пальцы ў зубы не кладзі* адрозніваецца ад літаратурнага адпаведніка *палец у рот не кладзі* і марфалагічнай формай кампанента (*пальцы – палец*), і асобным кампанентам (*зубы – рот*), з’яўляючыся камбінаваным дыялектызмам – адначасова і фразеалагічна-марфалагічным, і фразеалагічна-лексічным.

Адзначаная класіфікацыйная схема зручная тым, што яна здольна ахапіць усе разнавіднасці фразеалагічных дыялектызмаў, якія бытуюць у гаворках.

Прыведзеныя тэрміналагічныя назвы сваёй унутранай формай падкрэсліваюць сутнасць, вызначальную прымету кожнага тыпу фразеалагічных дыялектызмаў, адрозненне іх ад літаратурных суадноснікаў асаблівасцямі формы ці значэння. Словаўтваральнай мадэллю яны збліжаюцца з агульнапрызнанымі назвамі лексічных дыялектызмаў (лексічна-фанетычныя, лексічна-семантычныя, уласналексічныя і інш.), што спрыяе выпрацоўцы адзінай лексічна-фразеалагічнай тэрмінасістэмы.

### *Літаратура*


1. Даніловіч, М.А. Беларуская дыялектная фразеалогія і яе лексічная аснова: манаграфія / М.А. Даніловіч. – Гродна : ГрДУ, 2003. – 272 с.

2. Калинин,А.В. Лексика русского языка / А.В. Калинин. – изд. 3-е. – М. : Изд. Московского ун-та, 1978. – 250 с.

3. Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. А.Я.Баханькова. – Мінск : Навука і тэхніка, 1994. – 463 с.

4. Рагаўцоў, В.І. Маўленчае выражэнне камічнага ў беларускай драматургіі: манаграфія / В.І. Рагаўцоў. – Магілёў : МДУ імя А.А. Куляшова,2002. – 304 с.

5. Розенталь, Д.Э. Словарь-справочник лингвистических терминов / Д.Э Розенталь, М.А. Теленкова. – М : Просвещение, 1976. – 543 с.

6. Современный русский литературный язык учебник / под ред. П.А.Леканта. – М. : Высш. школа, 1982. – 399 с.

7. Сороколетов, Ф.П.Очерки по русской диалектной лексикографии / Ф.П. Сороколетов, О.Д. Кузнецова. – Л.: Науа, 1987. – 230 с.

8. Сучасная беларуская літаратурная мова: Лексікалогія. Фразеалогія. Лексікаграфія. Фразеаграфія. Фанетыка, Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. – Мінск., 1984.

9. Сцяцко, П.У. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў/ П.У. Сцяцко, М.Ф. Гуліцкі, Л.А. Антанюк. – Мінск, 1990.

10. Сцяцко П.У. Народная лексіка і словаўтварэнне / П.У. Сцяцко. – Мінск : Навука і тэхніка, 1972. – 288 с.

11. Шанский Н.М. Лексикология современного русского языка / Н.М. Шанский. – М. : Просвещение, 1972. – 328 с.


---

Першая публікацыя ў зб.: *Славянская фразеология в ареальном, историческом и этнокультурном аспектах : материалы IV Междунар. науч. конф.; отв. ред. В.И.Коваль. – Гомель: УО «ГГУ им. Ф.Скорины», 2005. – С. 157–161.*

## РЭГІЯНАЛЬНЫЯ МОЎНЫЯ З’ЯВЫ Ў КЛАСІФІКАЦЫЙНАЙ СІСТЭМЕ БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК

Беларускія гаворкі атрымалі выразную і дастаткова вычарпальную навуковую класіфікацыю. Паводле яе вылучаюцца дыялектная і занальная групоўка гаворак.

Дыялектная групоўка ўлічвае этнагенетычную прыроду мовы пэўнага рэгіёну, яе самаразвіццё ў гістарычным часе эвалюцыйным шляхам. У класіфікацыйнай сістэме ўстаноўлена іерархія дыялектна-тэрытарыяльных тыпаў мовы, сярод якіх адны выступаюць больш агульнымі і шырокімі, а другія – больш дробнымі і лакальнымі. Іерархічны структурна-тыпалагічны падзел беларускай дыялектнай мовы мае некалькі ступеней. Самую галоўную, верхнюю, ступень утвараюць два супрацьстаўленыя

тыпы: а) асноўны беларускі масіў; б) заходнепалескія гаворкі. На другой, ніжэйшай, ступені вылучаюцца болш дробныя тыпы. Так, асноўны беларускі масіў падзяляецца на два дыялекты: паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні з прамежкавымі, пераходнымі сярэднебеларускімі гаворкамі. Заходнепалескі тып уключае ў сябе загародскія і тараканскія гаворкі. На трэцяй ступені беларускія дыялекты падзяляюцца на асобныя групы гаворак. Напрыклад, у паўднёва-заходнім дыялекце вядомы такія групы, як гродзенска-баранавіцкая і слуцка-мазырская, у паўночна-ўсходнім – полацкая і віцебска-магілёўская.

Занальная групоўка мае на ўвазе комлексы моўных з'яў, што атрымалі сваё распаўсюджанне ў выніку культурна-гістарычнага ўзаемадзеяння груп гаворак, дыялектаў ці суседніх моў. Дыялектныя зоны (цэнтральная, заходняя, паўночна-заходняя, усходняя, паўднёва-ўсходняя) не выступаюць унутрадыялектнымі структурнымі кампанентамі, а складаюць асобны ярус арэальнага падзелу і як бы накладваюцца на этналінгвістычную карту Беларусі і размяркоўваюцца ў зусім іншых межах, чым дыялекты.

Для ідэнтыфікацыі і дыялектных, і занальных разнавіднасцей беларускай мовы існуе сукупнасць фанетычных, марфалагічных, сінтаксічных і лексічных рыс, улічваючы якія можна дакладна, беспамылкова вызначыць прыналежнасць маўлення да пэўнага дыялектнага тыпу. Магчыма, толькі яшчэ не зусім да канца вызначаны моўныя факты, якія акрэсліваюць колькасць і спецыфічнае напаўненне асобных дыялектных зон. Як слушна заўважае А.А. Крывіцкі, «у якасці занальных могуць разглядацца, безумоўна, розныя іншыя ўстаноўленыя і невядомыя яшчэ пучкі ізаглос адрозненняў аналагічнага характару (а таксама адзінкавыя ізаглосы як рэлікты мінулых дыялектных зон або, наадварот, як пачатковыя інавацыі новых занальных адасабленняў гаворак). Адасабленнямі занальнага характару з'яўляюцца, відавочна, некаторыя ўстаноўленыя ўжо структурна-тэрытарыяльныя адзінствы гаворак беларускай мовы, агульны тыпалагічны статус якіх у межах распрацаванай лінгвістычнай групоўкі яе гаворак застаецца пакуль што не вызначаным» [1:216].

Аднак у цэлым і дыялектная, і занальная характарыстыка беларускай дыялектнай мовы з'яўляецца дастаткова распрацаванай.

Акрамя таго, у дыялектнай мове бытуе нямала моўных з'яў, якія знаходзяцца за межамі адзначаных дыялектных і занальных тыпаў, не ўпісваюцца ў рэестр іх асаблівасцей, не з'яўляюцца вызначальнымі пры характарыстыцы дыялектаў, груп гаворак, дыялектных зон. Гэта пераважна вузкарэгіянальныя з'явы, пашыраныя ў адной, некалькіх гаворках ці хаатычна раскіданыя па моўных рэгіёнах, не маючы суцэльнай ізаглосы. Пры апісанні тыпаў дыялектнай мовы ў навуковай і навучальнай літаратуры яны як бы з'яўляюцца незапатрабаванымі і не заўсёды прымаюцца ў разлік. Паколькі падобныя з'явы не выступаюць прадстаўнікамі цэлых структурных тыпаў дыялектнай мовы, не з'яўляюцца іх візітнай карткай, узнікае пытанне, якое вызначэнне яны павінны атрымаць і якое месца заняць у класіфікацыйнай сістэме беларускіх гаворак.

У практычнай дыялектаграфіі моўныя з'явы, якія знаходзяцца на перыферыі дыялектных ці занальных тыпаў або ўяўляюць сабой аўтаномныя адзінкі, атрымалі статус рэгіянальных, а іх моўна-тэрытарыяльнае бытаванне абазначана як *дыялектныя рэгіёны.* Напрыклад, у тэматычных слоўніках «Жывёльны свет», «Раслінны свет», «Чалавек», створаных Інстытутам мовазнаўства НАН Беларусі, для пашпартызацыі лексічных

адзінак, акрамя назваў дыялектных груп гаворак і дыялектных зон, вылучаюцца яшчэ і назвы дыялектных рэгіёнаў: віцебскі рэгіён, гомельскі рэгіён, гродзенскі рэгіён і інш. На наш погляд, падобнае тэрміналагічнае абазначэнне павінна знайсці сваё месца і ў класіфікацыйнай сістэме беларускай дыялектнай мовы. Да такіх падраздзяленняў, як дыялектныя тыпы, занальныя тыпы гаворак, мэтазгодна далучыць яшчэ і трэці элемент – *рэгіянальныя тыпы* гаворак.

Пад рэіянальным тыпам гаворак у такім выпадку неабходна разумець мову пэўнага рэгіёна, у якой ёсць некаторыя адметныя мясцовыя асаблівасці, не характэрныя для дыялектных і занальных груп, што праходзяць праз тэрыторыю гэтага рэгіёна.

Такі тып утвараюць асобныя дыялектныя рэгіёны, колькасць і шырыня якіх у пэўнай ступені адносная і ўмоўная. Можна вылучаць больш буйныя ці меншыя па памерах рэгіёны, напрыклад, брэсцкі (Брэстчына), мінскі (Міншчына) або столінскі (Століншчына), зэльвенскі (Зэльвеншчына). Вузкалакальныя дыялектныя з'явы даюць падставу вылучаць невялікія рэгіёны.

Такім чынам, адзнакай кожнага дыялектнага рэгіёна з'яўляюцца спецыфічныя, адметныя, рэдкія, нетыповыя з'явы. Даследчыкі ўдзялялі ім недастатковую ўвагу, і таму яны застаюцца не інвентарызаванымі і не да канца вывучанымі. Сёння яны вымагаюць неадкладнай фіксацыі і вывучэння. Па прычыне сваёй тэрытарыяльнай абмежаванасці рэгіянальныя дыялектныя асаблівасці зазнаюць найбольш інтэнсіўнае выцясненне беларускай літаратурнай і рускай мовамі. Гэты працэс паскараецца і ў сувязі з тым, што разбураецца традыцыйная беларуская вёска. Знікаюць малыя населеныя пункты, адыходзяць у іншы свет іх апошнія жыхары, забіраючы з сабой у небыццё сваю спрадвечную гаворку.

У якасці ілюстрацыі актыўнай архаізацыі дыялектных з'яў можна прывесці наступны прыклад. У вёсках Парэцкага сельсавета Гродзенскага раёна (вв. Парэчча, Новая Руда, Старая Руда, Глушнева  і інш.) яшчэ гадоў 20–30 таму дастаткова прыкметна ўжываліся дзеясловы 3-й асобы множнага ліку цяперашняга і будучага простага часу з цвёрдым |ц| у канчатку: *кажуц, роб'ац, знайуц, стрыгуц, пав'азуц, раск'ідайуц, з'л'эп'ац, раскапайуц, жнуц, стукайуц.* Радзей гэта назіралася і ў формах дзеясловаў адзіночнага ліку, а таксама ў формах інфінітыва: *л'ажыц, б'ажыц, с'п'іц; л'ажац, раб'іц.* У дыялектнай мове гэтая з'ява рэдкая. У «Дыялекталагічным атласе беларускай мовы» [2], на карце № 156,  адзначаны яшчэ толькі чатыры пункты яе бытавання: Шылавічы Слонімскага, Люсіна Ганцавіцкага, Снедзін Петрыкаўскага, Запясочча Жыткавіцкага раёнаў). Сёння ў гаворцы Гродзенскага раёна яна знаходзіцца на стадыі знікнення, уласціва маўленню толькі самых старых жыхароў.

На працягу апошніх трыццаці гадоў намі праведзена пэўная праца  па фіксацыі і частковым вывучэнні рэгіянальных моўных фактаў, што бытуюць на Гродзеншчыне. Занатавана іх каля сотні. У межах вызначанага аб'ёму артыкула прывядзём толькі некаторыя.

У асобных словах замест націскных |і|, |ы| вымаўляецца галосны |э|: *дз'эрка, зац'эрка, к'эпц'і, рабац'эн'а, павуц'эн'а, ц'в'эк, чатэры, халадз'эл'н'ік, с'в'эран, бл'эска, км'эн, начэн'н'э, шчэра.* Гэтая асаблівасць сустракаецца таксама ў лексічна-граматычных групах слоў: а) у займеннікавых прыслоўях *(тадэ, тудэ, кудэ, с'удэ);* б) у формах дзеясловаў прошлага часу множнага ліку *(был'э, пашл'э, уз'ал'э).*

Прыкметнай асаблівасцю з’яўляецца азванчэнне глухіх зычных у пазіцыі перад галоснымі *(забран’а, гэдак, гэдык’і, тудака, калаўродак, g’ізнуц’).* Назіраецца яно і перад санорнымі: *адм’ачал’і*, *адл’ічал’іс’а,застраgла,зраўн’іш,адв’эт.* Выяўлена і адваротная тэндэнцыя: ужыванне глухіх зычных перад санорнымі, часам перад звонкімі зычнымі і галоснымі. Часцей гэтая з’ява назіраецца ў злучніку *каб*, прыназоўніках *пад, ад, з*: *кап в’эдал’і, прыходжу пат в’эчар; забрал’і ат іх стох с’эна; лапц’і с аборам’і.* Адзначаецца яна таксама ў прыстаўках і часам у корані слова: *атдавай, патйэс’ц’і,с’б’ірал’і,рас’б’і рал’і,вотмалац’, у патвал’і.*

У гаворках Гродзеншчыны значна пашырана сцяжэнне зычных гукаў, якое рэалізуецца ў розных пазіцыях. Вылучаецца і тыповае сцяжэнне, і адзінкавае. Разгледзім прыклады найбольш рэгулярнага сцяжэння: 1. Пад уплывам сцяжэння зычных, якое развілося на месцы стражытнага спалучэння «мяккі зычны + ьй» *(рал’ьйа – рал’йа – рал’л’а – рал’а)* адбылося сцяжэнне і ў ва ўсіх асабовых формах дзеясловаў *біць, піць, віць, ліць* (Гродзенскі і Шчучынскі раёны): *б’у, п’у, в’у, л’у, б’эш, п’эш, в’эш, л’эш, б’э, п’э, в’э, л’э, б’эм, п’эм, в’эм, л’эм, б’эц’а, п’эц’а, в’эц’а, л’эц’а, б’уц’, п’уц’, в’уц’, л’уц’.* Гук |й| адсутнічае і ў аднакаранёвых утварэннях тыпу *наб’эш, нап’эса, п’ан’іца, п’аны, п’аўка.* Цікава, што ў слове *абйэздчык* гук |й| пасля прыставачнага губнога таксама страціўся: *аб’эшчык* (але: *абйэст, абйэхац’*). Падобная асаблівасць часам пашыраецца і на іншыя словы, некаторыя з іх нетрадыцыйныя, прыйшлі ў гаворкі адносна нядаўна: *Дз’ам’ан, Іл’а, сям’а, п’эса, п’эска, Адз’іта П’эха.* 2. Сцяжэнне *цц – ц* у постфіксе зваротных дзеясловаў: *вучыца, жан’іца, браца, с’м’ійаца, угл’адаца, значыца.* 3. Сцяжэнне *дд – д* на стыку прыстаўкі і кораня: *адац’, адз’ал’іц’, адз’эл, адз’ал’эн’а, адз’ачыц’, адыхацца.* 4. Сцяжэнне *цц – ц* у суфіксе лічэбнікаў ад *адзінаццаці* да *дваццаці* і *трыццаць: адз’інацац’, дванацац’, трынацац’, трыцац’.* 5. Сцяжэнне *нн – н* у корані слова ці на стыку кораня і суфікса: *тан’эй, пл’эныйа, с’он’а.*

Ужываюцца назоўнікі мужчынскага роду адзіночнага і множнага ліку з фармантам *-істы (-ысты),* якія скланяюцца па тыпе прыметнікаў на *-істы*: *гарман’істы, гарман’істага, гарман’істаму, гарман’істым, аб гарман’істым, гарман’істыя, гарман’істых* і г. д. Такіх назоўнікаў нямнога. Сярод іх вылучаюцца тры семантычныя групы: а) назвы музыкаў у залежнасці ад інструмента: *арган’істы, кл’арн’этысты, бубн’істы, гарман’істы;* б) назвы спецыялістаў у залежнасці ад роду дзейнасці: *трахтарысты, машын’істы* ‘той, хто кіруе паравозам’, *с’ігнал’істы* ‘той, хто падае сігнал’; в) назвы асоб паводле ідэалагічнай, партыйнай, рэлігійнай прыналежнасці *(камун’істы, баптысты)*, напрыклад: *Харашо было, весяло, сьмяяліся, а патом хто куды: хто ў цэркву, хто на сабранё ў бапцістыя пайшоў* (Бібікі Зэльвенскага р-на). Спарадычна фармант *-істы (-ысты)* выяўлены ў назоўніках іншых груп. Напрыклад, жыхара вёскі Бабіна Гродзенскага раёна з афіцыйным імем Уладзімір называлі *Валадз’істы.* У гэтай жа вёсцы веласіпедыста называлі *цыкл’істы.* Апошні назоўнік пакінуў след у мясцовай мікратапаніміі *(с’ц’эшка Цыкл’істаго, Цыкл’іста с’ц’эшка).* У в. Гуды Лідскага раёна з такой мадэллю зафіксавана слова *актывіст*: *Уночы прыходзіць акцыв’істы, стукае ў акно.*

Простая форма вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў утвараецца пры дапамозе ненаціскнога суфікса *-айш- (бл’іжайшы, гарачайшы, дужайшы, з’ал’он’айшы, кароц’айшы, н’іжайшы, харошайшы, чырвон’айшы).*

Прыметнікі (адпрыметнікавыя прыслоўі) у суфіксах *-эньк-, -аньк-* маюць зацвярдзелы зычны |н| *(добранк'і (добранко), мал'энк'і, м'і'л'анк'і, плах'энк'і, старэнк'і, чыс'ц'анк'і).*

У дыялектнай мове Гродзеншчыны няпэўныя займеннікі і займенныя прыслоўі ўтвараюцца пры дапамозе розных прэфіксаў і постфіксаў ад пытальна-адносных займеннікаў. Да прэфіксальных словаўтваральных сродкаў належаць часціцы-прыстаўкі *н'э-, абы-, был'а-, бон'ц'-*, да постфіксальных – *-с'ц'і, -н'эбудз', -та, -кол'в'эк.* Постфік *-н'эбудз' (-н'ібудз')* выкарыстоўваецца абмежавана. Не вызначаецца актыўнасцю і постфікс *-с'ц'і.* Яго варыянт *-с'* адзначаны ў Ваўкавыскім, Бераставіцкім, Свіслацкім, Воранаўскім раёнах: *хтос', чыйс', йак'іс'.* Акрамя агульнаўжывальных прыставак *н'э-, абы-,* актыўна ўжываюцца дыялектныя словаўтваральныя сродкі *-та, был'а-, бон'ц'-, -кол'в'эк.* Пад уздзеяннем няпоўнага недысіміляцыйнага акання постфіскс *-та* часта рэалізуецца ў варыянце *-то: хто-то, чый-то, йак'і-то.* Значнае распаўсюджанне на тэрыторыі Гродзеншчыны атрымала прыстаўка *был'а- (абыл'а-)*: *был'а-хто, был'а-што, был'а-йак'і, абыл'а-чый.* Пераважна ў Гродзенскім і Шчучынскім раёнах пашырана часціца-прыстаўка *бон'ц'-.* Яе фанетычныя варыянты – *бын'ц'-, бун'ц'-: бон'ц'-хто, бун'ц'-чаго, бын'ц'-йак'і.* Наяўнасць гэтай марфемы тлумачыцца кантактаваннем гаворак з польскай мовай (параўн. польск. *bądź* 'або'). Як сродак утварэння няпэўных займеннікаў і займеннікавых прыслоўяў, яна вядома і ўкраінскай мове, але крыху ў іншым фанетычным афармленні: *будь-хто, будь-чий, будь-що, будь-коли.* Постфікс *-кол'в'эк* мае яшчэ такія варыянтныя разнавіднасці, як *-кол'в'эчы, -кол'ак, -кол'ачак: што-кол'в'эчы, чаго-кол'ак, што-кол'ачак.* Сустракаецца ўжыванне адносных займеннікаў у значэнні няпэўных. Гэтая дыялектная асаблівасць рэалізуецца найчасцей у займенніках, калі ім сэнсава найбольш адпавядаюць літаратурныя ўтварэнні з марфемай *-небудзь: Можа чаго хацеў?* (Бабіна Гродзенскага р-на). Нярэдка кампаненту *-небудзь* адпавядае слова *дз'э (дз'э-хто, дз'э-што, дз'э-йак'і, дз'э-чый): Добра, што дзеці часьцей прыязджаюць, то прывязуць дзе-чаго* (Меляхі Іўеўскага р-на). *Наймалі хату дзе-чыю і там гулялі* (Мігдалы Воранаўскага р-на). Адзначаны нешматлікія выпадкі прэфіксальна-постфіксальнага ўтварэння няпэўных займеннікаў: *н'эк'ійас'ц'і, н'эчыйс'ц'і.*

Некаторыя дзеясловы другой асобы множнага ліку цяперашняга і часцей будучага простага часу прымаюць да сябе дадатковы элемент *-ц'а(-ц'э): вы л'ажыц'эц'а, аддас'ц'эцэа, байіц'эц'аса, с'адз'іц'эц'а, маўчыц'эц'а, крычыц'эц'а, пагл'адз'іц'эц'а, пастайіц'эц'а, пал'ажыц'эц'а падйас'ц'эц'а, падв'аз'іц'эц'а.* Формы дзеясловаў будучага часу, як правіла, ускладняюцца імператыўным значэннем, дадаткова выражаюць адценне некатэгарычнага загаду: *Вазьмеця во дзісятку, сустрэняця, та аддасьцеця яму* (Берашты Шчучынскага р-на). *Каровы ў Геці добро ходзяць; зажанеця туды і паляжыцеця на фуфайках* (Бабіна Гродзенскага раёна).

Да шэрагу прыслоўяў далучаюцца суфіксы, якія не нясуць якой-небудзь сэнсавай, словаўтваральнай ці стылістычнпай нагрузкі: *-й: учорай, тамай, тутай;-ка: учорака, с'он'н'ака, тамака, тутака, вос'ака, вонака, адс'ул'ака; -й+-ка: учорайка, с'он'айка, тамайка, тутайка, потымайка; -чы: учорачы, с'он'ачы, тамачы, тутачы, ц'ап'эрачы; -а (-о): тута, тама, знова, потымо; \-ся; в'эл'м'іс'а, кал'іс'ц'іс'а.*

Падагульняючы сказанае, трэба адзначыць, што асаблівасці дыялектных рэгіёнаў патрабуюць да сябе большай увагі. Яны пакуль што недастаткова выяўлены і вывучаны. На наш погляд, для складання іх аносна поўнага рэестру, удакладнення арэальных межаў,

вызначэння генетычна-гістарычных вытокаў карысна было б аб’яднаць навуковыя сілы беларускіх вучоных. Інстытут мовы і літаратуры мог бы стаць каардынатарам гэтай справы і разам з дыялектолагамі, што працуюць у рэгіянальных універсітэтах, падрыхтаваць напачатку хаця б дыялекталагічны зборнік (зборнікі), у якім даваўся б звод спецыфічных асаблівасцей мовы дыялектных рэгіёнаў з разлікам на іх далейшае манаграфічнае апісанне.

*Літаратура*

1. Крывіцкі, А.А. Дыялекталогія беларускай мовы : дапам. / А.А.Крывіцкі. – Мінск : Выш. шк., 2003. – 203 с.
2. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. – Мінск : Выд-ва АН БССР, 1963. – 352 с.

Першая публікацыя ў зборніку: *Дыялекталогія і гісторыя беларускай мовы: матэрыялы Міжнар. навук. канф. Мінск 15–16 красавіка 2008 г.; Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. – Мінск: Права і эканоміка, 2008. – С. 11–16.*

## РЭГІЯНАЛЬНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ НАЗОЎНІКА І ПРЫМЕТНІКА Ў ГАВОРКАХ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Для ідэнтыфікацыі дыялектных разнавіднасцей беларускай мовы існуюць сістэмы фанетычных, марфалагічных, сінтаксічных і лексічных рыс, з дапамогай якіх можна дакладна вызначыць прыналежнасць маўлення да пэўнага дыялектнага тыпу. Гэтыя сістэмы добра вывучаны, належным чынам пададзены ў навуковай і навучальнай літаратуры – найбольш поўна і паслядоўна ў дапаможніку А.А.Крывіцкага [1, с. 129–265].

У апошні час ўсё большую ўвагу даследчыкаў прыцягваюць да сябе тыя дыялектныя факты, што не з’яўляюцца вызначальнымі пры характарыстыцы дыялектных масіваў, дыялектаў, груп гаворак, дыялектных зон. Гэта пераважна вузкарэгіянальныя з’явы, пашыраныя ў адной, некалькіх суседніх гаворках ці хаатычна раскіданыя на лінгвістычнай карце Беларусі. Яны пакуль што застаюцца слаба вывучанымі і не сабранымі разам. У сістэмным плане іх зручней групаваць па тэрытарыяльна-абласным прынцыпе.

У артыке разглядаюцца рэгіянальныя дыялектныя асаблівасці гаворак Гродзеншчыны, звязаныя з марфалогіяй назоўніка і прыметніка. Дыялектныя факты занатаваны аўтарам артыкула ў апошнія 25 гадоў (даюцца спрошчанай транскрыпцыяй), частка іх уводзіцца ў навуковы абыходак упершыню.

Н а з о ў н і к. У гаворках маюць месца варыянтныя формы граматычнага роду назоўнікаў. Можна вылучыць наступныя тыпы варыянтных родавых адносін:

а) жаночы род назоўніка з нулявым канчаткам – мужчынскі род *(уся маладзёш – увесь маладзёш, густая пыль – густы пыл, далёка Сібір – далёкі Сібір, кроў пацякла – кроў пацёк):* Помню, як прыедзя свадзьба да царквы, то ўся *маладзёш* зьбіралася (Каралін Зэльв.). Але во гэты *маладзёш*, што вучыць ім глаўно трэба (Малыя Азёркі Маст.);

б) мужчынскі род – жаночы род з канчаткам -*а (адрынак – адрынка, асёлак – асёлка, бензін – бензіна, грып – грыпа, бонк – бонка, калаўротак – калаўротка, карабін – карабіна, карасін – карасіна, мірт – мірта, настольнік – настольніца, папер – папера,*

*рэспуст – распуста, ціф – ціфа, шуфель – шуфля, шампунь –шампуня):* Засьцялі нову *настольніцу*, красівей будзя (Ятвезь Свісл.). Ці ш німожно падаслаць газету? Загадзіў увесь *настольнік* (Бабіна Гродз.);

в) мужчынскі род – ніякі род *(падворак – падворко (падвора), пудэлак – пудэлко, рукаў – рукаво, яблык – яблыко):* Я палажыў ніткі ў *пудэлак* (Белалозы Дзятл.). Аткрый *пудэлко*, там поўно гузікаў (Ятвезь Ваўк.);

г) жаночы род назоўніка трэцяга скланення – жаночы род назоўніка другога скланення *(балезьнь – балезьня, гармонь – гармоня, жызьнь (жызь, жысьць, жысь) – жызьня, моркаў – морква, сенажаць – сенажаця, цэркаў – цэрква, мыш – мыша, Польшч – Польшча): Жысьць* пройдзе, і не аглянесься (Граўжышкі Ашм.). Я ўсю *жызьню* прарабіла ў калхозі (Сухінічы Маст.);

д) жаночы род – ніякі род *(коўдра – коўдро, тая крэсла – тоё крэсло):* Вазьмі цяплейшу *коўдру*, бо ў хаці ні паляно (Гнесічы Навагр.). Егдзілі да Наваградка, купілі новаё *коўдро* (Хвалава Карэл.);

е) мужчынскі – жаночы – ніякі род *(абечак – абечка – абечко, ложак – лошка – лошко, цадзілак – цадзілка – цадзілко):* Чаго ты вісіш нада мною як *цадзілак* на плоці!.. Атчапіса ты ад міне! Дай пасядзець спакойно (Падбершты Шчуч.). Марына, памый *цадзілку* і павесь, каб высахла (Вераб'і Астр.). Зрабіла ново *цадзілко*, бо тое ўжэ парвалася (Бракава Сл.);

Ужываюцца назоўнікі мужчынскага роду адзіночнага і множнага ліку з фармантам *-істы (-ысты),* якія скланяюцца па тыпе прыметнікаў на *-істы*: *гарманісты, гарманістага, гарманістаму, гарманістым, аб гарманістым, гарманістыя, гарманістых* і г. д. Такіх назоўнікаў нямнога. Сярод іх вылучаюцца тры семантычныя групы: а) назвы музы́каў у залежнасці ад інструмента: *арганісты, клярнетысты, бубністы, гарманісты;* б) назвы спецыялістаў у залежнасці ад роду дзейнасці: *трахтарысты, машыністы* 'той, хто кіруе паравозам', *сігналісты* 'той, хто падае сігнал'; в) назвы асоб паводле ідэалагічнай, партыйнай, рэлігійнай прыналежнасці *(камуністы, баптысты)*, напрыклад: Харашо было, весяло, сьмяяліся, а патом хто куды: хто ў цэркву, хто на сабранё ў *бапцістыя* пайшоў (Бібікі Зэльв.). Спарадычна фармант *-істы (-ысты)* выяўлены ў назоўнікаў іншых груп. Напрыклад, жыхара вёскі Бабіна Гродзенскага раёна з афіцыйным імем Уладзімір называлі *Валадзісты.* У гэтай жа вёсцы веласіпедыста называлі *цыклісты.* Апошні назоўнік пакінуў след у мясцовай мікратапаніміі *(сьцешка Цыклістаго, Цыкліста сьцешка).* У в. Гуды Лідскага раёна з такой мадэллю зафіксавана слова *актывіст*: Уночы прыходзіць *акцывісты*, стукае ў акно (Гуды Лід.).

У Гродзенскім, Шчучынскім, Мастоўскім раёнах некаторыя зборныя назоўнікі – назвы лесу па наяўнасці пэўнага віду дрэў у ім – утвараюцца інакш, чым у літаратурнай мове: *асіна́, альшына́, бяразіна́, хвайна́* (параўн. літаратурныя *асіннік, алешнік, бярэзнік, хвойнік*). Дадатковым элементам выражэння зборнасці ў гэтых словах з'яўляецца націск на канчатку. Аналагічныя формы з націскам на аснове маюць ужо значэнне не зборнасці, а адзінкавасці: *асі́на, альшы́на, бярэ́зіна, хваі́на*. Падобнае дыялектнае словаўтварэнне ўласціва і асобным назоўнікам, не звязаным з паняццем 'лес', напрыклад: *зьвярына́* 'звяр'ё', *таліна́* 'праталіны': Па дарозі ўжэ пашла *таліна*, скоро саньмі ні праедзяш (Бабіна Гродз.).

У гаворках Зэльвеншчыны назоўнікі ніякага роду на *-мя* маюць устаўку *-ен-(-ян-)* не толькі ва ўскосных склонах, але і ў назоўным склоне: *вумянё, цемянё, семянё,*

*стрэмянё, імянё, полымянё, бярэмянё.* «Ужыванне тут устаўкі *-ен- (-ан-)* сведчыць аб захаванні ў гаворках вельмі старажытнай формы слоў на *-мя*, якія ў далёкім мінулым канчаліся на *-ен: племен, семен* і інш.» [2, с. 5].

Клічная форма, як адзначаецца ў навуковай і навучальнай літаратуры, утвараецца пры дапамозе канчаткаў *-е (-а), -у, -о* ад назоўнікаў мужчынскага роду і канчаткаў *-о, -е* ад назоўнікаў жаночага роду: *браце, дзеду, дзяцюхно; мамо, Вале.* У гаворках Гродзенскага, Шчучынскага, Мастоўскага, Свіслацкага раёнаў побач з названымі спрадвечнымі формамі клічнага склону назоўнікаў жаночага роду на *-о, -е* бытуе таксама форма клічнага склону назоўнікаў жаночага роду з канчаткам *-у (маму, бабу, цётку):* Давай, *бабу*, пасеям пшаніцу (Сідоркі Свісл.). Добры дзень, *цётку*, як маяцяса? (Бабіна Гродз.). М.А.Жыдовіч мяркуе, што такая форма з’явілася пад уплывам польскай мовы [3, с. 162]. На наш погляд, выкарыстанне форм назоўнікаў жаночага роду клічнага склону з канчаткам *-у* варта разглядаць як яшчэ адну старажытную рысу паўднёва-заходніх беларускіх гаворак. Яна тлумачыцца ўплывам форм клічнага склону назоўнікаў мужчынскара роду былога тыпу скланення на *у *(сыну)* і назоўнікаў мяккай разнавіднасці былога тыпу скланення на *о *(коню).* Як вядома, такая форма клічнага склону ў старажытнабеларускі перыяд пашыралася і на назоўнікі мужчынскага роду з цвёрдай асновай былога тыпу скланення на *о, асабліва на назоўнікі з асновай на заднеязычны: *наместънику, пахолку* [4, с. 58]. Можна дапусціць, што ў гаворках канчаткак *-у* ў формах клічнага склону пашырыўся і на назоўнікі жаночага роду з цвёрдай асновай.

Нескланяльныя назоўнікі іншамоўнага паходжання тыпу *бюро, дзяпо, мятро, пальто, радзіво* ў гаворках сталі зменнымі і скланяюцца так, як і назоўнікі першага скланення ніякага роду; яны могуць утвараць і форму множнага ліку: Ідзем ў магазін, прывезьлі добрыя *пальты´*, я ўжо нагледзела прыпаткова [прыблізна], і табе такоё *пальто* трэба (Кадзішкі Лід.). Як гэта ты ходзіш *у* гэтым *пальце,* адны трамця [транты] вісяць, ідзі апраніся добра (Савані Свісл.). Ніхто тада ні разабраўса, ці то пана дачка йдзе, ці то калхозьніка: усе ў шапках і ў харошых *пальтах* (Струга Маст.). *Кіна* ў нас ні было, ні было ў нас ні цілівізараў, ні ціліфонаў (Белякоўшчына Гродз.). Як убачыла столькі мэнкі людзей *у кіне*, то аж жжахнулася ат страху (Гагарына Навагр.). *Па радзіві* казалі, што пэньсю падвысяць (Бабіна Гродз.). Кажа, дай мне картачку, я ў Мінску *па радзіву* перадам, можа знайду родных (Монькавічы Маст.).

Назоўнікі жаночага роду другога (радзей трэцяга) скланення ў родным склоне маюць націскны канчатак *-э(-е) (да бядэ, да сястрэ, да зямле, да дачке, каля шашэ):* Пастроілі хату *посьля вайнэ* (Верцялішкі Гродз.). У каго *зямле* было больш, той быў багацейшы, той наймаў сабе работнікаў (Замасцяны Шчуч.). Даўней лапці с палосінаў [лыка з ліпы] плялі або *з лазэ* (Прывалка Гродз.). Калі *з* добрай *муке*, то будзя падросьцісты [пульхны] хлеп, а як дрэнная мука, то хлеп ацесьлівы, садзіцца хлеп (Шылавічы Сл.). Да картоплі разатром цыбулю, ульем *вадэ*, солі і ямо – называяцца разаля (Кіралі Шчуч.). Юшнік *з крыве* вараць (Парэчча Гродз.). Гэты ж канчатак рэалізуецца ў давальным і месным склонах назоўнікаў з мяккай і зацвярдзелай асновай *(на зямле, як на сьвіне праехаў, пазычыў сястрэ грошы, запынілі на шашэ, на гарэ):* Ні дай Бох такога жыцьця, як дасталося мне й маім *сястрэ* й брату (Шыганы Сл.). *На душэ* мне нешта ніспакойна, так ніспакойна *на душэ* (Лаздуны Іўеў.). Залажыць комін, кап дым ні прайшоў *у пячэ* (Дружная Ваўк.). Прыбрэндаў сярэдначы ўвесь *у гразе*, тулько вочы блішчаць, машы-

на сапсавалася, то покуль завёў, то хапіла яму работы (Новы Двор Свісл.). А ў міне ўсенка рубашка *ў крыве*, плячо разьбіта, *у крыве*, пацякла (Даўбенкі Шчуч.).

Не пад націскам назоўнікі жаночага роду на *-а* з рознымі тыпамі асноў у давальным і месным склонах выступаюць з канчаткам *-і(-ы): Аліні* было гот і восем месяцаў, а *Марысі* ўжо пяць было (Чураі Дзятл.). Трэбо было памагаць *мамі* гадаваць малочшых, рабіць *у хаці*, на полі, бо мама наша была хвора (Крапіўніца Свісл.). *Бабі* кашку варыць і дзеда карміць (Ляхавічы Зэльв.). Каваль накаваў язык *ведзьмі* (Голдава Лід.). Замуш вышла тожа за сірату, жыў *пры мачасі*, памахчы ні было каму, усё с сваіх пяці пальцаў нажывалі (Навасёлкі Сл.). *У хаці* цёмно, лучынку якую смальнейшу запаляць ды й танцуюць (Новы Двор Свісл.). Потым рабіла ціхнічкай у нас *у школі* (Ардашы Смарг.). І яшэ гаварыла ёй пані, што павінна як мага акуратней рашчасаць валасы і тады *па драбіні* залесьці на гару (Аляксандраўшчына Зэльв.). Раней, як я шчэ маладой была, та мы па ўсей *акрузі* адзін аднаго ведалі (Вялікая Бераставіца Бераст.). Паехаў я *на* грузавой *машын*і, алі ш ні *ў кабіні*, а на кузаві (Малая Бераставіца Бераст.). *Па дарозі* заехалі ў Сапоцкіна (Васілевічы Гродз.). Мы часта сядзелі *ў ямі* за гаем (Янчукі Шчуч.).

Назоўнікі трэцяга скланення ў творным склоне адзіночнага ліку рэалізуюць канчаткі па аналогіі з назоўнікамі другога скланення *(гразёй, мышай, печай, мудрасьцяй, мазяй, гусёй):* Я то якосьці ні баяўся, адно коні пасьвіў *ночай* (Амбілеўцы Шчуч.). А *восяняй* дэмабілізавалі (Замошша Шчуч.). Тата ў хлеў пашоў *с соляю* (Пасека Дварчаны Воран.). *За* маёй *памяцяй* тут прас Вяльлю было аш тры масты (Рымшыненты Смарг.). *За* маей *памяцяй* мазурку танцавалі (Мсцібава Ваўк.). Шмат вужоў *пат печай* (Солы Смарг.).

Назоўнікі мужчынскага роду з мяккай і зацвярдзелай асновай у месным склоне ўжываюцца з націскным канчаткам *-э(-е) (на пне, на кане, у камле, на дажджэ, у шалашэ):* Адзін прыехаў конна, *на кане* (Мікелеўшчына Маст.). Гатавалі есьці ў невялікім чыгунку *на агне* (Студзенікі Свісл.). Хадзілі малаціць *пры фанарэ* (Малахавічы Гродз.). А людзі сядзелі пат кантораю, нікаторыя *на дажджэ*, мо сутак двоя (Мількаўшчына Гродз.). Я то якосьці ні баёўся, адно коні пасьвіў ночай, і могілкі, помнікі *ў барэ* (Амбілеўцы Шчуч.).

Не пад націскам назоўнікі мужчынскага і ніякага роду з цвёрдай асновай у месным склоне маюць канчатак *-і:* Пасьля тыдня вынімалі лён і слалі *на балоці* (Пляцянічы Зэльв.). Павесяць калыску *на чэраві* і жнуць (Вялікая Бераставіца Бераст.). Паразьяжджаліся *па* ўсём белум *сьвеці*: і ў Смаленск, і ў Талін, і на цаліну (Навасёлкі Сл.). Спалі *ў лесі*, хто *на возі*, хто на зямлі (Коматава Гродз.). *Пры* польскум *часі* вучылі ваучыцяле, і было шэсьць класаў (Залацеева Зэльв.). Адзін с партызанаў стукнуў *па вусі* мяне (Лежневічы Іўеў.).

Жаночыя імёны па бацьку скланяюцца не як назоўнікі, а як прыметнікі: ва ўсіх склонах, акрамя назоўнага і вінавальнага, маюць канчатак *-ай: у Марыі Антонаўнай, Галіне Мітрафанаўнай, Галінай Іванаўнай, аб Ніне Міхайлаўнай* (Бершты Шчуч.).

Прозвішчы на *-овіч (-евіч)* маюць фінальную частку *-ойч (-ейч)*: Вясной было, цьвіла чаромха, *Макарэйч* рабіў танцы (Лысая Гара Ашм.). Тады аддавалі мяне замуж *за Туманойча*, алі ні пайшла, бо рана, ні было яшчэ васімнаццаці гадоў (Лысая Гара Ашм.). Потым зьлетала *да Мацкейча* па каня і павезла да дохтара (Пелкаўшчына Іўеў.). Ну ш і спраўны малочшы Гэнюка, нічога безь яго не абыходзіцца, дасьціпны як

*Дашкейча* бычок, што ўзяў у студню ўваліўся (Бастуны Воран.). *Мацейча* дзяводна так згэйшала сукенку, што брытко глядзець (Стукалы Маст.).

Множналікавыя назвы населеных пунктаў у родным і месным склонах ужываюцца з нулявымканчаткам *(Берштьы – да Бершт – у Бершт, Савічы – да Савіч – у Савіч, Парэччы – з Парэч – у Парэч, Дарашкевічы – да Дарашкевіч – у Дарашкевіч, Галавачы – з Галавач – у Галавач):* У нядзельку зьбіраліся ў Дубічы да касьцёла, а *да Дубіч* аш дванасьцяя вёрст (Дзеткі Воран.). Ой, прывозім музыкантаў с Крапіўніцы, *с Шурыч* (Ражкі Свісл.). Нарадзілася я *ў Церахавіч* (Масушыны Свісл.). Я жыта жала, бульбу капала, а потым служыла *ў Парэч*, у Друзгіне (Карпаноўцы Шчуч.). Быў музыкант *у Хаміч* (Стральцы Маст.). А яны не зналі друг аб другу, што гэта свае, рускія, *у Дароглянь*, а *ў Мілявіч* тожа рускія. Адныя па другіх білі (Нацкава Маст.).

Многія населеныя пункты Гродзеншчыны маюць неафіцыйныя мясцовыя назвы, якія фанетычнай, словаўтваральнай ці марфалагічнай структурай адрозніваюца ад афіцыйных. Сярод іх і некаторыя назвы раённых цэнтраў і буйных мястэчкаў *(Ашмяна́ – Ашмяны, Варано́ва – Воранава, у Гродні – у Гродна, Зельва – Зэльва, Зе́цел – Дзятлава, Лю́бач – Любча, Нава́градак – Навагрудак, Смургоня, Смургоні – Смаргонь, Сломін – Слонім, Шчуцін – Шчучын, у Скідлі – у Скідзелі):* Ён прыйшоў да нас і кажа, што пойдзе *ў Ашмяну* прасіць маю матку, кап пусьціла мяне зь ім (Дукойні Ашм.). Слухай мяне – будзяш *у Ашмяне* (Гродзі Ашм.). А як прынясеш булачку хлеба *з Варанова*, то па лустаццы ўсе падзеліш (Паліпніца Воран.). Дачка іх, Маня, вучыцца *ў Гродні*, кажуць, на дахторку (Засецце Дзятл.). Ясюка унь покуль выучылі *ў Гродні* за настаўніка (Енчы Воран.). Раней ад нас пяхтом *да Зецяла* хадзілі (Накрышкі Дзятл.). А я тады *ў Зельві* вучылася (Дружная Ваўк.). Гэто па-гарацкому Люпчо, а мы, старыя, усё завём, як даўней, – *Любач* (Любча Навагр.). Паехаў мой бацько *ў Наваградак*, купіў пятнасьцяя буталёк гарэлкі, ды гэтак і вяселё зрабілі, бедно вяселё (Нёўда Навагр.). Во, як толькі *ў Сломіні* танк вытсралиць, тады, мусіць, і Сьцяпан мой дахаты цьвярозы прыйдзя (Сянькоўшчына Сл.). *У Смургонях* перадавая, а тут, у нашай вёсцы, перадавой няма (Дзягаўцы Ашм.). Былі схроны *пад Смургоню* (Быстрыца Астр.). Тады паехалі *ў Шчуцін* да дохтара (Свірыды Шчуч.). Паехаў *у Шчуцін* на базар, купіў парася (Мікелеўшчына Маст.). Учора *ў Скідлі* столькі много парасят прадавалі (Бабіна Гродз.).

П р ы м е т н і к. Прыметнікі (дзеепрыметнікі, парадкавыя лічэбнікі, неасабовыя займеннікі) жаночага роду ў давальным і месным склонах пад націскам выступаюць з канчаткам *-ой: у старой, у сухой, у гнілой.* Не пад націскам такія формы ўжываюцца з дыялектным канчаткам *-уй*: Па вадзе *халоднуй* дайшлі да рова, а роў глыбокі-глыбокі (Вострава Зэльв.). А ў *мамінуй* хваробі паправунку ні было (Свірыды Шчуч.). Добры нарот будзе па *правуй* старане, нідобры – *па левуй* (Старынцы Бераст.). Потым, як крыху падрасла больша пры Польшчы *панскуй,* пашла зарабляць грошы (Ражкі Свісл.). А нідаўно *старшуй* даццэ апірацыю рабілі, то тожа трэба грошмі памахчы (Правыя Масты Маст.). Раптам ногі ў міне адняліся – з жыта ідзе чалавек у *німецкуй* формі (Пыра Гродз.). Франка Ёськава хвалілася бабам, што тчэ посьцялку на *маковуй* [чырвонай] аснове (Малое Сяло Шчуч.). Наша марына ў *новуй* панёве [цёплым жаночым піджаку] пайшла ў клуп (Зарачаны Дзятл.). У *іхнюй* хаці камешнік [вугал каля печы, дзе стаяць качаргі] завалены так, што аш печ патпірая (Дубна Маст.).

Прыналежныя прыметнікі, утвораныя ад назваў асобаў і ўласных асабовых імёнаў, у назоўным і вінавальным склонах побач з кароткімі паралельна могуць рэалізаваць і

поўныя формы адзіночнага і множнага ліку *(Валіны (Ігаравы) бот, Валіная (Ігаравая) шапка, Валінае (Ігаравае) пальто, Валіныя (Ігаравыя) боты)*: Чый гэта такі хлопчык харошы? Дык гэта ш *Марысіны* бахур (Варняны Астр.). На надзень *Сашыкавыя* рукавіцы, як ні знашоў сваіх (Бабіна Гродз.). *Татыныя* боты велькія набую і хадзіла (Бяцюны Ашм.).

Простая форма вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў утвараецца пры дапамозе ненаціскнога суфікса *-айш- (блі′жайшы, гара′чайшы, ду′жайшы, зялё′няйшы, каро′цяйшы, ні′жайшы, харо′шайшы, чырво′няйшы)*: Вязі на гэты *кароцяйшы* загон, ба на той гною ні хваціць (Бабіна Гродз.). Гэты хлопец *дужайшы* (Кіралі Шчуч.).

Захоўваюцца старажытныя суфіксы *-ушч-, -ашч-,* які служыць для ўтварэння якасных прыметнікаў ад дзеяслоўных асноў: Яджгар [ёрш] рыба смашная, толькі натто *калюшча*, дрэнна яе чысьціць (Касцянева Шчуч.). Вот есьлі зорніста неба, та, казалі, куры будуць *нясушчыя* (Парэчча Гродз.). Я *гарушчая* баба, страшэнна *гарушчая* (Пераганцы Воран.). Ён [сабака] быў файны, але ш натта *кусушчы* (Жупраны Ашм.). У іх *кусашчы* сабака, ні падыйдзяш да хаты (Каробчыцы Гродз.). Хлопяц да дзяўчыны як прыйдзя, так *лядашчага* слова нігды ні скажа (Правыя Масты Маст.). Карова *барушча*, бо драчыліся з малою і прывучылі бароцца рагамі (Каробчыцы Гродз.). У нас быў *брыкашчы* конь, а то такая ўжо *брыкашчая* карова цяпер, рады німа (Парачаны Лід.). Мой дзяцько *клянушчы*, ні горш бабы можа клясьці каго хочаш (Біскупцы Лід.). У нас *лавушчы* кот, добра лапая мышэй (Прывалка Гродз.). У нас быў *лятушчы* [збродлівы] конь, залезя дзе ў шкоду, наесца, тады дадому прыдзя (Прывалка Гродз.). Ты ні кармі іх паласункамі, а давай картоплі ды сала пабольш, то будуць больш *трывушчыя* твае дзеці (Міцкавічы Смарг.). Гэтакі *памятушчы* наш малы, усё перакажа, што ў школе пачуя (Макараўцы Бераст.).

Прыметнікі (адпрыметнікавыя прыслоўі) у суфіксах *-эньк-, -аньк-* маюць зацвярдзелы зычны |н| *(добранкі (добранко), маленкі, мілянкі, плахенкі, старэнкі, чысцянкі): Беднянкі* хлопчык, як мне яго шкода (Бабіна Гродз.). *Хуцянко* садавіса на слончык і абувайса (Рудня Свісл.).

Адзначаныя ў артыкуле рэгіянальныя формы назоўнікаў і прыметнікаў патрабуюць далейшага вывучэння з мэтай удакладнення іх арэальных межаў і генетычнагістарычных вытокаў. Відавочна і тое, што рэестр іх не з’яўляецца канчатковым. Далейшае палявое вывучэнне гаворак дасць магчымасць зарэгістраваць новыя цікавыя факты.

### *Літаратура*


1.Крывіцкі, А.А. Дыялекталогія беларускай мовы : дапам. / А.А. Крывіцкі. – Мінск : Выш. шк., 2003. – 294 с.

2. Сцяцко, П.У. Мовазнаўчы досвед (выбраныя творы): у 2 ч. Ч. 1. Дыялекталогія. Сучасная мова і методыка. Анамастыка. Міжмоўныя стасункі / П.У. Сцяцко. – Гродна: ГрДУ, 2005.

3. Жыдовіч, М.А. Назоўнік у беларускай мове / М.А. Жыдовіч. – Мінск, 1969.

4. Булыка, А.М. Гістарычная марфалогія беларускай мовы / А.М. Булыка, А.І. Жураўскі, І.І. Крамко. – Мінск, 1979.



Першая публікацыя ў часопісе: *Веснік Гродзенскага дзржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2008. – № 1 (65). – С. 43–47.*

# Раздзел 3
# ТАПАНІМІЯ

## ВЫВУЧЭННЕ ТАПАНІМІІ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Навуковы перыяд беларускай тапанімікі пачаўся ў канцы XIX ст. Яго звязваюць з апублікаваннем артыкула А.А. Качубінскага «Тэрыторыя дагістарычнай Літвы» [1], у якім сцвярджаецца, што ў беларускай гідраніміі ёсць шмат балтыйскіх элементаў, і гэта даказвае, што радзіма старажытных балтаў займала значную частку сучаснай Беларусі.

У першым дзесяцігоддзі XX ст. асобныя пытанні тапаніміі Гродзеншчыны закраналі такія вучоныя, як Я.Ф. Карскі [2], Э.А.Вальтэр [3].

У пасляваенны перыяд праблемай тапаніміі стаў атыўна займацца В.А. Жучкевіч. Ён апублікаваў серыю кніг, у якіх разглядаюцца пытанні тапаніміі Беларусі, у тым ліку і тапаніміі Гродзеншчыны [4].

Асобныя звесткі пра тапанімію Гродзеншчыны можна знайсці ў кнігах І.Я. Яшкіна [5], В.В. Шура [6], В.П. Лемцюговай [7], А.М. Мезенкі [8], М.Л. Лыча [9], А.Ф. Рогалева [10] і інш.

Некаторыя артыкулы, у якіх паказана тапанімія Гродзеншчыны, змешчаны ў серыі зборнікаў пад назвай «Беларуская анамастыка», якія выходзілі ў розныя гады (1977, 1981, 1985, 1993). Так, у зборніку 1981 года ў мікраслоўнічку П.У. Сцяцко «З мікратапаніміі Зэльвеншчыны» [11] падаецца 168 найменняў, пераважна назваў урочышчаў, размешчаных непадалёку ад вёскі Грабава і суседніх вёсак, у артыкуле В.І.Марозава «Сляды вайны ў тапаніміі Гродзеншчыны» [12] сістэматызаваны і апісаны назвы населеных пунктаў, калгасаў, вуліц, дробных геаграфічных аб’ектаў, адпаведныя рэаліям ваеннага часу, у аснову якіх пакладзены, напрыклад, словы *перамога*, *партызанскі*, *чырвонаармейскі*. У зборніку 1992 года ў артыкуле пад назвай «З мікратапаніміі Панямоння» даецца каля 100 мікратапонімаў в. Морына і в. Крывічы Іўеўскага раёна і г.п. Мір Карэліцкага раёна, сабраных П.А.Міхайлавым у 1977 годзе [13].

Цікавым з’яўляецца артыкул А. Цыхуна «Тапанімія і гідранімія басейна ракі Свіслач», надрукаваны ў альманаху «Гарадзенскія запісы» [14]. У артыкуле падаюцца ўласныя геаграфічнывя назвы ваколіц ракі Свіслач, якая працякае па тэрыторыі Бераставіцкага, Свіслацкага і Гродзенскага раёнаў.

Спынімся падрабязней на асобных больш значных працах, якія непасрэдна ці часткова закранаюць тапанімію Гродзеншчыны.

У слоўнік «Мікратапанімія Беларусі» [15] увайшлі матэрыялы, сабраныя ў 1948–1972 гг. з розных тэрыторый Беларусі. Падрыхтаваны слоўнік Інстытутам мовазнаўства АН БССР. У зборы фактычнага матэрыялу да яго прымалі ўдзел супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства, аспіранты, выкладчыкі і студэнты педагагічных інстытутаў, настаўнікі, пісьменнікі. Слоўнік змяшчае больш за 9000 назваў. Найбольш пададзена мікратапанімія Гродзеншчыны, Брэстчыны і Міншчыны. Назвы размешчаны ў алфавітным парадку. Загаловачнае слова суправаджаецца паметамі, якія ўказваюць на граматычны род, або паметай *мн.*, калі назва мае форму множнага ліку. Указваецца значэнне мікратапоніма,

г.зн. называецца адпаведны прыродна-геаграфічны аб’ект (поле, сенажаць, паша, лес і інш.). Часам прыводзіцца спрошчанай транскрыпцыяй ілюстрацыйны сказ з паметай *(інфарм.)*, запісаны ад мясцовых жыхароў. Кожны мікратапонім пашпартызуецца: даецца назва вёскі, раёна і вобласці, дзе сабраны матэрыял:

ГРА΄ЧЫКІ *мн.* лес. Там грачэ вяліся, ні было ні дной хвоі без гнязда (інфарм.). Вострава Маст. Гродз.

Да асобных мікратапонімаў, пераважна іншамоўнага паходжання, прыводзяцца паралелі з літоўскай, латышскай, прускай, нямецкай моў, а таксама апелятывы, ад якіх яны ўтвораны:

БУ΄КТА, *ж.* яма ў рэчцы, выбітая вадой. Бакшты Іўеў. Гродз.; параўн. польск. buchta , ням. Bucht, літ. Buktà назва балота, назва сенажаці, назва лесу (КЛГН), buktà яма ў рэчцы (СЛМ, І, 1145).

Слоўнік з’яўляецца каштоўнай асновай для навуковага аналізу мікратапонімаў, бо адлюстроўвае іх бытаванне на шырокай тэрыторыі, раскрывае семантычную варыянтнасць шмат якіх назваў або іх тыпалагічнае адзінства на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі, параўн.:

ГРАДА΄ ж. поле. Бяліца Стаўбц. Мін.; сенажаць. Бастынь Лун. Брэсц., Ніўнае Стаўбц. Мін.; сенажаць. Там горкі заходзілі между болотом (інфарм.). Азарычы Пін. Брэсц., паша. Ніўнае Стаўбц. Мін.; балота. Бяліца Стаўбц. Мін.; лес. Навасёлкі Свісл. Гродз., Дзяніскавічы (751) Ганц. Брэсц., Вольдзікі Іўеў. Гродз., Малыя Аўцюкі Калінк. Гом.; вал за ўрочышчам. Малінаўка Малар. Брэсц.; урочышча. Добрае (702) Кобр. Брэсц., Сувіды (1023) Камар. Гом.; поле, падзеленае на градкі. Забалоцце Малар. Брэсц.

Важнай падзеяй у развіцці беларускай анамастыкі стала выданне ў 1974 г. «Кроткага тапанімічнага слоўніка Беларусі» В.А. Жучкевіча [гл. 4]. У слоўніку прыведзены назвы ўсіх гарадоў, гарадскіх пасёлкаў Беларусі і амаль усіх вёсак, якія з’яўляюцца цэнтрамі сельсаветаў і калгасаў, а таксама цікавыя назвы іншых вёсак. Адлюстравана таксама гідранімія: даюцца назвы рэк даўжынёй больш за 30 км і азёраў плошчай больш за 1 кв. км.

Слоўнік пабудаваны алфавітна-гнездавым спосабам, аднакаранёвыя назвы падаюцца ў адным слоўнікавым артыкуле.

Адна і тая назва можа сустракацца ў многіх гэгіёнах, але ў слоўнікавым артыкуле яна для прыкладу пашпартызуецца толькі двума-трыма раёнамі з такім разлікам, што тлумачальная частка артыкула аднолькава дастасоўваецца да аб’ектаў з такой назвай у розных мясцінах Беларусі. Распаўсюджанне найбольш тыповых назваў адлюстравана на лінгвістычных картах у канцы слоўніка.

Каштоўным з’яўляецца дадатак, дзе прыводзіцца спіс населеных пунктаў, перайменаваных у 1918–1973 гг. У спісе даюцца старая назва, год перайменавання, раён на час перайменавання, новая назва: *Плятеничи – 1969 – Зельвенский – Червоное Село.*

Галоўная вартасць слоўніка ў тым, што кожнае змешчанае ў ім найменне этымалагізуецца. Абапіраючыся на шырокія энцыклапедычныя крыніцы, выкарыстоўваючы глыбокія ўласныя веды, аўтар выказвае версіі пра паходжанне і ўтварэнне тапонімаў, аспрэчвае непераканальныя этымалагічныя тлумачэнні. Гэта можна ўбачыць на прыкладзе назвы *Ліда*:

Ли΄да (Лі΄да) – г., райцентр Гродненской обл. В XIV-XV вв. значится в том же написании. В «Списке городов дальних и ближних» числится в литовских городах (Спис.).

Примерно к тому же времени относится запись: «… дал бы ему Лиду держати» (БелФ, стр. 89). Название происходит от балтийского термина lydimas – вырубка, близкого к термину *ляда*. Примерно такое же объяснение даётся в материалах XVI в.: «drzewo ma posieć lydymem» (АВАК, т. 25, стр. 91). То же объяснеие даёт и Й.Сташевский: «korczunek lesny» (St., стр. 164). Менее вероятна связь с литовским lydis – бег, течение. Название иногда ошибочно считают патронимическим якобы от какого-то имени Лида, хотя никакой связи с конкретным лицом никто указать не может. Само имя Лида (Лидия) появилось здесь несравненно позднее, чем название города. По имени города и р. Лидея.

Значнае месца ў развіцці не толькі беларускай, але і славянскай тапалексікаграфіі займае праца Я.Н. Рапановіча – слоўнікі назваў населеных пунктаў усіх абласцей Беларусі. Яго «Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці» апублікаваны ў 1982 г. [16].

Для стварэння слоўніка былі выкарыстаны тры крыніцы. Першая – запісы, зробленыя аўтарам ад мясцовых жыхароў у 1947–1980 гг., другая – перапіска з мясцовымі карэспандэнтамі. Трэцяя – друкаваныя матэрыялы (карты, даведнікі, зборнікі законаў, спісы і інш.).

Слоўнік ахоплівае назвы ўсіх населеных пунктаў Гродзенскай вобласці. Агульная колькасць назваў – 4427, яны прыпадаюць на 5314 паселішчаў. Акрамя назваў, якія ёсць на сучаснай тэрыторыі вобласці, разглядаюцца таксама ўласныя абазначэнні зніклых паселішчаў: далучаных да гарадоў і пасёлкаў, сселеных, аб’яднаных з іншымі ці знічшаных у Айчынную вайну і пасля вайны не адноўленых.

Тып слоўніка – перакладны беларуска-рускі. У загалоўку слоўнікавага артыкула запісваецца паводле арфаграфічных норм сучаснай літаратурнай мовы беларускі айконім і яго пераклад на рускую мову. У тых выпадках, калі мясцовая народная назва не супадае з пісьмовай афіцыйнай, даюцца абедзве назвы, мясцовая падаецца ў дужках. Пры назве, запісанай па-беларуску, прыводзяцца граматычныя паметы, якія ўказваюць на формы роду, роднага і меснага склонаў айконіма. Скарачэннем *мнл.* пазначаюцца множналікавыя назоўнікі. Такія граматычныя паказчыкі дапамагаюць чытачу пазбягаць выкарыстання ненарматыўных у літаратурнай мове форм. Не менш важна і тое, што прыводзяцца беларускі і рускі прыметнікі, утвораныя ад айконіма. Напрыклад, пры назве *Гожа* даецца інфармацыя, што правільным будзе прыметнікавае ўтварэнне *Гожскі* (насуперак пазалітаратурным *гожаўскі, гожанскі,* якія нярэдка сустракаюцца нават у афіцыйным маўленні).

Акрамя лінгвістычных, прыводзяцца таксама энцыклапедычныя звесткі. Паказваецца тып населенага пункта (вёска, хутар, горад і г.д.); указваецца год, з якога населены пункт стаў горадам, гарадскім ці рабочым пасёлкам; адзначаецца, цэнтрам чаго з’яўляецца населены пункт (вобласці, раёна, сельсавета); у якім сельсавеце і раёне, калгасе ці саўгасе знаходзіцца.

У канцы слоўніка змешчана некалькі дадаткаў: у алфавітным парадку даюцца назвы раёнаў, пасялковых і сельскіх саветаў, калгасаў і саўгасаў. Раёны характарызуюцца наступным чынам: дата ўтварэння; плошча, цэнтр; адлегласць ад цэнтра да найбліжэйшай чыгуначнай станцыі ці раз’езда, да Гродна і да Мінска; колькасць пасялковых і сельскіх саветаў; агульная колькасць паселішчаў, у тым ліку колькасць паселішчаў асобных тыпаў (гарадоў, вёсак, засценкаў, хутароў і інш.). Пры характа-

рыстыцы пасялковых і сельскіх Саветаў адзначаецца цэнтр, прыналежнасць да раёна, адлегласць ад цэнтра да найбліжэйшай чыгуначнай станцыі ці раз'езда і да раённага цэнтра, колькасць паселішчаў, калгасаў і саўгасаў.

Прайшло больш чым дваццаць гадоў, калі быў апублікаваны «Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці» Я.Н. Рапановіча. Ён адыграў важную ролю ў сістэматызацыі ўласных найменняў, у замацаванні ва ўжытку іх нарматыўных варыянтаў. Аднак за апошнія два дзесяцігоддзі адбыліся шматлікія змены ў адмістрацыйна-тэрытарыяльным падзеле рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь, у рэестры назваў населеных пунктаў. Наспела патрэба стварэння нарматыўнага даведніка новага тыпу. Такі даведнік «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гродзенская вобласць» [17] быў складзены і апублікаваны ў 2004 годзе выдавецтвам «Тэхналогія» ў Мінску. Яго аўтары – І.А. Гапоненка, В.П. Лемцюгова, Л.Л. Янушкевіч, С.А. Янушкевіч.

У прадмове чытач запэўніваецца, што слоўнік змяшчае ўсе наяўныя на 1 сакавіка 2004 года назвы населеных пунктаў Гродзенскай вобласці. Тут даюцца агульныя звесткі пра ўласныя найменні, пра іх сучасны стан. Аўтар прадмовы, вядомы беларускі тапаніміст доктар філалагічных навук В.П. Лемцюгова, пераканальна даводзіць, што многія ўласныя геаграфічныя абазначэнні маюць даўнюю гісторыю, сфарміраваліся на працягу стагоддзяў і з'яўляюцца важнай часткай нашай гістарычна-культурнай спадчыны. Як і іншыя творы чалавечага духу і чалавечых рук, яны заслугоўваюць надзейнай дзяржаўнай аховы.

За апошнія 400 гадоў розныя палітычныя працэсы прычынілі беларускай айканімічнай сістэме невымерную шкоду. Калі Вялікае Княства Літоўскае знаходзілася ў складзе Рэчы Паспалітай, беларускія паселішчы сталі запісвацца на польскі лад, графічнымі сродкамі польскай мовы ў характэрным для яе фанетычным і марфалагічным афармленні. Калі ж беларускія землі далучылі да Расійскай імперыі, чыноўнікі сталі пісаць скажоныя польскай мовай назвы па-руску. Гэта прывяло да ўтварэння непажаданых варыянтаў, многія з якіх настолькі адышлі ад арыгінала, што страцілі з ім вонкавую сувязь і падабенства. У савецкі час існавала тэндэнцыя замацаваць рускамоўныя найменні. Значныя страты нанесла кампанія па перайменаванні, якая разгарнулася ў 60-я гады XX ст. Многія натуральныя назвы вёсак былі бяздумна заменены іншымі словамі, часта абсурднымі, якія нічога агульнага не маюць з беларускім менталітэтам і мовай, напрыклад: *Чырвоны Пахар, Савецкая Морач* (дыялектнае слова *морач* абазначае 'цёмнае балота'), *Залог Пяцілеткі, Пабедная, Трудавая, Акцябр, Дзвігацель, Луч.*

Улічваючы ўсе гэтыя заганныя факты гісторыі, аўтары слоўніка імкнуліся абгрунтаваць у якасці нарматыўных традыцыйныя беларускія варыянты.

Даведнік ахоплівае 4416 населеных пунктаў Гродзеншчыны і складаецца з чатырох зместавых частак. У першай частцы даецца табліца адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак у межах вобласці, раёнаў, звесткі пра дату ўтварэння, плошчу, адлегласць ад цэнтра да найбліжэйшай чыгуначнай станцыі. Другая частка паказвае назвы ў межах раёнаў і сельсаветаў. У трэцяй частцы – варыянты, якія не рэкамендуюцца ў якасці афіцыйнай пісьмовай нормы, але пры жаданні мясцовых жыхароў і ўладаў могуць быць прызнаныя нарматыўнымі. Чацвёртая частка адлюстроўвае назвы страчаных населеных пунктаў, якія зніклі падчас апошняй сусветнай вайны, пры ўключэнні прыгарадных вёсак у склад гарадоў, ліквідацыі «неперспектыўных» вёсак, у працэсе перайменавання і інш.

Асноўнай з'яўляецца другая частка. У ёй падаюцца назвы ў межах кожнага раёна паасобку, пачынаючы ў алфавітнай паслядоўнасці з Астравецкага і заканчваючы Шчучынскім раёнам. Раёны падзяляюцца на сельсаветы, і ўказваюцца населеныя пункты кожнага сельсавета. Менавіта тут даецца непасрэдная слоўнікавая распрацоўка назваў. Спачатку называецца тып паселішча: хутар, вёска, гарадскі пасёлак і г. д. Затым прыводзіцца яго ўласная назва па-беларуску. Пасля ідуць граматычныя паказчыкі роду або ліку. Чытач, напрыклад, даведваецца, што *Бабіна* ніякага, *Райста* жаночага, *Дзярэчын* мужчынскага роду, а *Борці* ўжываецца толькі ў множным ліку. Добра, што абазначана месца націску, алюстраваны канчаткі найбольш ужывальных у пісьмовай практыцы склонаў – роднага, творнага, меснага: **Запа́шка** *ж.* -кі, -кай і -каю, -шцы. Такая інфармацыя вельмі карысная для правільнага ўжывання слоў у вусным і пісьмовым маўленні.

Сёння пашыраюцца кантакты Беларусі з замежнымі краінамі. Беларускія геграфічныя назвы ўсё часцей трапляюць у сусветную пісьмовую інфармацыйную прастору, якая абслугоўваецца пераважна лацінскім алфавітам. Аўтары ўлічылі гэтую акалічнасць: у даведніку ўпершыню беларускія назвы запісаны яшчэ і лацінскім шрыфтам: *Дайлідкі – Dajlidki, Кібы – Kiby, Рупейкі – Rupiejki.*

Акрамя лацінапісных адпаведнікаў, прыводзяцца напісанні на рускай мове. Аўтары кіраваліся міжнароднымі правіламі стандартызацыі, паводле якіх уласныя абазначэнні геаграфічных аб'ектаў не перакладаюцца, а транслітаруюцца. Цалкам выключаецца перадача беларускіх тапанімічных адзінак па-руску праз літаральны пераклад тыпу *Кастрычнік – Октябрь, Чырвоная Зорка – Красная Звезда.* Такі пераклад недапушчальны, ён грубае парушэнне міжнародных стандартаў. Неабходна выкарыстоўваць транслітэрацыю, пры якой беларускія назвы без лексічнага перакладу запісваюцца згодна з арфаграфічнымі правіламі рускай мовы, з захаваннем характэрных беларускіх рысаў: *Чырвонае Сяло – Червоное Село, Смаўжы – Смовжи, Вялікая Палонка – Великая Полонка*.

У савецкі перыяд пераклады назваў практыкаваліся досыць шырока, і многія з іх захаваліся да нашага часу. Такія пераклады, а таксама іншыя няправільныя рускамоўныя напісанні ў даведніку пасля звестак па кожным раёне даюцца асобным спісам пад рубрыкай «Назвы, якія ўжываюцца да гэтага часу». Зроблена гэта з мэтай, каб мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы звярнулі на іх увагу і па магчымасці ініцыявалі б пытанне пра іх замену нарматыўнымі беларускімі формамі.

Інфармацыйнасць даведніка ў значнай ступені павялічваюць прыведзеныя ў канцы яго тры алфавітныя спісы ўсіх населеных пунктаў Гродзенскай вобласці: на беларускай мове кірыліцай, на беларускай мове лацінкай і на рускай мове з указаннем адпаведных старонак, дзе можна знайсці інфармацыю пра іх у асноўнай частцы даведніка.

Выкажам некаторыя заўвагі і пажаданні да зместу слоўніка.

У прадмове сцвярджаецца, што ў даведнік уключаны ўсе назвы населеных пунктаў Гродзеншчыны. Але гэта не зусім так. Аналіз звестак толькі па некаторых сельсаветах засведчыў асобныя недапрацоўкі складальнікаў. Так, у пераліку вёсак і хутароў Навадворскага сельсавета Шчучынскага раёна адсутнічаюць наступныя назвы, хоць у папярэднім слоўніку Я.Н. Рапановіча яны значыліся: *Гарачы Лес, Елі, Жабінка, Зубраўка, Ліпнікі, Лозкі, Прыдоўгае, Смуга, Сцежка.* Падобныя недагляды можна знайсці і па іншых сельсаветах.

Патрабуе ўдакладнення і рубрыка, у якой прыводзяцца варыянты найменняў. У тым жа Навадворскім сельсавеце адну часку Берштаў называюць *Бераставіца,* другую – *Косцевічы.* Замест афіцыйнай назвы вёскі *Падберщты*, мясцовыя жыхары часцей кажуць па-ранейшаму – *Гайдукі.* Падобнае назіраецца і ў дачыненні да вёсак Арловая Гара – *Будзькі,* Прыдоўгае – *Дарашкевічы,* Жабінка – *Зошчыныя.* У Парэцкім сельсавеце Гродзенскага раёна *Забалоцце* выкарыстоўваецца толькі ў афіцыйных зносінах, а вяскоўцы ведаюць гэтае паселішча як *Забалотнікі.* Параўн. таксама паралельныя: Хамуты – *Калёня,* Глушнева – *Лушнева,* Салацце – *Салацi,* Дзертніца – *Дзеркніца,* Парэчча – *Парэчы.* Гэтая інфармацыя ў даведніку адсутнічае.

На наш погляд, складальнікі дарэмна абышлі ўвагай адтапонімныя прыметнікі тыпу *бабінскі* ад Бабіна, *наварудскі* ад Новая Руда, матывуючы гэта тым, што ў розных дыялектных сістэмах яны могуць утварацца па розных мадэлях, і трэба перш сабраць розныя прыметнікавыя варыянты, дасканала вывучыць і толькі тады ўключыць у слоўнік. Калі б такія прыметнікі былі пададзены, каэфіцыент карыснага дзеяння даведніка ўзрос бы намнога. Думаецца, нерашучасць аўтараў у гэтым пытанні залішняя. Да айконіма-назоўніка, які прапануецца ў якасці нарматыўнага, дасведчанаму лінгвісту няцяжка падабраць прыметнікавы адпаведнік, утвораны па мадэлі літаратурнай мовы. Тым больш што такая праца не новая. Падобную працэдуру ажыццявіў Я.Н. Рапановіч у «Слоўніку назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці» яшчэ ў 1982 годзе. Аўтарам даведніка, думаецца, было б няцяжка з крытычным асэнсаваннем выкарыстаць напрацоўкі свайго папярэдніка, якія прайшлі апрабацыю і ў часе, і ў жывой практыцы.

І яшчэ адна заўвага. У рубрыцы «Страчаныя назвы» пералік зніклых вёсак варта было рабіць з канкрэтызацыяй месца, дзе, у якім сельсавеце яны знаходзіліся. Гэта важна для гісторыі.

Практычная значнасць і неабходнасць гэтага даведніка відавочная. Ён як паветра патрэбны прадстаўнікам органаў кіравання абласнога, гарадскога і раённага ўзроўняў, а таксама павінен стаць настольнай кнігай у кожным сельсавеце, школе, бібліятэцы. Ён узбагаціў бы асабістую бібліятэку кожнага, хто цікавіцца пытаннямі свайго краю.

Тэарэтычнаму вывучэнню айконімаў Гродзеншчыны прысвечана кандыдацкая дысертацыя С.А. Янушкевіча «Уласныя назвы паселішчаў заходняй Гродзеншчыны» (Гродна, 1998). Як сведчыць аўтарэферат дысертацыі [18], матэрыялам даследавання паслужылі 674 уласныя назвы паселішчаў і каля 3000 варыянтаў гэтых назваў з трох памежных з Польшчай раёнаў Гродзенскай вобласці: Гродзенскага, Бераставіцкага і Свіслацкага. У першай частцы дысертацыі разглядаюцца лексічна-семантычныя тыпы айконімаў, фарміраванне іх на базе апелятыўнай, тапанімічнай і антрапанімічнай лексікі. Даюцца шматлікія этымалагічныя звесткі пра назвы канкрэтных населеных пунктаў. Так, чытач з цікавасцю даведваецца, што айконім *Адэльск* паходзіць ад назвы ракі *Одла, Салацце* – ад назвы возера *Салата, Брузгі* – ад імені-мянушкі *Брузго.* У другой частцы дысертацыі даецца структурна-граматычная характарыстыка айконімаў, аналізуюцца спосабы ўтварэння простых і складаных назваў. Трэцяя частка «Унутрысістэмныя і міжсістэмныя трансфармацыі айконімаў» прысвечана вывучэнню працэсаў трансфармацыі айконімаў, заканамернасцей іх гістарычнага змянення ў айканімічнай сістэме Гродзеншчыны і памежнай паўднёва-ўсходняй частцы Беласточчыны. Дысетрацыя С.А. Янушкевіча характарызуецца дакладнасцю навуко-

вых звестак. Класіфікацыя айконімаў на групы і падгрупы суправаджаецца падлікамі і колькаснымі паказчыкамі.

Пытаннямі тапаніміі беларуска-польскага памежжа займаюцца і польскія даследчыкі. У 1992 г. у Варшаве выдадзены двухтомны слоўнік тапанімічных назваў паўночна-ўсходняй Польшчы [19], а ў 1995 – індэксавы дадатак да яго [20], у якіх адлюстравана тапанімія Беласточчыны і Сувальшчыны.

Вывучэнню беларускай тапаніміі прысвяціў шэраг прац польскі мовазнавец, даследчык гаворак беларуска-польскага памежжа М. Кандрацюк. У манаграфіі «Мясцовыя назвы паўднёва-ўсходняй Беласточчыны» (Вроцлаў, 1974) ён прааналізаваў каля 1700 айконімаў Беласточчыны. У манаграфіі «Балтыйскія элементы ў тапаніміі і мікратапаніміі Беластоцкага рэгіёна» (Вроцлаў, 1985) вырашаецца праблема ўплыву балтыйскіх моў на беларускую тапанімію Беласточчыны [гл. 21, с. 248].

Збіранне і сістэматызацыя тапаніміі Гродзеншчыны працягваецца. У 70-я гады ХХ ст. загадчыкам кафедры беларускай мовы Гродзенскага педінстытута імя Янкі Купалы дацэнтам В.І. Марозавым была сабрана картатэка мікратапонімаў Гродзенскай вобласці. Пасля смерці В.І. Марозава картатэка працягвала і працягвае папаўняцца, пераважна матэрыяламі дыялекталагічных практык, курсавых і дыпломных працаў студэнтаў. На базе картатэкі членамі кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства ГрДУ і супрацоўнікамі лабараторыі пры гэтай кафедры падрыхтаваны да друку «Анамастычны слоўнік Гродзеншчыны: Тапанімія», выданне якога плануецца на бліжэйшы час.

### *Літаратура*


1. Кочубинский, А.А. Территория доисторической Литвы / А.А. Кочубінскій // Журнал Министерства народного просвещения. – Кн. 1. – 1897, январь.
2. Карский, Е.Ф. Белорусы. Введение в изучение языка и народной словесности / Е.Ф. Карский. – Вильно, 1904.
3. Вольтэр, Э.А. Следы древних пруссов и их языка в Гродненской губернии / Э.А. Вольтер // Изв. Отделения русского языка и словесности. – Т. 16. – Кн. 4. – 1912.
4. Жучкевич, В.А. Происхождение географических названий Белоруссии. – Минск, 1961; Ён жа. Топонимика. Краткий географический очерк. – Минск, 1965; Ён жа. Общая топонимика. – Изд. 2-е. – Минск, 1968; Ён жа. Топонимика Белоруссии. – Минск, 1968; Ён жа. Краткий топонимический словарь Белоруссии. – Минск, 1974; і інш.
5. Яшкін, І.Я. Беларускія геаграфічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія / І.Я. Яшкін. – Мінск, 1977.
6. Шур, В. З гісторыі ўласных імёнаў. – Мінск, 1993; Ён жа. Беларускія ўласныя імёны. – Мінск, 1998.
7. Лемцюгова, В.П. Беларуская айканімія. – Мінск, 1970; Яна ж. Восточнославянская ойконимия аппелятивного происхождения. – Минск, 1983.
8. Мезенко, А.М. Урбанонимия Белоруссии. – Минск, 1991; Яна ж. Беларуская анамастыка. – Мінск, 1997.
9. Лыч, Н.М. Назвы зямлі беларускай. – Мінск, 1994.
10. Рогалеў, А.Ф. Этнатапанімія Беларусі (на фоне этнічнай гісторыі). – Гомель, 1993.
11. Сцяцко, П.У. З мікратапаніміі Зэльвеншчыны // Беларуская анамастыка. – Мінск, 1981. – С. 170–177.
12. Марозаў, В.І. Сляды вайны ў тапаніміі Гродзеншчыны // Беларуская анамастыка. – Мінск, 1981. – С. 112–118.

13. Міхайлаў, П.А. З мікратапаніміі Панямоння // Беларуская анамастыка. – Мінск, 1992. – С. 157–159.
14. Цыхун, А. Тапанімія і гідранімія басейна ракі Свіслач // Гарадзенскія запісы: Старонкі гісторыі і культуры. Вып. 1. – Гародня, 1993. – С. 41–44.
15. Мікратапанімія Беларусі. – Мінск, 1974.
16. Рапановіч, Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці. – Мінск, 1982.
17. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гродзенская вобласць. – Мінск, 2004.
18. Янушкевіч С.А. Уласныя назвы паселішчаў Гродзенскай вобласці: Аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук. – Мінск, 1998.
19. Barszczewska, N., GłuszkowskaJ., JasińskaT., SmułkowaE. Słownik nazw terenow ychpółnocno-wschodniej Polski. – Warszawa, 1992.
20. Barszczewska, N., GłuszkowskaJ., JasińskaT., SmułkowaE. Indeks nazw gwarowych do-Słownika nazw terenowych północno-wschodniej Polski. – Warszawa, 1995.
21. Беларуская мова: Энцыклапедыя. – Мінск, 1994.

Першая публікацыя ў часопісе: *Веснік Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 1. Гуманітарныя навукі. – 2006. – № 2 (38). – С. 156–161.*

## АЙКАНІМІЯ ГРОДЗЕНСКАГА РАЁНА

Тапанімію Гродзенскага раёна ўтвараюць тысячы ўласных назваў для абазначэння розных геаграфічных аб’ектаў: населеных пунктаў, урочышчаў, лясных масіваў, сельскагаспадарчых угоддзяў, рэльефу, вадаёмаў і інш. Сярод іх найбольш прыкметную групу складаюць айконімы – назвы населеных пунктаў. Айканімічны іменаслоў фарміраваўся ў розныя гістарычныя перыяды з рассяленнем людзей на новыя месцы жыхарства. Нельга бачыць у ім стыхійны набор разрозненых адзінак. Гэта дастаткова выразная сістэма з уласцівымі ёй заканамернасцямі. Людзі ніколі не называлі свае паселішча выпадковым словам. За кожнай назвай стаіць канкрэтная матывацыйная аснова, звязаная з прыродным асяроддзем, вытворчай дзейнасцю, менталітэтам.

Нашы продкі былі цесна звязаны з прыродай, усведамлялі сябе яе часцінкай. Пры асваенні новых тэрыторый яны звярталі ўвагу на кідкія вызначальныя прыкметы пэўнай мясцовасці. І часта пазамоўнай асновай пры выбары назвы заснаванага населенага пункта станавіліся асаблівасці ландшафту, прыродна-геаграфічныя арыенціры. Гэта маглі быць віды дрэў, лясных масіваў, зараснікаў, каля якіх закладвалася паселішча: *Арэхавічы, Дубаўка, Дуброва, Дуброўка, Дубніца, Дубінка, Старадубавая, Забярэзіна, Залясяны, Лясніца, Лясная, Падліпкі, Ракітна, Ракіце, Тапалёва, Хвайняны.*

На тэрыторыі Гродзенскага раёна нямала балот і лугоў. Назвы іх таксама знайшлі адбітак у тапаніміі: *Белыя Балоты, Забалаць, Забалоцце, Забагонікі, Лужкі, Лугавая.*

Аседласць паблізу вадаёмаў, на берагах рэк і азёраў выклікала такія назвы: *Парэчча, Зарачанка, Узбераж, Азёры, Падазёркі, Беражны, Берагавы, Лукавіца, Плавы, Крынічная, Пруды.* Шэраг айконімаў – гідранімічнага паходжання, яны створаны ад уласных абазначэнняў вадаёмаў: в. *Горніца* < р. *Горніца,* в. *Каменка* < р. *Каменка,* в. *Котра* < р. *Котра,* в. *Лакно* < воз. *Лакно,* в. *Адэльск* < р. *Одла,* в. *Запур’е* < р. *Пурва,* в. *Нямнова*< р. *Нёман,* в. *Свіслач* < р. *Свіслач,* в. *Падбелае* < воз. *Белае.*

Базай для ўтварэння некаторых айконімаў паслужылі мікратапанімічныя назвы ўрочышчаў: в. *Бабіна* < ур. *Бабіна,* в. *Берві* < ур. *Берві,* в. *Гумнішча* < ур. *Гумнішча,* в. *Дуброва* < ур. *Дуброва,* в. *Лазы* <ур. *Лазы,* в. *Лосева* < ур. *Лосева,* в. *Масткі* <ур. *Масткі.*

Айконімы прыродна-геаграфічнага паходжання ў большай ступені характэрны для паўночна-ўсходняй часткі Гродзенскага раёна – тэрыторыі, на якой і сёння пераважаюць лясныя масівы, а доля сельскагаспадарчых угоддзяў нязначная.

З развіццём земляробства ў мінулым пашыралася кола айконімаўтваральных асноў. Прататыпамі назваў населеных пунктаў становяцца словы, звязаныя з працэсамі расчысткі лесу пад поле. Астраўная сістэма земляробства, калі зямельныя ўчасткі распрацоўваліся на нязначных па памерах астраўках сярод непрыгодных для земляробства тэрыторый, выклікала такія назвы: *Астравок, Вострава.* Падсечна-агнявы спосаб расчысткі лясных участкаў даў жыццё назве *Пальніца* (ад *паліць*). Сёння забытае слова *дзерць* ‘упершыню распрацаваны ўчастак зямлі’ (ад *драць*) паслужыла базай для ўтварэння назвы *Дзертніца.* Паводле характару глебы на полі ўзніклі назвы *Пясчанка, Камяністая.*

У якасці тапанімічнай асновы шырокае адлюстраванне атрымала слова *сяло.* Пэўныя ўласныя назвы ад яго маглі ўзнікнуць у час правядзення рэформы («Устава на валокі»), калі многія сёлы былі знесены, а іх тэрыторыі выкарыстаны для новых землеўладальнікаў. Тыповым сярод іх з’яўляецца тапонім *Навасёлкі.* Ён сустракаецца ў чатырох сельсаветах і адным пасялковым савеце Гродзенскага раёна: Абухаўскім, Азёрскім, Квасоўскім, Падлабенскім, Сапоцкінскім. Аснову *сяло* маюць таксама назвы, пабудаваныя па іншых мадэлях: *Выселка, Ліхасельцы, Перасельцы, Селюкі.*

Вылучаецца група айконіамў, утвораных ад назваў калектыву людзей, якіх аб’ядноўваў агульны занятак: *Стральцы* (сацыяльная група людзей, якія ахоўвалі каралеўскую пушчу ад незаконнай высечкі), *Канюхі* (жыхары вёскі займаліся гадоўляй коней), *Гліняны* (вёска ў Скідзельскім сельсавеце, славілася ганчарнымі вырабамі, асабліва з чорнай гліны, там выраблялася і цэгла). Часта калектывы людзей вызначаліся паводле павіннасцей, што выконваліся на карысць каралеўскага, княжацкага ці біскупскага двара: *Асочнікі* (асочнікі – сяляне, якія ахоўвалі лясныя багацці і высочвалі звера ў час палявання караля, князёў, феадалаў), *Баброўнікі* (баброўнікі – сяляне, якія палявалі на баброў і плацілі падаці бабровымі шкурамі), *Бандары* (бандары – рамеснікі, якія выраблялі драўляны посуд), *Агароднікі* (агароднікі – сяляне, пасаджаныя на невялікіх участках паблізу гаспадарскага двара і абавязаныя выконваць пэўныя павіннасці). У Верцялішкаўскім і Індурскім сельсаветах ёсць вёскі з назвай *Баяры,* якая засведчыла існаванне ў мінулым досыць пашыранай саслоўна-класавай і сацыяльна-маёмаснай групы людзей. У XVI ст. беларускія баяры яшчэ належылі да шляхты і карысталіся саслоўнымі прывілеямі, але пазней, асабліва пасля XVIII ст., баяры збяднелі і сталі звычайнымі служывымі сялянамі.

Прыкдладна палова назваў населеных пунктаў Гродзенскага раёна мае антрапанімічнае паходжанне – утворана ад імён, мянушак, прозвішчаў людзей. Гэта абумоўлена сістэмай сельскай гаспадаркі ў феадальную эпоху, асаблівасцю якой з’яўляецца раздробленасць землеўладання. Кожны кавалак зямлі знаходзіўся ва ўладанні сялянскай сям’і або рода і называўся па агульным прозвішчы ўладальніка або па імені главы сям’і ці рода. Назва зямлі часцей за ўсё пераходзіла і на паселішча. Многія

родавыя назвы ўтварыліся на аснове імён-мянушак: *Гумбачы < Гумбач, Сухары < Сухар, Ліхачы < Ліхач, Корчыкі < Корчык, Курпікі < Курпік, Брузгі < Брузго.* Пасля ў гэтай функцыі сталі выкарыстоўвацца кананічныя імёны праваслаўнай ці каталіцкай царквы. Утвораныя айконімы пачалі выконваць функцыю не толькі родавага, але і патранімічнага наймення, абазначаць нашчадкаў або падуладных чалавека з пэўным імем ці прозвішчам: *Барбарычы, Васілевічы, Занявічы, Іванаўцы, Кузьмічы, Маркаўцы, Мінкаўцы, Міцкевічы, Навумавічы, Пракопавічы, Радзявічы, Селіванаўцы, Тарусічы, Цідовічы, Юравічы, Яскевічы.*

Выразнае ўказанне на прыналежнасць каму-небудзь выяўляюць такія назвы, як *Александрова, Бушнева, Дзямідкава, Карашава, Коматава.* Пераважна з XVIII ст. падобныя назвы сталі ўтварацца пры дапамозе фармантаў *-аўка (-оўка), -еўка (-ёўка): Багушоўка, Грынёўка, Дзмітрыеўка, Мар'янаўка, Міхайлаўка, Саволеўка, Юзафоўка.*

Ёсць у Гродзенскім раёне некалькі назваў-прысвячэнняў, прысвоеных населеным пунктам у гонар гістарычных дзеячаў і падзей: *Батароўка* – у гонар караля Стэфана Баторыя, *Партызанская* (былая назва *Пузавічы*) – у памяць аб жыхарах вёскі, знішчаных нямецкімі акупантамі за сувязь з партызанамі, *Вусава* (былая назва *Вулька Драгунская*) – у гонар начальніка заставы лейтэнанта В.М.Усава, які гераічна загінуў у першы дзень вайны 1941 г.).

У айканіміі Гродзенскага раёна пэўны след пакінулі іншыя мовы. У мінулым на Гродзеншчыне жыло заходнебалцкае племя Ятва (Яцвягі), якое карысталася яцвяжскай мовай (перастала існаваць у XVI ст.). Яцвягі былі славянізаваныя, але мясцовая айканімія захавала нямала балтыйскамоўных элементаў. Такія элементы маглі быць і вынікам цеснага кантактавання насельнікаў Гродзеншчыны з насельнікамі суседняй Летувы. Параўн. сучасныя назвы вёсак і словы з летувіскай мовы: *Бабіна* – gabina ‘брод', ‘мокрая, гразкая дарога', ‘дрыгва', *Бержалаты* – beržas ‘бяроза', *Бросты* – brastà ‘брод', *Гадуны* – gùdas ‘мясцовая мянушка беларуса ў літоўцаў', *Індура* – indré ‘трыснёг', *Каўняны* – Kaunine ‘назва балота', прозвішча Kaũnas, Kaunẽlis < káutis ‘змагацца, біцца', kaunùs ‘задзірысты', *Лакно* – laukininkas ‘жыхар поля; селянін, земляроб', *Мішкенікі* – miškiniai – ‘абабак', *Райста* – raistas ‘забалочаны лясок', *Табала* – tábaloti ‘калыхацца, трэсціся (пра дрыгвяністае балота)', *Скідзель* – skidẽlis, skisti ‘разгаліноўвацца, разыходзіцца, раздвойвацца'.

Пад уплывам польскай мовы назвы, якія заканчваюцца на *-шчына,* атрымалі афармленне на *-шчызна*: *Гневяншчызна, Дабравальшчызна, Круляўшчызна, Мураўшчызна.* У феадальнай Беларусі ўзнікла многа паселішчаў на свабодных нерашчышчаных участках зямлі з пэўнымі ільготнымі павіннасцямі. Сяляне, вольныя ад многіх прыгонных павіннасцей і пабораў, давалі назву сваім паселішчам *Воля, Волька,* а ў спаланізаванай форме – *Вулька: Вулька Драгунская, Вулька Жандовая, Вулькаўцы.*

З прыкладаў іншамоўнага ўплыву можна адзначыць і назву *Машталеры,* утваральнай асновай якой з'яўляецца слова сярэдневерхненямецкага паходжання marstall, якое мела значэнне ‘старшы конюх'.

У працэсе гістарычнага функцыянавання адны з айконімаў захавалі свой першапачатковы выгляд, а другія зазналі структурнае пераафармленне. Асноўная прычына змяненняў – тэндэнцыя да спрашчэння форм геаграфічных назваў на фанетычным, словаўтваральным, лексічным узроўнях [1, с. 12]. Параўнаем некаторыя

ранейшыя і сучасныя формы: *Длужнева – Глушнева, Іванавічы – Іванаўцы, Манькавічы – Монькаўцы, Галавічэвічы – Галавачы, Некрашэвічы – Некрашы, Зброшкаўшчызна – Брошкаўцы, Капцёўшчызна – Капцёўка, Бакунова – Бакуны, Лабна-Агароднікі – Агароднікі, Жукевічы-Панямунь – Жукевічы.*

Побач з афіцыйнымі ў гаворках існуюць і неафіцыйныя найменні некатрых населеных пунктаў. Напрыклад, у Парэцкім сельсавеце *Забалоцце* выкарыстоўваецца толькі ў афіцыйных зносінах, а вяскоўцы называюць гэтае паселішча айконімам *Забалотнікі.* Параўн. таксама паралельныя: Хамуты – *Калёня,* Глушнева – *Лушнева,* Салацце – *Салаці,* Дзертніца – *Дзеркніца,* Парэчча – *Парэчы.*

Паводле статыстычных звестак [2, с. 161-186], на 1 сакавіка 2004 г. у Гродзенскім раёне зарэгістравана 385 населеных пунктаў, сярод якіх абласны цэнтр – г. *Гродна*, горад раённага падпарадкавання – *Скідзель*, пасёлак гарадскога тыпу – *Сапоцкін*, іншыя знаходзяцца ў межах наступных сельскіх і пасялковых саветаў.

Абухаўскі сельсавет: вёскі Абухава, Абуховічы, Агароднікі, Александрова, Бірулічы, Будоўля, Гушчыцы, Загорцы, Коматава, Котра, Курпікі, Лашавічы, хутар Мар’янаўка, вёскі Машталеры, Мігова, Міхайлаўка, Навасёлкі, Плавы, Пужычы, Ракіце, Саволеўка, Селюкі, Струпіна, Юравічы.

Адэльскі сельсавет: вёскі Адэльск, Бакуны, Брузгі, Вялікае Дзямідкава, Грабяні, Дубніца, Іванаўцы, Клачкі, Клінчаны, Кулёўцы, Малое Дзямідкава, хутар Мінкаўцы, вёска Мішкенікі, хутар Навадзель, вёскі Падліпкі, Пяслі, Радзявічы, Скрablякі, Старадубавая, Струбка.

Азёрскі сельсавет: вёскі Азёры, Арэхавічы, Бушнева, Губінка, Забярэзіна, Камяністая, Канявічы, Корчыкі, Лакно, Масткі, Навасёлкі, Пруды, Пыра, Радута, Старына, Стрыеўка, Сухары.

Верцялішкаўскі сельсавет: вёскі Аленічы, Баркі, Батароўка, Баяры, Берагавы, Быльчыцы, Верцялішкі, Галаўнічы, Грынёўка, Дворцы, Жытомля, Забагонікі, Завадзічы, Заполле, Казіміроўка, Казловічы, Пілюкі, Пундзішкі, Ракітна, Рыдзялі, Санкоўшчына, Сіўкава, Сколабава, Сыпаная Гара, Табала, Табольская Будка, Талочкі, Тапанёва, Тужаўляны, Цыдзікі, Эйсманты.

Гожскі сельсавет: вёскі Агароднікі, Багушоўка, Барбарычы, Бержалаты, Буднікі, Гожа, Гумбачы, Дуброва, Загорнікі, Зялёная, Калонія Казіміроўка, Камяністая, Крынічная, Лукавіца, Лясніца, Мельнікі, Новая Гожа, Падазёркі, Пералом, Плябанішкі, Пальніца, Прывалкі, Райста, Русота, Свентаянск, Цідовічы, Чарнуха, Чарнушкі, Шабаны.

Індурскі сельсавет: вёскі Баброўнікі, Балічы, Баяры, Белева, Вялікая Жорнаўка, Дубаўка, Жорнаўка, Жытарадзь, Занявічы, Індура, Кавалічы, Круглікі, Кунцаўшчына, Лугавая, Лужкі, Луцкаўляны, Малая Жорнаўка, Новадубавая, Пракпавічы, Рагачы, Сухая Даліна, Яскевічы.

Капцёўскі сельсавет: вёскі Бросты, Бычкі, Вішнявец, Вялікая Альшанка, Гібулічы, Гневяншчына, Горніца, Жукевічы, Жылічы, Каменка, Капцёўка, Караневічы, Каробчыцы, Каўпакі, Кашэўнікі, Копанькі, Малахавічы, Малая Альшанка, Нямейшы, Пагараны, Палаткова, Скамарошкі, Славічы, Солы, Сухмяні, Фабрычны, Цвіклічы, Чэхаўшчына, Юзафоўка.

Квасоўскі сельсавет: вёскі Агароднікі, Баранава, Верхнія Пагараны, Верхняя Свіслач, Віцькі, Гарны, Грыўкі, Дайлідкі, Дарошавічы, Дзякалавічы, Зарубічы,

Каленікі, Карозічы, Квасоўка, Кругляны, Кузьмічы, Лікоўка, Літвінкі, Навасёлкі, Ніжнія Пагараны, Новікі, Няцечы, Путна, Рудавіцы, Саломенка, Свіслач, Сцяцкі, Ферма, Хамікі, Хліставічы.

Падлабенскі сельсавет: вёскі Адамавічы, Баля Сольная, Баранавічы, Баяры, Бяляны, Валавічоўцы, Вулькаўцы, Выселка, Рагачы, Галавічы, Гінавічы, Дабравольшчына, Дзмітрыеўка, Дубніца, Загараны, Калбасіно, Камісарава, Канюхі, Капланаўцы, Караліно, Круляўшчына, Кулакоўшчына, Лабна-Агароднікі, Ласосна, Ліхасельцы, Міцкевічы, Навасёлкі, Навумавічы, Новікі, Падлабенне, Пад’ятлы, Перстунь, Польныя Багатыры, Пракопавічы, Новікі, Пушкары, Пышкі, Рагачы, Рацічы, Салаўі, Саннікі, Сафіёва, Скрынікі, Стрэльчыкі, Тарусічы, Трычы, Тумашы.

Парэцкі сельсавет: вёскі Бабіна, Белае, Вярхполле, Гадуны, Глушнева, Гумнішча, Дзертніца, Дубінка, Забалоцце, Запур’е, Ліхачы, Лосева, Маркішы, Новая Руда, Падбелае, Парэчча, мястэчка Парэчча, вёскі Перасельцы, Рыбніца, Сабаляны, Саламянка, Салацце, Старая Руда, Узбераж, Хамуты, Чарнуха.

Путрышкаўскі сельсавет: вёскі Астравок 1, Астравок 2, Аульс, Грандзічы, Дзевятоўка, Дуброва, Забалаць, Зарыца, Каменная Русота, Кукалі, Кульбакі, Лапенкі, Малышчына, Падкрыжакі, Панямунь, Першае Мая, Прыгодзічы, Путрышкі, Русота, Чашчаўляны, Шчачынова, Ялоўшчына.

Сапоцкінскі пасялковы Савет: вёскі Асочнікі, Асташа, Баляненты, Белічаны, Белыя Балаты, Беражаны, Васарабы, Васілевічы, Войтаўцы, Вусава, Вусенікі, Галавенчыцы, Галынка, Гарачкі, Дзмісевічы, Доргунь, Забрачаны, Зарачанка, Кадыш, Калеты, Каўняры, Келбаскі, Кодзеўцы, Лінкі, Лойкі, Лясная, Маркаўцы, Монькаўцы, Навасады, Навасёлкі, Новікі, Нямнова, Плоскаўцы, Плябанскія, Пралейкі, Пясчаны, Радзівілкі, Рынкаўцы, Самборы, гарадскі пасёлак Сапоцкін, вёскі Свяцк, Селіванаўцы, Сінявічы, Сонічы, Тартак, Чарток, Шадзінцы, Шынкаўцы, Шэмбелеўцы, Ятвезь.

Скідзельскі сельсавет: вёскі Ахрымаўцы, Баброўня, Багудзенька, Бандары, Белякоўшчына, Брошкаўцы, Бубны, Бярві, Вострава, Восьнікі, Галавачы, Гарашкі, Гліняны, Залясяны, Канюхі, Карашава, Кашубінцы, пасёлак Кашубінцы, вёска Лазы, Ляшчыцы, хутар Мастаўляны, вёскі Мількаўшчына, Некрашы, Партызанкая, Полымя, Прыступічы, Пясчанка, Раўкі, Сікорыца, горад Скідзель, вёскі Стральцы 1, Стральцы 2, Сухаўляны, Тарасюкі, Ханявічы, Хвайняны.

У мінулым шэраг назваў населеных пунктаў (у сувязі са знікненнем паселішчаў, іх аб’яднаннем ці перайменаваннем) было страчана. Яны захоўваюцца ў памяці людзей ці ўжо толькі ў пісьмовых крыніцах: *Асошнікі, Астравок, Ваінішкі, Верхнія Пагараны, Вялікая Капліца, Дзямшы (Дземша), Доргунская Вулька, Дунаеўка, Жандовая Вулька, Жыдаўшчына, Змяёва, Кавальцы, Каменны Мост, Камчатка, Канстанцінова, Кардон Падліп’е, Касцельная Баля, Клімаўшчына, Кондзеўка, Кодзі, Крушнікі, Крыўляны, Лэйгабалі, Малая Капліца, Малыя Баяры, Міраны, Ніжнія Пагараны, Падбердаўшчына, Падражок, Папрукала, Паўлінаўка, Пузавічы, Светлы, Сіні Камень, Ставы, Старадворцы, Сядзюшкі, Фенькава, Хвайна, Хвасты, Шкленск* і інш.

Масавае перасяленне людзей у горад, якое адбылося за апошняе паўстагоддзе, аказала разбуральнае ўздзеянне на беларускую вёску. Многія населеныя пункты перасталі існаваць ці знаходзяцца на мяжы знікнення. Не мінула гэтая трагедыя і паселішчаў Гродзенскага раёна. Невялікія вёскі, асабліва ў пушчанскай зоне, замерлі пустымі хатамі ці маюць па некалькі жылых двароў. Для прыкладу прывядзём асоб-

ныя звесткі па Парэцкім сельсавеце, у якім усяго налічваецца 26 населеных пунктаў, з лічбавым адлюстраваннем 1) колькасці гаспадарак і 2) колькасці жыхароў: Саламянка – 0/0, Забалоцце – 0/0, Падбелае – 1/1, Белае – 2/3, Бабіна – 2/5, Маркішы – 3/5, Дубінка – 5/8, Гадуны – 6/10, Хамуты – 6/13, Запур'е – 11/12, Гумнішча – 13/18, Вярхполле – 14/17 (інфармацыя на 24 снежня 2009 г.). Лічбы паказваюць, што дзве вёскі апусцелі цалкам. Амаль палову вёсак у сельсавеце чакае такі самы лёс, бо у іх на адну гаспадарку прыходзіцца пераважна адзін жыхар – як правіла, жанчына пенсійнага ўзросту. Шкада, што ў будучым іх назвы застануцца толькі на гістарычнай карце.

*Літаратура*

1. Янушкевіч, С.А. Уласныя назвы паселішчаў заходняй Гродзеншчыны: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / С.А. Янушкевіч; І-нт мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. – Мінск, 1998. – 20 с.

2. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гродзенская вобласць : нармат. давед. / пад рэд. В.П. Лемцюговай. – Мінск: «Тэхналогія», 2004. – 471 с.

Першая публікацыя ў зборніку: *Грані роднага слова: зб. мовазнаўч. навук. арт. (да 80-годдзя праф. П.У. Сцяцко); рэдкал.: М.А. Даніловіч (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна: ГрДУ, 2010. – С. 125–137.*

## АСПЕКТЫ ЭТНАЛІНГВІСТЫЧНАГА ВЫВУЧЭННЯ РЭГІЯНАЛЬНАЙ ТАПАНІМІІ НА СТАДЫІ ЗБІРАННЯ

Беларуская тапанімія як лінгвістычная навука дасягнула значных поспехаў у сваім развіцці. Абследаваны многія тапанімічныя ландшафты, сабраны значны фактычны матэрыял, выдадзены дзясяткі тапанімічных слоўнікаў, апублікаваны шэраг манаграфій, артыкулаў, дапаможнікаў, абаронены кандыдацкія і доктарскія дысертацыі. Тым не менш, перад тапанімікай стаіць яшчэ шмат традыцыйных нявырашаных задач. Напрыклад, і сёння актуальным застаецца збіранне мікратапанімічнага матэрыялу і апублікаванне яго ў выглядзе рэгіянальных слоўнікаў. Надзённасць гэтага тлумачыцца тым, што ў выніку розных сацыяльна-дэмаграфічных працэсаў адбываецца разбурэнне беларускай вёскі. Многія населеныя пункты перасталі існаваць ці знаходзяцца на мяжы знікнення. Разам з гэтым знікае шматлікі пласт тапаніміі, які фарміраваўся цягам стагоддзяў. І калі яго не занатаваць цяпер, то праз колькі часу гэта зрабіць будзе складана, а ў многіх выпадках немагчыма.

У апошнія гады пачаў складвацца новы кірунак даследавання тапаніміі – этналінгвістычны. Звязана гэта з развіццём этналінгвістыкі – навукі, якая пашырае абсяг сваіх інтарэсаў, у межах якой пачынаюць складвацца асобныя адгалінаванні: этналексікалогія, этнафразеалогія, этнатапаніміка і інш.

Тапанімія вельмі ўдзячны матэрыял для этналінгвістычнага аналізу, таму што яна цесна звязана з традыцыйнай духоўнай культурай этнасу. Як слушна заўважае В.П. Лемцюгова, «у якім бы аспекце ні вывучаліся тапонімы, іх нельга ўявіць у адрыве ад сацыяльна-эканамічнай і палітычнай гісторыі грамадства, ад яго культурных каранёў. На ўсіх этапах лёс тапонімаў вызначаецца формай сацыяльнай арганізацыі, характарам грамадскіх і вытворчых адносінаў, асаблівасцямі сістэмы земляробства і землекарыстання» [1, с. 4-5].

Спецыяльных прац па даследаванні тапонімаў з этналінгвістычнага пункту гледжання ў айчынным мовазнаўстве пакуль няшмат. Напрыклад, у гэтым кірунку працуюць расійскія даследчыкі А.Л. Беразовіч, М.Э. Рут, А.Ф. Клаўскас, беларускія М.П. Антропаў, Т.М. Аліферчык, Т.І. Сінкевіч. Найбольш значнымі можна лічыць манаграфічныя даследаванні А.Л. Беразовіч [2], Т.М. Аліферчык [3].

Паколькі этнатапаніміка як раздзел этналінгвістыкі яшчэ толькі пачынае складвацца, многія яе асновавызначальныя пытанні тэарэтычнага і практычнага характару яшчэ нявырашаныя, нераспрацаваныя.

Перад этнатапанімістам з самага пачатку навуковых пошукаў паўстае пытанне, якія тапонімы падыходзяць для этналінгвістычнага аналізу. Ці павінна быць нейкая іх выбарка, ці ўсе яны вартыя ўвагі? Слушнымі з’яўляюцца меркаванні даследчыкаў, што ў адрозненне ад апелятыўнай лексікі «ў адносінах да тапанімічнага матэрыялу пад аб’ектам этналінгвістычнага даследавання трэба, магчыма, разумець усю тапанімію» [4, с. 348], таму што ўвесь анамастычны матэрыял характарызуецца «высокім узроўнем «мадуліруемасці», што сведчыць аб усталяванасці норм узуалізацыі, і кансерватызмам традыцыйных тапанімічных мадэляў» [2, с. 17]. Кожны тапонім уяўляе сабой этналінгвістычную каштоўнасць, бо змяшчае у сабе пэўную культурна-гістарычную інфармацыю.

Адзінкай этнатапанімікі, такім чынам, выступае любы тапонім, які ў гэтым выпадку набывае статус этнатапоніма (параўн.: у этналексікалогіі – этналексема, у этнафразеалогіі – этнафразема, ці этнафразеалагізм), а сукупнасць этнатапонімаў складае этнатапанімію.

Традыцыйна пад этнатапонімам разумелі ўласную назву геаграфічнага аб’екта, утвораную ад этноніма – агульнай назвы этнічнай супольнасці. З станаўленнем і развіццём этнатапанімікі відавочна, што паняцце этнатапоніма набывае іншы сэнс у параўнанні з ранейшым. Перад вучонымі стаіць задача тэрміналагічнага размежавання гэтых двух паняццяў. На першым часе магчыма ужыванне тэрміна з двума значэннямі, аднак у далейшым неабходна тэрміны *этнатапонім, этнатапанімія* ў іх ранейшым значэнні замяніць іншымі тэрмінамі.

Асноўная мэта этналінгвістычнага аналізу тапонімаў – выяўленне ў іх інфармацыі аб духоўнай культуры народа [2, с. 9]. Змест этнакультурнай інфармацыі «ёсць сістэма ведаў, уяўленняў, адзнак, што апісваюць з’явы ўнутранага і знешняга свету, якія маюць маркіроўку пры кадзіраванні ў мове і іншых сферах культуры» [2, с. 23]. Зыходзячы з гэтага, можна вылучыць шэраг аспектаў этналінгвістычнага даследавання тапонімаў пэўнага рэгіёну, якія закранаюць і самі моўныя адзінкі як прадмет духоўнай культуры, і адлюстраваныя ў іх з’явы пазамоўнай рэчаіснасці. Ведаць хаця б «інвентар» гэтых аспектаў неабходна этналінгвісту ўжо на самай элементарнай стадыі даследавання – пры збіранні, фіксацыі тапанімічнага матэрыялу (айконімаў, гідронімаў, мікратапонімаў). Арыентаванасць у іх дапаможа больш поўна і комплексна выявіць этналінгвістычную інфармацыю, якая «закадзіравана» ў кожным тапоніме, каб пасля даць ёй грунтоўнае навуковае тлумачэнне.

Паспрабуем абазначыць гэтыя аспекты, адрасуючы нашы разважанні ў першую чаргу збіральнікам тапаніміі ў палявых умовах. У якасці фактычнага матэрыялу выкарыстаны тапонімы, запісаныя аўтарам пераважна на тэрыторыі Гродзеншыны і ў большай ступені на тэрыторыі роднага Гродзенскага раёна.

1. Дэнататыўны аспект – выяўленне значэння тапонімаў, г. зн. вызначэнне аб'екта намінацыі. Для збіральніка важна мець праграму, якая арыентуе, што шукаць, якія прыродна-геаграфічныя рэаліі могуць мець анамастычныя абазначэнні. Для пошукаў у Беларусі, улічваючы яе прыродна-геаграфічныя ўмовы, можна прапанаваць наступны прыкладны апытальнік:

*Населеныя пункты*

1. Назва населенага пункта (хутара, вёскі, мястэчка і г.д.), афіцыйная і мясцовая, калі яна ёсць, раён і вобласць з улікам сучаснага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу. Ці была ў мінулым іншая назва і ў сувязі з чым адбылася змена назвы?

2. Як называюцца часткі населенага пункта, вуліцы, плошчы, сады, базары і іншыя дробныя геаграфічныя аб'екты?

3. Ці ёсць паблізу населенага пункта рэшткі гарадзішчаў, разваліна, крэпасцяў, валоў, іраоў, як яны называюцца?

4. Назвы суседніх населеных пунктаў, у тым ліку і тых, што цяпер не існуюць. Што вядома пра іх паходжанне?

Пачынаючы з гэтага пункта і далей пры апісанні геаграфічнага аб'екта варта ўказаць яго месцазнаходжанне ў адносінах да асноўнага населенага пункта (з улікам напрамку на поўнач, поўдзень і г.д. і прыкладнай адлегласці ў кіламетрах).

*Рэльеф*

5. Як называюцца горы, пагоркі, іх вяршыні, цясніны, хрыбты, перавалы?

6. Назвы далінаў, нізінаў, раўнінаў.

7. Як называюцца курганы, схілы, яры, іншыя элементы мясцовага рэльефу?

8. Назвы пячораў, падземных хадоў, шахтаў, кар'ераў, акопаў, дарогаў.

*Сельскагаспадарчыя ўгоддзі*

9. Назвы ніваў, лугоў, палёў і асобных іх частак.

10. Як называюцца выганы, пашы, папары і іншыя ўчасткі неапрацаванай зямлі?

*Лясныя ўгоддзі*

11. Як называюцца урочышчы, лясы, асобныя лясныя ўчасткі (паляны, бары, гаі, узлескі, лесапаркі, лесапалосы і іншыя геаграфічныя аб'екты, звязаныя з мясцовай флорай)?

12. Назвы запаведнікаў і заказнікаў.

13. Як называюцца масівы кустоў і дробналесся?

*Вадаёмы*

14. Як называюцца рэкі, рэчкі, ручаі, што працякаюць на абследаванай тэрыторыі. Указаць, адкуль яны бяруць пачатак, куды ўпадаюць (пры неабходнасці і магчымасці: даўжыню, шырыню, глыбіню, хуткасць цячэння, колер вады, характар рэчышча, дна, берагоў (глiністыя, пясчаныя, камяністыя, ілістыя, топкія), асаблівасці поплава – шырокі, вузкі, балоцісты).

15. Якія назвы маюць рэчышчы перасохлых рэчак і ручаёў?

16. Назвы крыніцаў.

17. Назвы канаў, каналаў, пратокаў, рукавоў.

18. Назвы стаячых водаў: балотаў, азёраў, сажалак (ставаў), тарфянішчаў і г. д.

19. Назвы астравоў, паўастравоў, косаў, мысаў.

20. Назвы плёсаў, парогаў, перакатаў, меляў, вадаспадаў, асобных участкаў берага, прыбярэжных стромаў, заліваў, ліманаў.

21. Як называюцца рыбалоўныя тоні, месцы для купання?

### *Шляхі зносін*

22. Як назыаюцца дарогі, вуліцы, пераправы, брады, прыстані, масты, грэблі?

Тапонімы паводле свайго значэння атрымалі тэрміналагічную дыферэнцыяцыю. Прывядзём некаторыя тэрміны, якія замацаваліся і шырока выкарыстоўваюцца ў навуцы: *тапонім* – назва любога прыродна-геаграфічнага аб'екта, *макратапонім* – назва буйнога прыродна-геаграфічнага аб'екта, *мікратапонім* – назва дробнага прыродна-геаграфічнага аб'екта (урочышча, поля, сенажаці і інш.), *айконім* – назва населенага пункта, *аронім* – назва гары, пагорка, асаблівасцяў рэльефу, *драмонім* – назва шляхоў зносін, *гадонім* – назва лінейнага аб'екта, *гідронім* – назва воднага аб'екта, *мікрагідронім* – назва невялікага воднага аб'екта (сажалкі, крыніцы, ручая і інш.), *лімнонім* – назва возера, *патамонім* – назва ракі, рэчкі, *гелонім* – назва балота, забалочанай мясціны.

2. Лексічна-семантычны аспект – вызначэнне семантыкі тапаасноў. Ён уяўляецца найбольш важным у этнатапаніміцы, паколькі значэнні матывавальных апелятываў нясуць featuring рознабаковую этнакультурную інфармацыю «аб этнічнай гісторыі народа, сацыяльным укладзе, матэрыяльнай і духоўнай культуры» [3, с. 5].

Паводле матывавальных асноў тапонімы дзеляцца на пэўныя тэматычныя ці лексічна-тэматычныя групы. Усе яны аб'ядноўваюцца ў два вялікія тыпы: 1) адапелятыўныя тапонімы, 2) аданамастычныя тапонімы.

Адапелятыўныя тапонімы ўтвораны на аснове агульных назваў і ў сваю чаргу распадаюцца на групы і падгрупы, матываваныя, напрыклад:

1) прыродна-геаграфічнай лексікай, што абазначае: а) рэльеф: -узвышаныя формы рэльефу (*Козій хрыбет*, *Крывая гара, Велька гара*); -раўніны і нізіны (*Глыбока даліна*), -асаблівасці глебы, паверхні зямлі: (п. *Сіняк,* п. *Смактун,* п. *Гліна, Здуха*); б) лясныя масівы, флору і фауну (л. *Бярэзнікі,* в. *Ельнікі,* п. *Бабро*); в) гідрааб'екты (воз. *Азярко,* б. *Багон,* б. *Алёс, Маркішовыя лужкі*);

2) лексікай, што абазначае вынікі дзейнасці чалавека: а) тыпы пасяленняў і жылля (в. *Навасёлкі,* в. *Калёня)*; б) пабудовы, збудаванні (л. *Лесічоўка,* л. *Гаёўка,* л. *Каплічка*); в) вытворчыя прадпрыемствы, промыслы, месцы гаспадарчага прызначэння (сн. *Загарадка*, п. *Фабрыка*, л. *Тартак*); г) шляхі зносін (дарогі, водныя пераправы, грэблі, масты) (л. *Каровячыя Сцежкі, Старая грэбля, Плывучы мост*); г) месца распрацоўкі лесу пад поле, сенажаць (л. *Ляда,* в. *Дзертніца,* сн. *Выцерабак,* л. *Карчоўка,* п. *Палянка*); д) угноеныя ўчасткі поля (п. *Пагнае*); е) падзельную зямлю (сн. *Замежак*); ё) дадатковыя надзелы зямлі (п. *Рэзкі*); ж) канфігурацыю ўчастка (п. *Клінкі,* п. *Рог,* б. *Круговінка*); з) зямельныя знакі (сн. *Граніца,* л. *Градкі*);

3) абстрактнай лексікай (л. *Шырыня*, в. *Пералом*);

4) рэлігійнай і міфалагічнай лексікай (воз. *Ксяндзова*, в. *Плябанішкі*, *Святое балота, Чортава азярко*);

5) саветонімамі (в. *Першамайск*, в. *Полымя*);

6) прыметнікамі са значэннем якасці, якія абазначаюць памер, выгляд, колер і інш. (сн. *Вяліка,* б. *Круглае,* воз. *Белае,* б. *Краснае,* воз. *Малочнае*);

7) этнонімамі (в. *Васарабы,* в. *Літвінкі*).

Аданамастычныя тапонімы ўтвараюцца ад уласных назваў і дзеляцца на такія групы і падгрупы:

1) адтапанімічныя назвы, матываваныя: а) айконімамі (в. *Маркішы* > сн. Маркішы); б) мікратапонімамі (ур. *Гарачы Лес* > в. *Гарачы Лес*); в) гідронімамі (воз. *Доўгае* > в. *Прыдоўгае*);

2) адантрапанімічныя назвы, матываваныя: а) асабовымі імёнамі (л. *Макарыха*, *Францішкава багно,* л. *Антонава Жыўніца, Тамарына дарога*); б) мянушкамі (п. *Бурмістраха,* л. *Шэндрыха*); в) прозвішчамі (ч. в. *Будзькі*, в. *Дарашкевічы,* в. *Маркішы*).

3. Структурна-дэрывацыйны аспект закранае такія пытанні, як будова, спосабы і сродкі ўтварэння тапонімаў. Паводле структуры тапонімы падзяляюцца на простыя (б. *Камарэц*, р. *Котра*, кан. *Карты*), складаныя (в. *Навасёлкі*, п. *Мышалоз*), састаўныя (п. *Бярозаў Груд*, узг. *Буслова Кола*, л. *Бярозавы Слупец*).

Тыповыя спосабы ўтварэння тапонімаў – семантычны (х. *Ясень*, сн. *Вугал*, п. *Двор*), суфіксальны (в. *Гумнішча*, л. *Кабылячына*, п. *Кісялёўка*), прэфіксальны (п. *Падазярко*, бер. воз. *Падбярозка*, л. *Завозера*), прэфіксальна-суфіксальны (ч. в. *Задуб'е*, в. *Залесна*, сн. *Падлессе)*, складанне (воз. *Антозяро*, воз. *Каньвозяро,* л. *Марцылюдка*).

Пры збіранні тапаніміі асаблівая ўвага звяртаецца на спецыфічныя, рэгіянальныя спосабы і сродкі ўтварэння. Напрыклад, у гаворцы Парэцкага сельсавета Гродзенскага раёна бытуюць назвы тыпу п. *Навічыха*, сн. *Кудлачыха*, п. *Бурмістраха*. На першы погляд іх утварэнне можна зразумець як транстапанімізацыю мянушак асоб жаночага полу (семантычны бязафіксны спосаб) (мян. *Навічыха* > п. *Навічыха*). Але на самай справе гэта суфіксальныя ўтварэнні ад прозвішчаў і мянушак мужчынскага роду *Новік*, *Кудлач, Бурмістр* з дапамогай тапафармантаў *-іха, -ыха, -аха*. Старыя мясцовыя жыхары, яшчэ памятаюць, што поле *Навічыха* належала *Новіку*, сенажаць *Кудлачыха* – *Кудлачу* і г. д.

4. Парадыгматычны аспект. Парадыгматычныя сувязі існуюць не толькі сярод апелятыўнай лексікі. Яны – жывая з'ява і сярод анамастыкі. Сутнасць яе – «утварэнне розных відаў онімаў ад якога-н. аднаго класа тапоніма» [5, с. 3]. Розныя класы онімаў выяўляюць неаднолькавыя парадыгматычныя магчымасці. Найбольшай актыўнасцю ў гэтым плане характарызуюцца айконімы. Можна адзначыць наступныя адайканімічныя парадыгматычныя ўтварэнні:

1) ад'ектонімы-прыметнікі ад назваў населеных пунктаў: *Новая Руда – наварудскі, Глушнева – глушнеўскі.* Бывае, што ў адносінах да пэўнага населенага пункта існуюць варыянтныя формы прыметнікаў. Пры палявым даследаванні тапаніміі неабходна запісваць усе варыянты і адзначыць сярод іх найбольш пашыраны. Напрыклад, ад назвы в. *Гожа* утвараюць такія варыянты: *гожскі, гожанскі, гожаўскі*. Часцей мясцовыя жыхары выкарыстоўваць першы варыянт *госкі* (літаратурнае напісанне – *гожскі*);

2) катайконімы – назвы жыхароў па імені населенага пункта: *Берштэ – бяршчанін, бяршчанка, бяршчане; Дубінка – дубінскі* (чалавек), *дубінска* (жанчына), *дубінскія* (людзі). Нярэдка, акрамя нейтральных, выкарыстоўваюцца і эмацыянальна-ацэначныя

катайконімы. Так, жыхароў в. *Глушнева* называюць *глушняўскі, глушняўска, глушняўскія*. А пры выказванні адмоўных адносінаў да жыхароў выкарыстоўваюць эмацыянальна зніжаныя формы: *глушнявяк, глушнявячка, глушнявякі*;

3) урбанонімы – уласныя назвы аб'ектаў унутры паселішча. Ад айконімаў часта ўтвараюцца гадонімы (разнавіднасць урбанонімаў) – найменні лінейных аб'ектаў. Так, у г. Гродна ёсць вуліцы *Віленская, Брэсцкая, Лідская, Азёрская шаша* (<в. *Азёры*), *Індурская шаша* (< в. *Індура*). Падобныя найменні даюцца вуліцам і дарогам, якія скіраваны ў напрамку да пэўнага населенага пункта;

4) айконімы: в. *Новая Руда* > в. *Старая Руда*, в. *Берштьі* > в. *Падбершты*, в. *Гожа* > в. *Новая Гожа*, в. *Белае* > в. *Падбелае*, в. *Парэчча* > м. *Парэчча*. Роднасныя айканімічныя назвы даюцца тым населеным пунктам, якія ўзніклі недалёка ад ранейшых паселішчаў і якія маюць паміж сабой цесныя этнічныя, сацыяльна-эканамічныя і інш. сувязі;

5) гідронімы – назвы гідрааб'ектаў, што знаходзяцца паблізу населенага пункта: в. *Хамуты* > рч. *Хамутоўка*, в. *Бершты* > *Берштаўскае возера*. Гэтая мадэль утварэння патамонімаў, лімнонімаў, гелонімаў у наш час з'яўляецца прадуктыўнай, асабліва ў адносінах да тых водных аб'ектаў, якія раней заставаліся безыменнымі;

6) мікратапонімы: в. *Асочнікі* > лес *Асочнікі*, х. *Гарбачоўшчына* > *Гарбачоўско поля*;

7) антрапонімы – часцей за ўсё мянушкі. Адайканімічныя мянушкі замацоўваюцца за перасяленцамі з іншага населенага пункта. Напрыклад, мужчына, які з суседняй вёскі *Новая Руда* перасяліўся ў вёску *Бабіна*, атрымаў мянушку *Руднік*.

Парадыгматычныя гнёзды ўтвараюцца і ад іншых відаў тапонімаў, напрыклад гідронімаў, мікратапонімаў. У дыяхраніі паміж онімамі могуць складвацца няпростыя дэрывацыйныя адносіны і сувязі, параўні

ур. Бабіна → б. Бабіна → сн. Бабіна
↘ в. Бабіна → воз. Бабіна
→ п. Бабіна
→ Бабінскі лес
→ Бабінска канава
→ Бабінска дарога
→ Бабінско возяро
→ Бабінскі раскоп (насыпная дарога)

Высвятленне дэрывацыйных ланцужкоў, пераходаў, паслядоўнасці дэрыватаў вымагае спецыльнага гістарычнага даследавання, у тым ліку і аналізу архіўных дакументаў.

5. Гістарычна-этымалагічны аспект прадугледжвае вывучэнне 1) гісторыі аб'екта назвы і 2) гісторыі, паходжання непасрэдна самой назвы. Першае больш актуальнае пры даследаванні такога віду тапонімаў, як айконімы. Звесткі пра ўзнікненне населенага пункта, яго існаванне ў часе дапамагаюць высветліць, чаму так названа, якія гістарычныя змены зведала тапанайменне. Прыклад гістарычнай інфармацыі пра в. Рыбніца Гродзенскага раёна: «Назва вёскі ўказвае на тое, што ў ёй калісьці займаліся першаснай апрацоўкай рыбы (па версіі В.А. Жучкевіча). Але сапраўднае паходжанне вёскі іншае. Гэтая вёска стаіць ля вытокаў у сучасныя часы амаль цалкам

каналізаванага ручая, а калісьці – невялікай рэчкі Рыбніцы. Гэты каналізаваны ручай упадае ў аднайменнае возера каля мястэчка Азёры. Вёска пад назвай Руда Рыбніцкая, ці Сабалянская, упамінаецца ў 1641 годзе. У жніўні 1920 г. пражывала 110 чалавек. У 4 км ад вёскі археолагі знайшлі селішча перыяду жалезнага веку – Сярэднявечча (апошнія стагоддзі 1-га тысячагоддзя). У 2007 годзе – дамоў 73, агульная колькасць жыхароў – 176, непаўналетніх да 15 год – 32, працаздольнага ўзросту – 94, пенсіянераў 50» [6].

Высвятленне лінгвістычных і пазалінгвістычных вытокаў геаграфічных назваў няпростая задача, але да гэтага трэба імкнуцца ўжо ў працэсе збірання і аналізу матэрыялу.

Утваральнай асновай шэрагу тапонімаў выступаюць словы, якія ўстарэлі ці нагогул выйшлі з ужытку. Гэта і спрадвечнабеларускія, і запазычаныя з іншых моваў адзінкі. Напрыклад, назва вёскі *Машталеры* – гэта тое самае, што па-беларуску *Канюхі* (*marstall* – слова сярэдневерхненямецкае, якое мела значэнне ‘старшы конюх’; назва возера *Лакно* – ад балтызма *laukininkas* ‘жыхар поля, селянін, земляроб’.

Важна занатаваць аповеды мясцовых жыхароў пра паходжанне назвы. Легенды пра ўзнікненне вёсак, рэк, азёраў могуць быць самыя розныя і часта не супадаць з навуковымі этымалагічнымі версіямі. Напрыклад, пра вёску Струбніца Мастоўскага раёна ад інфарманта запісаны такія звесткі: «Некалі ў лесе было многа звяроў, таму для тутэйшых жыхароў любімай справай было паляванне. Паляўнічыя трубілі ў ражкі, збіраючыся ў адно месца. Таму назва Струбніца пайшла ад слова трубіць». На самай справе ў аснове гэтай назвы – агульны назоўнік *струбніца* са значэннем ‘сцёк, роў’.

Параўнаем яшчэ: *Малькавічы* – «таму што раней у вёсцы былі маленькія хаткі»; *Каўбаскі* – «гэта гаворыць аб заможным жыцці нашых продкаў, у якіх не пераводзіліся на стале каўбасы»; *Свіслач* – «сюды перасяліліся людзі з Віслы»; *Цідовічы* – «назва пайшла ад польскага слова *cud*, адбылося зблытванне польскай літары *u* з рускай *и*»; Багушоўка – «праз гэтую мясцовасць Бог ішоў».

У савецкі час прыдумана нямала ідэалагізаваных этымалагічных тлумачэнняў, якія знайшлі сваё месца пераважна ў школьных і сельсаветаўскіх этнаграфічных кутках і музеях. Так, пра паходжанне вёскі Дабраволя Свіслацкага раёна склалі такую небыль: «Вёска Дабраволя ўзнікла ў першай палове XVIII ст. У той час на Гродзеншчыне, якая ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай, адбываліся шматлікія сялянскія выступленні за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Хаваючыся ад прыгнёту, сяляне ўцякалі ад сваіх памешчыкаў і феадалаў сюды ў пушчу. Прыкладна тады і ўзнікла ў дрымучым лесе пяць-шэсць хат, хат першых дабравольцаў».

З навукова-гістарычнага пункту гледжання гэтая легенда не вытрымлівае ніякай крытыкі. У Беларусі шмат назваў паселішчаў з коранем *вол(я).* І заснавалі гэтыя паселішчы не ўцекачы-нявольнікі, а сяляне, якія асядалі на свабодных нерасчышчаных участках зямлі і па гэтай прычыне атрымлівалі ад дзяржавы пэўныя ільготы, вызваляліся ад многіх прыгонных павіннасцей, лічыліся вольнымі.

Назву вёскі *Шчорсы* Навагрудскага раёна спрабавалі звязаць з вядомым героем Грамадзянскай вайны М. Шчорсам. Нават у цэнтры вёскі помнік-бюст гэтаму герою паставілі. Але сам М. Шчорс тут ніколі не быў і не ведаў, што такая вёска ў Беларусі ёсць.

Пры збіранні тапанімічнага матэрыялу неабходна занатоўваць усе этымалагічныя версіі, якія толькі існуюць. Далейшае вывучэнне пакажа, якая з іх найбольш адпавядае

сапраўднасці, а якая створана фантазіяй народа ці асобных людзей. У шэрагу выпадкаў тлумачэнне інфарманта, жывога сведкі, з'яўляецца адзіна правільным і можа ўнесці карэкціроўку ў спрошчанае ўяўленне пра ўтварэнне назвы. Напрыклад, аносна назвы лесу *Воўк* (каля вёскі Бабіна Гродзенскага раёна) тапаніміст без сумненняў будзе даводзіць, што яна этымалагічна празрыстая, што гэта семантычнае ўтварэнне ад апелятыва *воўк* 'дзікая драпежная жывёла сямейства сабачых', што пазалінгвістычная матывацыя тапоніма звязана з фактамі, якія мелі дачыненне да гэтай жывёлы ў гэтай мясціне. На самай справе вытокі оніма не такія простыя, як здаецца на першы погляд. Паводле звестак інфарманта, паходжанне назвы звязана з анекдатычным выпадкам. Леснікі рабілі ў лесе санрубку, выпілоўвалі выбракаваныя дрэвы. Па правілах тэхнікі бяспекі на дарозе паставілі шыльду з надпісам на рускай мове «Осторожно валка леса». Ляснік Аляксей Даніловіч дзеля жарту на шыльдзе закрэсліў у слове *валка* літару *а* і над ёю напісаў літару *о*, атрымалася слова *волка.* З надпісу выходзіла, што асцерагацца трэба ваўка лесу, які, напэўна, недзе тут жыве. Жарт атрымаў сацыяльную значнасць, і пасля гэтага лясны ўчастак пачалі называць словам *Воўк.*

Гістарычны аспект прадугледжвае выяўленне прычын варыянтнасці назваў, перайменавання паселішчаў ці іншых тапааб'ектаў. Пры збіранні тапонімаў вельмі важна запісаць інфармацыю пра зніклыя населеныя пункты: што ўяўляла сабою паселішча, якія людзі ў ім жылі, чым займаліся, калі знікла, прычыны знікнення.

6. Фалькларыстычны аспект. Тапонімы (пераважна назвы населеных пунктаў) сустракаюцца ў фальклорных творах. Як правіла, такія творы маюць рэгіянальны характар, прывязаныя да пэўнай мясцовасці. Так, у в. *Берšты* Шчучынскага раёна запісаны фрагмент абраду «ваджэння казы», дзе ёсць такія словы: «Го-го, казёлбарада! Паедзям да *Новаго Двара*» (в. Новы Двор знаходзіцца за 10 км ад в. Бершты). Ці, напрыклад, у калыханцы:

Пайшоў коцік пад масток
Аж пад самы *Беласток.*
Ну а там, ля *Беластоку*,
Вір у рэчцы неглыбокі.
Скочыў коцік пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.

*(Міляваічы Маст. р-на)*

Фальклорныя рыфмаванкі складаюцца як рэакцыя на пэўныя падзеі, што адбываліся ў вёсцы, у рэгіёне. Вось іранічнае выказванне, відаць, з нагоды няздзейсненай шлюбнай дамовы: «Авечка – з мястэчка, баран – з *Маркішоў*, авечка чакала, баран не прыйшоў». Факт крадзяжу жывёлы стаў матывам складання такога твора: «*Табала* ўкрала вала, *Рыдзялі* відзялі, сказалі *Завадцы*, што вол даўно ў с-цы».

У малых формах фальклору (прыказках, фразеалагізмах, устойлівых параўнаннях, абзываннях, дражнілках, жартах, анекдотах і інш.) тапонімы могуць быць цэнтрам, асновай, на якой грунтуецца твор. Некаторыя прыклады.

У дачыненні да жыхароў в. *Дзертніца* ў суседніх вёсках выкарыстоўваецца эмацыянальна-ацэначна зніжаны катайконім *дзеркачэ*, які стаў асновай дражнілкі: «Дзеркачэ, дзеркачэ – дралі суку на пячэ».

Цікавымі з’яўляюцца айканімічныя іранізмы тыпу: «У *Мінску* жывуць пасьвінску»; «У *Брэсьці* будзям торбамі трэсьці»; «Па чом сыры ў *Мазыры*?»; «У *Нясьвіжы* людзі хіжы, а ў *Лашы* людзі нашы».

Вядомы так званыя адказныя формулы як жартоўная рэакцыя на зададзенае пытанне: «–Ты куды? – Да *Новай Руды*»; «–Дзе? –У *Новай Рудзе*».

На аснове тапонімаў узнікла шмат фразеалагізмаў, напрыклад: *праз Наваградак у Беняві́чы, у Вігушкі праз Дзярвенішкі* – ‘кружным, неапраўдана далёкім шляхам (ісці, ехаць)’; *з Ёдзіч, з Баяраў, як з Жодзішак, з Бялавічаў уцёк* – ‘дурны, неразумны’; *Гандзя з Дубна* – ‘нерастаропная, нехлямяжая, разяватая жанчына’; *як у Скоржык на вяселлі* – ‘моцна (шумець, расшумецца)’; *Гуры Мацкі Двор Гервяцкі* – ‘вялікую тэрыторыю, вялікую адлегласць (абысці, аб’ехаць)’.

Аналіз тапонімаў у кантэксце фальклору дазволіць выявіць дадатковыя сегменты іх функцыянавання, этнакультурны патэнцыял гэтых адзінак у сферы мастацкай творчасці.

Вызначаныя аспекты вывучэння тапаніміі – гэта пакуль што арыенцір у збіральніцкай, пошукавай справе. Кожны з аспектаў патрабуе асобнай глыбокай распрацоўкі з боку тэорыі і методыкі этналінгвістычнага аналізу тапонімаў.

*Літаратура*

1. Лемцюгова, В.П. Тапонімы распавядаюць: навукова-папулярныя эцюды / В.П. Лемцюгова. – Мінск: Литература и Искусство, 2008. – 416 с.

2. Березович, Е.Л. Русская топонимия в этнолингвистическом аспекте / Е.Л.Березович. – Екатеринбург : КомКнига, 2005. – 240 с.

3. Аліферчык, Т.М. Тапанімія Заходняга Палесся ў этналінгвістычным аспекце: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Т.М.Аліферчык; Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. – Мінск, 2011. – 19 с.

4. Аліферчык, Т.М. Этналінгвістычныя даследаванні тапаніміі: метадалагічны аспект / Т.М.Аліферчык // Дыялекталогія і гісторыя беларускай мовы: матэрыялы Міжнар. навук. канф. Мінск, 15-16 красавіка 2008 г.; Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. – Мінск: Права і эканоміка, 2008. – С. 348–352.

5. Багамольнікава, Н.А. Парадыгматычныя сувязі тапонімаў / Н.А.Багамольнікава // Актуальные вопросы славянской ономастики: материалы III Междунар. науч. конф. 6–7 октября 2006 г. – Гомель: ГГУ им. Ф.Скорины, 2006. – С. 3–8.

6. Перспектива. – 2011. – № 25.

---

Першая пулікацыя ў часопіе: *Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2012. – № 1 (127). – С. 30–36.*

## ПРЫНЦЫПЫ СКЛАДАННЯ РЭГІЯНАЛЬНАГА ЭТНАЛІНГВІСТЫЧНАГА СЛОЎНІКА ТАПОНІМАЎ

У беларускай лінгвістыцы да гэтага часу застаецца не асвоеным вялікі пласт анамастычнай лексікі – мікратапаніміі, што сфарміравалася і функцыянуе ў розных кутках краіны. Задача фіксацыі і лексікаграфічнага спарадкавання яе сёння з’яўляецца асабліва надзённай. У выніку сацыяльна-дэмаграфічных працэсаў адбываецца разбурэнне традыцыйнай беларускай вёскі. Многія невялікія населеныя пункты перасталі існаваць ці знаходзяцца на мяжы існавання. Гэта прыводзіць да страты мясцовай

тапаніміі, якая складвалася на працягу стагоддзяў. Калі яе не занатаваць цяпер, то праз пэўны час зрабіць гэта будзе немагчыма.

Тапанімічныя слоўнікі, якія створаны ў мінулыя дзесяцігоддзі, маюць пераважна лінгвістычны характар. Яны ўяўляюць сабой алфавітны паказчык уласных найменняў з абазначэннем геаграфічнага аб'екта (поле, сенажаць, лес, вадаём і інш.), з некаторымі граматычнымі паметамі, з пашпартнымі дадзенымі, якія указваюць, дзе запісаны матэрыял. Часам слоўнікавыя артыкулы дапаўняюцца іншай лінгвістычнай інфармацыяй. Напрыклад, у слоўніку «Мікратапанімія Беларусі» [1] паказана ўжыванне асобных мікратапонімаў у ілюстрацыйных прыкладах-сказах, да слоў іншамоўнага паходжання прыводзяцца паралелі з літоўскай, латышскай, прускай, германскіх і інш. моў. У «Анамастычным слоўніку Гродзеншчыны» [2] даюцца кароткія фармулёўкі утваральнай асновы мікратапонімаў, напрыклад: Азараўшчына 'ўрочышча (былая сядзіба Азарава)', Кабакоў млын 'млын (належаў Кабаку)', Дубішча 'лес (шмат дубоў)'.

Такога тыпу слоўнікі карысныя ўжо тым, што яны рэгіструюць факты існавання канкрэтных мікратапонімаў у канкрэтнай мясцовасці. Па-другое, яны прапануюць каштоўны матэрыял для аналізу тыпалагічнага адзінства і семантычнай разнастайнасці мікратапонімаў, для выяўлення іх словаўтваральных мадэлей, гістарычна-этымалагічных вытокаў.

Аднак, на наш погляд, такія слоўнікі ў многім абмежаваныя. Па-за іх увагай застаецца шматлікая экстралінгвістычная інфармацыя. А без яе ў многіх выпадках немагчыма дакладна ці правільна вызначыць і саму лінгвістычную прыроду тапоніма <…>.

Кожны тапонім – гэта цэлая культурна-гістарычная з'ява ў рэгіёне. Як адзначае В. П. Лемцюгова, «у аснову тапоніма кладзецца не проста слова, а адна са стадый яго семантычнай эвалюцыі, абумоўленай інтэнсіўным уздзеяннем сацыяльна-эканамічных фактараў. Чым больш разнастайнай інфармацыяй даследчык будзе валодаць пра аб'ект, які абазначае тапанімізаваная лексема, тым дакладней ён зможа ўстанавіць, якое з яе значэнняў замацавалася ва ўласнай назве. Але ўнутрылінгвістычныя з'явы, як правіла, дыктуюцца і рэгулююцца пазалінгвістычнымі фактарамі. Галоўнымі пабуджальнымі матывамі найчасцей з'яўляюцца грамадскія ўмовы. У якім бы аспекце ні вывучаліся тапонімы, іх нельга ўявіць у адрыве ад сацыяльна-эканамічнай і палітычнай гісторыі грамадства, ад яе культурных каранёў» [3, с. 44].

Тапонім шматлікімі ніцямі звязаны не толькі з пазамоўнай рэчаіснасцю, але і з іншымі тапанімічнымі назвамі пэўнай тэрыторыі. Прывядзём на гэты конт слушнае выказванне В. М. Генкіна: «Тапанімію любога рэгіёну варта разглядаць не як механічную сукупнасць, нейкі «набор» тапонімаў, а як складаную арганічную сістэму. Рэгіянальная тапанімія складаецца менавіта як сістэма ва ўсёй разнастайнасці ўнутрысістэмных адносін» [4, с. 47].

Выявіць і паказаць рэгіянальную тапанімію ў яе сувязях і адносінах – важная задача тапалексікаграфіі. Рэалізаваць яе можна ў слоўніках новага тыпу, пабудаваных па іншых прынцыпах, чым традыцыйныя слоўнікі мінулага.

Прапануем свае разважанні адносна зместу і структуры новага тапанімічнага слоўніка. У якасці метадычнай асновы падобнага слоўніка мэтазгодна прыняць тэорыю тапанімічнага поля.

Тапанімічнае поле ўтвараюць усе тапанайменні, што бытуюць на пэўнай тэрыторыі. Яно мае цэнтр і перыферыю. Цэнтрам з'яўляецца айконім, вакол якога на

лінгвістычнай карце разгрупаваны іншыя онімы (аграонімы, гідронімы, гелонімы, аронімы і інш.). Перыферыя – гэта крайняя частка поля, якая судакаранаецца, перасякаецца з перыферыяй іншага, суседняга тапанімічнага поля. У мінулым мясцовыя жыхары выразна ўсведамлялі, дзе заканчваецца тэрыторыя іх актыўнага прабывання і пачынаецца тэрыторыя іншай супольнасці. Гэта знаходзіла ўвасабленне ў тапаніміі і антрапаніміі, заснаванай на прынцыпе «свой – чужы», напрыклад: Нашо поля – Рудніцко поля (ад назвы суседняй вёскі Новая Руда), Наш Раскоп – Маркішоў Раскоп (ад назвы вёскі Маркішы).

Развіццё і пашырэнне тапанімічнага поля зыходзіць ад яго цэнтра. Навакольная мікратапанімія як сістэма стваралася звычайна жыхарамі вёскі, пачынаючы ад першапасяленца, і адлюстроўвала быт, заняткі, адносіны да рэчаіснасці ў радыусе іх жыццядзейнасці. Многія мікратапонімы абавязаны сваім утварэннем імёнам, прозвішчам, мянушкам  канкрэтных жыхароў вёскі (Жылінскі лес, Тамарына дарога, Кудлачыха ‘сенажаць’).

Цэнтральны онім выступае дамінантай анамастычнай парадыгмы, напрыклад, вёска Бабіна – возера Бабіна, Бабінскі лес, Бабінска канава, Бабінска дарога, Бабінско возяро, Бабінскі Раскоп (насыпная дарога), бабінскі (чалавек), бабінскія, бабінцы (жыхары вёскі Бабіна).

Збіральніку тапаніміі напачатку пажадана вызначыць межы тапанімічнага поля, улічыўшы такія вызначальныя фактары яго гістарычнага фарміравання, як прыродна-геаграфічныя асаблівасці краю, спецыфіка працоўнай, вытворчай дзейнасці, этнічная прыналежнасць, культурныя, рэлігійныя традыцыі насельніцтыва. Затым неабходна запісаць тапанімію на акрэсленай тэрыторыі ва ўсёй яе сукупнасці, сабраць і лінгвістычную, і этнаграфічную інфармацыю пра кожную назву.

Этналінгвістычны тып слоўніка вымагае комлекснай лінгвакраязнаўчай характарыстыкі тапонімаў. Акадэмік А. М. Трубачоў піша: «Не варта здзіўляцца таму, што за кароткім часам тлумачэннем паходжання (этымалогіяй) самой назвы ідзе чыста краязнаўчы нарыс, даюцца звесткі па геаграфіі (гістарычнай, эканамічнай). Сімбіёз анамастыкі з краязнаўствам (дарэчы, свядома занядбаным у нас за апошнія дзесяцццігоддзі) і геаграфіяй прадыктаваны самой прыродай гэтых ведаў» [5, с. 6].

Структура і змест слоўніка ў адпаведнасці з тапанімічным полем нам бачыцца наступным чынам. Складаецца слоўнік з некалькіх раздзелаў, кожны з якіх прысвечаны аднаму віду тапонімаў.

У першым раздзеле падаюцца айконімы. Пачынаецца раздзел артыкулам пра айканімічную назву галоўнага населенага пункта ў рэгіёне. Назва і адпаведны ёй аб’ект характарызуюцца ў некалькіх аспектах.

1. Лінгвістычны аспект. У якасці загалоўкавага слова прыводзіцца афіцыйная назва згодна з правіламі літаратурнай нормы. Калі ўжываюцца варыянты, адрозныя ад афіцыйнага, то іх таксама неабходна паказаць. Даюцца агульнапрынятыя граматычныя паметы, што ўказваюць на род або лік, канчаткі асобных склонавых формаў. Загалоўкавае слова суправаджаецца ад’ектонімамі – прыметнікавымі ўтварэннямі, што выкарыстоўваюцца ў гаворцы (напрыклад: Новая Руда – наварудскі,  рудніцкі), і катайконімамі – назвамі жыхароў па імені населенага пункта (наваруцкі (чалавек), наваруцка(жанчына), наваруцкія (людзі); рудніцкі, рудніцка, рудніцкія; эмац.-зніж. руднік, рудніца, руднікі.

2. Гістарычна-этымалагічны аспект. Ён прадугледжвае інфармацыю пра гісторыю аб’екта і паходжанне назвы. Важна адзначыць, што ўяўляла сабой паселішча ў мінулым, якія людзі ў ім жылі, чым займаліся, якімі падзеямі яно знамянальнае. Звесткі пра ўзнікненне населенага пункта, асноўныя этапы яго развіцця часта праліваюць святло на тое, чаму так названа, якія гістарычныя змены зведала тапанайменне. Тут выкарыстоўваюцца і вусныя аповеды жыхароў, і архіўныя дадзеныя, і навуковыя даследаванні папярэднікаў.

Важна вызначыць матывавальную аснову айконіма, паколькі значэнні матывавальных апелятываў нясуць разнастайную этнакультурную інфармацыю. Гэта не заўсёды лёгка і проста, бо шэраг айконімаў утвораны ад слоў, спрадвечнабеларускіх ці запазычаных, якія ўстарэлі і выйшлі з ужытку.

Народныя версіі пра паходжанне назваў часта не супадаюць з навуковымі версіямі. Так, айконім Цідовічы, што ў Гродзенскім раёне, вяскоўцы тлумачаць наступным чынам: «Назва пайшла ад польскага слова cud, а пасля адбылося зблытванне польскай літары u з рускай літарай и». На самай справе, гэтая назва антрапанімічнага паходжання – ад слова Ціт (Цітовіч). Азванчэнне гука т адбылося пад уплывам наступнага галоснага о (рэгіянальная фанетычная асаблівасць гаворак Гродзеншчыны). У слоўніку павінны знайсці адлюстраванне усе этымалагічныя версіі – і навуковыя, і ненавуковыя.

3. Фалькларыстычны аспект. Многія айконімы замацаваліся ў фальклорных творах. Такія творы трэба падаць у слоўнікавым артыкуле, пажадана ў аўтэнтычным запісе, магчыма, з некаторымі каментарыямі. Найперш гэта легенды і паданні пра паходжанне населеных пунктаў.

Назвы паселішчаў часта фігуруюць у дзіцячым фальклоры (калыханках, забаўлянках, лічылках, дражнілках і інш.): Гай-да-да! Гай-да-да! Паедзем да Скідля па быдла, да Росі – па гусі, Да Ражанкі – па абаранкі, да Індуры – па куры! Гай-да-да! Гай –да-да!

Айконімы шырока выкарыстоўваюцца ў рэгіянальных выслоўях (прыказках, фразеалагізмах, устойлівых параўнаннях, абзываннях і інш.): У Нясвіжы людзі хіжы, а ў Лашы людзі нашы; –Дзе? –У Новай Рудзе; парадак як у Адэльску; Табала ўкрала вала, Рыдзялі відзялі, сказалі Завадцы, што вол даўно ў с-цы.

Пасля апісання ў паказаных трох аспектах галоўнага айконіма і адпаведнага яму паселішча ў першым раздзеле трэба змясціць артыкулы пра іншыя айканімічныя найменні, што знаходзяцца ў межах тапанімічнага поля. Гэта назвы вёсак і хутароў, якіх можна лічыць спадарожнікамі цэнтральнай сядзібы рэгіёна. Шматлікімі адносінамі яны звязаны з цэнтрам, падпарадкаваны яму, нярэдка выступаюць генетычна дачыннымі: Берштоы – Падберштоы, Гожа – Новая Гожа, Газа – Загазь.

Такім чынам, першы раздзел слоўніка цалкам прысвячаецца айканіміі. Наступныя раздзелы вылучаюцца ў залежнасці ад характару і колькасці мікратапанімічнага матэрыялу. Так, можна вылучыць раздзелы «Гідронімы», «Аграонімы», «Дрымонімы» і інш. У гэтых раздзелах, як і ў першым, мікратапонімы прэзентуюцца асобнымі слоўнікавымі артыкуламі, дзе таксама спалучаюцца лінгвістычныя і краязнаўчыя звесткі. Значная ўвага надаецца прыродна-геаграфічнаму апісанню аб’екта. Напрыклад, пры распрацоўцы артыкула пра патамонім варта ўказаць: адкуль рэчка бярэ пачатак, у які вадаём упадае, яе даўжыня, шырыня, глыбіня, хуткасць цячэння, колер вады,

характар рэчышча, дна, берагоў (глiнiстыя, пясчаныя, камянiстыя, iлiстыя, топкiя), асаблiвасцi поплава (шырокi, вузкi, балоцiсты).

Павiнны быць звесткi пра геаграфiчнае размяшчэнне мiкратапонiмаў – адлегласць i напрамак у адносiнах да цэнтральнага населенага пункта тыпу «за 3 км на паўночны захад ад…», «за 2 км на поўдзень ад…».

Са знiкненнем тапааб'ектаў найменнi могуць пераходзiць у разрад устарэлых, але яшчэ захоўвацца ў памяцi людзей. Iх з адпаведнымi паметамi трэба таксама адлюстраваць у слоўнiку.

Iстотным iнфармацыйным кампанентам слоўнiка маглi б стаць лiнгвагеаграфiчныя карты, прысвечаныя асобным вiдам тапанайменняў i размешчаныя пасля кожнага раздзела цi ў канцы слоўнiка ў выглядзе дадатка. Такiя карты з пазначанымi назвамi i межамi лясных масiваў, палёў, балот, сенажацяў i iнш. маюць выключную каштоўнасць для навукi i практыкi сучаснiкаў i нашчадкаў.

Такiм чынам, намi прыкладна абазначаны асноўныя аспекты i прынцыпы складання слоўнiка аднаго тапанiмiчнага мiкраполя, якое гiстарычна сфармiравалася вакол аднаго айканiмiчнага цэнтра. Даследчыкi часцей абследуюць больш шырокую тапанiмiчную прастору – у межах сельсавета, адмiнiстрацыйна-тэрытарыяльнага раёна, некалькiх раёнаў i iнш. У гэтым выпадку тапанiмiчнае поле можа мець ўскладненую структуру, уключаць у сябе некалькi цi нават дзясяткi аб'яднанняў. Напрыклад, тапанiмiчнае поле ў межах адмiнiстрацыйна-тэрытарыяльнага раёна можа ўключаць тапанiмiчныя палi сельсаветаў, якiя ў сваю чаргу складаюцца з тапанiмiчных мiкрапалёў мiкрарэгiёнаў.

Думаецца, такi iерархiчны прынцып варта захаваць i пры ўкладаннi слоўнiкавага матэрыялу. Этналiнгвiстычны слоўнiк тапонiмаў ў гэтым выпадку будзе складацца з частак – апiсанняў асобных палёў i мiкрапалёў. Падобны тып слоўнiка дазволiць паказаць рэгiянальную тапанiмiю ў сiстэме, у шматлiкiх яе сувязях з пазамоўнай рэчаiснасцю i будзе карысным не толькi для лiнгвiстаў, але i для прадстаўнiкоў iншых галiн ведаў.

## *Лiтаратура*


1. Мiкратапанiмiя Беларусi: матэрыялы / рэд. М.В. Бiрыла, Ю.Ф. Мацкевiч. – Мiнск: Навука i тэхнiка, 1974. – 328 с.

2. Ламака, В.М. Анамастычны слоўнiк Гродзеншчыны: у 2 ч. Мiкратапонiмы / В.М. Ламака [i iнш.]; пад рэд. П.У. Сцяцко. – Гродна: ГрДУ, 2005. – Ч. 1: Мiкратапонiмы. – 2005. – 347 с.

3. Лемцюгова, В.П. Тапонiмы распавядаюць: навукова-папулярныя эцюды / В.П. Лемцюгова. – Мiнск: Литература и Искусство, 2008. – 416 с.

4. Генкин, В.М. Лексикографирование периферийного топонимического материала / В.М. Генкин // Актуальные вопросы славянской ономастики: материалы III Междунар. науч. конф. «Славянская ономастика в ареальном, этимологическом и хронологическом аспектах», Гомель, 6–7 окт. 2006 г.; отв. ред. Р.М. Козлова. – Гомель: ГГУ им. Ф. Скорины, 2006. – С. 47–51.

5. Русская ономастика и ономастика России: словарь / под ред. О.Н. Трубачева. – М.: Школа-Пресс, 1994. – 480 с.


---


Першая публiкацыя ў зборнiку: *Слово и словарь = Vokabulum et vokabularium : сб. науч. тр. / ГрГУ им. Я. Купалы ; редкол.: Л.В. Рычкова (гл. ред.), Т. Ройтер, В.В. Дубичинский [и др.]. Гродно : ГрГУ, 2013. – с. 72–74.*

# ТАПАНІМІЧНАЕ МІКРАПОЛЕ ВЁСКІ ДЗЕРТНІЦА ГРОДЗЕНСКАГА РАЁНА

Кожны тапонім цесна звязаны не толькі з пазамоўнай рэчаіснасцю, але і з іншымі тапанімічнымі назвамі пэўнай тэрыторыі. Як слушна адзначае В. М. Генкін, «тапанімію любога рэгіёну варта разглядаць не як механічную сукупнасць, нейкі «набор» тапонімаў, а як складаную арганічную сістэму. Рэгіянальная тапанімія складаецца менавіта як сістэма ва ўсёй разнастайнасці ўнутрысістэмных адносін» [1, с. 47]. Гэтую цэласную сістэму можна кваліфікаваць як тапанімічнае поле.

Пад тапанімічным полем разумеем сукупнасць усіх тапанімічных адзінак пэўнага рэгіёну, якія характарызуюцца сістэмнымі сувязямі і адносінамі паміж сабой. Тапанімічнае поле складаецца з цэнтральнай (асноўнай) і перыферыйнай частак. Ядром цэнтральнай часткі выступае айконім, вакол якога разгрупаваны іншыя онімы (айконімы, аграонімы, гідронімы, гелонімы, аронімы і г. д.). Перыферыя – гэта крайняя частка поля, якая судакаранаецца, перасякаецца з перыферыяй іншага, суседняга тапанімічнага поля <…>. Развіццё і пашырэнне тапанімічнага поля пачынаецца ад яго ядра. Стваральнікамі навакольнай мікратапаніміі звычайна з’яўляюцца жыхары асноўнага паселішча. Многія мікратапонімы абавязаны сваім утварэннем імёнам, прозвішчам, мянушкам канкрэтных жыхароў вёскі *(Антонава Жыўніца, Ігнатаў Ез, Тамарына Дарога*) <…> .

Тэрытарыяльнае акрэсленне тапанімічнага поля ўмоўнае і адноснае. Гэта можа быць прастора толькі вакол аднаго населенага пункта, толькі аднаго селсавета, цэлага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага раёна і г. д. Яно, такім чынам, можа мець ускладненую структуру, уключаць у сябе некалькі ці нават дзясяткі тапанімічных сістэмных аб’яднанняў.

Ідэальным з пункту гледжання сістэмнасці, дыяхранічнай паслядоўнасці і цэласнасці з’яўляецца тапанімічнае мікраполе, якое развівалася толькі вакол аднаго ядзернага айконіма, мела радыяльнае пашырэнне на ўсім гістарычным шляху свайго развіцця, не звужалася і не дэфармавалася пад уздзеяннем суседніх мікрапалёў. Яно мае дастаткова акрэсленыя тэрытарыяльныя межы, абумоўленыя такімі вызначальнымі фактарамі яго гістарычнага развіцця, як прыродна-геаграфічныя асаблівасці краю, спецыфіка працоўнай, вытворчай дзейнасці, этнічная прыналежнасць, культурныя, рэлігійныя традыцыі насельніцтва.

У гэтым артыкуле аб’ектам увагі з’яўляецца тапанімічнае мікраполе вёскі Дзертніца Гродзенскага раёна. Гэтае мікраполе можна лічыць узорным, паколькі яно мае выразныя паказчыкі свайго вызначэння. Паселішча ўзнікла прыкладна 150 гадоў таму і развівалася за кошт уласных людскіх рэсурсаў (да нядаўняга часу амаль усе жыхары вёскі мелі прозвішча Кісялеўскі(-ая)). У мінулым асноўным заняткам вяскоўкаў было рыбацтва, паляванне, лесанарыхтоўка. Усе яны каталіцкага веравызнання, паводле нацыянальнай прыналежнасці ідэнтыфікуюць сябе палякамі. Тэрытарыяльная прастора мікраполя вельмі кампактная і акрэсленая – абмяжоўваецца воднымі аб’ектамі, знаходзіцца як бы на паўвостраве.

Тапанімічны матэрыял збіраўся ў 2006 годзе метадам апытання жыхароў вёскі Дзертніца. Асаблівая ўдзячнасць майму былому аднакласніку і сябру, нараджэнцу вёскі Дзертніца, падпалкоўніку медыцынскай службы Кісялеўскаму Чаславу Казіміравічу за тое, што ён аказаў значную дапамогу пры папаўненні, удакладненні і картаграфаванні сабранага матэрыялу.

Тапонімы ў артыкуле падаюцца блокамі: айконімы, гідронімы, мікратапонімы. Усе назвы пранумараваны ў парадку іх паслядоўнай падачы. Прыкладаецца карта тапанімічнага мікраполя вёскі Дзертніца, на якой даюцца нумары тапааб'ектаў, адпаведныя нумарам тапанімічных назваў. Лічба на карце ўказвае, як правіла, на цэнтральную частку тапааб'екта, крайнія межы яго не абазначаны.

*Айконімы*

1. **ДЗЕ́РТНІЦА** *ж.* Вёска.
2. **БЕ́ЛО** *н.* Вёска.
3. **ПАДБЕ́ЛО** *н.* Вёска.
4. **САЛАМЯ́НКА** *ж.* Вёска.
5. **САХА́РКА** *м.* Хутар (былы).
6. **ШАЎЛЮ́ГА** *м.* Хутар (былы).

*Гідронімы*

7. **АНТО́ЗЯРО** *н.* Возера.
8. **БЕ́ЛО** *н.* Возера.
9. **ГНІЛО́Ё** *н.* Возера.
10. **ЗА́ЦКАВО** *н.* Возера.
11. **ІГНАТА́Ў Е́З**. Прыбярэжны ўчастак возера Белае.
12. **КАМАРЭ́Ц** *м.* Возера.
13. **ПАДБЯРО́ЗКА** *ж.* Прыбярэжны ўчастак, бераг і букта возера Белае.
14. **ПАДПАЛО́НІШЧА** *н.* Прыбярэжны ўчастак, бераг і букта возера Белае.
15. **ПАДЧА́ПЛІ** *мн.* Бераг возера Белае.
16. **ПАДШАЎЛЮ́ГА** *н.* Прыбярэжны ўчастак возера Белае.
17. **ПРЫ́СТАНЬКА** *ж.* Прыбярэжны ўчастак і бераг возера Белае.
18. **САЛАМЯ́НКА** *ж.* Рэчка.
19. **ХАМУТО́ЎКА** *ж.* Рэчка.
20. **ЧО́РНО ВО́ЗЯРО**. Возера.
21. **ЯЗАВІ́ЦА** *ж.* Рэчка.

*Іншыя мікратапонімы*

22. **АБУХО́ЎСКА ПАЛЯ́НКА**. Лес.
23. **АСТРАВО́К** *м.* Урочышча.
24. **БАРСУКО́ВІНА** *ж.* Лес.
25. **ВЕ́ЛЬКО ПО́ЛЯ**. Поле.
26. **ГЛЫБО́КА ДАЛІ́НА**. Балоцістая нізіна.
27. **ГРА́ДКА** *ж.* Прадаўгаватае ўзвышша ў балоце.
28. **ГРУДО́К** *м.* Сенажаць.
29. **ДЗЕСЯНЦІ́НА** *ж.* Лес.
30. **ЖВЫ́Р** *м.* Поле.
31. **ЖО́ЎТА ГАРА́** Пагорак.
32. **ЖЫМА́ЙЛАВА ДАРО́ГА**. Дарога.
33. **ЗАДУ́Б'Е** *н.* Урочышча.
34. **КАБЫ́ЛЯ БАЛО́ТО**. Балота.
35. **КАБЫЛЯ́ЧЫНА** *ж.* Лес.

36. **КАПУ́СНІК** *м.* Сенажаць.
37. **КУ́ПА** *ж.* Сенажаць.
38. **ЛЯСНІЧО́ЎКА** *ж.* Дарога.
39. **НАВАРУ́ЦКА ДАРО́ГА**. Дарога да вёскі Новая Руда.
40. **ПАЖАРЫ́ШЧА** *н.* Лес.
41. **ПАЛЯВА́Я** *ж.* Вуліца ў вёсцы Дзертніца.
42. **ПАСА́ДКА** *ж.* Лес.
43. **ПЛА́ВЫ** *мн.* Сенажаць.
44. **ПРАТО́КА** *ж.* Рэчка.
45. **РАВО́К** *м.* Роў.
46. **САХА́РКАВА ДАРО́ГА**. Дарога да хутара Сахарка.
47. **СУСЕ́ДНІ** *м.* Частка вёскі Дзертніца.
48. **ХАМУТО́ЎСКА ДАРО́ГА**. Дарога да вёскі Хамуты.
49. **ЧО́РНЫ ДУ́Б**. Дуб каля хутара Сахарка.
50. **Ю́РКАЎКА** *ж.* Сенажаць.

*Літаратура*


1.Генкин, В.М. Лексикографирование периферийного топонимического материала / В.М. Генкин // Актуальные вопросы славянской ономастики: материалы III Междунар. науч. конф. «Славянская ономастика в ареальном, этимологическом и хронологиченском аспектах» (6–7 октября 2006 г., Гомель); отв. ред. Р.М. Козлова. – Гомель: ГГУ им. Ф. Скорины, 2006. – С. 47–51.


---


Першая публікацыя ў зб.: *Даніловіч, М.А. Тапанімічнае мікраполе вёскі Дзертніца Гродзенскага раёна / М.А. Даніловіч // Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні: зб. навук. арт. Вып. 3. – Мінск: Беларус. навука, 2014. – С. 126–129.*





Мапа 1. Тапанімічнае мікраполе вёскі Дзертніца Гродзенскага раёна

# Раздзел 4
# ЛІНГВІСТЫЧНАЕ КРАЯЗНАЎСТВА

## ФОРМЫ І НАПРАМКІ ЛІНГВІСТЫЧНАГА КРАЯЗНАЎСТВА

Беларускае краязнаўства мае даўнія традыцыі. У XIX ст. абудзілася незвычайная цікавасць да гісторыі, культуры, быту беларускага народа як з боку тутэйшых даследчыкаў, так і з боку інтэлігенцыі Расіі і Польшчы. Была разгорнута маштабная збіральніцкая дзейнасць, у выніку якой назапашаны шматлікі рэгіянальны матэрыял, апублікавана мноства фактаграфічных прац і навуковых апісанняў.

Асабліва плённа беларускае краязнаўства развівалася ў пачатку XX ст. пасля рэвалюцыі 1917 г., што абумоўлена нацыянальным уздымам, выкліканым утварэннем БССР. Яно было досыць арганізаваным і ўсяляк падтрымлівалася дзяржаўнымі структурамі. У лістападзе 1924 г. адбылася I Усебеларуская краязнаўчая канферэнцыя, у 1926 г. – I Усебеларускі краязнаўчы з’езд, у 1927 г. – II з’езд краязнаўцаў Беларусі, у 1929 г. – II Усебеларуская краязнаўчая канферэнцыя. Да пачатку 1930 г. у тагачаснай БССР (яна была тэрытарыяльна значна меншай за сучасную Беларусь, бо яе заходняя частка ўваходзіла ў склад Польшчы) налічваліся 333 краязнаўчыя арганізацыі, якія аб’ядноўвалі 10500 членаў [12, с. 24]. З 1925 г. выходзіў спецыяльны краязнаўчы часопіс «Наш край». Праводзілася інтэнсіўная праца ў розных галінах краязнаўства, у тым ліку і лінгвістычнага. Так, да пачатку 1927 г. у Цэнтральнае бюро краязнаўства БССР было даслана з розных мясцін 87230 картак з дыялектнымі словамі, 9632 фальклорныя запісы і інш.

Аднак у пачатку 30-х гадоў краязнаўчая справа была рэзка абмежавана. Тагачасныя прадстаўнікі дзяржаўнай камуністычнай наменклатуры ўбачылі, што масавае і ўсебаковае вывучэнне роднага краю тоіць у сабе сур’ёзную небяспеку афіцыйнай ідэалогіі, бо, насуперак ёй, раскрывае вочы на сапраўдную гісторыю, выхоўвае пашану да сваёй малой радзімы, пачуццё ўласнай і нацыянальнай годнасці.

У канцы студзеня 1930 г. адбылася III Усебеларуская краязнаўчая канферэнцыя, на якой была абвешчана пераарыентацыя краязнаўчага руху. У рашэннях канферэнцыі адзначалася: «Краязнаўчая праца толькі тады будзе карыснай, калі яна будзе дапамагаць сацыялістычнаму будаўніцтву найбольш поўна абслугоўваць патрабаванні нашага часу» [15, с. 3]. Заклікалася мабілізаваць краязнаўчыя арганізацыі вакол канкрэтных задач партыі: выкананне прамфінплана, разгортванне спаборніцтва і ўдарніцтва, рацыяналізацыя вытворчасці, абмен практыкай, вынаходніцтва політэхнізацыя школы і г. д.

Рабіліся актыўныя дзеянні па згортванні краязнаўчага руху. Так, з лістапада 1930 г. часопіс «Наш край» стаў выходзіць пад назвай «Савецкая краіна», а ў 1933 г. наогул перастаў выдавацца. Было распушчана Цэнтральнае бюро краязнаўства, кіраўніцтва краязнаўчай працай узяў на сябе Народны камісарыят асветы. Народны камісарыят асветы СССР выдаў дырэктыўнае пісьмо «Аб пастаноўцы і арганізацыі краязнаўчай працы» ад 25 красавіка 1938 г., у якім гаварылася, што няма ніякай неабходнасці ствараць спецыяльныя і асобныя краязнаўчыя арганізацыі, што усю краязнаўчую працу

дастаткова праводзіць пад навукова-метадычным кіраўніцтвам мясцовых краязнаўчых музеяў [11, с. 14].

Аматарскае краязнаўства «заглохла» цалкам, захавалася ў асноўным дзяржаўнае краязнаўства, але развівалася яно аднабакова. Заахвочвалася праца ваенна-патрыятычнага характару, прычым дазвалялася вывучаць нядаўнюю гісторыю: факты апошніх войнаў, рэвалюцый, партыйных з'ездаў, а таксама жыццё і дзейнасць партыйных і савецкіх работнікаў. Такія раздзелы краязнаўства, як гістарычнае, літаратурнае, фальклорнае, этнаграфічнае і пад., развіваліся нераўнамерна, у залежнасці ад таго, у якой ступені яны адпавядаюць афіцыйным палітычным установкам. Лінгвістычнае краязнаўства не прапагандавалася наогул: па сваёй сутнасці яно супярэчыла бальшавіцкім планам, паводле якіх беларускай і іншым нацыянальным мовам (акрамя рускай) было запланавана знікнуць. Нават сам тэрмін «лінгвістычнае краязнаўства» ў тагачасных даведніках адшукаць немагчыма.

Яшчэ горшыя ўмовы для свайго развіцця мела тады краязнаўства Гродзеншчыны і Брэстчыны. Афіцыйныя колы Польшчы, у складзе якой знаходзілася Заходняя Беларусь, не былі зацікаўлены ў разгортванні краязнаўчай працы. Актыўна праводзілася паланізацыя краю. У такіх умовах асноўныя сілы заходнебеларускай інтэлігенцыі былі задзейнічаны ў нацыянальна-вызваленчым руху.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны назіралася значнае ажыўленне краязнаўчай справы. Асаблівае месца адводзілася школьнаму краязнаўству. Выкарыстоўваліся разнастайныя формы і метады краязнаўчай працы ў школе, скіраваныя перш за ўсё на ваенна-патрыятычнае выхаванне вучняў.

Разгарнулася вывучэнне беларускіх гаворак. Інтэнсіўнае абследаванне іх праводзілася ў канцы 40-х і ў 50-я гады ў сувязі са стварэннем дыялекталагічнага атласа беларускай мовы. Збіраннем фактычнага матэрыялу для атласа былі ахоплены вучоныя, выкладчыкі ВНУ, студэнты, настаўнікі і інш. больш чым у 1200 населеных пунктах Беларусі. Развіццю лінгвістычнага краязнаўства спрыяла і тое, што ў 1952 г. быў адноўлены Інстытут мовазнаўства АН БССР, у межах якога створаны сектар дыялекталогіі. Ён стаў ініцыятарам і каардынатарам навуковай дыялекталагічнай працы ў Беларусі і яе рэгіёнах. Гэтую функцыю ён (цяпер Інстытут мовы і літаратуры) выконвае і сёння.

За апошняе паўстагоддзе лінгвістычнае краязнаўства Беларусі атрымала значныя набыткі. Сабрана шмат фактаў дыялектнай мовы. Складзены дзясяткі абласных і рэгіянальных слоўнікаў. Выдадзены дыялекталагічныя атласы, апублікаваны грунтоўныя манаграфічныя даследаванні гаворак. Аднак да гэтага часу лінгвістычнае краязнаўства не атрымала навуковага асэнсавання. Не вызначаны яго змест, задачы, методыка працы. У даведачнай літаратуры пра яго знаходзім нешматлікія сціплыя звесткі. Напрыклад, у энцыклапедыі «Беларуская мова» (Мн., 1994) спецыяльны артыкул пра лінгвістычнае краязнаўства адсутнічае, ёсць, праўда, артыкул «Краязнаўства і мова», дарэчы, напісаны не лінгвістам, а літаратуразнаўцам (Г.А. Каханоўскім) [4, с. 271–272].

Паспрабуем акрэсліць сваё бачанне лінгвістычнага краязнаўства як галіны ведаў пра краёвыя гаворкі.

*Лінгвістычнае краязнаўства* – раздзел агульнага краязнаўства, у задачу якога ўваходзіць вывучэнне на навуковай аснове моўных фактаў пэўнага рэгіёна (вёскі, сельсавета, раёна, вобласці і г.д.), як правіла, прадстаўнікамі гэтага рэгіёна.

Паводле форм правядзення лінгвістычнае краязнаўства падзяляецца на дзяржаўнае (навуковае), грамадскае (аматарскае) і школьнае.

*Дзяржаўнае* краязнаўства ажыццяўляецца спецыялістамі дзяржаўных устаноў: вучонымі навукова-даследчых інстытутаў, выкладчыкамі вышэйшых навучальных устаноў, супрацоўнікамі архіваў, бібліятэк, музеяў і інш. Вывучэнне гаворак у гэтым выпадку ажыццяўляецца на прафесійнай аснове, з’яўляецца працоўным абавязкам даследчыкаў.

*Грамадскае* краязнаўства знаходзіць сваё ўвасабленне ў дзейнасці мясцовага насельніцтва: краязнаўцаў-аматараў, членаў аматарскіх клубаў і аб’яднанняў, прадстаўнікоў народных музеяў і г. д. Краязнаўства для іх не з’яўляецца прафесійнай неабходнасцю, а выступае як захапленне, занятак па інтарэсах у вольны ад работы час.

Спецыфіка *школьнага* краязнаўства ў тым, што яно скіравана на вывучэнне роднай гаворкі сіламі вучняў і настаўнікаў. Мэта яго пераважна адукацыйна-выхаваўчая. Сабраны вучнямі моўны матэрыял выкарыстоўваецца на ўроках і ў пазакласнай працы па мове.

Вылучэнне трох форм лінгвістычнага краязнаўства ў пэўнай ступені ўмоўнае і адноснае, таму што ўсе яны маюць тыя самыя крыніцы пазнання і аб’екты вывучэння. Адзін і той жа дзеяч можа быць прадстаўніком розных форм краязнаўства. Напрыклад, прафесійная праца вядомага на Гродзеншчыне А.П. Цыхуна была звязана з асветай, школьніцтвам. Як настаўнік, ён актыўна праявіў сябе ў сферы школьнага лінгвістычнага краязнаўства. У Лашанскай школе Городзенскага раёна разам з вучнямі стварыў унікальны музей Я.Ф. Карскага, пра які ведалі далёка за межамі Беларусі. Як аматар-краязнавец, ён напісаў і выдаў, будучы на пенсіі, кнігу «Акадэмік з вёскі Лаша Я.Ф. Карскі» [25], падрыхтаваў ілюстраваны альбом, прысвечаны гэтаму вучонаму. Надзвычай каштоўная кніга А.П. Цыхуна – слоўнік гаворак Гродзенскага раёна «Скарбы народнай мовы» [26]. Матэрыялы да яго аўтар пачаў збіраць яшчэ ў 1939 годзе, але асноўная частка лексікі была запісана ў пасляваенны час. Створаны не вучоным, слоўнік належыць да лепшых узораў беларускай навуковай дыялектнай лексікаграфіі. Невыпадкова Ніл Гілевіч ахарактарызаваў гэтую працу як «навуковы і патрыятычны подзвіг настаўніка» [8].

Аднак паміж дзяржаўным, грамадскім і школьным краязнаўствам маюцца адрозненні ў змесце, методыцы і задачах даследавання. Дзяржаўнае (навуковае) краязнаўства цікавіць сам аб’ект даследавання, вывучэнне якога развівае пэўную галіну ведаў. Аматарскае і школьнае краязнаўства засяроджаны ў першую чаргу на пазнавальных, культурна-асветніцкіх і навучальна-выхаваўчых мэтах.

Усе тры формы лінгвістычнага краязнаўства аб’ядноўвае тое, што ім уласцівы адны і тыя ж напрамкі дзейнасці, якія вызначаюцца прадметам вывучэння. Адзначым найбольш пашыраныя з іх на прыкладзе дзяржаўнага лінгвістычнага краязнаўства Гродзеншчыны.

1. Збіранне і слоўнікавае апісанне дыялектнай лексікі і фразеалогіі. Вельмі плённа ў гэтым кірунку працавала дацэнт кафедры беларускай мовы Гродзенскага дзяржаўнага педінстытута Т.Ф. Сцяшковіч. У 50–70-х гадах XX ст. яна і асабіста, і разам са студэнтамі рэгулярна наладжвала дыялекталагічныя экспедыцыі з мэтай вывучэння мясцовых гаворак. На аснове сабранага матэрыялу ёю складзены шэраг слоўнікаў і зборнікаў: «Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці» [21], «Слоўнік

Гродзенскай вобласці» [23], «Прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы, выслоўі народных гаворак Гродзенскай вобласці» [22] і інш.

2. Тэарэтычнае вывучэнне лексікі і фразеалогіі. Пачынальнікам сістэмнага даследавання лексікі Гродзеншчыны з'яўляецца П.У. Сцяцко. У яго кнігах «Народная лексіка» [18], «Народная лексіка і словаўтварэнне» [19] даецца рознабаковая характарыстыка лексічных адзінак, сабраных непасрэдна аўтарам на тэрыторыі Зэльвеншчыны. Далейшае вывучэнне лексікі Гродзеншчыны з боку яе прадметна-тэматычнай дыферэнцыяцыі знайшло адлюстраванне ў працах Г.М. Аляксейчык (назвы зямельных участкаў) [2], С.Г. Ляскевіч (назвы адзення) [14], Ж.М. Буглак (назвы стравы і пітва) [5], А.І. Кавальчук (назвы асобы) [13]. Тэарэтычнае асэнсаванне фразеалогіі Гродзеншчыны знаходзім у публікацыях аўтара гэтага артыкула, напрыклад [9].

3. Збіранне, слоўнікавае і тэарэтычнае апісанне анамастычных назваў, у першую чаргу тапонімаў і антрапонімаў. У 2005 г. апублікаваны «Анамастычны слоўнік Гродзеншчыны: Мікратапонімы» [3]. Слоўнік змяшчае каля 10,5 тысяч мікратапонімаў, сабраных студэнтамі і выкладчыкамі кафедры беларускай мовы і кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства ГрДУ.

4. Вывучэнне фанетычных і граматычных асаблівасцей гаворак. У якасці прыкладаў можна прывесці назвы прац, прысвечаных даследаванню гаворак асобных раёнаў: «Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці Беларускай ССР» Т.Ф. Сцяшковіч [20], «Фанетычныя асаблівасці гаворак Навагрудчыны» І.Р. Бурлыкі [7], «Паўночна-мастоўскія гаворкі» А.Р. Хромчанкі [24].

5. Вывучэнне біяграфіі і дзейнасці лінгвістаў, якія нарадзіліся і жылі, працавалі ці працуюць у пэўным рэгіёне. Гэта могуць быць даследчыкі, якія вывучалі розныя аспекты як літаратурнай, так і дыялектнай мовы ці займаліся збіраннем і сістэматызацыяй мясцовага дыялектнага матэрыялу. Гродзеншчына ведае шэраг такіх асоб, напрыклад: С. Рысінскі, Я.Ф. Карскі, М. Федароўскі, Т.Ф. Сцяшковіч, А.П. Цыхун, І.Я. Лепешаў, П.У. Сцяцко, Г.А. Цыхун і інш. Пра гэтых даследчыкаў апублікаваны шматлікія артыкулы і нават кнігі, напісаныя як аматарамі, так і навукоўцамі, напрыклад [16], [17], [6], [25].

У сферу краязнаўства могуць уваходзіць і такія пытанні, як вывучэнне моўных фактаў у гістарычным аспекце, этымалагічны аналіз слоў і фразеалагізмаў, лексічныя і фразеалагічныя запазычанні, міжмоўныя кантакты, сацыялінгвістычная характарыстыка гаворак і інш.

У школьным лінгвістычным краязнаўстве вылучаюцца прыкладна тыя самыя напрамкі. Можна канкрэтызаваць найбольш прыдатныя для школьнай практыкі аб'екты ўвагі вучняў: лексіка і фразеалогія, этымалагічны аналіз слоў і фразеалагізмаў, тэрміналогія асобных промыслаў, анамастыка, фанетычныя і граматычныя асаблівасці гаворак, абласныя слоўнікі свайго рэгіёну, мова фальклору, мова пісьменнікаў, біяграфічна звязаных з мясцовым краем, даследчыкі роднай мовы.

Для лінгвакраязнаўчай дзейнасці ў школе адкрытымі з'яўляюцца ўсе формы навучання: урок, факультатыўныя заняткі, пазакласная праца. Неабмежаваныя магчымасці мае пазакласная праца ва ўсіх яе відах: 1) масавых (бюлетэнь, рукапісны часопіс, насценная газета, куток беларускай мовы, вусны часопіс, вечар, дыспут, канферэнцыя, конкурс, віктарына, алімпіяда, турнір, свята (Дзень, Тыдзень беларускай мовы), сустрэча з цікавым людзьмі); 2) групавых (гурток, экспедыцыя, экскурсія); 3) аб'яднальных

(клубы, таварыствы, школьныя музеі); 4) індывідуальных (персанальныя даручэнні вучням сабраць дыялектныя назвы, зрабіць наглядны дапаможнік, падрыхтаваць даклад, паведамленне і інш.).

Цэнтрам дыялекталагічнай працы ў школе можа стаць краязнаўчы гурток. У планаванні заняткаў гуртка вызначальнае месца павіна заняць збіральніцкая дзейнасць вучняў, скіраваная на выяўленне дыялектных слоў, фразеалагізмаў, прыказак, уласных імёнаў і інш. У наш час асаблівай увагі да сябе патрабуюць мікратапанімічныя назвы. Сёння адбываецца разбурэнне традыцыйнай беларускай вёскі, і разам з гэтым знікае багаты пласт мікратапанімічнай лексікі, што назапашваўся цягам стагоддзяў, якая ўтрымлівае багатую інфармацыю з мінулых эпох, знаёміць з культурай, бытам, гаспадарчай дзейнасцю нашых продкаў. Пачэсны абавязак настаўніка роднай мовы і літаратуры – занатаваць гэтую лексіку ў сваім рэгіёне, каб яна не страцілася, а захавалася хаця б у пісьмовым выглядзе для будучых пакаленняў. Калі ў гэтай справе прымуць удзел і вучні, то карысць ад яе непараўнальна ўзрасце.

У вучняў павялічваецца цікавасць да збіральніцкай справы, калі яны бачаць яе рэальную карысць. Сабраны матэрыял можна выкарыстаць на ўроку і, часцей, у розных пазакласных мерапрыемствах. На паседжаннях гуртка ці на канферэнцыях гэта невялікія паведамленні пра групы слоў, фразеалагізмаў, аб'яднаных адной тэмай, напрыклад: «Дыялектныя назвы ў гаворцы нашай вёскі», «Народныя назвы грыбоў і ягад», «Народныя назвы птушак», «Назвы посуду», «Фразеалагічнае багацце нашай гаворкі». Падборкі слоў і фразеалагізмаў варта змяшчаць у школьным перыядычным друку (насценнай газеце, рукапісным часопісе, альманаху), абавязкова ўказваючы прозвішчы вучняў-збіральнікаў. Гісторыя геаграфічных назваў можа быць раскрыта ў творчых працах: сачыненнях і пераказах, прысвечаных роднаму краю. Калі збіральніцкая праца праводзілася з году ў год і сабрана багатая картатэка, можна скласці дыялектны слоўнік гаворкі сваёй вёскі ці ўсяго сельсавета, рэгіянальны мікратапанімічны атлас. Паказальная ў гэтым плане праца настаўніка Альпенскай няпоўнай сярэдняй школы Столінскага раёна Івана Ляшкевіча. Пад яго кіраўніцтвам вучні 7–9 класаў сабралі картатэку мясцовых слоў і на яе аснове склалі «Альпенскі дыялектны слоўнік» [1], выдадзены ў 2004 годзе. Калектыў энтузіястаў школьнага гуртка можа трымаць сувязь з кафедрай беларускай мовы універсітэта ці інстытутам мовы і літаратуры і стаць свайго роду дыялекталагічным карэспандэнцкім пунктам гэтых устаноў.

Дыялекталагічная праца ў школе мае сэнс толькі ў тым выпадку, калі настаўнік добра падрыхтваны да яе правядзення. Тэарэтычнай асновай такой працы можна лічыць курс «Беларуская дыялекталогія», практычнай – дыялекталагічную практыку на філалагічных факультэтах універсітэтаў. Значнай дапамогай у падрыхтоўцы будучых настаўнікаў да лінгвакраязнаўства стала б выкладанне ў абласных універсітэтах спецыяльных курсаў, арыентаваных на рэгіянальныя асаблівасці гаворак, тыпу «Лінгвістычнае краязнаўства Брэстчыны (Гомельшчыны, Віцебшчыны)». У Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы такі спецкурс («Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны») праводзіцца ўжо некалькі гадоў. Намі складзена і апублікавана адпаведная праграма спецкурса [10], падрыхтаваны да друку навучальны дапаможнік. Падобныя аўтарскія спецкурсы практыкуюцца і ў іншых універсітэтах, напрыклад, Брэсцкім, Мазырскім. Думаецца, што напрацоўкі выкладчыкаў розных навучальных устаноў заслугоўваюць абагульнення і каардынацыі. Можна было б стварыць

калектыўны дапаможнік, у якім на навуковай аснове асвятляліся б агульныя пытанні лінгвістычнага краязнаўства і які быў бы дастасоўны да педагагічнай падрыхтоўкі студэнтаў усіх рэгіёнаў Беларусі.

*Літаратура*


1. Альпенскі дыялектны слоўнік. – Альпень–Бярэсце, 2004.
2. Алексейчик, Г.М. Наименования земельных участков в говорах Новогрудчины: автореф. дис. ... канд. филол. наук: 10.02.01 / Г.М. Алексейчик; Бел. гос. ун-т им. В.И.Ленина. – Минск, 1986. – 22 с.
3. Анамастычны слоўнік Гродзеншчыны : мікратапонімы. – Гродна : ГрДУ, 2005. – 347 с.
4. Беларуская мова: энцыклапедыя. – Мінск : БелЭн, 1994. – 655 с.
5. Буглак, Ж.М. Найменні стравы і пітва ў гаворках Гродзеншчыны: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Ж.М. Буглак; Гомельскі дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны. – Гомель, 2003. – 20 с.
6. Булахов, М.Г. Ефимий Федорович Карский : жизнь, научная и общественная деятельность / М.Г. Булахов. – Минск : Изд-во БГУ, 1981. – 271 с.
7. Бурлыко, И.Г. Фонетические особенности говоров Новогрудчины: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02 /И.Г. Бурлыко; Ин-т языкознания им. Я.Коласа АН БССР. – Минск, 1987. – 22 с.
8. Гілевіч, Н. Навуковы і патрыятычны подзвіг настаўніка / Н.Гілевіч // Настаўніцкая газета. – 1996. – 13 лістап.
9. Даніловіч, М.А. Беларуская дыялектная фразеалогія і яе лексічная аснова / М.А.Даніловіч. – Гродна : ГрДУ, 2003. – 272 с.
10. Даніловіч, М.А. Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Праграмы спецкурсаў для студэнтаў спецыяльнасці «Беларуская філалогія». – Гродна : ГрДУ, 2007. – С. 22–30.
11. Историческое краеведение: учеб. пособ. для студентов ист. факультетов пед. ин-тов. – М., 1975.
12. Историческое краеведение Белоруссии / под. ред. Э.М. Загорульского. – Минск : Изд-во БГУ, 1980. – 264 с.
13. Кавальчук, А.І. Асабовыя найменні ў гаворках Гродзеншчыны / А.І. Кавальчук. – Гродна : ГрДУ, 2006. 142 с.
14. Ляскевіч, С.Г. Найменні адзення ў гаворках Гродзеншчыны / С.Г. Ляскевіч. – Гродна : ГрДУ, 2007. – 126 с.
15. Наш край. – 1930. – № 3.
16. Порецкий, Я.И. Соломон Рысинский / Я.И. Порецкий. – Минск : Изд-во БГУ, 1983. – 158 с.
17. Саламевіч, Я. Міхал Федароўскі / Я. Саламевіч. – Мінск : Вышэйш. школа, 1972. – 384 с.
18. Сцяцко, П.У. Народная лексіка / П.У. Сцяцко. – Мінск : Навука і тэхніка, 1970. – 176 с.
19. Сцяцко, П.У. Народная лексіка і словаўтварэнне / П.У. Сцяцко. – Мінск : Навука і тэхніка, 1972. – 240 с.
20. Сцяшковіч, Т.Ф. Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці Беларускай ССР / Т.Ф. Сцяшковіч; Гродзенскі педагагічны інстытут. – Гродна, 1959. – 130 с.
21. Сцяшковіч, Т. Ф. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці / Т.Ф. Сцяшковіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1972.– 620 с.
22. Сцяшковіч, Т.Ф. Прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы, выслоўі народных гаворак Гродзенскай вобласці / Т.Ф. Сцяшковіч; Гродзенскі дзяржаўны педінстытут імя Янкі Купалы. – Гродна, 1968. – 75 с.
23. Сцяшковіч, Т.Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці / Т.Ф. Сцяшковіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1983. – 671 с.

24. Хромчанка, А.Р. Паўночнамастоўскія гаворкі: арэальная, генетычная і тыпалагічная характарыстыка / А.Р. Хромчанка. – Мінск : БДУ, 2004. – 147 с.
25. Цыхун, А.П. Акадэмік з вёскі Лаша Я.Ф. Карскі: краязнаўча-бібліяграфічны нарыс / А.П. Цыхун; Гродзенскае абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры. – Гродна, 1992. – 104 с.
26. Цыхун, А.П. Скарбы народнай мовы / А.П. Цыхун. – Гродна, 1993. – 243 с.

Першая публікацыя ў зборніку: *Краязнаўства як адзін з накірункаў вучэбна-выхаваўчай работы ў школе і ВНУ: матэрыялы рэсп. навук. канф. – Брэст: Альтернатива, 2008. – С. 29–37.*

## ПЕРСПЕКТЫВЫ ДЫЯЛЕКТАЛАГІЧНАЙ ПРАЦЫ Ў ШКОЛЕ

У пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ставілася і шырока абмяркоўвалася пытанне пра выкладанне беларускай дыялекталогіі ў сярэдняй школе. На гэты конт са сваімі меркаваннямі і аргументамі ў друку выступалі навукоўцы, метадысты, настаўнікі. У 1991 г. Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук разам з Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь правялі Рэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю «Дыялекталогія і культура беларускай мовы», дзе згаданае пытанне значылася ў ліку асноўных. Выказваліся прапановы аб увядзенні ў школах асобнага курса па вывучэнні дыялектнай мовы, аб стварэнні новых школьных праграмаў і дапаможнікаў з папраўкамі на дыялекталогію.

Прайшоў добры дзясятак гадоў, і стала відавочна, што вартая ажыццяўлення ідэя засталася нерэалізаванай. Праграмы, падручнікі, дапаможнікі, як і раней, амаль не прадугледжваюць дыялекталагічную працу ў школе.

Можна гаварыць аб прычынах такога становішча, але гэта ніякім чынам не паўплывае на вырашэнне закранутага пытання і не зменшыць яго актуальнасць. Больш карысна весці гаворку пра неабходнасць і магчымасці дыялекталагічнай працы ў сучасных умовах выкладання беларускай мовы.

Яшчэ і цяпер сустракаецца памылковае разуменне народных гаворак: быццам гэта скажоная, сапсаваная, другога гатунку мова; той, хто гаворыць на ёй, выяўляе адзнакі адсталасці, невысокага інтэлектуальнага ўзроўню; каб стаць культурным і адукаваным, трэба пазбаўляцца дыялектызмаў у сваім маўленні. Напрыклад, у дапаможніку для студэнтаў-філолагаў Беларусі чытаем як безапеляцыйнае: «Чтобы привить учащимся русских сельских школ навыки литературного произношения, литературной нормы, необходимо освободить их речь от диалектных особенностей» [1].

Трэба выхоўваць паважлівыя адносіны да гаворак, якія ствараліся народам на працягу многіх стагоддзяў. Як заўважае вядомы беларускі дыялектолаг І. Яшкін, «яны наша нацыянальнае багацце, якое нельга знішчаць, як і помнікі культуры» [2]. «Здзеклівыя кпіны з «няправільнай» мовы звычайна адсутнічаюць там, дзе людзі ведаюць некалькі дыялектаў, некалькі моваў. Кожны пры гэтым добра адчувае «сваю» і іншыя моўныя сістэмы» [3].

Дзякуючы гаворкам, узнікла сучасная літаратурная мова. Яна склалася як адзін з варыянтаў дыялектных разнавіднасцяў адносна нядаўна. Развіваючыся ўжо па сваіх законах, літаратурная мова не паспела істотна аддаліцца ад дыялектнай. Паміж імі працягваецца цеснае ўзаемадзеянне. Многія дыялектызмы і цяпер актыўна пранікаюць у літаратурны ўжытак, папаўняючы лексічна-фразеалагічныя рэсурсы, удакладняючы кадыфікаваную норму.

Каб мець сістэмнае ўяўленне пра мову, недастаткова засвоіць толькі яе літаратурную разнавіднасць. На гэта звярнуў увагу яшчэ ў першай палове XIX ст. французскі вучоны і пісьменнік Шарль Надзье, яму належыць фраза, якая стала крылатай: «Хто не вывучаў уважліва гаворак сваёй мовы, той ведае яе толькі напалову».

У многіх краінах з разуменнем і ўвагай ставяцца да сваёй дыялектнай мовы. Напрыклад, у Германіі і Японіі яе берагуць і вывучаюць у школе ў якасці асобнага прадмета.

Вывучэнне дыялектнай мовы не перашкаджае, а наадварот, дапамагае лепш засвоіць літаратурную мову. Звяртаючы ўвагу на фанетычныя, граматычныя і слоўнікавыя адметнасці мясцовай гаворкі, вучні ўсвядомлена супрацьпастаўляюць іх літаратурным адпаведнікам, што садзейнічае паглыбленаму разуменню літаратурнай нормы, павышэнню культуры маўлення, выпрацоўцы трывалых арфаграфічных навыкаў.

Пры вывучэнні асноў дыялекталогіі вучні маюць магчымасць атрымаць не аднабаковае, а цэласнае ўяўленне пра нацыянальную мову як сістэму і грамадскую з'яву. Яны даведваюцца, што тэрытарыяльны дыялект – гэта не штучнае ўтварэнне. Ён мае даўнюю гісторыю, развіваецца па ўласных законах, займае адпаведнае месца ў сістэме моў і дыялектаў свету.

Мэтанакіраваная дыялекталагічная праца – зручны сродак міжпрадметных сувязяў, таму што моўныя адзінкі, пераважна намінацыйныя, адлюстроўваюць пазамоўныя факты, звязаныя з фальклорам, гісторыяй (назвы гістарычных падзеяў, старых рэаліяў), геграфіяй (тапанімія), біялогіяй (назвы раслін і жывёл) і інш.

Збіранне і аналіз вучнямі пад умелым кіраўніцтвам настаўніка рэгіянальнага моўнага і фальклорнага матэрыялу мае вялікае выхаваўчае значэнне. Захапляючыся гаваркімі словамі, трапнымі фразеалагізмамі і прыказкамі, арыгінальнымі творамі фальклору, запісанымі ў сваёй вёсцы, вучні пранікаюцца пашанай да гаворкі, да стваральнікаў і носьбітаў моўна-выяўленчага багацця – бацькоў, дзядоў, прадзедаў. Этымалагічная расшыфроўка мікратапонімаў дае цікавыя звесткі пра гісторыю, былых жыхароў вёскі. Усё гэта абуджае патрыятычныя пачуцці, выхоўвае павагу да роднай мовы, малой і вялікай Радзімы.

Добра арганізаваная праца па збіранні мясцовых слоў і выразаў у пазаўрочны час мае пэўную навуковую каштоўнасць. Кваліфікавана зробленыя запісы можна перадаць на кафедру беларускай мовы абласнога ўніверсітэта ці ў Інстытут мовазнаўства НАН Беларусі для папаўнення дыялекталагічнай картатэкі. Настаўнік-энтузіяст і вучні могуць самі скласці дыялектны слоўнік мясцовай гаворкі, а пры магчымасці апублікаваць яго. Практыка паказвае, што ўсведамленне сябе ў ролі вучонага стымулюе пазнавальную дзейнасць вучня, актывізуе яго творчыя магчымасці.

Разнастайнасць форм дыялекталагічнай працы дае шмат чаго іншага карыснага ў навучанні і выхаванні дзяцей. Чаго варты, напрыклад, паходы, вандроўкі, экспедыцыі краязнаўча-дыялекталагічнага характару. Сустрэчы з новымі мясцінамі, цікавымі людзьмі, пражыванне ў палявых умовах, пачуццё радасці ад удалых знаходак – гэта запамінаецца назаўсёды. А выпрацоўка такіх якасцяў, як уменне слухаць суразмоўцу, самому падтрымліваць і весці гутарку. Гэтыя якасці спатрэбяцца ў жыцці кожнаму.

Можна прыводзіць яшчэ аргументы на карысць дыялекталагічнай працы, але паколькі яна спецыяльна не прадугледжваецца школьнай праграмай, то магчымая

толькі ў тым выпадку, калі настаўнік пажадае яе праводзіць. Гэта ўскладвае на яго дадатковыя абавязкі, затое адкрывае шырокія перспектывы далучэння вучняў да роднага слова і культуры. Такая дзейнасць вымагае творчага, індывідуальнага падыходу з арыентацыяй на дыялектныя асаблівасці рэгіёну. Большыя магчымасці для яе ў сельскай мясцовасці, у вёсцы, дзе захавалася традыцыйная гаворка. Аднак ў гарадах і мястэчках пры адпаведнай увазе яна таксама дасць добры плён.

Узнікае пытанне, як і калі праводзіць дыялекталагічную працу. Гэтая праблема заслугоўвае асобнага даследавання з выхадам на прыватныя метадычныя распрацоўкі. Пакуль што важна намеціць падступы, акрэсліць арыенціры, вызначыць спосабы і прыёмы вывучэння дыялектных з'яў у адпаведнасці з школьнымі магчымасцямі выкладання беларускай мовы і іншых прадметаў.

Асноўнымі формамі навучання ў школе выступаюць урок, факультатыў, пазакласная праца. Усе яны адкрытыя для дыялекталогіі.

На у р о к у настаўнік, хоча ён таго ці не, часта вымушаны звяртаць увагу на дыялектныя факты, бо яны прысутнічаюць у вуснай і пісьмовай мове вучняў. Напрыклад, тыповымі дыялектызмамі ў маўленні школьнікаў з'яўляюцца *вы ідзе′ця, зе′ля, дай нажа′, злапа′ць* ‘злавіць’ на захадзе, *вісна′, ён ідзе′ць, ві′дзець* на ўсходзе, *зялянава′ты, ён хо′дзя, яны′ ка′жаць* у цэнтральнай частцы Беларусі. Настаўніку даводзіцца падкрэсліваць і паказваць, што нарматыўныя іншыя формы, якіх трэба трымацца, калі карыстаешся літаратурнай мовай. Параўнанне дыялектных і літаратурных адпаведнікаў не будзе выпадковым, стыхійным, калі настаўнік сплануе элементы дыялекталагічнай працы на ўроках фанетыкі, марфалогіі, сінтаксісу, лексікі, распрацуе сістэму практыкаванняў і заданняў. Важна пры гэтым адчуваць мяжу і меру ў падачы дыялектнага матэрыялу, выкарыстоўваць яго так, каб не ўскладняць працэс навучання, а наадварот, спрыяць засваенню праграмнай тэмы.

Ф а к у л ь т а т ы ў н ы я заняткі даюць больш глыбокія і сістэмныя веды, зыходзячы з навуковага курса дыялекталогіі. Беларуская дыялекталагічная навука дасягнула вялікіх поспехаў. Напісаны грунтоўныя манаграфіі, складзены дзясяткі абласных слоўнікаў, выдадзены такія фундаментальныя працы, як «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы», «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак» у 5 тамах, створаны добрыя дапаможнікі для студэнтаў.

Навуковая база для факультатыва цудоўная, але малавата спецыяльных дапаможнікаў і папулярных кніг для школьнікаў. Беларускія вучоныя ў гэтым плане пакуль што ў даўгу перад настаўнікамі і вучнямі. Трэба скласці праграму факультатыва і забяспечыць яе неабходнай навучальна-метадычнай літаратурай. У свой час П.А. Міхайлаў апублікаваў у «Родным слове» серыю артыкулаў па дыялекталогіі, адрасаваную настаўнікам. На наш погляд, яны маглі б стаць добрай асновай пры напісанні дапаможніка «Беларуская дыялектная мова» для вучняў.

П а з а к л а с н а я п р а ц а мае неабмежаваныя магчымасці, у практыцы перадавых школ яна разглядаецца як «магутны дадатковы сродак фармавання ў школьнікаў цікавасці да прадмета, як сродак пашырэння і паглыблення ведаў, атрыманых дзецьмі на ўроку» [4]. Існуюць розныя формы пазакласнай працы: 1) масавыя (бюлетэнь, рукапісны часопіс, насценная газета, куток беларускай мовы, вусны часопіс, вечар, дыспут, канферэнцыя, конкурс, віктарына, алімпіяда, турнір, свята (Дзень, Тыдзень беларускай мовы), сустрэча з цікавым людзьмі); 2) групавыя (гурток, экспедыцыя, экскурсія); 3)

аб’яднальныя (клубы, таварыствы, школьныя музеі); 4) індывідуальныя (персанальныя даручэнні вучням сабраць дыялектныя назвы, зрабіць наглядны дапаможнік, падрыхтаваць даклад, паведамленне і інш.).

Дыялектны матэрыял можна разглядаць ва ўсіх формах пазакласнай працы, але найбольш удала ён дастасоўваецца да такіх, як гурткі, экспедыцыі (экскурсіі), рукапісныя выданні, вечары, клубы.

Аб’ектамі лінгвістычнага краязнаўства выступаюць лексіка і фразеалогія, тэрміналогія асобных промыслаў, анамастыка, фанетычныя і граматычныя асаблівасці гаворкі, абласныя слоўнікі свайго рэгіёну, мова фальклору, мова пісьменнікаў, біяграфічна звязаных з мясцовым краем, этымалагічныя звесткі пра паходжанне слоў і фразеалагізмаў і інш.

Мясцовая гаворка не адасоблена ад з’яў рэчаіснасці, Наадварот, яна паўстае свайго роду акумулятарам, каталогам усіх пазамоўных рэаліяў, слова заўсёды нешта абазначае. Таму дыялекталагічная праца часта дае лепшы плён, калі праводзіцца супольна з іншымі відамі краязнаўства. Лексіка пазнаецца больш наглядна ў гістарычна-, краязнаўча-, фальклорна-дыялекталагічных, мікратапонімы – у геаграфічна-дыялекталагічных экспедыцыях, назвы мясцовай флоры і фаўны – у паходах разам з настаўнікам біялогіі. Школьны часопіс ці альманах з прыкладнай назвай «Родны край» можа змяшчаць лінгвакраязнаўчы матэрыял толькі асобным раздзелам; у дзейнасці гуртка, клуба, таварыства дыялекталагічныя заняткі могуць займаць толькі частку ўсёй запланаванай працы. Зразумела, што пры такой арганізацыі краязнаўства патрабуецца цеснае супрацоўніцтва настаўнікаў розных прадметаў.

Дыялекталагічная праца ў школе мае сэнс толькі ў тым выпадку, калі настаўнік добра падрыхтваны да яе правядзення. Тэарэтычнай асновай такой працы можна лічыць курс «Беларуская дыялекталогія», практычнай – дыялекталагічную практыку на філалагічных факультэтах універсітэтаў. Значнай дапамогай у падрыхтоўцы будучых настаўнікаў да лінгвакраязнаўства стала б выкладанне ў абласных універсітэтах спецыяльных курсаў, арыентаваных на рэгіянальныя асаблівасці гаворак, тыпу «Лінгвістычнае краязнаўства Брэстчыны (Гомельшчыны, Віцебшчыны)». У Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы такі спецкурс («Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны») праводзіцца ўжо некалькі гадоў. Дыялекталагічная падрыхтоўка ў ВНУ і дыялекталагічная праца ў школе пашырае ў значнай ступені магчымасці розных формаў навучання роднай мове.

### *Літаратура*


1. Манаенкова, А.Ф. Русская диалектология А.Ф. Манаенкова. – Минск, 1992. – С. 9.
2. Яшкін, І. Дыялекталогія – школьны прадмет І. Яшкін // Роднае слова. – 1992. – № 2. – С. 12.
3. Яшкін, І. Мова дыялектная – мова родная! І. Яшкін // Роднае слова. – 1992. – № 3. – С. 5.
4. Ушаков, Н.Н., Суворова Г.И. Внеурочная работа по русскому языку Н.Н. Ушаков, Г.И. Суворова. – М., 1985. – С. 3.


---


Першая публікацыя ў часопісе: *Роднае слова. – 2005. – № 7. – С. 91–93.*

# МЕТОДЫКА ЗБІРАННЯ ДЫЯЛЕКТНАГА МАТЭРЫЯЛУ Ў ПАЗАКЛАСНАЙ ПРАЦЫ ПА МОВЕ

Лінгвакраязнаўчая праца ў школе часцей за ўсё зводзіцца да збірання вучнямі дыялектнага матэрыялу. Каб яна стала цікавай і плённай, настаўнік павінен ведаць методыку яе правядзення, а вучні атрымаць неабходныя навыкі запісу жывой гаворкі.

Збіральніцкая дзейнасць бывае двух відаў – індывідуальная і калектыўная. Першая вымагае самастойнасці і добрай падрыхтаванасці, таму ёй мусіць папярэднічаць навучальная калектыўная дзейнасць пад кіраўніцтвам настаўніка.

Вядомы два спосабы вывучэння гаворкі – стацыянарны і выязны. Стацыянарны мае на мэце абследаванне гаворкі па месцы жыхарства. Выязная экспедыцыя наладжваецца ў іншыя населеныя пункты.

Пачынаць збіральніцкую працу варта ў стацыянарных умовах. Родная гаворка мае неабмежаваныя магчымасці і для трэніровачных заняткаў па методыцы і тэхніцы запісвання вуснага маўлення, і для збірання якаснага лінгвістычнага матэрыялу.

Перш чым весці вучняў да інфарманта на сустрэчу з мэтай занатаваць ад яго які-небудзь слоўнікавы матэрыял, настаўнік праводзіць вялікую падрыхтоўчую працу. У пазаўрочны час (лепш на занятках гуртка) можна расказаць пра самаадданую дзейнасць вядомых збіральнікаў лексікі, фразеалогіі і фальклору, напрыклад, Саламона Рысінскага, Міхала Федароўскага, Івана Насовіча, Таццяны Сцяшковіч, пра іх выдатную ролю ў развіцці беларускай слоўнікавай культуры. Калі ў школе лінгвістычнае краязнаўства стала ўжо традыцыяй, перад гурткоўцамі могуць выступіць старшакласнікі, падзяліцца сваім збіральніцкім досведам, расказаць пра цікавыя знаходкі – словы, выразы, фальклорныя творы, запісаныя імі ў ранейшыя гады, пра незвычайныя здарэнні ў дыялекталагічных экспедыцыях. Падобныя заняткі аказваюць эмацыянальнае, заахвочвальнае ўздзеянне, выклікаюць у вучняў жаданне ўключыцца ў збіральніцкую працу.

Неабходна вызначыць мэту дыялекталагічных пошукаў, патлумачыць, што трэба збіраць і якое гэта мае значэнне для навучання і для навукі. Вынікі збіральніцкай дзейнасці, калі да яе адносіцца з усёй адказнасцю, з’яўляюцца хоць і невялікім, але несумненным укладам у агульную справу па адшукванні і сістэматызацыі сродкаў дыялектнай мовы.

На падрыхтоўчых занятках шмат увагі ўдзяляецца спосабам і тэхніцы фіксацыі дыялектных фактаў. Вучні асвойваюць навыкі карыстання магнітафонам, дыктафонам, фотаапаратам. Вельмі важна навучыць правілам ручнога запісу тэкстаў, бо без гэтага дыялектолагу абысціся немагчыма.

Патрабуецца дакладнае адлюстраванне пачутага. Збіральнік павінен зрабіць графічны адбітак, свайго роду пісьмовы «фотаздымак» вуснага маўлення, нічога не змяняючы і не дадаючы ад сябе. Навуковая лінгвістыка выкарыстоўвае для гэтага фанетычную транскрыпцыю з адметнай сістэмай літар і значкоў. Прапаноўваць яе вучням немэтазгодна, бо яна для іх складаная як з боку структуры, так і ў плане непасрэднага прымянення. Вучні з поспехам карыстаюцца спрошчанай транскрыпцыяй, заснаванай на графіцы сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Асноўнае правіла запісвання такой транскрыпцыяй – як чуецца, так і пішацца, г. зн. ігнараванне марфалагічнага прынцыпу арфаграфіі. Так, калі ў слове *хлеб* чуецца гук [п], то і на пісьме яно перадаецца з літарай п: *хлеп.* Яшчэ некаторыя прыклады: *аттуль, на рэццы, барадзьба, пад’яжджаць.*

Асноўныя правілы спрошчанага варыянта транскрыпцыі наступныя:

1. Захоўваецца напісанне вялікай літары.

2. Усе словы, самастойныя і службовыя, пішуцца асобна: *на зямле′, с калы′скі, усё ш.*

3. Ва ўсіх словах, у якіх больш за адзін склад, ставіцца націск (асноўны і пабочны, калі ёсць).

4. Шчылінны (фрыкатыўны) гук [г] абазначаецца літарай г *(галава′, гу′ліца)*, а выбухны (змычны) – гэтай самай літарай, падкрэсленай прамой рыскай *(г̲а′нак, г̲у′зік, ніг̲е′г̲лы).*

5. Падоўжаныя зычныя гукі абазначаюцца падвойнымі літарамі: *Парэ′ччa, руж-жо′.* Калі пдоўжаныя зычныя мяккія, то паміж падвойнымі літарамі ставіцца мяккі знак: *насе′ньне, вясе′льле.*

6. Этымалагічная і асіміляцыйная мяккасць зычных абазначаецца праз ь: *соль, ба′цько, па′льцы, сьвет, зьвер, дзьве′ры.*

7. Мяккасць зычных перад галоснымі абазначаецца праз ётавыя галосныя літары: *вясна′, лён, люк, ке′лба, сі′ні.*

8. Спалучэнне [й] з [а], [о], [у], [э], [і] абазначаецца ётавымі галоснымі я, ё, ю, е, і: *я′ма, ё′лка, баю′ся, пае′хаў, салаўі′, пад′е′ў, лью.*

9. Ставяцца знакі прыпынку адпаведна літаратурным правілам пунктуацыі.

Пасля таго як вучні зразумеюць сутнасць танскрыпцыі, можна праводзіць практыкаванні на спрошчанае пісьмо, сярод якіх і чытанне ўзораў гаворкі, афармленых такім пісьмом, напрыклад:

*Не′калі ў нас у вё′сцы былі′ ні панэ′, а гаспадарэ′. Яны′ былі′ бага′тыя, а хто быў бяньне′йшы, той хадзі′ў да іх на пра′цу. Хадзі′лі жаць жы′та. Пражне′ш дзень на яго хле′бі – ён запла′ціць табе′ два зло′тых. Хадзі′лі да гаспадаро′ў і лён рваць. Рва′лі, тады′ сла′лі, падбіра′лі, вяза′лі ў снапэ′ і вязьлі′ дадо′му. Тады′ сушы′лі ў су′шні, це′рлі, трапа′лі на стаяку′, часа′лі, а тады′ пра′лі, снава′лі ні′ці на снаўні′цы, наміва′лі асно′ву на кро′сны. А тады′ тка′лі. Тка′лі кужо′льнае палатно′, дзяруге′, шара′к мушчы′нам намарнатке′. Усю′ зі′му тка′лі, а тады′ што сабе′ пакіда′лі, а што насі′лі на база′р прадава′ці.*

Запісала ў 1992 г. Т.М. Макуца ў в. Ганчары
Дзятлаўскага раёна ад Т.Ф. Конан, 1814 г. н.

Самае складанае ў працэсе запісвання – паспець зафіксаваць пачутае. Фізічныя магчымасці рукі адстаюць ад тэмпу вуснага маўлення. А перапыняць выканаўцу і прасіць яго гаварыць памалей ні ў якім разе нельга. У гэтай сувязі паўстае пытанне аб прымяненні спосабаў, якія дазволілі б паскорыць запіс.

Пашыраным спосабам інтэнсіфікацыі запісвання  выступае скарачэнне слоў і словазлучэнняў. Пад скарачэнне падпадаюць пераважна тыя словы, якія ў мове апавядальніка паўтараюцца. У кожнага збіральніка можа выпрацавацца свая сістэма скарачэнняў, якія расшыфроўваюцца ім, разгортваюцца ў поўныя словы пры далейшай апрацоўцы чарнавых запісаў. Скарачаючы словы, трэба клапаціцца, каб з іх не выпалі фанетычныя, акцэнтныя і марфалагічныя дыялектныя асаблівасці, бо ўзнавіць іх пазней можа быць цяжка, а то і немагчыма.

Другі спосаб таксама істотна паскарае ручную фіксацыю звязных тэкстаў і практыкуецца пры калектыўным наведванні інфарманта. Ён рэалізуецца некалькімі (пераажна двума, трыма) збіральнікамі, якія папярэдне дамаўляюцца паміж сабой, хто якую частку вуснага выказвання будзе запісваць. Пры запісе празаічнага тэксту парадак звычайна бывае такі: першы вучань запісвае першую фразу, другі – другую, трэці

– трэцюю, чацвёртая фраза дастаецца зноў першаму вучню і г. д. Пры гэтым кожны збіральнік, запісваючы сваю частку, напаўголасу называе апошняе слова фразы, а той, хто павінен запісваць наступную фразу, пачынае свой чарнавы запіс з гэтага слова.

Настаўніку трэба правесці спецыяльныя заняткі, каб вучні патрэніраваліся прыёмам паскоранай фіксацыі тэксту. Напачатку замест жывога інфарманта можна выкарыстаць якасны магнітафонны запіс. Гурткоўцы размяркоўваюцца на групы з трох чалавек. Уключаецца магнітафон, і кожная група выконвае ўсе неабходныя працэдуры запісу. Рабочыя матэрыялы кожнай групы прыкладна выглядаюць так (нумары адпавядаюць удзельнікам запісу і ўказваюць на чарговасць працы):

*1. Ціпе′р жыць до′бро.*

*2. добро. У ха′тах чы′сто, пара′дак.*

*3. парадак. А даўне′й дружы′ны былі′ ве′лькія, па 12 душ і больш.*

*1. больш. На′тто ке′пско жыло′ся.*

*2. жылося. У х-ах падло′гі ні было′, а б. зямля′.*

*3. зямля. З-лю′ пасыпа′лі жо′ўт. пяско′м.*

*1. пяском. Ка′ля сьцяны′ ў ка′ждуй ха′ці стая′лі сланы′ і ла′вы.*

*2. лавы. А сяро′т х-ы ст-ла ве′лька печ.*

*3. печ. На п. сла′лі кажухі′, гаўчы′ны і спа′лі на іх.*

*1. іх. На зі′му пат п. зачыня′лі курэ′й.*

*2. курэй. У мо′цн. маразы′ прыво′дзілі ў х-у каро′ву з малы′м це′лям, бо м-зы былі′ ве′лькія, а адры′ны б. хало′дныя, жыві′на ме′рзла.*

*3. мерзла. У х-х такса′ма б. хо′ладно.*

*1. холадно. Стрэ′хі б. с сало′мы, о′кна мале′нькія, у х-е б. цё′мно.*

*2. цёмно. Ціпе′р зусі′м 2-ое жы′ця.*

*3. жыця. Х-ы ве′лькія, сьве′тлыя, кры′тыя бля′хай ці шы′ферам.*

*1. шыферам. І лю′дзі на′чай ж-у′ць, усяго′ хвата′е.*

Пасля праслухоўвання магнітафона занатаваныя фразы зводзяцца ўдзельнікамі кожнай групы ў адзін чарнавы тэкст. Якасць запісанага тэксту выяўляецца праз параўнанне яго з магнітафонным варыянтам. Пасля ўдакладненняў і паправак тэкст перапісваецца на чыставік.

Калі вучні атрымаюць адпаведныя навыкі збіральніцкай працы на паседжаннях гуртка, можна пачынаць працу ў натуральных умовах, зрабіць запісы гаворкі ад жыхароў вёскі. Поспех гэтай справы ў многім залежыць ад таго, у якой ступені апавядальнік карыстаецца мясцовай гаворкай, наколькі багата ён умее весці размову.

Дыялектны матэрыял можна запісваць ад розных жыхароў, але трэба арыентавацца на ідэальнага інфарманта. Звычайна гэта пажылы чалавек, які карыстаецца традыцыйнай мясцовай гаворкай, якому ўласціва чуццё мовы, добрая памяць, адсутнасць дэфекту вымаўлення, а таксама гаварлівасць, веданне матэрыяльнай і духоўнай культуры свайго краю. Такім інфармантам часцей бывае жанчына. У мове мужчын нярэдка сустракаюцца элементы іншых моўных сістэм (беларускай літаратурнай, рускай, другога дыялекту), нетыповых для гаворкі. Тлумачыцца гэта тым, што мужчыны ў сваім жыцці, як правіла, на пэўны час вымушаныя былі пакідаць родную вёску (служыць у арміі, удзельнічаць у войнах, выязджаць на заробкі, у камандзіроўкі і інш.) і знаходзіцца ў іншым моўным асяроддзі. Да таго ж мужчыны больш схільныя весці гутарку на палітычныя, «філасофскія» тэмы, выкарыстоўваючы лексіку, неўласцівую гаворцы, нярэдка з мэтай падкрэсліць сваю дасведчанасць, неардынарнасць.

Гутарка з людзьмі старэйшага пакалення дае магчымасць выявіць традыцыйныя рысы гаворкі. Каб мець уяўленне пра сучасныя ўплывы на гаворку, варта працаваць і з прадстаўнікамі сярэдняга і нават малодшага пакаленняў.

Наведванне вяскоўцаў «усляпую», без уяўлення, з кім прыйдзецца мець справу, можа даць слабыя вынікі. Таму настаўнік зараней вызначае патэнцыяльных інфармантаў. На папярэдняй сустрэчы з імі даведваецца пра ўзрост, прафесію, кола інтарэсаў, пра тое, што яны могуць расказаць вучням, і дамаўляецца аб часе сустрэчы.

Для сустрэч трэба выбіраць час, калі інфармант не заняты працай, калі яго не рупяць справы. Інакш ён будзе імкнуцца хутчэй скончыць размову і развітацца. Вучні могуць прапанаваць сваю дапамогу, напрыклад, пасобіць апалоць грады, паварочаць ці згрэбці сена, управіцца па гаспадарцы. Практыка паказвае: нішто так не збліжае збіральнікаў з вяскоўцамі, як сумесная праца, асабліва калі яна прапанавана ў якасці дапамогі, паслугі (часцей пенсіянерам).

Месцам сустрэчы могуць быць памяшканні дзяржаўных і грамадскіх установаў (школа, клуб, бібліятэка і інш.) або ўласная кватэра інфарманта. У цёплы, пагодлівы час зручна весці гутарку на вуліцы.

Актыўней гутарка працякае тады, калі ў ёй прымаюць удзел некалькі жыхароў вёскі. Разам інфарманты адчуваюць сябе больш упэўнена, папраўляюць ці ўдакладняюць адказы адзін аднаго, агульнымі сіламі даюць больш аб'ектыўную інфармацыю пра значэнне, ужыванне слоў і іх варыянтаў.

Гутарка можа быць тэматычнай і вольнай. Тэматычная гутарка прысвячаецца выяўленню слоў, аб'яднаных пэўным тэматычным адзінствам (напрыклад, ткацкая лексіка). Вольная гутарка не абмежавана якой-небудзь лінгвістычнай тэматыкай, яна ўяўляе сабой імправізаваны дыялог на любыя тэмы.

Першы выхад «у поле» – гэта ў цэлым паказальныя заняткі, у якіх удзельнічаюць усе члены гуртка (10–15 чалавек). У пачатку размовы з інфармантам вучні растлумачваюць, хто яны такія і з якой мэтай завіталі. Важна, каб суразмоўца зразумеў сваю ролю і пазбавіўся беспадстаўнага недаверу і асцярожлівасці.

Поспех сустрэчы з інфармантам у многім залежыць ад умення вядучага весці гутарку, падтрымліваць дыялог. У вучняў сярэдніх класаў не заўсёды гэта можа атрымлівацца з-за недастатковага жыццёвага вопыту, таму на гэты аспект ў методыцы збіральніцкай працы настаўнік пастаянна звяртае ўвагу. Неабходна ўзаемная зацікаўленасць у працэсе размовы, каб не ствараліся няёмкія паўзы, пры якіх узнікае нямое пытанне, аб чым гаварыць далей. Каб гэтага не здарылася, трэба кіравацца наступнымі правіламі:

- з павагай адносіцца да суразмоўцы, паказваць усім сваім выглядам, што яго інфармацыя (якой бы яна ні была) вельмі цікавая і каштоўная;
- не перабіваць апавядальніка;
- не ставіць «пустых» пытанняў (абы спытаць), задаваць пытанні, якія накіроўваюць і развіваюць гутарку;
- гаварыць па-беларуску (выкарыстоўваючы ў сваёй мове, калі гэта пад сілу, асаблівасці мясцовай гаворкі).

Спачатку настаўнік сам вядзе размову з выканаўцам, адначасова запісваючы інфармацыю ад рукі і на магнітафонную стужку. Вучнёўскія «тройкі» таксама стараюцца занатаваць у сшыткі ўсё пачутае па той методыцы, пра якую гаварылася вышэй. Пасля настаўнік даручае свае функцыі аднаму з вучняў, а сам ў гэты час выконвае яго абавязкі ў складзе вучнёўскай падгрупы. Потым ролю вядучага выконваюць

яшчэ некалькі вучняў па чарзе. У гэты ж дзень вучні вяртаюцца ў школу, злучаюць свае запісы-фрагменты ў суцэльны тэкст з дыялогамі і маналогамі. Настаўнік аналізуе працу вучняў, праведзеную на паказальных занятках, ацэньвае якасць запісаў, адзначае станоўчыя моманты і недахопы, дае парады, скіраваныя на паляпшэнне працы.

Пасля паказальных заняткаў можна выводзіць вучняў ужо на сапраўдную збіральніцкую працу, але не ўсім складам гуртка, а толькі асобнымі групамі. Найбольш падрыхтаваным групам даручаецца самастойна, без удзелу настаўніка ажыццявіць дыялекталагічныя запісы. На паседжанні гуртка ўсе запісы падрабязна аналізуюцца і абмяркоўваюцца.

Запісваць вуснае маўленне можна не толькі ад рукі, але і на магнітафонную стужку. Магнітафонны запіс мае перавагу над ручным у тым, што фіксуе інфармацыю дакладна і поўна. Праўда, не ў любых абставінах яго можна выкарыстаць. Часта магнітафон бянтэжыць інфарманта, скоўвае яго актыўнасць. Бачачы перад сабой запісвальную тэхніку, інфармант, здараецца, імкнецца гаварыць «па-гарадскому», а не «па-просту». Магнітафонны запіс будзе ўдалым толькі ў натуральнай абстаноўцы, калі суразмоўцу мала турбуе ўключаны магнітафон.

Ёсць някепскія магчымасці запісваць матэрыял не толькі ў час арганізаванай гутаркі. Пры індывідуальнай збіральніцкакй працы карыстаюцца прыёмам назірання. Збіральнік услухоўваецца ў размову людзей, якая адбываецца на вуліцы, на прыпынку, у аўтобусе, у хаце, у іншым месцы, і страецца запісаць тое, што яго зацікавіла.

У артыкуле разгледжана агульная методыка збіральніцкай працы. Яна канкрэтызуецца і атрымлівае спецыфічнае ўвасабленне пры збіранні і вывучэнні розных дыялектных з’яў: лексікі, фразеалогіі, тапаніміі, фанетычных і граматычных асаблівасцяў і інш. Пра гэта пойдзе гаворка ў наступных артыкулах.

---

Першая публікацыя ў часопісе: *Роднае слова. – 2005. – № 9. – С. 74–77.*

## ЗБІРАННЕ ЛЕКСІКІ І ФРАЗЕАЛОГІІ Ў ПАЗАЎРОЧНЫ ЧАС

Школьнае лінгвістычнае краязнаўства аб'ектам увагі мае часцей за ўсё мясцовую лексіку. На першы план у гэтай справе выходзіць збіранне і сістэматызацыя лексічнага матэрыялу. Перш чым прыступіць да непасрэднага вывучэння лексічнага складу гаворкі, настаўніку і вучням трэба добра ўсвядоміць, што збіраць, як збіраць, як афарміць сабранае, дзе будзе выкарыстаны і якую карысць прынясе дыялекталагічная калекцыя.

Найбольшую каштоўнасць у працэсе назірання за лексічным складам гаворкі маюць пазалітаратурныя словы. Гэта:

1. Рэгіянальныя назвы. Адны з іх адпавядаюць сваім значэннем словам літаратурнай мовы з іншымі каранямі (уласналексічныя дыялектызмы): *до́йло* – вымя, *за́г̱а* – пякотка, *нату́рысты* – упарты. Другія такой адпаведнасці не маюць, носяць этнаграфічны характар: *по́вяскі* – чатыры тонкія жардзіны, звязаныя разам і перакінутыя праз верх стога, *атпа́снае* – гасцінец пастуху ў час пасьбы, *кляко́тка* – драўляны званок, які вешаюць карове на шыю.

2. Словы, якія адрозніваюцца ад літаратурных адпаведнікаў фанетычным афармленнем: асобнымі гукамі, колькасцю, парадкам размяшчэння гукаў, месцам націску

(лексічна-фанетычныя дыялектызмы): *слабо́дны* – свабодны, *нарэ́йсьці* – нарэшце, *адымка́ць* – адмыкаць, *вако́* – вока, *вухо́* – вуха.

3. Словы з іншымі, чым у літаратурнай мове, прыстаўкамі і суфіксамі (лексічна-словаўтваральныя дыялектызмы): *адмяні́цца* – змяніцца, *зучы́ць* – вывучыць, *по́льны* – палявы, *гуле́ц* – гуляка.

4. Словы, якія не супадаюць з літаратурнымі дублетамі формамі роду (часцей гэта камбінаваныя лексічна-словаўтваральна-марфалагічныя дыялектызмы): *цадзі́лак* – цадзілка, *ло́жка* – ложак, *я́блыко* – яблык.

5. Словы, што супадаюць з літаратурнымі адзінкамі гучаннем, але адрозніваюцца значэннем (семантычныя дыялектызмы). Параўнаем дыялектныя і літаратурныя значэнні: *бало́тнік* 'меліяратар' – 'расліна сямейства балотнікавых – вадзяная зорачка'; *гра́дка* 'паліца для посуду' – 'палоска зямлі для вырошчвання агародніны, кветак'; *баланда́* 'балбатун' – 'посная рэдкая страва'.

У працэсе збірання дыялектных слоў вучні не заўсёды адрозніваюць лексічныя з'явы ад іншых і запісваюць шмат формаў, якія ілюструюць фанетычныя і марфалагічныя адметнасці гаворкі, напрыклад: *до́бро, ке́пско, ма́ло, нічо́го; міске́, лашке́, хустке́, гарадэ́, бураке́.* Такія запісы таксама вартыя ўвагі. Яны групуюцца па тыпах, і настаўнік растлумачвае, што гэта не лексічныя факты, а прыклады дыялектных фанетычных і марфалагічных заканамернасцяў, якія праяўляюцца ў сотнях і тысячах слоў і супрацьпастаўляюцца заканамернасцям літаратурнай мовы.

Фіксацыю дыялектных слоў можна праводзіць двума спосабамі. Першы прадугледжвае спачатку суцэльнае, без пропускаў запісванне звязнага маўлення інфармантаў. Пасля, калі будзе назапашана адпаведная колькасць звязных тэкстаў, ажыццяўляецца іх далейшая апрацоўка: у тэкстах адшукваюцца дыялектызмы і выпісваюцца разам з ілюстрацыйнымі сказамі.

Сутнасць другога спосабу заключаецца ў «паляванні» на дыялектныя словы непасрэдна ў працэсе вуснай гутаркі. Збіральнік уважліва слухае апавядальніка і, як толькі пачуе пазалітаратурнае слова, адразу запісвае яго ў сшытак. Вельмі важна паспець занатаваць не толькі слова, а цэлы сказ, у якім яно ўжыта. Гэта не заўсёды ўдаецца, бо вымагае адначасовай актывізацыі ўважлівасці, напружання памяці. Добра, калі вучань здолее паспець ухапіць і занатаваць хаця б бліжэйшае акружэнне дыялектызма – некалькі слоў злева і справа ад яго. Параўн. запіс цэлых сказаў і іх фрагментаў, мінікантэкстаў з дыялектызмамі *за́варацянь* 'чалавек з слабой памяццю', *ламата́ць* 'грукаць': *Як бу́дзяш атхо́дзіць, та до́бро паду́май, ці ўсё ўзёў, ба ты такі́ за́варацянь, ка́жды рас не́што забыва́яса – Ты такі́ за́варацянь, ка́жды рас не́што забыва́яса; Пайдзі́ палядзі́, хто там у дзьве́ры ламо́ча, каму́ там чаго́ трэ́ба – Палядзі́, хто там у дзьве́ры ламо́ча.*

Часта пры запісванні слова вучань з ходу не можа сарыентавацца, дыялектнае яно ці літаратурнае. У запісах аказваецца нямала адзінак, вядомых літаратурнай мове. Гэтага не трэба баяцца, пры далейшай апрацоўцы запісанага высветліцца, што пакінуць, а што адсеяць як непатрбнае.

Збіранне дыялектных слоў часцей праводзіцца ў працэсе арганізаваных сустрэч вучняў з аднавяскоўцамі ці жыхарамі іншай вёскі ў дыялекталагічнай экспедыцыі. Ёсць таксама добрая магчымасць запісваць матэрыял не толькі ў час арганізаванай гутаркі, але і шляхам «падслухоўвання», калі вучань выступае ў ролі староннята назіральніка.

Ён услухоўваецца ў размову людзей (родных, суседзяў, іншых вяскоўцаў) у хаце, на вуліцы, на прыпынку, у аўтобусе, у магазіне і стараецца запісаць тое, што яго зацікавіла. Зробленыя запісы здаюцца настаўніку для азнаямлення і аналізу на занятках гуртка. Матэрыялы, вызначаныя лепшымі, папоўняць дыялекталагічную картатэку.

Вывучэнне мясцовай лексікі ў пазаўрочны час можа грунтавацца не толькі на прынцыпе супрацьпастаўлення дыялектнага і літаратурнага. Другі важны кірунак лінгвакраязнаўчай працы па лексікалогіі – збіранне слоў, аб'яднаных тэматычным адзінствам. Асноўная задача такой працы – адносна поўнае выяўленне ў гаворцы назваў тэматычных груп лексікі, і чыста рэгіянальнай, і вядомай літаратурнай мове.

Пераважным метадам збіральніцкай дзейнасці тут выступае тэматычная гутарка з носьбітамі гаворкі. Праводзіцца яна па загадзя распрацаваным плане, дзе пералічваюцца прадметы і з'явы, назвы якіх неабходна высветліць. Без папярэдняй падрыхтоўкі гутарка прынясе мала карысці. Так, калі вучні не ведаюць дэталяў кроснаў, ткацкіх вырабаў, не знаёмы з працэсамі ткання, то ў ходзе гутаркі пра ткацтва кола пытанняў хутка вычарпаецца і не будзе ясна, пра што пытацца далей, у якім напрамку скіраваць гаворку. Зразумела, і колькасць запісаных назваў будзе невялікая.

Пры папярэдняй падрыхтоўцы да гутаркі вучні знаёмяцца з даведкавай, энцыклапедычнай літаратурай, прысвечанай рэаліям, назвы якіх трэба будзе запісаць. Напрыклад, вельмі каштоўнай і цікавай інфармацыйнай крыніцай можа стаць энцыклапедыя «Этнаграфія Беларусі» (Мінск, 1989). Можна арганізаваць экскурсіі ў гістатычна-краязнаўчы музей для азнаямлення з этнаграфічнымі экспанатамі.

Кола тэмаў, якія дапамогуць весці гутарку, самае разнастайнае. У агульным плане іх сфармулюем так: 1) прырода, 2) жывёльны і раслінны свет, 3) чалавек і сям'я, 4) мясцовыя рамёствы і промыслы, 5) сельская гаспадарка, 6) будынкі, пабудовы і іх часткі, 7) адзенне і абутак, 8) ежа, харчаванне і інш. Больш падрабязную дэталізацыю гэтых і некаторых іншых тэмаў можна знайсці ў спецыяльных дапаможніках, падрыхтаваных Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа [1], а таксама ў «Лексічным атласе беларускіх народных гаворак» у 5 тамах ( Мінск, 1993–1998). Для прыкладу прапануем пералік пытанняў аб прыродзе на тэму «Атмасфера». Яны скіраваны на высвятленне назваў, выражаных пераважна назоўнікамі, таму фармуляваць іх зручна такім чынам: «Як у вас называецца (пэўная з'ява)?»:

1. Рух паветра ў прыродзе *(вецер...):*

а) моцны вецер *(буран, ураган...);*

б) скразны вецер *(скразняк, сквазняк...);*

в) вецер, які падымае слупы пылу *(віхор, віхар, віхр, сухавей...);*

г) цёплы вецер *(цяпляк...);*

д) халодны вецер *(сівер, сіверка...).*

2. Воблакі, хмары:

а) воблачнасць не суцэльнага характару *(хмаркі, похмаркі, бухмаркі, воблыкі, барашкі, баранкі, дзяды, болакі, памягі...);*

б) дажджлівая хмара *(хмара, хмура, туча...);*

3. Ападкі ў выглядзе кропель вады *(дождж...):*

а) малы, дробны дождж *(рось, марошка, мгла, мжа, мжака...);*

б) вялікі дождж *(лівень, улева, люха, залівень, заліва, палівень, лея, пралой...);*

в) працяглы дождж *(абложнік, аблога...);*

г) дажджлівае надвор’е *(хляба, нянасце, макрата, макрадзь, плюта...).*

4. Электрычны разрад паміж хмарамі *(бліскаўка, бліскавіца, маланка, маладня, малання...).*

5. Гул, якім суправаджаецца маланка *(гром, грымоты, пярун...).*

6. Каляровая дуга на небе пасля дажджу *(вясёлка, радуга, райдуга, тэнча...).*

7. Надвор’е:

а) добрае, сонечнае надвор’е *(пагода, вёдра...);*

б) надвор’е, калі ў паветры суха і горача *(суш, спякота, жара, духата, цеплата...).*

8. Ападкі зімой *(снег, крупы...):*

а) надвор’е, калі ідзе снег з ветрам *(завіруха, бура, буран, замець, пазёмка, завея, дуйка, бура...);*

б) цвёрды верхні пласт снегу *(серанок, шарун, шарэн...);*

в) першы снег *(зазімак...);*

г) апошні снег *(падскробак, падмецце...);*

д) белая намаразь, якой пакрываюцца дрэвы *(іней, шэрань...);*

е) зямля, пакрытая лёдавай скарынкай *(галалёд, галалёдзіца, слізговіца...).*

Пры збіранні лексікі звяртаецца ўвага не толькі на назоўнікі, але і на іншыя часціны мовы. Фармулёўка пытанняў у такіх выпадках крыху змяняецца. У адносінах да прыметніка пытанне часцей пачынаецца словамі «Якім (якой) бывае (што-небудзь)?», «Як скажуць пра (што-небудзь)?»:

1. Вецер *(буйны, моцны, слабы, лёгкі, пранізлівы, халодны, сухі, густы...).*

2. Ноч з навальніцай у канцы лета *(рабінавая, вераб’іная...).*

Пра дзеясловы можна спытаць «Як у вас гаворыцца, калі (што-небудзь робіцца)?»:

1. Ідзе дождж *(ідзе, сыпле, шпарыць, імжыць, плешча, сячэ, барабаніць, шалясціць, пырскае, лье...).*

2. Ідзе снег *(ідзе, падае, сыпле, лепіць, круціць, прэ...).*

3. Бліскае маланка *(бліскае, зіхае, паліць, палыхае...).*

4. Грыміць гром *(грыміць, грукоча, грахоча, грукаціць, раскатваецца...).*

Сабраны матэрыял адпаведным чынам афармляецца і сістэматызуецца. Яго можна перапісаць у сшытак, але зручней аформіць на карткі. Выкарыстоўваюцца карткі аднаго прынятага памеру (звычайна 9 на 13 см). На кожнае слова адводзіцца асобная картка. Яна запаўняецца такім чынам:

1. Уверсе запісваецца слова ў пачатковай форме.

2. Пасля слова прыводзіцца скарочана граматычная памета. Для назоўніка выкарыстоўваюцца такія паметы: *м., ж., н.* (паказваюць на мужчынскі, жаночы ці ніякі род назоўніка); калі назоўнік ужываецца ў форме толькі адзіночнага ліку ці толькі множнага ліку, ставіцца памета *адз.* або *мн.* Граматычныя паметы дзеяслова – *зак.* або *незак.* (закончанае або незакончанае трыванне). Пры словах іншых лексічна-граматычных разрадаў памета ўказвае на прыналежнасць гэтых слоў да той ці іншай часціны мовы: *прым.* – прыметнік, *займ.* – займеннік, *ліч.* – лічэбнік, *прысл.* – прыслоўе, *злуч.* – злучнік, *часц.* – цасціца, *прыназ.* – прыназоўнік, *выкл.* – выклічнік.

3. Многія дыялектныя словы, называючы прадметы, з’явы, дзеянні, прыметы, адначасова выражаюць эмацыянальна-экспрэсіўныя адценні. Гэтыя адценні абазначаюц-

ца стылістычнымі паметамі, якія на картках ідуць услед за граматычнымі паметамі. Прыкладны індэкс стылістычных памет:

*абразл.* – абразлівае
*асудж.* – асуджальнае
*груб.* – грубае
*гумар.* – гумарыстычнае
*жарт.* – жартаўлівае
*здзекл.* – здзеклівае
*зніж.* – зніжанае
*зневаж.* – зневажальнае
*іран.* – іранічнае
*ласк.* – ласкальнае
*лаянк.* – лаянкавае
*непахв.* – непахвальнае
*павел.* – павелічальнае
*пагард.* – пагардлівае
*пахв.* – пахвальнае
*спагад.* – спагадлівае
*узмац.* – узмацняльнае

Вучні на інтуітыўным узроўні добра адчуваюць экспрэсіўнасць, калі яна прысутнічае ў слове, але канкрэтызаваць яе і выбраць адправедную стылістычную памету часта не могуць (для гэтага трэба мець прафесійнае веданне і чуццё мовы). Калі ўзнікаюць цяжкасці ў вызначэнні стылістычнага адцення, можна карыстацца ўніверсальнай паметай агульнага характару *экспр.,* якая паказвае, што слова не нейтральнае, а стылістычна афарбаванае, экспрэсіўнае.

4. Затым даецца тлумачэнне слова. Прымяняюцца два спосабы тлумачэння. Калі дыялектнае слова мае семантычна тоесны адпаведнік у літаратурнай мове, то яно і тлумачыцца гэтым адпаведнікам: *апані́ва* – патэльня. Дыялектызмы, якія не суадносяцца са словамі літаратурнай мовы або значэнні якіх не супадаюць са значэннямі слоў у літаратурнай мове, тлумачацца апісальна: *апа́р* – ‘паласа вады каля берага ракі або возера пры раставанні лёду’. Тлумачэнні слоў-этнаграфізмаў, што абазначаюць мясцовыя прадметы, можна дапаўняць малюнкамі, схемамі, фотаздымкамі, якія даюць наглядное ўяўленне аб прадметах і значэннях слоў. У мнагазначных словах тлумачацца ўсе значэнні і кожнае з іх падмацоўваецца прыкладамі-сказамі.

5. Значэнне і ўжыванне слова ілюструецца сказам, запісаным спрошчанай фанетычнай транскрыпцыяй. Ілюстрацыі падаюцца такімі, якімі яны атрыманы ад інфарманта, нельга папраўляць ці дапаўняць сказы сваімі словамі.

6. Кожная картка пашпартызуецца: унізве ўказваецца назва населенага пункта і раёна, дзе зроблены запіс, год запісу, прозвішча збіральніка.

Узор краткі:

*То́ўба* ж., непахв. – тоўстая жанчына.
*Ну й то́ўба, мо кілагра́м сто ма́я.*
Новая Руда Гродзенскага р-на, 2003 г.
Т. Грынь

Праверанякі настаўнікам карткі папаўняюць школьную дыялекталагічную картатэку.

Вучні займаюцца не толькі лексікай, але і фразеалогіяй. Методыка збірання яе ў асноўным такая самая, але ёсць і пэўныя асаблівасці. Фразеалагізмы створаны не столькі для называня, колькі для ацэнкі, характарыстыкі прадметаў. Іх намнога менш, чым слоў, і ў маўленні яны выкарыстоўваюцца адносна рэдка. Гэта стварае пэўныя цяжкасці выяўлення фразеалагізмаў.

Не трэба арыентаваць вучняў запісваць толькі ўласна дыялектныя фразеалагізмы, бо вызначыць такі іх статус без добрага ведання фразеалогіі, без спецыяльных фразеалагічных слоўнікаў няпроста, а часта і немагчыма. Пры недыферэнцыйным

падыходзе збіральніка зацікавіць усякі фразеалагізм, незалежна ад таго, ужываецца ён у літаратурнай мове ці не.

Найбольш якасны, аб’ектыўны запіс фразеалагізмаў атрымліваецца тады, калі яны ўзяты з натуральнага маўлення, не «справакаванага» спецыяльнымі пытаннямі. Збіральнік у такім выпадку карыстаецца метадам пасіўнага назірання за гаворкай інфарманта, спадзеючыся на ўдачу, на выпадковую «сустрэчу» з фразеалагізмам.

Пры належнай падрыхтоўцы можна карыстацца метадам апытання. З дапамогай яго становіцца магчымым за адносна кароткі час абследаваць большую колькасць фразеалагізмаў. Гутарка з інфармантам ажыццяўляецца па загадзя складзенай інструкцыі-апытальніку. Апытальнік ствараецца на базе слоўнікаў, а таксама картатэкі, што знаходзіцца ў дыялекталагічным фондзе вучнёўскага гуртка. Ён уяўляе сабой спіс фразеалагізмаў, размеркаваных па тэматычных групах, напрыклад: «Рысы характару і паводзіны чалавека», «Адносіны паміж людзьмі», «Фізічны стан і адчуванні», «Псіхалагічны стан і пачуцці», «Знешні выгляд чалавека», «Мысленне і моўныя зносіны», «Колькасць каго-, чаго-небудзь», «Час», «Перамяшчэнне ў прасторы» і інш.

У Беларусі пакуль што апублікаваны адзін фразеалагічны апытальнік – «Кароткая інструкцыя па збору фразеалогіі ў беларускіх гаворках», складзены У.І. Ковалем [2]. Тыповыя пытанні ў ім – «Як у вас гавораць пра (каго-, што-небудзь)?»:

1. Разумнага, кемлівага чалавека *(светлая галава, галава варыць, глузды добра вараць, галава не на вошы...).*

2. Добрага, ціхага, памяркоўнага чалавека *(хоць да раны прыкладай, пальцам не зачэпіць, вока не запарушыць...).*

3. Легкадумнага, несур’ёзнага чалавека *(матылі ў галаве, вецер у галаве, ветрам падшыты, віхар у галаве круціць, у галаве вецер свішча...).*

Пры выкарыстанні апытальніка інфарманту па чарзе зачытваюцца фразеалагізмы, і ён павінен назваць тыя, што выкарыстоўваюцца ў гаворцы. Агучаныя прыклады фразеалагізмаў часта дапамагаюць інфарманту ўспомніць іншыя выразы і варыянты з такім самым ці іншым значэннем.

Складанасць правядзення гутаркі на фразеалагічную тэму зыходзіць таксама з самой спецыфікі фразеалагізмаў. Многія з іх маюць вобразную аснову і супадаюць кампанентным складам з пераменнымі словазлучэннямі. Бывае, што інфармант не можа зразумець семантычную цэласнасць фразеалагізма і ўспрымае яго як звычайнае словазлучэнне. Напрыклад, на пытанне «Ці выкарыстоўваюць у вас выраз *намыліць шыю* ‘моцна прабраць каго-небудзь, выгаварыць з дакорам’?» інфармант адказвае сцвярджальна, а на ўдакладняльнае пытанне «Што абазначае гэты выраз?» дае такое азначэнне: «Ну, гэта калі бярэш мыла і трэш шыю, каб яна стала мыльнай». Збіральніку даводзіцца тлумачыць, што тут словазлучэнне выступае не ў прамым, а ў пераносным значэнні. Але не кожны суразмоўца здольны гэта зразумець. Практыка сведчыць: найлепшыя запісы фразеалагізмаў дае гутарка з інфармантам, маўленне якога вобразнае, жывое, аздобленае параўнаннямі, прыказкамі, трапнымі характарыстыкамі і азначэннямі. Такія інфарманты – залаты фонд для збіральніка.

Часта інфармант не можа адназначна сарыентавацца, ужываецца ў гаворцы фразеалагізм ці не. На пытанне «Ці кажуць у вас так?» можна пачуць адказ: «Хто яго ведае, можа і кажуць. Напэўна, кажуць. Хто хоча, той і кажа». Няўпэўненасць выклікаецца тым, што фразеалагізм у большасці выпадкаў складаецца з агульнаўжывальных, зра-

зумелых слоў. І ствараецца ілюзія, што ён з такім слоўным комплексам магчымы, хоць на самай справе для гаворкі не характэрны.

Адзначаныя акалічнасці вымагаюць апытання не аднаго, а некалькіх інфармантаў, каб атрымаць больш аб’ектыўныя звесткі пра ўжыванне канкрэтнага фразеалагізма.

Чарнавыя запісы фразеалагізмаў ў далейшым апрацоўваюцца і сістэматызуюцца. Кожны фразеалагізм заносіцца на асобную картку, якая прыкладна выглядае так:

*Ні да та́нца ні да ружа́нца* – ні на што
не здатны, няўмелы.
*Нічого ні ўмея рабіць – ні да танца ні да ружанца.*
в. Парэчча Гродзенскага р-на, 2003 г.
М. Абухоўскі

У вучняў узрастае цікавасць да збіральніцкай справы, калі яны бачаць яе рэальную карысць. Сабраны матэрыял можна выкарыстаць на ўроку і, часцей, у розных пазакласных мерапрыемствах. На паседжаннях гуртка ці ў канферэнцыях гэта невялікія паведамленні пра групы слоў, фразеалагізмаў, аб'яднаных адной тэмай, напрыклад: «Дыялектныя назвы ў гаворцы нашай вёскі», «Народныя назвы грыбоў і ягад», «Народныя назвы птушак», «Назвы посуду», «Фразеалагічнае багацце нашай гаворкі». Падборкі слоў і фразеалагізмаў варта змяшчаць у школьным перыядычным друку (насценнай газеце, рукапісным часопісе, альманаху), абавязкова ўказваючы прозвішчы вучняў-збіральнікаў. Калі збіральніцкая праца праводзілася з году ў год і сабрана багатая картатэка, можна скласці дыялектны слоўнік гаворкі сваёй вёскі ці ўсяго сельсавета. Зразумела, што асноўную рэдактарскую функцыю ў гэтай справе бярэ на сябе настаўнік.

Калектыў энтузіястаў школьнага гуртка можа трымаць сувязь з кафедрай беларускай мовы універсітэта ці інстытутам мовазнаўства і стаць свайго роду дыялекталагічным карэспандэнцкім пунктам гэтых устаноў.

Як паказвае практыка, збіранне дыялектных слоў і фразеалагізмаў «не толькі пашырае веды вучняў, у галіне роднай мовы, але і развівае ў іх назіральнасць, знаходлівасць, здольнасць аналізаваць навакольныя з’явы, заўважаць, чым адно адрозніваецца ад другога, уменне дакладна фармуляваць думкі» [3].

*Літаратура*

1. Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў беларускай мовы. – Мінск. – Вып. 1, 1959; Вып. 2, 1960; Вып. 3, 1966.

2. Кароткая інструкцыя па збору фразеалогіі ў беларускіх гаворках / склад. У.І. Коваль. – Гомель, 1979.

3.Попов И.А. Диалектная лексика как объект внеклассной работы в сельской школе // Русский язык в школе. – 1978. – № 3. – С. 62.

Першая публікацыя ў часопісе: *Роднае слова. – 2006. – № 5. – С. 73–77.*

## ЗБІРАННЕ ТАПАНІМІІ Ў ПАЗАКЛАСНАЙ ПРАЦЫ ПА МОВЕ

Вывучэнне тапаніміі – адзін з асноўных кірункаў школьнага лінгвістычнага краязнаўства. Уласныя назвы геаграфічных аб’ектаў даносяць да нас каштоўную інфармацыю з мінулых часоў, знаёмяць з бытам, гаспадарчай дзейнасцю, культурай нашых продкаў. Праца з тапанімічным матэрыялам мае як пазнавальнае, так і выхаваўчае

значэнне, садзейнічае «выхаванню паважлівага стаўлення да тапанімічнай спадчыны як помніка нацыянальнай культуры і духоўнасці» [1].

Вывучэнне тапанімічнай лексікі могуць арганізоўваць выкладчыкі розных прадметаў (беларускай мовы і літаратуры, рускай мовы і літаратуры, гісторыі, геаграфіі, біялогіі), але найбольш яно дастасоўваецца да такога прадмета, як беларуская мова. Тапанімію можна разглядаць і на ўроках, і на факультатыўных занятках, і ў пазаўрочных мерапрыемствах. Сістэмнае і рознабаковае засваеннне яе магчымае на занятках дыялекталагічнага ці тапанімічнага гуртка.

Тэматыку заняткаў гуртка вызначае настаўнік. З апублікаваных метадычных распрацовак падобнага гуртка заслугоўвае ўвагі артыкул В.М. Емельяновіч «Тапанімічны гурток» [2], дзе прапануюцца наступныя тэмы заняткаў: 1. Тапаніміка і яе раздзелы. 2. Паходжанне геаграфічных назваў. 3. Назвы рэспублік. Назва «Беларусь». 4. Назвы рэк і азёраў нашай рэспублікі. 5. Назвы гарадоў і вёсак Беларусі. 6. Назвы роднага краю (урочышчаў, палёў, лясоў, сенажацей, дарог і інш.). 7. Назвы вуліц роднага горада, вёскі. 8. Гісторыя краю – у назвах. 9. Новыя часы – новыя назвы. 10. Геаграфічныя назвы ў песнях, паданнях, прыказках і прымаўках, у творах мастацкай літаратуры.

Вельмі актуальная тэма № 6, бо яна арыентуе вучняў на непасрэдна збіральніцкую працу. Важнасць гэтай працы ў наш час тлумачыцца тым, што разбураецца традыцыйная беларуская вёска і разам з ёю знікае багаты пласт мікратапанімічнай лексікі, што назапашваўся цягам стагоддзяў. Пачэсны абавязак настаўніка роднай мовы і літаратуры – занатаваць гэтую лексіку ў сваім рэгіёне, каб яна не страцілася, а захавалася хаця б у пісьмовым выглядзе для будучых пакаленняў. Калі да гэтай справы далучацца і вучні, то карысць ад яе, безумоўна, узрасце.

Тапанімічная збіральніцкая дзейнасць у школе мае сэнс толькі ў тым выпадку, калі настаўнік сам добра падрыхтаваны да яе правядзення, ведае гісторыю, этнаграфію, геаграфію краю, знаёмы з архіўнымі дакументамі. Тэарэтычнай базай такой працы з'яўляюцца навуковыя выданні вядомых беларускіх тапанімістаў, напрыклад В.А. Жучкевіча [3], І.Я. Яшкіна [4], В.П. Лемцюговай [5], А.М. Мезенкі [6], Н.М. Лыча [7], А.Ф. Рогалева [8], артыкулы «Анамастыка», «Тапаніміка», «Айканіміка», «Гідраніміка», «Мікратапаніміка» ў энцыклапедыі «Беларуская мова» [9]. Апублікаваны шэраг слоўнікаў, якія ахопліваюць тапанімію ўсіх абшараў Беларусі або толькі асобных яе рэгіёнаў [10]. Выключна важнае значэнне ў беларускай і славянскай тапалексікаграфіі адыгралі слоўнікі назваў населеных пунктаў усіх шасці абласцей Беларусі, створаныя Я.Н. Рапановічам у 70–80-я гады XX ст. Цяпер выдаюцца абласныя тапанімічныя слоўнікі новага пакалення, напрыклад [11]. Даследчыкамі створаны і спецыяльныя інструкцыі па збіранні тапанімічнага матэрыялу [12].

Для таго, каб школьнікі навучыліся збіраць тапанімічныя назвы свайго рэгіёну, настаўніку неабходна правесці серыю падрыхтоўчых заняткаў. Яны грунтуюцца на агульнай методыцы збірання дыялектнага матэрыялу і збірання лексікі, апісанай у нашых папярэдніх публікацыях, змешчаных у часопісе «Роднае слова» (2005, № 9; 2006, № 5). Тым не менш, падрыхтоўка да запісу, фіксацыя і афармленне тапанімічнай лексікі вымагаюць нямала асобных рэкамендацый.

Напачатку складаецца бібліяграфія краязнаўчай літаратуры. Варта адны заняткі прысвяціць знаёмству з гэтай літаратурай, расказаць пра збіральніцкую дзейнасць вядомых тапанімістаў.

Вучні павінны засвоіць праграму-мінімум па збіранні тапаніміі. Праграма прадугледжвае па магчымасці ўсебаковае вывучэнне мясцовых назваў геаграфічных

аб’ектаў і арыентуе на высвятленне матывацыйных прычын іх узнікнення. Прыкладны змест праграмы:

*Населеныя пункты*

1. Назва населенага пункта (хутара, вёскі, мястэчка і г.д.), афіцыйная і мясцовая (калі яна ёсць), раён і вобласць з улікам сучаснага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу. Ці была ў мінулым іншая назва і ў сувязі з чым адбылася змена назвы? Мясцовыя легенды пра паходжанне старой і новай назвы, якія навукова-афіцыйныя звесткі ёсць на гэты конт? Ці ёсць у мясцовых жыхароў якая-небудзь агульная мянушка?

2. Як называюцца часткі населенага пункта, вуліцы, плошчы, сады, базары і іншыя дробныя геаграфічныя аб’екты?

3. Ці ёсць паблізу населенага пункта рэшткі гарадзішчаў, развалінаў, крэпасцяў, валоў, іраоў, як яны называюцца?

4. Назвы мясцовых калгасаў і саўгасаў.

5. Назвы жыхароў па імені населенага пункта (у мужчынскім, жаночым родзе і зборныя).

6. Назвы суседніх населеных пунктаў, у тым ліку і тых, што цяпер не існуюць. Што вядома пра іх паходжанне?

Пачынаючы з гэтага пункта і далей пры апісанні геаграфічнага аб’екта варта ўказаць яго месцазнаходжанне ў адносінах да асноўнага населенага пункта (з улікам напрамку на поўнач, поўдзень і г.д. і прыкладнай адлегласці ў кіламетрах).

*Рэльеф*

7. Як называюцца горы, пагоркі, іх вяршыні, цясніны, хрыбты, перавалы?

8. Назвы далінаў, нізінаў, раўнінаў.

9. Як называюцца курганы, схілы, яры, іншыя элементы мясцовага рэльефу?

10. Назвы пячораў, падземных хадоў, шахтаў, кар’ераў, акопаў.

Сельскагаспадарчыя геаграфічныя аб’екты

11. Назвы ніваў, лугоў, палёў і асобных іх частак.

12. Як называюцца выганы, пашы, папары і іншыя ўчасткі неапрацаванай зямлі?

Лясныя геаграфічныя аб’екты

13. Як называюцца лясы, асобныя лясныя ўчасткі (паляны, бары, гаі, узлескі, лесапаркі, лесапалосы і іншыя геаграфічныя аб’екты, звязаныя з мясцовай флорай)?

14. Назвы запаведнікаў і заказнікаў.

15. Як называюцца масівы кустоў і дробналесся?

*Вадаёмы*

16. Як называюцца рэкі, рэчкі, ручаі, што працякаюць на абследаванай тэрыторыі. Указаць, адкуль яны бяруць пачатак, куды ўпадаюць (пры неабходнасці і магчымасці – даўжыню, шырыню, глыбіню, хуткасць цячэння, колер вады, характар рэчышча, дна, берагоў (гліністыя, пясчаныя, камяністыя, ілістыя, топкія), асаблівасці поплава: шырокі, вузкі, балоцісты).

17. Якія назвы маюць рэчышчы перасохлых рэчак і ручаёў?

18. Назвы крыніцаў.

19. Назвы канаў, каналаў, пратокаў, рукавоў.

20. Назвы стаячых водаў: балотаў, азёраў, сажалак (ставаў), тарфянішчаў і г. д.

21. Назвы астравоў, паўастравоў, косаў, мысаў.

22. Назвы плёсаў, парогаў, перакатаў, меляў, вадаспадаў, асобных участкаў берага, прыбярэжных стромаў, заліваў, ліманаў.

23. Як называюцца пераправы, брады, прыстані, рыбалоўныя тоні, месцы для купання?

Прапанаваная праграма дазваляе збіраць матэрыял сістэмна, а не стыхійна. Кіруючыся ёю, збіральнік мае магчымасць праводзіць апытанне інфармантаў па асобных блоках, не пераскокваючы з адной тэмы на другую. Спачатку высвятляюцца ўсе вядомыя інфарманту назвы населеных пунктаў, затым – назвы рэльефу і г.д. Гэта спрыяе выяўленню адносна максімальнай колькасці мясцовых мікратапонімаў.

Да ліку падрыхтоўчых адносяцца таксама заняткі, прысвечаныя асновам картаграфавання, засваенню правілаў афармлення тапанімічных запісаў. Сабраныя тапанімічныя назвы афармляюцца на карткі. Карткі павінны быць аднолькавага памеру, звычайна 8 х 13 см. Асобная картка запаўняецца наступным чынам. Злева ўверсе запісваецца літаратурным пісьмом назва. У дужках спрошчанай транскрыпцыяй перадаецца яе вымаўленне. Калі ёсць неафіцыйная назва, то побач такім самым чынам падаецца і яна. Прыводзяцца граматычныя паметы, якія паказваюць на граматычны род тапоніма: мужчынскі род – *м.*, жаночы род – *ж.*, ніякі род – *н.* Калі тапонім мае толькі множны лік, то выкарыстоўваецца памета *мн.* Пры некаторых назвах паметы не падаюцца, напрыклад: *Пад кудрай, Каля шашы, За дубішчам.*

Затым даецца значэнне тапоніма, г. зн. называецца адпаведны аб’ект намінацыі: вёска, хутар, поле, паша, лес, сенажаць, рэчка, возера і інш. Указваецца месцазнаходжанне.

Калі ўдалося запісаць ілюстрацыйны прыклад ужывання тапоніма ад інфармантаў, то ён адлюстроўваецца на картцы спрошчанай транскрыпцыяй.

Кожная картка пашпартызуецца: указваецца населены пункт і адміністрацыйна-тэрытарыяльны раён, дзе запісана; прозвішча, імя, імя па бацьку, узрост інфарманта; прозвішча таго, хто запісаў, год запісу.

Гістарычна-этымалагічныя звесткі (афіцыйнае ці неафіцыйнае тлумачэнне паходжання назвы) таксама занатоўваюцца на картцы.

Калі адной старонкі карткі не хапае, то можна працягнуць запіс на адваротным баку. Калі для запісу замала адной карткі, то можна выкарыстаць дадатковыя карткі, пранумараваўшы іх старонкі і змацаваўшы разам.

*Узоры картак:*

Прыдоўгае *н.* (Прыдоўго). Неафіц. назва *Дарашкевічы мн.* Вёска за тры кіламетры на поўдзень ад в. Бершты Шчучынскага р-на. *Еццця на Дарашкевічы, там лепша дарога.* Запісана ад Лебядзевіча Віктара Іванавіча, 1948 г.н. М.П.Абухоўскім у 2008 г. у в. Бершты Шчучынскага р-на.

Паходзіць ад назвы возера *Доўгае*, неафіцыйная назва – ад прозвішча *Дарашкевіч*.

Тамарына дарога ж. (Тамарына дарога). Лясная дарога ка ля в. Бабіна Гродзенскага р-на. *На Тамарынуй дарозі натто много грыбоў расьце.* Запісана ад Даніловіч Галіны Кузьмінічны, 1928 г. н. М.П. Абухоўскім у 2008 г. у в. Бабіна Гродзенскага р-на.

Няпростай задачай аказваецца высвятленне лінгвістычных і пазалінгвістычных вытокаў геаграфічных назваў, але да гэтага трэба імкнуцца ў працэсе збірання і апрацоўкі матэрыялу.

Настаўніку неабходна правесці спецыяльныя заняткі, на якіх вучні даведваюцца, што асновай утварэння тапонімаў могуць быць агульныя назоўнікі (*Рог, Воўк*), імёны і прозвішчы людзей (*Сямёнаўка, Кудлачыха*), прыналежныя прыметнікі (*Дзямідкава, Кулінава*), назвы паселішчаў (рэчка *Хамутоўка* – ад вёскі *Хамуты*), назвы вадаёмаў (вёска *Котра* – ад рэчкі *Котра*) і інш., што існуюць такія спосабы ўтварэння тапонімаў, як семантычны (*Дуб, Грудок*), марфемны (*Паддуб, Дубінка, Задуб'е*), сінтаксічны (*Чортава возера, Белагруда, Лебядзінае*).

Утваральнай асновай шэрагу тапонімаў выступаюць словы, якія ўстарэлі ці наогул выйшлі з ужытку Гэта і спрадвечнабеларускія, і запазычаныя з іншых моваў адзінкі. Лексічная цьмянасць, загадкавасць такіх тапонімаў заўсёды прыцягвае да сябе ўвагу, у вучняў узнікае жаданне «дакапацца» да іх вытокаў. Напрыклад, яны са здзіўленнем даведваюцца, што назва вёскі *Машталеры* – гэта тое самае, што і па-беларуску *Канюхі* (marstall – слова сярэдневерхненямецкае, якое мела значэнне 'старшы конюх'), назва возера *Лакно* – ад балтызма laukininkas 'жыхар поля, селянін, земляроб').

Важна занатаваць аповеды мясцовых жыхароў пра паходжанне назвы. Легенды пра ўзнікненне вёсак, рэкаў, азёраў і інш. могуць быць самыя розныя і часта не супадаюць з навуковымі этымалагічнымі версіямі. Напрыклад, пра вёску *Струбніца* Мастоўскага раёна вучні запісалі такія звесткі: «Некалі ў лесе было многа звяроў, таму для тутэйшых жыхароў любімай справай было паляванне. Паляўнічыя трубілі ў ражкі, збіраючыся ў адно месца. Таму назва Струбніца пайшла ад слова *трубіць*». На самай справе ў аснове гэтай назвы – агульны назоўнік *струбніца* са значэннем 'сцёк, роў'.

Параўн. яшчэ: *Малькавічы* – «таму што раней у вёсцы былі маленькія хаткі»; *Каўбаскі* – «гэта гаворыць аб заможным жыцці нашых продкаў, у якіх не пераводзіліся на стале каўбасы»; *Свіслач* – «сюды перасяляліся людзі з Віслы»; *Цідовічы* – «назва пайшла ад польскага слова *cud*, адбылося зблытванне польскай літары *u* з рускай *и*»; *Багушоўка* – «праз гэтую мясцовасць Бог ішоў».

У савецкі час прыдумана нямала ідэалагізаваных этымалагічных тлумачэнняў, якія знайшлі сваё месца пераважна ў школьных і сельсаветаўскіх этнаграфічных кутках і музеях. Так, пра паходжанне вёскі *Дабраволя* Свіслацкага раёна склалі такую небыль:

«Вёска Дабраволя ўзнікла ў першай палове XIII ст. У той час на Гродзеншчыне, якая ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай, адбываліся шматлікія сялянскія выступленні за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Хаваючыся ад прыгнёту, сяляне ўцякалі ад сваіх памешчыкаў і феадалаў сюды ў пушчу. Прыкладана тады і ўзнікла ў дрымучым лесе пяць–шэсць хат, хат першых дабравольцаў».

З навукова-гістарычнага пункту гледжання гэтая легенда не вытрымлівае ніякай крытыкі. У Беларусі шмат назваў паселішчаў з коранем *вол(я)*. І заснавалі гэтыя паселішчы не ўцекачы-нявольнікі, а сяляне, якія асядалі на свабодных нерасчышчаных участках зямлі і па гэтай прычыне атрымлівалі ад дзяржавы пэўныя ільготы, вызваляліся ад многіх прыгонных павіннасцей і падатак, лічыліся вольнымі.

Назву вёскі *Шчорсы* Навагрудскага раёна спрабавалі звязаць з вядомым героем Грамадзянскай вайны М.А.Шчорсам. Нават у цэнтры вёскі помнік-бюст гэтаму герою паставілі. Але сам М.А.Шчорс тут ніколі не быў і ведаць не ведаў, што такая вёска ў Беларусі ёсць.

Пры збіранні тапанімічнага матэрыялу неабходна занатоўваць ўсякія этымалагічныя версіі, якія толькі існуюць. У ходзе далейшай працы настаўнік дапаможа вучням разабрацца, якая з іх найбольш адпавядае сапраўднасці, а якая створана фантазіяй народа ці асобных людзей.

Вельмі добра, калі вучні зробяць аўтэнтычны запіс, асабліва тых народных легендаў, якія сталі здабыткам вуснай народнай творчасці і пераказваюцца ў якасці фальклорных твораў. Вось прыклад такога запісу пра раку Вілію, зроблены ў в. Альхоўка Астравецкага раёна (па тэхнічных прычынах націскны галосны абазначаны курсівам):

«Пэўна раскажу табе пра Вяльлю нашую, што за Альхоўкай цячэць. Было гэта натта даўно. Тэй парой і мяне ні было, і бабы тваей ні было. Жыў каваль адзін, і называўся Сьцяпанам. Гэты Сьцяпан стройны быў натта чалавек, натта ўмеў усё рабіць. Што чалавек ні скажа – усё зробя. Алі жа ш адзін быў: ні маткі ні меў, ні жонкі. А ў вёсцы тэй дзяўчына натта харошая жыла. І дзяўчына гэтая тэш нешта мела да Сьцяпана. А Сьцяпан жа ш той нічога ні знаў, а ўжо дзеўку тую так любіў, што і ні расказаць. Хадзіліі любілі адзін аднаго, і ні зналі пра гэта. Раз ноч была на двары. Цёмна былохоць вока калі. Сьцяпан сядзеў у хаце і гараваў, а потым сабраўся і пайшоў у поле. У полі гэтым быў вялікі камень. Сеў хлапец каля гэтага каменю і пачаў сьлёзы ліць. А тут пяруны пачалі страляць, дождж уліў. Маланкі бліскалі і бліскалі. Аднэй зь іх забіла Сьцяпана. Раніцай бабы ішлі рабіць на поле і ўвідзялі каля каменю вялікі чорны роў. Зразу і ні понялі нічога, а потым пачалі казаць у вёсца, што гэта месца, дзе Сьцяпан згінуў. Дзяўчына гэтая, ну, Сьцяпанавая, гаравала натта. Пайшла ўночы да гэтага каменя і так ужо галасіла, што сама ў ваду выцякла разам са сваімі сьлязьмі. Німа шчасьця. Так во і пачалася Вяльля, з каменю і слёзаў дзяўчыны, што галасіла каля гэнага каменю».

Пасля падрыхтоўчых заняткаў, калі вучні засвояць пэўныя веды і атрымаюць навыкі збіральніцкай працы, можна пачынаць непасрэднае збіранне тапанімічнага матэрыялу. Яно можа быць індывідуальным ці групавым. У першым выпадку вучань запісвае тапанімічныя назвы ад бацькоў, родзічаў, суседзяў самастойна адпаведна праграме. У групавым збіранні ўдзельнічаюць некалькі вучняў, звычайна пад кіраўніцтвам настаўніка, як у сваёй роднай вёсцы, так і за яе межамі.

Вучні ахвотна займаюцца гэтым у паходах-экспедыцыях па родным краі. Маршрут паходу настаўнік разам з вучнямі плануе зараней, зважаючы на тое, каб ахапіць пэўную колькасць населеных пунктаў, пагутарыць з інфармантамі і здабыць ад іх патрэбныя звесткі. Цікава адбываюцца паходы ўздоўж рэк, на шляху якіх заўсёды сустракаюцца вёскі. Вывучэнне тапаніміі басейна невялікай ці адносна невялікай ракі, пачынаючы з вытоку і заканчваючы вусцем, – пасільная для вучняў задача. Яе можна рэалізаваць не за адзін, а за некалькі гадоў, наладзіўшы шэраг экспедыцый.

Тапанімічны матэрыял запісваецца ад розных вяскоўцаў. Зразумела, найлепшыя звесткі дадуць карэнныя жыхары, якія шмат гадоў пражылі ў гэтай мясцовасці. Добра ведаюць мікратапанімічныя ландшафты леснікі, паляўнічыя, рыбакі, грыбнікі.

На аснове зробленых і належным чынам афомленых запісаў складаецца школьная тапанімічная картатэка. Матэрыялы картатэкі настаўнік з поспехам можа выкарыстаць на ўроках беларускай мовы і ў розных пазакласных мерапрыемствах. Гісторыя геаграфічных назваў можа быць раскрыта вучнямі ў творчых працах, сачыненнях і пераказах, прысвечаных роднаму краю. Зборы ўласных геграфчных найменняў прыдатныя да такіх відаў творчай дзейнасці, як стварэнне мікратапанімічных картаў і атласаў,

складанне мікратапанімічнага слоўніка пэўнага рэгіёну (ваколіцаў асобнай вёскі, сельсавета, раёна). У апошнія гады ўсё большае пашырэнне ў школе атрымлівае навуковая праца вучняў, у гэтым плане тапонімы – вельмі даступны і пасільны на вучнёўскім узроўні прадмет даследавання.

Тапанімічная праца пад кіраўніцтвам творчага, ініцыятыўнага, захопленага такой справай настаўніка можа стаць выдатным сродкам навучання, выхавання ў вучняў дапытлівасці, назіральнасці, развіцця патрыятычных пачуццяў.

### *Літаратура*


1. Якуба, С.М. Беларуская тапанімія : праграма курса на выбар для X класа / С.М. Якуба // Беларуская мова і літаратура. – 2007. – № 10. – С. 11–15.
2. Емельяновіч, В.М. Тапанімічны гурток / В.М. Емельяновіч // Народная асвета. – 1987. – № 6. – С. 52–55.
3. Жучкевич, В.А. Топонимика Белоруссии / В.А. Жучкевич. – Минск, 1968.
4. Яшкін, І.Я. Беларускія геаграфічныя назвы / І.Я. Яшкін. – Мінск, 1972.
5. Лемцюгова, В.П. Беларуская айканімія / В.П. Лемцюгова. – Мінск, 1970.
6. Мезенка, А.М. Беларуская анамастыка / А.М. Мезенка. – Мінск, 1997.
7. Лыч, Н.М. Назвы зямлі беларускай / Н.М. Лыч. – Мінск, 1994.
8. Рогалев, А.Ф. Этнотопонимия Беларуси (на фоне этнической истории). / А.Ф. Рогалев. – Гомель, 1993.
9. Беларуская мова: Энцыклапедыя. – Мінск, 1994.
10. Гл.: Мікратапанімія Беларусі. – Мінск, 1974; Жучкевич, В.А. Краткий топонимический словарь Белоруссии / В.А. Жучкевич. – Минск, 1974; Яшкін, І.Я.Слоўнік мясцовых геаграфічных тэрмінаў: Тапаграфія. Гідралогія / І.Я. Яшкін. – Мінск, 2005; Слоўнік мікратапонімаў Магілёўшчыны. – Магілёў, 2004; Ламака, В.М. Анамастычны слоўнік Гродзеншчыны: У 2 ч. Ч. 1. Мікратапонімы / В.М. Ламака, Ж.С. Сіпліееня, П.У. Сцяцко, Т.А. Якубовіч. – Гродна, 2005.
11. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гродзенская вобласць / пад рэд. В. Лемцюговай. – Мінск, 2004.
12. Гл.: Шуба, П.П. Кароткі апытальнік па тапаніміцы / П.П. Шуба // Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў беларускай мовы. Вып. І. – Мінск, 1959. – С. 99–103; Акаловіч, Л.А**.** Праграма па збіранню тапаніміі Беларусі / Л.А. Акаловіч. – Мінск, 1966.


---


Першая публікацыя ў часопісе: *Роднае слова. – 2009. – № 2. – С. 94–98.*

# Раздзел 5
# РЭЦЭНЗІІ

## НОВАЕ СЛОВА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПАРЭМІЯЛОГІІ

***Лепешаў, І.Я.*** *Парэміялогія як асобны раздзел мовазнаўства: дапам. / І.Я. Лепешаў. – Гродна: ГрДУ, 2006. – 279 с.*

Беларускія прыказкі цікавяць даследчыкаў мовы і фальклору на працягу доўгага часу. Гэтым сціслым, трапным, высокамастацкім творам прысвечаны шматлікія зборнікі, манаграфіі, артыкулы. Вось і нядаўна ў выдавецкім цэнтры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта апублікавана кніга І. Лепешава «Парэміялогія як асобны раздзел мовазнаўства» (2006 г.). На тытульным лісце значыцца, што яна навучальны дапаможнік для студэнтаў-філолагаў, але, па сутнасці, перад намі грунтоўная манаграфія, якая паводле ахопу і глыбіні вырашаных праблем не мае сабе роўных ні ў айчыннай, ні ў замежнай парэміялогіі.

Стварэнне працы высокага тэарэтычнага ўзроўню стала магчымым таму, што яе аўтар многа гадоў сур'ёзна займаўся збіраннем і вывучэннем прыказак, вынікам чаго сталі дзясяткі публікацый, адна з якіх – тлумачальны «Слоўнік беларускіх прыказак» ( 3-е выд., Мінск, 2006).

Уражвае багацце фактычнага матэрыялу, на якім грунтуецца манаграфія. І. Лепешаву давялося прачытаць амаль усю беларускую мастацкую літаратуру, каб адшукаць і выпісаць дзясяткі тысяч прыказкавых цытат. Кідаецца ў вочы свабодная арыентацыя даследчыка ў тэарэтычнай літаратуры. Яму вядома ўсё, што пісалі пра прыказкі папярэднікі, пачынаючы з вялікіх (У. Даль, А. Патабня, Б.Дж. Уайтынг, Я. Карскі, К. Крапіва) і заканчваючы школьным настаўнікам. Працу І. Лепешава з поўнай падставай можна назваць энцыклапедычнай, да таго ж скрозь прасякнутай уласнымі ідэямі, адкрыццямі, а таксама крытычнымі заўвагамі і ўдакладненнямі да многіх ранейшых меркаванняў і вывадаў іншых аўтараў.

Праз усю кнігу праходзіць ідэя, што прыказкі – асобныя моўныя адзінкі і павінны вывучацца не толькі і не столькі ў фальклоры, колькі ў мовазнаўстве. Прычым іх трэба разглядаць асобна ад фразеалагізмаў, бо паміж прыказкамі і фразеалагізмамі існуюць прынцыповыя адрозненні лагічнага, структурнага, сінтаксічна-функцыйнага і спалучальнага плана. Вельмі слушным падаецца нам наступнае выказванне: «Гэтак жа, як у мовазнаўстве існуюць раздзелы «Лексікалогія» і «Лексікаграфія», «Фразеалогія» і «Фразеаграфія», павінны быць у курсе сучаснай беларускай літаратурнай мовы і раздзелы «Парэміялогія» і «Парэміяграфія». У такім разе прыказкі перастануць быць беспрытульнымі і зоймуць сваё законнае, належнае ім месца ў курсе мовы як у вышэйшай, так і ў сярэдняй школе» (с. 12). Гэтае сцверджанне канкрэтызуецца ўсім зместам кнігі: прыказкі аналізуюцца living рознабакова і сістэмна з лінгвістычнага пункту гледжання.

Ва «Уводзінах» ставяцца і вырашаюцца важныя канцэптуальныя пытанні. Затым у чатырох раздзелах даецца семантычная, этымалагічная, граматычная і стылістычная

характарыстыка прыказак. Вось, напрыклад, якія праблемы вырашаюцца ў раздзеле «Семантычная характарыстыка прыказак»: азначэнне прыказкі, сэнсавая класіфікацыя прыказак, сістэмныя сувязі ў парэміялогіі, сінанімічнасць, варыянтнасць, мнагазначнасць прыказак, прыказкі сітуацыйныя і кантэкстуальныя.

Тэорыя і практыка складання тлумачальных, перакладных і іншых парэмійных слоўнікаў разглядаецца ў асобным раздзеле «Парэміяграфія». Тут аналізуюцца слоўнікі беларускіх прыказак І. Насовіча, М. Федароўскага, І. Шкрабы і Р. Шкрабы, С. Івановай і Я. Іванова, А. Аксамітава і інш.

Значнае месца ў працы займае лінгвадыдактычны аспект. Аўтар уважліва аналізуе інтэрпрэтацыі прыказак у падручніках і дапаможніках для студэнтаў і вучняў школ. Ён, напрыклад, лічыць не зусім слушным, перабольшаным распаўсюджанае меркаванне, што, якая б тэма ні закраналася па роднай мове, прыказкі – зручны ілюстрацыйны матэрыял. Даказвае, што няма патрэбы штучна прывязваць прыказкі да шмат якіх праграмных тэмаў, бо гэта можа толькі шкодзіць адэкватнаму асэнсаванню моўных фактаў. Так, у сінтаксічна непадзельных алегарычных прыказках вызначэнне галоўных і даданых членаў (у практыцы выкладання мовы частая з'ява) з'яўляецца немэтазгодным, «пярэчыць здароваму сэнсу» (с. 128). І. Лепешавым упешыню прапануецца парадак сінтаксічнага аналізу прыказак, падаюцца ўзоры такога аналізу.

У канцы кнігі пад загалоўкам «Практыкум» змешчаны непасрэдна дыдактычны матэрыял, які дапаможа студэнтам лепш засвоіць тэарэтычныя пытанні. Даюцца 64 практыкаванні па тэмах, выкладзеных на папярэдніх старонках. Усе заданні змястоўныя, арыгінальныя. Падабраны такія сказы, пераважна з твораў пісьменнікаў, якія з'яўляюцца не толькі ілюстрацыямі ўжывання прыказак, але маюць і пазнавальна-выхаваўчую каштоўнасць.

Кніга І. Лепешава карысная і навукоўцу, і студэнту, і настаўніку, і кожнаму, каму цікава і люба роднае слова. Яна будзе вельмі неабходнай стваральнікам новых навучальных праграм і падручнікаў па курсе сучаснай беларускай мовы.

---

Першая публікацыя ў часопісе: *Роднае слова. – 2007. – № 4. – С. 65.*

## НОВЫ НАРМАТЫЎНЫ СЛОЎНІК ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ

***Лепешаў, І.Я.*** *Слоўнік фразеалагізмаў: у 2 т. – Мінск: Беларус. Энцыклапедыя імя П.Броўкі, 2008. – Т. 1. – 672 с.; Т. 2. – 704 с.*

У 2008 годзе выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» выпусціла двухтомную працу І. Лепешава «Слоўнік фразеалагізмаў беларускай мовы». Пры разнабоі поглядаў на сутнасць фразеалагізмаў аўтар паслядоўна прытрымліваецца так званага «вузкага» разумення фразеалогіі. У Слоўнік уключаны толькі такія ўстойлівыя звароты, якія маюць цэласны сэнс і ў сказе спалучаюцца са словамі (адзінствы і зрашчэнні). За межамі Слоўніка аказаліся: словазлучэнні, у якіх адно слова мае фразеалагічна звязнае, а другое – свабоднае значэнне (тыпу *страх бярэ*); апісальныя дзеяслоўна-іменныя звароты (*даваць згоду*); састаўныя тэрміны (*лімонная кіслата*); крылатыя словы і неператасэнсаваныя крылатыя выразы (*прыйшоў, убачыў, перамог*); прыказкі (*Яблык ад яблыні далёка не падае*).

Праца стваралася на аснове выдадзенага ў 1993 годзе «Фразеалагічнага слоўніка беларускай мовы» гэтага ж аўтара. Новы двухтомнік значна адрозніваецца ад папярэдняга. Калі ў першым выданні лексікаграфічна апісана каля 6000 фразеалагічных адзінак, то цяпер іх каля 7000. Апрача таго, зроблены шматлікія папраўкі. У «Прадмове» гаворыцца пра характар асноўных унесеных змяненняў. Так, дадаткова апісваюцца каля 800 фразеалагічных адзінак, якія склаліся нядаўна і сталі актыўна ўжывацца ў перыядычным друку і мастацкіх тэкстах, а таксама такія, што існавалі ў беларускай літаратурнай мове, відаць, і раней, але па розных прычынах не трапілі ў выданне 1993 г.: *выціраць ногі* аб каго, *галаўны боль, дах паехаў* у каго, *з пекла родам* і інш. Унесена шмат удакладненняў і дапаўненняў у семантычную характарыстыку раней апісаных фразеалагізмаў (мнагазначнасць, варыянтнасць, сінанімічнасць, антанімічнасць). Некаторыя фразеалагізмы, пададзеныя ў першым выданні як адназначныя, як паказвае маўленчая практыка апошніх гадоў, маюць не адно, а два значэнні (напрыклад: *душа ў душу, ні божа мой*). У асобных выразах, раней пададзеных з двума значэннямі, выяўлена і трэцяе значэнне.

Слоўнік І. Лепешава мае відавочную перавагу над аналагічнымі слоўнікамі іншых моў (рускай, украінскай, польскай і г. д.). Напрыклад, у «Фразеологическом словаре русского языка» пад рэд. А. Малаткова (аўтары – калектыў з чатырох чалавек; упершыню выдадзены ў 1967 годзе, а пасля без якіх-небудзь змяненняў тройчы перавыдадзены) апісана каля 4000 фразеалагічных зваротаў. У працы І. Лепешава агульная колькасць фразеалагічных адзінак значна большая. Фразеалагічныя слоўнікі іншых моў належаць да тыпу тлумачальных. А ў І. Лепешава кожны фразеалагізм атрымаў трохбаковую характарыстыку: семантычную, граматычную, стылістычную. У семантычную характарыстыку ўваходзяць як тлумачальная частка, так і адлюстраванне сінанімічных і антанімічных адносін паміж фразеалагізмамі. Таму Слоўнік І. Лепешава адначасова і тлумачальны, і сінанімічны, і антанімічны. Больш таго, Слоўнік бярэ на сябе функцыі акцэнталагічнага, арфаграфічнага, граматычнага і стылістычнага даведнікаў. Над кампанентамі ў фразеалагізме абазначана месца націску. Паказана напісанне фразеалагізма ў межах нормы. Паспяхова вырашана праблема стылістычнай характарыстыкі: аўтар пераконвае, што сэнсавая структура фразеалагізма ўключае ў сябе і стылістычнае значэнне, яно раскрываецца з дапамогай фукцыянальна-стылявых і экспрэсіўна-ацэначных памет. Даецца вычарпальная граматычная характарыстыка кожнага фразеалагізма: зменнасць ці нязменнасць марфалагічнай формы, спалучальнасць са словамі, сінтаксічная роля ў сказе. Тут і правілы пунктуацыі ў фразеалогіі, і правілы напісання фразеалагізмаў. Напрыклад, Слоўнік арыентуе на недапушчальнасць пастаноўкі коскі ў такіх структурах, як *ні жывы ні мёртвы, ні кала ні двара, і так і гэтак,* ліквідуе разнабой у напісанні некаторых фразеалагізмаў. Так, з чатырох варыянтаў фразеалагізма *браць на цугундар (цугундры, цугундзер, цыгундар)*, сустрэтых у друку, у якасці нарматыўнага прапануецца толькі першы – *браць на цугундар.* Пра ўсё гэта можна прачытаць у салідным уступе, дзе выкладаецца канцэпцыя Слоўніка і методыка яго ўкладання.

І. Лепешаў адзін зрабіў тое, што пад сілу не кожнаму калектыву. На працягу ўсяго навукова-творчага перыяду свайго жыцця ён уважліва прачытваў творы мастацкай літаратуры і публіцыстыкі, рабіў выпіскі знойдзеных фразеалагізмаў, пастаянна папаўняючы імі сваю картатэку. Уражвае сіс крыніц Слоўніка – творы 485 беларускіх

аўтараў, пераважна пісьменнікаў, а таксама шматлікія перыядычныя выданні. Можна сказаць, «перабрана» ўся беларуская мастацкая літаратура, складзена больш як 100-тысячная картатэка фразеалагізмаў беларускай літаратурнай мовы. Толькі на такім шырокім фактычным матэрыяле і стала магчымым стварэнне новага адносна поўнага нарматыўнага Слоўніка.

Працу высокага навуковага ўзроўню І. Лепешаву здзейсніць удалося таму, што на працягу многіх гадоў ён плённа распрацоўваў тэорыю фразеалогіі і фразеаграфіі, і гэта знайшло адлюстраванне ў дзясятках яго манаграфій і дапаможнікаў, сотнях артыкулаў. Ідэі і адкрыцці вучонага атрымалі прыдатнае ўвасабленне ў Слоўніку. Усе яны важныя і слушныя. З адным толькі не хочацца пагадзіцца. І ў ранейшых сваіх працах, і ў новым Слоўніку аўтар прапагандуе напісанне кампанентаў (з былога ўласнага назоўніка) у складзе фразеалагізмаў з малой літары *(куды макар цялят не ганяў, як швед пад палтавай, мукі тантала),* матывуючы гэта тым, што фразеалагічны кампанент не мае свайго самастойнага значэння, страчвае анамастычную функцыю. На нашу думку, незалежна ад характару пераўтварэння ўласнага імя ў складзе фразеалагізмаў мэтазгодна перадаваць яго на пісьме з вялікай літары. Інакш арфаграфія ўскладніцца дадатковымі правіламі, а пісьмовая практыка выкарыстання фразеалагізмаў рызыкуе стаць нестабільнай, што прывядзе да частых маўленчых памылак з пункту гледжання «стракатасці» новастворaных правапісных нормаў. Выказаныя аргументы не пярэчаць такому прынцыпу арфаграфіі, як традыцыйны, здольны ўніфікаваць, забяспечыць аднастайнасць і зручнасць напісання анамастычных назваў і па-за фразеалагізмамі, і ў фразеалагізмах.

«Слоўнік фразеалагізмаў» І. Лепешава – фундаментальная навуковая праца, вялікае дасягненне вучонага, важкі набытак беларускай лінгвістыкі. Яго з поўным правам можна аднесці да нацыянальнаых каштоўнасцей (накшталт такіх, як «Новая зямля» Якуба Коласа, «Беларусы» Яўхіма Карскага, творчасць Васіля Быкава), што вызначаюць ў міжнароднай супольнасці твар Беларусі, самабытнасць і багацце яе мовы і культуры.

---

Першая публікацыя ў часопісе: *Роднае слова. – 2008. – № 12. – С. 64.*

## НОВАЕ СЛОЎНІКАВАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК

***Зайка, А.*** *Дыялектны слоўнік Касаўшчыны / А. Зайка. – Слонім: Слонімская друкарня, 2011. – 272 с.*

Навуковае даследаванне лексікі беларускай дыялектнай мовы мае значныя набыткі. За апошняе паўстагоддзе сіламі вучоных і краязнаўцаў-аматараў сабраны салідныя калекцыі слоў жывой народнай мовы, складзены і выдадзены дзясяткі аўтарытэтных абласных слоўнікаў. Для навукі і культуры не менш важнымі з’яўляюцца слоўнікі, якія ахопліваюць лексіку меншых рэгіёнаў: аднаго раёна, сельсавета, нават аднаго населенага пункта. Гродзеншчына мела два такія слоўнікі.

У 2011 годзе беларуская дыялектная лексікаграфія ўзбагацілася яшчэ адной працай – «Дыялектны слоўнік Косаўшчыны» Алеся Зайкі, апублікаваны ў выдавецтве «Слонімская друкарня». Косаўшчына – паўночная частка Івацэвіцкага раёна. Цэнтрам

яе з'яўляецца Косава – старажытнае мястэчка, якое ўпершыню ў пісьмовых крыніцах згадваецца ў 1494 годзе. У адміністрацыйна-тэрытарыяльным плане Косаўшчына сёння належыць Брэсцкай вобласці, але ў этнічна-моўна-культурных адносінах гэта ўскраіна Гродзеншчыны, размешчаная на высокай градзе – мяжы вялікага водападзелу паміж Чорным і Балтыйскім морамі. У часы Вялікага Княства Літоўскага і Расійскай імперыі Косаўшчына ўваходзіла ў склад Слонімскага павета, праз Косава праходзіў стратэгічна важны гандлёвы шлях з Вільні на Валынь. Косаўшчына знакамітая тым, што з'яўляецца радзімай Тадэвуша Касцюшкі, нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы і ЗША.

Мова жыхароў Косава і яго ваколіц такая самая, як, напрыклад, у Гродзенскім, Ваўкавыскім, Мастоўскім, Зэльвенскім, Слонімскім раёнах. Невыпадкова вучоныя разглядаюць мову Косаўшчыны ў межах так званай гродзенска-баранавіцкай групы гаворак, аднатыповай у моўных адносінах. Таму «Дыялектны слоўнік Косаўшчыны» з поўным правам можна залічваць да шэрагу слоўнікаў Гродзеншчыны.

Аўтарам Слоўніка з'яўляецца Алесь Фаміч Зайка, жыхар вёскі Заполле Івацэвіцкага раёна, былы настаўнік, цяпер загадчык школьнага этнаграфічнага музея, вядомы краязнавец, улюбёны ў сваю родную Косаўшчыну. 35 гадоў Алесь Фаміч вывучае гаворкі Косаўшчыны. Абышоў, аб'ездзіў усе навакольныя вёскі і хутары, тысячы разоў сустракаўся з мясцовымі жыхарамі, каб у гутарцы з імі пачуць і занатаваць цікавыя словы, фразеалагізмы, прыказкі, фальклорныя творы, гістарычныя аповеды і інш. Сабраная асабіста картатэка слоў і стала асновай «Дыялектнага слоўніка Косаўшчыны».

Слоўнік мае дыферэнцыйны характар, бо ўключае ў сябе толькі дыялектныя лексічныя адзінкі (каля 4000). Сярод іх пераважаюць уласна лексічныя дыялектызмы – словы, якія не засведчаны слоўнікамі літаратурнай мовы, напрыклад: *бурвалак* 'здаровае, тоўстае дзіця', *гаматны* 'завялікі, прасторны (пра вопратку)', *жыркі* 'непераборлівы ў ядзе', *закло* 'закутак пры балоце, лузе, сенажаці', *копнуцца* 'спалохацца, уздрыгануць'. Сустракаюцца і іншыя тыпы дыялектызмаў: фанетычныя – словы, якія адрозніваюцца ад літаратурных адпаведнікаў асобнымі гукамі: *гэдак, дромны, жвыр, зазуля, сакера*; словаўтваральныя – арозніваюцца словаўтваральнымі марфемамі (прыстаўкамі, суфіксамі): *галаваты* – галавасты, *гумніско* – гумнішча, *навалака* – навалачка, *замежак* – узмежак; марфалагічныя – адрозніваюцца марфалагічнымі формамі: *грыпа* – грып, *запалок* – запалка.

Слоўнік адлюстроўвае семантычнае багацце дыялектнай лексікі. Прыводзіцца шэраг слоў мнагазначных ці тых, якія ўступаюць паміж сабой у аманімічныя адносіны. Так, на Косаўшчыне вядомы два словы-амонімы *лабан*-1 і *лабан*-2. Першае мае значэнне 'карова без рог', другое – 'узгорак з пакатымі схіламі'. Многія словы з агульнанароднымі значэннямі дадаткова развілі рэгіянальныя значэнні, якія гэтым словам ў літаратурнай мове невядомы: *вываліцца* 'вырасці высокім, выцягнуцца', *выдра* 'сварлівая жанчына', *даганяць* 'папракаць', *дух* 'цяпло', *зажыць* 'заснаваць, засяліць', *западаць* 'хварэць', *мяснік* 'чалавек, які любіць есці мяса', *намуціць* 'сказаць няпраўду, абмануць'.

Зробленая аўтарам падборка слоў тэматычна разнастайная. Яны ахопліваюць шматлікія з'вы рэчаіснасці, такія, як «чалавек», «адносіны паміж людзьмі», «вытворчасць», «прырода» і інш. Вялікая ўвага надаецца спецыяльнай лексіцы – словам, што выкарыстоўваюцца толькі ў пэўных сферах чалавечай дзейнасці, напрыклад: ткацтве – *гіба, датыкі, збайкі, зява, кабылка, напружкі, пруток;* будаўніцтве – *завушына, клюба, прышвы;* рыбацтве – *верцюжок, кусачык, пад'язык, чаўначок;* медыцыне

– *жаўцюха, колка, малачай;* расліназнаўстве – *боцікі, варшаўка, воўчая мята, жабурэнне, настулькі, прыбалатуха.*

Цікавыя звесткі даюць этнаграфічныя дыялектызмы – назвы мясцовых прадметаў і з’яў, якія невядомыя ці мала вядомыя ў іншых рэгіёнах: *забойня* ‘бочка ў паўтара метра, куды ссыпалі збожжа’, *котліны* ‘тонкія жэрдачкі, якімі пашыраюць воз, сані’, *кузьма* ‘пасудзіна для ягад, зробленая з кары дрэў’, *драбест* ‘скручаныя бярозавыя ці лазовыя дубцы, якімі мацавалі латы да крокваў’.

У слоўніку шмат арыгінальных слоў, якія пры адпаведных умовах маглі б стаць літаратурнымі. Гэта часта вобразныя, гаваркія назвы паняццяў, што не атрымалі ў літаратурнай мове спецыяльнага лесічнага абазначэння, а перадаюцца аналітычнымі канструкцыямі ці апісальна: *гадавічок* ‘невялікі шчупак’, *ветрына* ‘асаблівы пах, які чуваць ад сабакі’, *некаш* ‘перастоеная, няскошаная трава’, *вішар* ‘не скошаная да марозу трава’, *гумоўцы* ‘жаночы гумовы абутак з кароткімі халяўкамі’, *ватовікі* ‘ватовыя штаны’, *заквечваць* ‘упрыгожваць кветкамі’, *красько* ‘здаровы, чырванашчокі, прыгожы чалавек’, *кухлік* ‘чалавек, які ўвесь час кашляе’, *прыдбач* ‘дзіця, якое нарадзілася раней, чым праз дзевяць месяцаў пасля шлюбу’.

Слоўнік Алеся Зайкі засведчыў бытаванне на Касаўшчыне вялікай колькасці эмацыянальна афарбаваных слоў, якія выкарыстоўваюцца для характарыстыкі разнастайных, звычайна адмоўных, якасцей асобы: *бздычка* ‘нервовая, нястрымная жанчына’, *бізун* ‘неслух’, *валюля* ‘марудны, павольны чалавек’, *капіца* ‘тоўстая, прысадзістая жанчына’, *ламіна* ‘гультай, лежабока’, *носаль* ‘чалавек з вялікім носам’.

Гаворкі Касаўшчыны ў розныя гістарычныя перыяды мелі пэўныя стасункі з іншымі мовамі, пераважна суседнімі, таму слоўнік гэтага рэгіёну ўвабраў у сябе, акрамя спрадвечнабеларускіх, некаторую частку слоў з іншых моў, у першую чаргу польскай *(адправэндзіць, вычыт, гавэнда, гнэмбіць, заўзенты, заўша, лонка, мэнка)* і ўкраінскай *(дзівіцца, доня, ляк).*

Алесь Зайка больш за трыццаць гадоў рабіў запісы мясцовых гаворак. За гэты час давялося заўважыць пэўную гістарычную зменлівасць лексікі, занатаваць словы, якія сёння ўстарэлі і выкарыстоўваюцца пасіўна: *асён* ‘мера даўжыні ў тры аршыны’, *васьмуха* ‘восьмая частка зямельнага надзела’, *вахтар* ‘пасрэднік пры продажы ці куплі жывёлы’, *вужоўка* ‘бярозавы дубец, скручаны ў круцель, служыў для замацавання аглобляў да саней’, *граня* ‘мяжа, граніца’, *дравяное* ‘плата за дровы’, *казённікі* ‘дзяржаўныя сяляне ў час прыгону’.

Не абыдзены ўвагай і неалагізмы – словы, што ўзніклі адносна нядаўна і характарызуюцца адценнем навізны: *бычатнік* ‘будынак, дзе стаяць на адкорме быкі’, *малочнік* ‘чалавек, які збірае малако’, *навільнік* ‘колькасць сена, саломы і інш., узятае за адзін раз на вілы’, *партызаніць* ‘употай касіць на чужой сенажаці’.

Якасць Слоўніка узмацняецца тым, што аўтар яго ведае мову Касаўшчыны не як назіральнік у часовых дыялекталагічных экспедыцыях, а засвоіў яе з малаком маці і знаходзіцца ў яе стыхіі штодзённа. Тонка адчувае лексічнае і эмацыянальнае значэнне слова, умее дакладна сфармуляваць яго.

Алесь Зайка імкнецца ў сцісым слоўнікавым артыкуле паказаць слова ва ўсёй яго прывабнасці, прыгажосці. Вельмі ўдала падабраны да слоў ілюстрацыйныя прыклады – фрагменты жывой мовы канкрэтных людзей, ад якіх непасрэдна зроблены дыялекталагічныя запісы. З іх можна чэрпаць шматлікую інфармацыю пра быт, звычкі,

працу, абрады, духоўнае жыццё мясцовага насельніцтва. Напрыклад, слова *калюкі* 'кветкавыя кошыкі бадзяка балотнага, лопуха вялікага' падмацоўваецца такім кантэкстам: *Калюкі, шчо на лопусе растуць, рвуць, сушаць і абкурваюць імі ад пярэпалахоў. Вельмі гэто памагая, але трэба рваць у такім месці, дзе ні пачуяш спевы петуха.* У артыкуле да слова *квас* 'суп, галоўным кампанентам якога з'яўляюцца грыбы' знаходзім гатовы рэцэпт ужо ў пэўнай ступені забытай беларускай нацыянальнай стравы: *Як варадь квас з грыбоў? Вада, добрую костку туды, картопліка ўкрышыш, жменьку круп укіняш, а тады грыбы сушаныя, добра перамытыя. Цыбулінку дабавіш, лаўроваго ліста, укропу. Смачно, за вушы ні адцягняш.*

Многія прыклады аздоблены малымі фальклорнымі адзінкамі – прыказкамі, фразеалагізмамі, народнымі прыкметамі, загадкамі анекдотамі, мудрымі выказваннямі вяскоўцаў: *Гарэлка – гадота, ні адарвеш ад рота; Як судзіна поўна, то і гаспадынька моўна; Калі вядрона рабіна, то восянь будзя мокрая; Серад хаты вісіць чорт лупаты* [лямпа]; *Чалавек, лічаць, абжыўся тады, калі прысаддзе павырастало.*

На заканчэнне варта сказаць, што «Дыялектны слоўнік Косаўшчыны», створаны краязнаўцам-аматарам, і падборкай матэрыялаў, і зместавай напоўненасцю, і методыкай лексікаграфічнага афармлення не саступае па сваёй якасці ранейшым дыялектным слоўнікам, якія складаліся прафесійнымі лінгвістамі. Праца Алеся Зайкі – набытак, значны і для Гродзеншчыны, і для Брэстчыны, і ў цэлым для беларускай лінгвістычнай навукі і культуры. Слоўнік карысны для філолагаў, журналістаў, пісьменнікаў, а таксама для этнографаў, гісторыкаў, культуролагаў – усіх, хто цікавіцца народным словам.

---

Першая публікацыя ў газеце: *Краязнаўчая газета. – 2012. – № 17 (418). – С. 6.*

## ЭТНАЛІНГВІСТЫЧНАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ БЕЛАРУСКАЙ ФРАЗЕАЛОГІІ

***Садоўская, А.Л.*** *Фразеалагізмы з кампанентам-арнітонімам у беларускай мове: этналінгвістычны аспект / А.Л. Садоўская. – Мінск: БДУ, 2011. – 271 с.*

Аналіз лексічнага складу фразеалагізмаў у беларускай лінгвістыцы яшчэ толькі пачынаецца, хоць сама гэта праблема акрэслілася раней. Яшчэ ў 1971 годзе на Самаркандскім фразеалагічным сімпозіуме вучонымі былога Савецкага Саюза выказвалася думка пра магчымасць і неабходнасць вывучэння слоўніка кампанентаў фразеалагізмаў. Важнасць такога вывучэння неаднаразова падкрэслівалі вядомыя прадстаўнікі рускай і ўсходнеславянскай фразеалагічнай навукі У.П. Жукаў і В.М.Макіенка. Надзённасць згаданай праблемы ўзмацняецца і патрэбамі вывучэння мовы на новым узроўні – этналінгвістычным. І гэта не столькі даніна модзе, колькі неабходнасць пазнання і самапазнання сённяшняга чалавека на фоне шматвяковых духоўных традыцый. Мова выступае не толькі сродкам камунікацыі, але і акумулюе ў сабе практычны і культурны вопыт людзей, выпрацаваны на працягу тысячагоддзяў. Асаблівае месца ў гэтым плане займаюць фразеалагізмы – мікракантэксты, якія закансервавалі фрагменты народных традыцый і лепш за іншыя адзінкі вызначаюць нацыянальную спецыфіку мовы.

У рэчышчы сказанага бачыцца актуальнасць тэмы манаграіі А.Л. Садоўскай, дзе ўпершыню даецца сістэмнае этналінгвістычнае апісанне беларускіх фразеалагізмаў

з кампанентам-арнітонімам. Да гэтага ніводнае тэматычнае аб'яднанне слоў, што ўваходзіць у кампанентную структуру фразеалагізмаў, не было ў беларусістыцы прадметам спецыяльнага манаграфічнага апісання з этналінгвістычнага пункту гледжання.

Зварот да вывучэння арнітонімаў не выпадковы. Назвы птушак, як і назвы жывёл наогул, выступаюць істотным фразеаўтваральным элементам, што дыктуецца значнасцю адпаведных рэалій у практычным і духоўным жыцці чалавека.

Непасрэднаму аналізу фразеалагізмаў у манаграфіі папярэднічае шырокі агляд агульных пытанняў этналінгвістыкі, супастаўленне навуковых кірункаў, асновавызначальных пазіцый розных этналінгвістычных школ (рускай, польскай, сербскай, румынскай і інш.). На шырокім славянскім і неславянскім фоне ўпершыню асвятляюцца пытанні беларускай этналінгвістыкі як самастойнай навукі. Разглядаючы розныя дыскусійныя моманты, А.Л. Садоўская прапануе сваё разуменне этналінгвістыкі як комплекснай, інтэграцыйнай дысцыпліны, якая даследуе і гістарычныя, і сучасныя моўныя факты праз прызму духоўнай культуры.

Асвятленне агульных этналінгвістычных пытанняў дазволіла аўтару падысці да праблем этнафразеалогіі. Вызначаецца асобае месца і роля фразеалагічнага матэрыялу ў этналінгвістыцы, які ствараецца народам не столькі для намінацыі, колькі для культурнай інтэрпрэтацыі свету.

А.Л. Садоўскай сістэматызаваны і ўдакладнены тэрміналагічны інструментарый этналінгвістычнага апісання: акрэслена сутнасць такіх паняццяў, як этнакультурны кампанент, нацыянальная і нацыянальна-культурная спецыфіка, нацыянальна-культурная канатацыя фразеалагізмаў, архетып, фонавыя веды, канцэпт і г.д.

Грунтоўная тэарэтычная аснова і багаты фактычны матэрыял (каля 1100 адзінак), сабраны з розных крыніц, садзейнічалі паспяховай рэалізацыі задач навуковага апісання. Упершыню акрэслена і сістэматызавана група ўзнаўляльных устойлівых адзінак з кампанентам-арнітонімам. Даказана важнае палажэнне, што літаральнае значэнне арнітонімаў у фразеалагізмах адыходзіць на другі план, а на першым плане аказваецца этнакультурная семантыка, матываваная старажытнымі міфамі, вераваннямі, абрадамі, звычаямі і традыцыямі беларусаў.

Свежымі з'яўляюцца аргументы і вывады пра механізмы стварэння нацыянальна-культурнай канатацыі арнітонімаў. Вылучаны асноўны лагічны прыём фарміравання сімвалічнага значэння – аналогія, а заадно прасочваюцца светапоглядныя арыентацыі і стэрэатыпы беларусаў у адносінах да навакольнай прыроды.

У навуковай літаратуры спарадычна выказвалася меркаванне пра з'яву полісеміі у адносінах да асобных сімвалаў. А.Л. Садоўская на канкрэтным сістэмным матэрыяле паказала, што большасць беларускіх арнітаморфных сімвалаў, сапраўды, шматзначныя і поліфункцыянальныя і што гэта выклікана множнасцю аналогій, прымеркаваных да пэўных з'яў рэчаіснасці.

Палажэнне пра ўзаемадзеянне двух працэсаў – антрапамарфізму і арнітамарфізму – пралівае святло на розныя спосабы фарміравання беларускай арнітафразеалогіі, раскрывае тыпалогію вобразных пераносаў з свету птушак на свет людзей і наадварот.

Этналінгвістычнае апісанне фразеалагізмаў з кампанентамі-назвамі «нячыстых» (варона, крумкач, сарока, верабей, сава, зязюля) і «чыстых» (бусел, салавей, журавель), а таксама свойскіх (курыца, певень) птушак, праведзенае ў манаграфіі, акунае чытача ў канкрэтыку беларускай народна-этычнай традыцыі, паказвае сувязь семантычных тыпаў фразеалагізмаў з рэканструяванымі мадэлямі паводзінаў і ўяўленняў старажытнага беларуса.

Паспяховаму вырашэнню пастаўленых у манаграфіі задач спрыяла канструктыўная методыка даследавання, выпрацаваная ў этналінгвістыцы і ўдакладненая А.Л. Садоўскай згодна з канкрэтным фразеалагічным матэрыялам. Выкарыстанне ўласна лінгвістычных метадаў і метадаў сумежных навук дазволіла правесці навуковае даследаванне высокай якасці, прыйсці да аргументаваных і аб'ектыўных высноў. Абгрунтаванасць, дакладнасць палажэнняў, вывадаў і рэкамендацый пацвярджаецца шматлікім фактычным матэрыялам, а таксама канкрэтнымі статыстычнымі паказчыкамі.

Этналінгвістычнае даследаванне апраўдвае мэтазгоднасць шырокага разумення аб'ёму фразеалогіі, паколькі нацыянальна-культурная семантыка праяўляецца аднолькава, невыбіральна ва ўстойлівых зваротах рознага характару, аб'яднаных агульнымі фармальнымі прыметамі. Аднак, на нашу думку, разглядаць разам з фразеалагізмамі загадкі наўрад ці ёсць падставы, паколькі гэта з'явы іншага, фальклорнага, вымярэння.

Выкажам і другую заўвагу. Пры выкарыстанні вялікай колькасці крыніц фактычнага матэрыялу (у спісе адлюстравана 103 назвы) не ўлічаны чамусьці асобныя абласныя фразеаграфічныя працы: з гаворак Магілёўшчыны – фразеалагічны слоўнік Г.Ф. Юрчанкі ў трох кнігах «І сячэ і паліць», «І коціцца і валіцца», «Слова за слова», з гаворак Гродзеншчыны – «Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны» М.А. Даніловіча, з гаворак Брэстчыны – фразеалагічныя падборкі у слоўніках і дыялекталагічных зборніках У.У. Барысюка, А.Ф. Зайкі, С.С. Клундук, М.І. Пашкевіча. Калі б гэтыя працы былі выкарыстаны, то этналінгвістычная прэзентацыя фразеалагізмаў і фразеалагічных гнёздаў стала б яшчэ багацейшай і цікавейшай.

Праца А.Л. Садоўскай мае несумненнае тэарэтычнае і практычнае значэнне. Роля яе для развіцця навуковай фразеалогіі ў тым, што, дзякуючы ёй, асвоены цэлы пласт фразеалагізмаў з кампанентам-арнітонімам, даюцца шматлікія культурна-гістарычныя звесткі, вельмі каштоўныя для фразеалагічнай этымалогіі. Праца з'яўляецца значным укладам у развіццё беларускай этнафразеалогіі – навукі, якая зарадзілася нядаўна і многія праблемы якой яшчэ чакаюць свайго вырашэння. Тэарэтычныя напрацоўкі аўтара, факталагічная частка манаграфіі маюць самае непасрэднае дачыненне і да такіх навук, як лінгвакультуралогія, кагнітыўная лінгвістыка, лінгвакраіназнаўства, этналогія, гісторыя. Матэрыялы манаграфіі можна выкарыстаць пры выкладанні беларускай мовы і сумежных з ёй дысцыплін у вышэйшай і агульнаадукацыйнай школе, пры складанні даведнікаў і дапаможнікаў адпаведнага профілю. Манаграфія А.Л. Садоўскай можа стаць узорам і стымулам вывучэння іншых аб'яднанняў фразеалагізмаў, з іншымі лексічнымі кампанентамі.

---

Першая публікацыя ў часопісе: *Беларуская лінгвістыка. – 2012. – Вып. 67. – С. 134–135.*

## АБГРУНТАВАНА І ПЕРАКАНАЛЬНА

***Рагаўцоў, В.І.*** *Вербальныя сродкі камічнага ў беларускай драматургіі : канец XVI – пачатак XX стагоддзя : манаграфія / В.І. Рагаўцоў. – Магілёў : УА «МДУ імя А.А. Куляшова», 2012. – 260 с.*

Прафесар Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.А. Куляшова В. Рагаўцоў больш як пятнаццаць гадоў плённа займаецца даследаваннем вербальных сродкаў камічнага ў беларускай драматургіі. Яскравае сведчанне таму – манаграфічнае даследаванне «Маўленчае выражэнне камічнага ў беларускай драматургіі» (Магілёў: МДУ

імя А.А. Куляшова, 2002 – 304 с.), «Слоўнік пра камічнае: мовазнаўчы аспект» (Магілёў: МДУ імя А.А. Куляшова, 210. – 172 с.), шматлікія артыкулы і матэрыялы, змешчаныя ў энцыклапедычных выданнях, навуковых часопісах, зборніках.

І вось новае даследаванне В. Рагаўцова – манаграфія «Вербальныя сродкі камічнага ў беларускай драматургіі: канец XVI – пачатак XX стагоддзя» (Магілёў: УА «МДУ імя А.А. Куляшова», 2012. – 260 с.), якая выйшла накладам 100 асобнікаў. У працы ўпершыню ў беларускім мовазнаўстве максімальна поўна выяўлены і сістэмна прааналізаваны вербальныя сродкі камічнага ў беларускай драматургіі канца XVI – пачатку XX ст. (інтэрмедыі, батлейкавыя сцэнкі, народныя драмы, п’есы К. Марашэўскага, М. Цяцерскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каганца, К. Вясёлага, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Гарэцкага, Ф. Аляхновіча, Л. Родзевіча, У. Галубка).

Як адзначаецца ў прадмове (с. 5), аб’ектам навуковага апісання ў манаграфіі з’яўляюцца не самі па сабе вербальныя сродкі камічнага, спарадкаваныя ў класіфікацыйныя групы на аснове пэўных крытэрыяў, напрыклад, з улікам спецыялізацыі (спецыялізаваныя / неспецыялізаваныя) ці паводле прыналежнасці да тых або іншых тыпаў (напрыклад, тропы, стылістычнычныя фігуры, лексічныя, фразеалагічныя, граматычныя і камбінаваныя сродкі), а сродкі, ужытыя ў творах беларускай драматургіі ад пачатковага этапу яе прафесіяналізацыі па 20-я гг. XX ст. Аўтар свядома (і гэта, на нашу думку апраўдана) адступіў ад пашыранага ў навуковай практыцы спосабу даследавання навуковай праблемы ў накірунку «тып вербальных сродкаў – ілюстрацыйны матэрыял – яго інтэрпрэтацыя». Гэта можна растлумачыць тым, што асноўная мэта манаграфіі – даследаванне (аналіз) вербальных сродкаў камічнага драматургічных твораў вялікага гістарычнага перыяду – канца XVI – пачатку XX ст. Гэта, на нашу думку, дае магчымасць чытачу мець акрэсленае ўяўленне, якія моўныя сродкі выкарыстоўваюцца для стварэння камічнага эфекту ў розных творах, у тым ліку класічных (напрыклад, «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча, «Модны шляхцюк» К. Каганца, «Паўлінка», «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, «Пісаравы імяніны» У. Галубка).

Такім чынам, асноўным у манаграфічным даследаванні з’яўляецца прынцып аналізу, які прадугледжвае не толькі выяўленне ў творы вербальных сродкаў камічнага, але іх навуковае апісанне. Разам з тым гэты прынцып, як вынікае з манаграфіі, неад’емна звязаны з сінтэзам, паколькі кваліфікацыя (аднясенне пэўнага вербальнага сродку да таго або іншага тыпу або разнавіднасці) вымагае ад даследчыка папярэдняга асэнсавання сродку і ўключэнне яго ў пэўны класіфікацыйны разрад (групу, разнавіднасць). Дарэчы, на прынцыпе сінтэзу грунтуецца паказальнік вербальных сродкаў (дадатак 2), з якога вынікае, якія моўныя сродкі камічнага ўжываюцца ў прааналізаваных творах на розных этапах развіцця прафесійнай беларускай драматургіі (пачатковы этап – 20-я гг. XX ст.).

Так, ужо на этапе пачатковай прафесіяналізацыі (інтэрмедыі, батлейкавая драматургія, народная драма) у функцыі стварэння камічнага эфекту ўжываюцца такія спецыялізаваныя вербальныя сродкі камічнага, як паранамазійныя, фразеалагічныя і полісемантычныя каламбуры, іранізмы. З полісемантычным каламбурам сустракаемся, напрыклад, у інтэрмедыі «Селянін і Вучань-уцякач», якая ўзнікла ў 1-й трэці XVIII ст. і змешчана ў вядомым «Ковенскім зборніку»: [Вучань:] *Але **душа** зэ мне **вылезе.*** [Селянін:] *Што гэто пляцеш, я завязаў добре, а мех усюды цэлы, нігдзе дзіркі нет.*

*Не вылезе душа, не вылезе! Сядзі гэтак. Утаі духа: ідзець хтось!* Выраз *душа вылезе* Вучнем ужываецца як фразеалагізм ‘памру’, а Селянінам успрымаецца як свабоднае словазлучэнне (паказчык – вербальны кантэкст *мех усюды цэлы, нігдзе дзіркі нет, не вылезе душа, не вылезе*). У аснове камізму, такім чынам, «непаразуменне» паміж персанажамі.

Зрэдку сустракаецца такі спецыялізаваны сродак, як паратаксісныя аказіяналізмы – сінтаксічныя канструкцыі, у склад якіх уваходзяць кампаненты, звязаныя злучальнай сувяззю, але несумяшчальныя (далёкія) па семантыцы. Напрыклад, у інтэрмедыйнай сцэнцы «Мужык і Доктар-шарлатан» Мацей скардзіцца: *быў я ў пана Бараноўскага на куцці, да як пад’еў куцці, дак не магу сапці! Што мая Ульяна ні рабіла – і гаршчок на пупе станавіла, – да і тое не памагло, да яшчэ горш прылягло. Парадзілі мне* ***галасу, купервасу*** *да бурачнага* ***квасу, моху, чартапалоху*** *і яшчэ нечага* (забыўся) *троху – усё гэта зелля скалаціць да выпіці.* У пераліку назваў «лекавых» сродкаў адвольна, дзеля рыфмоўкі, падаюцца словы тэматычна разнародных груп: *галасу – купервасу* – (бурачнага) *квасу; моху – чартапалоху.* У народнай драме «Цар Максіміліан» Яўрэй запэўнівае Казака (калі той бярэ шаблю і пагражае: *Мерай верна!*): *«Не будзе скверна, а будзе харашо.* (Мерае.) *Два аршыны, два вяршкі, тры гладышкі і чатыры куўшыны».* Злучальнай сувяззю аб’ядноўваюцца (рыфмуюцца) далёкія па семантыцы кампаненты, два апошнія з якіх не маюць ніякага дачынення да адзінак меры даўжыні. Параўн.: *аршын* – ‘мера даўжыні, роўная 71,12 см’, *вяршок* – ‘мера даўжыні, роўная 4,4 см’ і *гладышка* (літ. *гладыш*) – ‘збан без ручкі’, *куўшын* (літ. *збан*) – ‘высокая гліняная пасудзіна, якая звужаецца ўверсе і мае звычайна ручку’.

Сярод неспецыялізаваных сродкаў найбольш ужывальнымі з’яўляюцца дылектызмы, бяссэнсавыя выразы, экспрэсіўна зніжаныя адзінкі, гіпербалізмы (у тым ліку сінкрэтычныя), іншамоўныя ўкрапіны, алагізмы, дэмінутывы, выклічнікі, кантрастывы. Да рэдкаўжывальных адносяцца сінтаксічныя аказіяналізмы, эўфемізмы, формулы маўленчага этыкету, антрапонімы, неалагізмы-паранамазы, ідыялектызмы і некаторыя іншыя. Напрыклад, у інтэрмедыі «Змітрок і Свірыд» у рэпліцы Змітрака ўжываюцца словы з малітвы, пазбаўленыя сэнсу: *Слава цябе, Госпадзі, сушчую, часнейшую, ізбранны ваявода, радуйся, нявеста, усе чыны менашаскія, святая трапеза, іскрасення пабядзіцелю, Міхаілы-прарока і Міколы-мучаніка, трох свяціцелей, Кузьму і Дзяміда, заступі на царства мяне, Змітрака, і падружніцу, Пеклу Несцераўну, і кала і двара, і скацінкі і шарсцінкі, алалуй нас да канца века. Амінь. І шарпні, Госпадзі, па душы і па целу, па жонкі і па дзеткам, святое сягодні, святое і заўтра.* Як адзначае Я. Усікаў у кнізе «Беларуская камедыя: ля вытокаў жанру» (Мн.: Выш. шк., 1964, с. 117), смех выклікае гэты «недарэчны, бязглузды набор слоў, які з сур’ёзнай мінай выдаецца селянінам за ўзор «няпісьмяннай» малітвы».

У манаграфіі акрэслены асаблівасці ўжывання вербальных сродкаў камічнага ў новай беларускай прафесійнай драматургіі (сярэдзіна XIX – пачатак XX ст.). У прыватнасці, адзначаецца, што В. Дунін-Марцінкевіч першым у беларускай драматургіі ў функцыі камічнай характарыстыкі персанажаў пачаў мэтанакіравана ўжываць мянушкі («Залёты»), прозвішчы, канцылярызмы, а таксама такую з’яву, як фразеалагічная алюзія («Пінская шляхта»). К. Каганец упершыню ўжыў аманімічныя каламбуры, лексічныя аказіяналізмы-кантамінанты і аксюмаран («Двойчы прапілі»), Я. Купала – ідыялектныя клішэ ў ролі зваротка («Паўлінка»), таўталагізмы («Прымакі»), М. Гарэцкі – гіперызмы

(«Гапон і Любачка»), Л. Родзевіч – парэмійныя каламбуры («Збянтэжаны Саўка»), У. Галубок – амафонныя каламбуры («Бязродны», «Суд»), літоту («Пісаравы імяніны»), з'яву апелятывацыі («Ганка»), выразы-рыфмаванкі («Бязродны»).

У манаграфічным даследаванні паказваецца, што камічная канатацыя моўных (маўленчых) адзінак выяўляецца з дапамогай розных тыпаў вербальных (прэпазіцыйных і / або постпазіцыйных) і (радзей) сітуацыйных актуалізатараў – сродкаў, якія садзейнічаюць выяўленню камічнага эфекту ў моўнай або маўленчай адзінцы (слова, фразеалагізм, перыфраза, прыказка, спалучэнне слоў, сказ). Напрыклад, у камедыі «Паўлінка» Я. Купалы ўжываецца такі каламбур: [Паўлінка:] *А цяпер...* (Ідзе к абразу.) *Пасядзі лепш, саколік* [пра Якіма на фатаграфіі]*, за абразікам. Седзячы гэтак* ***у бога за плячыма****, меней будзеш мець грэшных думак у галаве, чымся песцячыся тут* [паказвае (на пазуху)] *у маладой дзяўчыны*. Камізм каламбура абумоўлены тым, што спалучэнне *ў бога за плячыма* ўжываецца Паўлінкай як устойлівае (разм. 'у поўнай бяспецы' [быць]) і свабоднае (сінтаксічнае). Актуалізатарам сінтаксічнага значэння выступае разгорнуты постпазіцыйны вербальна-сітуацыйны кантэкст *меней будзеш мець грэшных думак у галаве, чымся песцячыся тут* [паказвае (на пазуху)] *у маладой дзяўчыны*.

Як вынікае з манаграфіі, камічны эфект можа дасягацца вербальнымі сродкамі аўтасемантычна, без актуалізатараў (унутранай формай моўных адзінак, іх алагічным зместам). Такія сродкі маюць сталую канатацыю *іран.* (іранічнае) або *жарт.* (жартаўлівае) як элемент-суправаджальнік лексічнага значэння слова або ўстойлівага выразу. З такімі канатацыямі могуць ужывацца лексічныя адзінкі («Пісаравы імяніны» У. Галубка), фразеалагізмы («Модны шляхцюк» К. Каганца, «Паўлінка» Я. Купалы, «Антон», «Гапон і Любачка» М. Гарэцкага, «Пакрыўджаныя», «Збянтэжаны Саўка», «Пасланец» Л. Родзевіча, «Бязвінная кроў», «Ганка» У. Галубка), парэміі («Ідылія» В. Дуніна-Марцінкевіча). Напрыклад, у драме «Гапон і Любачка» М. Гарэцкага ўжываецца кампаратыўны фразеалагізм, які выражае камічны эфект аўтасемантычна, іранічнай канатацыяй: [Любка (раптам):] *Досыць флірту! Давайце будзем варажыць.* (Дастае аракул, скруціла з прамакальнае паперы галачку і кідае.) *Каму гэты раз.* [Матушка:] *Гапону Гапонавічу!* [Любка:] *Зараз! Гатова!* (Крыкнула і чытае.) *«Яна цябе любіць,* ***як сабака палку****...»* (Прачытаўшы, з вялікай радасцю рагоча). Вылучаны фразеалагізм – разм.- іран. 'зусім не, ніколькі не'.

Аўтасемантычна камічнае можа стварацца таксама моўнымі (маўленчымі) адзінкамі з канатацыямі *праст.* (прастамоўнае), *груб.* (грубае), бо такія грубыя, лаянкавыя адзінкі маюць адценне знявагі, пагарды, неадабральнасці. Яны не зусім адпавядаюць эстэтычным нормам культуры маўлення і таму выклікаюць у чытача або слухача ўсмешку. Зніжаную экспрэсію могуць мець лексічныя адзінкі, свабодныя семантычна непадзельныя выразы, фразеалагізмы, праклёны як нефразеалагічнага, так і фразеалагічнага тыпу. З такімі адзінкамі сустракаемся, напрыклад, у некаторых інтэрмедыях, п'есах «Ідылія» («Сялянка»), «Пінская шляхта», «Залёты» В. Дуніна-Марцінкевіча, «Двойчы прапілі», «Модны шляхцюк» К. Каганца, «Паўлінка», «Прымакі», «Тутэйшыя» Я. Купалы, «Антон», «Гапон і Любачка» М. Гарэцкага, «Блуднікі», «Пакрыўджаныя», «Збянтэжаны Саўка», «Пасланец», «Конскі партрэт» Л. Родзевіча, «Апошняе спатканне», «Пісаравы імяніны», «Суд» У. Галубка і інш. Прыкладам ужывання слова з прастамоўнай канатацыяй можа быць наступны: [Даміцэля:] *Каб яна, гэта ахмістрыня,* ***бельмачамі*** *за маім не сачыла, ён жа б ніколі*

*да яе ў прымы не пайшоў* (Я. Купала. Прымакі). Экспрэсіў *бельмачы* – праст.- груб ‘вочы’. Не верачы словам Іўкі (К. Каганец. Двойчы прапілі), які падсцерагаў Хоўрачку, каб сустрэцца з ёю (*Так штось… маркотна. Сеў і задумаўся*), Астап адрэагаваў на яго адказ, ужываючы прастамоўны неадабральны фразеалагізм са значэннем ‘хітруй’: ***Віляй, віляй хвастом!*** *Знаю, што задумаўся, і ведаю, аб чым.* Для ўзмацнення адмоўнай экспрэсіі дзеяслоўны кампанент фразеалагізма паўтараецца.

Як сведчыць прааналізаваны фактычны матэрыял, важнае значэнне ва ўзмацненні камічнага эфекту адыгрываюць інтэнсіфікатары, у ролі якіх ужываецца такі ўніверсальны прыём, як канцэнтраванае ўжыванне вербальных сродкаў, як правіла, са зніжанай экспрэсіяй. Такі прыём выкарыстоўваецца, напрыклад, у інтэрмедыі «Мужык», «Змітрок і Свірыд», «Камедыі» К. Марашэўскага, п’есах «Ідылія», «Залёты» В. Дуніна-Марцінкевіча, «Модны шляхцюк» К. Каганца, «Паўлінка», «Раскіданае гняздо», «Прымакі», «Тутэйшыя» Я. Купалы, «Антось Лата» Я. Коласа, «Антон» М. Гарэцкага, «Збянтэжаны Саўка» Л. Родзевіча, «Пісаравы імяніны» У. Галубка і інш. Камічна насычанымі з'яўляюцца рэплікі з празмерна канцэнтраваным ужываннем як адна- , так і (часцей) разнатыпных вербальных сродкаў. Яскравым прыкладам канцэнтраванага ўжывання выклічнікаў можа быць маўленне «шчырага беларуса» Мікіты Зноска (Я. Купала. «Тутэйшыя»). Асабліва шчодра Мікіта выкарыстоўвае выклічнікі, калі ён знаходзіцца ў перапужаным стане. Яны выяўляюць яго душэўны стан (сполах) і, апрача таго, выступаюць выразнікам камічнага: ***Аяяй! Оеей!*** *Куды ж я падзенуся? Во, меджду протчым, папаўся, як мурза ў студню.* ***Оеей! Оеей!*** *Як жа яму вытлумачыць, што я не генэрал, а калежскі рэгістратар? Пашукаю яшчэ ратунку ў слоўніках.* (Шастае слоўнікам.) *Генэрал… генэрал… пажарная каманда…* ***Оеей! Оеей!*** *Мая ты босая каманда. Няма ў слоўніку. Дзе той Спічыні? Які яго нячысцік выкруціў у гэтую небяспечную для меня хвіліну?* ***Оеей! Оеей!*** *Што ён нарабіў мне, гэты гэр профэсар з сваёй навукай!* ***Оеей! Оеей!***

А вось прыклад канцэнтраванага ўжывання разнатыпных вербальных сродкаў: [Антось:] *Ну, ужо гэтага не спадзяваўся з цябе. Я перш думаў, што ты дружны хлопец, ажно –* ***ануча*** *з цябе,* ***гной***. ***Тфу!*** [Цыпрук:] *Эх,* ***дзярэўня*** *ты,* ***дзярэўня***. ***Сляпы*** *ты, Антось,* ***як шчанё***, ***сляпы*** (Л. Родзевіч. Блуднікі). Для стварэння камічнага ўжываюцца: *ануча* – перан. зневаж. ‘бесхарактарны, бязвольны чалавек’, *гной* – перан. зневаж. ‘абы-што’, выклічнік *тфу!* – як выказванне незадаволенасці, прыкрасці, *дзярэўня* – перан. зневаж. ‘неадукаваны’, параўнальны зварот *сляпы, як шчанё* (эпітэт *сляпы* рэалізуе пераноснае значэнне ‘цёмны, неадукаваны’ (чалавек).

У манаграфіі разглядаюцца не толькі ўзуальныя, але і аказіянальныя вербальныя сродкі камічнага (лексічныя, марфалагічныя, сінтаксічныя), якія рэалізуюць камічную канатацыю толькі ў пэўным кантэксце. З камічным эфектам ужываюцца лексічныя аказіяналізмы, якія выклікаюць смехавыя асацыяцыі: [Куторга:] *Ну, я гатоў вам* [Куліне і Ціхону] *саслужыць дружбу, толькі, як ваша дачка* [Марыся] ***захімерычыцца*** *ды адцураецца ад мяне, то што тагды?* Дзеяслоў-аказіяналізм *захімерычыцца* ўтвораны на аснове польскага назоўніка *chimeryk* (‘капрызнік’) (І. Лепешаў) і абазначае ‘закапрызнічаць, занаравіцца, заўпарціцца’. Важную ролю ў стварэнні камізму адыгрывае ўнутраная форма аказіяналізма. Чытач, які не ведае, ад якога слова ўтвораны аказіяналізм, можа суаднесці яго з асацыятыўна звязаным, вя-

домым яму назоўнікам *хімера* (‘у старажытнагрэчаскай міфалогіі – пачвара, якая дыхае агнём, з ільвінай галавой, казліным тулавам і хвастом дракона’).

Да марфалагічных аказіяналізмаў адносяцца, напрыклад, аказіянальныя формы слоў з суфіксамі суб’ектыўнай ацэнкі: [Стораж:] *Б-у-удзе. Таго, што стражнік пабіў,– раз, гэтага – два, паненачку – тры, і трох* ***вучоненькіх*** *студэнтаў… усяго шэсць душ-* ***душачак*** (У. Галубок. Апошняе спатканне).

Да сінтаксічных аказіяналізмаў належаць незвычайныя (аказіянальныя) спалучэнні слоў, выкарыстаныя з мэтай стварэння камічнага эфекту. Прыкладам такога аказіянальнага спалучэння можа быцьтытул *ваша благароднае сіяцельства!*, якое з'яўляецца кантамінацыяй двух тытулаў (*ваша благароддзе* і *ваша сіяцельства*): [Куторга (зляканы):] ***Ваша благароднае сіяцельства!*** (В. Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта). Як слушна адзначае І. Лепешаў ў вучэбным дапаможніку «Лінгвістычны аналіз тэксту» (Мінск: Выш. шк., 2009, с. 221), «ствараецца камічнае ўражанне, калі чытаеш, як Куторга, перапалоханы станавым прыставам Кручковым, звяртаецца да яго з тытулам, які ніколі не існаваў: «Ваша благароднае сіяцельства!»».

Аказіянальнымі, як вядома, з’яўляюцца і перыфразы. Як сведчыць фактычны матэрыял, яны могуць ужывацца для аказіянальнага наймення персанажаў. Такія перыфразы, у адрозненне ад уласных імёнаў (за выключэннем гаваркіх), не толькі называюць, але і характарызуюць персанажаў, часцей за ўсё камічна. Гэта дасягаецца выкарыстаннем у перыфразах экспрэсіўна зніжаных слоў. Напрыклад, Паўлінка, персанаж аднайменнай камедыіі Я. Купалы, з дапамогай аказіянальнай перыфразы дае трапную характарыстыку Адольфу Быкоўскаму: [Паўлінка (ідучы к сталу, убок):] *І собіла ж богу стварыць гэткую* ***чапялу недарэчную!***

Манаграфія В. Рагаўцова вызначаецца кваліфікаваным аналізам фактычнага матэрыялу і абгрунтаванымі высновамі. Яна разлічана на навуковых супрацоўнікаў, выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ, настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры. Няма сумнення, што манаграфія будзе карыснай драматургам, асабліва пачаткоўцам, паколькі ў ёй разглядаюцца сродкі і прыёмы стварэння камічнага, што з’яўляецца неад’емным элементам драматургічнага твора і ў першую чаргу – камедыйнага жанру.

Першая публікацыя ў газеце: *Наша слова. 2013. – 16 студз. – С. 2–3.*

## ГРУНТОЎНАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ ЛЕКСІКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

***Гапоненка, І.А.*** *Лексіка беларускай літаратурнай мовы XIX – пачатку XX ст.: асаблівасці станаўлення і развіцця / І.А. Гапоненка. – Мінск : БДУ, 2012. – 307 с.*

XIX – пачатак XX стагоддзя – гэта этап станаўлення сучаснай беларускай літаратурнай мовы як асобнага лінгвістычнага феномена, паступовага фарміравання яе лексічнай сістэмы, нацыянальных моўных нормаў. Вывучэнне моўнай, у тым ліку лексічнай, спецыфікі гэтага перыяду – важная навуковая задача.

У беларускім мовазнаўстве склалася значная база даследаванняў, прысвечаных беларускім лексічным асаблівасцям XIX – пач. XX ст., у якіх вывучаюцца асобныя аспекты функцыянавання тагачаснай лексічна-семантычнай сістэмы. Узнікла спры-

яльная магчымасць стварэння тэарэтычнай працы, дзе быў бы праведзены комплексны, цэласны разгляд лексікі гэтага перыяду.

Такі сістэмны аналіз лексікі беларускіх выданняў XIX – пач. XX ст. ажыццёўлены ў манаграфіі І.А. Гапоненкі «Лексіка беларускай літаратурнай мовы XIX – пачатку XX ст.: асаблівасці станаўлення і развіцця». Манаграфія з'яўляецца першай у беларускім мовазнаўстве працай, дзе паказваюцца найбольш тыповыя з'явы лексічнай сістэмы названага перыяду, выяўляюцца заканамернасці і тэндэнцыі нарматворчых працэсаў у лексічнай сферы.

Манаграфічнае даследаванне мае прадуманую збалансаваную структуру, складаецца з сямі ўзаемазвязаных раздзелаў.

Ва ўступнай частцы характарызуецца змест навуковых напрацовак па абранай тэме даследавання, даецца разгорнуты аналіз асаблівасцяў беларускага лексічнага нармавання на пачатковым этапе моўнага станаўлення ў параўнанні з аналагічнымі працэсамі ў гісторыі іншых славянскіх моў. Больш падрабязна праводзіцца супастаўленне з украінскай моўна-гістарычнай сітуацыяй, якая па шэрагу паказчыкаў мае шмат агульнага з беларускай.

Лексіка цесна звязана з пазамоўнымі рэаліямі, у вялікай ступені залежыць ад іх. Грамадскія фактары відавочна ўплываюць на змену літаратурных нормаў, на з'яўленне новых нарматыўных рэалізацый, а таксама вызначаюць этапы і інтэнсіўнасць гэтых змен. У першым раздзеле манаграфіі разглядаецца спецыфіка знешняй (эканамічнай, грамадска-палітычнай, культурнай і інш.) сітуацыі XIX – пач. XX ст., якая аказвала ўздзеянне на асаблівасці станаўлення беларускай мовы і яе лексічнай сістэмы.

У другім раздзеле робіцца спроба вырашыць адно з актуальных пытанняў беларускага мовазнаўства – вызначэнне характару пераемнасці паміж старабеларускім і новым перыядамі гісторыі беларускай мовы. Адзначым, што звычайна пры разглядзе праблемы пераемнай сувязі паміж двума асноўнымі этапамі развіцця беларускай мовы – старым і новым – праводзіцца супастаўленне старабеларускіх асаблівасцяў і асаблівасцяў сучаснай беларускай мовы, што ў прынцыпе цалкам дапушчальна і мэтазгодна. Але яшчэ больш паказальныя і важныя ў моўна-гістарычных адносінах звесткі па пытаннях пераемнасці можа даць моўны матэрыял пераходнага паміж старой і новай мовамі перыяду XIX – пач. XX ст. Таму трэба толькі вітаць праведзенае аўтарам манаграфіі ўключэнне тагачасных моўных фактаў у навуковы зварот. Аналіз гэтых фактаў дазволіў аўтару аспрэчыць распаўсюджаны пункт гледжання, быццам паміж старабеларускай і новай беларускай мовай не было пераемнасці, быццам дасягненні беларускай мовы старажытнага перыяду былі зусім забытыя і нявыкарыстаныя. Супастаўленне лексічных фрагментаў «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» і «Слоўніка мовы «Нашай Нівы» » паказала адваротнае: 78,5 % слоў у мове старабеларускай і мове пачатку XX ст. супадаюць, несупадзенні звязаны пераважна з новымі запазычаннямі і дыялектызмамі. Гэта, а таксама іншыя факты далі падставу заключыць, што «ў гісторыі беларускай мовы абмежаванне яе пісьмовага выкарыстання ў XVIII ст. можна лічыць менавіта такім «разрывам», які не прывёў да перапынення моўных традыцый, а выступіў фактарам пераходу да новай якасці, падштурхнуў непазбежную, выкліканую жыццём замену старых, штучных пісьмовых норм, адарваных ад жывой моўнай асновы» (с. 54).

У кнізе канстатуецца, што інтэнсіўнасць лексічных заменаў выступае як адна з найбольш важных рыс фарміравання новай беларускай мовы, дзякуючы чаму за адносна кароткі час быў закладзены трывалы падмурак для далейшых кардынальных лексічных трансфармацый. Выразна паказваецца, якімі спосабамі і сродкамі адбывалася папаўненне і ўдасканаленне лексічна-семантычнай сістэмы тагачаснай мовы. Сярод галоўных крыніц лексічнага ўзбагачэння называецца прыманне лексічнай сістэмай сродкаў іншых моў. Адметнасці працэсаў запазычвання на беларускім моўным полі падрабязна апісаны ў трэцім раздзеле маганрафіі: вызначаны асноўныя мовы-донары і мовы-пасрэднікі, з якіх ці праз якія іншамоўныя адзінкі прыходзілі ў беларускамоўнае асяроддзе, ахарактарызаваны тыпы запазычанняў, іх тэматычны склад, асаблівасці адаптацыі, ступень функцыянальнай запатрабаванасці і інш.

У чацвёртым раздзеле разглядаюцца разнастайныя семантычныя змены ў спрадвечнабеларускай і запазычанай лексіцы (развіццё пераносных значэнняў, тэрміналагізацыя, дэтэрміналагізацыя, пашырэнне і звужэнне семантычнага аб'ёму і г.д.), за кошт якіх адбылося намінацыйнае абнаўленне і пераразмеркаванне сувязяў у сістэмных лексічных групах. Слушна ўказваецца, што наяўнасць семантычных зрухаў і змен, многія з якіх не атрымалі завяршэння ў разгледжаны гістарычны перыяд, наглядна сведчыць пра актывізацыю не толькі паверхневых, але і глыбінных моўных слаёў і пацвярджае жыццяздольнасць усяго беларускамоўнага арганізму.

У пятым раздзеле аўтар прасочвае ўзаемаадносіны паміж беларускімі дыялектамі і літаратурнай мовай XIX – пач. XX ст. Звяртаецца ўвага на тое, што характар дыялектнага слова і яго роля ў сістэме літаратурнай мовы мае канкрэтна-гістарычную прадвызначанасць, звязаную перш за ўсё з гістарычна зменлівым паняццем нормы. Фармулююцца прыкладныя крытэрыі размежавання дыялектных і літаратурных з'яў у дачыненні да тагачаснага моўнага стану і вызначаюцца прыярытэты ў схеме адбору дыялектных сродкаў.

Шосты раздзел прысвечаны моўным асаблівасцям выдатных майстроў слова – Янкі Купалы і Якуба Коласа, якія рашуча павярнулі нацыянальную мову да народных вытокаў, распачалі этап яе аднаўлення і напрацоўкі новых самабытных літаратурных сродкаў. Пад іх пяром беларускае гутарковае слова праходзіла апрацоўку мастацкім талентам, шліфавалася, адточвалася, удасканальвалася. І.А. Гапоненка падкрэслівае высокую ступень даследаванасці моўнай спадчыны Янкі Купалы і Якуба Коласа ў самых розных аспектах і выбірае для аналізу пласт слоў, якія найменш даследаваны ў лінгвістычных працах – пазалітаратурныя словы. На прыкладзе гэтай групы лексем паказваецца аўтарская моўная індывідуальнасць абодвух пісьменнікаў, а таксама іх выключная роля ў станаўленні новай беларускай літаратурнай мовы.

У сёмым раздзеле даследуюцца асаблівасці ў беларускай мове XIX – пач. XX ст. такой спецыфічнай групы лексікі, як онімы. Паказваюцца з'явы анамастычнай варыянтнасці, працэсы станаўлення нацыянальных онімных формаў, якія больш выразна, чым у выпадку з агульнай лексікай, дэманструюць нацыянальнае аблічча і спецыфіку тагачаснай беларускай мовы. Важным для сучаснай моўнай практыкі бачыцца аналіз заканамернасцяў скланення пэўных тыпаў прозвішчаў у беларускай мове пачатку XX ст. і спробы выявіць галоўныя тэндэнцыі ў працэсе станаўлення антрапанімічнай словазменнай нормы.

У цэлым манаграфія маштабна ўзнаўляе карціну пачатковага этапу новай беларускай літаратурнай мовы з усімі яе характэрнымі рысамі і супярэчнасцямі, а таксама адкрывае рэальныя перспектывы для вырашэння многіх актуальных пытанняў сучаснай беларускай мовы, у першую чаргу тых, якія датычаць вызначэння літаратурнай нормы.

Першая публікацыя ў часопісе: *Роднае слова. – 2013. – № 3. – С. 40–41.*

## ЗБІРАЛЬНІЦКАЯ СПРАВА ДУХОЎНЫХ НАРОДНЫХ СКАРБАЎ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

***Легенды і*** *паданні Слонімшчыны / склад. С. Чыгрын. – Мінск : Кнігазбор, 2013. – С. 3–7.*

Задача збірання і апублікавання вуснай народнай творчасці сёння асабліва надзённая. У выніку сацыяльна-дэмаграфічных працэсаў адбываецца разбурэнне традыцыйнай беларускай вёскі. Многія населеныя пункты перасталі існаваць ці знаходзяцца на мяжы існавання. Гэта і іншыя прычыны прыводзяць да страты рэгіянальнай вуснай народнай творчасці, якая стваралася цягам стагоддзяў. Калі яе не занатаваць сёння, то пазней зрабіць гэта будзе хутчэй за ўсё немагчыма.

Чарговая кніга вядомага пісьменніка, публіцыста і краязнаўца Сяргея Чыгрына – свежая падборка вуснага народнага мастацтва, рупліва сабраная на працягу многіх гадоў ад сваіх землякоў. Улюбёны ў родную Слонімшчыну, Сяргей Чыгрын не мог абысці ўвагай такога прыкметнага фрагмента народнай культуры, як легенды і паданні.

Амаль усе яны выконваюць растлумачальна-пазнавальную фукцыю, апавядаюць пра штосьці даўняе, вартае памяці людзей. Праз легенды і паданні жыхары Слонімшчыны здаўна імкнуліся растлумачыць мясцовыя аб'екты і назвы вёсак, рэчак, азёраў, крыніцаў, асобных дрэў, камянёў, лясных мясцінаў, урочышчаў і інш.

У аснове вытлумачэння ляжаць рэальныя факты мінулага, якія ў гістарычным часе абраслі домысламі, легендарна значныя падзеі, ўяўна-фантастычныя сюжэты, імёны канкрэтных людзей і наднатуральных істотаў. Напрыклад, Слонімшчына яшчэ не страціла памяць пра набегі крыжакоў. Жыхары вёскі Азярніца паходжанне назвы рэчкі Акоўка тлумачаць наступным чынам. Крыжакі заўважылі вяскоўцаў на невялічкім астраўку і рашылі захапіць, каб знішчыць. Рушылі ўброд праз рэчку. Людзі сталі прасіць у Бога паратунку. І раптам сярод лета наступіла зіма, і крыжакоў у рэчцы скавала лёдам. Адсюль і назва пайшла – Акоўка.

Шэраг назваў звязана з рэальнымі асабовымі імёнамі мясцовых сялян (Тарасаў груд, Шпакава гара), паноў (Сурынка – пан Сурын, Скуратава студня – багацей Скурат).

Тыповымі на Слонімскай зямлі, як і ва ўсёй Беларусі, выступаюць легенды і прымхліцы пра закапаны скарб (Гарадзішча каля Збочна), пра вёску ці царкву, якія праваліліся ў бездань (возера Бяздоннае, П'явіч-возера, Святое возера).

Народнай фантазіяй аздоблены кароткія аповеды, у якіх дзейнічаюць істоты язычніцкай славянскай міфалогіі, такія як чорт (Чортава Вока, Чортава балота, Чортаў камень), змей (вёска Лапухова), русалка (вёска Азярніца), лесавік (урочышча Вомшар) і інш.

Многія ўласныя назвы жыхары Слонімшчыны тлумачаць з пункту гледжання народнай этымалогіі, якая адштурхоўваецца не ад фактаў, а ад самога наймення, яго «гаварковасці». Зразумела, такія этымалогіі не з'яўляюцца навуковымі, але яны цікавыя тым, што раскрываюць моватворчае чуццё і фантазію нашых продкаў: вёска Смаўжы (у балоце было многа смаўжоў), рэчка Іярданка (сын Іяр і дачка Данка), вёска Клепачы (жыхары вельмі рана пачыналі кляпаць косы ў час касавіцы), Трыбушкі (жыхары вельмі любілі шмат есці, набіваць трыбухі), вёска Яруцічы (ад яма Руціча).

Кніга Сягрея Чыгрына «Легенды і паданні Слонімшчыны» карысная, цікавая і для навукі, і для ўсіх, каму дарагая родная мова і культура. Яна добры знак таго, што збіральніцкая справа духоўных народных скарбаў працягваецца, не заглохла. Гэта свайго роду прыклад і ўзор для краязнаўцаў іншых рэгіёнаў, пачэсны абавязак якіх зрабіць падобнае ў сваёй мясцовасці.

---

Першая публікацыя ў кнізе: *Легенды і паданні Слонімшчыны / склад. С. Чыгрын. – Мінск : Кнігазбор, 2013. – С. 3–7.*

## НОВЫ ЭТАП ДАСЛЕДАВАННЯ ПРЫКАЗАК

***Лепешаў, І.Я.*** *Этымалагічны слоўнік прыказак / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Вышэйшая школа, 2014. – 141 с.*

Беларуская парэміяграфія папоўнілася яшчэ адной грунтоўнай працай. У 2014 годзе ў рэспубліканскім выдавецтве «Вышэйшая школа» апублікаваны «Этымалагічны слоўнік прыказак» І.Я. Лепешава. Гэта лагічны працяг на новым навуковым узроўні паслядоўнай дзейнасці вучонага па вывучэнні прыказак, якім ён прысвяціў дзясяткі сваіх артыкулаў, манаграфіі, навучальныя дапаможнікі, чатыры выпускі тлумачальнага слоўніка прыказак.

Слоўнік з поўным правам можна кваліфікаваць як унікальны, бо такога тыпу даведнікаў не мела да гэтага часу ні беларускае, ні замежнае мовазнаўства.

Асноўная задача Слоўніка – растлумачыць паходжанне прыказак, іх моўную і пазамоўную матывацыю.

Аб'ектам этымалагічнага аналізу стала не любая прыказка. У прадмове аўтар зазначае, што сэнс, унутраная форма, лексічны склад многіх прыказак зразумелы, ясны. Гістарычна-этымалагічнага вытлумачэння заслугоўваюць толькі асобныя з іх: 1) аўтарства якіх вядомае; 2) запазычанні, калькі і паўкалькі з іншых моў; 3) прыказкі з нерэальным вобразам ці патэнцыяльнай сюжэтнасцю або пабудаваныя на абыгрыванні якога-небудзь кампанента; 4) якія змяшчаюць у сабе незразумелае сучаснаму носьбіту мовы слова-кампанент; 5) ужыванне якіх абмежавана строга акрэсленай сітуацыяй або пэўным тыпам кантэксту.

Фактычны матэрыял браўся не з фальклорных зборнікаў, а з тэкстаў беларускага літаратурнага маўлення. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў І.Я. Лепешаў рэгулярна збіраў прыказкі, выкарыстаныя ў літаратурнай мове. Давялося прачытаць мноства твораў мастацкай літаратуры, публіцыстычных выданняў, каб адшукаць і выпісаць тысячы прыказкавых цытат і стварыць багатую парэміялагічную картатэку.

І.Я. Лепешаў адабраў з картатэкі і растлумачыў у Слоўніку звыш 400 цікавых з пункту гледжання этымалогіі прыказак.

У прадмове да Слоўніка закранаецца шэраг канцэптуальных пытанняў. Важнай з'яўляецца думка, якая неаднаразова выказвалася ў ранейшых працах вучонага, што прыказкі ў мінулым неапраўдана разглядаліся толькі як малы фальклорны жанр. Рэальна ж яны выступаюць несумненнымі адзінкамі мовы і таму, як і словы або фразеалагізмы, павінны быць аб'ектам мовазнаўства, вывучацца з семантычнага, этымалагічнага, граматычнага і стылістычнага бакоў. Гаворыцца таксама пра беспадстаўнасць вывучэння прыказак у фразеалогіі, што нярэдка назіраецца яшчэ і сёння. Прыводзяцца доказныя аргументы, што пры некаторым падабенстве прыказкі і фразеалагізмы істотна адрозніваюцца і з'яўляюцца адзінкамі зусім球 рознага ўзроўню.

Шматгадовыя назіранні і навуковы аналіз прыказак дазволілі І.Я. Лепешаву не пагадзіцца з распаўсюджаным меркаваннем, выказаным у свой час (1892) А.А. Патабнёй, што амаль усе прыказкі паходзяць з баек, анекдотаў, казак. І.Я. Лепешаў пераканальна сцвярджае іншае: стваральнікам пыказкі заўсёды з'яўляецца асобны чалавек, узнікае яна ў акце маўлення як аўтарскі твор, а пасля падхопліваецца іншымі людзмі і паступова становіцца агульнаўжывальнай моўнай адзінкай.

І.Я. Лепешаў праводзіць выразнае размежаванне паняццяў «прыказка» і «афарызм», якія нярэдка зблытваюцца ці атаясамліваюцца, паказвае, што прычына такога зблытвання – змешванне ўласна генетычнага аспекта прыказкі з яе класіфікацыяй паводле першапачатковай сферы ўжывання. Многія былыя аўтарскія крылатыя выразы (іх у слоўніку 94), набыўшы агульнаўжывальнасць, сталі звычайнымі прыказкамі. Так, сёння *Апетыт прыходзіць у часе яды* – гэта прыказка, і толькі ў генетычным плане можна гаварыць пра яе як пра крылаты выраз, аўтарства якога належыць французскаму епіскапу Жэрому дэ Анжэ.

Кожнай прыказцы прысвячаецца асобны слоўнікавы артыкул, які складаецца з наступных элементаў: а) загалоўкавая прыказка; б) агульная характарыстыка прыказкі паводле паходжання; в) тлумачэнне сэнсавага зместу прыказкі; г) ілюстрацыйны матэрыял; д) этымалагічная даведка.

Вельмі важна, што падаюцца ўсе зафіксаваныя ў літаратурным маўленні варыянты прыказкі, сярод якіх у якасці загалоўкавага падаецца найбольш тыповы.

У агульнай характарыстыцы паводле паходжання даецца выверaная інфармацыя пра тое, у якой мове нарадзілася ці з якой мовы выйшла прыказка, з'яўляецца яна ўласна беларускай, агульнай для ўсходнеславянскіх моў, запазычаннем, калькай або паўкалькай з пэўнай мовы і інш.

Зразумела, вырашэнне такіх пытанняў пад сілу навукоўцу з глыбокай лінгвістычнай эрудыцыяй, шырокім агульным кругаглядам. Складваецца ўражанне, што І.Я. Лепешаў да драбніц ведае біяграфію кожнай прааналізаванай прыказкі, усё, што пра яе пісалі папярэднікі. У слоўнікавых артыкулах ёсць частыя спасылкі на такіх даследчыкаў і збіральнікаў, як Я. Карскі, Е. Ляцкі, С. Максімаў, М. Міхельсон, І. Насовіч, Я. Парэцкі, М. Федароўскі, на творы шматлікіх беларускіх і замежных пісьменнікаў, на сюжэты Бібліі і інш. Нярэдка І.Я. Лепешаў удакладняе ці аспрэчвае ранейшую этымалагічную версію прыказкі і прапануе сваю, больш пераканальную. Напрыклад, вучоны не пагаджаецца, што прыказку *Век жыві – век вучыся* ў некаторых рускіх даведніках кваліфікуюць як «уласна руская». Яна ёсць у многіх мовах свету і хутчэй за ўсё склалася пад уплывам

лацінскай *Tamdiu disendum estquamdiu nescias: quamdiu vivis* (літар. *Так доўга трэба вучыцца, як доўга жывеш*) (с. 29).

З усіх прыказак у Слоўніку палова ўласна беларускія. Яны адлюстроўваюць менталітэт, звычкі, паводзіны беларусаў часцей у алегарычнай форме праз параўнанне з жывёламі, птушкамі, раслінамі, рознымі з'явамі прыроды, учынкамі людзей і інш.: *Гадавала сава дзеці, ды няма на што глядзеці; Любіў рак жабу, аж вочы выеў; На кірмашы і бык цельны; Увосень і кабан паросен; Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так; Вераб'і крупы склявалі, а сініцу за гэта ў клетку пасадзілі; Крывое дрэва не выпраміш; Ціхая вада грэблю рве; Хто сказаў, што лапці ваду прапускаюць?*

Многія прыказкі вызначаюцца як усходнеславянскія ці агульныя для розных славянскіх моў: *Век жыві, век вучыся, а дурнем памрэш; Голад не цётка; Загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб'е; Мая хата з краю, нічога не знаю; Не варта шкурка вырабу; Перамелецца – мука будзе; Старога вераб'я на мякіне не правядзеш; У палкі два канцы; Цярпі, казак, атаманам будзеш.*

Значная частка прыказак кваліфікуецца аўтарам Слоўніка як запазычанні ці калькі з іншых моў. Найбольшую ўдзельную вагу сярод іх складаюць адзінкі з лацінскай *(Вочы – люстра душы; Клін клінам выбіваюць; Пан ці прапаў; Рука руку мые; Што галава, то розум)*, з рускай моў *(Адзін у полі не воін; Вялікаму караблю – вялікае плаванне; Масква слязам не верыць; На беднага Макара і шышкі валяцца; На лаўца і звер бяжыць).* Прыкметую групу складаюць прыказкі французскага паходжання *(Гара нарадзіла мыш; Смяецца той, хто смяецца апошні; Лепей позна, чым ніколі; На вайне як на вайне).* Менш прыказак з іншых моў: нямецкай *(Вуснамі дзіцяці гаворыць ісціна; Надзея памірае апошняй)*, грэцкай *(Ваўка ногі кормяць; Ліслівае цяля дзвюх матак ссе)*, англійскай *(Факты – упартая рэч; Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку)*, польскай *(Бяла ні бяла, а ваду відала; Панскае вока каня тучыць; Шляхціц на сваім гародзе ровен ваяводзе)*, украінскай *(Трапіў у вараны, крычы, як яны; У агародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька; Язык да Кіева давядзе)*, іспанскай *(І сцены вушы маюць)*, італьянскай *(Фініта ля камедыя)*, дацкай *(Кароль жа голы)*, турэцкай *(Сабака брэша, а караван ідзе)*, кітайскай *(Цяжка злавіць чорную кошку ў цёмным пакоі, асабліва калі яе там няма).*

І.Я. Лепешаў не толькі паказвае паходжанне прыказак з канкрэтных моў, але і раскрывае ў этымалагічных даведках лінгвістычныя механізмы іх утварэння, пазамоўную матывацыйную аснову. Цікавымі ў гэтым плане з'яўляюцца прыказкі, у аснову якіх пакладзены крылатыя выразы, аўтарства якіх яшчэ не забытае. У Слоўніку, як адзначалася, каля ста такіх прыказак, што выйшлі з маўлення пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў, палкаводцаў, святароў і інш., напрыклад: *Адна ластаўка вясны не робіць* (Эзоп); *Быццё вызначае свядомасць* (К. Маркс); *Бадалася цяля з дубам* (А. Салжаніцын); *Вялікае бачыцца на адлегласці* (С. Ясенін); *Іван ківае на Пятра* (І. Крылоў); *І сцены вушы маюць* (Мігель дэ Сервантэс); *Калі гавораць гарматы, музы маўчаць* (Цыцэрон); *Кароль голы* (Г.-Х. Андэрсэн); *Корань навукі горкі, ды плады яго салодкія* (Арыстоцель); *Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа ісці* (Ф. Шылер); *Многа шуму з нічога* (У. Шэкспір); *Пераможцу не судзяць* (імператрыца Кацярына); *Дум не скуеш ланцугамі* (Я. Купала); *Мой родны кут, як ты мне мілы* (Я. Колас); *Няма таго, што раньш было* (М. Багдановіч); *Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала* (К. Крапіва).

Паказана, што шчодрай крыніцай прыказак выступае Біблія. Многія біблейскія прыказкі набылі міжнароднае пашырэнне, з'яўляюцца інтэрнацыянальнымі: *Лепш даваць, чым прымаць; Не капай другому яму, сам у яе ўваліішся; Не хлебам адзіным жыве чалавек; Няма нічога тайнага, каб не стала яўным; Няма прарока ў сваёй айчыне; Хто мае вушы, пачуе; Хто сее вецер, пажне буру.*

Гісторыя большасці прыказак не захавала аўтарства, лічыцца, што стваральнікам іх выступае калектыўны аўтар – народ. У этымалагічнай даведцы раскрываецца лінгвістычная, фальклорная ці іншая аснова такіх прыказак, напрыклад, паказваецца, што прыказка заснавана на нерэальным вобразе *(Аржаная каша сама сябе хваліць)*, метанімічным пераносе *(Аддай рукамі, а хадзі нагамі)*, сінекдахічным пераносе *(Адна галава добра, а дзве яшчэ лепей)*, полісеміі *(Голаму сабрацца – толькі падперазацца)*, антытэзе *(Высока лятаеш, але нізка сядзеш)*, рыфме *(Гаспадарка – клапатарка)*, каламбуры *(Нуда горш за каросту)*, алагізме *(На адно вуха слепаваты, на адно вока глухаваты)*, сінтаксічным паралелізме *(Рукі забрудзіш – вадою адмыеш, душу забрудзіш – і мыла не паможа).*

Аўтар пераканальна даказвае, што першакрыніцай прыказкі могуць быць такія фальклорныя творы, як казка *(Андрэй за ўсіх мудрэй)*, загадка *(Сам худ, а галава з пуд)*, іншая прыказка *(Адна галавешка і ў печы не гарыць < Адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не гаснуць; Бог не роўна дзеліць < Бог не роўна дзеліць: у аднаго возьме, а другому дае).*

Важным кампанентам слоўнікавага артыкула з'яўляецца семантычная характарыстыка прыказкі. Поўнасцю ці часткова пераасэнсаваныя а прыказкі знайшлі адэкватнае лагічнае растлумачэнне з дапамогай простых ці складаных сказаў (*Вялікае бачыцца на адлегласці* 'што-н. вялікае, выдатнае па сваім значэнні па-сапраўднаму ацэньваецца, прызнаецца не адразу, а праз пэўны час'; *Я яму пра плот, а ён пра азярод* 'я яму гавару пра адно, а ён, не зразумеўшы ці знарок, пра другое'). Часам семантычная характарыстыка прыказкі дапаўняецца сітуацыйнай характарыстыкай, што дае магчымасць убачыць, у якой канкрэтна сітуацыі яна выкарыстоўваецца (*Закон што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла* 'закон заўсёды можа быць выкарыстаны самачынна, самаўпраўна. Гаворыцца як адмоўная ацэнка несправядлівасці, што чыніцца пад прыкрыццём закона').

Рэальнае выкарыстанне прыказак падмацоўваецца прыкладамі-цытатамі, выпісанымі аўтарам Слоўніка з тэкстаў беларускай літаратурнай мовы, пераважна з твораў пісьменнікаў.

У Слоўніку ўвасоблены шматгадовы досвед І.Я. Лепешава ў галіне парэміялогіі, дзякуючы гэтаму ён і зместам, і падборкай фактычнага матэрыялу атрымаўся якасным і цікавым. Можна выказаць толькі такую заўвагу. На наш погляд, вартасць Слоўніка не зменшылася б, а, наадварот, пабольшала б, калі б асобныя прыказкі не трапілі на яго старонкі. Маюцца на ўвазе запазычанні ці калькі з рускай мовы, якія з'явіліся ў друку, магчыма, выпадкова ці з-за адсутнасці ў асобных аўтараў моўнага чуцця і густу. У свядомасці беларусаў, якія ведаюць рускую мову і часта карыстаюцца ёю, такія «калькі-калекі» (паводле іранічнай кваліфікацыі Ф.М. Янкоўскага) успрымаюцца як штучныя ўтварэнні, прымітывы, што не ўпрыгожваюць, а засмечваюць родную мову. Добра, што ў Слоўнік такіх індывідуальна-аўтарскіх «выкрунтасаў» трапіла няшмат. Пакажам іх у параўнанні з рускамоўнымі адпаведнікамі: *Бачыць вока, ды зуб няйме –*

Видит око, да зуб неймет; *Бог то бог, але і сам не будзь жох* – Бог-то бог, но и сам не будь плох; *Воз і цяпер (зараз, сёння) там* – А воз и ныне там; *Куранят увосень (восенню) лічаць* – Цыплят по осени считают; *Куфэрак (куфэрачак) адчыняецца (адчыняўся) проста* – А ларчик просто открывался; *Назваўся груздом – лезь у кош (кошык)* – Назвался груздем, полезай в кузов; *Раніца мудрэйшая (мудрэй) за вечар* – Утро вечера мудренее; *Сем бед – адзін атвет* – Семь бед – один ответ; *Што маем – не шануем, а як страцім – плачам* – Что имеем, не храним, потерявши – плачем.

Падводзячы рысу, з гонарам можна адзначыць, што «Этымалагічны слоўнік прыказак» І.Я. Лепешава – значнае дасягненне не толькі беларускай, але і славянскай парэміялогіі і парэміяграфіі. Ён можа быць узорам і стымулам для стварэння падобных прац на глебе іншых моў: рускай, украінскай, польскай і г.д.

---

Першая публікацыя ў часопісе: *Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – № 3. – 2014. – С. 67–70.*

## НОВАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ І МОВАЗНАЎСТВА

***Запрудскі, С.М.*** *Беларускае мовазнаўства і развіццё беларускай літаратурнай мовы: 1920–1930-я гады / С.М. Запрудскі. – Мінск : БДУ, 2013. – 367 с.*

У манаграфіі С.М. Запрудскага ахоплены важны перыяд развіцця беларускай літаратурнай мовы, калі фарміравалася яе нарматыўная база, закладваліся асновы далейшага функцыянавання і развіцця. Спробы ахарактарызаваць стан беларускай мовы і мовазнаўства 1920–1930 гг. ажыццяўляліся даследчыкамі і раней (яны прааналізаваны ў манаграфіі). Аднак інтэрпрэтацыя моўнага матэрыялу гэтага перыяду часта была аднабаковай, няпоўнай, тэндэнцыйнай, выклікана афіцыйнымі ідэалагічнымі ўплывамі мінулага, якія абмяжоўвалі магчымасці аўтараў. За саветамі даследаванні такога тыпу стрымліваліся, бо маглі выявіць непажаданыя для тагачаснай улады з'явы.

Сучасная сітуацыя істотна змянілася: не дзейнічаюць ідэалагічныя забароны, многія раней недаступныя архіўныя матэрыялы сталі ўжывальнымі, апублікаваны шэраг фактлагічных крыніц і інш. Гэта паспрыяла С.М. Запрудскаму без перасцярогі ці нейкай аглядкі ажыццявіць шырокамаштабнае, глыбоканавуковае аб'ектыўнае даследаванне.

Уражвае фактлагічная база, на падставе якой стваралася манагарафія. Гэта ўсе слоўнікі, лінгвістычныя зборнікі, многія творы мастацкай і публіцыстычнай літаратуры, тэрміналагічныя даведнікі па розных галінах навук, пераклады твораў У.І. Леніна, партыйныя і ўрадавыя дакументы, працы па беларускім мовазнаўстве міжваеннага перыяду і інш. У працэсе збору матэрыялу С.М. Запрудскі апублікаваў два зборнікі сабраных ім лінгвістычных крыніц. Развіццё беларускіх моўных працэсаў разглядаецца на фоне развіцця літаратурных моў у іншых славянскіх краінах: Расіі, Украіне, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Сербіі, Харватыіі, Македоніі.

Дзякуючы такому масіву лінгвістычнай і пазалінгвістычнай інфармацыі, С.М. Запрудскі стварыў навуковую працу, можна сказаць, панарамнага характару, у якой развіццё беларускай літаратурнай мовы і мовазнаўства разглядаецца ўсебакова, падрабязна прасочваецца лёс кожнай асобнай моўнай з'явы ў працэсе яе «стратыфікацыі» і

«выспявання» з пункту гледжання нарматыўнасці, разглядаюцца тэндэнцыі, фактары і механізмы станаўлення беларускай літаратурнай мовы ў цэлым.

Аб'ектыўнаму паказу развіцця беларускай літаратурнай мовы спрыялі абраныя падыходы і прынцыпы даследавання. Аўтар не пагаджаецца з гіпертрафіраванай увагай савецкіх лінгвістаў да ўнутраных законаў развіцця мовы. Абапіраючыся на працы Я. Бэдуэна дэ Куртэнэ, Ф. дэ Сасюра, Н.Б. Мячкоўскай, ён сцвярджае, што гісторыя мовы не можа быць паспяхова даследавана без уліку знешніх фактараў, што сацыяльнае, свядомае ўздзеянне на мову – вельмі важны кампанент яе развіцця, асабліва ў перыяд складвання яе як літаратурнай.

Асобны раздзел манаграфіі спецыяльна прысвечаны пытанням знешняга ўплыву на развіццё беларускай літаратурнай мовы 1920–1930-х гг. Аўтар даказвае, што беларуская літаратурная мова, якая грунтуецца на народна-дыялектнай аснове, у сучаснай яе версіі сцвердзілася ў значнай ступені пад уздзеяннем суб'ектыўных фактараў. Беларускае мовазнаўства міжваенных гадоў мела пераважна прэскрыптыўны характар, было арыентавана на пошук і замацаванне літаратурных норм. І гэтыя нормы ўзнікалі не стыхійна. Яны вынік дзеяння пэўных канвенцый, вынік грамадскай барацьбы. Актыўнымі пачынальнікамі кадыфікацыі літаратурных норм былі такія канкрэтныя асобы, як Б. Тарашкевіч, Я. Лёсік, В. Ластоўскі, М. Байкоў, С. Некрашэвіч, і інш. І гэта не нейкае беларускае выключэнне з агульных правілаў станаўлення літаратурных моў. Фарміраванне іншых славянскіх моў таксама звязваюць з пэўнымі асобамі: чэшская – Ё. Добраўскі, славацкая – Л. Штур і М. Гатала, сербская – В. Караджыч, македонская – К. Місіркаў, балгарская – В. Стаянаў.

Асабліва плённа беларускія мовазнаўцы працавалі ў першай палове 1920-х гадоў. У іх полі дзейнасці стварэнне слоўнікаў, дапаможнікаў, тэрміналагічных даведнікаў, шматлікія дыскусіі і прапановы адносна нармавання канкрэтных моўных адзінак. Тады беларускае мовазнаўства развівалася незалежна ад палітычных структур і ідэалагічных канцэпцый. Наркамату асветы была дадзена свабода дзеянняў у фармуляванні і рэалізацыі адукацыйнай і моўнай палітыкі.

У манаграфіі паказана, што сітуацыя рэзка змянілася з 1928 г., калі згодна з ідэалагічнымі ўстаноўкамі пачалося прамое ўмяшальніцтва партыйных і дзяржаўных улад у культурныя і творчыя працэсы. У 1930 г. амаль усе распрацоўшчыкі беларускай літаратурнай мовы былі арыштаваны ці звольнены з працы, адбыўся сапраўдны крах беларускай лінгвістыкі. З гэтага часу пачынаюцца новыя сацыялагічныя «рукатворныя» ўздзеянні на нармаванне беларускай мовы, у выніку чаго ранейшая беларуская мова падверглася істотнай рэвізіі і набыла іншы выгляд. У сувязі з гэтым заслугоўвае ўвагі меркаванне С.М. Запрудскага, што тэрмін «сучасная беларуская літаратурная мова» не зусім правільна дастасоўваць да перыяду, які ахоплівае мову пачынаючы з XIX ст. Факты яскрава даказваюць, што нават перыяд 1920-х гадоў не можа быць уключаны ў рамкі сучаснага развіцця беларускай літаратурнай мовы, што ў агульнай перыядызацыі новай беларускай літаратурнай мовы гэты перыяд варта разглядаць як гістарычны. Галоўнай тэндэнцыяй яго была апора ў выпрацоўцы норм на народныя моўныя рэсурсы. А 1930-я гг. – гэта ўжо новы этап, калі праводзіліся мэтанакіраваныя дзеянні, скіраваныя на распадабненне з мовай папярэдняга перыяду.

1930-я гг. дэманструюць яскравыя прыклады ўздзеяння экстралінгвістычных фактараў на моватворчыя працэсы. Аўтар манагарафіі падрабязна, з прыцягненнем мно-

ства дакументальных сведчанняў і, дарэчы, у выключна стрыманай, нейтральнай манеры паказвае, што ва ўмовах усеагульнага татальнага партыйнага кантролю праводзілася небывалая «чыстка» не толькі партыйных радоў, кантынгенту мовазнаўцаў, але і самой мовы. Ажыццяўлялася пераробка яе ў напрамку «пралетарызацыі». Былі складзены спісы «шкодніцкіх», «класава варожых», «нягодных», «кулацкіх» слоў, створаных «антысавецкімі», «класава варожымі элементамі», «нацдэмаўскім ахвосцем» (прыведзеныя тут азначэнні ўзяты з тагачаснай палітычна-выкрывальнай рыторыкі). У стовораным «ГУЛАГу для слова» пацярпелі ў першую чаргу паланізмы, архаізмы, народна-дыялектныя адзінкі, наватворы. Ухвальвалася і ажыццяўлялася замена іх рускамоўнымі адзінкамі «з мэтай максімальна павялічыць колькасць супадзенняў паміж беларускай і рускай мовамі, паставіць заслон перад спецыфічнай беларускай лексікай, распадабніць беларускі лексічны склад са словамі польскай мовы» (с. 306).

С.М. Запрудскі зазначае, што ў выніку жорсткага курсу ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі ў першай палове 1930-х гадоў абсалютная большасць супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства была рэпрэсавана, праводзілася цкаванне многіх беларускіх пісьменнікаў, былі забаронены слоўнікі, падручнікі і дапаможнікі па мове 1920-х гадоў, многія ранейшыя нормы беларускай мовы падлягалі крытыцы і асуджэнню. Гэта выклікала атмасферу своеасаблівага грамадскага псіхозу, які моцна ўплываў на дзейнасць навукоўцаў. Праца над стварэннем новых слоўнікаў, над новым праектам арфаграфічных правілаў зацягвалася і ніяк не магла наблізіцца да завяршэння. Урэшце моўная рэформа 1933 г., масавая працэдура рэдакцыйна-выдавецкіх правак, руска-беларускі слоўнік 1937 г. пад рэдакцыяй А. Александровіча зрабілі сваю справу ў кірунку істотнага змянення узуса беларускай літаратурнай мовы, надалі ёй аблічча, якое ў асноўным захавалася і па сёння. Відаць, варта пагадзіцца з думкай С.М. Запрудскага, што слоўнік пад рэдакцыяй А. Александровіча «няма падстаў строга судзіць … за русіфікаванасць, бо, працуючы ва ўмовах тэрору, укладальнікі слоўніка змушаны былі ўлічваць сумны досвед сваіх папярэднікаў і адаптаваць свае падыходы да вымогаў часу» (с. 290).

У манаграфіі не толькі раскрываюцца агульныя тэндэнцыі і працэсы развіцця беларускай літаратурнай мовы і мовазнаўства ў акрэслены гістарычны перыяд, але і вычарпальна аналізуецца кожная асобная моўная з'ява (фанетычная, словаўтваральная, граматычная, лексічная і інш.), якая трапляла ў працэдуру нармалізацыі, прасочваецца яе падрабязная «біяграфія». Гэта, напрыклад, лёс адрыметнікавых назоўнікаў на *-істы (рэалісты, лінгвісты)*, вандроўных запазычанняў-калек, нульсуфіксальных назоўнікаў, замацаванне месца націску ў вытворных прыметніках, няпросты шлях адлюстравання акання ў арфаграфіі, правапіс гука [ф] у запазычаных словах. Такія падрабязнасці важныя не толькі для гісторыі мовы, яны праліваюць святло на многія сучасныя моўныя правілы, што называецца, знутры дапамагаюць убачыць іх вытокі, этапы і працэдуду кадыфікацыі. Напрыклад, пасля прачытання асобных раздзелаў манаграфіі, становіцца зразумелым, чаму такая моцная фанетычная заканамернасць беларускай мовы, як дзеканне і цекане, не атрымала свайго ўвасаблення ў запазычаных словах *(дыплом, тэлефон)*, чаму сёння такі разнабой у напісаннні прыметнікаў, утвораных з дапамогай суфікса *-ск- (турэцкі,* але *шведскі, беларускі,* але *кіргізскі)*, чаму і як узніклі выключэнні ў перадачы акання на пісьме.

Многія старонкі манаграфіі прысвечаны такім значным гістарычным падзеям, як Акадэмічная канферэнцыя па рэформе правапісу і азбукі 1926 г. і рэформа беларускай мовы 1933 г. Гэтыя дзве падзеі неадзназначна трактаваліся ў лінгвістычнай літаратуры мінулых гадоў. Думаецца, што С.М. Запрудскі даў ім найбольш адэкватную, аб'ектыўную характарыстыку. Ён зазначае, што Акадэмічная канферэнцыя не апраўдала чаканняў тых людзей, якія хацелі рэфармаваць беларускі правапіс, паказала, што тагачасны прпавапіс быў не настолькі недасканалы, як гэта хацелі паказаць ініцыятары рэформы. Галоўным дасягненнем форуму было тое, што ён спрыяў разгортванню лінгвістычных даследаванняў у Беларусі. Што да рэформы 1933 г., то, паводле С.М. Запрудскага, яна з'яўляецца прыкладам непасрэднага ўздзеяння на рэфармаванне ідэалагічных фактараў, абумоўленых агульнасаюзнымі планамі найхутчэйшай уніфікацыі розных моў, у прыватнасці, імкненнем наблізіць беларускую мову да рускай.

Падагульняючы, хочацца сказаць, што манаграфія С.М. Запрудскага – новае сова ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Яна яскрава паказвае, што пры вывучэнні шляхоў фарміравання літаратурнай мовы недастаткова фіксацыі і інтэрпрэтацыі моўных зменаў, пад увагу неабходна браць таксама экстралінгвістычныя фактары: сацыяльныя, этнічныя, культурныя і інш. Дзякуючы манаграфіі, мы нарэшце атрымалі вычарпальную характарыстыку і аб'ектыўную ацэнку стану, развіцця беларускай літаратурнай мовы і мовазнаўства такога няпростага, супярэчлівага, у многім трагічнага перыяду нашай гісторыі, як 1920–1930-я гг. Манаграфія можа быць узорам даследавання гісторыі беларускай мовы пасляваеннага перыяду, яна, несумненна, дапаможа знайсці адказы на шматлікія пытанні сучаснай беларускай літаратурнай мовы, без яе не абысціся пры далейшым вырашэнні праблем нармавання беларускай мовы.

---

Першая публікацыя ў часопісе: *Беларуская лінгвістыка. – 2014. – Вып. 73. – С. 170–173.*

**Ж.С. Сіпліваня**

# БІБЛІЯГРАФІЯ НАВУКОВЫХ ПРАЦ М.А. ДАНІЛОВІЧА

У спісе прыводзяцца назвы навуковых прац М.А. Даніловіча, створаных ім за трыццаціпяцігадовы перыяд навуковай дзейнасці. Сісітэма размяшчэння назваў адпавядае прынцыпу храналогіі – паслядоўнасць іх пагадовая. Кніжныя выданні і брашуры вылучаны паўтоўстым шрыфтам. Пасля назваў кніг падаюцца апублікаваныя на іх рэцэнзіі.

*1979*

1. Даніловіч, М.А. Аб структуры кампаратыўных фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч, І.Я. Лепешаў // Тез. докл. І-ой Гродненской областной конф. молодых ученых «Молодежь и научно-технический прогресс». Ч. І. – Гродно, 1979. – С. 123–124.

*1980*

2. Даніловіч, М.А. Некаторыя граматычныя асаблівасці дзеяслоўных фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Тез. докл. науч.-практ. конф. «Исследования ученых – на службу пятилетке» (29 сент. 1980 г.). Ч. IV (филологические науки). – Гродно, 1980. – С. 14–16.

*1982*

3. Даніловіч, М. Лікавыя формы назоўнікавых фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Слова і фразеалагізм у кантэксце : зб. арт. – Мінск : Мінскі педінстытут імя А.М. Горкага, 1982. – С. 37 – 42.

*1983*

4. Даніловіч, М.А. Спалучальнасць назоўнікавых фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Тез. докл. 2-й областной конф. молодых ученых «Молодежь и научно-технический прогресс». – Гродно, 1983. – С. 52 – 53.

5. Даніловіч, М. Склонавая характарыстыка назоўнікавых ФА / М.А. Даніловіч // Слова і фразеалагізм у кантэксце : зб. арт. – Мінск : Мінскі педінстытут імя А.М. Горкага, 1983. – С. 36 – 40.

6. Даніловіч, М. Сінтаксічныя варыянты назоўнікавых ФА / М.А. Даніловіч // Слова і фразеалагізм у кантэксце : зб. арт. – Мінск : Мінскі педінстытут імя А.М. Горкага, 1983. – С. 40 – 44.

*1984*

7. Даніловіч, М.А. Марфалагічная характарыстыка прыметнікавых фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. – 1984. – № 2. – С. 92 – 97.

8. Даніловіч, М. Прыслоўныя ФА са структурай словазлучэння: марфалагічная характарыстыка / М. Даніловіч // Слова, фразеалагізм, словазлучэнне : зб. арт. – Мінск : Мінскі педінстытут імя А.М. Горкага, 1984. – С. 68 – 72.

9. Даніловіч, М. Спалучальнасць прыслоўных фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Слова, фразеалагізм, словазлучэнне : зб. арт. – Мінск : Мінскі пэдінстытут імя А.М. Горкага, 1984. – С. 72 – 81.

10. **Данилович, Н.А. Грамматическая характеристика фразеологизмов современного белорусского литературного языка : автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02 / Н.А. Данилович; Белорусский государственный университет. – Минск, 1984. – 22 с.**

11. **Данилович Н.А. Грамматическая характеристика фразеологизмов современного белорусского литературного языка : дис. … канд. филол. наук: 10.02.02 / Н.А. Данилович. – Гродно: Гродненский гос. ун-т им. Янки Купалы, 1984. – 189 с.**

*1985*

12. Даніловіч, М. Залацінкі народнай мудрасці / М. Даніловіч // Настаўніцкая газета. – 1985. – 10 крас.

*1986*

13. Даніловіч, М.А. Уласнае імя як элемент дэрывацыйнай базы фразеалагізма / М.А. Даніловіч // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках: тез. докл. II респ. конф. (25 – 26 сент. 1986 г.). Ч. II. / редкол. : В.М. Никитевич (отв. ред.) [и др.]. – Гродно, 1986. – С. 38 – 41.

14. Даніловіч, М.А. Катэгорыя роду назоўнікавых фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Беларуская лінгвістыка. Вып. 30. / АН БССР; Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа / рэдкал. І. Жураўскі (адказ. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1986. – С. 35 – 40.

15. Даніловіч, М.А. Сінтаксічная роля фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Народная асвета. – 1986. – № 11. – С. 44 – 47.

16. Даніловіч, М. І студэнту, і выкладчыку / М. Даніловіч // Настаўніцкая газета. – 1986. – 22 сак.

17. Данилович, Н. Фундаментальный труд / Н.Данилович, И. Лепешев, Т. Томашевич // Гродненская правда. – 1986. – 22 апр.

*1987*

18. Даніловіч, М. Ствараецца слоўнік Навагрудчыны / М. Даніловіч // Новае жыццё. – 1987. – 11 ліп.

19. Данилович Н.А. Рец. : Савельева Т.М., Еленский Н.Г. Дар слова. Говорим по-русски… Гаворым па-беларуску… Минск, 1986 / Н.А. Данилович // Русский язык в национальной школе.– 1987. – № 10. – С. 59.

20. Даніловіч, М.А. Марфалагічныя ўласцівасці прыметнікавых фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Беларуская мова : міжведамасны зб. Вып. 15. / рэдкал. : У.В. Анічэнка (гал. рэд.) [і інш.]; Гомельскі дзярж. ун-т. – Мінск : Універсітэцкае, 1987. – С. 50 – 56.

*1988*

21. Даніловіч, М. Дапаможнік па дыялекталогіі / М. Даніловіч // Настаўніцкая газета. – 1988. – 26 сак.

22. **Метадычныя парады да правядзення дыялекталагічнай практыкі / склад. М.А. Даніловіч; Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. – Гродна, 1988. – 26 с.**

*1989*

23. Даніловіч, М. Вывучэнне тэмы «Фразеалагізмы (фразеалагічныя звароты)» / М. Даніловіч // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1989. – № 9. – С. 22 – 26.

24. Даніловіч М.А. Утварэнне фразеалагізмаў шляхам канкрэтызацыі ўнутранага вобраза / М.А. Даніловіч // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках: тез. докл. III респ. конф. (5–6 окт. 1989 г.). Ч. 2. / редкол.: В.М.Никитевич (отв. ред.) [и др.]; Гродненский гос. ун-т им. Янки Купалы; Гомельский гос. ун-т им. Ф.Скорины. – Гродно, 1989. – С. 29 – 30.

25. **Даніловіч, М.А. Кантрольныя работы з метадычнымі парадамі па беларускай мове і літаратуры (для слухачоў школы юнага філолага і вучняў школ) / М.А. Даніловіч, Н.В. Тарэлкіна; Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. – Гродна, 1989. – 38 с.**

*1990*

26. Даніловіч, М.А. Збіранне дыялектных фразеалагізмаў метадам апытвання / М.А. Даніловіч // Выкладанне беларускай і рускай моў у вышэйшых навучальных установах БССР : тэз. дакл. і паведамл. рэсп. навук.-метад. канф. (20–23 ліст. 1990 г.) / рэдкал. : З.П. Данільчык, М.І. Канюшкевіч (адк. рэд.) [і інш.]; Гродзенскі дзярж. ун-т імя Янкі Купалы. – Гродна, 1990. – С. 73 – 74.

27. Даніловіч, М. Справа ўсіх і кожнага / М. Даніловіч // Гродненская правда. – 1990. – 4 янв.

28. Даніловіч, М. Спонсар ці фундатар? / М. Даніловіч // Літаратура і мастацтва. – 1990. – 2 лют.

29. Даніловіч, М. Работа па фразеалогіі пры вывучэнні іменных часцін мовы / М. Даніловіч // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1990. – № 10. – С. 39 – 44.

30. **Даніловіч, М.А. Кантрольныя работы з метадычнымі парадамі па беларускай мове і літаратуры (для слухачоў факультэта давузаўскай падрыхтоўкі) / М.А. Даніловіч, Н.В. Тарэлкіна; Гродзенскі дзярж. ун-т імя Янкі Купалы. – Гродна, 1990. – 25 с.**

31. Даніловіч, М.А. Адаптацыя фразеалагізмаў з польскамоўнымі элементамі ў гаворках Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства : матэрыялы Першай усесаюзн. навук. канф. (17–19 ліп. 1990 г.); Віцебскі пед. ін-т імя С.М. Кірава. – Віцебск, 1990. – С. 30 – 32.

32. Даніловіч, М. Работа па фразеалогіі пры вывучэнні словаўтварэння і арфаграфіі / М. Даніловіч // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1990. – № 6. – С. 8 – 10.

33. Данилович, Н.А. Рэц. на кн.: *Жуков В.П., Жуков А.В.* Школьный фразеологический словарь русского языка. М., 1989 / Н.А. Данилович // Русский язык в национальной школе. – 1990. – № 3. – С. 62–63.

34. Даніловіч, М. З фразеалагічных россыпаў / М. Даніловіч // Полымя. – 1990. – № 1. – С. 213 – 217.

*1991*

35. Даніловіч, М.А. Малавядомыя дыялектныя факты ў гаворках Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Са спадчыны акадэміка Я.Карскага : навук. чытанні да 130-годдзя з дня нараджэння / рэдкал. З.П. Данільчык, М.І. Канюшкевіч, П.У. Сцяцко; Гродзенскі дзярж. ун-т імя Янкі Купалы. – Гродна, 1991. – С. 45 – 47.

36. Даніловіч, М.А. Фразеалагізмы з уласным імем у гаворках Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. – 1991. – № 1. – С. 115 – 120.

37. **Даніловіч, М.А. Вывучэнне фразеалогіі на ўроках мовы : дапаможнік для настаўніка / М.А. Даніловіч. – Мінск : Нар. асвета, 1991. – 96 с.**

38. **Даніловіч, М.А. Граматычная характарыстыка фразеалагізмаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы : манаграфія / М.А. Даніловіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1991. – 110 с.**

39. **Комплексныя кантрольныя заданні па беларускай мове для слухачоў спецыяльнасці 02.19. – Гродна : ГрДУ. – 1991. – 68 с.**

*1992*

40. Даніловіч, М.А. У дыялектны слоўнік Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Жывое народнае слова : дыялекталагічны зборнік; рэд. П.А. Міхайлаў, І.Я. Яшкін. – Мінск : Навука і тэхніка. – 1992. – С. 21 – 33.

*1993*

41. Даніловіч, М. Фразеалагізмы і … алагізм фразаў : рускамоўныя ўстойлівыя словазлучэнні на беларускай глебе / М. Даніловіч // Роднае слова. – 1993. – № 10. – С. 29 – 34.

*1994*

42. Даніловіч, М.А. Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Шануючы спадчыну Я. Карскага : чацвёртыя навук. чытанні : у 2 ч. Ч. 1.; рэдкал. : М.І. Канюшкевіч, С.Я. Кострыца; Гродзенскі дзярж. ун-т імя Янкі Купалы. – Гродна, 1994.– С. 41 – 45.

43. Даніловіч, М.А. Так кажуць на Астравеччыне / Н.К. Памецька, М.А. Даніловіч // Шануючы спадчыну Я. Карскага : чацвёртыя навук. чытанні: у 2 ч. Ч. 1.; рэдкал. : М.І. Канюшкевіч, С.Я. Кострыца; Гродзенскі дзярж. ун-т імя Янкі Купалы. – Гродна, 1994. – С. 186 – 191.

44. Даніловіч, М. Слоўнік, якога даўно чакалі / М. Даніловіч, Т. Тамашэвіч // Літаратура і мастацтва. – 1994. – 8 ліп.

*1995*

45. Даніловіч, М. Фразеалагічная мазаіка / М. Даніловіч // Полымя. – 1995. – № 2. – С. 246 – 253.

46. Даніловіч, М. «А ў Лашы людзі нашы…», а «У Нясвіжы людзі хіжы…» / М. Даніловіч // Наша слова. – 1995. – № 1.

47. Даніловіч, М. «Птушыны» фальклор / М. Даніловіч // Наша слова. – 1995. – 29 сак.

48. Даніловіч, М. Моўныя скарбы Гродзеншчыны / М. Даніловіч // Літаратура і мастацтва. – 1995. – 12 мая.
49. **Даніловіч, М.А. Беларуская дыялекталогія : практыкум / М.А. Даніловіч; Гродзенскі дзярж. ун-т імя Янкі Купалы. – Гродна, 1995. – 87 с.**
50. Даніловіч, М. Праблемы беларускай пчалярскай тэрміналогіі / М. Даніловіч // Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі : матэрыялы Першай нацыянальнай канф. – Мінск : ТБМ імя Ф. Скарыны, 1995. – С. 213 – 216.
51. Даніловіч, М.А. Фразеалагізмы з польскамоўнымі элементамі ў гаворках Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Узаемадзеянне літаратур і моў (на прыкладзе беларуска-польска-рускіх сувязей); пад рэд. С.П. Мусіенкі; Гродзенскі дзярж. ун-т імя Янкі Купалы. – Гродна, 1995. – С. 215 – 222.

*1996*

52. Даніловіч, М.А. Тыпы фразеалагічных дыялектызмаў / М.А. Даніловіч // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках: материалы V респ. науч. конф., посвящ. памяти проф. В.М.Никитевича (21–22 мая 1996 г.) / редкол.: Н.С.Гребенщикова, С.А.Емельянова (отв. ред.) [и др.]; Гродненский гос. ун-т им. Янки Купалы. – Гродно, 1996. – С. 201–202.
53. Даніловіч, М. Сказаў як звязаў / М. Даніловіч // Полымя. – 1996. – № 8. – С. 376 – 384.
54. Даніловіч, М.А. Народныя зычэнні ў вясельным абрадзе жыхароў Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Я. Карскі і сучаснае мовазнаўства (да 135-х угодкаў з дня нараджэння) : матэрыялы Шостых навук. чытанняў 25 – 26 студз. 1996 г : у 2 т. Т. І. / Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, Гродзенскі гарадскі выканаўчы камітэт. – Гродна, 1996. – С. 55 – 64.
55. Даніловіч, М.А. Прыказкі Гродзеншчыны : новыя запісы / М.А. Даніловіч // Гарадзенскія запісы : старонкі гісторыі і культуры. Вып. 2.; рэдкал. : П. Сцяцко (гал. рэд.) [і інш.]; Гродзенскі дзярж. ун-т імя Янкі Купалы. – Гродна, 1996. – С. 140 – 150.
56. **Даніловіч, М.А. Кантрольныя працы з метадычнымі парадамі па беларускай мове : дапаможнік для слухачоў АДП; Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы / М.А. Даніловіч. – Гродна, 1996. – 30 с.**
57. Даніловіч, М. Дару шчырым словам / М. Даніловіч // Полымя. – 1996. – № 8. – С. 269–278.
58. Даніловіч, М. У слоўнік фразеалогіі / М. Даніловіч // Полымя. – 1996. – № 10. – С. 302 – 307.
59. Даніловіч, М. Каб пілося, елася і яшчэ хацелася / М. Даніловіч // Наша слова. – 1996. – 6–13 ліст.; 21–27 ліст.

*1997*

60. Даніловіч, М. Беларускія тосты / М. Даніловіч // Наша слова. – 1996. – 28 ліст. – 5 снеж.; 1997. – 9–15 студз.
61. Даніловіч, М.А. З новых запісаў прыказак / М.А. Даніловіч // Гарадзенскія запісы: старонкі гісторыі і культуры. Вып. 3.; Гродзенскі дзярж. ун-т імя Янкі Купалы. – Гродна, 1997– С. 130 – 140.

62. Даніловіч, М. Ці няма ў артыкуле Паўла Шубы беларусафобства? / І. Бурлыка, М. Даніловіч, Н. Памецька, П. Сцяцко // Роднае слова.– 1997. – № 12. – С. 91 – 102.

*1998*

63. Даніловіч, М.А. Фразеалагічна-лексічныя дыялектызмы : на матэрыяле гаворак Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Адам Міцкевіч і сусветная культура : матэрыялы Міжнар. навук. канф. (12–17 мая 1997 г.) : у 5 кнігах. Кніга 5. / рэд. Я. Андрованж-Пянёнжак і інш.; Гродзенскі дзярж. ун-т імя Янкі Купалы. – Гродна, 1998. – С. 247 – 253.

64. Даніловіч, М. З руплівасцю і пашанай да роднага слова / М. Даніловіч // Роднае слова. – 1998. – № 10. – С. 92 – 97.

65. Даніловіч, М. Язык як перац, слова як соль / М. Даніловіч // Полымя. – 1998. – № 2. – С. 296 – 304.

*1999*

66. Даніловіч, М.А. Фразеалагізмы з аказіянальнымі словамі-кампанентамі ў гаворках Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Міжнародныя Купалаўскія чытанні : матэрыялы навук. канф. (25 – 27 ліст. 1997 г.) / пад рэд. М.У. Мікуліча. – Гродна : ГрДУ, 1999. – С. 308 – 314.

67. Даніловіч, М.А. Прынцыпы складання слоўніка рэгіянальнай фразеалогіі Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 1. Гуманітарныя навукі. – 1999. – № 2. – С. 112 – 116.

68. **Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны / пад рэд. М.А. Даніловіча, П.У. Сцяцко. – Гродна: ГрДУ, 1999. – 152 с.**

*Рэц.:* Міхайлаў, П. Залацінкі роднай мовы / П. Міхайлаў // Полымя. – 2001. – № 2, – 304–308.

69. Даніловіч, М.А. Прыёмы вывучэння фразеалагізмаў на ўроках мовы і літаратуры / М.А. Даніловіч // Актуальныя праблемы выкладання літаратуры ў сярэдняй і вышэйшай школе : Матэрыялы рэсп. навук.-практ. канф. / пад рэд. М.І. Мішчанчука, М.У. Мікуліча. – Гродна : ГрДУ імя Я. Купалы, 1999. – С. 111 – 114.

70. Даніловіч, М.А. Фразеалагізмы з цьмянымі словамі-кампанентамі / М.А. Даніловіч // Актуальные проблемы славянской фразеологии: материалы междунар. науч. конф. (Гомель 16–17 нояб. 1999 г.) / редкол.: А.С.Аксамитов, Л.Ф.Каховская, В.И.Коваль (отв. ред.) [и др.]; Гомельский гос. ун-т им. Ф.Скорины. – Гомель, 1999. – С. 15–17.

71. Даніловіч, М.А. Слова пра Настаўніка / М.А. Даніловіч // Прафесар Іван Якаўлевіч Лепешаў : бібліяграфічны агляд навукова-педагагічнай дзейнасці па беларускім мовазнаўстве. – Гродна : ГрДУ, 1999. – С. 7 – 10.

72. Даніловіч, М. Віншуем юбіляра! / М. Даніловіч // Роднае слова. – 1999. – № 10. – С. 68.

73. Даніловіч, М. Навука-98 на філалагічным / М. Даніловіч // Гродзенскі ўніверсітэт. – 1999. – 5 мая.

*2000*

74. Даніловіч, М. Жыццё, прысвечанае навуцы / М. Даніловіч // Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт. – 2000. – 1 сак.

75. **Даніловіч, М.А. Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч. – Гродна : ГрДУ, 2000. – 267 с.**

76. **Даніловіч, М.А. Беларускае вяселле. Абрад. Зычэнні. Тосты. Прыказкі. Фразеалагізмы (на матэрыяле Гродзеншчыны) / М.А. Даніловіч, Н.К. Памецька, І.В. Піваварчык. – Гродна: ТБМ, 2000. – 136 с.**

77. Даніловіч, М.А. Пашырэнне кампанентавага складу фразеалагізмаў у беларускіх гаворках / М.А. Даніловіч // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 1. Гуманітарныя навукі. – 2000. – № 3. – С. 97 – 100.

78. Даніловіч, М.А. Тапанімічныя кампаненты ў структуры дыялектных фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках: материалы VII Междунар. науч. конф. (14–15 апр. 2000 г.) / отв. ред. А.В.Никитевич; Гродненский гос. ун-т им. Янки Купалы. – Гродно : ГрГУ, 2000. – С. 167–170.

79. Даніловіч, М.А. Вывучэнне фразеалагізмаў у курсе «Беларуская дыялекталогія» / М.А. Даніловіч // Мова і літаратура ў вышэйшай і сярэдняй школе : Актуальныя праблемы выкладання : матэрыялы рэсп. навук. канф. / пад рэд. М.У. Мікуліча. – Гродна : ГрДУ, 2000. – С. 52 – 58.

*2001*

80. Даніловіч, М.А. Уплыў польскай і рускай моў на фразеалогію Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Славянский мир на пороге третьего тысячелетия: материалы междунар. науч. конф. (Гомель, 15–16 мая 2001 г.) / отв. ред. В.И.Коваль. – Гомель: БелГУТ, 2001. – С. 194–195.

81. Даніловіч, М.А. Фразеалагічна-лексічныя дыялектызмы і іх літаратурныя адпаведнікі / М.А. Даніловіч // Актуальныя праблемы моўнай адукацыі вучняў ва ўмовах рэфармавання агульнаадукацыйнай школы : зб. матэрыялаў рэсп. навук.-метадыч. канф. (Мазыр, 22 – 23 сак. 2001 г.) / пад рэд. В.В. Валетава; Мазырскі дзярж. пед. ін-т імя Н.К. Крупскай. – Мазыр, 2001. – С. 16 – 19.

82. Данилович, Н.А. Именные фразеологические экспрессоиды / Н.А. Данилович // Переходные явления в области лексики и фразеологии русского и других славянских языков (Вторые Жуковские чтения): материалы междунар. науч. симп. (21–23 мая 2001 г.) / отв. ред. В.И. Макаров; Новгородский гос. ун-т им. Ярослава Мудрого. – Великий Новгород, 2001. – С. 149–151.

83. Даніловіч, М.А. Сінтаксічныя асаблівасці фразеалагічных дыялектызмаў (на матэрыяле гаворак Гродзеншчыны) / М.А. Даніловіч // Пятыя навук. чытанні, прысвеч. Сцяпану Некрашэвічу : матэрыялы навук. канф. : Ч. І / рэдкал. : А.А. Станкевіч (адк. рэд.) [і інш.]; Гомельскі дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны. – Гомель, 2001.– С. 54 – 57.

84. Даніловіч, М.А. Дыялектныя фанетычныя асаблівасці фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Беларуская лінгвістыка. Вып. 51. – Мінск, 2001. – С. 67–72.

85. Даніловіч, М. «Супраць ліха на ўзгорачку дзе пень на калоду брэша» : канструкцыйна-колькасныя фразеалагічныя дыялектызмы / М. Даніловіч // Роднае слова. – 2001. – № 1. – С. 45 – 48.

86. Даніловіч, М.А. Семантычныя асаблівасці дыялектных фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Славянская фразеология в ареальном, историческом и этнокультурном

аспектах: материалы междунар. науч. конф. (23–24 нояб. 2001 г.) / редкол.: В.И.Коваль (отв. ред.) [и др.]. – Гомель : ГГУ им. Ф. Скорины, 2001. – С. 53 – 58.

2002

87. Даніловіч, М.А. Фразеалагічна-семантычныя дыялектызмы / М.А. Даніловіч // Беларуская лінгвістыка. – Вып. 52. – 2002.– С. 53 – 62.

88. Даніловіч, М.А. Фразеалагічна-словаўтваральныя дыялектызмы / М.А. Даніловіч // Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук. – 2002. – № 1.– С. 106 – 110.

89. Даніловіч, М.А. Фразеалагічна-марфалагічныя дыялектызмы / М.А. Даніловіч // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя І. Гуманітарныя навукі. – 2002. – № 1. – С. 122 – 127.

90. Даніловіч, М.А. Польскамоўныя элементы ў структуры дыялектных фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Веснік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Серыя 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка.– 2002. – № 1. – С. 43– 47.

91. Даніловіч, М.А. Устарэлыя словы ў складзе дыялектных фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні : матэрыялы навук. канф. (24 кастр. 2001 г.) / пад рэд. У.І. Каялы, І.Я. Лепешава. – Гродна : ГрДУ, 2002. – С. 312 – 318.

92. Даніловіч, М.А. Безэквівалентныя ўласнафразеалагічныя дыялектызмы з аб'ектным значэннем / М.А. Даніловіч // Актуальныя пытанні беларускай лінгвістыкі (да 80-годдзя праф. М.С. Яўневіча) : зб. навук. арт. / рэдкал. : П.А. Міхайлаў, Н.М. Нямковіч, Т.М. Трыпуціна [і інш.]; Бел. дзярж. пед. ун-т імя Максіма Танка. – Мінск, 2002. – С. 49 – 53.

93. Даніловіч, М.А. Факультатыўнасць кампанентаў фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Пісьменнік – мова – стыль : матэрыялы ІІ Міжнар. навук. канф., прысвеч. 75-годдзю з дня нараджэння праф. Л.М. Шакуна (Мінск, 15 – 16 ліст. 2001 г.) : у 2 т. Т. 1. / рэдкал. : М.Р. Прыгодзіч [і інш.]; Бел. дзярж. ун-т. – Мінск : РІВШ, БДУ, 2002. – С. 105 – 108.

94. Даніловіч, М. Развіццё фразеалагічна-лексічных дыялектызмаў / М. Даніловіч // Вісник Луганського державного педагогічного университету імені Тараса Шевченка. – 2002. – № 4 (48). – С. 154 – 159.

95. Даніловіч, М.А. Фразеалагізмы ў сучасных дыялектных лексічных слоўніках / М.А. Даніловіч // Слово и словарь = Vocabulumetvocabularium : сб. науч. тр. по лексикографии / отв. ред. В.В.Дубичинский и др.; Гродненский гос. ун-т им. Янки Купалы; Харьковское лексикографическое общество. – Гродно : ГрГУ, 2002. – С. 30–34.

96. Даніловіч, М.А. Культурна-эстэтычны аспект народнай тэрміналагічнай фразеалогіі / М.А. Даніловіч // Культура мовы і грамадства : матэрыялы Міжнар. навук.-практ. канф. (5 – 6 снеж. 2002 г.) / рэдкал. : Э.Д. Блінава, І.Л. Бурак, Н.В. Гаўрош [і інш.]; Бел. дзярж. пед. ун-т імя Максіма Танка. – Мінск : БДПУ, 2002. – С. 47 – 50.

97. Даніловіч, М.А. Да вызначэння ўласнафразеалагічных дыялектызмаў / М.А. Даніловіч // Веснік Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.А. Куляшова. – 2002. – № 4 (13). – С. 61 – 65.

98. Даніловіч, М.А. Антрапонімы ў складзе дыялектных фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Известия Гомельского гос. ун-та им. Ф. Скорины. – 2002. – № 1 (10) : Беларуская мова-26. – С. 24 – 29.

99. Даніловіч, М.А. Агульнанародныя словы ў складзе дыялектных фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Известия Гомельского гос. ун-та им. Ф.Скорины. – 2003. – № 6 (21). Беларуская мова-27. – С. 54 – 60.

100. **Даніловіч, М.А. Беларуская дыялектная фразеалогія і яе лексічная аснова : манаграфія / М.А. Даніловіч. – Гродна : ГрДУ, 2003. – 272 с.**

*Рэц.:* Рагаўцоў В.І. Грунтоўнае даследаванне / В.І. Рагаўцоў // Веснік Магілёўскага дзярж. ун-та імя А.А. Куляшова. – 2004. – № 2–3 (18). – С. 170–173.

101. Даніловіч, М.А. Вывучэнне і сістэматызацыя навуковых крыніц беларускай дыялектнай фразеалогіі / М.А. Даніловіч // Актуальныя праблемы выкладання мовы і літаратуры ў сярэдняй і вышэйшай школе : матэрыялы рэсп. навук. канф. (30 кастр. 2002 г.) / пад рэд. У.І. Каялы, Т.І. Тамашэвіча; Гродзенскі дзярж. ун-т імя Янкі Купалы. – Гродна: ГрДУ : ГрДУ, 2003. – С. 305 – 309.

102. Даніловіч, М.А. Дзіцячая фразеалогія ў беларускай дыялектнай мове / М.А. Даніловіч // Слова і час : Навуковыя чытанні, прысвечаныя памяці прафесара У.В. Анічэнкі : зб. навук. арт. : у 2 ч. Ч. 1. адк. рэд. А.А. Станкевіч; Гомельскі дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны. – Гомель : УА «ГДУ імя Ф. Скарыны», 2003. – С. 121 – 129.

103. Даніловіч, М.А. Камбінаваныя фразеалагічныя дыялектызмы / М.А. Даніловіч // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках : материалы VIII Междунар. науч. конф. (15–16 апр. 2003 г.) / отв. ред. С.А.Емельянова, Л.В.Рычкова, А.В.Никитевич; Гродненский гос. ун-т им. Янки Купалы. – Гродно: ГрГУ, 2003. – С. 256–260.

104. Даніловіч, М.А. Лексічныя дыялектызмы ў структуры дыялектных фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Веснік Брэсцкага дзярж. ун-та. Сер. гуманітар. і грамад. навук. – 2003. – № 1 (31). – С. 84 – 89.

105. Даніловіч, М.А. Рускамоўныя элементы ў складзе беларускіх дыялектных фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Славянскія мовы, літаратуры і культуры: этнас у святле гісторыі і сучаснасці : зб. навук. прац / пад рэд. С.П. Мусіенкі; Гродзенскі дзярж. ун-т імя Янкі Купалы; Саюз палякаў на Беларусі; Польска мацеж школьна. – Гродна: ГрДУ, 2003. – С. 285 – 293.

106. Даніловіч, М.А. Скарачэнне колькасці кампанентаў фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Роднае слова. – 2003. – № 5. – С. 43 – 45.

107. Даніловіч, М.А. Словы балтыйскага паходжання ў структуры беларускіх дыялектных фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Веснік Бел. дзярж. ун-та. / Сер. 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. – 2003. – № 1. – С. 37 – 41.

108. Даніловіч, М.А. Тыпы дыялектнай фразеалогіі / М.А. Даніловіч // Весці НАН Беларусі. Сер. гуманітар. навук. – 2003. – № 2. – С. 102 – 107.

109. Даніловіч, М.А. Фразеалагічна-сінтаксічныя дыялектызмы / М.А. Даніловіч // Е.Ф. Карский и современное языкознание : материалы IX междунар. Карских чтений : в 2 ч. Ч. 2. / под ред. М.И. Конюшкевич; Гродненский гос. ун-т им. Янки Купалы. – Гродно : ГрГУ, 2003.– С. 207 – 215.

110. Даніловіч, М.А. Фразеалагічная спадчына Міхала Федароўскага / М.А. Даніловіч // Роднае слова. – 2003. – № 9. – С. 39 – 41.

111. Даніловіч, М.А. Шляхі развіцця беларускай дыялектнай фразеалогіі / М.А. Даніловіч // Славянская фразеология в ареальном, историческом и этнокультурном аспектах: материалы III Междунар. науч. конф. (7–8 окт. 2003 г.) / отв. ред. В.И.Коваль; Гомельский гос. ун-т им. Ф.Скорины. – Гомель: УО «ГГУ им. Ф.Скорины», 2003. – С. 159–163.

112. Даніловіч, М.А. Эквівалентныя ўласнафразеалагічныя дыялектызмы / М.А. Даніловіч // Веснік Гродзенскага дзярж. ун-та імя Янкі Купалы. Сер. 1. Гуманітар. навукі. – 2003. – № 1. – С. 129 – 136.

113. Даніловіч, М.О. Безэквівалентныя суб'ектныя ўласнафразеалагічныя дыялектызмы / М.О. Даніловіч // Вісник Луганського держ. пед. ун-ту ім. Тараса Шевченка. – 2003. – № 3 (59). – С. 187 – 193.

114. Даніловіч, М. Дзіцячая фразеалогія ў гаворках Гродзеншчыны / М. Даніловіч // Культура Гродзенскага рэгіёну : праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа : зб. навук. пр. / адк. рэд. А.М. Пяткевіч. – Гродна : ГрДУ, 2003. – С. 326 – 330.

*2004*

115. Даніловіч, М. Балтызмы ў сістэме лексічна-фразеалагічных адносін (на матэрыяле беларускіх гаворак) / М. Даніловіч // Шлях да ўзаемнасці = Droga ku wzajemnosci : мат. X Міжнар. навук. канф. : Гродна – Мір, 24 кастр. 2002 г. / пад рэд. С. Мусіенкі. – Гродна : ГАУПП «Гродз. друк.». – 2004. – С. 75 – 80.

116. Даніловіч, М.А. Аказіянальныя кампаненты ў структуры дыялектных фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Веснік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Серыя 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. – 2004. – № 1. – С. 52 – 57.

117. Данилович Н.А. Способы подачи фразеологизмов в диалектных лексических словарях / Н.А. Данилович // Словарное наследие В.П.Жукова и пути развития русской и общей лексикографии (Третьи Жуковские чтения) : Материалы Междунар науч. симпозиума, 21 – 22 мая 2004 г. / отв. ред. В.И. Макаров; Нов.ГУ им. Ярослава Мудрого. – Великий Новгород. – 2004. – С. 449–454.

118. Даніловіч, М.А. Устойлівасць фразеалагізмаў з цьмянымі кампанентамі ў беларускіх гаворках / М.А. Даніловіч // Актуальныя праблемы мовазнаўства (да 80-годдзя прафесара І.Я. Лепешава) : матэрыялы Міжнар. навук. канф., 28 кастр. 2004 г., Гродна / адк. рэд. Т.І. Тамашэвіч. – Гродна : ГрДУ, 2004. – С. 102 – 105.

119. Даніловіч, М. Навуковы подзвіг вучонага / М. Даніловіч // Гродзенская праўда. – 2004. – 23 кастр.

120. **Даніловіч, М.А. Беларуская дыялектная фразеалогія : тыпалогія, лексічны склад : дыс. ... доктара філал. навук : 10.02.01 / М.А. Даніловіч; Гродзенскі дзярж. ун-т імя Янкі Купалы. – Гродна, 2004. – 231 с.**

121. **Даніловіч, М.А. Беларуская дыялектная фразеалогія : тыпалогія, лексічны склад : аўтарэф. дыс. … доктара філал. навук : 10.02.01 / М.А. Даніловіч; Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. – Мінск, 2004. – 42 с.**

122. Даніловіч, М.А. Да паходжання лексемы *пракаветны* / М.А. Даніловіч // Актуальныя праблемы функцыянавання і развіцця лексікі славянскіх моў: матэрыялы Міжнар. навук. канф., прысвеч. 60-годдзю ун-та, 7 – 8 кастрычніка 2004 г., г. Мазыр / адк. рэд. А.В. Солахаў. – Мазыр: УА МДПУ, 2004. – С. 24 – 26.

2005

123. Даніловіч, М.А. Збіранне і слоўнікавае апісанне фразеалогіі Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Надзённыя пытанні лінгвістыкі (да 75-годдзя праф. П.У. Сцяцко) : матэрыялы міжнар. навук. канф., 11 сакавіка 2005 г., Гродна / адк. рэд. А.І. Багдзевіч. – Гродна : ГрДУ, 2005. – С. 258 – 263.

124. Даніловіч, М. Апанас Цыхун / М. Даніловіч // Роднае слова. – 2005. – № 5. – С. 48 – 49.

125. Даніловіч, М. Перспектывы дыялекталагічнай працы ў школе / М. Даніловіч // Роднае слова. – 2005. – № 7. – С. 91 – 93.

126. Даніловіч, М.А. Граматычная характарыстыка фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Беларуская мова: хрэстаматыя: вучэб. дапам. / аўт.-склад. З.І. Бадзевіч і інш. – Мінск: Юнипресс. – 2005. – С. 180 – 181.

127. Даніловіч, М. Методыка збірання дыялектнага матэрыялу ў пазакласнай працы па мове / М. Даніловіч // Роднае слова. – 2005. – № 9. – С. 74 – 77.

128. Даніловіч, М.А. Збіранне і слоўнікавае апісанне лексікі Гродзеншчыны ў XX ст. / М.А. Даніловіч // Слово и словарь = Vocabulum et vocabularium : сб. науч. тр. по лексикографии / отв. ред. Л.В. Рычкова [и др.]. – Гродно : ГрГУ, 2005. – С. 17 – 22.

129. Даніловіч, М.А. Тыпалогія лексічных і фразеалагічных дыялектызмаў / М.А. Даніловіч // Славянская фразеология в ареальном, историческом и этнокультурном аспектах : материалы IV Междунар. науч. конф. / отв. ред. В.И.Коваль. – Гомель: УО «ГГУ им. Ф.Скорины», 2005. – С. 157–161.

130. Даніловіч, М. Слоўнік назваў зямлі Гарадзенскай / М. Даніловіч // Гродзенская праўда. – 2005. – 13 кастр. – С. 8.

2006

131. Даніловіч, М. Слоўнік назваў зямлі Гарадзенскай / М. Даніловіч // Роднае слова. – 2006. – № 2. – С. 77.

132. Даніловіч, М.А. Лексічна-фразеалагічныя дэрывацыйныя сувязі / М.А. Даніловіч // Надзённыя праблемы лексікалогіі і анамастыкі славянскіх моў : зб. навук. арт. / адк. рэд. : А.В. Солахаў, В.В. Шур; М-ва адук. РБ, Мазырскі дзярж. пед. ун-т. – Мазыр : УА МДПУ, 2006. – С. 34 – 36.

133. Даніловіч, М.А. Вывучэнне тапаніміі Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 1. Гуманітарныя навукі. – 2006. – № 2 (38). – С. 156 – 161.

134. Даніловіч, М.А. Дыялектныя фразеалагізмы з архаічнымі кампанентамі / М.А. Даніловіч // Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Сер. гуманітар. навук. – 2006. – № 3. – С. 117 – 121.

135.Даніловіч, М.Польскамоўныя элементы ў беларускай дыялектнай фразеалогіі / М. Даніловіч // Gwany i onomastyka pogranicza polsko-wschodniosłowiańskiego i słowiańsko-bałtyckiego : Tom prac ofiarowany Prof. Mihałowi Kondratiukowi z okazji 45-lecia pracy naukowej. – Białystok : Wyd-wo Un-tu w Białymstoku, 2006. – С. 113 – 124.

136.Даніловіч, М.А.Надзённыя задачы беларускай дыялектнай фразеаграфіі / М.А. Даніловіч // Сучасныя праблемы беларускай лексікалогіі і лексікаграфіі : матэрыялы

Міжнар. навук. канф. (Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, 19 – 20 ліст. 2005 г.) / навук. рэд. А.А. Лукашанец. – Мінск: Права і эканоміка, 2006. – С. 109 – 116.

137. Даніловіч, М. Збіранне лексікі і фразеалогіі ў пазаўрочны час / М. Даніловіч // Роднае слова. – 2006. – № 5. – С. 73 – 77.

138. Даніловіч, М. Нам сонейкам свеціць матчына песня / М. Даніловіч // Роднае слова. – 2006. – № 12. – С. 61 – 62.

*2007*

139. Даніловіч, М. Новае слова ў беларускай парэміялогіі / М. Даніловіч // Роднае слова. – 2007. – № 4. – С. 65.

140. **Даніловіч, М.А. Дыялектная мова Гродзеншчыны: хрэстаматыя / М.А. Даніловіч, Н.К. Памецька. – Гродна : ГрДУ, 2007. – 260 с.**

*Рэц.*: Ляшчынская, В. Новая хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі / В. Ляшчынская // Роднае слова. – 2008. – № 2. – С. 59.

*Рэц.*: Сіпліведя, Ж.С. Новы тып хрэстаматыі па беларускай дыялектнай мове / Ж.С. Сіпліведя, І.І. Бубновіч // Краязнаўства як адзін з накірункаў вучэбна-выхаваўчай работы ў школе і ВНУ : матэрыялы рэсп. навук. канф., Брэст 28 – 29 сак. 2008 г. / пад агул. рэд. У.А. Сенькаўца. – Брэст : Альтернатива, 2008. – С. 234 – 237.

141. Даніловіч, М.А. Дыялектныыя фразеалагізмы ў мове твораў Янкі Купалы / М.А. Даніловіч // Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні : зб. навук. прац / рэдкал. : У.І. Каяла (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ГрДУ, 2007. – С. 117 – 123.

142. Даніловіч, М. Гаворыць наша Гродзеншчына / М. Даніловіч // Наша слова. – 18.07.2007. – С. 4; 25.07.2007. – С. 4; 1.08.2007. – С. 4; 8.08.2007. – С. 4; 15.08.2007. – С. 4; 22.08.2007. – С. 4.

143. Даніловіч, М.А. Рэгіянальныя фанетычныя асаблівасці гаворак Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Веснік ГрДУ імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. – 2007. – № 3 (56). – С. 40 – 45.

144. Даніловіч, М.А. Праект тэкстаграфічнага зборніка «Дыялектная мова Гродзеншчыны» / М.А. Даніловіч // Слово и словарь = Vocabulum et vocabularium : сб. науч. тр. по лексикографии; ГрГУ им. Я.Купалы / отв. ред. Л.В. Рычкова, В.Л. Воронович. – Гродно : ГрГУ, 2007. – С.104 – 106.

145. Даніловіч, М.А. Дэвульгарызацыя фразеалагізмаў і прыказак / М.А. Даніловіч // Славянская фразеология в ареальном, историческом и этнокультурном аспектах : материалы V Междунар. конф. (Гомель, 22–23 окт. 2007 г.). / редкол.: В.И.Коваль (отв. ред.) [и др.]. – Гомель: ГГУ им. Ф.Скорины, 2007. – С. 56–60.

146. Данилович, Н.А. Развитие фразеографии в Беларуси / Н.А.Данилович // К 60-летию профессора А.В. Жукова : юбилейный сб. науч. трудов / отв. ред. В.И.Макаров; НовГУ им. Ярослава Мудрого. – Великий Новгород, 2007. – С. 40–47.

147. Даніловіч, М.А. Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Праграмы спецкурсаў для студэнтаў спецыяльнасці 1-21 05 01 – Беларуская філалогія (спецыялізацыя 1-21 05 01 01 – Мовазнаўства) / адк. рэд. М.А Даніловіч. – Гродна : ГрДУ імя Я. Купалы, 2007. – С. 22 – 30.

*2008*

148. Даніловіч, М.А. З дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Народныя скарбы: дыялекталагічны зборнік (да 80-годдзя А.А. Крывіцкага) / рэд. Л.П. Кунцэвіч; Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. – Мінск : Права і эканоміка, 2008. – С. 125 – 138.

149. Даніловіч, М.А.Формы і напрамкі лінгвістычнага краязнаўства / М.А. Даніловіч // Краязнаўства як адзін з накірункаў вучэбна-выхаваўчай работы ў школе і ВНУ : матэрыялы рэсп. навук. канф., Брэст 28 – 29 сак. – Брэст : Альтернатива, 2008. – С. 29 – 37.

150. Даніловіч, М.А. Рэгіянальныя асаблівасці назоўніка і прыметніка ў гаворках Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2008. – № 1 (65). – С. 43 – 47.

151. Даніловіч, М.А. Рэгіянальныя моўныя з'явы ў класіфікацыйнай сістэме беларускіх гаворак / М.А. Даніловіч // Дыялекталогія і гісторыя беларускай мовы : матэрыялы Міжнар. навук. канф., Мінск 15–16 крас. 2008 г. / Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. – Мінск : Права і эканоміка, 2008. – С. 11 – 16.

152. **Даніловіч, М.А. Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны: дапам. / М.А. Даніловіч. – Гродна: ГрДУ, 2008. – 227 с.**

*Рэц.*: Піваварчык, І. Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны / І. Піваварчык // Роднае слова. – 2009. – № 3. – С. 52.

*Рэц.*: Лепешаў, І. «Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны» / І. Лепешаў // Краязнаўчая газета. – 2009. – Студзень. – № 2.

*Рэц.*: Лепешаў, І. Любіць свій край… І. / Лепешаў // Наша слова. – 2009. – 4 сак.

153. Даніловіч, М. Новы нарматыўны слоўнік фразеалагізмаў / М. Даніловіч // Роднае слова. – 2008. – № 12. – С. 64.

*2009*

154. Даніловіч, М. Збіранне тапаніміі ў пазакласнай працы па мове / М.А. Даніловіч // Роднае слова. – 2009. – № 2. – С. 94 – 98.

155. Даніловіч, М. Народнаэтымалагічнае пераасэнсаванне фразеалагізмаў у дыялектнай мове / М. Даніловіч // Беларуская фразеалогія і еўрапейскі моўны кантэкст : зб. навук. арт. : у 2 т. Т.1 / М-ва адукацыі РБ, Брэсц. дзярж. ун-т імя А.С. Пушкіна, Каф. гісторыі беларус. мовы і дыялекталогіі; рэдкал. : М.М. Аляхновіч [і інш.]. – Брэст: Альтернатива, 2009. – С. 20 – 24.

156. Даніловіч, М.А. Пра *чорта* і *кулічкі* : этымалагічны аналіз фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2009. – № 3. – С. 81 – 85.

157. Даніловіч, М. Жыццё, прысвечанае навуцы : да юбілею Івана Лепешава / М. Даніловіч // Роднае слова. – 2009. – № 10. – С. 37 – 38.

158. Даніловіч, М.А. Правапіс уласнага імя ў фразеалагізмах / М.А. Даніловіч // Куляшоўскія чытанні : матэрыялы Міжнар. навук.-практ. канф. (Магілёў, 24 крас. 2009 г.). – Магілёў : МДУ імя А.А. Куляшова, 2009. – С.113 – 115.

159. Даніловіч, М.А. Развіццё лексічнай варыянтнасці фразеалагізмаў у беларускай дыялектнай мове / М.А. Даніловіч // Каб жыло наша слова : зб. навук. арт. да 90-годдзя з дня нараджэння Фёдара Янкоўскага / рэдкал.: М.І. Новік [і інш.]; пад агул. рэд М.І. Новік. – Брэст : Альтернатива, 2009. – С. 38 – 41.

160. Даніловіч, М. Адлюстраванне фактаў гісторыі ў беларускай дыялектнай фразеалогіі / М. Даніловіч // Польска-беларускія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі : матэрыялы XVI Міжнар. навук. канф. «Шлях да ўзаемнасці» (Беласток, 25-26 IX 2009) / пад рэд. М. Кандрацюка, Б. Сегеня. – Беласток, 2009. – С. 129 – 138.

*2010*

161. Даніловіч, М.А. Айканімія Гродзенскага раёна / М.А. Даніловіч // Грані роднага слова : зб. мовазнаўч. навук. арт. (да 80-годдзя праф. П.У. Сцяцко) / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал. : М.А. Даніловіч (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ГрДУ, 2010. – С. 125 – 132.

162. Даніловіч, М.А. Бінарныя фразеалагічныя спалучэнні ў беларускіх гаворках / М.А. Даніловіч // Нацыянальная мова і нацыянальная культура : аспекты ўзаемадзеяння : навук. зб. да 60-годдзя П.А. Міхайлава / рэд. кал. : А.В. Барысевіч, Д.В. Дзятко, Н.П. Лобань [і інш.]; адк. рэд. Д.В. Дзятко. – Мінск : Права і эканоміка, 2010. – С. 145 – 149.

163. Даніловіч, М.А. З дыялектнай фразеалагічнай спадчыны / М.А. Даніловіч // Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванн і : навук. зб. – Мінск : Права і эканоміка, 2010. – С. 85 – 95.

164. Даніловіч, М. Ім ганарыцца Гродзеншчына / М. Даніловіч // Наша слова. – 2010. – 12 траўн.

165. Даніловіч, М.А. Этымалагічны аналіз Купалавых фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні : зб. навук. арт. / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал.: У.І. Каяла (адк. рэд.)[ і інш.]. – Гродна : ГрДУ, 2010. – С. 70 – 76.

166. Даніловіч, М.А. Навуковы семінар «Актуальныя праблемы рамана-германскага і славянскага мовазнаўства» / М.А. Даніловіч, І.В. Піваварчык // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2010. – № 2 (98). – С. 165 – 166.

*2011*

167. Даніловіч, М. Фітафразеалогія ў беларускіх гаворках / М. Даніловіч // Творчество Элизы Ожешко в эстетическом пространстве современности : сб. науч. ст. / ГрГУ им. Я.Купалы; редкол.: С.Ф.Мусиенко (гл. ред.), Е.П.Нелепко (зам. гл. ред.) [и др.]; под науч. ред. С.Ф.Мусиенко. – Гродно: ГрГУ, 2011. – С. 343–348.

168. Даніловіч, М.А. Фразеалагізмы традыцыйных мадэляў у беларускай дыялектнай мове / М.А. Даніловіч // Е.Ф.Карский и современное языкознание: материалы XII междунар. науч. чтений (Гродно, 20-21 мая 2010 г.) / ГрГУ им. Я.Купалы; редкол.: М.И.Конюшкевич (гл. ред.), А.В.Никитевич. – Гродно: ГрГУ, 2011. – С. 210–217.

169. Даніловіч, М.А. Асноўныя кірункі супастаўляльна-тыпалагічнага вывучэння фразеалогіі / М.А. Даніловіч // Веснік ГрГУ. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2011. – № 1 (108). – С. 114 – 119.

170. Даніловіч, М.А. Тыпы міжмоўных фразеалагічных адпаведнасцей / М.А. Даніловіч // Веснік ГрДУ. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2011. – № 2 (113). – С. 56 – 64.

171. Даніловіч, М.А. Этнакультурная семантыка тапонімаў у складзе фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Славянская фразеология в синхронии и диахронии : сб. науч. ст. Вып. 1. / М-во образования РБ, Гомельский гос. ун-т им. Ф.Скорины; редкол.: В.И.Коваль (отв. ред.) [и др.]. – Гомель: ГГУ им. Ф.Скорины, 2011. – С. 97–100.

172. Даніловіч, М.А. Асяродак навукі і прафесійнага майстэрства (да 20-годдзя кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства) / М.А. Даніловіч, П.У. Сцяцко // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2011. – № 3 (119). – С. 145 – 150.

173. Даніловіч, М.А. Фразеалагізмы з псеўдаўласнымі імёнамі ў беларускай дыялектнай мове / М.А. Даніловіч // Шлях да ўзаемнасці = Droga ku wsajemności : матэрыялы XVII Міжнар. навук. канф. (Гродна, 18 – 19 ліст. 2010 г.) / рэдкал. : Г. Хацкевіч, Я. Панькоў, Э. Ярмусік, І. Папоў (гал. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ГрДУ, 2011. – С. 13 – 17.

174. Даніловіч, М. «…на слова, душа, адгукніся!» / М. Даніловіч // Наша слова. – 2011. – 28 снеж.

*2012*

175. Даніловіч, М.А. З фразеалогіі гаворак Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні : зб. навук. арт. Вып. 2. – Мінск : Беларуская навука, 2012. – С. 81 – 86.

176. Даніловіч, М.А. Гідронімы басейна ракі Котры / М.А. Даніловіч, Н.К. Памецька // Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні : зб. навук. арт. Вып. 2. – Мінск : Беларуская навука, 2012. – С. 68 – 72.

177. Даніловіч, М.А. Аспекты этналінгвістычнага вывучэння рэгіянальнай тапаніміі на стадыі збірання / М.А. Даніловіч // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2012. – № 1 (127). – С. 30 – 36.

178. Danilovich M.A. Sources of dialektal phraseology (on the basis of the Belarusian language / M.A. Danilovich // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2012. – № 2 (135). – С. 57 – 62.

179. Даніловіч, М. Новае даследаванне беларускіх гаворак / М. Даніловіч // Краязнаўчая газета. – 2012. – № 17 (418). – С. 6.

180. Даніловіч, М.А. Мікратапанімія вёскі Бабіна Гродзенскага раёна / М.А. Даніловіч // Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны (матэрыялы і даследаванні) : зб. навук. арт. (да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка) / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал. : М.А. Даніловіч (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2012. – С. 78 – 94.

181. Даніловіч, М.А. Дражнілкі ў фальклоры Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч, Н.К. Памецька // Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны (матэрыялы і даследаванні) : зб. навук. арт. (да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка) / ГрДУ імя Я. Купалы / рэдкал. : М.А. Даніловіч (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2012. – С. 179–181.

182. Даніловіч, М.А. Рэц. : Садоўская А.Л. Фразеалагізмы з кампанентам-арнітонімам у беларускай мове : этналінгвістычны аспект. – Мінск : БДУ, 2011. – 271 с. / М.А. Даніловіч // Беларуская лінгвістыка. Вып. 67. – 2012. – С. 134 – 135.

183. Даніловіч, М.А. Дыялектная фразеалогія ў творах Янкі Купалы / М.А. Даніловіч // Слова класічная вышыня (да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа) : зб. навук. прац / рэдкал. : І.В. Жук (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ЮрСаПринт, 2012. – С. 61 – 67.

*2013*

184. Даніловіч, М. Абгрунтавана і пераканальна / М. Даніловіч // Наша слова. – 2013. – 16 студз. – С. 2 – 3.

185. **Даніловіч, М.А. Праблемы супастаўляльнай фразеалогіі : дапам. / М.А. Даніловіч, Т.Ф. Фундатар, І.К. Цівунчык. – Гродна : ООО «ЮрСаПрынт», 2013. – 133 с.**

*Рэц.*: Нямковіч, Н. Новыя гарызонты фразеалогіі / Н. Нямковіч, Д. Дзятко // Роднае слова. – 2013. – № 10. – С. 51 – 52.

*Рэц.*: Маршэўская, В.В. У пошуках арыенціраў супастаўляльнага даследавання фразеалогіі / В.В. Маршэўская // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2013. – № 3 (165). – С. 155 – 157.

186. Даніловіч, М.А. Фактары міжмоўнай фразеалагічнай эквівалентнасці // М.А. Даніловіч // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2013. – № 1 (149). – С. 53 – 57.

187. Даніловіч, М. Грунтоўнае даследаванне лексікі беларускай мовы / М. Даніловіч // Роднае слова. – 2013. – № 3. – С. 40 – 41.

188. Даніловіч, М.А. Прынцыпы складання рэгіянальнага этналінгвістычнага слоўніка тапонімаў / М.А. Даніловіч // Слово и словарь = Vocabulum et vocabularium : сб. науч. тр. / ГрГУ им. Я. Купалы / редкол.: Л.В. Рычкова (гл. ред.), Т. Ройтер, В.В. Дубичинский [и др.]. Гродно : ГрГУ, 2013. – С. 72–74.

189. Даніловіч, М. Збіральніцкая справа духоўных народных скарбаў працягваецца / М. Даніловіч // Легенды і паданні Слонімшчыны / склад. С. Чыгрын. – Мінск : Кнігазбор, 2013. – С. 3 – 7.

190. Даніловіч М.А. Фразеаўтваральнае слова *кут* у творах Янкі Купалы / М.А. Даніловіч // Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні (да 130-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы), 20–21 крас. 2012 г. : зб. навук. прац / рэдкал. : І.В. Жук (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ТАА «ЮрСаПрынт», 2013. – С. 135 – 139.

191. Даніловіч, М.А. Аспекты супастаўляльнага вывучэння фразеалагічных сістэм / М.А. Даніловіч // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2013. – № 2 (156). – С. 67 – 70.

192. Данилович, Н.А. Влияние контактных языков на фразеологию говоров Гродненщины / Н.А. Данилович // XV Міжнародны з’езд славістаў (Мінск, Беларусь, 20–27 жніўн. 2013 г.) : тэз. дакл. : у 2 т. Т. 1. Мовазнаўства / рэдкал. : А.А. Лукашанец (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Беларус. навука, 2013. – С. 29 – 30.

193. Даніловіч, М.А. Уплыў кантактных моў на фразеалогію гаворак Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Мовазнаўства. Літаратуразнаўства. Фалькларыстыка : XV Міжнар. з’езд славістаў (Мінск, Беларусь, 20–27 жніўн. 2013 г.) : дакл. беларус. дэлегацыі / Нац. акад. навук Беларусі; рэдкал. : А.А. Лукашанец (адк. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Беларус. навука, 2013. – С. 27 – 37.

194. Даніловіч, М. Легенды і паданні Слонімшчыны / М. Даніловіч // Наша слова. – 2013. – 26 чэрв.

195. Даніловіч, М. Як узніклі фразеалагізмы *на кукішкі, на кукішках* / М. Даніловіч // Наша слова. – 2013. – 9 кастр.

196. Даніловіч, М. Вытокі фразеалагізмаў – падсечна-агнявое земляробства / М. Даніловіч // Наша слова. – 2013. – 23 кастр.

197. Даніловіч, М. Мадэляванне – традыцыйны спосаб назапашвання фразеалагізмаў / М. Даніловіч // Наша слова. – 2013. – 30 кастр.

198. Даніловіч, М. Праблемы размяшчэння фразеалагізмаў у слоўніках / М. Даніловіч // Роднае слова. – 2013. – № 10. – С. 32 – 36.

199. Даніловіч, М. Слова, народжанае фразеалагізмам / М. Даніловіч // Наша слова. – 2013. – 13 ліст.

200. Даніловіч, М.А. Этымалагічная даведка ў тлумачальных слоўніках фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Нацыянальная мова і нацыянальная культура : аспекты ўзаемадзеяння (да 95-годдзя з дня нараджэння прафесара Ф.М. Янкоўскага) : зб. навук. арт. / Бел. дзярж. ун-т імя Максіма Танка; рэдкал. : Г.Ф. Андарала, Д.В. Дзятко (адк. рэд.), Н.П. Лобань [і інш.]. – Мінск : БДПУ, 2013. – С. 222 – 225.

201. Алешчык, В.А. Айканімія Сапоцкінскага краю / В.А. Алешчык, М.А. Даніловіч // Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны (матэрыялы і даследаванні) : зб. навук. арт. Вып. 2. / рэдкал. М.А. Даніловіч (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2013. – С. 28 – 39.

202. Даніловіч, М.А. Мікратапанімія вёскі Дубінка Гродзенскага раёна / М.А. Даніловіч // Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны (матэрыялы і даследаванні): зб. навук. арт. Вып. 2. / рэдкал. М.А. Даніловіч (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2013. – С. 53 – 55.

203. Даніловіч, М.А. Узоры гаворак Гродзеншчыны пачатку XXI ст. / М.А. Даніловіч // Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны (матэрыялы і даследаванні) : зб. навук. арт. Вып. 2. / рэдкал. М.А. Даніловіч (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2013. – С. 146 – 175.

*2014*

204. Даніловіч, М.А. Тапанімічнае мікраполе вёскі Дзертніца Гродзенскага раёна / М.А. Даніловіч // Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні : зб. навук. арт. Вып. 3. / рэдкал. : В.М. Курцова, Л.П. Кунцэвіч. – Мінск : Беларус. навука, 2014. – С. 126 – 129.

205. Даніловіч, М. Выкарыстанне польскамоўных сродкаў у фразеалогіі гаворак Гродзеншчыны / М. Даніловіч // Шлях да ўзаемнасці = Droga ku wzajenosci : матэрыялы XVIII Міжнар. навук. канф. (Гродна, 15–16 ліст. 2012 г.) / рэдкал. : Я. Панькоў, І. Папоў, Э. Ярмусік. – Ліда : Лідская друкарня, 2014. – С. 24 – 27.

206. Даніловіч, М.А. Навуковыя дасягненні пафесара І.Я. Лепешава ў парэміялогіі / М.А. Даніловіч // Краявіды роднай мовы : зб. мовазнаўч. навук. арт. (памяці прафесара І.Я. Лепешава) / рэдкал. : М.А. Даніловіч (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2014. – С. 4 – 12.

207. Даніловіч, М.А. Унікальнасць аказіянальных кампанентаў фразеалагізмаў / М.А. Даніловіч // Славянская фразеология в синхронии и диахронии : сб. науч. ст.

Вып. 2. / редкол. : В.И. Коваль (отв. ред.) [и др.]. – Гомель: ГГУ им. Ф. Скорины, 2014. – С. 21–23.

208. Даніловіч, М. Адданасць роднаму слову: да юбілею Івана Лепешава / М. Даніловіч // Роднае слова. – 2014. – № 10. – С. 27 – 28.

209. Даніловіч, М. Гісторыя беларусаў – у фразеалогіі / М. Даніловіч // Наша слова. – 2014. – 19 ліст.

210. Даніловіч, М. Гісторыя беларусаў – у фразеалогіі / М. Даніловіч // Наша слова. – 2014. – 26 ліст.

211. Даніловіч, М.А. Т.Ф. Сцяшковіч – руплівы даследчык мовы Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны (матэрыялы і даследаванні) : зб. навук. арт. Вып. 3 (да 110-годдзя з дня нараджэння Т.Ф. Сцяшковіч). / рэдкал. : М.А. Даніловіч (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2014. – С. 3 – 5.

212. Даніловіч, М.А. У фразеалагічны слоўнік Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны (матэрыялы і даследаванні) : зб. навук. арт. Вып. 3 (да 110-годдзя з дня нараджэння Т.Ф. Сцяшковіч) / рэдкал. : М.А. Даніловіч (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2014. – С. 12 – 41.

213. Даніловіч, М.А. Кленічы і дыялогі на Гродзеншчыне / М.А. Даніловіч // Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны (матэрыялы і даследаванні) : зб. навук. арт. Вып. 3 (да 110-годдзя з дня нараджэння Т.Ф. Сцяшковіч). / рэдкал. : М.А. Даніловіч (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2014. – С. 249 – 261.

214. Даніловіч, М.А. Новае слова ў беларускай парэміялогіі / М.А. Даніловіч // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія. Педагогіка. Псіхалогія. – 2014. – № 3. – С. 67 – 70.

215. Даніловіч, М.А. Новае даследаванне гісторыі беларускай мовы і мовазнаўства Рэц.: Запрудскі С.М. Беларускае мовазнаўства і развіццё беларускай літаратурнай мовы: 1920 – 1930-я гады. – Мінск: БДУ. – 367 с. / М.А. Даніловіч // Беларуская лінгвістыка. – 2014. – Вып. 73. – С. 170 – 173.

216. Даніловіч, М.А. Лепешаў Іван Якаўлевіч / М.А. Даніловіч // Культура Беларусі : энцыклапедыя. Т. 5 : Л – М. / рэдкал. : В.В. Калістратава (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск : Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2014. – С. 65.

217. Даніловіч, М.А. Т.Ф. Сцяшковіч – руплівы даследчык мовы Гродзеншыны / М.А. Даніловіч // Наша слова. – 2014. – 24 снеж.

218. Даніловіч, М.А. Лясны мёд не схільны да крышталізацыі М.А. Даніловіч // Беларускі пчаляр. – 2014. – № 5 (27). – С. 50 – 52.

2015

219. Даніловіч, М.А. Сінанімічнасць кампаратыўных фразеалагізмаў у гаворках Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Беларуская мова ў супольнасці моў : зб. навук. арт. (да 85-годдзя прафесара П.У. Сцяцко) / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал. А.І. Кавальчук (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2015. – С. 104–109.

# ПАКЛІКАННЕ СЛОВАМ:
## інтэрв'ю з М.А. Даніловічам

*Прафесар Мікалай Аляксандравіч Даніловіч – беларускі мовазнавец, доктар філалагічных навук. Асновай уласнага навуковага светапогляду лічыць беларускую фразеалогію. Рупліва збірае моўны неруш, каб паказаць гэтае багацце людзям. Ведае, што мова Гродзенскага рэгіёну – унікальная з'ява, якая патрабуе грунтоўнага вывучэння. Упэўнены, што адкрываць, бачыць, ствараць прыгожае ёсць прыроднай неабходнасцю чалавека. Як шаноўнаму прафесару праз усё жыццё ўдавалася выбудоўваць свае адносіны з часам і з людзьмі?*

*– Мікалай Аляксандравіч, сёння Вы выкладчык універсітэта, прафесар, вядомы навуковец. А як усё пачыналася? Якія радкі стаяць першымі ў Вашым жыццеапісанні?*

– Нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў лясной вёсачцы Бабіна Гродзенскага раёна. Бацька Аляксандр Іосіфавіч (1915–1982) і маці Галіна Кузьмінічна (нар. 1927) працавалі ў калгасе. Пазней бацька служыў лесніком у мясцовым лясніцтве. Пайшоў я ў школу ў 1963 годзе. Слова «пайшоў» ужываю тут вельмі дакладна і дарэчна. Васьмігадовая школа знаходзілася за тры кіламетры ў суседняй вёсцы Новая Руда, і даводзілася штодзень хадзіць туды і назад шэсць кіламетраў.

*– Гісторыя сям'і закладвае фундамент, на аснове якога будуецца ўсё далейшае жыццё чалавека...*

– На долю маіх бацькоў выпаў гаротны жыццёвы лёс. Бацька адпакутаваў сем гадоў нямецкага канцлагера (ад 1939 да 1945), усю сям'ю маці за сувязь з партызанамі ў 1943 годзе знішчылі немцы, а яе як непаўналетнюю пакінулі жыць, але вывезлі працаваць на баўара ў Германію, адкуль вярнулася ў 1945 годзе і не застала, як яна кажа, «ні хаты ні лапаты» – усё было знішчана нямецкімі карнікамі. Пасля вайны бацькі пачыналі з нуля: будавалі хату, заводзілі гаспадарку. Нарадзілі чатырох дзяцей (я самы малодшы). Каб пракарміцца і нейк больш-менш прыстойна жыць, бацькі працавалі ад цямна да цямна, зараблялі працадні ў калгасе і глядзелі ўласную дапаможную гаспадарку.

*– Якое выхаванне было ў сям'і, якое дачыненне мелі бацькі да школьнай адукацыі сына?*

– Дзеці не пакідаліся без працы: пасвілі жывёлу, касілі, палолі, аралі, капалі бульбу, збіралі грыбы і ягады на продаж, кармілі жыўнасць, якая мелася ў сваёй гаспадарцы: каня, кароў, свіней, курэй, гусей. На гульні і забавы не было часу. Штодзённая, нялёгкая праца аднак не зацяняла, а наадварот, пэўным чынам узмацняла імкненне да высокага, прыгожага. Маці знаходзіла час пачытаць кніжку і пракантраляваць вучобу дзяцей, праглядала дзённікі, сшыткі, хадзіла на бацькоўскія сходы, ганарылася поспехамі дзяцей. Часам, у крайніх выпадках, у якасці выхаваўчага сродку выкарыстоўвала звычайны дубец, калі «навука ішла туга». Заўсёды гаварыла: «Вучыцеся – людзьмі станеце».

*– І як такое выхаванне паўплывала на самага малодшага ў сям'і?*

– Я навучыўся чытаць яшчэ да школы. Старэйшыя браты Міша, Сярожа, сястра Ліля прыносілі мне з бібліятэкі дзіцячыя кнігі, і я з прагнасцю накідваўся на іх. Многа з прачытаных вершаў ведаў на памяць, яны запаміналіся нейк самі сабой, без спецыяльных намаганняў. Калі пайшоў у першы клас, па дарозе са школы амаль кожны дзень забягаў у сельскую бібліятэку, каб здаць учора ўзятыя і выбраць новыя кнігі. Нейк бібліятэкарка засумнявалася, ці прачытваю я ўзятыя кнігі. Можа толькі разглядаю малюнкі? Яна ўчыніла мне праверку. Папрасіла пераказаць сюжэты з тых кніжак, якія я чарговы раз прынёс здаваць. І была задаволеная, калі пераканалася, што усе кніжкі мною прачытаны.

– *Калі Вы паспявалі чытаць? Трэба было да ўрокаў рыхтавацца і бацькам па гаспадарцы дапамагаць...*

– Стараўся чытаць пры любым зручным выпадку. Хораша чыталася на прыродзе ў час пасьбы кароў. За адзін пастухоўскі дзень, калі каровы на добрай пашы былі спакойныя і, наеўшыся, адлежваліся, можна было асіліць цэлую кнігу. Любіў чытаць, калі ўсе ў хаце спалі. Рабіў з воску свечкі, залазіў на печ, зацягваў занавескі, каб не падала на хату святло ад свечкі, і зачытваўся да поўначы. Вельмі добра чыталася на вышцы, ці, як у нас называлі, «на маяку». Зараз патлумачу. Летам у спякотны час леснікі па чарзе павінны былі дзяжурыць на пажарнай вышцы, якая знаходзілася пры лясніцтве. У задачу ўваходзіла сачыць (з вышкі далёка відаць), ці не бачна ў акрузе дыму, які сведчыць пра лясны пажар, і ў выпадку выяўлення пажару дакладваць ў кантору. Я часта дзяжурыў за бацьку, гэта тады дазвалялася. Залазіў на вышку, а там – рай зямны. У спёку – прахалода, аніводнага камарыка ці авадня, якіх унізе цэлая процьма, спакойна, нішто не перашкаджае. І зачытваўся на працягу цэлага дня, аж да стомленасці ў галаве.

– *Як выбіралі кнігі? Якія творы цікавілі найбольш?*

– Напачатку сістэмнага выбару не было. Чыталася ўсё, што трапляла пад руку. Калі тонкія дзіцячыя кнігі з малюнкамі, што знаходзіліся ў бібліятэцы, былі прачытаны, бібліятэкарка стала прапаноўваць больш «салідныя» выданні, напрыклад, зборнік беларускіх народных казак, творы Васіля Віткі, «Волшебник Изумрудного города» Аляксандра Волкава, «Приключения Тома Сойера» Марка Твэна. Пасля нейк сам сабой вызначыўся кірунак майго чытальніцкага інтарэсу – кнігі пра прыроду, узаемаадносіны чалавека з прыродай. Помню з захапленнем чытаў творы Віталя Вольскага, Міхаіла Прышвіна, Канстанціна Паўстоўскага, Аляксандра Фета, Фёдара Цютчава, «Рассказы о животных» Эрнэста Сетана-Томпсана, «Ромбинзон Крузо» Даніэля Дэфо, апавяданні і аповесці Джэка Лондана, «Старик и море» Эрнэста Хэменгуэя.

– *Напэўна, захапленне светам прыроды і адпаведныя літаратурныя зацікаўленні выхоўваюцца наваколлем...*

– Думаю, што так. Мая вёска размешчана ў жывапісным кутку Гарадзенскай пушчы. Ва ўсе часы важным жыццядайным кампанентам вяскоўцаў выступаў лес. Ён быў кармільцам, ахоўваў ад небяспекі ў ваенныя ліхалецці. Летам усе, і старыя і малыя, збіралі ў лесе сабе і на продаж грыбы і ягады і мелі ад гэтага нейкі прыбытак. На балоце нарыхтоўвалі сена на зіму каровам, коням, авечкам. Зімою мужчыны хадзілі на паляванне, пілавалі і лядавалі лес, выраблялі з драўніны посуд, вазы, сані, кросны,

калаўроткі, пплялі лапці з нарыхтаванага летам лыка, кошыкі з лазовых дубцоў і хваёвых каранёў. Лес не толькі даваў сродкі для існавання, не толькі дапамагаў выжыць, але наталяў прагу душы, якая імкнулася да чагосьці прыгожага, узнёслага, высакароднага. Я гэта бачыў на прыкладзе сваіх бацькоў. У святочны дзень, калі нельга працаваць, бацька любіў не спяшаючыся павандраваць па лясных сцежках. Маці ў пачатку грыбнога сезону, пасля першага выхаду ў грыбы, заўсёды дзялілася ўражаннямі, як прыемна ёй было сустрэцца з мілымі сэрцу мясцінамі, у якіх з табой «кожнае дрэўца гаворыць», хвалілася, колькі лісічкаў ці баравікоў знайшла «пад ялоўчыкам», «каля арэшніку», «каля бярозкі», «на каровячых сцежках». Такія неабыякавыя адносіны да прыроды, напэўна, перадаліся і мне.

– *Які сэнс Вы ўкладваеце ў словы «лес наталяў прагу душы»?*

– Душа чалавека, у якіх умовах ён ні знаходзіўся б, заўсёды імкнецца да прыгожага. Адкрываць, бачыць, ствараць прыгожае – гэта яго прыродная неабходнасць. А што можа быць прыгажэйшым за прыроду! З дзяцінства пачалі прыемна хваляваць натуральныя пейзажныя малюнкі: першыя прагаліны на пагорках, клінок гусей, што адлятаюць у вырай, апошні пажоўклы лісток на вершаліне бярозкі, шум лесу пад націскам ветру, жабіныя канцэрты на возеры. Відаць, пад уплывам гэтага і прачытанай мастацкай літаратуры ўзнікла жаданне выказаць свае назіранні словам. З пятага класа пачаў пісаць вершы. Прычым вершы пра прыроду часам пісаліся на прыродзе: па дарозе ў школу ці са школы нараджаўся асобны верш ці яго фрагмент.

– *Складзеныя вершы запісваліся ці трымаліся ў памяці?*

– Запісваў, завёў для гэтага агульны сшытак.

– *Ці хацелася пахваліцца сваімі творчымі набыткамі з іншымі?*

– Нейк брат Міша папрасіў, каб я даў пачытаць сшытак з вершамі. Я з хваляваннем чакаў яго ацэнкі. Праз колькі дзён на стале ўбачыў свой сшытак, а ў ім укладзены лісток паперы з запісам:

Стихи твои плохи, приятель.
Ты зря истратил бумаги лист.
Прости за грубость, но мне кажется,
Что ты авантюрист.

– *І якой была Ваша рэакцыя?*

– Канешне ж, мне было балюча, хоць выгляду не падаваў і гаворку з братам наконт вершаў больш ніколі не заводзіў, як быццам нічога не здарылася. Аднак думка, што брат несправядлівы ў сваёй ацэнцы, мяне хвалявала. І я рашыўся паслаць адзін са сваіх вершаў у саюзную газету «Пионерская правда», што выдавалася ў Маскве. Праз колькі часу прыйшоў адказ, у якім рэдакцыя педагагічна тактоўна, узважана раіла больш чытаць класікаў літаратуры, назіраць, як яны абыходзяцца са словам, вучыцца пісаць у іх. Але жаданне апублікавацца пасля гэтага не прайшло. Акрамя вершаў, я пісаў яшчэ і празаічныя замалёўкі пра прыроду, пра цікавыя назіранні за дзікімі жывёламі, птушкамі. Адну з такіх замалёвак пад назвай «Лягушки-воровки» паслаў у «Гродзенскую праўду». О, колькі было радасці, калі ўбачыў у газеце, што мая замалёўка надрукавана!

– *Пісалі Вы ў той час на рускай мове?*

– Так, пачынаў на рускай мове, хоць вучыўся ў беларускай школе. Чаму – цяжка адказаць. Магчыма, руская літаратура выкладалася больш прафесійна і цікава, чым беларуская. Але аднойчы, здаецца, у сёмым класе, быў неверагодна ўражаны, калі адкрыў для сябе паэму «Новая зямля» Якуба Коласа. Чытаў і перачытваў многія раздзелы, пазнаючы ў шматлікіх фрагментах жыцця лесніковай сям'і Міхала і апісаннях прыроды такое для сябе знаёмае, блізкае, роднае. А якой прыгожай мовай гэта ўсё Якуб Колас малюе! Чытаеш – душа радуецца, абуджаецца невытлумачальна прыемнае хваляванне. Пасля гэтага адчуў, зразумеў прыгажосць роднага слова і пачаў спрабаваць пісаць па-беларуску.

*– Магчыма, на гэты час і прыпадае вызначэнне прафесійнай будучыні...*

– Яно, відаць, выспявала паступова. Помню, у сёмым класе напісаў сачыненне па рускай літаратуры на вольную тэму. Настаўнік Адамін Іван Іпалітавіч, якога я вельмі паважаў, не паверыў, што гэта я сам напісаў, і ўсё дапытваўся, адкуль я спісваў. Мне было вельмі крыўдна, бо і сюжэт сачынення прыдумаў я сам, і ніводнага радка не спісаў. З другога боку, падумалася: хіба някепска атрымалася, калі настаўнік не паверыў, што так мог напісаць вучань. Праз нейкі час гэты ж настаўнік, выслухаўшы маё вуснае выступленне на ўроку (не помню па якой тэме), вытрымаў паўзу і, сур'ёзна гледзячы на мяне, сказаў: «Паслухай, ты ж філолаг!» У гэтым узросце падлеткі кім толькі ні мараць стаць. І мяне словы настаўніка нейкім чынам «зачапілі», можа быць, сталі пэўным пачатковым арыенцірам у выбары прафесійнай жыццёвай сцежкі. Я працягваў многа чытаць, цяпер ужо пераважна беларускую літаратуру: Якуба Коласа, Івана Мележа, Яна Скрыгана, Рамана Сабаленку, Васіля Быкава і многіх іншых. Запомніўся і такі жыццёвы фрагмент. Нейк завітала да нас блізкая родзічка з суседняй вёскі Прыдоўгае Дарашкевіч Яўгенія і прынесла з сабой падборку шчучынскай раённай газеты «Савецкая вёска». З гонарам стала паказваць і чытацьу нумарах газеты апублікаваныя матэрыялы (вершы, апавяданні, карэспандэнцыі) сваёй дачкі Тамары, якая настаўнічала на Шчучыншыне. Я з маці ўважліва слухалі, і мне зайздросна падумалася: вось бы я так напісаў. Лічу, што Тамара Фамінічна Дарашкевіч (Падзялінская), мая цётка, сваім прыкладам таксама закінула драбок прыхільнасці да беларускага слова. Дарэчы, сёння яна ў паважаным узросце, але працягвае публікавацца ў газетах, складаць вершы. Пасля васьмігодкі навучанне ў дзявятым і дзясятым класах працягваў у мястэчку Парэчча Гродзенскага раёна. Быў росквіт русіфікацыі. Школа была руская. Местачковыя дзеці імкнуліся і на ўроках, і па-за ўрокамі «ламацца» па-руску. Мы, выпускнікі навакольных васьмігодак, што прыйшлі давучвацца ў Парэцкую сярэднюю школу, выглядалі «дзяроўняй», бо нашае рускае маўленне было яшчэ горшае, чулася з жывым беларускім акцэнтам. Школа метадычна садзейнічала таму, каб мы зраўняліся з местачковымі, каб і ўзроўнем падрыхтаванасці, і маўленнем ад іх не адрозніваліся. Мяне ў глыбіні душы задзявала абыякавае стаўленне некаторых настаўнікаў да беларускай мовы, успрыманне яе як нечага непатрэбнага. Радавалі ўрокі беларускай мовы і літаратуры, дзе можна было цалкам разняволіцца, аддацца моўнаму самавыяўленню. Настаўнік Іван Ерамеевіч Бойка добра разумеў мяне, бачыў і ўсяляк падтрымліваў маё захапленне беларускай літаратурай. Магчыма, дзякуючы яму канчаткова выспела рашэнне паступаць на беларускую філалогію.

– *Ці былі цяжкасці пры паступленні?*

– Нельга сказаць, што паступіў без праблем. У 1973 годзе конкурс у Гродзенскім пядінстытуце на спецыяльнасць «настаўнік беларускай мовы і літаратуры» быў сем з паловай чалавек на месца. Але ўступныя іспыты я здаў нядрэнна і ўпісаўся ў конкурс. Да таго ж і гэтак званая гендарная праблема. Акрамя мяне, на спецыяльнасць паступала яшчэ восем хлопцаў. І калі пасля рашэння конкурснай камісіі ў спісе залічаных я ўбачыў прозвішча толькі аднаго хлопца (а значыць – сваё), мяне ахапіў жах. Хацеў забіраць дакументы. Пасля жыццё паказала, што хваляваўся дарэмна: нават зусім нядрэнна быць такім адзіным на ўсю групу дзяўчат.

– *У такіх умовах хацелася, напэўна, вылучацца, быць наперадзе...*

– Трэба сказаць, што група студэнтаў падабралася вельмі сур’ёзная ў плане адносін да вучобы. Відаць, сваю добрую службу саслужыў вялікі конкурс, выявіў найлепшых. Толькі пару студэнтак на сесіях мелі здавальняючыя адзнакі, усе астатнія вучыліся на «выдатна» і «добра». Да заняткаў і экзаменаў рыхтаваліся адказна. Ды і выкладчыкі тады ацэньвалі веды строга, ніякіх паблажак і скідак не было. У такой групе я не мог быць іншым, таксама многа рыхтаваўся і здаваў экзамены паспяхова, на гулі звычайна бракавала часу. Хаця бывала ўсякае.

– *Ці складаліся ў новых абставінах вершы? Інстытуцкае асяроддзе выявіла, напэўна, і новыя зацікаўленні...*

– Вершы пісаць перастаў. Спасцігаючы акадэмічныя тонкасці філалалогіі, пачаў разумець, што вялікага паэта з мяне не атрымаецца, дый нейк паэтычнае ўспрыманне свету прытупілася. Але імкненне пісаць, быць надрукаваным засталося. Захапіўся журналістыкай і фотажурналістыкай. Дасылаў у газеты карэспандэнцыі пра сваіх землякоў, пра студэнцкае жыццё, пра знакамітых людзей Гародні. Мае матэрыялы друкаваліся ў »Чырвонай змене», «Настаўніцкай газеце», «Гродзенскай праўдзе», «Сельской нови» і інш. Скончыў двухгадовы вячэрні Універсітэт грамадскіх карэспандэнтаў пры газеце «Гродзенская праўда», атрымаў пасведчанне грамадскага карэспандэнта. Адным словам, мне гэтым займацца было цікава.

– *Ці падтрымалі Ваша журналісцкае захапленне на факультэце?*

– Нейк Іван Якаўлевіч Лепешаў, прачытаўшы нешта з апублікаванага (не помню, у якой газеце), пры сустрэчы спытаў, ці ні я гэта напісаў. Атрымаўшы сцвярджальны адказ, ён пацікавіўся, ці многа правак зрабіла рэдакцыя. Я адказаў, што амаль нічога не папраўілі. Іван Якаўлевіч пахваліў і стаў распытваць, ці даўно я пішу. Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч таксама нешта з майго прачытаў у «Гродзенскай праўдзе» і параіў напісаць у газету «Літаратура і мастацтва» пра літаратурнае аб’яднанне «Наднёманскія галасы», якое дзейнічала пры Гродзенскім педінстытуце. Адным словам, мае журналісцкія спробы не засталіся незаўважанымі.

– *Якую ролю адыгралі выкладчыкі ў далейшым станаўленні Вас як філолага, лінгвіста?*

– Пра ўсіх выкладчыкаў застаўся харошы ўспамін. Яны былі розныя. Адны клапаціліся, каб студэнты добра засвоілі праграмы курсаў, другія, акрамя гэтага, імкнуліся выхаваць грамадзянскую пазіцыю, патрыятычныя пачуцці. Двух выкладчыкаў, якіх я ўжо згадаў, лічу сваімі найлепшымі настаўнікамі. Абодва яны

сталі прафесарамі. Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч – выключна інтэлігентны, тактоўны і патрабавальны. Таленавіты аратар, ён лекцыі чытаў, усё роўна як укладваў мазаіку: няспешна, слоўка да слоўка, ніводнай лішняй фразы, усё на сваім месцы, прыгожа. Ён вельмі тонка разбіраўся ў псіхалогіі літаратурных герояў. Прычым чытаў заўсёды без паперкі, нават вершы-прыклады ці фрагменты прозы дэкламаваў па памяці. Студэнты ніколі не прапускалі яго заняткаў і стараліся даслоўна заканспектаваць лекцыю. Іван Якаўлевіч Лепешаў лекцыі чытаў вельмі дакладна, канкрэтна і даступна. Падкупляла яго дэмакратычнасць, з хлопцамі здароўкаўся за руку, на перапынках падбухторваў схадзіць у курылку і заадно пагаварыць пра навуку, хоць да кожнага студэнта ён звяртаўся толькі на «вы». Недалюбліваў савецкую сістэму, таемна даваў некаторым студэнтам пачытаць забароненую літаратуру. Памятаю, даў мне на адну ноч перапісаць надрукаваную на машынцы ананімную на той час паэму «Сказ пра Лысую гару». Сам захоплены лінгвістыкай, Іван Якаўлевіч быў здольны заразіць гэтым і студэнтаў. Ад яго зыходзіла магутная энергетыка і перадавалася таму, на каго ён уплываў. Тое, што лёс звязаў мяне з лінгвістычнай навукай, думаю, немалы прычынак Івана Якаўлевіча. Я ў яго пісаў дыпломную, з яго рэкамендацыі пайшоў ў фразеалогію. Светлая памяць захавалася пра Таццяну Піліпаўну Сцяшковіч, якая ўсе гады працы ў нашай установе прысвяціла вывучэнню гаворак Гродзеншчыны. Цалкам аддадзеная навукова-педагагічнай справе, яна закінула ў маю душу зерне пашаны да народнага, дыялектнага слова, адчування яго роднасці і прыгажосці.

– *Пасля сканчэння інстытута выбранай Вамі была дарога ў навуку?*

– Не зусім так. У той час у Гродзенскім педінстытуце яшчэ ні па адной спецыяльнасці не было аспірантуры. Мяне размеркавалі на працу ў школе. Паколькі па рэйтынгавых паказчыках я значыўся адным з першых у спісе, камісія па размеркаванні прапанавала найбольш прэстыжнае месца працы – у Гародні. Але горад мяне не прываблiваў, быў чужы, хацелася ў натуральную беларускамоўную стыхію – вёску. І я адмовіўся ад горада. Трошкі здзіўленая такой нечаканкай, камісія дала права выбару любога з прапанаваных раёнаў, і я выбраў свой, Гродзенскі, раён. Раённы аддзел адукацыі вызначыў мне Цідовіцкую сярэднюю школу. І я з цікавасцю акунуўся ў настаўніцкае жыццё. Праца з вучнямі падабалася. Імкнуўся, каб дзеці не цураліся мовы, на якой размаўляюць іх бацькі, каб адчулі роднасць, прыгажосць і багацце беларускага слова. Думаю, што ў некаторай ступені мне гэта ўдавалася. Пяць маіх вучняў закончылі Гродзенскі ўніверсітэт імя Янкі Купалы па спецыяльнасці «беларуская філалогія». Вайцяхоўская (Манкевіч) Алена стала кандыдатам навук, зараз яна загадчык аддзела ў Інстытуце мовы і літаратуры АН РБ. Праз год працы ў школе атрымаў пісьмо ад дэкана філалагічнага факультэта Лаўрынайціс Елізаветы Іосіфаўны. Яна напісала, што Гродзенскі педінстытут стаў універсітэтам і ў сувязі з гэтым будуць адкрывацца аспірантуры, у тым ліку і па беларускай мове. На прапанову запісацца завочна спашукальнікам, каб здаць кандыдацкія мінімумы і затым паступіць у аспірантуру, я з задавальненнем адгукнуўся. Такім чынам, у школе я прапрацаваў два гады і ў 1979 годзе стаў аспірантам.

– *Вызначальным у навуковым лёсе аспіранта становіцца імя навуковага кіраўніка...*

– З выбарам навуковага кіраўніка цэлая гісторыя атрымалася. Спачатку планавалася, што кіраўніком будзе І. Я. Лепешаў. Пасля высветлілася, што ён не мае права кіраваць, паколькі яшчэ не з'яўляецца доктарам навук. Тадышні загадчык кафедры беларускай мовы Валянцін Іванавіч Марозаў стаў шукаць іншыя варыянты. Якраз у той час у нас на філфаку чытаў лекцыі акадэмік АН БССР М. В. Бірыла. В. І. Марозаў прывёў мяне да акадэміка. Мы пагутарылі, і М. В. Бірыла даў згоду быць кіраўніком. Праз колькі часу І. Я. Лепешаў даведаўся пра гэта і, мякка кажучы, моцна расхваляваўся. Ён лічыў сапраўднай навукай толькі фразеалогію, а антрапаніміку, г.зн. навуку пра імёны і прозвішчы, якой займаўся М. В. Бірыла, называў пустатой, дзіцячай забаўкай. І аддаць мяне на антрапаніміку – гэта, на яго думку, было б недаравальнай памылкай, змарнаваннем навуковай будучыні. Далей падзеі разгортваліся наступным чынам. Карыстаючыся тым, што загадчык кафедры В. І. Марозаў быў у адпачынку, І. Я. Лепешаў вязе мяне ў Мінск да фразеолага прафесара Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага. Прафесар выслухаў нашу просьбу і сказаў: «Ну што ж, я сабе аспірантаў не выбіраю. Калі ў цябе ёсць такое жаданне быць пры мне, то будзь». Такім чынам, кіраўніком зацвердзілі Ф. М. Янкоўскага, і фармулёўка тэмы кандыдацкай дысертацыі амаль супала з фармулёўкай тэмы маёй дыпломнай працы. Калі В. І. Марозаў выйшаў з адпачынку і даведаўся пра нашу самадзейнасць, то вельмі разгневаўся, але ён быў чалавек адыходлівы, добры і ў хуткім часе прымірыўся з тым, што сталася.

– *Чым Вам запомніліся аспіранцкія часы? Ці атрымалася з галавой акунуцца ў вір навуковай справы?*

– Атрымалася, але не адразу. Тады дзейнічала заканадаўства, што выпускнікі педагагічных спецыяльнасцяў ВНУ, размеркаваныя на працу ў вясковую школу, мелі браню ад прызыву ў войска. У сувязі з тым, што я перастаў працаваць настаўнікам і займеў гарадскую прапіску, гэтая браня аўтаматычна страчвалася, і я на паўтара года «загрымеў» у шэрагі савецкай арміі. Трапіў у Печы – самую суровую вучэбку ў Савецкім Саюзе. Пасля Печаў служыў танкістам у Слоніме, Полацку, Брэсце. Вярнуўся з войска восенню 1981 года і сапраўды цалкам аддаўся працы па тэме дысертацыі. Вельмі многа чытаў, выпісваў, складаў картатэку. Тэма гучала так: «Граматычная характарыстыка фразеалагізмаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы». Фразеалагічнага слоўніка літаратурнай мовы яшчэ не было, таму ўвесь фактычны матэрыял даводзілася шукаць самому ў тэкстах мастацкай, публіцыстычнай, навуковай літаратуры. Прачытаў творы больш як ста беларускіх пісьменнікаў, склаў картатэку больш як на шаснаццаць тысяч картак. Такога фактычнага матэрыялу хапіла, каб напісаць дысертацыю. Часта ездзіў у Мінск пасядзець у бібліятэках. Найбольш працаваў ў Ленінцы. Там лунаў дух навукі, культ навукі. Усе наведвальнікі былі захопленыя клопатам навуковых пошукаў. Помню Міколу Ермаловіча, які кожны дзень прыязджаў з Маладзечна і сядзеў да апошняга званка, адкрываў сапраўдную гісторыю Беларусі. Помню Міхася Яўневіча, які не мог і дня пражыць, каб ні забегчы хоць на пятнаццаць хвілін, хоць пад самы канец рабочага дня і пасядзець за сталом у чытальнай зале. А колькі маладых вучоных, аспірантаў шукалі, чыталі, выпісвалі, у часе перакураў дзяліліся ўражаннямі ад знаходак, дыскутавалі, спрачаліся. Паветрые навукі зараджала ўсю істоту. Я нават адчуваў пах навукі. На поўным сур'ёзе кажу: для мяне навука пахла, мела нейкі спецыфічны, невытлумачаль-

ны пах. Гэта абуджала жаданне працаваць, знаходзіць адказы на пастаўленыя пытанні, рабіць для сябе лінгвістычныя адкрыцці. У бібліятэцы я прачытаў больш за пяцьсот артыкулаў і кніг. І ўсё канспектавалася ад рукі, камп'ютараў тады не было, фатаграфаваць старонкі не дазвалялася. Па тэме кандыдацкай дысертацыі канспекты навуковай літаратуры занялі аж шэсць агульных сшыткаў.

*– Аспірантура, напэўна, была і добрай нагодай пазнаёміцца з навуковай грамадскасцю, з беларускімі мовазнаўцамі...*

– Так, на кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага педінстытута, дзе загадчыкам быў мой навуковы кіраўнік, я пазнаёміўся з такімі вядомымі асобамі, як М.С. Яўневіч, А.А. Каўрус, Э.Д. Блінава, Н.В. Гаўрош, Т.М. Трыпуціна, Н.М. Нямковіч і інш. Часта бываў у акадэмічным Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа, там калупаўся ў фундаментальнай картатэцы, шукаў прыклады ўжывання фразеалагізмаў. Мне падабалася, што супрацоўнікі Інстытута – людзі вельмі простыя, даступныя, без якога б там навуковага зазнайства. Усе яны сядзелі ў сваіх працоўных кабінетах і будзённа, спакойна рабілі навуку. Са мной, яшчэ зялёным аспірантам, які завітаў невядома адкуль, яны размаўлялі без высакамернасці, як роўны з роўным. З курцамі, дактарамі навук А.І. Жураўскім, А.М. Булыкам, А.І. Падлужным, прыемна было выйсці пакурыць і пагаварыць на розныя навуковыя і ненавуковыя тэмы. Дырэктар Інстытута М.Р. Суднік пры сустрэчы часта пытаўся ў мяне, як і ў многіх іншых, адносна якога-небудзь слова: «Ці гавораць так у вас?» Тады Інстытут працаваў над складаннем «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы», і любая лінгвістычная інфармацыя для кіраўніка аўтарскага калектыву слоўніка мела каштоўнасць. Помню, з якой адказнасцю, з якім усведамленнем важнасці гістарычнай місіі вычытваў выдавецкія гранкі чарговага тома Тлумачальнага слоўніка сапраўдны кніжнік і трудаголік у найлепшым сэнсе гэтага слова Мікола Нілавіч Крыўко. Тадышні вучоны сакратар Інстытута Павел Аляксандравіч Міхайлаў заўсёды прыязна сустракаў, запрашаў у свой кабінет і распытваў пра справы, пра Гародню.

Мінск спрыяў знаёмству з аспіранцкім асяроддзем, кантактаванню з пачаткоўцамі, якія пасля сталі паважанымі асобамі ў беларускай лінгвістычнай супольнасці. У сталіцу я наведваўся звычайна ненадоўга: на некалькі дзён, на тыдзень-два. Трэба было на гэты час шукаць начлег. У гасцініцы – дорага. Заўсёды выручалі аспіранты. На вуліцы Артылерыстаў-16 быў аспіранцкі інтэрнат, і там я знаходзіў сабе нелегальны прытулак. Найчасцей начаваў у пакойчыку аспіранта Тамаша Тамашэвіча. Ён – на ложку, а я – на матрацы на падлозе. Жонка Тамаша Зоя тады была ў адпачынку, гадавала малых дзяцей і жыла ў бацькоў на Случчыне, і Тамаш часта з'язджаў да яе на некалькі дзён. Тады мне было раскошна – перасяляўся на ягоны ложак. Даводзілася начаваць і ў Сашы Лугоўскага, які пісаў дысертацыю па методыцы выкладання літаратуры. Цёплыя ўспаміны засталіся і пра такіх аспірантаў, як Віктар Несцяровіч, Валя Мароз, Люда Васюковіч, Таня Дзікун, Мікалай Аляхновіч (з Мінскага педінстытута), Мікалай Прыгодзіч, Генадзь Арцямёнак, Мікалай Зуеў (з БДУ), Аляксандр Лукашанец, Канстанцін Шчэрбін (з Інстытута мовазнаўства).

*– Як наладжвалася ўзаемадзеянне з навуковым кіраўніком? Якія парады Фёдара Міхайлавіча сталі самымі карыснымі?*

– Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі кіраўнік быў строгі. Аспіранты яго баяліся і да сустрэчы з ім на кансультацыі рыхтаваліся вельмі сур'ёзна. Ён шмат увагі ўдзяляў выхаванню ў сваіх вучняў культуры пісьма. Аспіранцкія артыкулы пры падрыхтоўцы да друку крэмсаў па некалькі разоў. Вельмі ўдзячны яму за тое, што ён прывучыў у навуковым сачыненні з адказнасцю ставіцца да выбару кожнага слова, да кожнага радка. Што да навуковых пошукаў аспіранта, то навуковы кіраўнік прытрымліваўся прынцыпу неўмяшальніцтва. Давалася поўная воля праз спробы і памылкі прыйсці да навуковай ісціны самастойна. За ўвесь час навучання ў аспірантуры я задаў яму толькі два пытанні, на якія ён адказаў па-філасофску: «Адны лічаць так, другія – па-іншаму. А ты глядзі, прыйдзі да высновы, што правільна». Гэта выхоўвала самастойнасць у працы, спадзяванне толькі на свае ўласныя сілы. Ф.М. Янкоўскі не шкадаваў часу на кантакты з аспірантамі. Клапаціўся пра іх бытавыя ўмовы, наведваў іх у інтэрнаце, абавязкова патрабаваў прысутнічаць на ўсіх пасяджэннях кафедры, весці і афармляць пратаколы пасяджэнняў. Не раз поштай дасылаў мне ў Гародню лісты. На кожны ліст я доўга рыхтаваў адказ. Спачатку пісаў на чарнавіку, пасля рэдагаваў напісанае, перапісваў і, калі бачыў, што папраўляць больш няма чаго, укладваў ліст ў канверт (які абавязкова павінен мець беларускае афармленне) і нёс на пошту. Рэгулярна паштоўкамі віншаваў свайго кіраўніка са святамі. Такія цесныя кантакты давалі свой плён. Амаль усе аспіранты прафесара Янкоўскага (здаецца, 25 асобаў) паспяхова абаранілі свае дысертацыі. Фёдар Міхайлавіч быў сапраўдным, не паказным патрыётам беларускай мовы і Беларусі і стараўся выхоўваць гэтую якасць і ў сваіх падапечных. Не выпадкова тых, хто прайшоў праз яго рукі, называлі і называюць «янкоўшчыкамі». Яны раз'ехаліся па многіх гарадах Беларусі і сёння выступаюць паважанымі прадстаўнікамі беларускага мовазнаўства.

– *Наступным важным фактам у Вашай біяграфіі становіцца абарона кандыдацкай дысертацыі?*

– Так, працаваў я вельмі многа – дзень і ноч у прамым сэнсе гэтых слоў. І дысертацыю падрыхтаваў за чатыры месяцы да сканчэння аспірантуры. Абарона праходзіла ў БДУ. Гэта быў 1984 год. Кіраўніком савета па абароне быў Л.М. Шакун, яго намеснікам – П.П. Шуба, апанентамі – А.Я. Міхневіч і Г.М. Малажай. Абараніўся паспяхова, і праз месяцы чатыры тадышні ВАК СССР у Маскве зацвердзіў дыплом кандыдата навук.

– *І далей пайшлі, пакаціліся працоўныя будні…*

– Працаўладкаваць мяне як мэтавіка абавязана была кафедра беларускай мовы ГрДУ. Аднак стаўкі на кафедры не было, і мяне часова афармілі лабарантам. Праз два месяцы пайшла на пенсію Шакурава Галіна Пятроўна, і мяне ўзялі замест яе асістэнтам. Далі шэраг курсаў пад тысячу гадзін, і я іх дзень і ноч распрацоўваў. Настрой быў добры, бо яшчэ малады, бо яшчэ жыццё наперадзе. А далей, сапраўды, пакацілася, як па трафарэце, па ўсіх ступеньках. Дацэнт, навуковы супрацоўнік, прафесар, загадчык кафеды… Здаецца, усё пройдзенае – такое будзённае, папярэдні навучальны год як дзве кроплі вады падобны на наступны, хіба што толькі з некаторымі нязначнымі адметнасцямі. Прайшло больш як трыццаць гадоў з таго часу, калі я стаў выкладчыкам універсітэта, а здаецца, як адзін дзень, як адно імгненне.

*– Можа быць, успомніце, што стала найбольш цікавым, важным? З якімі думкамі, спадзяваннямі працавалася?*

– Першыя гады працы супалі з пачаткам грамадскіх перамен. Нарэшце, генеральным сакратаром стаў нестары, энергічны, гаварлівы М.С. Гарбачоў. З таго часу ў грамадстве, якое 70 гадоў было прыціснута камуністычным прэсам, пачаў распаўсюджавацца дух разняволення. Людзі адчулі, што могуць выказваць свае думкі і за гэта іх не караюць. У Рэспубліцы прайшла акцыя па зборы подпісаў за адраджэнне беларускай мовы, наданне ёй статусу дзяржаўнай. Падпісалі гэтую паперу і я з жонкай. Праз колькі часу ўсіх падпісантаў паклікалі ў Мінск. З беларускімі інтэлігентамі вельмі доўга, на працягу некалькіх гадзін, вялі гутарку першыя асобы: першы сакратар ЦК КПБ Я.Я. Сакалоў і старшыня Вярхоўнага Савета БССР Г.С. Таразевіч. Пасля гутаркі… адпусцілі дамоў. Людзі адчулі, што да іх голасу прыслухоўваюцца, што яны нешта значаць і могуць.

У гарадах пачалі ствараца патрыятычныя суполкі. У Гародні такой суполкай была «Паходня». Арганізатарам і кіраўніком яе стаў прафесар ГрДУ Міхась Ткачоў. «Паходня» як магнітам прыцягвала да сябе не толькі моладзь, але і неабыякавых людзей іншага веку. Сябры «Паходні» раз або два разы на тыдзень збіраліся на пасяджэнні пераважна ў ГДК, каб абмеркаваць надзённыя пытанні беларускай гісторыі і культуры, удзельнічалі ў шматлікіх дабрачынных мерапрыемствах, суботніках па добраўпарадкаванні гарадскіх аб’ектаў. На пасяджэнні «Паходні» запрашаліся знакамітыя прадстаўнікі беларускай літаратуры, навукі, мастацтва, выступленні якіх мелі асветніцкі, прапагандысцкі характар. Запрашаліся і асобы ад мясцовай улады, якім прысутныя задавалі шмат дыскусійных, часам непрыемных пытанняў. Хвалявала грамадскасць пытанне пра месца і ролю камуністычнай партыі. Помню, ці то на пасяджэнні савета ўніверсітэта, ці то на сходзе працоўнага калектыва дацэнт А.В. Мілінкевіч адкрыта выказаўся пра камуністычную партыю як вялікае ўсенароднае зло. Выступленне стала прыемным шокам для публікі, бо большасць прысутных думалі тое самае, але не асмельваліся адкрыта пра гэта гаварыць. Праз колькі часу кампартыя СССР была распушчана самім М.С. Гарбачовым, і ніводная афіцыйная асоба не выступіла ў абарону гэтай арганізацыі.

Аднойчы рэктар універсітэта А.В. Бадакоў паклікаў да сябе ў кабінет мяне і яшчэ некалькіх выкладчыкаў і сказаў, што сёння ў пэўны час пойдзем захопліваць дом палітасветы, які знаходзіцца недалёка на вуліцы Леніна (у ім раней туліўся ўніверсітэт марксізму-ленінізму, а таксама праводзіліся розныя партыйныя мерапрыемствы). Дадаў яшчэ, ні то жартам, ні то сур’ёзна, што можам узяць з сабой плакаты для надання мерапрыемству большай важнасці. У дамоўлены час мы сабраліся і выйшлі на вуліцу. Запомнілася на ўсё жыццё: наперадзе рэктар, а за ім чалавек з дзесяць – ідзём «штурмам» на дом палітасветы. Ніхто нам не перакрываў дарогу, ніхто не спыніў. Спакойна зайшлі, абышлі паверхі. Рэктар сказаў, каб выбіралі сабе кабінеты, якія захочам. У гэтым будынку размясціліся ў хуткім часе беларускія кафедры, а пасля і факультэт беларускай філалогіі і культуры. Пасля я зразумеў, што «выхадка» рэктара – гэта не якаянебудзь яго самадзейнасць, а ўказанне гарадскіх уладаў.

Беларускае адраджэнне набірала сваю моц. Беларуская мова стала запатрабаванай, быў прыняты закон, які надаваў ёй статус адзінай дзяржаўнай. Планавалася,

што праз дзесяць гадоў беларуская мова будзе абслугоўваць усе сферы грамадскай дзейнасці. На спецыяльнасць «беларуская філалогія» павялічыліся конкурсы і наборы. Калі некалі набіралі адну групу, то цяпер аж чатыры, плюс дзве групы завочнікаў, ды яшчэ адкрылі спецыяльнасць «беларуская і польская філалогія». Усё гэта акрыляла, надавала ўпэўненасці, што справа, якой прысвяціў сябе, патрэбная, будзе развівацца і ўмацоўвацца. Як сталі разгортвацца падзеі пазней, у якім становішчы апынулася беларуская мова – проста не хочацца пра гэта ўспамінаць, не хочацца варушыць непрыемныя старонкі гісторыі.

– *Тады давайце пагаворым пра навуку. Напэўна, яна была для Вас знакавай часткай жыцця, важным складнікам прафесійнай дзейнасці.*

– Так, гуманітарныя навукі тады былі яшчэ ў пашане, мовазнаўства ў тым ліку. Кожная выдадзеная кніга была падзеяй. Да навукі ставіўся з усёй адказнасцю, аддаваў ёй шмат часу. Сваёй першай сур'ёзнай кнігай лічу манаграфію «Граматычная характарыстыка фразеалагізмаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы», выдадзеную ў выдавецтве «Навука і тэхніка» ў 1991 годзе. У гэтым жа годзе ў выдавецтве «Народная асвета» была апублікавана кніга для настаўнікаў «Вывучэнне фразеалогіі на ўроках мовы».

Яшчэ з аспіранцкіх гадоў пачаў запісваць матэрыялы дыялектнай мовы, якая заўсёды выклікала да сябе пашану. Запісваў і звязнае маўленне, і малыя формы фальклору, і фразеалагізмы. Асаблівым захапленнем стала «паляванне» на фразеалагізмы. Іх збіраў пастаянна, дзе толькі можна: і на дыялекталагічных практыках, якімі кіраваў штолета ў розных раёнах Гродзеншчыны, і ў экспедыцыях, якія арганізоўваў сам сабе ў выхадныя дні, і шляхам выпадковага падслухоўвання размовы людзей. Гэтым клопатам, дарэчы, жыву і сёння. Вы не ўяўляеце, якое эмацыянальнае шчасце атрымліваеш, калі пачуеш раней невядомы, арыгінальны, з незвычайнай вобразнасцю фразеалагізм! Калі сабралася ладная картатэка дыялектных запісаў, адчуў, што настаў час іх аформіць у якасці слоўніка, каб паказаць гэтае багацце людзям. Так быў створаны і апублікаваны ў 2000 годзе «Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны». Ён з'яўляецца дыферэнцыйным, змяшчае больш за дзве тысячы фразеалагізмаў рэгіянальнага характару, якія не фігуравалі ў літаратурных слоўніках. У гэтым жа годзе была выдадзена кніга ў суаўтарстве з Н.К. Памецькай і І.В. Піваварчык «Беларускае вяселле». Задума кнігі ўзнікла, калі ў маёй калекцыі была назапашана вялікая колькасць народных вясельных зычэнняў, такія зычэнні некалі былі абавязковым атрыбутам вяселля пры «дарэнні маладых». Яны настолькі арыгінальныя, прасякнутыя гумарам, забаўляльнай акрасай, што не пакідаюць абыякавым любога чалавека. Дарэчы, попыт на кнігу быў вялікі. Яшчэ і сёння тэлефануюць з розных куткоў Беларусі з запытаннем, ці можна дзе набыць асобнік. Адметная і гісторыя стварэння «Слоўніка рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны» (1999). Сектар дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства АН БССР распрацоўваў праекты недыферэнцыйных адносна поўных слоўнікаў асобных рэгіёнаў. Ішла праца над «Слоўнікам беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніччa», «Тураўскім слоўнікам». Нейк пры сустрэчы ў Мінску загадчык сектара і вучоны сакратар Інстытута П.А. Міхайлаў выказаў прапанову, каб кафедра беларускай мовы ГрДУ ўзялася распрацоўваць тэму «Слоўнік гаворак Навагрудчыны».

Неабходнасць такога слоўніка ён матываваў тым, што Навагрудчына – гэта вельмі важны гістарычны рэгіён, што горад Навагрудак ужо згадваецца ў Іпацьеўскім летапісе, што ён быў першай сталіцай Вялікага княства Літоўскага, што гэтая зямля была калыскай беларускай мовы. І для гісторыі мовы, і для сучаснага мовазнаўства меў бы вялікую каштоўнасць запісаны лексічны фонд гэтага арэала. Я перадаў прапанову П.А. Міхайлава на кафедру, і ў хуткім часе тэма была зацверджана, праца пачалася, здаецца, у 1983 годзе. Кожнае лета на працягу дзесяці гадоў я і мае калегі вазілі студэнтаў на дыялекталагічную практыку ў Навагрудскі раён. Навагрудчыну я абышоў пешшу, як кажуць, уздоўж і ўпоперак. Была сабрана вялікая картатэка. Можна было прыступаць да складання першага тома адносна поўнага слоўніка. Але настаі неспрыяльныя часы. Пасля развалу СССР у краіне адбыўся фінансавы крах. Выдаць шматтомны слоўнік пры адсутнасці фінансавання нерэальна. І было прынята рашэнне напачатку стварыць дыферэнцыйны слоўнік на базе картатэкі Навагрудчыны і матэрыялаў з усіх раёнаў Гродзенскай вобласці. Слоўнік атрымаўся арыгінальны, двойчы дыферэнцыйны, таму што для яго адбіралі лексічны неруш – толькі тыя словы, якіх няма ні ў літаратурных, ні ў дыялектных слоўніках. У рэспубліканскім навуковым друку ён атрымаў высокую ацэнку.

*– Ці была магчымасць аднавіць працу над праектам «Слоўнік гаворак Навагрудчыны» пазней, у лепшыя часы?*

– Сорамна і горка пра гэта гаварыць. Картатэка захоўвалася ў нішах ці шафах, прымацаваных да сцяны, у адной з аўдыторый корпуса факультэта на вуліцы Леніна-32. Летам, калі выкладчыкі былі ў адпачынку, праводзіўся рамонт гэтай аўдыторыі. Калі я выйшаў з адпачынку на працу, з жахам даведаўся, што рамонтнікі, выкідваючы шафы як непатрэбнае, выкінулі і большую частку картатэчнага матэрыялу. Тое, што засталося, ужо не магло стаць нават асновай слоўніка. Рэшткі картатэкі доўга захоўваліся на кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства, на якой я працаваў. Адчуваю і сваю віну, што не змог абараніць і захаваць тое, што было здабыта вялікай працай і ўжо ніколі не зможа быць узноўлена.

*– Як вытлумачваецца той факт, што пры падрыхтоўцы доктарскай дысертацыі сферай Вашых навуковых пошукаў стала беларуская дыялектная мова?*

– Дыялектная мова, натуральная, непасрэдная, жывая, была для мяне заўсёды прыцягальнай. Яшчэ ў студэнцкія гады спецыяльна ў сваёй і навакольных вёсках запісваў ад мясцовых жыхароў фальклорныя творы і дыялектныя словы. Працягваў гэтую справу і ў часы настаўніцтва. Падчас працы ва ўніверсітэце цікавасць да народных гаворак перарасла ў прафесійны занятак. І калі паўстала пытанне выбару тэмы доктарскай дысертацыі, сумніву не было – буду займацца дыялектнай фразеалогіяй. Тым больш што і тэарэтычная, і факталагічная база для гэтага ў мяне ўжо была значная. Па рэкамендацыі рэктара ўніверсітэта Сяргея Аляксандравіча Маскевіча ў 1999 годзе я атрымаў грант для напісання доктарскай дысертацыі. У сувязі з гэтым зволіўся з пасады дацэнта і перайшоў у навукова-даследчы сектар на пасаду галоўнага навуковага супрацоўніка. Грант быў разлічаны на два гады. І я зноў цалкам аддаўся навуковай справе. Кіраўніцтва ўніверсітэта тады вельмі спрыяльна ставілася да падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі, усяляк дапамагала і садзейнічала дактарантам. Хораша

ўспамінаецца начальнік навукова-даследчага сектара Гайда Леанід Станіслававіч, які вельмі прафесійна кіраваў сваім падраздзяленнем, часта кантактаваў са сваімі навуковымі супрацоўнікамі, унікаў у іх справы і праблемы, імкнуўся пры неабходнасці дапамагчы. Ён добра разумеў сваіх падначаленых, бо і сам у той час рыхтаваў доктарскую дысертацыю. Праз два гады доктарская ў асноўным была напісана. У 2003 годзе апублікавана манаграфія «Беларуская дыялектная фразеалогія і яе лексічная аснова». На базе яе падрыхтавана дысертацыя «Беларуская дыялектная фразеалогія: тыпалогія, лексічны склад», абарона якой адбылася ў 2004 годзе. Апанентамі па дысертацыі выступілі І.Я. Лепешаў, У.І. Коваль, М.Р. Прыгодзіч.

– *Сярод апублікаваных Вамі навуковых прац вялікая доля прысвечана дыялектным гаворкам Гродзеншчыны. Чым выклікана такая ўвага да гэтага моўнага рэгіёну?*

– Думаю, прычын можна вылучыць некалькі. Гродзеншчына – гэта мая радзіма, і мясцовыя гаворкі асабліва дарагія. Паколькі жыву ў гэтым рэгіёне, то маю большыя магчымасці вывучэння мясцовай мовы менавіта тут. І калі не я, то хто? Некалькі дзесяцігоддзяў, акрамя фразеалагізмаў, імкнуўся запісаць і розныя іншыя моўныя факты, асабліва тыя, што маюць рэгіянальную адметнасць. Найлепшыя з прыкладаў звязнага маўлення ўвайшлі ў хрэстаматыю «Дыялектная мова Гродзеншчыны» (2007). Ладную калекцыю рэгіянальных фанетычных, марфалагічных і іншых запісаў захацелася апублікаваць разам у асобным выданні. Так узнікла задума кнігі «Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны», якая выйшла ў свет у 2008 годзе. Хочацца, каб мовай Гродзеншчыны, гэтай унікальнай з’явай, якая фарміравалася працай трох народаў – беларускага, польскага і літоўскага, займалася больш людзей, і навукоўцаў, і краязнаўцаў. З гэтай мэтай арганізаваў выданне штогодніка «Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны». Выйшла ўжо тры выпускі, у якіх змешчаны артыкулы выкладчыкаў універсітэта, студэнтаў, настаўнікаў, краязнаўцаў Гродзенскай вобласці. Рыхтуецца чацвёрты выпуск.

– *У апошнія гады ў сферы Вашых навуковых інтарэсаў не толькі рэгіяналістыка. Публікуюцца даследаванні, прысвечаныя супастаўляльнаму мовазнаўству, у прыватнасці, супастаўляльнай фразеалогіі.*

– Асновай, стрыжнем майго навуковага багажу, навуковага светапогляду, навуковага менталітэту была і застаецца беларуская фразеалогія. Каб не застойвацца ў сваім фразеалагічным кругаглядзе, варта рухацца далей, быць у пошуку, асвойваць новыя навуковыя ўчасткі. Гадоў пятнаццаць таму я вызначыў для сябе яшчэ і такі кірунак, як супастаўляльная фразеалогія. Актуальнасць даследаванняў такога кірунку сёння вызначаецца і практычнымі патрэбамі, напрыклад, пашырэннем кантактаў беларускай мовы з іншымі мовамі свету. Як навуковы кіраўнік, маю магчымасць прыцягваць у аспіранцкія шэрагі выпускнікоў такіх спецыяльнасцяў, як германская, раманская, руская, славянская філалогія, што дае магчымасць даследаваць беларускую мову праз параўнанне з іншымі мовамі. Магістрантам і аспірантам, якія выбралі сабе тэму даследавання па супастаўляльнай фразеалогіі, падрыхтаваў у суаўтарстве дапаможнік «Праблемы супастаўляльнай фразеалогіі» (2013).

*– Як Вы ацэньваеце такі таксама адказны складнік працы прафесара, як кіраўніцтва аспірантамі? Што значыць сёння «выводзіць у людзі» новыя навуковыя сілы?*

– Пад маім кіраўніцтвам кандыдатамі навук сталі тры аспіранты. Гэта шаноўная спадарыня Ірына Герасімчык, з якой я маю зараз гонар гутарыць, і дзве выкладчыцы рамана-германскіх спецыяльнасцяў Т.П. Фундатар і І.К. Цівунчык. Цяпер кіраўніцтва аспірантамі займае шмат часу. Некалі кіраваць было прасцей. Зацвярджалася тэма дысертацыі – і наперад, працуй. Аспірант сам, без залішней апекі кіраўніка ўлазіў у праблематыку свайго даследавання і прыходзіў да навуковых адкрыццяў. Сапраўдная гуманітарная навука ў абсалютнай большасці індывідуальная, я б нават сказаў, інтымная, яна ствараецца праз каласальную працу думкі, бяссонныя ночы, выпакутаваныя праз сумненні і шматлікія спробы і памылкі ідэі, праз адчуванне радасці, што табе нарэшце ўдалося знайсці, абгрунтаваць, даказаць, адкрыць. Толькі такім шляхам вырастаюць сапраўдныя вучоныя. Сёння з-за невысокай прэстыжнасці выкладчыцкай працы і невялікіх зарплатаў таленавітая моладзь не хоча ісці ў аспірантуру. Даводзіцца працаваць з тым кантынгентам, які ёсць. Некаторыя паступаюць у аспірантуру, не маючы элементарнага ўяўлення, што такое навука і як яна робіцца. Ім здаецца, што характар вучобы ў аспірантуры такі, як і ў школе ці ўніверсітэце: выкладчык дае заданне, вучань выконвае, затым выкладчык правярае і ставіць адзнаку. Другая прычына «слабасці» аспірантаў – гэта ўсеагульная камп'ютарызацыя, ахвярамі якой становяцца ўжо з дашкольнага ўзросту. Камп'ютар замяніў такія формы працы, як чытанне-вывучэнне літаратуры, канспектаванне, а значыць, і развіццё, трэніроўку мыслярна-аналітычных дзеянняў. Навошта самастойна здабываць і абагульняць веды, калі ў Інтэрнэце яны даюцца ў гатовым выглядзе. І на першым годзе даводзіцца аспіранта, як кажуць, вадзіць за ручку, вучыць, як здабываць і сістэматызаваць навуковую інфармацыю, як лагічна мысліць, як выкладаць думкі на паперы ў адпаведнасці з логікай і правіламі культуры маўлення. Акрамя кіраўніцтва аспірантамі, было і ёсць шмат працы ў іншых сферах падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі і навукі. Гэта кіраўніцтва навуковым семінарам, рэдактарства ў часопісе «Веснік ГрДУ імя Янкі Купалы», членства ў двух саветах па абароне дысертацый, апаніраванне кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый, рэдагаванне навуковай і навучальнай літаратуры і інш. Вось такія прафесарскія будні.

*– Ці была Ваша жыццёвая дарога шчаслівая на сустрэчы? Раскажыце, калі ласка, пра людзей, якія нечым Вам блізкія, якім удзячныя, пра якіх хацелася б успомніць.*

– Добрыя словы я магу выказаць пра многіх. На першае месца ў іх пераліку я паставіў бы прафесара Івана Якаўлевіча Лепешава. Амаль сорак гадоў мы з ім ішлі поруч. Спачатку я, малодшы, – вучань, ён, старэйшы, – настаўнік, а пасля – нароўні. Зраўняліся мы ва ўзаемаадносінах, у ацэнцы прафесійных пытанняў, некаторых жыццёвых пазіцый. А як вучоны-лінгвіст ён, канешне, фігура недасягальная. Па колькасці зробленага, па маштабе і глыбіні вырашэння многіх моваведчых пытанняў, паводле навуковай прынцыповасці, маральнай чысціні вучонага ў сучаснай Беларусі яму, бадай, няма роўных. Калі не стала Івана Якаўлевіча, для мяне гэта было сапраўднай трагедыяй, якую я балюча перанёс.

Цёплыя сяброўскія адносіны ў мяне з прафесарам Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны Уладзімірам Іванавічам Ковалем, загадчыкам кафедры рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства. Разам мы раслі як фразеолагі (ён ішоў крыху наперадзе), не раз лёс зводзіў нас на лінгвістычных сцежках. У.І. Коваль вельмі кантактабельны, унікальны дружбіст. Усе яго паважаюць і любяць, асабліва лінгвісткі, фразеалагіні.

З прафесарам Васілём Іванавічам Рагаўцоўвым, загадчыкам кафедры беларускай мовы Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта ім А.А. Куляшова, лёс звёў, калі ён прыязджаў да нас у Гародню старшыняваць у камісіі ДзЭК. З тых часоў мы сябруем і прафесійна супрацоўнічаем. Як чалавек творчы, Васіль Іванавіч надзелены тонкай псіхікай, вельмі непрактычны ў бытавых зносінах і часта мае патрэбу ў парадах па тых ці іншых жыццёвых пытаннях. У гэтым плане я яму стараюся дапамагаць сваімі падказкамі і меркаваннямі.

З Васілём Васільевічам Шурам, прафесарам, загадчыкам кафедры беларускага мовазнаўства Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя І.П. Шамякіна, нас звязвае тое, што мы «дзеці аднаго бацькі» – у абодвух навуковым кіраўніком быў Ф.М. Янкоўскі. З другога боку, у нас ёсць навуковыя кропкі судакранання, мы – рэгіяналісты: ён займаецца мовай Мазыршыны, я – мовай Гродзеншчыны. Як чалавек, ён вельмі народны, з простым паляшуцкім гумарам і філалагічнай дасціпнасцю.

Прафесар Генадзь Апанасавіч Цыхун, супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі, – знакаміты славіст, інтэлігентны, па характары мыслення і манерах паводзін вучоны еўрапейскага тыпу. Акрамя навуковых кантактаў, нас звязваюць зямляцкія пачуцці. Г.А. Цыхун нарадзіўся і вырас у Гародні. Многія гады я сябраваў і супрацоўнічаў з яго бацькам, вядомым краязнаўцам Апанасам Пятровічам Цыхуном.

Аляксей Васільевіч Нікіцевіч, прафесар, загадчык кафедры рускай мовы ГрДУ, – мой добры калега. Мы паралельна ўжо нямала гадоў цягнем філалагічную запрэжку ў Купалаўскім універсітэце. І хоць ён русіст, а я беларусіст, у нас ніколі на гэтай глебе не было непаразуменняў, таму што сярод каштоўнасцяў найважнейшыя ў нас – чалавек, навука і служэнне навуцы.

У такім плане я мог бы апавядаць яшчэ пра многіх, але, каб не перабіраць час, проста назаву прозвішчы тых, хай яны мне даруюць, з кім было прыемна супрацоўнічаць: А.А. Крывіцкі, А.А. Лукашанец, І.Л. Капылоў, В.П. Лемцюгова, В.М. Курцова, М.П. Антропаў, Л.П. Кунцэвіч, Ф.Д. Клімчук (Інстытут мовы і літаратуры), М.Р. Прыгодзіч, С.М. Запрудскі, І.А. Гапоненка (БДУ), В.А. Ляшчынская, А.А. Станкевіч (Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны), А.А. Аляхновіч, М.І. Новік (Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А.С. Пушкіна). З маладых асобна хацелася б адзначыць дацэнта, загадчыка кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка Дзмітрыя Васільевіча Дзятко. Таленавіты, працавіты і вельмі плённы малады навуковец. Мне здаецца, Усявышні надзяліў яго місіяй быць у перспектыве флагманам беларускай лінгвістычнай навукі.

З вучоных замежжа, з якімі даводзілася мець навуковыя стасункі, успамінаюцца ў першую чаргу вядомыя расійскія фразеолагі У.П. Жукаў, А.В. Жукаў, В.М. Макіенка, украінскі фразеолаг В.Д. Ужчанка, польскі тапаніміст і беларусіст М. Кандрацюк.

А што датычыць калег па працы ў родным універсітэце, то ўсе яны мне блізкія і дарагія.

– *Наша размова дазваляе скласці дастаткова выразнае ўяўленне пра Ваша працоўнае жыццё, навуковую дзейнасць. Ці мае шаноўны прафесар захапленні, не звязаныя з прафесіяй?*

– Як я ўжо казаў, важнае значэнне для мяне мае лес. Без лесу, без прыроды мне цяжка. Хаця б раз у два тыдні я стараюся пабываць на радзіме і паблукаць па лясных сцежках, паздароўкацца, пагаварыць з мясцінамі, з дрэвамі, якія мне дарагія з дзяцінства. У грыбны сезон дык наогул раскоша для душы, кланяешся кожнаму грыбку, спалучаеш прыемнае з карысным. Другое захапленне – гэта пчалярства, таксама блізкае з дзяцінства. Пчолы для мяне не проста аматарскі занятак, а нешта значна большае, гэта, можна сказаць, мая радасць і ўцеха, лад майго жыцця, без іх не ўяўляю свайго існавання. Яны выключна ўнікальнае тварэнне прыроды. Калектыўная дзейнасць пчол – выдатны прыклад для людзей, як рацыянальна, разумна выжываць цэлай супольнасцю. Сабраў цікавую бібліятэку пра пчол, вывучыў тонкасці пчалярскай справы, а гэта (пераканаўся на ўсе сто) не лягчэй, чым напісаць доктарскую дысертацыю.

– *Ці задаволены Вы сваёй жыццёвай дарогай, ці ўсё складвалася так, як хацелася?*

– Думаю, што наўрад ці можна знайсці чалавека, які быў бы задаволены ўсім, што было ў яго мінулым. У цэлым, канешне, я не ўяўляю сабе іншага жыццёвага адрэзку, чым той, які пройдзены. Аднак, штосьці з запланаванага, на жаль, засталося нерэалізаваным. Перашкодай былі ў асноўным праблемы зямнога, будзённага, бытавога характару. Вельмі хвалюе лёс беларускай мовы, якая на афіцыйным узроўні выдаляецца з ужытку. Хочацца крычаць… Людзі, што вы робіце! Губіце самую славянскую мову... Мову дзесяцімільённага народа... У цэнтры славянскага свету… Будучыня гэтага не даруе.

– *І пытанне пад фінал. Што з запланаванага наперадзе? Над чым яшчэ неабходна і варта працаваць?*

– Даўняй марай з’яўляецца складанне зводнага Фразеалагічнага слоўніка гаворак Гродзеншчыны. Больш як трыццаць гадоў складаў картатэку слоўніка, якая ўжо мае памер больш за паўтары тысячы камп’ютарных старонак. Ужо распрацаваў слоўнікавыя артыкулы на першыя тры літары. Хачу выдаць зборнік малых форм фальклору Гродзеншчыны, якія я збіраў некалькі дзесяцігоддзяў. У планах мару сплаціць доўг перад роднай зямлёй – напісаць дакументальную кнігу пра гісторыю сваёй вёскі, якая дажывае апошнімі жыхарамі. Выспяваюць і іншыя задумы, пра якія прадметна гаварыць яшчэ ранавата.

– *Шчыра дзякую за размову! Хочацца, каб задуманае Вамі абавязкова спраўдзілася!*

***Гутарку вяла Ірына Герасімчык,***
*дацэнт кафеды журналістыкі*
*ГрДУ імя Янкі Купалы*

---

Інтэв'ю падрыхтавана для газеты "Наша слова".

Навуковае выданне

**Даніловіч** Мікалай Аляксандравіч

# СЛОВА І ФРАЗЕАЛАГІЗМ У БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

*Зборнік навуковых артыкулаў*

*Выдадзена ў аўтарскай рэдакцыі*

Вёрстка, вокладка - *А. Рыжы*

Падпісана да друку 01.10.2015. Фармат 70х100/16.
Папера афсетная. Рызаграфія
Ум.друк.арк. 20,6. Ул. - выд.арк 19,8.
Тыраж 100 экз. Заказ 28/56

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Таварыства з абмежаванай адказнасцю «ЮрСаПрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка
друкаваных выданняў № 1/388 ад 01.07.2014
Вул. Карла Маркса,11, 230015, г. Гродна.
+375 152 77 18 20
+375 295 87 84 11